# БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ АГЛЯД

Том 22 Сшыткі 1–2 (42–43) Снежань 2015

## ЗМЕСТ

### Артыкулы

*Аляксандр Казакоў*. Гістарыяграфія Аршанскай бітвы 1514 г.: дасягненні і праблемы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3
*Кароль Лапатэцкі*. Злачынства здрады ў Вялікім Княстве Літоўскім XVI ст. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 31
*Юры Гардзееў*. Шляхецкія сядзібы ў Гародні ў другой палове XVII – XVIII ст. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 63
*Аляксандр Гужалоўскі*. Замах на сям'ю: сексуальная рэвалюцыя 1920-х г. у БССР на старонках перыядычнага друку. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 89
*Мічыхіра Ясуі*. Беларусы і яўрэі ў парламенце Польшчы ў 1922–1927 г.. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 125
*Анджэй Смалярчык*. Таварыства Беларускай Школы ў Палескім ваяводстве ў 1926–1933 г.. . . . . . . . . . . . . . . 153
*Ірына Раманава*. "Лепельская справа": 1937 год у Беларусі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 179
*Генадзь Сагановіч*. Беларускі каляндар у гістарычнай асвеце ў 1910–1939 г.. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 209

### Нацыялогія

*Міраслаў Грох*. Нацыя як сапраўды еўрапейскі феномен . . . 229
*Рышард Радзік*. Куды ідуць тры народы Русі? . . . . . . . . . . . . 245

### Гісторыя і мова

*Тамаш Камусэла*. "На" і Рэч Паспалітая . . . . . . . . . . . . . . . . 307

### Новая літаратура: агляды і рэцэнзіі

*Алег Ліцкевіч*. Да пытання пра "рэканструкцыю" хранікальных тэкстаў XIV–XV ст. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 317

Доўнар, Ларыса І. Гісторыя беларускай кнігі: вучэбны дапаможнік. Мінск, 2012 (*Тамаш Камусэла*) . . . . . . . . 337
Гардзееў, Юры.Тапанімія старажытнай Гародні (XII–XVIII стст.). Гародня, 2013 (*Ігар Капылоў*) . . . . . . 342
Гісторыя гандлю ў Беларусі (ад старажытнага часу да канца XX ст.): праблемы вывучэння і перспектывы даследавання / рэд. рада: Андрэй Кіштымаў, Захар Шыбека [і інш.]. Мінск, 2014 (*Сяргей Токць*). . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 352
Einax, Rayk. Entstalinisierung auf Weißrussisch: Krisenbewältigung, sozioökonomische Dynamik und öffentliche Meinung in der Belorussischen Sowjetrepublik 1953–1965. Wiesbaden, 2014 (*Антон Лявіцкі*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 360
Polen. Jubiläen und Debatten. Beiträge zur Erinnerungskultur. Hg. von Peter Oliver und Christian Prunitsch. Wiesbaden, 2012 (*Генадзь Сагановіч*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 367

Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках (2013) (*Ніна Камарова*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 371

## In Memoriam

Анатоль Грыцкевіч: 31.01.1927–20.01.2015 (*Генадзь Сагановіч*) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 376

Аўтары нумара . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 379
Contents . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 381

# Гістарыяграфія Аршанскай бітвы 1514 г.: дасягненні і праблемы[1]

## Аляксандр Казакоў

Аршанская бітва 1514 г., стаўшы рэзанансавай падзеяй сваёй эпохі, была вядомая ў Вялікім Княстве Літоўскім як "Вялікай бітва". Заняла яна і прыкметнае месца ў нацыянальным гістарычным дыскурсе суверэннай Беларусі пачатку 90-х г. XX ст. Бітва пад Оршай выкарыстоўвалася як прыклад паспяховага змагання беларусаў супраць замежнай агрэсіі нароўні з бітвай Грунвальдскай. На сённяшні дзень, аднак, афіцыйная гістарычная палітыка па зразумелых прычынах не знаходзіць месца Аршанскай бітве ў калектыўнай памяці беларусаў. Тым не менш яна працягвае выклікаць пэўны грамадскі інтарэс, які чакана ўзрос у сувязі з яе 500-годдзем. "Жыццё" гэтай падзеі ў гістарыяграфіі розных эпох і гістарычнай памяці народаў само па сабе становіцца прадметам даследавання[2].

[1] У аснову артыкула пакладзены даклад, прачытаны на III Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Войны ў палітычнай і культурнай традыцыі Беларусі і іншых краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы" Інстытута "Палітычная сфера", 30–31.05.2014, Мінск.

[2] Сагановіч Г. Аршанская бітва 1514 г. – канфлікт гістарыяграфій і ідэнтычнасцяў. Рэжым доступу: http://jivebelarus.net/history/gistografia/orsha-battle-and-historical-identity-conflict.html; Ён жа. Contested interpretation of the Battle of Orsha in Belarusian and Russian Lieux de Mémoire // Politics, History and Collective Memory in East Central Europe. Hamburg, 2012; Семянчук А. Бітва пад Оршай як "фігура памяці" // ARCHE. 2013. № 2. С. 146–161 (гэты артыкул – пашыраны і дапрацаваны пераклад тэксту "Bitwa pod Orszą w polskich utworach narracyjnych" // Senoji Lietuvos literatura. Vilnius, 2011. № 31. S. 159–182); Янушкевич А.

Аднак перад тым як стаць аб'ектам гістарычнай палітыкі і месцам памяці, бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. была ваеннай падзеяй, канкрэтным сутыкненнем двух войскаў з пэўнымі перадумовамі, акалічнасцямі, ходам і вынікамі. З гэтага гледзішча яна выступае прадметам вывучэння ў рамках такога накірунку гістарычнай навукі, як мілітарная гісторыя. Паўтысячагадовы юбілей бітвы – добрая нагода для таго, каб ацаніць стан яе даследаванняў менавіта як з'явы ваенна-тактычнай. Што гістарычнай навуцы ўласна вядома пра бітву? Што не вядома і якія існуюць праблемы ў яе вывучэнні? Мэта артыкула – адказ на гэтыя пытанні.

Найбольшы ўнёсак у даследаванне Аршанскай бітвы быў зроблены польскімі навукоўцамі. Кантынуітэт традыцыі вывучэння гэтай падзеі назіраецца менавіта ў польскай гістарыяграфіі, якая не зведала такога ідэалагічнага ціску, пад якім знаходзілася гістарычная навука ў СССР.

Грунтоўны нарыс пра Аршанскую бітву належыць вядомаму гісторыку вайсковасці XIX ст. Канстантыю Гурскаму[3]. Ён упершыню разгледзеў шэраг пытанняў, звязаных з гэтай падзеяй, прыцягнуўшы шырокае кола першакрыніц. Паміж іншага, польскі даследчык паспрабаваў у дэталях рэканструяваць дыспазіцыі варожых сіл і ход бітвы. На яго думку, якая атрымала падтрымку сярод пазнейшых гісторыкаў, польскі кантынгент займаў правае крыло, а паспалітае рушанне Вялікага Княства Літоўскага стаяла злева (аднак некаторыя яго харугвы таксама сталі справа ў пярэднім шыхце)[4]. Даследчык адзначае супярэчнасць сведчанняў крыніц пра дыспазіцыю

Оршанская битва в белорусской историографии и белорусском культурном дискурсе // Traptautinė mokslinė konferencija "1514 m. Oršos mūšis: karinė pergalė ir jos ženklai", Vilnius, 2014 m. rugsėjo 26–27 d. Pranešimų tezės = Międzynarodowa konferencja naukowa "Bitwa pod Orszą 1514 r.: zwycięstwo militarne i jego znaki", Wilno, 26–27 wrzesnia 2014 r. Tezy referatów. Vilnius, 2014. P. 121–125.

3 Górski K. O rozwoju sztuki wojennej w Polsce w wieku XV // Biblioteka Warszawska. 1890. T. II. S. 407–422. T. III. S. 85–98.

4 Тамсама. Т. III. S. 86.

літоўска-польскага войска, а свой выбар тлумачыць уласнымі меркаваннямі наконт месца і ходу бітвы.

Крыніцы не паведамляюць, дзе дакладна адбылася бітва. Раскрытыкаваўшы версію князя Мікалая Галіцына, паводле якой войскі сышліся на правым беразе Крапівенкі[5], польскі даследчык размясціў маскоўскае войска ўздоўж левага берага гэтай ракі тылам да яе. Войска Астрожскага, адпаведна, павернутае фронтам на ўсход, левым флангам абапіралася на Дняпро[6]. К. Гурскі не дае пераканальнай аргументацыі на карысць такога выбару месца бітвы, настолькі нявыгаднага для маскоўскіх ваяводаў. Зыходзячы з гэтага варыянта лакалізацыі, ён лічыць, што спроба маскоўскіх сіл зайсці ў тыл непрыяцелю, пра якую кажуць многія крыніцы, адбылася менавіта вакол правага фланга пазіцый Астрожскага, бо левы быў надзейна прыкрыты Дняпром.

Аўтар даволі скептычна ставіцца да магчымасці падманных уцёкаў, якія нібыта здзейсніла паспалітае рушанне, каб завабіць непрыяцеля пад агонь артылерыі і пяхоты з засады. Праўда, ён не выкарыстоўвае першакрыніцу паведамлення пра гэты эпізод – вядомы трактат Сігізмунда Герберштэйна[7], а карыстаецца пераказамі іншых аўтараў. Таксама трэба адзначыць, што па-за ўвагай К. Гурскага засталося апісанне бітвы Станіслава Сарніцкага, змешчанае ў ягоных “Гетманскіх кнігах”[8]. Аўтар імкнецца даць крытычную ацэнку звесткам крыніц пра колькасць войскаў, што ўдзельнічалі ў бітве, аднак не знаходзіць лічбы 30–35 тыс. (для войска Астрожскага) і 80 тыс. (для маскоўскага войска) завышанымі[9]. К. Гурскі паспрабаваў вызначыць колькасныя суадносіны розных кантынгентаў у літоўска-польскай арміі. Зыходзячы з агульнага яе памеру ў 35 тыс. і паведамлення Мацея Стрыйкоўскага, што

[5] Падрабязней пра гэта гл. ніжэй.

[6] Górski K. O rozwoju… T. II. S. 420.

[7] Герберштейн С. Записки о Московии. Т. 1. Москва, 2008. С. 83.

[8] Wypisy żródłowe do historii polskiej sztuki wojennej. Z. 4. Polska sztuka wojenna w latach 1454–1562. Warszawa, 1958.

[9] Górski K. O rozwoju… T. II. S. 419.

паспалітае рушанне Вялікага Княства Літоўскага складала 16 тыс., даследчык вызначыў колькасць польскай кавалерыі як прыблізна такую ж, пяхоты – 2 тыс. чалавек[10]. Гэтыя разлікі былі запазычаны пазнейшымі даследчыкамі, якія іх толькі нязначна карэктавалі, і замацаваліся ў польскай гістарыяграфіі.

Ацэньваючы вынікі бітвы, К. Гурскі называе звесткі пра страты маскоўскага боку ў 40 тыс. перабольшанымі[11]. Галоўнымі прычынамі паражэння маскоўскіх сіл ён лічыць нязгоду сярод яго камандзіраў і больш высокія баявыя якасці ды лепшую арганізацыю харугваў літоўска-польскага войска[12].

Наступны крок у вывучэнні бітвы быў зроблены Тадэвушам Корзанам, які нарадзіўся ў Мінску, жыў там і ў маладыя гады. Аршанскай бітве быў прысвечаны кароткі нарыс у ягонай трохтамовай працы "Гісторыя польскай вайсковасці і войнаў"[13]. У адрозненне ад К. Гурскага, Т. Корзан змясціў палякаў на левае крыло, паспалітае рушанне Вялікага Княства Літоўскага – на правае. Апісваючы ход бітвы, аўтар ухіляецца ад разгляду падрабязнасцяў: ён не кажа, з якога боку вораг спрабаваў абысці пазіцыі войска Астрожскага і на якім флангу была размешчана артылерыйская засада. Таксама Т. Корзан не спыняецца на праблеме лакалізацыі бітвы. Аднак ён ставіць пад сумнеў апавяданне некаторых крыніц пра тое, што маскоўскія ваяводы, упэўненыя ў сваёй колькаснай перавазе, быццам наўмысна не перашкаджалі пераправе войска Астрожскага цераз Дняпро, каб знішчыць яго цалкам на левым беразе ракі.

У 1937 г. убачыў свет шосты том "Вайсковай энцыклапедыі" пад рэдакцыяй Атона Ласкоўскага, дзе быў змешчаны артыкул пра Аршанскую бітву 1514 г. Бадай самай істотнай навацыяй у параўнанні з працай К. Гурскага стала

[10] Тамсама. Т. II. S. 415–416. Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. T. 2. Warszawa, 1846. S. 379.

[11] Górski K. O rozwoju… T. II. S. 90.

[12] Тамсама. Т. III. S. 91–92.

[13] Korzon T. Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. Epoka przedrozbiorowa. T. I. Kraków, 1912. S. 253–255.

іншая лакалізацыя бітвы: на думку А. Ласкоўскага, яна адбылася ў лукавіне Дняпра за 4-5 км на паўночны ўсход ад Оршы[14]. Фармат энцыклапедычнага артыкула, вядома ж, не пакінуў месца для аргументацыі і спасылак. Відаць, да такой высновы аўтара прывяла знакамітая карціна невядомага мастака "Бітва пад Оршай", на якой былі адлюстраваны некаторыя асаблівасці мясцовасці. Прынамсі, тэкст артыкула сведчыць, што А. Ласкоўскі выкарыстоўваў яе ў якасці крыніцы[15]. На яго думку, войска Астрожскага пераправілася цераз Дняпро тамсама, дзе і пад час кампаніі 1508 г., – у раёне сучаснай вёскі Пашына[16]. Акрамя таго, А. Ласкоўскі падтрымаў меркаванне Т. Корзана пра тое, што палякі занялі левы фланг, а кантынгент Вялікага Княства Літоўскага – правы; абхадны манеўр маскоўскія сілы здзяйснялі на левым флангу, а не на правым, як у К. Гурскага. Засада артылерыі і пяхоты размяшчалася ў невялікім ляску на крайнім правым крыле.

Артыкул гісторыка вайсковасці Станіслава Хербста і гісторыка мастацтва МіхалаВаліцкага 1949 г. стаў важным этапам у вывучэнні Аршанскай бітвы[17]. У гэтай працы карціна "Бітва пад Оршай" была разгледжана як гістарычная крыніца і як помнік выяўленчага мастацтва. На думку аўтараў, мастак сам быў сведкам падзей і дакладна перадаў некаторыя дэталі, між іншым, характар мясцовасці[18].

[14] Orsza // Encyklopedia wojskowa. T. VI. Warszawa, 1937. S. 161–163.

[15] Тамсама. S. 162. А. Ласкоўскі піша, што на крайнім правым і левым флангу літоўска-польскага войска стала пераважна гусарыя. Гэта адпавядае таму, што мы бачым на карціне. Трэба адзначыць: "Бітва пад Оршай" наогул адзіная крыніца, якая кажа пра ўдзел у бітве гусар, што выклікае істотныя сумневы (пра крытыку карціны як гістарычнай крыніцы гл. ніжэй).

[16] Тамсама.

[17] Herbst S., Walicki M. Obraz bitwy pod Orszą. Dokument historii sztuki i wojskowości XVI w. // Rozprawy komisji historii kultury i sztuki. T. I. Warszawa, 1949. S. 33–68 (частка гэтага артыкула, напісаная С. Хербстам, таксама змешчана ў: Herbst S. Potrzeba historii czyli o polskim stylu życia. T. II. Warszawa, 1978. S. 273–295).

[18] Herbst S., Walicki M. Obraz bitwy pod Orszą. S. 36, 47–48.

Такім чынам, С. Хербст падтрымаў версію лакалізацыі бітвы А. Ласкоўскага, зыходзячы з гэтай бяздоказнай гіпотэзы, тады як сам Ласкоўскі, хутчэй за ўсё, проста знайшоў на тапаграфічнай карце месца, якое паводле асноўных арыенціраў адпавядала б намаляванаму на карціне. Прапанаваная версія замацавалася ў польскай гістарыяграфічнай традыцыі і не падвяргалася рэвізіі, а меркаванне К. Гурскага пра месца бітвы было адкінута. Акрамя таго, праца С. Хербста і М. Валіцкага садзейнічала замацаванню погляду на карціну як на каштоўную крыніцу, якая дакладна перадае гістарычныя рэаліі, хоць самі аўтары заўважылі, што яна ўтрымлівае пэўныя недарэчнасці.

Што тычыцца дыспазіцыі войскаў і ходу бітвы, то С. Хербст прапанаваў уласную версію. Ён пагадзіўся з Т. Корзанам і А. Ласкоўскім у парадку размяшчэння літоўскага і польскага кантынгентаў на полі бою, аднак артылерыйскую і пяхотную засаду змясціў не на правым крыле, а ў цэнтры пазіцый, на ўскрайку Пашынскага яра. Інавацыяй для польскай гістарычнай школы стала і меркаванне аўтара пра колькасць войскаў. С. Хербст, услед за Яўгенам Кашпроўскім, адкідае паведамленні крыніц пра 80-тысячнае маскоўскае войска як неверагодныя, кажучы, што такі памер прыкладна адпавядаў мабілізацыйнаму патэнцыялу ўсёй дзяржавы, а на полі пад Оршай была толькі частка яе сіл. Ацэньваючы колькасць літоўска-польскага войска, С. Хербст таксама быў арыгінальны і аддаў перавагу паведамленню М. Стрыйкоўскага, які называе лічбу 25 тыс. чалавек “do bitwy godnych”. Паколькі, паводле таго ж Стрыйкоўскага, 16 тыс. складала паспалітае рушанне, то колькасць польскіх наймітаў была ацэнена С. Хербстам у 7 тыс., а добраахвотнікаў – як найменей 5 рот[19].

У 1958 г. апублікаваны дзве крыніцы: апісанне бітвы Станіслава Гурскага (у перакладзе на польскую мову) і Станіслава Сарніцкага. Яны выйшлі ў 4-м томе “Wypisów źródłowych do historii polskiej sztuki wojennej”, выдаваных вайскова-гістарычнай камісіяй міністэрства абароны.

[19] Тамсама. S. 36.

Укладальнік тома – вядомы спецыяліст Здзіслаў Сперальскі. Тэксты крыніц суправаджаліся аўтарскім апісаннем бітвы, якое амаль без зменаў было праз сем гадоў перадрукавана ў абагульняльнай калектыўнай працы ваеннагістарычнага інстытута[20]. Ацэньваючы сілы двух войскаў, аўтар, у адрозненне ад С. Хербста, звярнуўся да традыцыйных лічбаў – 35 і 80 тыс., а таксама пайшоў за К. Гурскім у рэканструкцыі дыспазіцыі літоўска-польскага войска, змясціўшы палякаў на правае крыло, а кавалерыю Вялікага Княства Літоўскага на левае. Пры гэтым узнікла неабходнасць патлумачыць, якім чынам польскія харугвы пад камандаваннем Войцеха Сампаліньскага, што знаходзіліся справа, паўдзельнічалі ў адбіцці атакі непрыяцеля на левае крыло войска Астрожскага. Была прапанавана даволі дзіўная версія: Сампаліньскі прайшоў уздоўж фронту паміж сваімі і варожымі шыхтамі з правага фланга на левы і ўдарыў па маскоўскім палку правай рукі, прычым яшчэ да таго, як той паспеў дасягнуць непрыяцельскіх пазіцый. Чаму гетман не выкарыстаў для гэтага ўласна войскі свайго левага фланга, што было б куды прасцей? На думку З. Сперальскага, цяжкая кавалерыя пад час руху магла набраць яшчэ большую сілу ўдару, з якой і абрынулася на ворага[21]. Цяжка сказаць, чаму аўтар адкінуў паведамленні тых крыніц, паводле якіх польскі кантынгент займаў левае крыло, што куды лепей тлумачыць удар Сампаліньскага па палку правай рукі. Трэба адзначыць і відавочную памылку, запазычаную, відаць, у С. Сарніцкага: аўтар сцвярджае, што сам вялікі князь Васіль III прысутнічаў на полі бою[22].

Апісанне бітвы З. Сперальскага было ў агульных рысах паўторана іншым вядомым гісторыкам Марэкам Пляўчыньскім, аўтарам самай дэталёвай яе рэкан-

[20] Wypisy żródłowe do historii polskiej sztuki wojennej. Z. 4. Polska sztuka wojenna w latach 1454–1562 / oprac. Z. Spieralski. Warszawa, 1958. S. 134–143; Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864. T. I. Do roku 1648. Warszawa, 1965. S. 331–336.

[21] Тамсама. S. 335.

[22] Тамсама. S. 333. Wypisy żródłowe… S. 135, 141, 143.

струкцыі ў польскай гістарыяграфіі[23]. Вартасць яго працы – імкненне ўлічыць памеры плошчы, на якой адбывалася сутыкненне, у т. л. асобныя яго эпізоды. Нягледзячы на тое, што поле бою было параўнальна невялікім і абмежаваным натуральнымі перашкодамі, аўтар знаходзіць магчымым удзел у бітве трыццацітысячнага войска з літоўска-польскага боку і невядомай, але безумоўна большай, колькасці маскоўскіх сіл[24]. Насуперак свайму ранейшаму меркаванню, М. Пляўчыньскі не толькі дапускае ўдзел гусарыі ў бітве, але і адводзіць ёй прыкметную ролю. Ён нават называе прапарцыйную колькасць кавалерыі гэтага тыпу ў польскім кантынгенце – 40%[25], аднак не дае абгрунтавання такім падлікам.

Марэк Пляўчыньскі прапануе некаторыя навацыі пры рэканструкцыі ходу бітвы, аднак не заўсёды яго аргументы гучаць пераканаўча. У прыватнасці, гэта датычыцца меркавання аўтара пра тое, што ў час бою частка пяхоты была перакінута з цэнтра на правы фланг і далучана да засады[26]. Фактарамі перамогі М. Пляўчыньскі называе лепшую каардынацыю дзеянняў, лепшае ўзбраенне, мужнасць вялікакняскіх ваяроў і дысцыплінаванасць палякаў. Страты маскоўскага боку ў 40 тыс. ён лічыць перабольшваннем[27].

Ацэньваючы ўнёсак польскай гістарыяграфіі ў вывучэнне Аршанскай бітвы, нельга абмінуць працу Іераніма

[23] Plewczyński M. Wojny i wojskowość polska XVI w. T. 1. Lata 1500–1548. Zabrze, 2011. S. 186–210. Скарочаны варыянт гэтага нарыса быў апублікаваны ў зборніку прац: Plewczyński M. Bitwa pod Orszą 8 września 1514 r. // Bitwy decydujące o losach Europy Środkowej. Warszawa, 2010. S. 131–144.

[24] Plewczyński M. Wojny i wojskowość… S. 187–188. Аўтар называе колькасць маскоўскага войска ў 80 тыс. завышанай.

[25] Тамсама. S. 187, 206, 210. Раней аўтар заўважыў, што гусараў у такой колькасці на службу ні ў Кароне, ні ў Княстве ў той час не наймалі. Адзіная крыніца пра ўдзел гусараў у бітве – карціна "Бітва пад Оршай" (Plewczyński M. Wkład Serbów w rozwój staropolskiej wojskowości (1450–1570) // Studia i materiały do historii wojskowości. T. XXXVI. 1994. S. 17–19). Цяжка сказаць, што прымусіла М. Пляўчыньскага адмовіцца ад сваёй ранейшай крытыкі, на мой погляд, абсалютна слушнай.

[26] Plewczyński M. Wojny i wojskowość… S. 200.

[27] Тамсама. S. 210.

Гралі, прысвечаную лёсу маскоўскіх палонных[28]. Акрамя падрабязнага разгляду асноўнага прадмета, даследчык паспрабаваў ацаніць сапраўдны памер маскоўскіх сіл у бітве. Ён абапіраўся на сведчанні крыніц пра іх колькасць у аналагічных выправах XVI ст. і зыходзіў з таго, што маскоўскія палкі мелі колькасную перавагу над непрыяцелем пад Оршай. На думку І. Гралі, армія пад камандаваннем ваяводы князя Івана Чаляднiна магла налічваць 35–40 тыс. чалавек. Што тычыцца колькасці войска Астрожскага, то тут І. Граля, услед за С. Хербстам, ацэньвае яго ў 25 тыс.[29].

Асобны інтарэс даследчыкаў працягвае выклікаць знакамітая карціна[30]. Даўно было заўважана падабенства паміж некаторымі элементамі на "Бітве пад Оршай" і на іншых выявах. У сувязі з гэтым нават узнікла меркаванне, што Альбрэхт Дзюрэр мог запазычыць пэўныя вобразы ў аўтара карціны пры стварэнні адной са сваіх гравюр 1518 г. Гэтая спрэчка вырашылася пасля дэндрахраналагічнага аналізу дубовых дошак, на якіх карціна намалявана. З улікам тэхналогіі іх вырабу, а таксама іншых акалічнасцяў гістарычнага характару можна меркаваць, што "Бітва пад Оршай" паўстала пасля 1530 г. і дакладна не магла быць створана раней за 1524 год[31]. Таму гаварыць пра "рэпартажны" характар карціны, аўтар якой нібыта сам прысутнічаў на полі бою, не выпадае[32]. Гэта, разам з многімі недарэчнасцямі, якія знаходзілі на карціне

[28] Grala H. Jeńcy spod Orszy: między jagiellońską propagandą sukcesu a moskiewską racją stanu (1514–1552) // Aetas media, aetas moderna. Studia ofiarowane profesorowi Henrykowi Samsonowiczowi w siedemdziesiąta rocznice urodzin. Warszawa, 2000. S. 439–466.

[29] Тамсама. S. 447.

[30] Літаратуру па праблеме гл. у: Hucul V. Obraz Bitwa pod Orszą – propaganda dworska czy epos rycerski? // RIHA Journal 0092 (3 July 2014). Рэжым доступу: http://www.riha-journal.org/articles/2014/2014-jul-sep/hucul-orsza-pl.

[31] Dzięciołowski A., Monkiewicz M. Bitwa pod Orszą // Skarby Rzeczypospolitej. Z dziejów kolekcjonerstwa w Polsce od XIII do końca XVIII wieku. Olszanica, 2003. S. 120.

[32] Żygulski Z. jun. "Bitwa pod Orszą" – struktura obrazu // Rocznik Historii Sztuki. T. 12 (1981). S. 97.

некаторыя аўтары, істотна зніжае яе вартасць як крыніцы для рэканструкцыі бітвы, хоць узоры ўзбраення *той эпохі* адлюстраваны мастаком даволі дакладна[33].

Такім чынам, найлепей у польскай гістарыяграфіі былі распрацаваны пытанні дыспазіцыі бакоў і ходу бітвы. Аднак гэта не прывяло да кансэнсусу адносна пэўных дэталяў галоўным чынам з-за супярэчлівасці крыніц. Што тычыцца колькасці войскаў і страт, то перавага аддавалася максімальным лічбам, хоць голас прыхільнікаў іх памяншэння быў даволі гучным. Аўтары, якія адкідалі версію пра памер маскоўскай арміі ў 80 тыс. і яе страты ў 40 тыс. як неверагодную, не называлі альтэрнатыўных лічбаў, акрамя І. Гралі. Лакалізацыя бітвы, прапанаваная А. Ласкоўскім, стала бясспрэчнай і не пераглядалася[34].

У расійскіх гісторыкаў перыяду імперыі Аршанская бітва, па зразумелых прычынах, не выклікала вялікай зацікаўленасці, а ў савецкую эпоху і пагатоў. Вывучэнне гэтай падзеі ў расійскай гістарыяграфіі галоўным чынам зводзіцца да вельмі кароткіх нарысаў у рамках абагульняльных прац па гісторыі Расіі ці па яе ваеннай гісторыі[35]. У асноўным іх аўтары паўтаралі паведамленні польскіх крыніц пра памеры войскаў, а паражэнне маскоўскага

[33] Падрабязней пра ацэнку карціны як крыніцы па вывучэнні ўзбраення пяхоты гл.: Bołdyrew A. Obraz “Bitwa pod Orszą” i badania nad jego przydatnością do dziejów uzbrojenia. Przyczynek do legendy historiograficznej // Mity i legendy polskiej historii wojskowości. T. 1. Kielce, 2014. S. 71–77.

[34] У гэтым аглядзе свядома апушчана папулярная кніга П. Друждажа, прысвечаная Аршанскай бітве, у якой аповед пра ўласна бітву заняў некалькі старонак (Dróżdż P. Orsza 1514. Warszawa, 2000). Крытыку гэтай працы гл.: Kwiatkowski K. O wojskowości polskiej, litewskiej i moskiewskiej w początku XVI stulecia: (na marginesie książki P. Dróżdża “Orsza 1514”, Warszawa, 2000) // Czasy Nowożytne: periodyk poświęcony dziejom polskim i powszechnym od XV do XX wieku. 15 (2003). S. 225–242.

[35] Гл., напрыклад: Карамзин Н. М. История государства Российского. Т. 7. С.-Петербург, 1819. С. 68–70; Соловьев С. М. История России с древнейших времен. Кн. 1. Т. 1–5. С.-Петербург, 1896. Стб. 1611.

боку тлумачылі канфліктам паміж найвышэйшымі ваяводамі, абапіраючыся на апісанне падзей Усцюжскага летапісу[36].

Асобнай згадкі варты нарыс, які належыць Рафаілу Зотаву[37]. Гэта была хіба першая спроба прывязаць бітву да пэўнай мясцовасці. Аўтар выкарыстаў паведамленне Усцюжскага летапісу пра тое, што Астрожскі, каб падмануць непрыяцеля, які чакаў яго на бродах, перавёў сваё войска праз Дняпро "за 15 верст выше"[38]. На думку аўтара, пасля пераправы літоўска-польскае войска рушыла ўніз па цячэнні ракі, каб атакаваць маскоўскія палкі, якія працягвалі займаць ранейшыя пазіцыі. Гэтая версія была падкарэктавана князем М. Галіцыным[39]. Ён лічыў, што Чаляднін першапачаткова займаў пазіцыю на правым беразе Крапівенкі фронтам на поўнач. Астрожскі, пераправіўшыся, апынуўся перад непрыяцелем. Такім чынам, бітва адбылася на правым беразе Крапівенкі. Гэтая версія замацавалася ў расійскай гістарыяграфіі і была падтрымана савецкім вайсковым гісторыкам Яўгенам Разіным у яго "Истории военного искусства" 1957 г.[40].

Расійскія дарэвалюцыйныя гісторыкі, якія пісалі пра Аршанскую бітву, дэманстравалі схільнасць да некрытычнага ўспрымання звестак з крыніц. Гэтага, аднак, нельга сказаць пра Я. Кашпроўскага, якому належыць нарыс пра барацьбу за Смаленск паміж Масквой і Вільняй у пачатку

[36] Устюжские и Вологодские летописи XVI–XVIII вв. Ленинград, 1982. С. 101.

[37] Зотов Р. М. Военная история Российского государства. Ч. 1. С.-Петербург, 1839. С. 109–110.

[38] Устюжские и Вологодские летописи… С. 101.

[39] Голицин Н. С. Русская военная история. Ч. 2. От Иоанна III до Петра I. С.-Петербург, 1878. С. 105–106.

[40] Разин Е. А. История военного искусства VI–XVI вв. С.-Петербург, 1999. С. 351–353 (1-е выд.: Разин Е. А. История военного искусства. Т. 2. Военное искусство феодального периода. Москва, 1957). У хуткім часе пасля першай публікацыі выйшаў пераклад гэтай працы на польскую мову, які быў фактычна праігнараваны польскай гістарыяграфіяй (Razin E. Historia sztuki wojennej. T. II. Sztuka wojenna okresu feudalnego. Warszawa, 1960).

XVI ст.[41]. Ён падверг рашучай крытыцы колькасць маскоўскага войска ў 80 тыс., якая гучала ў польскіх крыніцах. Я. Кашпроўскі звяртае ўвагу на тое, што толькі частка войска пасля аблогі Смаленска накіравалася ўглыб варожай тэрыторыі, і камандавалі ім не самыя знатныя ваяводы[42]. Пры гэтым аўтар спасылаецца на Разрадныя кнігі, але трэба адзначыць, што разрадны роспіс войска, разгромленага пад Оршай, не захаваўся, таму колькасны і персанальны склад яго ваяводаў – дыскусійнае пытанне.

Завышаныя, на думку расійскага гісторыка, і звесткі крыніц пра страты маскоўскага боку ў 30–40 тыс. Ён звярнуў увагу на рэестры палонных у складзе Метрыкі і налічыў усяго 180 чал., што, на яго думку, сведчыць як пра нізкую колькасць маскоўскага войска, так і пра нязначныя маштабы паразы. Я. Кашпроўскі паказвае супярэчнасць у лічбах адносна страт непрыяцеля, якія называе Жыгімонт у сваіх лістах да розных адрасатаў[43]. Найменшую колькасць ён знайшоў у пасланні да Яна Ласкага – 16 тыс., аднак гісторык прачытаў крыніцу няўважліва. На самай справе Жыгімонт казаў, што толькі *на полі бою* ляжала больш за 16 тыс. ворагаў, а целы забітых былі раскіданыя на 8 міляў[44]. Расійскі гісторык крытыкуе і ацэнку пераможцамі сваіх стратаў у 500 забітых і невядомую колькасць параненых, лічачы гэтую колькасць заніжанай. Ён заўважае, што Астрожскі рушыў на адваёву Смаленска не адразу пасля бітвы, а толькі пасля атрымання ад Жыгімонта чатырохтысячнага рэзерву.

Можна хіба фантазіяваць пра тое, якая магла б разгарнуцца дыскусія паміж польскай ды расійскай гістарыяграфіяй, калі б у выніку рэвалюцыйных зменаў апошняя не пазбавілася перспектыў далейшага вывучэння

41 Кашпровский Е. И. Борьба Василия III Ивановича с Сигизмундом I из-за обладания Смоленском (1507–1522) // Сборник историко-филологического общества при институте кн. Безбородко. Вып. II. Нежин, 1899. С. 242–250.

42 Тамсама. С. 244–246.

43 Тамсама. С. 249.

44 Acta Tomiciana. T. III. Posnaniae, 1853. № CCXXXIV. P. 184–185.

Аршанскай бітвы. Праца Я. Кашпроўскага, аднак, была заўважана С. Хербстам, які пагадзіўся з рэмаркамі расійскага калегі адносна колькасці маскоўскага войска.

Ужо ў постсавецкі час праблематыкай, звязанай з Аршанскай бітвай, заняўся гісторык Аляксей Лобін, працы якога будуць разгледжаны ніжэй.

На хвалі нацыянальнага адраджэння ў Беларусі канца 80-х – пачатку 90-х г. XX ст. бітва пад Оршай набыла вядомасць і сімвалічнае значэнне. Аднак гэта, на жаль, не прывяло да новых дасягненняў у яе навуковым даследаванні. Нарысы, якія з'явіліся ў перыядычных выданнях, стаўшы пазней асновай энцыклапедычных артыкулаў, не далі новых вынікаў[45]. Такая сітуацыя не ў апошнюю чаргу мела прычынай тое, што ў Беларусі мілітарная гісторыя эпохі Сярэднявечча і Новага часу адсутнічае як навуковая школа. Для прац Анатоля Грыцкевіча, які стаў галоўным спецыялістам па Аршанскай бітве ў Беларусі, характэрна паўтарэнне легендарных звестак пра колькасць войскаў і ігнараванне альтэрнатыўных поглядаў (С. Хербст, І. Граля). Пры гэтым аўтар больш схільны выкарыстоўваць працы С. Салаўёва і М. Карамзіна, а не спецыялістаў па ваеннай гісторыі. А. Грыцкевіч часцей спасылаецца на другасныя і больш познія крыніцы (хронікі М. Стрыйкоўскага і М. Бельскага), а не на сведчанні сучаснікаў (Якуба Пізо, Станіслава Гурскага, Людвіга Дэцыя). У навукова-папулярным выданні 2014 г. "Сцягі Оршы" аўтар нават не згадвае манаграфію А. Лобіна, якая выйшла трыма гадамі раней. Зрэшты, немагчыма дакладна ацаніць ахоп аўтарам

[45] Грыцкевіч А., Трусаў А. Бітва пад Оршай // Мастацтва Беларусі. 1990. № 8. С. 29–30; Грыцкевіч А. Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. // Спадчына. 1992. № 6. С. 3–11; Ён жа. Аршанская бітва 1514 г. // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 1. Мінск, 2005. С. 249–251; Ён жа. Аршанская бітва 1514 г. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 187–188; Ён жа. Сцягі Оршы. Мінск, 2014. Крытыку беларускай гістарыяграфіі гл. у: Янушкевич А. Оршанская битва… Р. 121–125; Лобин А. Битва под Оршей 1514 г. в современной белорусской историографии и проблема критики исторических источников // Studia Slavica et Balcanica Petropolitana = Петербургские славянские и балканские исследования. 2011. № 2. С. 29–40.

крыніц і даследаванняў, бо няма ніводнай працы, дзе б ён рабіў спасылкі з пазначэннем старонак.

Вартыя асобнай згадкі ў станоўчым ключы спробы рэканструкцыі і лакалізацыі бітвы Вячаслава Насевіча[46] і Віктара Цемушава[47]. На жаль, ідэі аўтараў маюць толькі графічнае выражэнне ў выглядзе схемаў бітвы, прывязаных да канкрэтнай мясцовасці, што дазваляе хіба толькі меркаваць пра іх аргументацыю. На думку В. Цемушава, войска Астрожскага пераправілася цераз Дняпро ў двух месцах. Недалёка ад Оршы ўверх па рацэ пяхота і артылерыя перайшлі на левы бераг па пантонным мосце, а астатняя частка арміі пераправілася пад самой Оршай. Пасля гэтага войска прасунулася наперад і сустрэлася з непрыяцелем прыкладна на паўдарозе з Оршы да Крапівенкі. Артылерыйская і пяхотная засада размясцілася ў лесе на правым флангу, але глыбей за агульную баявую лінію. Пад агонь гарматаў і рушніц патрапілі ваяры маскоўскага палка левай рукі, відаць, пры спробе абысці непрыяцельскія пазіцыі ў гэтым месцы. У астатнім жа ход бітвы рэканструяваны традыцыйна, наколькі гэта можна зразумець са схемы. Хоць варыянт яе лакалізацыі, заснаваны, як можна меркаваць, на паведамленні С. Герберштэйна, – даволі спрэчны[48], вартасцю працы трэба прызнаць увагу аўтара да тагачаснай сеткі населеных пунктаў. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў ён слушна не пазначыў на карце вёскі, пра якія на пачатак XVI ст. няма звестак. Ва ўсім наваколлі пацверджана крыніцамі толькі існаванне Крапіўны.

Спрабуючы вызначыць месца бітвы, В. Насевіч, як падаецца, абапіраўся на паведамленне Усцюжскага летапісу. Таму яго версія супадае з прынятай у дарэвалюцыйнай расійскай гістарыяграфіі. Схема ж бітвы ў агульных

[46] Бітва пад Оршай (8.09.1514 г.) // Гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Беларусь ад старажытных часоў да канца XVIII ст. Варшава – Мінск, 2008. С. 73.

[47] Аршанская бітва 8 верасня 1514 г. // Вялікі гістарычны атлас Беларусі. Т. 1. Мінск, 2009. С. 75.

[48] Крытыку гл. у: Казакоў А. Дзе адбылася Аршанская бітва? // Герольд Litherland. 2014. № 20. С. 4–29.

рысах нагадвае тую, што змешчана ў працы Я. Разіна, аднак мае і некаторыя запазычанні з польскай гістарыяграфіі.

У іншых, акрамя Беларусі і Польшчы, краінах, якія могуць прэтэндаваць на спадчыну Аршанскай перамогі, – Літве і Украіне, навуковы інтарэс да бітвы быў яшчэ меншы. Сітуацыя, праўда, крыху змянілася ў сувязі з 500-гадовым юбілеем падзеі, пра што будзе сказана ніжэй.

Знікненне ідэалагічных перашкод з падзеннем СССР дазволіла і расійскім навукоўцам звярнуцца да тэмы Аршанскай бітвы. Яе праблематыкай займаецца ваенны гісторык з Санкт-Пецярбурга Аляксей Лобін, працы якога вартыя адмысловай увагі. Гэта абумоўлена ў першую чаргу тым, што яны маюць вялікую ступень навізны. Падсумаваннем аўтарскіх даследаванняў розных аспектаў бітвы пад Оршай, як і ўсёй вайны 1512–1522 г., стала манаграфія, што ўбачыла свет зусім нядаўна[49]. Крытыка гэтай працы ўжо выказвалася мною раней[50]; тут жа я дазволю сабе каротка спыніцца на асноўных тэзісах, а таксама дадам іншыя развažанні, выкліканыя ў тым ліку апошняй працай А. Лобіна і Міхаіла Бенцыянава[51].

На думку А. Лобіна, бітва адбылася прыкладна там, куды яе змясціў В. Цемушаў. Аднак па версіі расійскага даследчыка яна заняла большую плошчу, а фронт армій меў працяглась каля 6 км[52]. Засада з пяхоты і артылерыі змешчана А. Лобіным у той жа лес, але “апынулася” яна не на крайнім правым флангу, а ў цэнтры пазіцый літоўска-польскага войска. Шкада, што ў такой грунтоўнай

[49] Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 г. С.-Петербург, 2011.

[50] Казакоў А. Паляванне на “Аршанскі міф” // ARCHE. 2012. № 5. С. 88–97. Рэц. на кн.: Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 года. С.-Петербург, 2011; Казакоў А. Дзе адбылася Аршанская бітва? С. 22–24.

[51] Бенцианов М., Лобин А. К вопросу о структуре русской армии в битве при Орше // Studia Slavica et Balcanica Petropolitana = Петербургские славянские и балканские исследования. 2013. № 2. С. 155–179.

[52] Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 г. … С. 254–255.

працы пра Аршанскую бітву адсутнічае не толькі абмеркаванне праблемы яе лакалізацыі, але нават падрабязная аргументацыя на карысць уласнай версіі. Відаць, аўтар зыходзіў з таго, што для бітвы такога памеру армій была неабходна адпаведная прастора. У сваіх працах ён слушна адзначае, што іншыя гісторыкі звяртаюць мала ўвагі на пытанні “ваеннай лагістыкі”.

Расійскі гісторык прапануе даволі арыгінальную версію пераправы войска Астрожскага цераз Дняпро. На яго думку, спачатку яно размяшчалася на правым беразе ракі насупраць сучаснай вёскі Пашына, а таемная пераправа была зроблена ніжэй па цячэнні ракі, пад самай Оршай[53].

Аляксей Лобін не пагаджаецца з высновамі некаторых папярэднікаў (напрыклад, З. Сперальскага) і лічыць, што на левым флангу сталі палякі. Насуперак ранейшым меркаванням, аўтар вылучыў у пазіцыі літоўска-польскага войска яшчэ і цэнтр, які таксама складаўся з палякаў. Далей А. Лобін прапануе сваю дэталёвую рэканструкцыю ходу бітвы, якая ў агульных рысах не супярэчыць раней прапанаваным версіям, за выняткам яе лакалізацыі і месца засады. Даследчык падзяляе думку, што паміж Чаляднiным і камандзірам палка правай рукі князем Міхаілам Булгакавым існаваў канфлікт, які стаў прычынай іх няўзгодненых дзеянняў. Але нельга прызнаць слушным тлумачэнне аўтара матываў нібыта самавольнай атакі Булгакавым на левы фланг літоўска-польскага войска, бо яно грунтуецца на недакладным прачытанні крыніц[54].

Бадай галоўная навацыя А. Лобіна – спроба высветліць сапраўдную колькасць войскаў пад Оршай. Ён слушна даводзіць, што агульнавядомыя лічбы 35 і 80 тыс. былі прадуктам прапаганды і не адпавядаюць рэчаіснасці. Абапіраючыся ў асноўным на рэестры найманых харугваў і на дадзеныя попісу войска Вялікага Княства Літоўскага 1528 г., даследчык прыходзіць да высновы, што пад камандаваннем гетмана Астрожскага магло быць 12–13 тыс.

[53] Тамсама. С. 254.

[54] Тамсама. С. 158; Казакоў А. Дзе адбылася Аршанская бітва? С. 28, заўв. 121.

ваяроў[55]. Як заўважае аўтар, гэтая колькасць стасуецца з паведамленнямі некаторых наратыўных крыніц. Калі па наймітах захаваліся больш-менш дакладныя дадзеныя, то колькасць паспалітага рушання Вялікага Княства Літоўскага цяжка паддаецца падліку. На думку аўтара, пад сцягі прыйшла толькі палова земскай службы – 8 тыс. чал. Палова гэтага войска (4 тыс. чал.), якая складалася з почтаў радных паноў, была пакінута Жыгімонтам пры сабе пад Барысавам у якасці аховы. Такім чынам, і расійскі даследчык гэта адмыслова падкрэслівае, войска Астрожскага пад Оршай толькі на 1/3 складалася з ліцвінаў, рэшта – з палякаў: наймітаў і добраахвотнікаў[56].

Гэтыя высновы аўтара можна аспрэчыць. Самае слабое месца падлікаў – колькасць паспалітага рушання. Крыніцы захавалі сведчанні маруднасці яго збораў, а не адсутнасці яго значнай часткі, тым больш паловы. Таксама застаўся няўлічаны аўтарам атрад гаспадарскіх дваран з 1200 чал. (наогул А. Лобін не бачыць розніцы паміж шляхтай і дваранамі). Сцверджанне, што з Жыгімонтам пад Барысавам засталіся почты паноў-рад, А. Лобін падмацоўвае спасылкамі на ліст Я. Пізо і апавяданне С. Гурскага. Але гэтыя крыніцы на самай справе такой інфармацыі не ўтрымліваюць. Яны называюць толькі колькасць атрада і не даюць аніякіх звестак пра яго склад[57].

Такім чынам, атрыманыя А. Лобіным колькасныя дадзеныя, як па памеры ўсяго войска, так і па долі ў ім вялікакняскага паспалітага рушання, патрабуюць істотнага карэктавання. Прапанаваныя ім лічбы варта расцэньваць хутчэй як арыенцір, які вядзе нас ад легендарных звестак у бок гістарычнай рэальнасці.

[55] Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 г. … С. 109–134.

[56] Тамсама. С. 150–151; Лобин А. Битва под Оршей 1514 г. в современной белорусской историографии… С. 32–33. У гэтым артыкуле для абгрунтавання сваёй думкі аўтар спасылаецца на “Хроніку” Мацея Стрыйкоўскага. Іначай, як кур’ёзам, гэта не назавеш, бо паводле Стрыйкоўскага ліцвіны складалі 16 тыс. з 25-тысячнага войска (Stryjkowski M. Kronika Polska… T. 2. S. 379).

[57] Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 г. … С. 133; Acta Tomiciana. T. III. P. 6; № CCXLVI. P. 204.

Пытанне колькасці маскоўскага войска больш складанае з прычыны адсутнасці хоць нейкіх надзейных крыніц. Аднак расійскі даследчык усё ж паспрабаваў яе вызначыць і, выкарыстаўшы ўласныя метады падліку, атрымаў вынік 11–12 тыс.[58]. Першы з метадаў грунтуецца на колькасным складзе тэрытарыяльных карпарацый памешчыкаў, якія ў той час былі асновай узброеных сіл Вялікага Княства Маскоўскага. Галоўная ж крыніца, якая дазваляе прымяніць гэты метад у дачыненні да маскоўскага войска ў Аршанскай бітве, – рэестры палонных, якія ўтрымліваліся ў гаспадарскіх замках. Акрамя імя вязня, там, як правіла, фіксавалася месца палону і зрэдку мясцовасць, з якой асоба паходзіла ("з Великого Новагорода", "муромец" і г. д.). Прымаючы такія ўдакладненні як указанне на прыналежнасць да пэўнай карпарацыі і выкарыстоўваючы дадзеныя па іх колькасці за 60–70-я г. XVI ст., А. Лобін прыблізна выводзіць колькасць памешчыцкай конніцы, якая складала аснову войска.

Можна назваць галоўныя прычыны, па якіх гэты метад не дае хаця б прыблізна верагоднага выніку: дадзеныя па колькасці тэрытарыяльных карпарацый на пачатак XVI ст. адсутнічаюць; ступень развіцця некаторых карпарацый на пачатак XVI ст. наогул цяжка ацаніць, бо памесная сістэма знаходзілася ў стане фармавання (адпаведна, выкарыстанне звестак за другую палову XVI ст. нельга прызнаць слушным); гэты метад не ўлічвае кантынгенты феадалаў, што неслі ваенную павіннасць з земляў на вотчынным праве; рэестры палонных, на якія абапіраецца даследчык, захаваліся не цалкам; А. Лобін ігнаруе паведамленне пра тое, што шмат палонных дзяцей баярскіх ні ў якія рэестры не запісваліся, бо пераможцы развезлі іх па маёнтках (адпаведна, рэпрэзентатыўнасць спісаў маскоўскіх вязняў можа быць зусім невысокай)[59].

Іншы метад грунтуецца на колькасці т. зв. соценных галоў у падначаленні ваяводы і колькасці ратнікаў у падначаленні соценнага галавы. Аўтар узяў максімальныя паказчыкі (200 ратнікаў у "сотні" і 5 сотняў пад

[58] Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 г. … С. 104.
[59] Казакоў А. Паляванне… С. 90–92.

камандаваннем ваяводы) і разлічыў памер войска зыходзячы з таго, што ім камандавалі 14 ваяводаў. У выніку атрымалася 14 тыс. Улічыўшы фактары, якія памяншалі колькасць войска, аўтар заўважае, што гэтыя лічбы прыкладна супадаюць з тымі, якія дае метад падліку па тэрытарыяльных карпарацыях[60].

Крытыку гэтага метаду падліку можна звесці да наступных тэзісаў: колькасць ваяводаў у бітве пад Оршай невядомая, бо адпаведнага запісу ў разрадах не захавалася, а лічба 14 – аўтарская гіпотэза; соценная рэформа адбылася толькі ў 1550-я г., а на пачатак стагоддзя “Разрадныя кнігі” не фіксавалі колькасці галоў у падначаленні ваяводаў; разбежка магчымай колькасці ваяроў у “сотні” вельмі істотная: ад некалькіх дзясяткаў да сотняў. Улічваючы ўсё гэта, можам канстатаваць, што прапанаваны метад не спрацоўвае, хоць зноў жа дае нейкі вынік, які можна разглядаць у якасці арыенціра.

Дазволю сабе яшчэ адну заўвагу адносна ўжо не саміх метадаў, а іх прымянення аўтарам. У абодвух выпадках ён свядома падлічыў колькасць войска па максімальных, завышаных паказчыках. Робячы падлікі па памерах тэрытарыяльных карпарацый, аўтар зыходзіў з колькасці ўсёй карпарацыі, хоць сам адзначае, што ў замежны паход ішлі толькі найлепей узброеныя і забяспечаныя коньмі ваяры. Таксама няма падстаў лічыць, што *кожны* ваявода меў пад сваім камандаваннем максімальную колькасць галоў, *кожны* з якіх, у сваю чаргу, камандаваў атрадам найвышэйшай колькасці. Логіка прымянення абодвух метадаў падказвае, што трэба ажыццяўляць разлік не па максімальных, а па сярэдніх паказчыках. У такім разе наколькі ніжэйшай за 11–12 тыс. магла б быць выніковая колькасць маскоўскага войска? Улічваючы гэтую папраўку, ці не атрымалася б, што яно істотна саступала непрыяцелю, які меў 12–13 тыс.? А станоўчы адказ на гэтае пытанне супярэчыць таму, што мы ведаем пра ход бітвы і яе акалічнасці, і таму, што піша сам аўтар. Нягледзячы на перавагу варожых сіл

[60] Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 г. … С. 104.

ва ўзбраенні і наборы родаў войскаў (артылерыя, пяхота, кавалерыя), іх выгадную пазіцыю і перасечаную мясцовасць, маскоўскія ваяводы працягвалі ўпарта атакаваць непрыяцеля, прычым маглі сабе дазволіць рабіць гэта паасобку, і ў выніку зацятай сечы, якая доўжылася некалькі гадзін, старому гетману ўсё ж удалося пераламіць ход бітвы, і то дзякуючы толькі прымяненню агнявой засады, якая стала для ворага поўнай нечаканасцю[61]. Трэба яшчэ дадаць, што на пачатку бітвы маскоўскае камандаванне паслала нейкую частку сваіх сіл у абход варожых пазіцый. Карціна падзей 8 верасня падштурхоўвае нас да думкі, што войска Астрожскага саступала маскоўскаму па колькасці, а не наадварот.

Праз два гады пасля выхаду манаграфіі А. Лобін сумесна з іншым спецыялістам М. Бенцыянавым апублікаваў артыкул, у якім прапанаваў яшчэ адзін спосаб падліку маскоўскага войска ў бітве пад Оршай[62]. Гэтая праца вартая асобнага водгуку, тут жа я спынюся на галоўным. Асноўнай крыніцай зноў выступілі рэестры маскоўскіх вязняў. На гэты раз аўтары паставілі задачу ідэнтыфікаваць кожнага палоннага, для чаго выкарыстоўваліся дадзеныя з тагачасных ("Пісцовыя кнігі Наўгародскай зямлі", спадрадычныя акты) і больш позніх (напрыклад, "Тысячная кніга") крыніц. Выкарыстоўваючы імя палоннага, згаданага ў рэестрах, аўтары шукалі яго магчымых сваякоў або згадкі пра яго самога па маскоўскіх крыніцах. У выніку ўдалося ідэнтыфікаваць амаль усіх з блізу 200 чалавек, высветліўшы мясцовасць іх паходжання. Гэта дазволіла аўтарам скласці ўяўленне пра тэрытарыяльную структуру маскоўскага войска пад Оршай. Яны адзначаюць, што некаторыя рэгіёны былі прадстаўлены сярод палонных шырока, асабліва Наўгародчына. Іншыя ж – толькі некалькімі асобамі, як Галіч, ці ўвогуле адной, як Суздаль, Бранск, Калуга. Цікава, што сярод ідэнтыфікаваных асоб выявілася даволі шмат вотчыннікаў, якія не браліся пад увагу ў падліках па раней прапанаваным метадзе, што

[61] Тамсама. С. 156–162.
[62] Бенцианов М., Лобин А. К вопросу о структуре…

грунтуецца на велічыні тэрытарыяльных карпарацый памешчыкаў другой паловы XVI ст.

Дзякуючы адносна добрай захаванасці пісцовых кніг Наўгародскай зямлі (на фоне наогул вельмі беднай рэпрэзентатыўнасці тагачасных крыніц па гісторыі маскоўскага служылага саслоўя) даследчыкі атрымалі важны вынік. У бітве прымала ўдзел 2–2,3 тыс. наўгародцаў, якія складалі 33,7–35,8% сярод палонных. Зыходзячы з таго, што дзве сотні палонных дакладна адлюстроўвалі прапорцыі тэрытарыяльнага складу маскоўскага войска, аўтары назвалі агульную колькасць служылых людзей пад Оршай – не болей за 6 тыс. (без уліку баявых халопаў)[63]. Калі ўлічыць, што раней А. Лобін разлічваў колькасць войска па прапорцыі 1 сын баярскі – 1 баявы халоп, то атрыманы вынік карэлюе з ранейшым – 11–12 тыс.

Трэба аддаць аўтарам належнае: яны зрабілі вялізную і сапраўды важную працу, якая можа стаць карыснай для іншых даследаванняў. Але каб зразумець, што і гэты спосаб падліку маскоўскага войска пад Оршай не дае верагоднага выніку, трэба звярнуць увагу на некаторыя акалічнасці. Сама ідэнтыфікацыя асоб па імені (імені ўласным, па бацьку, родавым празванні) у многіх выпадках застаецца толькі гіпотэзай. Артыкул стракаціць словамі кшталту “вероятно”, “скорее всего”, “с некоторой долей условности”, “в качестве предположения” і г. д. Трэба яшчэ раз падкрэсліць, што рэпрэзентатыўнасць крыніц, па якіх ажыццяўлялася ідэнтыфікацыя, даволі слабая.

Але не гэта галоўнае. На самай справе няма падстаў сцвярджаць, як гэта робяць аўтары, што меней за дзве сотні палонных дзяцей баярскіх адлюстроўваюць тэрытарыяльны склад усяго войска, нават калі прыняць яго колькасць у 11–12 тыс. Мы амаль нічога не ведаем пра дэталі апошняй фазы бітвы, калі адбываўся пераслед разбітага войска і знішчэнне апошніх ачагоў супраціву. Хутчэй за ўсё, менавіта тады і была ўзята асноўная маса палонных. Трэба ўлічваць, што тэрытарыяльны прынцып падзелу войска захоўваўся на полі бою, г. зн. прадстаўнікі адной

[63] Тамсама. С. 175.

тэрытарыяльнай карпарацыі ці атрада вотчыннікаў утваралі асобны аддзел, а не размяркоўваліся па розных злучэннях. Адсюль відавочна, што адны атрады маглі мець болей шанцаў на выратаванне ўцёкамі за іншыя і "даць" меней сваіх прадстаўнікоў у спісы вязняў. Не выключана, што асобныя групы маскоўскіх ваяроў, цалкам атачаныя[64], здаваліся ў поўным складзе, а іншыя зусім пазбягалі палону.

Такім чынам, працу расійскіх калег можна разглядаць як узорны прыклад т. зв. памылкі выжылых (survivorship bias), калі частка аб'екта даследавання не вывучаецца па прычыне недаступнасці, што вядзе да атрымання скажоных ці няпоўных дадзеных. У нашым выпадку "не выжылі" тыя, хто не патрапіў на старонкі пісьмовых крыніц.

На думку А. Лобіна, страты маскоўскага войска, як і яго колькасць, таксама вельмі перабольшаныя. Адкідаючы звесткі пра 1,5–2 тыс. палонных, ён схіляецца да значна меншых лічбаў: 380 дзяцей баярскіх і каля двухсот камбатантаў простага стану. На думку даследчыка, "ни о каких тысячах пленных *речи быть не может*" (вылучана мною. – *А. К.*), бо гэта не пацвярджаецца рэестрамі маскоўскіх вязняў, якія налічваюць каля 200 асоб[65]. Нагадаю, А. Лобін ігнаруе паведамленне пра тое, што шмат палонных дзяцей баярскіх, не кажучы пра баявых халопаў, наогул не было нідзе ўлічана[66]. Таксама ён не давя-

[64] Напрыклад, вядома, што частка маскоўскага войска была прыціснута да Крапіўны (Герберштейн С. Записки о Московии. С. 85; Acta Tomiciana. T. III. P. 5; Полное собрание русских летописей (далей ПСРЛ). Т. 4. Псковская первая летопись. С.-Петербург, 1848. С. 290).

[65] Лобин А. Н. Битва под Оршей 8 сентября 1514 г. … С. 170.

[66] "А иных многих детеи боярских не писано, которыи без ведома повезены по иманях князских и панских, тых князю гетману его милости не звещали и в еестр не хотели писати" (ПСРЛ. Т. 17. Западнорусские летописи. С.-Петербург, 1907. Стб. 186–188). Гэты недахоп быў адзначаны ў рэцэнзіі на манаграфію аўтара (Казакоў А. Паляванне… С. 92), пасля чаго ён фармальна ўзгадаў гэтую надзвычай важную акалічнасць, аднак фактычна працягвае ігнараваць яе ў сваіх разважаннях пра колькасць палонных (Бенцианов М., Лобин А. К вопросу о структуре… С. 158).

рае “Хронiцы Лiтоўскай i Жамойцкай” па прычыне яе позняга стварэння i “сапсаванасцi”, дзе колькасць палонных дзяцей баярскiх акрэслена ў 596 чал.[67].

У падмацаванне свайго тэзiса пра нязначнасць маскоўскiх страт расiйскi даследчык прыводзiць паведамленне агента Тэўтонскага ордэна. Па словах шпiёна, “значительное число московитов было там (пад Оршай. – *А. К.*) убито и захвачено в плен живыми; как говорят, около 2 тысяч”[68]. Вядома ж, у арыгiнале пунктуацыя адсутнiчала, таму лiчба 2 тыс. можа адносiцца толькi да палонных, а не да агульных страт палоннымi i забiтымi. Гэта болей iмаверна, бо агент перадаваў чуткi (“как говорят”), а колькасць палонных у 2 тыс. адпавядала афiцыйнай версii, якую распаўсюджваў Жыгiмонт. Таксама трэба адзначыць, што А. Лобiн пакiдае па-за ўвагай вельмi iстотнае сведчанне Л. Дэцыя. З усiх аўтараў той эпохi ён адзiны, хто, кажучы пра страты ворага, не проста агучвае легендарныя звесткi (якiм не вельмi давярае), а звяртаецца да першакрынiцы – маскоўскiх палонных, якiя былi перададзеныя Яну Бонеру. Паводле iх слоў, войска страцiла значна болей за палову складу[69]. Нарэшце, той красамоўны факт, што большая частка найвышэйшых камандзiраў, у т. л. i сам Чаляднiн, патрапiла ў палон цi загiнула, сведчыць на карысць цяжкiх страт усяго войска i добра карэлюе з паказаннямi палонных, зафiксаваных Л. Дэцыем (большасць ваяводаў / большасць iх падначаленых)[70].

Ацэньваючы вартасцi прац А. Лобiна у цэлым, трэба адзначыць наступнае. Аўтар iмкнецца выкарыстаць максiмальнае кола крынiц, у т. л. тыя, што раней да

[67] Бенцианов М., Лобин А. К вопросу о структуре… С. 158, заўв. 13.

[68] Цыт. па: Лобин А. Документы об осаде Смоленска и битве под Оршей 1514 г. из собрания Кёнигсбергского тайного архива // Вялiкае княства Лiтоўскае i суседзi: Права. Вайна. Дыпламатыя. Мiнск, 2012. С. 188.

[69] Decii L. J. De Sigismundi regis temporibus liber 1521. Kraków, 1901. P. 79.

[70] А. Лобiн тлумачыць гэта тым, што на ваяводаў iшло мэтанакiраванае “паляванне” (Бенцианов М., Лобин А. К вопросу о структуре… С. 162).

даследавання Аршанскай бітвы і вайны 1512–1522 г. не прыцягваліся. У асноўным гэта датычыцца матэрыялаў былога архіва Тэўтонскага ордэна, якія цяпер захоўваюцца ў Берліне[71]. Спробы аўтара прымяніць новыя метады для высвятлення колькасці маскоўскага войска варта таксама занесці ў актыў. Методыка, якая не спрацоўвае належным чынам адносна бітвы пад Оршай, можа быць паспяхова выкарыстана ў іншых выпадках. Манаграфія А. Лобіна садзейнічае дэканструкцыі міфаў, звязаных з Аршанскай бітвай, выклікае дыскусію і стварае грунт для наступных даследаванняў. Працы расійскага гісторыка адкрываюць новую старонку ў вывучэнні Аршанскай бітвы, і ў гэтым іх галоўная роля. Аднак многае залежыць ад таго, якой будзе рэакцыя на іх сучаснай польскай і беларускай гістарыяграфій.

Разам з тым нельга не заўважыць і пэўную тэндэнцыйнасць. Як бачым, А. Лобін дэманструе схільнасць ігнараваць звесткі з крыніц, што супярэчаць ягоным тэзісам, хоць самі крыніцы яму добра вядомыя. У сувязі з гэтым нельга не адзначыць яшчэ адну асаблівасць. Адмысловае месца ў працах А. Лобіна займае слушная крытыка польскіх крыніц за іх тэндэнцыйнасць. Але ў той жа час нічым не лепшыя ў гэтым сэнсе паведамленні рускіх летапісаў часта прымаюцца аўтарам без аніякай крытыкі. Напрыклад, даследчык нават не задаецца пытаннем, ці не з'яўляецца сцверджанне летапісцаў пра адсутнасць часткі маскоўскіх ваяроў на момант бітвы або пра быццам нечаканы для маскоўскага камандавання прыход Астрожскага пад Оршу звычайным імкненнем апраўдаць разгром[72]?

[71] Geheimes Staatsarchiv Preußischer Kulturbesitz. Ordensbriefarchiv.

[72] Пра тэндэнцыйнасць паведамленняў рускіх летапісаў гл.: Казаков А. Сообщения русских летописей об Оршанской битве 1514 г. // Traptautinė mokslinė konferencija "1514 m. Oršos mūšis: karinė pergalė ir jos ženklai", Vilnius, 2014 m. rugsėjo 26–27 d. Pranešimų tezės = Międzynarodowa konferencja naukowa "Bitwa pod Orszą 1514 r.: zwycięstwo militarne i jego znaki", Wilno, 26–27 wrzesnia 2014 r. Tezy referatów. Vilnius, 2014. P. 116–118 (адпаведны артыкул павінен з'явіцца ў зборніку прац канферэнцыі).

Гэта выглядае тым больш дзіўным на фоне яго крытыкі іншых гісторыкаў за суб'ектыўнасць і заклікаў да прафесійнай працы з крыніцамі[73].

Кароткая выснова, якую дазваляе зрабіць гэты гістарыяграфічны агляд, можа гучаць так: гісторыя Аршанскай бітвы мае больш адкрытых пытанняў, чым закрытых. Найбольш дыскусійныя праблемы колькасці войскаў (асабліва маскоўскага), страт бакоў і дакладнага месца бітвы. Што тычыцца яе ходу, то любая падрабязная рэканструкцыя будзе ў пэўнай ступені аўтарскай гіпотэзай з дамешкам фантазіі. На жаль, крыніцы пакінулі нам няшмат звестак і ў некаторых дэталях супярэчаць адна адной. Больш дакладна рэканструяваць ход бітвы можна было б, ведаючы, дзе яна адбылася. З іншага боку, новыя дадзеныя па колькасці, дыспазіцыі і дзеяннях войскаў маглі б дапамагчы прывязаць бітву да канкрэтнай мясцовасці. Без з'яўлення новых крыніц гэтае замкнутае кола наўрад ці ўдасца канчаткова разарваць, хоць пэўныя навацыі магчымыя[74]. Істотны прагрэс можа адбыцца дзякуючы прыцягненню палеагеаграфіі з мэтай рэканструкцыі ландшафту пяцісотгадовай даўніны. Што ж тычыцца праблемы колькасці войскаў і маштабаў страт, то, як уяўляецца, вядомыя крыніцы пакідаюць патэнцыял для новых рашэнняў. У большай ступені, аднак, гэта магчыма ў адносінах да складу літоўска-польскага войска.

Паўтысячагадовы юбілей бітвы садзейнічаў павышэнню ўвагі да яе сярод навуковай супольнасці. Рэдакцыі перыядычных выданняў падрыхтавалі спецыяльныя нумары[75], адбыўся шэраг мерапрыемстваў рознага фармату з удзелам беларускіх, польскіх, літоўскіх, украінскіх

[73] Лобин А. Битва под Оршей 1514 г. в современной белорусской историографии… С. 32–33.

[74] Абмеркаванне праблемы лакалізацыі Аршанскай бітвы гл. у: Казакоў А. Дзе адбылася Аршанская бітва? // Герольд Litherland. 2014. № 20. С. 4–29.

[75] Герольд Litherland. 2014. № 20; Mówią wieki. 2014. № 9 (гэты нумар выйшаў і па-беларуску); на момант здачы артыкула ў друк адпаведны нумар часопіса ARCHE яшчэ не з'явіўся.

і расійскіх спецыялістаў[76]. Адразу некалькі навукоўцаў зацікавіліся адным аспектам падзеі, які раней спецыяльна амаль не вывучаўся: Аршанская бітва як узор ваеннага мастацтва на фоне яго развіцця ў тагачаснай Еўропе[77]. Паміж іншым, была звернута ўвага на нюансы выкарыстання агняпальнай зброі. Правядзенне канферэнцый і публічных выступленняў садзейнічала ажыўленню дыскусіі паміж нацыянальнымі гістарычнымі школамі. Як яна будзе развівацца далей, пакажа час.

[76] III Міжнародная навуковая канферэнцыя “Войны ў палітычнай і культурнай традыцыі Беларусі і іншых краін Цэнтральна-Усходняй Еўропы” Інстытута “Палітычная сфера”, Мінск, 30–31.05.2014 (пасля канферэнцыі адбылася публічная дыскусія, прысвечаная Аршанскай бітве); Міжнародная навуковая канферэнцыя “Ваенныя трыумфы эпохі Вялікага Княства Літоўскага” (Музей «Замкавы комплекс “Мір”», Мір, 12–13.09.2014); Міжнародная навуковая канферэнцыя “Бітва пад Оршай 1514 г.: ваенная перамога і яе сімвалы” (Вільня, 26–27.09.2014); Публічная дыскусія “Бітва пад Оршай у яе 500-годдзе” (Нацыянальны музей у Варшаве, 7.09.2014); Круглы стол “Актуальныя пытанні ваеннай гісторыі Сярэднявечча і ранняга Новага часу: да 500-годдзя Аршанскай бітвы” (БДУ, гістарычны факультэт, Мінск, 9.10.2014); Публічная дыскусія “Намаляваная перамога. 500 год бітвы пад Оршай – ад перамогі да легенды” (Цэнтр польска-расійскага дыялогу і паразумення, Варшава, 27.10.2014); Публічная дыскусія “Орша 1514”, арганізаваная ў рамках XXIII Кірмашу гістарычнай кнігі (Варшава, 29.11.2014).

[77] Gawron P. Wojskowość zachodnioeuropejska w dobie bitwy pod Orszą i jej związki z litewską-polską sztuką wojenną // Traptautinė mokslinė konferencija “1514 m. Oršos mūšis: karinė pergalė ir jos ženklai”, Vilnius, 2014 m. rugsėjo 26–27 d. Pranešimų tezės = Międzynarodowa konferencja naukowa “Bitwa pod Orszą 1514 r.: zwycięstwo militarne i jego znaki”, Wilno, 26–27 wrzesnia 2014 r. Tezy referatów. Vilnius, 2014. S. 48–49; Mleczek T. Kampania Orszańska 1514 r. w świetle recepcji uzbrojenia i sposobów wałki doby wojen włoskich do armii koronnej // Тамсама. S. 53–56; Федорук А. Битва под Оршей 1514 г. и “великая пороховая революция” на заре Нового времени // Тамсама. С. 60–63; Казакоў А. Ваенная рэвалюцыя ў Еўропе і Аршанская бітва 1514 г. (даклад быў прачытаны на канферэнцыі “Ваенныя трыумфы эпохі Вялікага Княства Літоўскага” (Музей «Замкавы комплекс “Мір”», Мір, 12–13.09.2014).

# The Historiography of the Battle of Orša, 1514: achievements and problems

**Aliaksandr Kazakoŭ**

The article examines the historiography of the battle of Orša, 1514 in its military aspect. Polish historiography which didn't experience such ideological bias as the works of Soviet scholars did, has the longest tradition of the battle's study. Several researches of Polish historians (K. Górski, O. Laskowski, S. Herbst, Z. Spieralski, H. Grala etc.) from the late nineteenth century onwards resulted in detailed account of the battle though some of the works showed lack of critical analysis in respect of certain problems, mainly the troop strength. The Belarusian historiography got a chance to provide the study of the battle as the USSR collapsed but was unable, with some exceptions, to make a critical neutral judgement. Great contribution was made by the contemporary Russian historian A. Lobin who managed to draw up an account of the battle on the basis of the widest range of sources. He significantly improved works of his predecessors, though his attempt of a completely different estimation of the armies' sizes is doubtful. A. Lobin tends to minimize the strength of Muscovite troops, as well as their loses, presenting deficiency in methodology and lack of criticism towards some sources. Several important questions of the battle of Orša – armies' size, number of Muscovite losses, especially prisoners, exact battlefield – still remain unsolved.

# Злачынства здрады ў Вялікім Княстве Літоўскім XVI ст.

## Кароль Лапатэцкі

Гэты артыкул прысвечаны працэсу эвалюцыі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ўяўленняў пра злачынства здрады[1]. Аналізуючца падзеі XVI ст., калі, з аднаго боку, з'явіліся тры рэдакцыі Статута ВКЛ (1529, 1566 і 1588 г.)[2], а з другога – вяліся працяглыя войны з Вялікім Княствам Маскоўскім. Калі параўнаць дзве дзяржавы пад панаваннем Ягелонаў, будзе відавочна, што праблема здрады куды вастрэй стаяла для Вялікага Княства, чым для Каралеўства Польскага, бо ў ВКЛ здаралася, што і цэлыя роды, і асобныя дзеячы пераходзілі на бок праціўніка або ўцякалі ў варожую краіну[3]. Мяне

[1] У гістарыяграфічным аспекце праблеме *perduellio* аддавалася не надта вялікая ўвага, больш вывучалася катэгорыя *crimen laesae maiestatis*. Падсумаванне даследаванняў, прысвечаных знявазе маястату, гл. у: Dyjakowska M. Crimen laesae maiestatis. Studium nad wpływami prawa rzymskiego w dawnej Polsce. Lublin, 2010. S. 243–254, дзе прыводзіцца спіс тэматычнай літаратуры, да якога варта дадаць працу Ю. А. Храсціцкага: Chróścicki J. A. “Crimen laesae maiestatis” // Podług nieba i zwyczaju polskiego. Studia z historii architektury, sztuki i kultury ofiarowane Adamowi Miłobędzkiemu. Warszawa, 1988. S. 606 i n.

[2] Пры напісанні гэтага артыкула я карыстаўся наступнымі дакументальнымі крыніцамі: Pirmasis Lietuvos Statutas. T. II, d. 1: Tekstai senąja baltarusių, lotynų ir senąja lenkų kalbomis. Vilnius, 1991 (далей ISL); Pomniki Prawa Litewskiego z XVI wieku. T. I: Statut Litewski drugiej redakcji (1566) / wyd. F. Piekosiński. Kraków, 1900 (далей IISL); Statut Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1693 (далей III SL).

[3] Пар.: Augustyniak U. Potworne konspiracje, czyli problem zdrady w Rzeczypospolitej w czasach Wazów // Barok. 1994. № 1. S. 89–

цікавіць, як на пагрозу страты незалежнасці, а таксама на неадназначную пазіцыю хоць і невялікай, але істотнай часткі грамадства рэагавалі дзяржаўныя інстытуты, адказныя за праваўтварэнне і правапрымяненне.

Адказ на гэтае пытанне вымагае даследавання многіх больш вузкіх аспектаў. Па-першае, якім быў статус гэтага злачынства ў прававой сістэме Вялікага Княства Літоўскага. Па-другое, якія менавіта дзеянні лічыліся здрадай і ці мянялася гэтае разуменне з цягам часу. Па-трэцяе, якія заканадаўчыя нормы ўводзіліся для процідзеяння такім учынкам. Нарэшце, якая была практыка ўжывання гэтых нормаў і чым яна адрознівалася ад парадкаў, заведзеных у суседняй Кароне. Асабліва цікавіць мяне балансаванне паміж традыцыйнымі шляхецкімі вольнасцямі і неабходнасцю захаваць бяспеку і тэрытарыяльную цэласнасць краіны, якая апынулася ў гэты час на вастрыі экспансіі ўсходняга суседа.

Спачатку варта больш дакладна акрэсліць прадметныя рамкі нашага даследавання. Аналіз, прапанаваны ў артыкуле, датычыць нормаў земскага права і не закранае пытанняў здрады сярод жаўнераў. Апошнія падпадалі пад дзеянне спецыяльных вайсковых артыкулаў, а гэтыя нарматыўныя акты ў дачыненні да XVI ст. былі ўжо падрабязна прааналізаваны[4]. Тут я толькі зазначу, што наёмнікі і прафесійныя вайскоўцы, ідучы на службу, у большасці выпадкаў прыносілі дзве прысягі – на вернасць манарху, а таксама на шанаванне вайсковых артыкулаў[5]. Тым самым здрада, пад якой меліся на ўвазе бунт, дэзерцірства, пераход на бок ворага, была парушэннем прысягі вернасці, дадзенай каралю, а таксама супярэчыла

103; Kościelny R. Zdrajca, obcy, wróg w opinii polskiego baroku // CPH. 2002. № 54 (1). S. 317–335.

4 Łopatecki K. Organizacja, prawo i dyscyplina w polskim i litewskim pospolitym ruszeniu (do połowy XVII wieku). Białystok, 2013; Ён жа. “Disciplina militaris” w wojskach Rzeczypospolitej do połowy XVII wieku. Białystok, 2012.

5 У святле канстытуцыі 1601 г. прынясенне прысягі замежнаму манарху азначала здзяйсненне дзяржаўнай здрады: Volumina Legum. T. II / wyd. J. Ohryzko. Petersburg, 1859. S. 389.

канкрэтным нормам ваеннага права[6]. У вайсковых артыкулах, ужываных у XVI ст., часам трапляюцца красамоўныя фармулёўкі: "Такі або такія, будучы здраднікамі і парушальнікамі прысягі, веры і абавязку свайго, павінны карацца смерцю і ганьбаваннем"[7].

Варта акрэсліць і тое, якія злачынствы знаходзяцца ў цэнтры ўвагі. Для людзей XVI ст. вельмі блізкімі былі злачынствы знявагі маястату (*crimen maiestatis* 'знявага вялікасці') і дзяржаўнай здрады (*perduellio*). У Каралеўстве Польскім да 1539 г. здрада лічылася адной з формаў знявагі каралеўскай вялікасці. Толькі пасля гэтага соймавая канстытуцыя абмежавала знявагу маястату дзеяннямі, скіраванымі непасрэдна супраць караля. На сойме 1588 г. было праведзена далейшае, яшчэ больш дакладнае размежаванне: да *perduellio* адносіліся такія дзеянні, скіраваныя супраць дзяржавы, як бунт, пераход на бок непрыяцеля, выдача сакрэтных звестак, здача замка, парушэнне міжнародных дагавораў[8].

Затое ў ВКЛ Статуты 1566 і 1588 г. адназначна аб'ядноўвалі абодва тыпы злачынстваў пад катэгорыяй *crimen laesae maiestatis*, што падкрэслівае Мажэна Дыякоўская: "Літоўскае заканадаўства, якое заставалася пад вельмі моцным уплывам рымскага права <...> бачыла, аднак, у *perduellio* адну з разнавіднасцяў знявагі маястату"[9]. Ці

[6] У XVIII ст. падрабязна прааналізаваў пытанне здрады на матэрыяле вайсковых артыкулаў, ухваленых на сойме 1609 г., тагачасны вайсковы аўдытар Самуіл Брадоўскі (Corpus Juris Militaris Polonicum. Elbląg, 1753. P. 58–72, 400–402).

[7] Artykuły dla puszkarzy, Lebiedziew 20 XI 1567 // Polskie ustawy i artykuły wojskowe od XV do XVIII wieku / oprac. S. Kutrzeba. Kraków, 1937. Art. 2. S. 139.

[8] Звяртае на сябе ўвагу ацэнка Тэадора Астроўскага, які адзначыў, што ў рымскім праве абодва злачынствы аб'ядноўваліся ў адно, а ў Каралеўстве Польскім "злачынства абражання маястату самой асобы манарха тычыцца, здрада ж – айчыны і мае на мэце падрыў ці звяржэнне ўрада": Ostrowski T. Prawo cywilne albo szczegolne narodu polskiego. T. I. Warszawa, 1784. S. 293–303.

[9] Dyjakowska M. Crimen laesae maiestatis… S. 136–137; апроч таго, гл.: Taubenschlag R. Wpływy rzymsko-bizantyjskie w drugim Statucie litewskim. Lwów, 1933. S. 10 i n.; Bardach J. Statuty litewskie a prawo rzymskie. Warszawa, 1999. S. 122 i n.

ёсць падставы раздзяляць два тыпы гэтых злачынстваў у выпадку ВКЛ? Адказ адназначна станоўчы – перш за ўсё таму, што асобнае злачынства здрады існавала да 1566 г., калі было сфармулявана вельмі шырокае паняцце знявагі маястату.

Найстарэйшы вядомы нарматыўны акт ВКЛ, які датычыць здрады, датуецца 1509 г., што яўна звязана з бунтам Міхаіла Глінскага, які ўспыхнуў годам раней, і масавымі пераходамі падданых на бок Масквы[10]. Гэта часовая (двухгадовая) устава, якая давала вялікаму князю права канфіскацыі маёмасці здраднікаў і вызначала прынцыпы такой канфіскацыі. Згодна з уставай, манарху адыходзіў маёнтак з усімі землямі, у тым ліку кандамініумамі, і толькі ад яго волі залежала перадача ўладанняў дзецям або братам, якія мелі права прэтэндаваць на долю[11]. Варта падкрэсліць, што гэты нарматыўны акт не ўводзіў чагосьці якасна новага, а толькі ўдакладняў права вялікага князя распараджацца далейшым лёсам канфіскаванага маёнтка. Характэрна, што гэты дакумент парушаў правы ўласнасці трэціх асоб (дзяцей, братоў), не датычных злачынства. Адной з яго задач было запалохванне – у мэтах стрымання нарастальнай хвалі ўцёкаў літоўскіх падданых у Маскоўскую дзяржаву[12]. Вядома, што гэты акт ахвотна выкарыстоўваўся на практыцы, і ўжо праз дзевяць дзён пасля яго ўхвалення – 18 лютага 1509 г. – Жыгімонт Стары распарадзіўся маёнткам здрадніка Якуба Івашэнцавіча.

[10] Plewczyński M. Wojny i wojskowość polska w XVI wieku. T. I: Lata 1500–1548. Zabrze, 2011. S. 170–180; Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. T. II / wyd. M. Malinowski. Warszawa, 1846. S. 351.

[11] Za zdradę konfiskata opisana roku 1509 // Zbior praw litewskich od roku 1389 do roku 1529. Tudzież rozprawy sejmowe o tychże prawach od roku 1544 do roku 1563 / wyd. T. Działyński. Poznań, 1841. S. 114.

[12] Zygmunt I Stary poleca Andrzejowi Sanguszce, aby strzegł granic przed Michałem Glińskim, który za Dniepr ma wysłać ludzi, celem zabrania żony, dzieci i skarbów, tak swoich, jako też innych zdrajców, Orsza 19 VII 1508 // Archiwum książąt Lubartowiczow Sanguszkow w Sławucie. T. III: 1432–1534 / wyd. B. Gorczak. Lwow, 1890. S. 60–61.

Аналагічным чынам у 1510 г. былі канфіскаваны і раздадзены ўладанні брата Міхаіла Глінскага Васіля[13].

Дакумент 1509 г. не ўдакладняў самога азначэння здрады, пакладаючыся ў гэтым на звычаёвае права. Трэба згадзіцца з меркаваннем Адама Літыньскага, паводле якога аднясенне тых ці іншых канкрэтных дзеянняў да дзяржаўнай здрады залежала не ад юрыдычных фармулёвак, а ад раскладу палітычных сіл (паноўнай грамадскай думкі)[14]. Асабліва датычыць гэта дастатутнага перыяду, калі яшчэ існаваў пэўны прававы вакуум у гэтай сферы. Такое меркаванне пацвярджае сітуацыя, якая ўзнікла ў час грамадзянскай вайны ў ВКЛ паміж нававыбраным князем Жыгімонтам Кейстутавічам і прыхільнікамі Баляслава Свідрыгайлы. Пасля пераможнай бітвы пад Ашмянамі (1432) у рукі літоўскага манарха трапіла шмат ваеннапалонных, якія фармальна заставаліся падданымі Жыгімонта Кейстутавіча. Кара за здраду была выбіральнай – толькі "двух апошніх, абвінаваціўшы іх у здрадзе, Жыгімонт адразу ж загадаў пакараць смерцю, пазбавіўшы іх усіх правоў"[15].

Для сучаснікаў здрада мела характар відавочнага дзеяння – як правіла, уцёкаў у варожую дзяржаву[16]; часам гэтаксама кваліфікаваліся кантакты з непрыяцелем або здача крэпасці варожым войскам у час аблогі. Неабавязкова дзеянне мусіла быць даведзена да канца – дастаткова было падрыхтоўкі да яго. Такая сітуацыя мела месца ў 1506 г., калі палітычны ўцякач з Крымскага ханства Сахмат разам са сваімі мурзамі быў абвінавачаны ў намеры вярнуцца на радзіму. Справу разглядаў Аляксандр Ягелончык сумесна з Радай ВКЛ. Сахмата прызналі

[13] Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. I: 1361–1598. С.-Петербург, 1863. № 49 (с. 37–38), 56 (с. 43–44), 60 (с. 47–48).

[14] Lityński A. Konfederacja i rokosz w polskim prawie karnym XVI–XVIII wieku // Studia Iuridica Silesianae 1977. № 2. S. 147, 150.

[15] Stryjkowski M. Kronika polska… S. 188.

[16] Цікавы выпадак канфіскацыі маёмасці Дрэмліка Ялюшковіча, які ў 1500 г. здзейсніў здраду, перабегшы ў Каралеўства Польскае, якое тады не знаходзілася ў персанальнай уніі з ВКЛ. Гл.: Акты Литовской метрики. Т. I. Вып. 2: 1499–1507 гг. / собранные Ф. И. Леонтович. Варшава, 1897. Док. 550, с. 64–65.

здраднікам і прысудзілі да зняволення ў Коўне, дзе ён неўзабаве і памёр[17].

Варта падкрэсліць, што паняцце злачынства здрады з'явілася тады і ў міжнародных дагаворах. Асабліва гэта датычылася трактатаў, што заключаліся паміж вялікім князем літоўскім і малдаўскім гаспадаром, а таксама вялікім князем маскоўскім. У гэтых дагаворах (незалежна ад іх сумніўнай плённасці) бакі абавязваліся выдаваць здраднікаў, якія паспрабуюць знайсці сховішча ў суседняй краіне. Пры гэтым адбылося своеасаблівае пашырэнне паняцця "здраднік". У XV ст. да здраднікаў залічалі толькі тых, хто спрабаваў забіць або скінуць з трона манарха, г. зн. здзяйсняў злачынства, якое яўна адносілася да катэгорыі *crimen maiestatis*[18]. Аднак ужо на пачатку XVI ст. (у 1504 г.) Аляксандр Ягелончык звярнуўся да Івана III з просьбай выдаць Яўстафія (Астафія) Дашкевіча, які, седзячы ў прыгранічным Крычаўскім замку, узбунтаваўся разам са сваімі людзьмі, забіў і абрабаваў многіх літоўскіх падданых, а потым уцёк у Маскву[19].

З часоў маштабнай ваеннай кампаніі Маскоўскай дзяржавы 1512–1514 г., у ходзе якой ВКЛ страціла Смаленск і многія драбнейшыя гарады[20], паходзяць звесткі пра спробы юрыдычнага пераследу шэрагу асоб, вінаватых у здачы крэпасцяў. Вынікам гэтых спроб сталі два судовыя працэсы, у час якіх былі апраўданы ваяводы гарадоў, што капітулявалі перад маскоўскімі войскамі. Першы працэс скончыўся 29 снежня 1514 г., калі Жыгімонт Стары выдаў дэкрэт, у якім зняў з князя Міхаіла Іванавіча Заслаўскага абвінавачанне ў здрадзе. Князь Заслаўскі кіраваў у 1514 г. абаронай Мсціслава, якая скончылася

[17] Stryjkowski M. Kronika polska… S. 330; Bielski M. Kronika. T. II: Księga IV–V / wyd. K. J. Turowski. Sanok, 1856. S. 985. Пар.: Dyjakowska M. Crimen laesae maiestatis… S. 150–155.

[18] Гл., напрыклад, тэксты дагавораў паміж Казімірам Ягелончыкам і Ільёй I (1442 г.), а таксама Стэфанам II (1447 г.): Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. I. С.-Петербург, 1846. С. 53–54, 60–61.

[19] Тамсама. С. 336.

[20] Plewczyński M. Wojny i wojskowość polska… S. 180–192.

капітуляцыяй. Неадкладна пасля гэтага ён выслаў ліст да вялікага князя, у якім запэўніў гаспадара ў сваім нязменным паслушэнства ягонай уладзе і паспрабаваў растлумачыць свой учынак. Паводле слоў князя Заслаўскага, капітуляцыя была прадыктавана яўнай колькаснай перавагай праціўніка, а таксама тым, што "баяры і людзі мсціслаўскія яму ў справе абароны памочнікамі быць не хацелі". Потым ён звярнуўся да вялікага князя з просьбай вызваліць яго ад адказнасці за гэты ўчынак, "каб да яго ніякіх закідаў праз гэта не мелі, каб надалей яго шанавалі і дзяцей яго тым не папікалі". Справа, аднак, не была такой адназначнай, бо было вядома, што адзін з сыноў князя Заслаўскага здзейсніў здраду і перайшоў на бок праціўніка. Каб высветліць, як сапраўды разгорталіся падзеі пад Мсціславам, вялікі князь параіўся з тымі членамі Рады ВКЛ, якія асабіста ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях, найперш з гетманам Канстанцінам Астрожскім. Яны пацвердзілі слушнасць данясенняў Заслаўскага. У выніку вялікі князь выдаў дэкрэт, які вызваляў Заслаўскага ад адказнасці[21].

Другі працэс хоць і датычыўся той самай кампаніі, але адбыўся толькі праз два гады – 15 чэрвеня 1516 г. Жыгімонт Стары зняў абвінавачанне ў здрадзе і вярнуў гонар быламу намесніку крычаўскаму Юрыю Неміровічу. Той таксама здаў праціўніку замак у Крычаве, за абарону якога адказваў. Запэўніванні ў невінаватасці камандзіра гарнізона, відаць, супярэчылі іншым довадам. Сітуацыя была не такой адназначнай, як у князя Заслаўскага: бракавала ўплывовых асоб, якія маглі б засведчыць невінаватасць Неміровіча, затое былі людзі, якія сцвярджалі, што намеснік абараняў замак без вялікага энтузіязму. Толькі адваёва Крычава дазволіла правесці расследаванне. На велікакняжацкі суд прыбыў абвінавачваны, а таксама

[21] Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. II: 1506–1544. С.-Петербург, 1848. № 92. С. 170–171; Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 9 (1511–1518). Užrašymų knyga 9, parengė K. Pietkiewicz, Vilnius 2003, dok. 178, s. 156–157; Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 1 (1380–1584). Užrašymų knyga 1 / Parengė A. Baliulis, R. Firkovičius. Vilnius, 1998. Dok. 565. P. 117; пар.: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca XIV wieku. Warszawa, 1895. S. 597–598.

мяшчане і навакольнае насельніцтва. Іх паказанні супадалі толькі ў тым, што абаронцамі замка была прынесена ўрачыстая прысяга, у якой яны абяцалі бараніць горад і замак аж да смерці. Аднак жа потым, як сцвярджалі жыхары Крычава, Неміровіч уцёк, а гараджане вымушаны былі здаць крэпасць маскоўскім войскам. Каб высветліць сапраўдны ход падзей, на суд выклікалі староннiх крычаўскіх баяраў, якія ў той час таксама знаходзіліся ў замку. Удалося знайсці дзевяць чалавек, якія пацвердзілі: замак быў здадзены ўзбунтаванымі гараджанамі і сялянамі, што напалі на слуг намесніка, а яго самога выгналі з крэпасці[22].

Дапаўненнем да вышэйзгаданых працэсаў можа быць выпадак, разгледжаны ў Кракаве 27 кастрычніка 1526 г. Справа датычыла князя Івана Баратынскага, які ў час адной з войнаў трапіў у маскоўскі палон. Тым не менш яму ўдалося залажыць у ВКЛ адзін з маёнткаў і дзякуючы гэтаму заплаціць за сябе выкуп. Вярнуўшыся на радзіму, ён быў абвінавачаны ўцекачом з Маскоўскай дзяржавы Рыгорам Каргашам ва ўстанаўленні нелегальных кантактаў з уладамі варожай краіны і намеры ўцячы туды праз нейкі час. Пасля такога абвінавачання Баратынскі адразу ж быў прызнаны здраднікам, хоць ён настойліва прасіў караля аб справядлівасці і запэўніваў, што не планаваў ніякіх уцёкаў. Жыгімонт Стары па просьбе князёў, паноў і прыдворных выдаў глейт, паводле якога абвінавачваны да вынясення прысуду мог не баяцца, што да яго або да ягоных маёнткаў будуць ужыты санкцыі, прынятыя ў дачыненні да здраднікаў. Дакумент не паведамляе, як доўга працягваўся гэты стан няпэўнасці, аднак урэшце даносчык Каргаш здрадзіў каралю і ўцёк назад на сваю радзіму. Тым самым Жыгімонт Стары прызнаў, што галаслоўны абгавор падвойнага здрадніка – не надта пераканаўчы довад, тым больш што паводзіны Баратынскага ў палоне адназначна сведчылі пра яго адданасць уладзе

[22] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 9 (1511–1518). Dok. 542. P. 299–301; Pietkiewicz K. Metryka Litewska – księga wpisów za lata 1516–1518 // Lituano-Slavica Posnaniensia. 1995. № 6. S. 166.

Ягелонаў. У выніку падсудны быў вызвалены ад абвінавачання ў здрадзе, а яго гонар быў адноўлены[23].

Прыведзеныя прыклады сведчаць, што ў дастатутны перыяд некаторыя ўчынкі прызнаваліся злачынствам *ipso facto* (па факце), прычым клапаціцца пра сваё апраўданне мусіў сам абвінавачваны і акурат на ім ляжаў цяжар прывядзення доказаў. Адпаведнай пляцоўкай для разгляду справы быў у такіх выпадках суд вялікага князя і яго рады. На практыцы прызнанне здраднікам цягнула за сабой канфіскацыю маёмасці і пакаранне смерцю праз адсячэнне галавы[24].

Інакш сітуацыя выглядала ў Кароне, што можна ацаніць на прыкладзе вядомага працэсу 1520-х г. над Станіславам Радванкоўскім[25]. Абвінавачваны быў заможным шляхцічам, які ў 1520 г. у рангу ротмістра камандаваў атрадам кавалерыі на 200 чалавек, размешчаным у замку горада Арнета[26]. У час вайны з Тэўтонскім ордэнам яму ўдалося адбіць адзін штурм і вытрымаць амаль сем дзён аблогі, пасля чаго Радванкоўскі разам з бурмістрам Янам Гарсавам здалі горад. Гэты ўчынак выклікаў незвычайны розгалас у каралеўстве, тым больш што ротмістра пазней абвінавацілі яшчэ і ў крадзяжы каштоўнага срэбра з арнецкіх касцёлаў, а кароткі перыяд аблогі пазбаўляў ілюзій, быццам праблема была ў вычарпанні магчымасцяў абароны.

У Кароне, у адрозненне ад ВКЛ, віну шляхціча неабходна было даказаць. Працэс адбыўся на Пётркаўскім сойме 1521–1522 г. На сесіі была выбрана судовая калегія

[23] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 14 (1524–1529). Užrašymų knyga 14 / Parengė L. Karalius, D. Antanavičius. Vilnius, 2008. Dok. 820. P. 340.

[24] Stryjkowski M. Kronika polska… S. 190, 212, 373.

[25] Шырэй гл.: Łopatecki K. Zdrada Stanisława Radwankowskiego i jej wpływ na ukształtowanie przestępstwa poddania zamku // O prawie i jego dziejach księgi dwie. Studia ofiarowane Profesorowi Adamowi Lityńskiemu w czterdziestopięciolecie pracy naukowej i siedemdziesięciolecie urodzin. Ks. I / red. M. Mikołajczyk, J. Ciągwa, P. Fiedorczyk, A. Stawarska-Rippel, T. Adamczyk, A. Drogoń, W. Organiściak, K. Kuźmicz. Białystok – Katowice, 2010. S. 285–300.

[26] Rothmagistri ad bellum contra Alberum, Magistrum Cruciferorum in Prussia, scripti // Acta Tomiciana. T. V / wyd. T. Działyński. Poznań, 1855. S. 129.

з 13 чалавек, якая мела на мэце высветліць, ці не была здача горада і замка вынікам змовы з ворагам і дзяржаўнай здрадай. Жыгімонт I адмовіўся ад удзелу ў судзе, і *supremus iudex* (вярхоўным суддзёй) быў выбраны Ян Фірлей – кашталян кракаўскі, а значыць, найвышэйшы ў іерархіі свецкі сенатар. Яму ў дапамогу было прызначана 12 асэсараў – восем ваявод, тры кашталяны і адзін пасол (стараста мальбаркскі Якуб Ражноўскі)[27]. Гэта быў пераломны працэс, бо ён парушыў ранейшую польскую традыцыю асабістага вызначэння справядлівасці каралём пры разглядзе злачынстваў *crimen maiestatis* або *perduellio*[28].

Пасля правядзення следства абвінавачваны 15 лістапада 1521 г. быў прызнаны вінаватым у прад'яўленых злачынствах і прысуджаны да пазбаўлення гонару і вечнай інфаміі (зганьбавання) – *perpetuo infamem et sine honore*[29]. Было вырашана, аднак, не ўжываць смяротнай кары, што мелася быць сімвалам каралеўскай ласкі. Тым самым асуджанаму ўдалося пазбегнуць найцяжэйшага прысуду – ён быў толькі пазбаўлены шляхецкага гонару, усіх правоў і маёмасці, а таксама выгнаны з краіны. Дадаткова інфамія была абвешчана дванаццаці шляхцічам, якія служылі ў арнецкім атрадзе. Адначасова быў складзены тэкст прысягі, якую жаўнеры маглі прынесці перад судом, каб адвесці ад сябе падазрэнні ў актыўным удзеле ў гэтых ганебных падзеях і тым самым вызваліцца ад кары[30].

Варта звярнуць увагу на тое, як сучаснікі ацэньвалі прысуд, вынесены на Пётркаўскім сойме. У Кароне пачало

[27] De Radwankowski, Rotmagistro, on proditionem in bello Prussiaco sententiis totius Conventus honore ac fama privato // Acta Tomiciana. T. VI / wyd. T. Działyński. Poznań, 1857. S. 12–14.

[28] Пра яго памяталі яшчэ ў 1585 г., калі на сесіі сойма Анджэй Апаліньскі згадваў, што Радванкоўскага судзіў не кароль, а "гетман ды з рыцарствам, бо я тое чытаў амаль перад выездам". Гл.: Scriptores Rerum Polonicarum. T. XVIII: Dyaryusze sejmowe r. 1585 / wyd. A. Czuczyński. Kraków, 1901. S. 212.

[29] Пар.: Łoziński B. Infamia. Studyum prawno-społeczne. Lwów, 1897. Увесь тэкст, найперш с. 98–99.

[30] De Radwankowski… S. 12–14; Hetman Florian Zebrzydowski o porządku wojennym / wyd. S. Bodniak // Przegląd Historyczno-Wojskowy. 1931. № 2 (3). S. 302; Bielski M. Kronika. S. 1022.

пашырацца перакананне, што смяротная кара – гэта далёка не найлепшая санкцыя за найцяжэйшыя злачынствы. Апалагеты шляхецтва заўважалі, што куды даражэй за сваё жыццё рыцары павінны цаніць гонар. Станіслаў Ажахоўскі падкрэсліваў, што Радванкоўскі быў пакараны інфаміяй для таго, каб "гэтым сваім крахам і зганьбаваннем навучыць нашых ваяроў, што трэба біцца, а не ўцякаць, што лепш памерці, чым адступіць"[31]. У падобным тоне каментаваў гэтую гісторыю і Лукаш Гурніцкі. Ён лічыў, што было вырашана адмовіцца ад смяротнай кары, абмежаваўшыся "толькі гонарам, відаць, для таго, каб даўжэй шкадаваў ён пра свой учынак і быў прыкладам рыцарскім людзям"[32]. Далей за ўсіх у ацэнцы здарэння пайшоў Марцін Бельскі, паводле якога Радванкоўскі пасля прысуду, "туляючыся ў Львове, ад адчаю сакрамэнт цела панскага ўкраў і прадаў, за што потым быў спалены"[33]. Трэба падкрэсліць, што навамоднае ўяўленне пра надзвычайную суровасць інфаміі ў XVI ст. было асабліва актуальнае сярод польскай шляхты; у ВКЛ падобнай яго папулярнасці не назіралася[34].

[31] Orzechowski S. Wybór pism / oprac. J. Starnawski. Wrocław, 1972. S. 58.

[32] Górnicki Ł. O elekcyi, wolności, prawie i obyczajach polskich rozmowy Polaka z Włochem / wyd. K. J. Turowski. Sanok, 1855. S. 100–101. Аўтар дадае, што пасля вынясення прысуду аб ганьбаванні, «калі [Радванкоўскі] з памяшкання суда выходзіў, паж, які за ім корд насіў, кінуў яму яго пад ногі са словамі: "Ужо не варты, каб я табе прыслужваў"».

[33] Bielski M. Kronika. S. 1022. Пра суб'ектыўнасць гэтых сведчанняў піша Ігнацы Хшаноўскі: Chrzanowski I. Marcin Bielski: studium historyczno-literackie. Lwow – Warszawa, 1926. S. 123.

[34] У XVII ст. падзеі, звязаныя з Радванкоўскім, набываюць дадатковае значэнне, паколькі падаграюць ацэнку тых часоў праз прызму "залатога веку", калі, маўляў, пазбаўленне гонару лічылася сапраўдным пакараннем, якое мела да таго ж выхаваўчыя функцыі. Пар.: Szujski J. Nieznany poemat satyryczny XVII wieku // Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału Historyczno-Filozoficznego Akademii Umiejętności. T. I. Kraków, 1874. S. 217; Nowak-Dłużewski J. Poemat satyrowy w literaturze polskiej w. XVI–XVII. Z dziejów inicjatywy artystycznej Jana Kochanowskiego. Warszawa, 1962. S. 115; Lubieniecki A. Poloneutychia / oprac. A. Linda, M. Maciejewska, J. Tazbir, Z. Zawadzki. Warszawa – Łódź, 1982. S. 104.

У ВКЛ першым крокам ва ўпарадкаванні юрыдычных нормаў, датычных здрады, быў першы раздзел Статута 1529 г. Ва ўступе манарх абавязваўся не караць нікога без рашэння суда, нават за найцяжэйшыя злачынствы (арт. 1), а таксама гарантаваў непрымяненне калектыўнай адказнасці (арт. 7). Гэта цягнула за сабой змяненне ўсяго парадку разгляду злачынстваў здрады. Апрача таго, тады ж пачаўся працэс раманізацыі літоўскага права, які, у прыватнасці, прадугледжваў аб'яднанне паняцця здрады з абразай каралеўскай вялікасці[35]. Пра гэта сведчыць арт. 2 першага раздзела, які мае назву "Пра знявагу гаспадарскага маястату", хоць сам артыкул сфармуляваны вельмі агульна і закранае толькі выпадкі перабежніцтва, а ўсе астатнія злачынствы гэтай катэгорыі пакідае на вырашэнне згодна з воляй вялікага князя і тагачасным звычаем (арт. 2–4)[36].

Перыяд паміж першым і другім Статутамі ВКЛ характарызуецца запаўненнем наяўнай у тагачасным устаноўленым праве лакуны пры дапамозе канцэпцыі *crimen laesae maiestatis*, заснаванай на рымскім праве[37]. Першым выразным сігналам пра адпаведныя памкненні велікакняжацкага двара былі 1534–1535 гады, калі ішла Старадубская вайна з Маскоўскай дзяржавай. Жыгімонт Стары, канцлер Альбрэхт Гаштольд і гетман Юрый Радзівіл стараліся ў час гэтай вайны ўкараніць строгія нормы вайсковай дысцыпліны, што выявілася, аднак, вельмі няпростай задачай.

Галоўнай праблемай была з'ява масавага ад'езду рыцараў да заканчэння паходу, у чым значную ролю адыгрывалі харужыя. Разабрацца з гэтай праблемай даручылі Альбрэхту Гаштольду. Асабліва цікавай выглядае яго

[35] Варта падкрэсліць, што першы трактат, прысвечаны злачынству знявагі маястату на землях ягелонаўскай манархіі, быў створаны яшчэ на пачатку панавання Жыгімонта Старога – у 1506–1510 г. Тады нараджэнец Іспаніі Гарсія Квадрас напісаў "Tractatus de crime laesae maiestatis". Гл.: Uruszczak W. Zapomniany prawnik hiszpański Garsias Quadros z Sewilii // "Odrodzenie i Reformacja w Polsce". 1977. № 22. S. 64 i n.

[36] Савченко Д. А. Литовский статут об "оскорблении величия" // Известия Уральского федерального университета. Сер. 2. 2014. № 1. С. 100–102.

[37] Dyjakowska M. Crimen laesae maiestatis… S. 17–112.

пазіцыя ў гэтай справе ў 1534 г., калі яшчэ не дзейнічалі вайсковыя артыкулы, уведзеныя ў 1535 г., а значыць, рыцарам неабходна было прад'явіць прэтэнзіі на аснове размытых фармулёвак Статута ВКЛ 1529 г.

Канцлер лічыў, што тыя, хто пакінуў поле бою да фармальнага роспуску войска, падлягаюць кары паводле артыкулаў Статута, прадугледжаных за абразу вялікакняжацкага маястату. Сваю пазіцыю канцлер абгрунтоўваў тым, што ў час ваеннага паходу на чале з гетманам увесь гаспадарскі маястат пераходзіць у рукі военачальніка. Таму парушэнне загадаў гетмана павінна разглядацца як выступленне супраць вялікага князя і праява здрады. Зыходзячы з гэтага, разглядацца і карацца такія злачынствы павінны згодна з імперскім (нямецкім) правам[38]. Далей канцлер спасылаўся на абвешчаны ў 1532 г. Карлам V кодэкс *"Constitutio Criminalis Carolina"*, у якім былі выкарыстаны некаторыя нормы рымскага права[39].

Найбольш яскравай праявай гэтага падыходу былі падзеі 1535 г., калі адбыўся чарговы суд над шляхцічамі, якія самавольна пакінулі войска. Гэтым разам у дадатак да рэестра дэзерціраў, складзенага харужымі, быў праведзены надзвычайны попіс[40]. Вынікі яго кампраметавалі многіх харужых. Так, харужы упіцкі быў двойчы злоўлены камісарамі на хлусні: Добка Хршчановіч і Войцех Станевіч адсутнічалі, хоць "паведаміў харужы, што яны ёсць у абозе"[41]. Пад час гэтай праверкі мелі месца і даносы: магчыма, асобы, якія іх пісалі, разлічвалі атрымаць зем-

[38] А. Гаштольд да Ю. Радзівіла, без месца і даты // Archiwum Główne Akt Dawnych, Archiwum Radziwiłłów. XI. № 17. S. 28–29.

[39] Гл. прысуды, вынесеныя ў Святой Рымскай імперыі ў 1522–1534 г.: Corpus Juris Militaris. Bd. I / Hrsg. J. C. Lunig. Leipzig, 1723. S. 222–234. Пар.: Sarnicki S. Księgi hetmańskie. Archiwum Główna Akt Dawnych, Archiwum Publiczne Potockich. 325. T. I. S. 283–287.

[40] А. Гаштольд да Ю. Радзівіла, Радунь, 23 ліпеня 1535 г. // Памятники истории Восточной Европы. Источники XV–XVII вв. Т. VI: Радзивилловские акты из собрания Российской национальной библиотеки, первая половина XVI в. / сост. М. М. Кром. Москва – Варшава, 2002. С. 176.

[41] Biblioteka Książąt Czartoryskich w Krakowie. Rkps. 2893. S. 159.

лі, канфіскаваныя ў абвінавачаных баяр, пра што згадваў у лісце да Юрыя Радзівіла Альбрэхт Гаштольд[42].

Тым самым удалося выкрыць харужых, якія вызвалялі шляхту ад земскай службы. Праз некалькі дзён пасля ўзяцця Гомеля на вялікакняжацкім двары разгарэлася дыскусія наконт жорсткіх захадаў Юрыя Радзівіла. Так, гетман арыштаваў і прад'явіў абвінавачанне харужаму земскаму, які "баяр са свайго павета з войска адпусціў". Кароль прызнаў дзеянні вялікага гетмана цалкам слушнымі. Жыгімонт Стары падкрэсліў, што ў гэтых абставінах адзінае, што мусіў зрабіць гетман, – "таго харужага <…> загадаць вывесці перад усім войскам і за горла ўзяць, каб усе іншыя гэта бачылі". Цяжар пакарання тлумачыўся, у прыватнасці, выключнай грамадскай шкодай такіх учынкаў. Харужага, заўважанага ў такіх паводзінах, кароль характарызуе як "здрадніка нам, які без волі нашай і гетманскае баяр адпускае і тым войска змяншае, і нас, і дзяржаву нашу ставіць пад удар"[43].

Варта памятаць, што ўзорам тут магло быць здарэнне 1457 г. у Каралеўстве Польскім. Тады адбыўся беспрэцэдэнтны выпадак – да смяротнай кары быў прысуджаны рыцар з всхоўскай зямлі Ян Кромна з роду Котвічаў. Па яго ініцыятыве паспалітае рушанне, якое стаяла пад Гневам, дачасна разышлося. Гэты ўчынак быў прызнаны здрадай таму, што Ян Кромна быў папярэдне падкуплены абаронцам гнеўскага замка. Прысуд быў прыведзены ў выкананне[44].

[42] Так, у Ашмянскім павеце было зафіксавана некалькі такіх выпадкаў: "Андрэй і Вайцешка, якія сябе мянуюць Яновічы, спярша каня, якога павінны ставіць, не ставілі, гэта паведаміў Войцех Юрэвіч. Станіслаў Паповіч не выехаў, паведаміў Станіслаў Юрэвіч-Барада. Юхно Мартышэвіч пад Холхнам, а Анфор Пятровіч на вайне не былі. Паведаміў Ян Візгірд". Biblioteka Książąt Czartoryskich w Krakowie. Rkps. 2893. S. 328.

[43] А. Гаштольд да Ю. Радзівіла, Радунь, 23 ліпеня 1535 г. // Радзивилловские акты… С. 175–176.

[44] Długosz J. Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Ks. 12: 1445–1461 / oprac. D. Turkowska z udziałem Cz. Pirożyńskiej, tłum. J. Mrukówna, red. J. Wyrozumski. Warszawa, 2004. S. 323–324.

Абвінавачанне харужага ў здрадзе – арышт, суд і пакаранне – мела вялікае прапагандысцкае значэнне і было чарговым крокам да паўсюднага прымянення ў ВКЛ рымскай канцэпцыі *crimen maiestatis*. На думку шляхты, аднак, гэта было празмерным умяшаннем у саслоўныя вольнасці. Мяркую, невыпадкова ў Статуце ВКЛ 1566 г. у арт. 18 другога раздзела было адназначна прапісана, што харужага, які наўмысна схаваў ад гетмана якія-небудзь звесткі, трэба караць толькі зняццем з пасады[45]. Цікава, што ў 1566 г. ад абвінавачвання ў знявазе маястату былі вызвалены і тыя, хто ўжыў сілу ў дачыненні да земскіхураднікаў або каралеўскіх паслоў (арт. 6)[46].

Асабліва часта пасыпаліся працэсы аб зняважах маястату ў 1560-я г., напярэдадні прыняцця новай рэдакцыі Статута ВКЛ. Вялікі розгалас мела здрада нейкага Віктарына, які праз свайго слугу Ястржэмбскага выслаў ліст да Івана Жахлівага. Пасланца злавілі разам з лістом-кампраматам. Абодвух абвінавацілі ў здрадзе і аддалі пад суд, які адбыўся ў 1563 г. у Вільні на чале з Жыгімонтам Аўгустам. Хоць Ястржэмбскі быў арыштаваны, Віктарын выпрасіў у манарха глейт, у якім атрымаў гарантыі бяспекі да вынясення прысуду[47]. Пад час судовых паседжанняў "весці расследаванне даручылі войту віленскаму – высакароднаму і адукаванаму чалавеку доктару

[45] IISL. S. 34–35.

[46] Dyjakowska M. Crimen laesae maiestatis… S. 133.

[47] Цікавыя формы абмежавальных мераў назіраліся ў працэсе супраць Рыгора Станіслававіча Осціка, абвінавачанага ў напісанні лістоў агрэсіўнага зместу да Альбрэхта Гаштольда і Яна Янавіча Забярэзінскага, у якіх ён пагражаў варожымі дзеяннямі. Па просьбе абвінавачванага, якому пагражаў папярэдні арышт, вялікі князь і паны-рада змянілі меру стрымання на "ручыцельства" і "клятву", таму абвінавачваны мог перамяшчацца толькі з Вільні (меркаванае месца правядзення гаспадарскага суда) да свайго "судзяраўскага палаца". Пасля чарговага перагляду справы Жыгімонт Стары скасаваў "клятву" і пакінуў "ручыцельства": да суда Осцік не мог пакідаць ВКЛ, а вандраваць павінен быў выключна паміж сваімі маёнткамі. Гл.: Lietuvos Metrika. Knyga № 14 (1524–1529). Dok. 772 (Kraków 10 VII 1525). S. 317–318.

Аўгусціну"[48]. Выбар у якасці абвінаваўцы войта віленскага Аўгусціна Ратундуса-Мялескага – юрыста, які атрымаў адукацыю на Апенінскім паўвостраве, прыхільніка моцнай каралеўскай улады і энтузіяста рымскага права – быў вельмі сімптаматычны і сведчыў пра тэндэнцыю да ўкаранення ў ВКЛ прынцыпаў Святой Рымскай імперыі[49].

Ратундус вельмі паспяхова давёў справу да пакарання вінаватага, перш за ўсё дзякуючы рэчаваму доказу, якім быў уласнаручна напісаны ліст да Івана Жахлівага. Станіслаў Ажахоўскі з гэтай нагоды заўважаў: "Што ў тым лісце напісана, страх не толькі гаварыць, але і чытаць". Змест ліста быў вельмі супярэчлівы – "у памянёным лісце таму толькі веру, што Віктарын быў здраднікам свайму пану; пра іншыя рэчы няхай пан Бог судзіць, а я нічому там не веру"[50]. Тамаш Плаза, ухіліста апісваючы водгукі сучаснікаў на змест ліста, зазначаў, што ў ім былі, у прыватнасці, непачцівыя выказванні пра жанчын з дынастыі Ягелонаў[51]. Шмат хто быў перакананы, што гэта быў толькі адзін з многіх лістоў, напісаных Віктарынам[52].

Урэшце, "калі ўступіў у працэс Віктарын і сказаў, каб яго каралі, калі нявіннасці сваёй не пакажа, зрабілася ясна, што быў вінаваты, пішучы да непрыяцеля непрыстой-

[48] Górnicki Ł. Dzieje w Koronie Polskiej / oprac. H. Barycz. Wrocław, 1950. S. 127; Baryczowa M. Augustyn Rotundus Mieleski, wójt wileński, pierwszy historyk i apologeta Litwy // Ateneum Wileńskie. 1935. № 10. S. 88.

[49] Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988. S. 30–33; Baryczowa M. Augustyn Rotundus Mieleski… S. 76–77.

[50] Orzechowski S. Polskie dialogi polityczne (Rozmowa około egzekucyjej i Quincunx) 1563–1564 / wyd. J. Łoś. Kraków, 1919. S. 202–203.

[51] Т. Плаза да М. Кромера, Кракаў, 20 жніўня 1563 г. // Starożytności historyczne polskie. T. II / wyd. A. Grabowski. Kraków, 1840. S. 444.

[52] Наконт гэтага значна пазней (у 1572 г.) выказаўся сам Іван Жахлівы, які запэўніваў, што на лісты Віктарына не адказваў. Гл.: Mowa Wielkiego Księcia Moskiewskiego Iwana Wasilewicza Groźnego, spisana przez gońca polskiego Teodora Woropaja Zienkiewicza // Jagiellonki polskie w XVI wieku. T. IV / wyd. A. Przeździecki. Kraków, 1868. S. 234–235.

ныя лісты і з ім змаўляючыся, а таму быў пакараны смерцю і чвартаваны ў Вільні на рынку, а Ястржэмбскаму, слузе ягонаму, адсеклі галаву”[53]. З іншых справаздач вядома, што ў дадатак да гэтага Віктарына пакаралі і ганьбаваннем[54]. Былі ўжыты вельмі суровыя санкцыі, прычым прызнана, што слуга, які выконваў распараджэнні свайго гаспадара, не вызваляецца ад адказнасці.

Цікава, што ўсе сучаснікі, пішучы пра гэтага персанажа, які яўна паходзіў з заможнай шляхецкай сям’і, называлі яго проста Віктарынам, не згадваючы роду, да якога ён належаў[55]. Такая сітуацыя была характэрная для ўсяго перыяду аж да падзелаў Рэчы Паспалітай. Тлумачылася гэта тым, што ганебны ўчынак кідаў цень на ўвесь род[56]. Гэтак жа як і ў выпадку харужага ў 1535 г., у крыніцах не прыводзіцца звестак, якія дапамаглі б ідэнтыфікаваць пакаранага смерцю здрадніка. Праўда, пра Віктарына вядома, што ён быў “старастам з Мастоў”[57]. Адсюль можна зрабіць выснову, што да смяротнай кары быў прысуджаны прадстаўнік княскага роду Гедройцаў Ян-Віктарын Габрыэлевіч – брат Феліцыі Млекусаўны Гедройцавай. Ён трымаў нямала даходных пасад – быў намеснікам каралевы Боны (малавіцкім, пярстунскім, бярэжніцкім), старастам (мастоўскім і скідальскім), а з 1555 г. зрабіўся земскім суддзёй у Слоніме[58].

53 Górnicki Ł. Dzieje w Koronie… S. 128.
54 Т. Плаза да М. Кромера, Кракаў, 20 жніўня 1563 г. // Starożytności historyczne… T. II. S. 443.
55 Не ідэнтыфікуе гэтай постаці нават Генрык Барыч, выдавец твора Лукаша Гурніцкага “Гісторыя Кароны Польскай”: Górnicki Ł. Dzieje w Koronie… S. 154.
56 Dubas-Urwanowicz E. O nowy kształt Rzeczypospolitej. Kryzys polityczny w państwie w latach 1576–1586. Warszawa, 2013. S. 139–140, 143–144.
57 Т. Плаза да М. Кромера, Кракаў, 20 жніўня 1563 г. // Starożytności historyczne… T. II. S. 443.
58 Boniecki A. Herbarz Polski. Cz. 1: Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlacheckich. T. VI. Warszawa, 1903. S. 16; пар.: Elementa ad fontium editiones. Vol. XXXIX: Documenta ex Archivo Regiomontano ad Poloniam spectantia. IX pars / ed. C. Lanckorońska. Romae, 1976. P. 204, 220.

З постаццю Яна-Віктарына Гедройца звязана яшчэ адна падзея, датаваная 1561 г. У той час вёўся судовы працэс аб *crimen laesae maiestatis* супраць бельскага памешчыка Войціка. Ён, будучы пакрыўджаны ў ходзе валочнай памеры мернікамі, патрабаваў ад караля справядлівасці. Так і не дамогшыся яе, ён прыбіў да замкавай брамы ў Вільні шыльду, у якой пагражаў Жыгімонту Аўгусту смерцю. Праведзенае следства дазволіла вызначыць асобу падазронага, якога неадкладна арыштавалі і паддалі катаванням. У ходзе гэтага працэсу Войцік выдаў вышэйпамянёнага Гедройца, які нібыта вельмі негатыўна выказваўся пра караля. Невядома, ці быў Ратундус абвінаваўцам і ў выпадку Войціка, але так ці інакш яго прызналі вінаватым і прысудзілі да смяротнай кары праз адсячэнне галавы, з папярэднім валачэннем асуджанага па горадзе[59].

Важнасць двух апісаных прэцэдэнтаў з 1560-х г. у тым, што яны яўна паўплывалі на канцэпцыю здрады і знявагі гаспадарскага маястату, адлюстраваную ў Статуце ВКЛ 1566 г., пры падрыхтоўцы якога асноватворную ролю адыграў Аўгусцін Ратундус-Мялескі[60]. Статут 1566 г. у цэлым паўтараў юрыдычныя нормы, кадыфікаваныя 37 гадоў таму, аднак у арт. 1 першага раздзела дадаткова была ўнесена дэкларацыя, што ўсе ўчынкі павінны судзіцца выключна паводле пісанага права. З гэтага вынікала неабходнасць замены звычаёвай канцэпцыі знявагі маястату нормамі Статута. У агульных рысах гэтае пытанне закранаецца ў арт. 3, згодна з якім да найцяжэйшых злачынстваў адносіліся:

– змова, загавор або бунт (як даведзенае да рэалізацыі дзеянне, так і сам намер), выяўленыя ў форме замаху на ўладу вялікага князя (справа Войціка. – *К. Л.*);

– бунт, выяўлены ў форме парушэння грамадскага парадку, скіраваны супраць гаспадара або дзяржавы;

– падробка манет і ўрадавых каралеўскіх дакументаў;

[59] Górnicki Ł. Dzieje w Koronie… S. 115–117; Drozd Z. Miernicy w pomiarze włócznej w Wielkim Księstwie Litewskim w drugiej połowie XVI wieku // Lituano-Slavica Posnaniensia. 2008. № 13. S. 59.

[60] Bardach J. O dawnej… S. 30–33, 40.

– найманне войска з мэтай захопу або дапамогі ў захопе велікакняжацкага прастола;

– уступленне ў кантакт або перадача якіх-небудзь звестак, карысных праціўніку, асабіста або пры дапамозе лістоў ці паслоў (справа Віктарына. – *К. Л.*);

– здача замка непрыяцелю (вызваляў ад адказнасці ў гэтым выпадку павальны голад) (працэсы Заслаўскага, Неміровіча. – *К. Л.*);

– спрыянне нападу на землі ВКЛ варожых войскаў (бунт Глінскага. – *К. Л.*).

Усе пералічаныя злачынствы караліся смерцю, ганьбаваннем і канфіскацыяй усёй маёмасці, а з 1588 г. дадаткова ўводзіліся смяротная кара і ганьбаванне для паўналетніх сыноў, якія ведалі пра бацькавы намеры. Мякчэйшыя санкцыі прадугледжваліся за слоўную абразу, якая не павінна была цягнуць за сабой ніводнай з караў, пералічаных у арт. 3, а толькі пазбаўленне волі[61].

Злачынствам, якое было асобна вылучана ва ўсіх трох рэдакцыях Статута ВКЛ, былі ўцёкі велікакняжацкага падданага ў варожую дзяржаву[62]. Перабежчык *ipso facto* прызнаваўся здраднікам, што цягнула за сабой ганьбаванне і канфіскацыю ўсёй маёмасці на карысць манарха[63]. Тым самым, насуперак зафіксаваным у Статутах гарантыям, шляхціч без судовага прысуду пазбаўляўся маёмасці[64].

[61] IISL. Art. 3–4. S. 2–4; IIISL. Art. 3–4. S. 3–5.

[62] Яшчэ Казімір Ягелончык у 1447 г. надаў літоўскім баярам прывілей на ад'езд з краіны і вандроўкі за мяжу. Але гэта, само сабой, не датычылася варожых дзяржаў. Гл.: Савченко Д. А. Литовский статут… С. 103.

[63] Lietuvos Metrika (1533–1535): 8-oji Teismų bylų knyga / Parengė I. Valikonytė, S. Lazutka. Vilnius, 1999. Dok. 347–350. P. 165; Lietuvos Metrika. Knyga №. 14 (1524–1529). Dok. 36, 820, 894. P. 89–90, 340, 386–387. Аналагічныя нормы прымяняліся ў Кароне, прыкладам можа служыць наданне Жыгімонтам Старым Яну Тарноўскаму 15 вёсак, канфіскаваных у здраднікаў, якія перайшлі на бок ваяводы малдаўскага (Пётркаў, 3 студзеня 1531 г.): Archiwum książąt Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie. T. V: 1513–1547 / wyd. B. Gorczak. Lwów, 1897. S. 249–251.

[64] Падрабязней пра канфіскацыю шляхецкіх маёнткаў і іх размеркаванне вялікім князем гл.: Łopatecki K. Organizacja… S. 161 i n.

Дэкларавалася, што землі, прададзеныя або закладзеныя здраднікам, не будуць канфіскоўвацца ў трэціх асоб, калі тыя прысягнуць, што ў час куплі не ведалі пра злачынства. Затое дзеці і сваякі здрадніка трацілі ўсе правы на канфіскаваныя ўладанні; мала таго, забіраліся і непадзеленыя кандамініумы, за выключэннем выпадкаў, калі саўладальнікі пад прысягай пацвердзяць, што не ведалі пра планы злачынцы. У выпадку гэтага злачынства пад увагу бралася толькі даведзенае да рэалізацыі дзеянне, паколькі артыкул датычыў асоб, якія ўжо не знаходзіліся на тэрыторыі ВКЛ[65]. Новыя ўдакладненні прынёс Статут ВКЛ 1566 г., у якім дадавалася норма, згодна з якой злоўлены ўцякач падлягаў смяротнай кары[66]. Праўда, не ўдакладнялася, ці мусілі перад гэтым праводзіцца расследаванне і суд, ці рашэнне аддавалася на водкуп выканаўчага органа. Практыка паказвае на першы варыянт[67].

Статут ВКЛ 1588 г. увёў новыя нормы: па-першае, канфіскаваныя ўладанні павінны былі заставацца ў руках вялікага князя, "каб на ўсе наступныя часы здрада такога злачынцы была відаць"[68]; па-другое, у злоўленага і па-

[65] ISL. Art. 2–4. S. 133–134. Характэрны ў гэтым сэнсе ўчынак князя Міхаіла Іванавіча Заслаўскага, які ў 1527 г. склаў тастамент, у якім усе свае ўладанні перадаваў пасля смерці Жыгімонту Старому. Такое рашэнне тлумачылася адсутнасцю нашчадкаў, "бо адзін з іх пакінуў гэты свет, а другі ў зямлю непрыяцельскую маскоўскую ўцёк". Гл.: Lietuvos Metrika. Knyga №. 1 (1380–1584). Dok. 565. P. 117.

[66] IISL. Art. 6–7, 10. S. 5–8.

[67] Гл., напрыклад, ліст К. Радзівіла Перуна да сенатараў, замкавых і гарадскіх ураднікаў (Вільня, 22 чэрвеня 1600 г.): Российская национальная библиотека (С.-Петербург). Автографы Дубравскаго. 321/1, № 35. С. 1. У ім гетман паведамляе пра наём венгерскай, літоўскай і польскай пяхоты для вайны з Карлам IX Судэрманскім і патрабуе, каб усіх драбаў, якія будуць заўважаны па-за войскам і ў якіх не будзе пры сабе ротмістраўскага ліста, арыштоўвалі і дастаўлялі ў замкавыя суды, дзе судзілі б за здраду і каралі смерцю.

[68] Яшчэ ў 1581 г. Стафан Баторый надаў Балтазару Бекешу канфіскаваныя годам раней уладанні Рыгора Аскеркі: Księga batoriańska. Zbiór dokumentów ku uczczeniu 350-letniej rocznicy zgonu króla Stefana Batorego / oprac. R. Mienicki. Wilno, 1939. S. 21–24.

каранага смерцю паводле прыгавору суда здрадніка ўжо не адбіраліся землеўладанні, якія маглі застацца ягоным сваякам. На практыцы ў спадчыну ад здрадніка па-ранейшаму можна было атрымаць нерухомасць. Характэрнай выглядае дзейнасць Крыштафа Радзівіла Перуна, які ў 1600–1601 г. канфіскаваў уладанні жыхароў Інфлянтаў, што парушылі прысягу вернасці, дадзеную Жыгімонту III Вазу, і перайшлі на бок Карла IX Судэрманскага[69]. Канфіскацыю гетман ажыццяўляў з уласнай пячаткай і подпісам, але фармальна ў кожным дакуменце зазначалася, што лёс нерухомасці і прозвішча бенефіцыяра залежаць ад "волі і ласкі Яго Каралеўскай Мосці"[70].

Вельмі важныя і наватарскія нормы зафіксаваны ў арт. 7 першага раздзела. Заканадаўца пазычыў з ваеннага права, якое ўжывалася ў наёмных і прафесійных атрадах, такую разнавіднасць злачынства, як уцёкі з поля бою, і ўключыў яго ў земскае права[71]. З 1588 г. уцякач, які наважыўся перайсці на тэрыторыю варожай дзяржавы, мог быць забіты або злоўлены любым сустрэчным, і "дабрадзейнасці гэта шкодзіць не павінна, а наадварот, за гэта

[69] Варта, аднак, дадаць, што на тэрыторыі Інфлянтаў сярод землеўладальнікаў да канца XVI ст. дамінавалі ленныя наданні, тады як поўнае права ўласнасці фігуравала рэдка. Праўда, пасля пераходу гэтых земляў пад юрысдыкцыю Рэчы Паспалітай доля другога варыянта расла. Гл.: Jeziorski P. Właściciele majątków ziemskich na terenie Inflant Polskich u schyłku XVI wieku // Stan badań nad wielokulturowym dziedzictwem dawnej Rzeczypospolitej. T. III: Inflanty Polskie / red. W. Walczak, K. Łopatecki. Białystok, 2012. S. 57–59.

[70] Российская национальная библиотека (С.-Петербург). Автографы Дубравскаго. 321/1, № 121 (с. 1), 123 (с. 1), 124 (с. 2). Апрача таго, прадстаўнікі войска, уносячы прапановы на галоўны соймік, скліканы ў Слоніме (на 23–26 красавіка 1607 г.), пісалі: "Што да вымаракаў па здрадніках, дык няхай навечна раздаюцца": Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego. T. II: Okresy panowań królów elekcyjnych XVI–XVII wiek / oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2009. S. 168.

[71] Гл.: Łopatecki K. Przestępstwo ucieczki z pola bitwy w Rzeczypospolitej szlacheckiej – z badań nad karą śmierci wymierzaną w trybie pozasądowym // Culpa et poena. Z dziejów prawa karnego / red. M. Mikuła. Kraków, 2009. S. 189–204.

будзе той уганараваны нашай гаспадарскай ласкай”. У гэтым выпадку не патрабавалася санкцыя суда – пераследнік павінен быў толькі паведаміць пра свой намер любому дзяржаўнаму органу. Толькі пасля забойства або арышту пераследаванага неабходна было давесці, што той меў на мэце “здрадніцкія ўцёкі”. Калі здрадніка перадавалі ў рукі дзяржаўных органаў, ён падлягаў суду на сойме, “акрамя людзей простага саслоўя, якія і без сойма маюць быць асуджаны і пакараны тым органам, паблізу якога будуць злоўлены”[72]. Гэта было істотнай заўвагай, паколькі папярэдняя рэдакцыя Статута не давала прамых указанняў, паводле якой працэдуры караць здраднікаў нешляхецкага паходжання[73]. Варта дадаць, што на тэрыторыі Кароны здраднікаў можна было толькі лавіць, што пацвярджалі канстытуцыі 1588 і 1598 г.[74].

Асобнай разнавіднасцю здрады быў выезд у варожыя краіны з наступным паступленнем на вайсковую службу і ўдзелам у барацьбе супраць войскаў Каралеўства Польскага або Вялікага Княства Літоўскага. Такія асобы падлягалі ганьбаванню (яны атрымлівалі ярлык *“hostes et perdeulles patriae”* – ворагі і здраднікі радзімы), а ў дадатак да гэтага караліся “здароўем і маёмасцю”. Вядома, служба ў замежным войску дапускалася, але толькі ў тых краінах, якія былі нейтральнымі або саюзнымі Рэчы Паспалітай; забаранялася таксама складаць прысягу чужому манарху. Гэтая разнавіднасць злачынства не патрабавала ад абвінавачванага ў ім канчатковага або працяглага ад’езду з краіны – дастаткова было вайсковай службы ў непрыяцеля[75]. Такое злачынства было агаворана

[72] IIISL. Art. 6–8. S. 6–8.

[73] Напрыклад, ротмістр Марцін Яцыніч прасіў палявога гетмана Рамана Сангушку падказаць, што ён павінен рабіць з падданымі Сакаленскіх, якія перайшлі на бок Расіі – пастаўлялі непрыяцелю правіянт і шпіёнілі за літоўскімі войскамі: Archiwum książąt Lubartowiczow Sanguszkow w Sławucie. T. VII: 1554–1572 / wyd. Z. L. Radzimiński. Lwów, 1910. S. 190–191.

[74] Volumina Legum. T. II. S. 255, 376.

[75] Volumnia Constitutionum. T. II. Vol. 2: 1587–1609 / oprac. S. Grodziski. Warszawa, 2008. S. 272.

ў соймавай канстытуцыі 1601 г. з прычыны ўсё часцейшага выкарыстання польскіх і літоўскіх жаўнераў на службе ў шведаў. Пра гэта сведчыць "нямецкі" атрад, камандзірам якога ў 1600–1605 г. быў Ганс Фегсак (Фейзак) і які – што вынікае з рэестра, складзенага ў 1603 г., – быў фактычна польска-венгерскім. Сярод 144 яго зарэгістраваных членаў налічвалася аж 107 палякаў, 31 венгр і ўсяго тры немцы (у тым ліку камандзір, запісаны на слых як Фейзак). Можна амаль дакладна сцвярджаць, што шляхецкае паходжанне мелі харужы атрада Януш Глінскі і пісар Анджэй Рагускі[76].

Ключавым пытаннем, якое выклікала шмат непаразуменняў, была праблема судовай юрысдыкцыі пры разборы выпадкаў здрады. Ужо Статут ВКЛ 1566 г. непасрэдна гарантаваў, што тыя злачынствы, за якія прадугледжаны смяротная кара і ганьбаванне, павінны разглядацца "нідзе, апрача як тут у дзяржаве нашай, Вялікім Княстве Літоўскім, на соймах вальных тутэйшага панства; мы, гаспадар, з панамі-радай нашымі [павінны] судзіць"[77]. Адзначаюць неадпаведнасць гэтай нормы судоваму працэсу, учыненаму над шляхцічам Рыгорам Осцікам, які паза соймам быў прысуджаны каралём да смяротнай кары. Гэты прэцэдэнт неаднаразова разбіраўся; тут варта прыгадаць толькі асноўныя моманты. Рыгор Осцік з 1574 г. падтрымліваў перапіску з царом, а ў 1580 г. сустрэўся з маскоўскім паслом Нашчокіным, якому выдаў сакрэтныя звесткі. Пра сувязь Осціка з ворагам стала вядома дзякуючы яго пільнаму слузе; шляхціча арыштавалі, не зважаючы на прывілей *neminet captivabimus*. У ходзе следства высветлілася, што Осцік у дадатак падрабляў дакументы і манеты, а за кожнае з гэтых злачынстваў пагражала найвышэйшая мера пакарання. Абвінавачва-

[76] Regestr piechothny Węgrow i Polaków // Svenska Riksarkivet (Stockholm). Militaria. 1282. Непранумараваныя карты; пар.: Oversikt over infanteriet i Livland och Sverige 1601 // Sveriges Krig 1611–1632. Bd. I: Danska och Ryska Krigen. Stockholm, 1936. S. 577; Wimmer J. Historia piechoty polskiej do roku 1864. Warszawa, 1978. S. 153.

[77] IISL. Art. 4. S. 4.

ны прызнаў сваю віну і быў прысуджаны да смерці, ганьбавання і канфіскацыі маёмасці; прысуд быў прыведзены ў выкананне 18 чэрвеня 1580 г.[78].

Марыя Лаўмяньская прызнала, што Осціка "павінны былі судзіць <...> выключна на вальным сойме". Адступленне ад гэтай нормы яна тлумачыла пазіцыяй найбліжэйшых паплечнікаў Стафана Баторыя, якія, "кіруючыся меркаваннямі ўсеагульнай карысці, парушылі заканадаўства"[79]. Адам Літыньскі таксама падкрэслівае, што працэс вёўся з парушэннямі дзейнага заканадаўства; аналагічна глядзіць на гэты выпадак і Генрык Люлевіч[80]. Мар'ян Мікалайчык, падкрэсліваючы, што быў парушаны прывілей *neminem captivabimus nisi iure victum*, расцэньвае гэта як своеасаблівую неабходнасць: "Па меры аслаблення Рэчы Паспалітай такія злачынствы рабіліся ўсё больш небяспечнымі для дзяржавы. Дык не дзіва, што на практыцы здараліся выпадкі адступлення ад прававых нормаў і прымянення арышту менавіта да палітычных злачынцаў"[81].

Прэцэдэнт 1580 г. можна, аднак, інтэрпрэтаваць і паіншаму. Варта ўлічыць, што праз тры гады пасля зацвярджэння другога Статута ВКЛ быў падпісаны акт Люблінскай уніі, 16-ы артыкул якога пастанаўляў: "Ніякіх іншых асобных соймаў каронных і літоўскіх з гэтага часу кароль Яго Мосць склікаць не будзе, а толькі заўсёды супольныя

[78] Heidenstein R. De Bello Moscovitico quod Stephanus Rex Poloniae gessit Commentariorum Libri VI. Basileae, 1588. P. 67–68; Stryjkowski M. Kronika polska… S. 432; Łowmiańska M. Hrehory Ościk i jego zdrada w roku 1580 // Księga pamiątkowa Koła Historyków Słuchaczy Uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie: 1923–1933. Z. 3. Wilno, 1933. S. 32–51; Lityński A. Przestępstwa polityczne w polskim prawie karnym XVI–XVIII wieku. Katowice, 1976. S. 60.

[79] Łowmiańska M. Hrehory Ościk… S. 48.

[80] Lityński A. Przestępstwa polityczne… S. 60; Lulewicz H. Gniewów o unię ciąg dalszy. Stosunki polsko-litewskie w latach 1569–1588. Warszawa, 2002. S. 332.

[81] Mikołajczyk M. Tymczasowe aresztowanie w polskiej myśli prawniczej XVI–XVIII wieku // Studia Iuridica Silesiana. 1986. № 11. S. 112–113.

соймы тых абодвух народаў, як адзінага цэлага, у Польшчы склікаць будзе, там, дзе Яго Каралеўскай Мосці і радам каронным ды літоўскім гэта будзе найзручней"[82]. Тым самым акт Люблінскай уніі ўваходзіў у супярэчнасць з палажэннямі Статута: вымогу наконт судовых пасяджэнняў на соймах ВКЛ цяпер немагчыма было выканаць. Нельга было і, паводле аналогіі, прызнаць за вальным соймам усёй Рэчы Паспалітай права асуджэння літоўскіх злачынцаў: палажэнні Статута ВКЛ прадпісвалі судзіць іх на тэрыторыі Літвы. Такім чынам, выпадкі здрады і знявагі маястату, згодна з заканадаўствам, павінны былі разглядацца вялікім князем і панамі-радай таксама выключна на тэрыторыі ВКЛ. Для сучаснікаў гэта не выклікала сумненняў, пра што згадваў яшчэ ў 1585 г. ваявода віленскі Крыштаф Радзівіл, пішучы: "У той справе Осцікавай у свой час мы (паны-рада. – *К. Л.*) хутка згадзіліся з тым, каб яго пакараць"[83].

Суд у складзе вялікага князя і паноў-рады набыў форму не соймавага, а ваеннага суда, пра што сведчыць Рэйнхальд Гейдэнштэйн. "Паставілі яго [Рыгора Осціка. – *К. Л.*] перад судом, дзе доказы здрады і падробкі манет былі ўжо прыведзены; абаронца ягоны заявіў, што ніхто яго, згодна з правам, шляхце прыналежным, да адказу прымусіць не можа, бо пакуль яго законным спосабам не прыцягнуць да суда, датуль судзіць яго няможна. Самыя розныя меркаванні гучалі. Былі тыя, хто не раіў парушаць прывілеі, дадзеныя шляхце, але многія іншыя <...> настойвалі на тым, каб яго не звычайным, а ваенным судом судзіць"[84]. У апошнім выпадку судовая працэдура выглядала іначай; у прыватнасці, ужывалася мера папярэдняга арышту. Зрэшты, як падкрэслілі працэсы Войціка і Гедройца, абвінавачваных у здрадзе зазвычай

[82] Пар.: Kutrzeba S. Unia Polski z Litwą // Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa – Lublin – Łódź – Kraków, 1914. S. 638.

[83] Scriptores Rerum Polonicarum. T. XVIII. S. 183.

[84] Heidenstein R. Dzieje polski od śmierci Zygmunta Augusta do roku 1594. T. II / tłum. M. Gliszczyński, wyd. W. Spasowicz. Petersburg, 1857. S. 5; пар.: Ён жа. De Bello Moscovitico. P. 67–68.

арыштоўвалі, што было зусім тыповым захадам у справах такога роду[85].

Справа Осціка была не адзінай, якая разглядалася ў той час; з часоў аблогі Пскова (1581) былі вядомы яшчэ тры працэсы супраць шляхцічаў, абвінавачаных у здрадзе, якая заключалася ва ўступленні ў кантакт з ворагам і спробах перайсці на яго бок. Першы выпадак адбыўся ў канцы чэрвеня, калі казакі на мяжы з Маскоўскай дзяржавай (у себежскім напрамку) злавілі Невянглоўскага, "які ехаў да маскавітаў уцячы і здацца ім". У каралеўскі абоз здрадніка даставілі 4 ліпеня 1581 г., пасля чаго неадкладна было праведзена следства, у тым ліку допыт абвінавачванага, у час якога шляхціч прызнаў сваю віну: "Кажа, воля яго, чорт яго да гэтага прывёў"[86].

Ніхто не сумняваўся, што кара за такі ўчынак магла быць адна – смерць. Спрэчкі разгарэліся толькі вакол таго, які метад выбраць – пасадзіць на кол або чвартаваць (або іх камбінацыя). Імкнучыся змякчыць сваю долю, Невянглоўскі 6 ліпеня прыняў ад езуітаў каталіцызм і папрасіў пакараць яго менш вытанчанай і больш пачэснай карай – адсячэннем галавы мячом. Прысуду, аднак, не маглі выканаць, бо ў войску адсутнічаў кат і трэба было дачакацца яго прыезду. Нарэшце ў канцы ліпеня 1581 г. "таму здрадніку Невянглоўскаму адсеклі галаву, а потым чвартавалі, выпрасіў яму такую смерць Пасевін, бо спачатку яго або

[85] У 1544 г., пасля просьбы паслоў сойма не пазбаўляць шляхту свабоды без прыгавору суда, манарх рашуча падтрымаў гэтае пажаданне, якое грунтавалася на Статуце ВКЛ 1529 г., і не дапускаў адступлення ад правілаў. Гл.: Русская историческая библиотека. Т. XXX: Литовская метрика. Отд. 1–2. Ч. 3 (Книги публичных дел). Т. I / ред. И. И. Лаппо. Юрьев, 1914. С. 124.

[86] Российская национальная библиотека (С.-Петербург). Pol F. IV, 165. К. 181; Piotrowski J. Dziennik wyprawy Stefana Batorego pod Psków / wyd. A. Czuczyński. Kraków, 1894. S. 13; Дневник последнего похода Стефана Батория на Россию (осада Пскова) и дипломатическая переписка того времени, относящаяся главным образом к заключению Запольского мира (1581–1582 гг.) / изд. М. Коялович. С.-Петербург, 1867. С. 20–21.

чвартаваць, або пасадзіць на кол хацелі”[87]. На жаль, невядома, якая кара была вызначана для жонкі і слугі; хутчэй за ўсё, аднак, як і ў справе Віктарына, іх таксама асудзілі на смерць.

Другі выпадак адбыўся ў ліпені, калі староста вендэнскі Ёбст фон Фюрстэнберг злавіў Енджэя Маслоўскага[88]. Падазраваны таксама быў адразу ж арыштаваны, а пасля вобшуку ў яго знайшлі ліст маскоўскага ваяводы, зняволенага ў Гнеўскім замку на тэрыторыі Каралеўскай Прусіі. У лісце маскавіт рэкамендаваў Маслоўскага Івану Жахліваму як добрага слугу. 2 жніўня 1581 г. абвінавачванага даставілі ў вайсковы абоз, дзе канцлер Ян Замойскі дапытаў яго. Як і Невянглоўскі, Маслоўскі прызнаў сваю віну: “сказаў, што яго злы розум звёў; урэшце загадалі яго аддаць прафосу, чые слугі груба яго схапілі; [усе] чакаюць, што быць яму на калу… злітуйся, пане божа”, – пісаў з гэтай нагоды Ян Пятроўскі[89]. Фінал гэтай справы цьмяны; вядома толькі, што Маслоўскі вельмі доўга прабыў пад арыштам, прыкуты да воза прафоса. Прысуд, хутчэй за ўсё, быў вынесены 30 жніўня; відаць, гэта была смяротная кара, бо ніхто са шляхцічаў не заступіўся за абвінавачванага[90].

Пра трэці працэс вядома вельмі мала. З сакрэтнага ліста Яна Пудлоўскага да Яна Пятроўскага вынікае толькі, што пад канец ваенных дзеянняў, 29 снежня 1581 г.,

[87] Российская национальная библиотека (С.-Петербург). Pol F. IV, 165. К. 176в, 181–181в, 187; Piotrowski J. Dziennik wyprawy… S. 13–14, 22; Дневник последнего похода… С. 21–22, 27, 248.

[88] Российская национальная библиотека (С.-Петербург). Pol F. IV, 165. К. 215–215в; Piotrowski J. Dziennik wyprawy… S. 42–43; пар.: Urzędnicy inflanccy XVI–XVIII wieku. Spisy / oprac. K. Mikulski, A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 40. Пра абавязак старастаў пільнаваць прыгранічча з Маскоўскай дзяржавай гл. у: Artykuły pana Jana Zborowskiego kasztelana gnieźnieńskiego hetmana polnego ziemie inflanckiej // Российская национальная библиотека (С.-Петербург). Автографы Дубравскаго. 321/1, № 152. Арт. 1–3. К. 2–2в.

[89] Российская национальная библиотека (С.-Петербург). Pol F. IV, 165. К. 215в; Piotrowski J. Dziennik wyprawy… S. 43; Дневник последнего похода… С. 43.

[90] Piotrowski J. Dziennik wyprawy… S. 56, 68; Дневник последнего похода… С. 58, 68.

быў злоўлены царскі падданы, які намагаўся прабрацца ў Пскоў. "[Ён] паведаміў пану гетману, што яго таварыш адзін, ліцвін з роты пана Н., да князя Шуйскага з інструкцыямі паслаў". Звяртае на сябе ўвагу спроба прыхаваць падзею: з меркаванняў асцярожнасці не называецца ні прозвішча гетмана, ні нават камандзір атрада, у якім служыў здраднік. Пудлоўскі падкрэслівае важныя для нас звесткі: "Злавілі таварыша і маскавіта пасадзілі", – адсюль маем чарговы прыклад прымянення папярэдняга арышту ў дачыненні да асобы, абвінавачанай у здрадзе[91].

Калі абагульніць усе прааналізаваныя выпадкі здрады, можна зрабіць некалькі высноў:

1) папярэдні арышт, як правіла, ужываўся ў дачыненні да шляхцічаў, якіх падазравалі ў здрадзе, хоць нярэдка выдаваліся глейты, якія дазвалялі абвінавачваным знаходзіцца на волі да суда;

2) на фоне агульнай судовай практыкі прысуды здраднікам былі надзвычай суровыя, нярэдка ўжываліся спецыфічныя разнавіднасці смяротнай кары – саджэнне на кол і чвартаванне[92];

3) адказнасць за здраду ў роўнай меры неслі слугі, якія выконвалі злачынныя распараджэнні сваіх гаспадароў.

Звяртае на сябе ўвагу і падыход да пытання судовай юрысдыкцыі пры разборы выпадкаў здрады. Да 1588 г. грамадзяне як Літвы, так і Кароны маглі быць асуджаны па-за соймам, а ў час ваенных дзеянняў – нават не на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Прысуд выносіўся калегіяльна – каралём сумесна з панамі-радай. Статут ВКЛ 1588 г. наноў урэгуляваў гэтае пытанне ў арт. 4 першага раздзела, які гарантаваў шляхце, што "калі справа датычыцца

91 Diariusz oblężenia Pskowa / oprac. J. Urwanowicz // Zeszyt Naukowy Muzeum Wojska. 1996. № 10. S. 162.

92 Пар.: Organiściak W. Kara śmierci w prawie wojskowym Rzeczypospolitej szlacheckiej od XVI do XVIII wieku // "Problemy Prawa Karnego". 1994. № 20. S. 79–91. Характэрна, што злачынства здрады ставілася на адну дошку з бунтам слугі супраць пана. Згодна са Статутам ВКЛ 1588 г., "такога трэба сурова смерцю караць, як здрадніка, чвартаваннем": IIISL. Rozdz. XI. Art. 9. S. 325.

ганьбавання ці пакарання смерцю <…> нідзе апрача як на Вялікім вальным сойме <…> караць загадваем"[93]. Аналагічная норма ў 1588 г. была ўведзена і ў Каралеўстве Польскім. Некаторыя адрозненні палягалі ў складзе суда: у ВКЛ судзіў манарх з сенатарамі, а ў Кароне ў склад судовай калегіі не ўваходзіў кароль (толькі калі гаворка ішла пра знявагу маястату – але калі разглядалася злачынства здрады, ён ужо прысутнічаў), затое ў працэсе ўдзельнічалі восем дэпутатаў, выбіраных з Пасольскай Ізбы[94].

* * *

Падсумоўваючы прыведзеныя разважанні, варта падкрэсліць дактрынальныя адрозненні, якія назіраліся ў юрыдычнай практыцы Каралеўства Польскага і ВКЛ. Так, у Каралеўстве Польскім з часоў асуджэння Станіслава Радванкоўскага сярод польскай шляхты панавала непрыхільнасць да ўжывання смяротнай кары (нават у дачыненні да здраднікаў). Намнога цяжэйшай карай лічылася інфамія – пазбаўленне гонару разам з канфіскацыяй маёмасці. У ВКЛ, дзе выпадкі здрады неслі куды большую пагрозу, ужывалася смяротная кара. Вялікую цікавасць уяўляюць у гэтым сэнсе фрагменты адказу Аўгусціна Ратундуса Станіславу Ажахоўскаму. Ажахоўскі падкрэсліваў вышэйшасць польскай шляхты, якая не здраджвала свайму манарху так часта, як гэта рабілі ліцвіны. Войт віленскі ў адказ запярэчваў, што "ў кожным грамадстве ёсць злыя між добрымі", а таму "няхай нам Мусіля, Войціка і Віктарына Ажахоўскі не прыгадвае", бо ўсіх здраднікаў караюць ("супраць гэтага выпала нам нібы божым наканаваннем праціўіцца"), а таму пакаранне такіх асоб мае асаблівае значэнне, бо часткова здымае "грэх" з народа, з якога паходзіць здраднік[95].

[93] IIISL. Art. 4. S. 4–5.

[94] IIISL. Art. 2–4. S. 2–4; Volumina Legum. T. II. S. 251–252; Lityński A. Przestępstwa polityczne… S. 55–59; Zdrójkowski Z. Teodor Ostrowski (1750–1802). Pisarz dawnego polskiego prawa sądowego. Warszawa, 1956. S. 121.

[95] Rozmowa Polaka z Litwinem (1564) / wyd. J. Korzeniowski. Kraków, 1890. S. 47; пар.: Orzechowski S. Polskie dialogi polityczne… S. 202–203.

Хацеў бы звярнуць увагу на розгалас, які выклікала ў асяроддзі польскай шляхты злаўленне Янам Замойскім у 1584 г. баніта Самуіла Збароўскага і яго абезгалоўліванне. Грамадскага асуджэння гэтага ўчынку не змяншаў нават той факт, што Збароўскі ў свой час зазнаў інфамію, а ў 1583 г. здзейсніў дзяржаўную здраду, атакаваўшы разам з казакамі Крымскае ханства, што магло прывесці да вайны[96]. У сваю чаргу, Крыштафа Збароўскага на соймавым судзе прызналі вінаватым у спробе замаху на жыццё караля і дзяржаўнай здрадзе (у час ваенных дзеянняў), аднак прысудзілі, як і Радванкоўскага, толькі да зганьбавання і баніцыі[97].

У гэтым кантэксце, параўноўваючы судовую практыку ў Каралеўстве Польскім і ВКЛ, варта прывесці выказванне Крыштафа Радзівіла, зробленае ім на сойме 1585 г.: "Рады буду пачуць тых, хто разумее польскае права, бо я яго не разумею, і мушу прызнацца, што законы тутэйшыя добра-такі адрозніваюцца ад нашых. Мы такога кожнага (здрадніка. – *К. Л.*), хто супраць радзімы сваёй з кім чужым змаўляецца, караем смерцю і ганьбаваннем; тут іначай, бо Граёўскі ўцёк, а яму за гэта нічога. А ў нас Віктарын за такі ўчынак быў чвартаваны, тое самае і Войцік"[98].

Злачынства здрады ў ВКЛ разглядалася асобна ад знявагі маястату як мінімум да 1529 г. У гэтым выпадку ўжывалася звычаёвае права, якое давала манарху магчымасць караць здраднікаў пазбаўленнем жыцця і маёмасці. Першы статут ВКЛ не быў у гэтым сэнсе пераломным, хоць ён урэгуляваў актуальнае тады пытанне пакарання перабежчыкаў, у першую чаргу працэдуру канфіскацыі іх маёмасці. У 1529–1566 г. пры разглядзе працэсаў здрады можна назіраць усё больш істотны ўплыў рымскага права і пашырэнне канцэпцыі *crimen laesae maiestatis*. Статут ВКЛ 1566 г. дазволіў упарадкаваць становішча і пра-

96 Dubas-Urwanowicz E. O nowy kształt Rzeczypospolitej… S. 114 i n.

97 Тамсама. С. 146.

98 Scriptores Rerum Polonicarum. T. XVIII. S. 183.

духіліць усё часцейшыя спробы вялікага князя адвольна інтэрпрэтаваць прагалы ў заканадаўстве. Хоць было ўведзена вельмі шырокае паняцце знявагі маястату (у якое была ўключана і дзяржаўная здрада[99]), у цэлым, як я лічу, улада вялікага князя была абмежавана. З гэтага моманту рымскае права адыгрывала толькі дапаможную ролю[100]. Статут ВКЛ 1588 г. унёс у гэтыя нормы толькі дробныя дапаўненні. Найбольшыя змены датычыліся санкцый у дачыненні да перабежчыкаў. Пачынаючы з панавання Жыгімонта III Вазы кожны мог такога ўцекача пераследаваць, арыштаваць і нават забіць без пастановы суда – што было запазычаннем з ваеннага права.

Ацэньваючы прааналізаваныя прававыя рашэнні, неабходна падкрэсліць уплыў, які яны зрабілі на фармаванне юрыдычнай культуры. Варта адзначыць, што падрыхтаваны ў 1811 г. праект заканадаўчай рэформы для Беластоцкай вобласці, які грунтаваўся на літоўскім, польскім, прускім і расійскім праве, у пунктах адносна здрады і абразы маястату капіяваў акурат нормы Статута ВКЛ 1588 г.[101].

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

[99] Варта звярнуць увагу на аналогію з эвалюцыяй польскай юрыдычнай сістэмы, пра якую піша Рафал Таўбеншляг (Prawo karne polskiego średniowiecza. Lwów, 1934. S. 87 i n.). Ён мяркуе, што ў Каралеўстве Польскім у XV ст. існавала асобнае злачынства здрады, якое затым было атаясамлена з абражаннем маястату. У ВКЛ сітуацыя была ідэнтычнай, з той толькі розніцай, што ў выніку Львоўскага рокашу (1537 г.) у Польшчы ў 1539 г. была прынята канстытуцыя, згодна з якой дзве формы злачынства зноў пачалі разглядацца асобна.

[100] Dyjakowska M. Crimen laesae maiestatis… S. 226–233.

[101] Projekt prawa prowincjonalnego dla Obwodu Białostockiego od “Komitetu dla porównania praw koronnych z litewskiem” wyznaczonego ułożony // Biblioteka PANiPAU. Sygn. 1474. Tytuł X części III “O nieuszanowaniu monarchy i obrażeniu majestatu, zdradzie najwyższej”. § 848–857. K. 149–152v.

# The crime of treason in the Grand Duchy of Lithuania in XVI century

**Karol Łopatecki**

This article presents process of forming the definition of crime of treason in the Grand Duchy of Lithuania in XVI century. Its final catalogue was formed in the Second Lithuanian Status (1566). Among these crimes were counted: collusion and taking out the troops to overthrow the authority, rebellion, agreement with or passing an information on to an adversary, surrendering a castle to an enemy, bringing to Lithuanian lands forces of an enemy, an escape to an enemy land. Before 1566, a definition of lèse-majesté, derived from a Roman law, had been widely used in jurisprudence.

Until 1588 it was possible to adjudicate Lithuanian citizens outside of parliament. During war it was even possible to do so outside the territory of the Commonwealth. All judgments were passed collegially by the king and council. The Third Lithuanian Status (1588) regulated this matter in the first chapter, article fourth, which guaranteed the nobility that these kinds of crimes (which could result in capital punishment and infamy), should be adjudicated during parliamentary sittings. Contrary to Polish solution, during trial, presence of Chamber of Deputies delegates was not allowed.

While exploring treason crimes jurisprudence in Grand Duchy of Lithuania, we can draw following conclusions:

1) nobility suspected of treason was temporary arrested, the suspected could be saved from an arrest only by royal safe-conduct

2) verdicts announced against nobility were extraordinarily harsh, it was common to practice severe penalties such as impalement and quartering

3) servants, who helped their masters commit the crime by fulfilling their commands, were also punished for treason.

# Шляхецкія сядзібы ў Гародні ў другой палове XVII – XVIII ст.

## (арганізацыйна-гаспадарчы аспект функцыянавання)[1]

**Юры Гардзееў**

Горад перыяду Новага часу, будучы шматграннай з’явай, характарызаваўся тэрытарыяльна абмежаванай канцэнтрацыяй насельніцтва, яго аб’яднанняў і установаў, шматлікіх культавых, адміністрацыйных і вытворча-паслуговых аб’ектаў. Акрамя таго, ён выступаў дынамічнай сацыяльна-прасторавай сістэмай разнапланавых узаемадачыненняў гараджан, да аднаго з элементаў якой трэба аднесці маёмасныя адносіны. Уладальнікамі і карыстальнікамі нерухомай маёмасці ў горадзе былі не толькі мяшчане, але і духавенства, і шляхта. З цягам часу ў гарадах пачаў развівацца фонд зямельных прасторава-маёмасных адзінак, адасобленых у адміністрацыйна-судовым плане, якія ў выніку атрымання лібертацыі падпарадкоўваліся земскаму праву, а іх жыхары выконвалі павіннасці на карысць уладальніка сядзібы[2]. Вядома, трэба памятаць, што працэс утварэння комплексаў шляхецкіх

1 Аўтар артыкула выказвае шчырую ўдзячнасць за дапамогу ў пошуках матэрыялаў і каштоўныя парады Дамінінкасу Бурбу, Герману Брэгеру і Андрэю Мацуку.

2 Mazurkiewicz J. Jurydyki lubelskie. Wrocław, 1956. S. 59; Карпачёв А. Феодальные юридики в королевских городах Белоруссии XVII–XVIII веков // Советское славяноведение. 1968. № 6. С. 29, 37; Kulejewska-Topolska Z. Struktura prawna aglomeracji osadniczej Poznania od XV do końca XVIII wieku. Poznań, 1969, s. 18–19; Капыскі З. Юрыдыкі // Вялікае Княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 772.

уладанняў у залежнасці ад мясцовых умоваў працякаў з рознай ступенню інтэнсіўнасці. Трэба ўлічыць і тое, што не кожны пляц ці яго забудова, якія знаходзіліся ў валоданні ці карыстанні шляхціча, можна лічыць юрыдыкай. Па гэтай прычыне паняцці *юрыдыка* і *шляхецкая сядзіба* нельга лічыць тоеснымі.

У той час як пытанні палацава-дворыкавага будаўніцтва і маёмасных адносінаў у Гародні ў перыяд Новага часу, развіцця рынку нерухомай маёмасці, шляхоў набывання гарадскіх сядзіб, сацыяльнага складу іх уладальнікаў прыцягвалі ўвагу даследчыкаў, то некаторыя праблемныя пытанні эканамічнай гісторыі горада, у тым ліку арганізацыйныя і гаспадарчыя аспекты гісторыі шляхецкіх зямельных уладанняў, вывучаны у меншай ступені.

Зыходзячы са сказанага, мэтай дадзенага артыкула будзе спроба раскрыцця механізму функцыянавання шляхецкіх пасэсій у Гародні ў XVII–XVIII ст., калі з’ява фармавання фонду юрыдык дасягнула поўнага росквіту[3]. У першую чаргу прыцягваюць увагу наступныя праблемныя палі. Якім чынам шляхта выкарыстоўвала свае гарадскія сядзібы? Якія функцыі тыя выконвалі? Ці ўвогуле яны прыносілі даходы, а іх утрыманне акуплялася? Магчыма, адказ на пастаўленыя пытанні дазволіць лепш зразумець прычыны набывання шляхтай сядзіб у горадзе.

Функцыянальны характар шляхецкай сядзібы непасрэдна залежаў ад яе тыпу і ў пэўнай ступені ад месца размяшчэння. У адрозненне ад іншых гарадоў, у якіх юрыдыкі ляжалі па-за гарадскімі межамі, на абшарах прадмесцяў, гарадзенскія пасэсіі сярэднезаможнай шляхты ці магнатаў збольшага знаходзіліся ў межах горада, кантрастуючы сваімі аб’ёмна-прасторавымі формамі з мяшчанскай ці яўрэйскай масавай, пераважна драўлянай, забудовай.

Паводле дадзеных 1789 г., у Гародні налічвалася 22 палацы, 19 камяніц, 51 дворык, 290 “прыватных ды-

[3] Zielińska T. Szlacheccy właściciele nieruchomości w miastach XVIII w. Warszawa – Łódź, 1987. S. 3.

моў", якія знаходзіліся ў валоданні шляхты[4]. Захаваная крыніцазнаўчая база дазваляе прасачыць працэс абароту нерухомай маёмасці, у якім удзельнічала шляхта. Гэта засведчылі шматлікія **дамовы куплі-продажу** сядзіб, адным з бакоў якіх была шляхта, акты іх даравання ці заставы, звесткі аб спадках.

У 1783 г. гарадзенскі афіцыял Ян Непамуцэн Кадлубоўскі[5] прадаў гарадзенскаму земскаму суддзі Тадэвушу Александровічу дворык з флігелем, свірнам і агародам[6], які знаходзіўся на рагу "вуліцы з Азёрскай да вуліцы Дзям'янаўскай"[7] з вуліцай Дзям'янаўскай[8]. У 90-я гады XVIII ст. непадалёку, на Навікоўскай вуліцы[9], Кадлубоўскі ўзвёў дворык са стайняй і вазоўняй. Прычым – як сведчаць крыніцы – на пляцы застаўся стары дом з мураванымі сутарэннямі. У 1795 г. ксёндз саступіў пасэсію падстолію Ліфляндскага княства Людвіку Юрыю і Марыяне з Сапоцькаў Ліпніцкім[10].

Разам з тым шляхта не толькі рабіла інвестыцыі на гарадскім рынку нерухомай маёмасці, але, што натуральна, прадавала паасобныя пляцы. Даволі паказальны ў гэтым плане абарот нерухомай маёмасці літоўскага канюшага Дамініка Александровіча, які ў другой палове XVIII ст. валодаў сядзібай, размешчанай паміж Віленскай ды Калюцінскай вуліцамі. У 1792 г. апошні прадаў пісару Скарбовай

4 Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей ЛДГА). Ф. 1282, воп. 1, спр. 5820; Старажытныя акты (далей СА), 4057.

5 Ксёндз Ян Непамуцэн Кадлубоўскі, выкладчык гарадзенскай школы Адукацыйнай камісіі (ЛДГА, ф. 11, воп. 1, спр. 123, (СА 2780), арк. 84; Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, F 2 DC 96, арк. 4).

6 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей НГАБ). Ф. 1761, воп. 1, спр. 13, арк. 197–199; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. T. II. Województwo trockie XIV–XVIII wiek, red. A. Rachuba, opr. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. Romaniuk, A. Haratym, współpr. A. Macuk, A. Aniszczanka. Warszawa, 2009. S. 324.

7 Фрагмент сучаснай вуліцы Сацыялістычнай паміж вуліцамі Свярдлова і Карла Маркса.

8 Сучасная назва – вуліца Свярдлова.

9 Сучасная назва – вуліца Маладзёжная.

10 НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 16, арк. 1173–1174.

камісіі Казіміру і Эльжбеце Арцішэўскім дворык з флігелем і стайняй, якія стаяў на вуліцы Калюцінскай[11]. Яшчэ адзін пляц, забудаваны дворыкам з флігелем ды мураванымі сутарэннямі, стайняй, вазоўняй і гаспадарчымі пабудовамі, у 1794 г. быў прададзены канюшым пекару Яну Кшыштафу і Яанне Крысціне Раўтэнбергам[12].

З пункту гледжання вывучэння функцыянальнага характару шляхецкіх пасэсій у горадзе можна падкрэсліць сцісласць зместу дамоваў куплі-продажу нерухомай маёмасці. Куды больш грунтоўнае апісанне сядзібнай забудовы адлюстроўвалася ў **інвентарах** той ці іншай пасэсіі.

У 1684 г. быў складзены інвентар нерухомай маёмасці лідскага харужыя Яна Масевіча. Як вынікае з яго зместу, папярэднім уладальнікам дворыка быў парнаўскі падкаморы і гарадзенскі гродскі суддзя Ігнацы Рукевіч. Дворык быў узведзены з дрэва, што пацвярджаюць шматлікія звесткі пра сталярскую і цяслярскую працу (аканіцы, дубовыя і ліпавыя дзверы, ліпавая мэбля, сасновы стол ці падлога з габляваных дошак). Дворык у інвентары быў акрэслены як "вялікі жылы домам" ("dom wielki mieszkalny"), крыты гонтамі. Складальнік інвентару падрабязна, згодна з тагачаснымі звычаямі, апісаў яго ўнутраную арганізацыю.

З сяней вяла лесвіца ("na gurę drabina"), што сведчыць пра магчымасць існавання паддашка ці гары. У пакоі ("izba pokojowa") знаходзілася печка з паліванай зялёнай кафлі, камін ("kominek dla niecenia ognia") з мураваным комінам. Пад гэтым памяшканнем размяшчаліся мураваныя сутарэнні. Наступнае апісанае памяшканне – гэта алькеж, які выконваў функцыі спальні. Побач з ім была прыбіральня ("transyt z tego alkierza"). Сені злучаліся са сталовым пакоем, які меў печку з зялёнай кафлі ("piec gładkich kafli zielonej polewy") з комінам, а таксама сцэну для выканання музычных твораў ("chór świeżo przebudowany na czterech słupach dla muzyki z tarcic"). У дворыку быў яшчэ адзін алькеж і пакой ("izba biała") з печчу ды хлебнай печкай. На панадворку, побач з варотамі, стаяла кухня ("dom

[11] Тамсама, спр. 15, арк. 575–577.
[12] Тамсама, спр. 16, арк. 361–362, 713–714.

kuchenny oraz gospodarski”) з мураванай печчу (“kuchnia murowana z kominem”), а перад домам – стайня[13]. Пляц быў абнесены плотам з дыляў і частаколам.

Не менш цікавае пытанне – высвятленне месца размяшчэння сядзібы. Набытак Масевіча знаходзіўся ў прэстыжным месцы горада, на скрыжаванні вуліцы Мастовой з “вулачкай да царквы Прачыстай” (“od ulicy Cerkwi Przeczystej”), выходзячы на галоўны Рынак. Супастаўленне гэтых звестак з іншымі крыніцамі дазваляе сцвярджаць, што ні месца, ні час набытку Масевіча лічыць выпадковымі нельга. Як вядома, у 1681 г. віленскі ваявода Казімір Ян Сапега набыў камяніцы на Рынку ад ябланоўскага старасты Кшыштафа Сендзівоя Патоцкага, а праз дзевяць гадоў Дарота Ганна з Гжыбоўскіх Кярдзей, жонка троцкага кашталяна Яна Казіміра Кярдзея (1684–1685)[14], прадала ваяводу суседні рынкавы пляц[15]. Такім чынам, другую камяніцу Сапегі набылі пасля сойма 1688 г.

Акрамя таго вядома, што Аляксандр Масевіч быў прыхільнікам магнацкай групоўкі Сапегаў. Кар’еру распачаў у адной з сапегаўскіх харугваў. Дзякуючы падтрымцы літоўскага падканцлера Аляксанда Нарушэвіча, зяця Паўла Сапегі, стаў пісарам гродскага суда Лідскага павета, а ў 1673 г. маршалкам двара Яна Казіміра Сапегі. Урэшце ў 1677 г. быў абраны членам камісіі па пытаннях размяшчэння паслоў сойма ў Гародні, а ў 1688 г., будучы адным з кіраўнікоў сапегаўскай апазіцыі, паслом на гарадзенскі сойм[16].

У 1678 г. літоўская канюшанка княгіня Караліна Радзівіл прыдбала сядзібу на вуліцы Калюцінскай. Згодна з соймавай канстытуцыяй 1678–1679 г. уладальніца ўзвяла новы двор (“plac w Grodnie na miejskim gruncie skupiony i z dworem świeżo wybudowanym”)[17].

[13] ЛДГА, ф. 1282, воп. 1, спр. 2325, арк. 1–2.

[14] Wasilewski T. Kierdej Jan Kazimierz // Polski Słownik Biograficzny. T. XII. Wrocław, 1966–1967. S. 425–426; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. T. II. S. 128.

[15] Бібліятэка АН Літвы імя Урублеўскіх. F 18-134, арк. 25, 27.

[16] Wasilewski T. Mosiewicz (Moszewicz) Aleksander // Polski Słownik Biograficzny. T. 22. Wrocław, 1977. S. 38–40.

[17] Volumina legum. T. V. Petersburg, 1860. S. 312.

Больш падрабязныя звесткі пра арганізацыю ўнутранай прасторы сядзібы змешчаны ў яе інвентары, складзеным у 1679 г.[18]. З боку вуліцы Калюцінскай стаялі вялікія ўязныя вароты с веснічкамі. Галоўны аб'ект участка – дворык, названы "новым домам" і крыты гонтамі. Планіроўка дворыка выглядала наступным чынам: сені, белы пакой, злучаны з яшчэ адным пакоем ("izba tylna"), побач з якім знаходзілася прыбіральня. З сяней можна было прайсці ў яшчэ адзін пакой, алькеж, "заднюю ізбу", бакавы пакой і камору ("spiżarnia"). У пакоях пісар адзначыў цагляныя тынкаваныя каміны і печкі з зялёнай кафляй.

На пляцы, акрамя таго, стаялі: будынак з кухняй, камінам, "белым кухонным пакоем" ("izba biała kuchenna"), каморкай, пякарняй з хлебнай печкай, стайня, вазоўня, асобны дом для князя літоўскага стольніка ("dla Xcia Jm Pana Stolnika W$^{o}$X$^{a}$Lit$^{o}$")[19]. Відаць, што з боку паралельнай вуліцы Златарскай на тэрыторыю пляца можна было ўехаць праз другія вароты ("wrota od drugiej ulicy wiezne mniejsze")[20].

У інвентары сядзібы 1691 г. дворык быў названы "старым палацам". Згодна з апісаннем пабудовы, ён меў жыллёвае прызначэнне: сені, сталовы пакой ("izba stołowa") з печкай з зялёнай кафлі і камін, камора і каморка, бакавы пакой, сталовы пакой і алькежык, а таксама кабінет. Насупраць палаца стаяў новы дом: сені, сталовы пакой, камора з кабінетам, кладоўка ("od tej komory spiżarenka"), пакой ("izba").

Побач знаходзіўся гаспадарчы дом ("dom gospodarski"), у якім былі наступныя памяшканні: сені, пакой, камора, пякарня, вялікая стайня з яслямі і вазоўня, яшчэ адзін дворык (сені, пакой, камора, бакавая камора, пакоік, сталовы пакой). На падворку размяшчалася невялікая стайня, "белая ізба" з каморай, пякарня і два мураваныя скляпы.

[18] Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (далей ГАСА), Архіў Радзівілаў (далей АР), аддз. XVIII, 323, арк. 9–12.

[19] Станіслаў Казімір Радзівіл са старшай лініі Клецкай лініі быў стольнікам у 1670–1680 г. (Zielińska T. Poczet polskich rodów arystokratycznych.Warszawa, 1997. S. 317).

[20] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 9–12.

Укладальнік інвентару адзначыў, што на двары стаялі бочкі, “фасы”[21], “шафлікі”[22] з вапнай, ляжалі шматлікія кроквы, некалькі дзясяткаў коп гонтаў і дранак[23]. Гэтыя звесткі могуць ускосна сведчыць пра сядзібную будоўлю ці перабудову ранейшых аб’ектаў.

У 1683 г. Барбара з Крышпінаў Кіршэнштэйнаў Валовіч[24] адступіла Катажыне Радзівіл пляц, што ляжаў у квартале паміж вуліцай Мастaвой і Рынкам[25]. У інвентары, складзеным у тым жа годзе, змешчана апісанне планіроўкі і забудовы сядзібы. Як было пазначана, у вялікім старым будынку былі сені, пакой, печка з камінам, алькеж, каморка, “кухонны пакой з кухоннай кладоўкай і каморкай” (“izdebka kuchenna ze spiżarnią kuchenną z komorką”), вялікі пакой і камора. Тут знаходзіўся склеп, крыты гонтамі, на даху два мураваныя коміны. На пляцы стаяў невялікі будынак (“izdebka mała”), стайня, будынак з двума малымі пакоямі з каморкай[26].

Разгледжаны матэрыял, нягледзячы на выразную сціпласць, дазваляе зрабіць пэўныя высновы. Па ўсёй верагоднасці, апісаныя сядзібы (пляц з дворыкам са складанай шматкамернай планіроўкай) магла ўтрымліваць заможная шляхта.

Шляхецкія пасэсіі ў горадзе вылучаліся сярод іншых тыпаў гарадскіх сядзіб характарам забудовы. Можна

[21] Фаска – мера аб’ёму і масы, у дадзеным выпадку невялікая бочка (польск. *faska*, ням. *fass*).

[22] Шафлік – драўляная ёмістасць з круглым дніщчам (польск. *szaflik*, ням. *Schaffel*).

[23] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 21–25.

[24] Жонка Аляксандра Гераніма Валовіча, плацельскага старасты і літоўскага стальніковіча, гарадзенскага харужага (1678–1681) (Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku, opr. H. Lulewicz i A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 242).

[25] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 305, арк. 366; Urzędnicy centralni… S. 46; Zielińska T. Poczet… S. 320; Міхал Казімір Радзівіл, падканцлер і палявы гетман літоўскі (1635–1680) ажаніўся з Катажынай з Сабескіх Заслаўскай (пам. 1694) (T. Zielińska, Poczet… S. 320).

[26] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 17–18.

меркаваць, што па сваіх будаўнічых формах жытло шляхціча ў горадзе нагадвала сядзібу ў маёнтках ці фальварках[27], хоць разыходзілася з апошнім па прызначэнні. Сядзібы шляхты ўяўлялі сабой як невялікі зямельны забудаваны ўчастак, так і зямельны комплекс, які падзяляўся на шэраг асобных пляцаў. Шляхецкая сядзіба, як правіла, драўляная, складалася з комплексу збудаванняў, у першую чаргу дворыка са шматлікімі пакоямі, алькежамі і каморамі, з жылой прыбудоўкай, ці т. зв. флігелем (“oficyna”).

Дворыкі ў першую чаргу выконвалі функцыю забеспячэння ўладальніка жыллём у горадзе[28] пад час соймікаў, паседжанняў земскіх ці гродскіх судоў, святочных мерапрыемстваў, вырашэння гаспадарчых справункаў у горадзе. Да такой думкі схіляе наяўнасць кабінетаў ці алькежаў, пякарань з хлебнымі печкамі і мураваных падземных памяшканняў (скляпы-сутарэнні), у якіх захоўваліся розныя рэчы, у тым ліку харчовыя прадукты. Адсутнасць згадак пра калодзежы ці лазні магла б сведчыць, што шляхціч-уладальнік толькі наведваў горад і затрымліваўся ў сваёй гарадской сядзібе па меры неабходнасці (афіцыйныя ці гаспадарчыя справы).

Неад’емным элементам сядзібнай забудовы былі стайні і вазоўні, дзе ўладальнікі пасэсіі трымалі коней, вазы і сані. Можна пагадзіцца з думкай Тэрэзы Зяліньскай наконт больш шырокіх функцый гэтых пабудоў, у якіх, напрыклад, трымалі свойскую жывёлу (свінні, каровы і птушкі) ці прылады працы і дровы. Акрамя таго, уласнік мог атрымліваць фінансавую карысць, напрыклад, здаючы фурманам у наймы будынкі гэтага тыпу[29].

Куды большыя магчымасці мелі **магнацкія юрыдыкі**, якія складаліся са шматлікіх пляцаў і былі занятыя жылымі і гаспадарча-паслуговымі збудаваннямі. Вялікім комплексам нерухомай маёмасці ў Гародні валодалі Радзівілы. Нельга выключыць таго, што паасобныя сядзібы,

[27] Молчанова Л. Очерки материальной культуры белорусов XVI–XVIII вв. Минск, 1981. С. 18–31; Лакотка А. Пад стрэхамі прашчураў. Мінск, 1995. С. 169–192.

[28] Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 47.

[29] Zielińska T. Poczet… S. 56.

раскіданыя па горадзе, маглі выконваць акрэсленыя, вузкаспецыялізаваныя функцыі. На карысць такой думкі сведчаць наступныя факты.

У 1752 г. быў падрыхтаваны інвентар новага дворыка, што стаяў на Падоле, на правым беразе Нёмана. Будынак складаўся з двух пакояў і алькежа. Двор быў заняты наступнымі збудаваннямі. Па абодвух баках размяшчаліся стайні і каморкі для дроў. Да Нёмана вялі тыльныя вароты, побач з якімі знаходзіўся яшчэ адзін невялікі будынак, кухня, спіжарня, а таксама качалка для прасавання бялізны качаннем (“magiel”). Апошняе сведчанне можа пацвердзіць здагадку таго, што гэтая пасэсія выконвала функцыю пральні, якая абслугоўвала левабярэжную радзівілаўскую юрыдыку, у склад якой, зрэшты, уваходзіла[30].

Троцкі ваявода Казімір Дамінік і Элеанора з Войнаў Агінскія падаравалі ў 1729 г. драўляны палац сыну Юзафу Людвіку ды Ганне з Вішнявецкіх Агінскім[31]. Са складзенага інвентару вынікала, што палац узведзены на падклецці (“pałac na podmurowaniu”) са склепам (“piwnica”), быў крыты гонтамі. На дзядзінцы знаходзіліся: стайня і маштарня, якая традыцыйна выконвала функцыі майстэрні (дзе рамантаваліся вазы, захоўвалася вупраж) і жытла для конюхаў ці рамеснікаў, дзве павеці (“szopa”) для вазоў, будынак кухні і пякарня. За палацам ляжаў “агарод для сена”[32].

У інвентары палаца 1803 г. змешчана падрабязная інфармацыя пра яго планіроўку. Паводле апісання гэта быў драўляны двухпавярховы палац на падклецці (“pałac na sklepach murowanych” / “pałac na podmurowaniu”). На другім паверсе палаца знаходзілася “круглая зала”. Трэба адзначыць, што залы-ратонды, ці авальныя залы, – распаўсюджаны прыём у палацавай архітэктуры XVIII ст.[33]. Акрамя таго, на гэтым паверсе размяшчаліся: алькеж, вітальня (“przedpokój”), пяць пакояў, “зала доўгая”. У пакоях стаялі печкі: “белая шведская печка”, “белая шведская

[30] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 221–222.

[31] ЛДГА, ф. 1274, воп. 1, спр. 61, арк. 52.

[32] Тамсама, арк. 58–59.

[33] Кулагин А. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Минск, 1981. С. 39.

печка з дзверцамі і трубой”, “печ з белай кафлі маскоўская”, хлебная печка, а таксама каміны. Пад будынкам мясціліся два склепы. У дакуменце згаданы спіжарня, камора, кухня, пякарня, флігель, стайня, вазоўня[34]. Згадка пра пажарны насос (“sikawka do pałacu”)[35] сведчыць, што ўласнікі прытрымліваліся мер супрацьпажарнай бяспекі.

Такім чынам, палац Агінскіх – прыклад магнацкай рэзідэнцыі, унутраная планіроўка якой мела ў большай ступені ўтылітарны характар.

Згодна з распаўсюджаным меркаваннем, ролю фактара, які спрычыніўся да ўзмоцненай цікавасці шляхты да рынку гарадской нерухомай маёмасці, адыграла вызначэнне Гародні на месца правядзення соймаў. Разам з тым яго нельга абсалютызаваць. Больш правільным будзе сцверджанне, што не столькі соймы, колькі перспектыва іх правядзення падштурхоўвала магнатаў будавацца ў горадзе[36]. Напрыклад, у 1725–1726 г., гэта значыць напярэдадні чарговага сойма, пачалася будова палаца Паўла Караля Сангушкі. Аднак узвесці палац так і не паспелі, што змусіла Сангушкаў размясціцца ў фальварку Дубніцы, які ляжаў пад Гародняй і належаў троцкаму суддзі Турлаю[37].

Важны аспект функцыянавання шляхецкіх пасэсій – іх гаспадарчае асваенне і па меры магчымасці атрыманне

[34] Навуковая бібліятэка ПАУ і ПАН у Кракаве (далей НБ ПАУ і ПАН у Кракаве), № 5885, арк. 42–43.

[35] Тамсама, арк. 50адв.

[36] Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 50; Lileyko J. Przebudowa grodzieńskich pałaców Batoriańskiego i Sapieżyńskiego na gmach sejmowy w 1717–1718 roku // Między Padwą a Zamościem. Studia z historii sztuki i kultury ofiarowane Profesorowi Jerzemu Kowalczykowi. Warszawa, 1993. S. 263–282; Jamski P. J. Pałace niedoszłego króla. Artystyczne przygotowania Kazimierza Jana Sapiehy do sejmu grodzieńskiego w roku 1693 // Studia nad sztuką renesansu i baroku. T. VI. Lublin, 2005. S. 53–82; Ямскі П. Я. Палацы прэтэндэнта на каралеўскі трон. Мастацкая падрыхтоўка Казіміра Яна Сапегі да гарадзенскага сойма 1693 года // Гарадзенскі гадавік. Гродна. № 1. 2012. С. 26–49.

[37] Надзвычай скрупулёзную рэканструкцыю палацавага будаўніцтва правёў Адам Пэрлакоўскі (Perłakowski A. Dole i niedole budowniczych pałacu Sanguszków w Grodnie w latach 1724–1726 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2008. № 30. S. 41–58).

даходу, у першую чаргу шляхам **здачы ў наймы** паасобных палацавых памяшканняў[38]. У 1794 г. Дамінік Александровіч падпісаў з Лейзерам Міхялёвічам трохгадовы кантракт на арэнду ("w arędowną trzyletnią posessyą") дворыка на вуліцы Віленскай, які патрабаваў рамонту. Заўважым, што ў дакуменце падкрэслівалася прэстыжнае месца размяшчэння сядзібы, якая ляжала насупраць дамініканскіх збудаванняў. З кантракта вынікала, што за арандаваную нерухомую маёмасць карыстальнік меў уносіць штогод 500 злотых, а таксама кватэрную падымную аплату ("kwaterowe podymne"). У выпадку правядзення соймаў гэтая сума мела ўзрасці да 3000 злотых[39].

У 1744 г. аўгустоўскі староста Станіслаў Шаняўскі за суму 335 злотых здаў у наём палац, які знаходзіўся на Траецкай вуліцы, літоўскаму абознаму Ігнацыю Агінскаму[40]. У інвентары нерухомай маёмасці літоўскага гетмана Міхала Агінскага 1784 г. згадваецца чатырохпакаёвая "рэзідэнцыйная афіцына"[41]. Згодна з дакументам "Percepta pieniężna od r[ok]u 1797", у 1799 г. за наём дома на паўгода Агінскі атрымаў 160 злотых[42]. Вядома таксама, што ў 1752 г. маршалак вялікі літоўскі Ігнацы Агінскі зняў дворык вігерскіх камедулаў на перыяд наступнага сойма за 500 чырвоных злотых[43].

У 1726 г. Мендэль Ізраэлёвіч арандаваў на адзін год палац Сангушкаў[44]. Напярэдадні сойма 1784 г. муляр Юзаф Бараноўскі за суму 50 чырвоных злотых здаў у наймы дворык, падпісваючы дагавор з Тадэвушам Вежбаловічам, бургграфам палаца генерала літоўскай артылерыі Францішка Сапегі, абавязваючыся дабудаваць вазоўню[45]. У кнігі гарадзенскага магістрата 1786 г. быў унесены дагавор Вежбаловіча з цесляром, гарадзенскім

[38] Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 49, 72, 74.
[39] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 16, арк. 271–273.
[40] ЛДГА, ф. 1285, воп. 1, спр. 243.
[41] ЛДГА, ф. 1274, воп. 1, спр. 61, арк. 77адв.
[42] НБ ПАУ і ПАН у Кракаве, № 4501, арк. 17адв.
[43] Тамсама, № 5745, арк. 28–28адв.
[44] Perłakowski A. Dole… S. 57.
[45] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 13, арк. 350.

баўмайстрам Якубам Прайсігам, на рамонт палаца, стайні і афіцыны[46].

Аляксандр Міхал Сапега, які валодаў сядзібным комплексам на рагу Рынка і Азёрскай (Брыгіцкай вуліцы), у 1793 г. падпісаў кантракт з Моўшам Зеліковічам на карыстанне адным з пляцаў юрыдыкі. Згодна з умовамі кантракта, апошні павінен быў пабудаваць дом з мансардай ды мураванымі комінамі. Штогадовы чынш за карыстанне пляцаў склаў 30 злотых. Паводле крыніц, у гэтым жа годзе новы дом быў прададзены Францішкам Сапегам Ізраэлю Юдэлёвічу за суму 3000 злотых[47].

Згодна з дадзенымі 1795–1797 г. у наём здаваліся таксама падвальныя памяшканні палаца (“sklep”) Дамініка Радзівіла на Рынку[48].1 траўня 1799 г. Пілітоўская падпісала кантракт на наём дзевяці пакояў, вазоўні і сутарэнняў палаца Агінскага ў мэтах правядзення рэдут[49], г. зн. публічных баляў-маскарадаў, якія былі даволі распаўсюджанай формай адпачынку і забавы гараджан[50].

Такім чынам, гэтыя дадзеныя сведчаць, што ўладальнікі пляцаў выказвалі зацікаўленасць у атрыманні даходу шляхам яго перадачы ў карыстанне на акрэсленых умовах ці здачы памяшканняў у наём.

Цікавым выключэннем можна палічыць наступны прыклад. У 1781 г. Караль Станіслаў Радзівіл выдаў распараджэнне намесніку гарадзенскіх юрыдык Горскаму аб тым, што рэгент Рыпейка мае права бясплатна карыстацца памяшканнем у яго палацы на Рынку (“wolna stancja”) для правядзення паседжанняў Трыбунала[51]. Заўважым, што сказанае сведчыць пра аўтатэлічнае сацыяльнае дзеянне. Відавочна, уладальнік сядзібы не кіраваўся імкненнем

[46] Тамсама, арк. 890.
[47] Тамсама, спр. 16, арк. 139–140, 303.
[48] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1495, арк. 4.
[49] НБ ПАУ і ПАН у Кракаве, № 4508, арк. 7.
[50] Komissya Porządkowa i Cywilno-Wojskowa powiatu grodzieńskiego z 6 lipca 1790 r. k. F (Аддзел старадрукаў Бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, № 17628).
[51] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 322, с. 5; Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 68.

атрымання матэрыяльнай выгады (што мог, напэўна, сабе дазволіць). Дапускаем, што ў дзеяннях Радзівіла можна прасачыць нейкі глыбінны сэнс, напрыклад, праяву яго грамадзянскага абавязку.

Аднак не кожны, нават найбольш заможны ўладальнік сядзібы, быў схільны да такіх “шчодрых дароў”. Як вынікае з рахункаў палаца Сангушкаў (1790–1793), гарадзенскі падкаморы Францішак Юндзіл[52] за найманую залу для правядзення соймікаў унёс 108 злотых[53].

Адным з галоўным элементаў даходу ўладальніка сядзібы быў **чынш**, г. зн. рэнта за карыстанне пляцам. Згодна з дакументам “Percepta pieniędzy z dochodów juryzdycznych i za najmę stancjów w pałacu do roku 1793 dnia 30 marca aż do roku 1795 dnia 1go januarji…”, даходы з юрыдык літоўскага падкаморыча Дамініка Радзівіла ў 1793 г. склалі 1342 злотых 1 грош, а ў 1794 г. – толькі 489 злотых і 5 грошаў, што, магчыма, магло мець нейкую сувязь з перыядам паўстання Тадэвуша Касцюшкі[54]. Чынш, атрыманы з 40 пляцаў 6 юрыдык, што ў канцы XVIII ст. належалі літоўскаму падкаморычу Дамініку Радзівілу, склаў 1683 злотых і 26,5 грошаў[55]. У 1797 г. даход з яго юрыдык склаў 1689 злотых. Для прыкладу, па дадзеных 1790 г. Сангушкі са сваіх зямельных уладанняў у Гародні атрымалі 2067 злотых за 16 месяцаў (звесткі 1790 г.)[56], а чынш з юрыдыкі Агінскіх у 1797 г. – толькі 56 злотых, у 1801–1802 г. – па 62 злотыя[57].

24 жніўня 1793 г. купец Далькоўскі за найм склепа і двух свірнаў унёс у скарб Радзівілаў 400 злотых гадавога чыншу за перыяд ліпень 1793 – ліпень 1794. 1 ліпеня 1794 г. ён заплаціў 350 злотых (за бягучы год да 1 ліпеня 1795 г.)[58].

[52] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. T. II. S. 301.
[53] Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 66.
[54] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1496, арк. 3.
[55] ЛДГА, ф. 1029, воп. 1, спр. 191; ф. 1280, воп. 1, спр. 511, арк. 11.
[56] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1496, арк. 3; Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 74.
[57] НБ ПАУ і ПАН у Кракаве, № 4501, арк. 17, 18.
[58] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1496, арк. 3.

У 1793 г. ад трох юрыдычан Годфрыда Крома, Кавалеўскага і Маеўскага радзівілаўскай пасэсіі на Маставой вуліцы ішоў "дубелтавы падатак" у памеры 120 злотых і 13,5 гроша[59]. У 1796 г. найбольшыя грашовыя плацяжы за карыстанне ўчасткамі радзівілаўскай юрыдыкі, што знаходзілася на Маставой вуліцы ("Przy poczcie na ulicy Mostowej"), былі ўнесены наступнымі рамеснікамі. Так, рымар Годфрыд Кром заплаціў 47 злотых і 11 грошаў, каваль Павел Кавалеўскі – 37 злотых і 15½ грошаў, а "баўмайстар" Ёган Прайсіг – 47 злотых і 18½ грошаў. Пекар Ян Эвардт (Слуцкая юрыдыка на Златарскай вуліцы) заплаціў штогадовага чыншу 38 злотых і 29 грошаў, а "жыд Беньямін" за крамку, што стаяла побач з палацам Радзівілаў, – ажно 150 злотых. Вядома, не ўсе карыстальнікі зямельных участкаў маглі ўносіць такія плацяжы. Напрыклад, жыхар юрыдыкі Падвале на Падольнай вуліцы Юзаф Цыдзік заплаціў за пляц 5,1 злотага, а муляр Ян Малішэўскі яшчэ менш – 3,3 злотага[60].

На наступным прыкладзе варта затрымацца больш падрабязна. У перыяд ад 12 чэрвеня 1793 г. да 12 чэрвеня 1794 г. пісар Завадскі ў радзівілаўскім рынкавым палацы за 270 злотых наняў "станцыю на склад тытуню"[61]. Згодна з соймавай пастановай 1789 г., Скарбовая камісія абавязана была заснаваць у Гародні тытунёвую фабрыку, на што было асігнавала 310 000 злотых[62]. У ВКЛ налічвалася 12 складоў, аднак галоўнае складское памяшканне планавалася размясціць у Гародні. Пасля закрыцця фабрыкі ў Вільні гарадзенскае прадпрыемства размяшчалася ў будынках каралеўскіх мануфактур на Гарадніцы ("w domach manufaktur JKM[ś]ci grodzień[skich]) і засталося адзіным у Вялікім Княстве Літоўскім. Акрамя таго, кожны склад меў пісара, які размяркоўваў вырабы агентам ("dystrybutor")[63]. Такім чынам, можна меркаваць, што

59 Тамсама, ЛДГА, СА 11649.
60 ЛДГА, ф. 1280, воп. 1, спр. 511, арк. 9адв, 10адв, 11.
61 ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1496, арк. 3.
62 Kościałkowski S. Antoni Tyzenhauz podskarbi nadworny litewski. T. 1. Londyn, 1970. S. 519.
63 НБ ПАУ і ПАН у Кракаве, № 568, арк. 75–77.

тавар гарадніцкай фабрыкі складаваўся менавіта ў памяшканнях палаца Радзівілаў на Рынку.

Пытанне ўзроўню даходнасці ад нерухомай маёмасці можна прасачыць на прыкладзе функцыянавання комплексу зямельных уладанняў віленскага біскупа Ігнацыя Масальскага. У інвентары 1782 г. усе пляцы сядзібы былі падзелены на дзве катэгорыі: чыншавыя і службовыя ("czynszowe", "służebne"). Такім чынам, карыстальнікамі зямельных участкаў былі як звычайныя чыншавікі, так і службовы персанал, які займаўся абслугоўваннем юрыдыкі. Акрамя таго, звесткі інвентару даюць магчымасць прааналізаваць саслоўна-прафесійны склад яе жыхароў.

Згодна з дадзенымі 1782 г., з 38 жыхароў сямі юрыдык Масальскага было сабрана гадавога даходу ("roczna intrata") 410 злотых і 20 грошаў. Найбольшы чынш уносілі жыхары "юрыдыкі на Замкавай вуліцы": Лейба Несяновіч Гажанскі, які арандаваў "скарбовую камяніцу", і Шмойла Янкялёвіч (па 24 злотых), мечнік Антоні Макарэвіч (16 злотых), кушнер Хацкель Ясялёвіч (12 злотых), Лейбіна Шмулавічова, Рубіновіч Аркавы – ажно па 40 злотых. Жыхары юрыдыкі Агіншчына, якая размяшчалася за шпіталем св. Духа, штогод плацілі: шынкар Моўша Гудалёвіч – 20 злотых, сталяр Шымон Янушкевіч – 18 злотых. Даволі распаўсюджанай была рэнта ў памеры 1 злотага 15 грошаў ці 2 злотых 16 грошаў, якія аплачвалі пераважна карыстальнікі "службовых" пляцаў. У інвентары адзначана, што чынш з 3 пляцаў, на якіх раней стаяла карчма, быў вернуты ў фонд гарадской нерухомай маёмасці[64].

У 1795 г. чынш з юрыдык віленскага біскупа склаў 461 злоты. Аналіз рэестра яго зямельнага фонду дазваляе высветліць сацыяльна-маёмасную дыферэнцыяцыю той ці іншай вуліцы. Так, жыхары Замкавай вуліцы Эльяш Ляйбовіч і Шмойла Янкялёвіч уносілі па 40 злотых. Найбольшая грашовая рэнта за карыстанне пляцамі на Віленскай вуліцы складала 18 злотых, на Калужанскай і Златарскай вуліцах – па 10, Траецкай вуліцы – 8[65].

[64] ЛДГА, ф. 1029, воп. 1, спр. 191, арк. 1–2.
[65] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 16, арк. 425–427.

Характэрная рыса шэрагу зямельных уладанняў шляхты – комплекс **вытворчых і гандлёва-паслуговых аб'ектаў**. Сказанае ў пераважнай бальшыні тычыцца магнацкіх юрыдык. Магчымасці шляхціча былі больш абмежаванымі. Па гэтай прычыне на тэрыторыі шляхецкіх сядзіб пераважалі гаспадарчыя пабудовы, якія выкарыстоўваліся ўладальнікам у час знаходжання ў горадзе.

Не выклікае сумнення, што да ліку адной з найбольш прыбытковых галін тагачаснай гаспадаркі належаў **выраб і продаж алкагольных напояў**. Аналіз гарадзенскіх крыніц пацвярджае гэтую думку. Згодна з захаванымі крыніцамі, на шляхецкіх юрыдыках у канцы XVII – XVIII ст. функцыянавала каля 40 корчмаў[66]. Было б памылкай лічыць, што ініцыятыву ўзвядзення бровараў ці корчмаў мог праяўляць яе ўладальнік. Разам з тым ёсць падставы меркаваць, што шляхціч не столькі абцяжарваў сябе пытаннямі непасрэднага гаспадарчага асваення сядзібы, колькі быў зацікаўлены ў фінансавых паступленнях. Заўважым, што ўладальнік мог перадаць адзін з пляцаў сваёй юрыдыкі ў карыстанне пры ўмове ўзвядзення на ім карчмы і атрымання чопавага ці мог перадаць у арэнду ўжо наяўныя бровары ці корчмы[67].

Найбольшай колькасцю корчмаў у Гародні ў XVIII ст. валодалі магнаты і шляхта. Напрыклад, паводле тарыфу падымнага падатку 1790 г. на юрыдыцы віленскага ваяводы Караля Станіслава Радзівіла знаходзілася некалькі корчмаў. Так, на занёманскай юрыдыцы, на Рабяёўскай вуліцы, стаялі "domy wiezne" Гіршы Янкялёвіча і Новаха Абрагамовіча[68]. У апісанні занёманскай юрыдыкі, якое датуецца 1796 г., было адзначана, што гадавы чынш Невеха Абрамовіча за пляц з домам і броварам складаў 101 злоты і 28,8 гроша. На гэтай жа юрыдыцы стаяў дом з броварам Мартхеля Янкялёвіча. Як вынікае з аналізу крыніцы, карыстальнікам ад-

[66] Gordziejew J. Socjotopografia Grodna w XVIII w. Toruń, 2002. S. 72–79; Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня (сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў XVI–XVIII ст.). Гародня – Wrocław, 2008. С. 45–46, 306–309, 323–325.

[67] Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 73.

[68] ЛДГА, СА 11649.

нага з пляцаў на другой занёманскай юрыдыцы (“Juryzdyka druga na przedmieściu zaniemeńskim”) быў Гірш Янкялёвіч, які за ўчастак з домам, броварам і свірнам унёс яе уладальніку 81 злоты і 23 грошы[69]. Трэба дадаць, што паводле звестак 1790 г. заезныя дамы функцыянавалі на іншых магнацкіх юрыдыках на Занёманскім прадмесці, напрыклад, на пляцах Агінскіх, на Горніцкай (Адэльскай) знаходзіліся кормчы Вігдэра Фалішэвіча і Шмойла Моўшавіча[70].

Аб’екты, што выраблялі алкагольныя напоі, будаваліся побач з корчмамі. На гэта, напрыклад, паказвае размяшчэнне бровара “жыда Эльяша” (1772, 1783), які стаяў непадалёку ад карчмы вялікага кароннага маршалка Юрыя Мнішка на Азёрскай вуліцы, ля ўсходніх ускрайкаў горада. Вядома таксама, што Эльяш уносіў 2 злотыя пляцавага (“placowe”) і 2 злотыя і 3 грошы падымнага падатку[71].

Разгледжаныя звесткі дазваляюць зрабіць адну істотную выснову. Занёманскае левабярэжнае прадмесце Гародні было своеасаблівым вытворча-паслуговым раёнам горада. Побач з броварам, у якім выраблялася піва, яе ўладальнік узводзіў карчму, у якой рэалізоўваў прадукцыю. Дадаткова варта падкрэсліць выгаднае размяшчэнне бровараў і корчмаў побач з нёманскім перавозам, які злучаў абедзве часткі горада.

Вялікі абшар Занёманскага прадмесця займалі **юрыдыкі**. У другой палове XVIII ст. на ўсходнім баку занёманскага Рынку стаяў палац вялікага літоўскага гетмана Міхала Казіміра Агінскага[72]. Паводле легенды плана горада 1780 г., уздоўж Навадворскай вуліцы[73] цягнуліся ворыўныя ўчасткі, што належалі надворнаму літоўскаму маршалку Ігнацыю Патоцкаму[74]. На вуліцы Рабяёўскай

69 ЛДГА, ф. 1280, воп. 1, спр. 511, арк. 9адв, 10адв, 11.

70 ЛДГА, СА 11649.

71 ЛДГА, СА 3862, арк. 13адв, 69адв; Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. VII. Акты Гродненского гродского суда. Вильно, 1874. С. 290.

72 Расійскі дзяржаўны ваенна-гістарычны архіў (далей РДВГА у Маскве), ф. 846, воп. 16, спр. 21872; ЛДГА, СА 11649.

73 Сучасная вуліца Гагарына.

74 РДВГА, ф. 846, воп. 16, спр. 21872.

ляжала юрыдыка Караля Станіслава Радзівіла, інтэгральна звязаная з прыгарадным зямельным комплексам віленскага ваяводы ў Гнойніцы.

Згодна з інвентаром 1752 г., у радзівілаўскім фальварку Гнойніца знаходзіўся стары двор, крыты дранкай і саломай. Дворык быў невялікім збудаваннем, які складаўся з наступных памяшканняў: сяней, пакоя, каморы, варыўні для захавання гароднiны ды пякарні (“izba piekarniana”). На тэрыторыі сядзібы стаяў невялікі стары драўляны бровар, крыты саломай, закінуты калодзеж, на панадворку – малы свіран (“spichlerzyk”), дзе трымалі збожжа, прадукты і розныя рэчы, стайня, адрына (“odryna”), у якой захоўваліся інвентар ці корм для жывёлы, гумно (“stodoła”), дзе абмалочвалася і складвалася збожжа.

Асноўнымі відамі гаспадарчай дзейнасці ў фальварку былі жывёлагадоўля (ёсць згадкі пра кароўнік, аўчарню і хлеў), земляробства і пчалярскі промысел. Адпрацоўная рэнта падданых (6 дымоў), якія мелі па паўвалокі зямлі[75], складала шэсць дзён штотыдня, агароднікаў – адзін дзень на тыдзень. Пасяўныя плошчы засяваліся збожжавымі (жыта, пшаніца, авёс, грэчка), бабовымі (гарох, боб), тэхнічнымі (лён і каноплі)[76].

Да фальварка належала “юрыдыка на прадмесці гарадзенскім” (“Juryzdyka na przedmieściu grodzieńskim do tego pałacu i folwarku”). У двары стаяла крама. Старая карчма на беразе Нёмана выглядала наступным чынам: стол і лавы, печка з зялёнай кафлі і другая мураваная хлебная печка з комінам. Побач знаходзіўся стары бровар, два свірны, якія, напэўна, выконвалі функцыю складскіх памяшканняў. Непадалёку ад берага Нёмана, побач з паромам, была пастаўлена новая карчма. Акрамя таго, у комплекс уваходзілі вадзяны млын і два ветракі.

Можна меркаваць, што менавіта вытворча-паслуговая дзейнасць была адной з галоўных крыніц даходу юрыдыкі.

[75] Зямельны надзел сялян складала ½ валокі (Козловский П. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в. (по материалам магнатских вотчин). Минск, 1969. С. 55).

[76] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 223–225.

Корчмамі валодалі Файвіш Шаёвіч і Мордух Марковіч, нядаўна аселыя на юрыдыцы. Ёсь Юдкавіч валодаў "домікам з сенямі накшталт заезнага" ("domek z sienią per modum wjeznego"). Яшчэ чацвёра карыстальнікаў пляцаў юрыдыкі ў момант складання інвентару будаваліся. За кожны дым штогод карыстальнікі пляцаў уносілі па 10 злотых грашовай рэнты. Хрысціянскае насельніцтва юрыдыкі (13 дымоў) было перапісана асобна. Трэба заўважыць, што адзін з пляцаў, названы Александравічоўскім, размяшчаўся на супрацьлеглым, правым, беразе Нёмана. Юрыдычане былі абавязаны выконаць наступныя павіннасці: улетку, пад час жніва, адпрацоўваць сем дзён, вартаваць палац, разносіць пошту, наглядаць за плытамі і млынамі[77].

Штогадовы даход ("intrata roczna") фальварка з юрыдыкай склаў 799 злотых і 24 грошы. Звяртае ўвагу той факт, што чынш карчмароў ці рамеснікаў быў невысокі. У сваю чаргу з арэнды скарбовай карчмы было атрымана 100 злотых, а з арэнды парома з карчмой, што стаяла побач, – ажно 600 злотых. У "Summaryuszy generalnej intraty rocznej" адсутнічаюць звесткі пра даход з млыноў, які, як было адзначана, "у верныя рукі ададзены" і будзе весціся паводле рахункаў адміністратара[78].

Гэты на першы погляд сухі пералік фактаў дазваляў зрабіць высновы пра магчымыя гандлёвыя кантакты радзівілаўскай гаспадаркі з горадам і яго навакольнымі населенымі пунктамі. Па-першае, даходным артыкулам была прадукцыя фальварачных бровараў, якая, што падаецца лагічным, пастаўлялася ў занёманскія корчмы. Як відаць, найбольшыя фінансавыя паступленні ішлі ў скарб Радзівілаў з транспартных і сельскагаспадарчых паслуг (пераправа цераз раку і памол збожжа ў млынах).

Можна дапускаць, што мёд прадаваўся рэчыцкаму харужаму Тадэвушу Даўнаровічу, які валодаў мядовым складам на Лабенскай вуліцы, на Занёманскім прадмесці,

[77] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 227–233.
[78] Тамсама, арк. 231–233.

г. зн. побач з валоданнямі Радзівілаў[79]. На думку Тэрэзы Зяліньскай, прадукты сельскай і рыбнай гаспадаркі маглі ісці на стол радзівілаўскага палаца ў Гародні, у меншай ступені – на продаж[80]. Разам з тым, у фінансава-справаздачных дакументах радзівілаўскіх юрыдык 29 снежня 1794 г. занатавана, што з прададзенага мёду ў скарб Дамініка Радзівіла было ўнесена 202 злотыя і 7 грошаў[81].

Факт валодання нерухомай маёмасцю азначаў не толькі атрыманне даходаў і назапашванне прыбыткаў, але ў першую чаргу патрабаваў ад яе ўладальніка аплаты падаткаў і, вядома, немалых капіталаўкладанняў і **выдаткаў на яе ўтрыманне** (апарат кіравання ці кошты рамонтаў).

На жаль, пра расходы сярэднезаможнай шляхты, якая валодала ў горадзе нерухомай маёмасцю, матэрыялаў захавалася няшмат. Магчыма, калі сядзіба складалася з аднаго пляца і была занятая дворыкам ды нешматлікімі гаспадарчымі пабудовамі, уладальнік, будучы яе асноўным карыстальнікам, мог без праблем, самастойна вырашаць усе арганізацыйныя справы ды гаспадарчыя пытанні. Куды больш можна сказаць пра механізм арганізацыі і ўтрымання магнацкіх пасэсій.

На чале кіраўнічага апарату сядзібы ў навачаснай Гародні знаходзіўся адміністратар, які называўся мурграфам ці бургграфам. Напрыклад, у 1803 г. мурграфам палаца Агінскіх быў Бяляўскі[82], палаца генерала артылерыі Аляксандра Сапегі – Тадэвуш Вяжбоўскі, а бургграфам палаца Сангушкаў-Патоцкіх у XVIII ст. – Міхал Дамброўскі[83]. У 1726 г. адміністратарам гарадзенскага па-

[79] [Spis mieszkańców Grodna w 1794 r.] // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku), red. A. Woltanowski i J. Urwanowicz. Białystok, 1997. S. 144.

[80] Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 50.

[81] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1496, арк. 3.

[82] НБ ПАУ і ПАН у Кракаве, № 5885, арк. 50.

[83] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 13, арк. 890; [Spis…]. S. 68, 69, 83, 89, 91; Рябинин И. Архив Царства Польского. Москва, 1914. С. 72.

лаца Паўла Караля Сангушкі стаў мешчанін Юзаф Судан, аўтар інвентару сядзібы, які штогод меў атрымоўваць 250 злотых[84]. Па звестках 1794 г., дворыкам маршалка Лідскага павета Александровіча таксама кіраваў бурграф[85]. У 1794 г. Міхал Паплаўскі быў названы ўпаўнаважаным канюшага вялікага літоўскага Даменіка Александровіча[86].

Асоба, якая загадвала пасэсіяй, магла называцца "гаспадаром". Напрыклад, у інвентары дворыка літоўскай канюшанкі княгіні Караліны Радзівіл у 1678 г. быў згаданы "gospodarz"[87]. У 1740 г. згадваецца "гаспадар" ("gospodarz Karol Eohler") палаца з юрыдыкай падскарбія надворнага літоўскага Юзафа Францішка Сапегі на Падольскай вуліцы. У інвентары пасэсіі, які датуецца 1745 г., быў названы юрыдычанінам і наглядчыкам палаца ("juryzdyczanin i dozorca tego pałacu)". У яго абавязкі ўваходзіў нагляд за станам пабудоў і садам[88].

Даволі разгалінаваным быў адміністрацыйны апарат комплексу нерухомай маёмасці Караля Станіслава Радзівіла і яго пляменніка Даменіка Радзівіла. Гэты апарат, згодна з дадзенымі 1784 г., узначальваў наменік палацаў і юрыдык Ян Гурскі[89]. Наменікі былі ў паасобных радзівілаўскіх палацаў. У 1794 г. пасаду намесніка палаца, што стаяў на Рынку, займаў Іеранім Абраміцкі[90].

Адшуканыя крыніцы дазваляюць правесці рэканструкцыю структуры адміністрацыйнага апарату фальварка Гнойніца і занёманскай юрыдыкі. Так, у 1752 г. ім загадваў адміністратар Сяліцкі ("Pan Sielicki administrator folwarku Gnojnica i całej juryzdyki"). Свайго войта мелі хрысціянскія

[84] Perłakowski A. Dole… S. 57.

[85] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 13, арк. 890; [Spis…]. S. 68, 69, 83, 89, 91; Рябинин И. Архив… С. 72.

[86] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 16, арк. 361–362.

[87] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 21–25.

[88] ГАСА, Роскі архіў, 768, арк. 75, 77.

[89] У крыніцах XVIII ст. згадваецца "наменік юрыдык" у Вільні, якія належалі віленскаму ваяводу Радзівілу (ЛДГА, СА 4540, арк. 8).

[90] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1496.

жыхары занёманскай юрыдыкі: “Васіль Зянкевіч войт”[91]. У адным з фінансавых дакументаў канца XVIII ст. былі пералічаны заробкі службовага занёманскага “рылавецкага” палаца: дзясятніка – 24, вартаўніка – 240, мурграфа – 120, намесніка Абраміцкага – 800 злотых[92].

У апошняй частцы інвентару фальварка Гнойніца 1752 г. змешчаны кампетэнцыі адміністратара. Так, у адпаведнасці з “Punktami…”, апошняму перадавалася поўнае кіраванне фальваркам Гнойніца і юрыдыкай, гаспадарчы парадак і ўраджай (“porządek gospodarki i krescencja”). У яго задачы ўваходзіла ахова межаў уладанняў, развіццё бортніцтва і рыбнай гаспадаркі, за якой наглядаў садоўнік і за якую павінен атрымліваць “страўнае” (“strawne”), здача ў наймы свірнаў і пляца на Падоле. Адміністратар не меў права пашыраць павіннасны цяжар, быў абавязаны дапамагаць жыхарам юрыдыкі звяртацца да ўладальніка са скаргамі, клапаціцца пра стан млыноў, арандаваць і дбаць пра плыты на Нёмане ды стан карчмы[93].

У 1795 г. на чале адной з юрыдык віленскага біскупа Ігнацыя Масальскага, што размяшчалася на Скаліманаўскай вуліцы, таксама стаяў войт Ежы Кшыштафовіч (“Jerzy Krzysztofowicz wójt nie płaci”), які, што цікава, не плаціў уладальніку чынш[94].

Надзвычай цікавая крыніца – прыходна-расходныя дакументы магнацкіх юрыдык. Напрыклад, у рахунку прыходаў і расходаў палаца і юрыдык падкаморыча Дамініка Радзівіла (“Rachunek percepty i expensy z pałacu i jurydyk grodzieńskich JOX Dominika Radziwiłły podkomorzyca litewskiego”) у перыяд ад 30 сакавіка 1793 да 1 студзеня 1795 г. падрабязна распісана выдаткаванне сродкаў: на “выціранне” комінаў, рамонт каралямі замкоў і клямак ці выраб ключоў, рамонт мулярам даху і комінаў, абкладанне печаў вогнетрывалай цэглай, а таксама направу вадасцёкавых труб і іх ачыстку, выраб новых шыбаў шкляром

[91] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 228, 231.
[92] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1495, арк. 7.
[93] ГАСА, АР, аддз. XVIII, 323, арк. 231–233.
[94] НГАБ, ф. 1761, воп. 1, спр. 16, арк. 427.

ці новых ліхтароў бляхаром. Агульным чынам выдаткі ўладальніка (“expensa”) склалі 4534 злотыя і 12 грошаў, з чаго ў скарбе засталося 207 злотых і 16 грошаў 15 дынарыяў[95].

Прыходна-расходная ведамасць утрымання палаца Дамініка Радзівіла за 1795–1797 г. складалася з расходнай часткі. У ёй улічаны выдаткі рамонтаў палаца (кошт працы рамеснікаў ды будаўнічых матэрыялаў), зафіксаваны сродкі, унесеныя наймальнікамі падвальных памяшканняў, выдаткі на асвятленне палаца ліхтарамі, а таксама на ўтрыманне пустога палаца Радзівілаў за Нёманам[96].

Адным з галоўных падаткаў у Рэчы Паспалітай, які складаў значную частку паступленняў скарбу, было падымнае[97]. У Вялікім Княстве Літоўскім падатак збіраўся з паасобнай сядзібы ў залежнасці ад яе характару, у адрозненне ад Польшчы, дзе падымны падатак налічаўся ад колькасці комінаў на даху дома.

Згодна з тарыфам падымнага падатку Гародні 1775 г., шляхецкія ўладальнікі гарадскіх сядзіб былі абавязаны ўносіць штогод: 50 злотых (мураваныя ці драўляныя палацы Бжастоўскіх, Радзівілаў, Масальскіх, Жавускіх), 30 злотых (камяніцы Тызенгаўза і Вольмера, карчма Сангушкі ў Рынку), 12 злотых (дворык Агінскага за Нёманам ці Стрыенскіх, карчма Валя), 4 злотыя (дом літоўскага канюшага Александровіча). Падымнае плацілі таксама карыстальнікі юрыдыкавых пляцаў. Памеры падымнага ваszármaz галіся. Напрыклад, за дамы і камяніцы жыхары юрыдыкі Масальскіх на Замкавай вуліцы ўносілі ад 4 да 30 злотых. Але, як правіла, юрыдычане ўносілі па 4 злотыя (юрыдыкі Масальскіх і Александровічаў на Скаліманаўскай вуліцы)[98]. У прыходна-расходную ведамасць утрымання палаца Дамініка Радзівіла на Рынку была ўнесена графа:

[95] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1496, арк. 3–10.

[96] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1495, арк. 1–6.

[97] Rybarski R. Skarbowość Polski w dobie rozbiorowej. Kraków, 1937. S. 243; Kościałkowski S. Antoni Tyzenhauz… T. 2. Londyn, 1971. S. 155.

[98] ЛДГА, ф. 11, воп. 1, спр. 18584, арк. 1–3.

"на публічныя падаткі", што, відаць, сведчыла пра падымнае за 1795–1797 г.[99].

Існавалі асобныя гарадскія плацяжы, іх былі абавязаны ўносіць шляхцічы, якія будаваліся на гарадскіх пляцах. Такім чынам, гэтыя сродкі папаўнялі бюджэт горада, складаючы яго "prowent", г. зн. даход. У 1775 г. быў складзены "Dyspartyment Szlach[etnego] Magistratu Grodzień[skiego] na podatek miejski z placów miejskich", у якім можна сустрэць наступныя фармулёўкі: "place miejskie, na których dwór JW. JP Aleksandrowicza podkomorzego pttu lidzkiego", "place miejskie, na których pałac JO Xiążąt Sanguszków", "place miejskie officinami JOO Xiążąt Czartoryskich woj[ewo]dów ruskich zabudowane"[100]. У "Dyspartymencie prowentów miasta JKMśći Grodna na ratą marcową…" 1783 г. асобна ўведзены дзве графы: "placowe" і "podymne". Такім чынам, "пляцавы" быў мясцовым гарадскім падаткам, які ўносіўся ад карыстальнікаў участкаў, якія ўваходзілі ў склад гарадскога зямельнага фонду. Напрыклад, пляцавае з рынкавых сядзіб Тызенгаўза, Сангушкі склала 8 злотых. За тры пляцы, на якіх быў пастаўлены палац Сангушкаў, было налічана 12 злотых, а за гарадскі ўчастак у Нямецкім рынку, забудаваны дворыкам Ваўкавыцкага – 4 злотыя[101].

## Падсумаванне

Генезіс гарадскіх зямельных комплексаў шляхты здаўна прыцягваў увагу даследчыкаў. Разам з гісторыяй узнікнення і развіцця тых ці іншых юрыдык нельга не заўважыць, што не меншага вырашэння патрабуе пытанне арганізацыйна-эканамічнага аспекту іх дзейнасці.

Не выклікае сумнення, што гарадская нерухомая маёмасць у перыяд Новага часу прыцягвала прадстаўнікоў шляхецкага саслоўя. Гарадскія пляцы былі аб'ектам капіталаўкладання, што вынікала з розных прычын. Сказанае схіляе да думкі аб неабходнасці высвятлення праблемы

[99] ЛДГА, ф. 459, воп. 1, спр. 1495, арк. 6.
[100] ЛДГА, СА 3862, арк. 3, 12адв.
[101] Тамсама, арк. 68.

прычыннай абумоўленасці гэтай з'явы. Адказ на гэтае пытанне нельга лічыць адназначным і ў выпадку Гародні абмяжоўваць яго соймавым характарам.

Акрамя фактару прэстыжнасці ды палітычнай "прыцягальнасці", шляхта імкнулася набываць пляцы па іншых прычынах. Паасобны забудаваны пляц мог разглядацца яго ўласнікам выключна ў катэгорыях сродку фінансавых укладанняў у мэтах узбагачэння. На карысць такой думкі сведчыць аналіз арганізацыі ўнутранай прасторы пасэсій, забудаваных дворыкамі і палацамі з комплексам гаспадарчых і вытворчых будынкаў. Гэта азначае, што функцыянальны характар сядзібы нярэдка залежаў ад непасрэдных побытавых патрэб сярэднезаможняга шляхціча, які прыязджаў у горад на соймік, вырашаў судовыя і гаспадарчыя справы. Такім чынам, горад быў не толькі рэгіянальным адміністрацыйным цэнтрам. Гарадскі рынак і яго інфраструктура выкарыстоўваліся шляхтай у мэтах рэалізацыі прадукцыі сваёй гаспадаркі на гарадскім рынку ці перасоўвання таварных плыняў па Нёмане[102]. Напэўна таму дворык ці камяніцу ў горадзе можна патлумачыць як адно са звёнаў арганізацыйна-эканамічнага цыкла шляхецкай гаспадаркі. Пытанне, у якой ступені гарадскія сядзібы прыносілі шляхце даходы, а іх утрыманне акуплялася, застаецца адкрытым і патрабуе дадатковага разгляду.

Акрамя таго, азнаямленне з даступнымі крыніцамі дазваляе зрабіць высновы, што эвалюцыя шляхецкай уласнасці ў горадзе – гэта прыклад экстрапаляцыі суадносін сілаў розных магнацкіх родаў на рынак гарадской нерухомай маёмасці, што прасочваецца на прыкладзе размяшчэння паасобных сядзіб Масевічаў ды Сапегаў.

Адначасова трэба адзначыць, што вывучаныя крыніцы могуць быць цікавымі не толькі для гісторыкаў, але і для этнографаў у плане даследавання гісторыі беларускай матэрыяльнай культуры (назвы ўчасткаў, жылых і гаспадарчых збудаванняў, мэблі, печак і агароджы), разуменне якой не павінна абмяжоўвацца прасторай вёскі[103].

[102] Zielińska T. Szlacheccy właściciele… S. 115.
[103] Сцяцко П. Народная лексіка і словаўтварэнне. Мінск, 1972.

# Immovable Property of Nobility in Hrodna, the Second Half of the 17th and the 18th Century

(Organisational and Economic Aspects of the Functioning)

**Jury Hardziejeŭ**

*Jurydyka* may be defined as an immovable property of nobility or clergy excluded from municipal jurisdiction. These enclaves of nobility's real estates have been rising in the modern times in royal cities of the Grand Duchy of Lithuania. This trend can be also seen in royal city Harodnia where a considerable amount of real property of nobility have been formed. Thus, this article attempts to analyze reasons of economic activity of nobility on the property market of Harodnia. A lot of useful information can be gleaned from inventories of nobility's real estates.

The impact of a parliamentary character of this city and visits of Kings on the situation in the real estate market should be taken into consideration. At the same time, Harodnia was a center of a district. There were many institutions in the city, for example, courts, local dietine or schools. In view of this, I have pointed the main areas of interest of nobility in the city. They invested in urban land, bought lots and buildings, traded on this market, used navigable river.

Residences of magnates had their own self-government. They were a source of income for nobility. At the same time expenses for the upkeep of the estates were one of the main expense items of the owners.

# Замах на сям'ю: сексуальная рэвалюцыя 1920-х г. у БССР на старонках перыядычнага друку

**Аляксандр Гужалоўскі**

*Ідэя сексу дазваляе выявіць тое,*
*што робіць уладу ўладаю.*
Мішэль Фуко

Базавыя інстынкты чалавека, у тым ліку сексуальны, ніводная чалавечая цывілізацыя не была здольная забараніць ці адмяніць. Аднак усе цывілізацыі выпрацоўвалі сістэмы рэгулявання сексуальнага інстынкту ў выглядзе маральных і юрыдычных забарон. Таталітарныя дзяржавы, што існавалі ў XX ст., пайшлі далей і паспрабавалі выкарыстаць сексуальную энергію насельніцтва – гэты адвечны рухавік – як інструмент сацыяльнага інжынірынгу. У СССР змена сексуальнасці і сексуальных паводзінаў людзей была абумоўлена зменаю правіцеляў і палітычнага курсу краіны. Сексуальнасць у Савецкім Саюзе прайшла цыкл ад нечуванай свабоды 1920-х г. праз кансерватызм эпохі сталінізму і адносна ліберальныя дзесяцігоддзі "развітога сацыялізму" да сексуальнага буму канца 1980-х – пачатку 1990-х г.

Першае дзесяцігоддзе пасля перамогі бальшавікоў характарызавалася неверагоднай, нават па сённяшніх мерках, свабодай нораваў. Рэвалюцыйныя змены ў сексуальных адносінах, што адбыліся ў Савецкай Расіі на працягу першага паслярэвалюцыйнага дзесяцігоддзя і атрымалі назву "сексуальнай рэвалюцыі"[1], добра апісаны расій-

[1] Услед за аўтарам тэрміна – аўстра-амерыканскім псіхолагам В. Райхам – мы разумеем сексуальную рэвалюцыю як працэс

скімі[2] і замежнымі[3] даследчыкамі. Водгукі савецкай сексуальнай рэвалюцыі 1920-х г. мы знаходзім на старонках прац некаторых беларускіх вучоных, што даследуюць гендарныя аспекты мінуўшчыны[4]. Аднак у якасці самастойнага аб'екта даследавання гэтая праблема не ўздымалася.

і вынік істотных зменаў у сексуальным жыцці грамадства, якія характарызуюцца з'яўленнем новых каштоўнасцяў, арыентацый, нормаў, санкцый і сексуальных адносінаў, што разнявольваюць асобу і грамадства (Райх В. Сексуальная революция. Москва: АСТ, 1997. 352 с.).

2 Кон И. Клубничка на березке. Сексуальная культура Росии. Москва, 2010.

3 Carleton G. Sexual Revolution in Bolshevik Russia. University of Pittsburgh Press, 2005.

4 Гапова Е. Между войнами: женский вопрос и национальные проекты в Советской Белоруссии и Западной Беларуси // Гендерные истории Восточной Европы. Сб. науч. ст. / под ред. Е. Гаповой, А. Усмановой, А. Пето. Минск, 2002. С. 100–123; Дулов А. Брак, семья, материнство в государственной политике БССР 1920-х – первой половины 1930-х гг. // Женщины в истории: возможность быть увиденными: Сб. науч. ст. / под ред. И. Чикаловой. Минск, 2004. Вып. 3. С. 218–235; Жыбуль В. Сэксуальны гвалт у беларускай савецкай літаратуры // Terra alba. Т. 2. Homo Venerus: Сэксуальная прастора беларускай культуры / пад рэд. С. Даніленкі. Магіл. тав-ва гуманіт. інтэлект. і культ. ініцыятыў "Брама". Мінск, 2001. С. 179–186; Курков И. Гендерный строй белорусской деревни // Иной взгляд. 2000. Март. С. 25–26; Лавриновская И. Трансформация семейно-брачных установок сельской женщины Беларуси в XX в. (1900–1991 гг.) // Научные труды Республиканского института высшей школы. Серия "Исторические и психолого-педагогические науки". Вып. 11. Ч. 1. Минск, 2011. С. 111–117; Усманова А. О марксистской теории любви // Топос. 2010. № 3. С. 195–227; Чикалова И. Гендерная система (пост)советской Беларуси: воспроизводство и трансформация социальных ролей в публичной и приватной сфере // Российские и славянские исследования. Минск, 2009. С. 51–66; Шевелев П. Брачные узы по-новому // Беларуская думка. 2014. № 1. С. 95–97; Яковлева Г. Общественное и частное в жизни женщин г. Витебска (начало 20-х гг. XX в.) // Женщина. Образование. Демократия. Мат-лы 3-й международной междисциплинарной научно-практической конференции (8–9 декабря 2000 г.) / под общ. ред. Г. Шатон. Минск, 2001. С. 282–283.

1920-я г. традыцыйна разглядаюцца ў беларускай гістарыяграфіі ў кантэксце беларусізацыі або правядзення ў рэспубліцы новай эканамічнай палітыкі. Аўтар паспрабаваў паглядзець на гэтае дзесяцігоддзе праз прызму найбольш "нябачнай" для гісторыкаў сферы чалавечага жыцця – сексуальных адносінаў. Выбар гэтага ракурсу невыпадковы. Менавіта ў першае паслярэвалюцыйнае дзесяцігоддзе СССР стаў полем эксперыменту, трансфармацыі мадэлі гендарных адносінаў. Невыпадковы таксама выбар кола першакрыніц. Газеты і часопісы ліберальных 1920-х г. адкрыта абмяркоўвалі сексуальную сферу чалавечага жыцця, а таксама звязаныя з ёю пачуццё кахання, бяспеку, уласныя каштоўнасці.

## Тэарэтычныя пошукі

Адносіны еўрапейцаў да сексу да пачатку XX ст. базаваліся перш за ўсё на традыцыйнай хрысціянскай маралі, таму на працягу стагоддзяў гэтая тэма была табуяванай, секс лічыўся непрымальным па-за шлюбам, як непрымальнымі былі кантрацэптывы і аборты. Развіццё навукі, падзенне аўтарытэту царквы, а таксама пераход ад аграрнага да індустрыяльнага грамадства прывялі да размывання хрысціянскага маральнага канона. Суфражысткі і іх паслядоўніцы феміністкі на мяжы XIX–XX ст. актыўна распаўсюджвалі сярод жанчын ідэю іх роўнасці з мужчынамі, што кардынальным чынам адбілася на сексуальных адносінах.

Сацыялісты ўключылі гендарнае пытанне ў сваю праграму, прычым адразу ж абвясцілі сацыялізм адзіным ладам, які здольны гэтае пытанне канчаткова вырашыць. У адпаведнасці з марксісцкім вучэннем жанчыны знаходзіліся пад двайным прыгнётам – капіталу і буржуазнай сям'і. Пралетарская рэвалюцыя мусіла знішчыць прыватную ўласнасць, а разам з ёю і сям'ю.

Ужо ў "Камуністычным маніфесце", які з'явіўся ў 1848 г., заснавальнікі навуковай камуністычнай тэорыі палемізавалі з крытыкамі сацыялізацыі жонак. "Зрэштай, няма нічога сьмяшнейшага, як высока-моральнае абурэньне нашых буржуёў проціў нібыта афіцыяльнай супольнасьці жанок пры комуністычным ладзе. Тымчасам, комуністым няма

патрэбы заводзіць супольнасьць жанок, бо гэтая супольнасьць была бадай што заўсёды". Наступны пасаж класікаў крыху прыўздымае завесу над таямніцай адносінаў палоў пры камунізме: "У рэчавістасьці буржуазнае малажонства (шлюб) зьяўляецца супольнасьцю жанок. Комуністых можна было б упікнуць хіба ў тым, што яны хочуць паставіць адкрытую супольнасьць жанок на месца брыдкай, патаемнай"[5]. Акрамя абмеркавання вяртання да палігамных адносінаў пры камунізме К. Маркс і Ф. Энгельс на адной са старонак свайго праграмнага дакумента паведамлялі пра намер камуністаў замяніць хатняе выхаванне дзяцей грамадскім.

Тэму свабоднага кахання ў камуністычным грамадстве ў 1879 г. у працы "Жанчына і сацыялізм" развіў вядомы барацьбіт за правы жанчын, германскі сацыял-дэмакрат А. Бебель. У 1920 г. у размове з К. Цэткін думку пра тое, што сексуальнай рэвалюцыі папярэднічае рэвалюцыя сацыяльная, выказаў У. Ленін: "У галіне шлюбу і палавых зносінаў набліжаецца рэвалюцыя, сугучная пралетарскай рэвалюцыі"[6]. Разам з тым, паводле ўспамінаў нямецкай камуністкі, ён не ўхваляў празмерныя захапленні тэорыяй полу і ўвагай да палавых зносінаў, заклікаў моладзь займацца фізічнымі практыкаваннямі замест сексу.

Найбуйнейшым тэарэтыкам у галіне гендарных адносінаў у рускай сацыял-дэмакратыі была А. Калантай, погляды якой уяўлялі сабой складаны сімбіёз фемінізму і марксізму. Яна лічыла, што толькі свабодныя і, як правіла, шматлікія сексуальныя сувязі дазволяць жанчыне захаваць уласную індывідуальнасць у грамадстве, дзе гаспадарыць мужчыны. Першую сур'ёзную тэарэтычную працу на гэтую тэму пад назвай "Сацыяльныя асновы жаночага пытання" яна напісала ў 1909 г. Сярод вялікага фактычнага матэрыялу, які характарызаваў працу і побыт жанчын у Расійскай імперыі, мы знаходзім тут яшчэ вельмі няпэўныя контуры новых сексуальных адносінаў пры сацыялізме: "Пасля пераносу выхавальніцкай функцыі з сям'і

[5] Маркс К., Энгельс Ф. Комуністычны маніфэст / пер. Я. Лёсіка. Менск, 1924. С. 41.

[6] Цеткин К. Воспоминания о Ленине. Москва, 1925. С. 15.

на грамадства знікне апошняе замацаванне сучаснай закрытай сямейнай ячэйкі… На змену сучаснай прымусовай форме шлюбу ідзе вольны саюз свабодных індывідуумаў… Ідэал свабоднага кахання несумненна адпавядае той норме адносінаў паміж паламі, якое ўсталюе калектывісцкае грамадства"[7]. У рэчышчы крытыкі "буржуазнай сям'і" і "буржуазнай падвойнай маралі" аўтарка выказвала ўпэўненасць, што ў недалёкай будучыні "палавая маральнасць зробіцца справай асабістага сумлення кожнага"[8].

У самы разгар грамадзянскай вайны А. Калантай напісала брашуру "Новая мараль і рабочы клас", дзе развіла свае погляды на каханне і сексуальныя адносіны ў новым грамадстве. Гэтая брашура была напісана пад уплывам папулярнай на той час кнігі нямецкай феміністкі Г. Мейзель-Хес "Сексуальны крызіс" (1911), дзе сцвярджалася, што сучасная палавая мараль – фікцыя, а традыцыйны шлюб супярэчыць прыродзе чалавека і забівае каханне. Напачатку А. Калантай намалявала партрэт ідэальнай жанчыны, сканцэнтраванай на працы, але разам з тым не варожай да "зямных радасцяў". Гэтыя жанчыны – не ўласніцы. Паважаючы пачуцці іншых, яны з разуменнем ставяцца да жанчын-саперніц і патрабавальна да мужчын, даруючы ім здраду, але не ігнараванне свайго духоўнага пачатку. А. Калантай выступіла супраць трох асноўных формаў сексуальных зносінаў: легальнага шлюбу, які, на яе думку, супярэчыць мабільнай чалавечай псіхіцы; свабоднага саюзу, што вымагае вялікіх выдаткаў часу і духоўных сіл; прастытуцыі. Замест гэтых старых формаў яна прапанавала там, дзе адсутнічае вялікае каханне (а яно, як вядома, адсутнічае ў абсалютнай большасці выпадкаў), практыкаваць "каханне-гульню" або "эратычнае сяброўства". Гэтую форму сексуальных адносінаў трэба разумець як "школу кахання", "назапашванне любоўнай патэнцыі", яна не замінае грамадскаму і асабістаму жыццю партнёраў. Ідэал А. Калантай – гэта манагамны саюз, заснаваны на "вялікім каханні". Але "не бяззменны"

[7] Коллонтай А. Социальные основы женского вопроса. С.-Петербург, 1909. С. 219.

[8] Тамсама. С. 171.

і не застылы. Чым складанейшая псіхіка чалавека, тым непазбежнейшыя “змены”. Таму, на яе думку, найбольш распаўсюджанай формай палавых зносінаў пры сацыялізме будзе “канкубінат” або “паслядоўная манагамія”. Побач з гэтай формай будзе існаваць цэлая гама разнастайных відаў зносінаў у межах “эратычнага сяброўства”[9].

У 1920 г., пасля смерці І. Арманд, А. Калантай на непрацяглы час заняла пасаду загадчыцы жаночага аддзела ЦК УКП(б). Такім чынам, яна атрымала магчымасць не толькі прапагандаваць свае радыкальныя марксісцка-феміністычныя погляды праз друк і лекцыі, але і праводзіць іх у жыццё адміністрацыйнымі метадамі. Пра эвалюцыю гэтых поглядаў сведчыць апошняя праца А. Калантай на тэму сексуальнай маралі “Дарогу крылатаму Эрасу!”[10], адрасаваная, як сведчыць падзагаловак, працоўнай моладзі.

Гутарка ў гэтай працы ідзе пра новыя адносіны паміж мужчынам і жанчынай, якія рэалізуюцца ў выглядзе разнастайных любоўных саюзаў свабодных і раўнапраўных членаў працоўнага калектыву. У прыватнасці, аўтарка піша: «Каханне стала шматгранным, шматструнным… Усё цяжэй пры такой складанасці адценняў кахання наладзіць непасрэдную сувязь паміж “Эрасам бяскрылым” (цялеснай цягай) і “Эрасам крылатым” (цялеснай цягай, змяшанай з душэўнымі эмоцыямі)». Далей А. Калантай развівае ўласную думку пра шматграннасць кахання, “якое само па сабе не супярэчыць інтарэсам пралетарыяту”: “Аднаго жанчына кахае вярхамі душы, з ім сугучныя яе думкі, імкненні, жаданні; да другога яе цягне цялесная сіла. У адносінах да адной жанчыны мужчына адчувае пачуццё ашчаднай пяшчоты, у іншай ён знаходзіць падтрымку і разуменне ўласнага я. Якой жа з дзвюх ён павінен аддаць паўнату Эраса? І чаму ён павінен ірваць, нявечыць сваю душу, калі

9 Коллонтай А. Новая мораль и рабочий класс. Москва, 1919. С. 1–61.

10 Гэты артыкул быў напісаны А. Калантай у Нарвегіі, неўзабававе пасля бурлівага рамана і трагічнага развітання з маладым матросам-балтыйцам П. Дыбенкам, адносіны з якім ставілі пад сумненне практычную значнасць яе тэарэтычных пошукаў у галіне кахання.

паўнату быцця дае толькі наяўнасць адной і другой духоўнай повязі?”. Такім чынам, на яе думку, “ключ да вырашэння праблемы загадкавага кахання да дзвюх і да трох, якая была не па зубах прадстаўнікам буржуазнага грамадства, цяпер апынулася ў руках пралетарыяту”. Засцерагаючы моладзь ад захаплення выключна “бяскрылым Эрасам”, галоўная феміністка Савецкай Расіі ў той жа час тлумачыла ёй: “Мараль рабочага класа… адкідае знешнюю форму любоўных адносінаў палоў. Для класавых задач рабочага класа зусім няважна – ці набывае каханне форму працяглага і афармленага саюзу, ці выяўляецца ў форме сувязі, якая мінае. Ідэалогія рабочага класа не ставіць аніякіх фармальных межаў для кахання”[11].

Увасабленню ў сексуальных адносінах шчырасці, асабістай незалежнасці і эратычнай радасці павінны былі спадарожнічаць новыя формы сужыцця і выхавання дзяцей. У 1920 г. А. Калантай падтрымала заканадаўчую легалізацыю абортаў у РСФСР (і адпаведна – у БССР), якія лічыла часовай з’явай. Яна выступала за перадачу дзяцей са згоды маці на выхаванне ў дзяржаўныя ўстановы, для чаго насельніцтва трэба было абкласці спецыяльным падаткам. Важнай умовай пабудовы новага побыту было супольнае пражыванне ў звязаных з вытворчымі калектывамі домкамунах, дзе вядзенне гаспадаркі ўскладалася на спецыялістаў.

Ідэі А. Калантай, накіраваныя на разбурэнне традыцыйнай сям’і, актыўна абмяркоўваліся на старонках тагачаснага савецкага друку, у тым ліку беларускага. Галоўная газета рэспублікі “Звязда” змяшчала артыкулы ў падтрымку жанчын, якія наважыліся пайсці насуперак старой маралі і пакінуць нялюбага мужа дзеля новага, вольнага кахання[12]. Абмяркоўваліся таксама практычныя пытанні пабудовы новага побыту. Напрыклад, у канцы 1925 г. газета змясціла артыкул жаночай актывісткі Ц. Камінскай у падтрымку ідэі А. Калантай пра неабходнасць увядзення

[11] Коллонтай А. Дорогу крылатому Эросу! (письмо к трудящейся молодежи) // Молодая гвардия. 1923. № 3 (10). Май. С. 111–124.

[12] Гл. напр.: Правдин. Женщина, которая осмелилась… // Звезда. 1927. № 91. 21 апр. С. 2.

невялікага падатку на халастых і бяздзетных, які пойдзе на калектыўнае выхаванне дзяцей[13].

Прыхільнікам новых, свабодных адносінаў паміж паламі давалі слова таксама рэдактары беларускіх рэгіянальных газет. У 1923 г. гомельскі спецыяліст па ахове мацярынства і дзяцінства Г. Серман у спецыяльным артыкуле, прысвечаным барацьбе за новы побыт, пісаў: "Можа быць, гэтыя новыя формы сям'і ўжо знойдзены. Можна меркаваць, што арганізацыя грамадскага харчавання, дзяржаўнага выхавання дзяцей адыграе пэўную разбуральную ролю. Нам трэба гэтую з'яву ўзмацніць і паглыбіць. І гэтую ролю павінны ўзяць на сябе Саветы"[14]. У тым жа годзе карэспандэнт газеты "Палеская праўда" А. Іркутаў выступіў з рэзкай крытыкай класічных і эстрадных танцаў з зусім нечаканага боку: як пошлую, мяшчанскую прэлюдыю да кахання. На ягоную думку, новая савецкая моладзь, у адрозненне ад мяшчанскай, не павінна "…хаваць сваё каханне, сваё здаровае імкненне адзін да аднаго з-за цэлай арміі дурных і дробных забабонаў"[15].

У 1925 г. рэдакцыя віцебскай газеты "Зара Захаду" паведаміла чытачам пра гурток побыту, які дзейнічаў пры ёй. На паседжаннях гуртка абмяркоўваліся пераважна пытанні барацьбы са спадчынай мінулага ў выглядзе ненармальных адносінаў паміж мужчынамі і жанчынамі – прастытуцыі, абортаў, венерычных захворванняў, палавых вычварэнняў. Разглядаліся і пытанні пра будучыню. Так, на паседжанні 8 лютага 1925 г. было вырашана ўвесці "…простасць, нармальную, натуральную неабходнасць у палавыя зносіны… якія працягваюць заставацца сакрэтна-забароненым, таямнічым, пра што гавораць шэптам, чаго дамагаюцца хітрыкамі"[16]. У студзені 1925 г. сяб-

[13] Каминская Ц. О ликвидации дел "алиментных" // Звезда. 1925. № 291. 19 дек. С. 3.

[14] Серман Г. Советы и борьба за быт // Полесская правда. 1923. № 1061. 30 нояб. С. 2.

[15] Иркутов А. Где мы теряем время и силы // Полесская правда. 1923. № 946. 14 июля. С. 3.

[16] Круглов Ф. Почему мы ставим половой вопрос // Заря Запада. 1925. № 31. 8 февр. С. 3.

ры гуртка ў поўным складзе наведалі лекцыю-дыспут “Як і навошта мы бярэмся шлюбам”, што адбылася ў Віцебскім гарадскім тэатры[17]. У снежні таго ж года Віцебскі тэатр не змог змясціць усіх ахвотных праслухаць лекцыю “Палавое рабства”, прачытаную вядомым дзеячам расійскага рэвалюцыйнага руху У. Пасэ, які “сакавіта і вобразна” распавядаў пра паэтыку палавога акта[18].

Брытанскі гісторык-марксіст Э. Гобсбаўм адзначаў, што яму “…невядомы аніводны рэвалюцыйны рух або рэжым, які б не развіваў пурытанскую тэндэнцыю, уключаючы марксісцкі рух, дактрына заснавальнікаў якога была далёка не пурытанская”[19]. Нямала прыхільнікаў такой пурытанскай тэндэнцыі – апанентаў А. Калантай – было ў савецкай эліце 1920-х г. Сярод апошніх мы знаходзім наркама асветы РСФСР А. Луначарскага, члена Палітбюро ЦК УКП(б) М. Бухарына, наркама аховы здароўя РСФСР М. Сямашку і інш. Усе яны выступалі супраць нястрыманасці ў адносінах паміж паламі, тлумачачы сваю пазіцыю тым, што неперабарлівасць у сексе ўласцівая буржуазнаму грамадству і вядзе да шкодных грамадскіх наступстваў. У 1924 г., відаць, не без падтрымкі “пурытан” выйшла папулярная праца савецкага псіхіятра А. Залкінда пад назвай “Дванаццаць палавых запаведзяў рэвалюцыйнага пралетарыяту”. Яе пафас быў накіраваны на ўпарадкаванне сексуальнага жыцця савецкіх мужчын і жанчын на аснове класавай, пралетарскай этыкі. А. Залкінд прапанаваў маладым будаўнікам сацыялізму не спяшацца браць шлюб, устрымлівацца ад выпадковых сувязяў, эканоміць сексуальную энергію для грамадскакарысных спраў, шукаць сексуальных партнёраў па класавай прыкмеце, пазбавіцца рэўнасці і, нарэшце, дазволіць класу ўмешвацца ў палавое жыццё сваіх членаў[20].

17 Круглов. Лекция-диспут Жернова // Заря Запада. 1925. № 10. 14 янв. С. 5.

18 Заря Запада. 1925. № 274. 2 дек. С. 3.

19 Hobsbawm E. Revolutionaries. L., Hachette. 2011. P. 252.

20 Залкинд А. Двенадцать половых заповедей революционного пролетариата // Философия любви: в 2 т. Москва, 1990. Т. 2. С. 224–255.

У траўні 1925 г. чытачы “Палескай праўды” маглі пазнаёміцца з артыкулам М. Бухарына, прысвечаным упарадкаванню побыту моладзі. Абмеркаванне праблемы на такім высокім узроўні сведчыла пра яе сур’ёзны характар. М. Бухарын заклікаў савецкую моладзь спыніць сексуальную рэвалюцыю, тлумачачы, што ад баявой, разбуральнай працы дзяржава перайшла да мірнага будаўніцтва. Ён, у прыватнасці, засцерагаў маладых чытачоў: “Чулі, напрыклад, некаторыя нашы юнакі і дзяўчаты, што вельмі рэвалюцыйным лічылася пляваць на ўсялякую сарамлівасць у галіне палавых зносінаў. Тады гэта быў рэзкі пратэст супраць сляпых забабонаў грамадства, супраць агідных законаў так званага сямейнага права, супраць прыніжэння жанчыны. Але людзі не разумеюць гэтага і па-ранейшаму лічаць, што максімум неўрэгуляванасці – самы святы закон”[21].

У 1926 г. рэдакцыя “Зары Захаду” змясціла вытрымку з лекцыі А. Луначарскага “Якім будзе сацыялістычны побыт”. З яе вынікала, што шлюб пры сацыялізме павінен быць парным, дзяцей павінны выхоўваць іх бацькі. Наркам асветы, пагаджаючыся з А. Калантай у пытанні пра неабходнасць вызвалення жанчын ад побыту і далучэння іх да будаўніцтва сацыялізму, палемізаваў з ёй адносна свабодных адносінаў паміж паламі і ўвядзення пяцірублёвага падатку на калектыўнае выхаванне дзяцей[22]. У наступныя гады пазіцыя А. Луначарскага ў палавым пытанні стала яшчэ больш кансерватыўнай. Ён прапанаваў глядзець на асобу з 5–6 разводамі як на злодзея, што мае за плячыма 5–6 крадзяжоў з узломам. Пад час публічнай лекцыі ў Мінску 18 лістапада 1928 г. ён заклікаў адмовіцца ад погляду на жанчыну як на прадмет асалоды, а таксама выказаўся супраць тых “новых” адносінаў, якімі “хванабэрацца многія маладыя шчалкапёры”[23].

[21] Бухарин Н. Об упорядочении быта молодежи // Полесская правда. 1925. № 122. 31 мая. С. 2.
[22] Полесская правда. 1926. № 286. 11 дек. С. 3.
[23] Зьвязда. 1928. № 267. 21 ліст. С. 4.

Новы тэарэтычны складнік у дыскусію пра адносіны палоў пры сацыялізме ўнёс малады прафесар БДУ С. Вальфсон. З 1926 г. 32-гадовы сацыёлаг змяшчаў у перыядычным друку фрагменты з манаграфіі "Сацыялогія шлюбу і сям'і", над якой працаваў. Ужо ў першай публікацыі ён сцвярджаў, што маральныя нормы ў чалавечым грамадстве – пачынаючы ад сораму дэманстрацыі ўласнага аголенага цела і канчаючы сорамам імкнення да палігамных сексуальных зносінаў – маюць умоўны, часовы характар. На ягоную думку, у адрозненне ад жывёл, якія спрадвеку падзяляліся і будуць падзяляцца на манагамных і палігамных, чалавечае грамадства "не знае адвечных і якія раз на заўсёды вызначаюцца маральных прынцыпаў… Сягоньня маральны прынцып – моногамія, учора і пазаўчора – полігамія, поліандрыя, дзесяткі іншых шлюбных форм, якія асьвечвала для свае эпохі сучасная мараль… пад ціскам эканомічнай патрэбы"[24].

У другой публікацыі, прысвечанай такой форме палавой забароны, як экзагамія, С. Вальфсон крытыкуе З. Фройда за ягоныя спробы тлумачыць сексуальныя паводзіны людзей з дапамогай "механістычных заалагічных упадабленняў". Прычым робіць ён гэта, выкарыстоўваючы цытату з працы Ф. Энгельса "Паходжанне сям'і, уласнасці і дзяржавы"[25], якая дапамагла аўтару зразумець вытокі поглядаў бальшавікоў на сексуальна-шлюбную сферу: "Узаемная ж цярпімасць дарослых самцоў, адсутнасць рэўнасці была першаю ўмоваю для ўтварэння такіх буйных і моцных груп, у асяроддзі якіх толькі і магло адбыцца пераўтварэнне жывёлы ў чалавека"[26].

[24] Вольфсон С. Лёс чалавечай маралі // Полымя. 1926. № 6. С. 59–73; № 7. С. 65–81.

[25] Ва ўводзінах да сваёй кнігі "Сям'я і шлюб у іх гістарычным развіцці", якая выйшла з друку ў разгар сталінскіх рэпрэсій, С. Вальфсон быў вымушаны прасіць прабачэння за "рад няправільных сцвярджэнняў і памылковых установак па пытаннях, звязаных з развіццём сям'і", у тым ліку за інтэрпрэтацыю думак Ф. Энгельса (Вальфсон С. Сям'я і шлюб у іх гістарычным развіцці. Менск, 1937. С. 4.)

[26] Вольфсон С. Экзогамия // Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску. 1928. № 20. С. 3–16.

Цалкам манаграфія С. Вальфсона "Сацыялогія шлюбу і сям'і" была выдадзена ў 1929 г. у выдавецтве БДУ. Коратка галоўную ідэю гэтай працы можна выкласці наступным чынам. Падзенне капіталізму прыводзіць да адмірання сям'і і сацыялізацыі выхавання дзяцей, а пасля канчатковай пабудовы сацыялістычнага грамадства дэзынтэграцыя сям'і дасягне свайго поўнага завяршэння. Кажучы пра правядзенне сексуальнай рэвалюцыі на Беларусі, дзе ў той час сяляне складалі больш за 80% насельніцтва, С. Вальфсон з задавальненнем адзначае, што "пасля рэвалюцыі пазашлюбная палавая сувязь зрабілася ў вёсцы даволі звычайнай з'явай... нарадзіўшая ў дзявоцтве – не закляймёная, як гэта было раней... развод стаў у савецкай вёсцы звычайнай з'явай". Свае словы пра крызіс сямейных адносінаў ("развесціся ў нас у пэўных выпадках лягчэй, чым адзначыцца выбыўшым у дамовай кнізе") ён ілюструе наступнымі лічбамі: з 1924 да 1927 г. колькасць шлюбаў на 100 тыс. насельніцтва ў БССР скарацілася з 1120 да 850, а разводаў – наадварот, павялічылася з 60 да 180.

На старонках кнігі С. Вальфсона, выдадзенай у год згортвання эксперыменту ў галіне сексуальных адносінаў у СССР, мы знаходзім водгукі дыскусіі, што адбывалася па гэтым пытанні па ўсёй краіне на працягу 1920-х г. Аўтар уступае ў завочную палеміку з праціўнікамі крайнасцяў сексуальнай рэвалюцыі. Так, выступаючы супраць вульгарна-матэрыялістычнага звядзення адносінаў паміж паламі да голай фізіялагічнай сувязі, супраць "тэорыі шклянкі вады"[27], ён рэзка крытыкуе "Дванаццаць палавых запаведзяў рэвалюцыйнага пралетарыяту" А. Залкінда, якія называе "дабрачынна-пастырскімі пропаведзямі". Аўтар таксама звяртае ўвагу чытача на небяспечную з'яву, што пачала набіраць моц сярод праціўнікаў новай палавой маралі – на ўваскрашэнне царкоўнага шлюбу. У заключэнне С. Вальфсон прызнаецца, што не ведае, якія будуць новыя формы

[27] "Тэорыя шклянкі вады" – распаўсюджаныя ў першыя гады савецкай улады погляды на каханне, якія зводзілі адносіны паміж мужчынам і жанчынай да інстынктыўнай фізіялагічнай патрэбы (заняцца сексам гэтак жа проста, як выпіць шклянку вады).

палавых зносінаў у сацыялістычным грамадстве. На яго думку, можна толькі меркаваць, што ў іх не будзе ані эканамічнага разліку, ані прымусу, яны не будуць абавязкова звязаныя са шлюбам і сям'ёй, для іх будзе неабавязковае сумеснае пражыванне партнёраў. А адзінае праяўленне дзяржаўнага кантролю палавых зносінаў грамадзян сацыялістычнага свету будзе мець еўгенічны характар у выглядзе забароны рэпрадукцыі па медыцынскіх паказчыках[28].

Не абмяжоўваючыся публікацыямі, С. Вальфсон прапагандаваў ідэі новай маралі і ў жывой аўдыторыі. У лютым 1929 г. ён выступіў на камсамольскім дыспуце "Ці патрэбнае нам сяброўства?", які адбыўся ў Мінску з удзелам прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук У. Ігнатоўскага. Ва ўступным слове дакладчык заклікаў зал распрацоўваць новыя формы сяброўства[29], "падпарадкаваныя клясе і рэвалюцыі"[30]. У кастрычніку 1929 г., запрошаны рэдакцыяй газеты "Чырвоная змена", ён рыхтаваўся да ўдзелу ў дыскусіі "Якой павінна быць камсамольская сям'я", якая, аднак, па загадзе зверху была адменена[31].

## Новае шлюбна-сямейнае заканадаўства

Падмурак новых шлюбна-сямейных адносінаў у СССР заклалі ўжо першыя дэкрэты савецкай улады, якія абвясцілі юрыдычнае разняволенне жанчыны, яе раўнанне ў правах з мужчынам ва ўсіх сферах жыцця. 18 снежня 1917 г. Ленін падпісаў дэкрэты "Аб грамадзянскім шлюбе,

[28] Вольфсон С. Социология брака и семьи (опыт введения в марксистскую генеономию). Минск, 1929. С. 375–449.

[29] Пафас прамовы С. Вальфсона быў сапсаваны наступнай запіскай з залы: "Скажэце, як мне паступіць, як ацаніць такое сяброўства. Я – рабочая дзяўчына сябравала з хлопцам-камсамольцам. Ён быў лепшы мой сябра на працягу некалькіх месяцаў. І што ж, чым скончылася наша сяброўства? Як толькі ён узяў мяне, – ён больш ня ведаў, не здароваўся, не гутарыў са мной. Я была ім ашукана. Мне стала ясна, што хлопец толькі дамагаўся свайго. Як жа паступіць з ім, як назваць такое сяброўства?".

[30] Каліта А. Ці патрэбна нам сяброўства? // Чырвоная зьмена. 1929. № 44. 24 лют. С. 4.

[31] Чырвоная зьмена. 1929. № 235. 15 кастр. С. 2.

аб дзецях і аб увядзенні кніг грамадзянскага стану"[32], 19 снежня – "Аб скасаванні шлюбу"[33]. Гэтыя дэкрэты пазбавілі мужчыну права кіраваць сям'ёй, дакляравалі матэрыяльнае і сексуальнае самавызначэнне жанчыны, абвясцілі яе права на выбар прозвішча, месца жыхарства і грамадзянства, чаго ў той час не было ні ў заходнееўрапейскіх краінах, ні ў ЗША. Асноўныя прынцыпы савецкай палітыкі ў галіне шлюбна-сямейных адносінаў былі замацаваны ў 1918 г. у "Кодэксе аб актах грамадзянскага стану, шлюбным, сямейным і апякунскім праве", які дзейнічаў таксама на тэрыторыі БССР[34]. Тут быў намаляваны правобраз камуністычнай сям'і, якая грунтуецца на ідэальным каханні дзвюх асобаў рознага полу. Уступленне ў шлюб дазвалялася мужчынам з 18 гадоў і дзяўчатам з 16 гадоў, але ў пэўных абставінах узроставая планка магла быць зніжаная. Ідучы за лозунгам эпохі ваеннага камунізму пра знішчэнне прыватных маёмасных адносінаў, Кодэкс прадугледжваў, што сям'я ў будучыні будзе цалкам вызвалена ад маёмасных ланцугоў.

Кодэкс прызнаў выключнае права ЗАГСаў рэгістраваць шлюбы. Царкоўны шлюб, а разам з ім і традыцыйная сям'я абвяшчаліся перажыткам. Нягледзячы на тое, што афіцыйна вянчанне забаронена не было, толькі зарэгістраваны ў ЗАГСе шлюб надзяляў мужа і жонку правамі і абавязкамі. Вянчанне ў культавых установах усіх канфесій было забаронена без папярэдняй афіцыйнай рэгістрацыі шлюбу ў ЗАГСе. Апошняе рашэнне было скасавана ў ліпені 1924 г. рашэннем Наркамата юстыцыі і Наркамата ўнутраных

32 Декрет ВЦИК, СНК РСФСР от 18.12.1917 "О гражданском браке, о детях и о введении книг актов гражданского состояния". [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://www.lawmix.ru/docs_cccp.php?id=8234

33 Декрет ВЦИК, СНК РСФСР от 19.12.1917 "О расторжении брака". [Электронный ресурс]. Режим доступа: http: //www.lawmix.ru/docs_cccp.php?id=8230

34 Кодекс законов об актах гражданского состояния, брачном, семейном и опекунском праве. Принят ВЦИК 16.09.1918 года. [Электронный ресурс]. Режим доступа: http:// www.lawmix .ru/docs_cccp.php?id=8o59

спраў БССР у сувязі з тым, што "рэлігійныя абрады зусім страцілі ўсялякае юрыдычнае значэнне для дзяржавы"[35].

Як частку дзяржаўнай палітыкі трэба разглядаць спробы ўжыць на практыцы вынікі еўгенічных даследаванняў, якія ў рамках сацыяльнай гігіены актыўна развіваліся ў СССР у 1920-я г. У жніўні 1923 г. Наркамат аховы здароўя БССР распрацаваў пастанову, адпаведна якой асобы, што збіраліся пабрацца шлюбам, павінны былі абмяняцца пасведчаннямі пра стан здароўя, у прыватнасці – пра наяўнасць у іх псіхічных, венерычных і іншых захворванняў, якія маглі перадацца нашчадкам[36].

Скасаванне шлюбу, у дарэвалюцыйны час звязанае з вялікімі цяжкасцямі, паводле Кодэкса 1918 г. максімальна спрашчалася. Развод ажыццяўляўся праз суд паводле пісьмовага ці вуснага звароту мужа або жонкі ці праз ЗАГС пры згодзе абодвух бакоў. Шлюб не прадугледжваў агульнай сямейнай маёмасці, што на практыцы прыводзіла да эканамічнай залежнасці жонкі ад мужа, паколькі большасць жанчын у той час былі хатнімі гаспадынямі. Сітуацыя ўскладнялася слабасцю дзяржаўных службаў сацыяльнай дапамогі адзінокім жанчынам з дзецьмі. У такіх эканамічных, юрыдычных, культурных рэаліях сексуальныя адносіны і ў горадзе, і ў вёсцы часта прыводзілі да сумных, а часам трагічных наступстваў, перш за ўсё для жанчын і дзяцей.

18 лістапада 1920 г. сумеснай пастановай наркаматаў юстыцыі і аховы здароўя РСФСР было дазволена штучнае перапыненне цяжарнасці ў медыцынскіх установах, незалежна ад таго, ці пагражае здароўю жанчыны далейшае выношванне плоду. Такім чынам, Савецкая Расія (а разам з ёю і Савецкая Беларусь) стала першай краінай свету, якая дазволіла ўласным грамадзянкам рабіць аборты. Гэты дазвол разглядаўся ўладай хутчэй як часовы захад, непазбежнае сацыяльнае зло, чым медыка-юрыдычная норма, якая дазваляла жанчынам самастойна прымаць рашэнні рэпрадукцыйнага характару.

[35] Звезда. 1924. 16 июля. № 162. С. 6.

[36] Врач Е. Ш-н. Здоровый брак // Звезда. 1923. 17 авг. № 191. С. 5.

Першы крымінальны кодэкс РСФСР 1922 г. (які дзейнічаў таксама на тэрыторыі БССР) захаваў пакаранні за такія віды сексуальных злачынстваў, як згвалтаванне і разбэшчванне непаўналетніх, за што вінаватыя неслі досыць мяккае пакаранне – 3–5, а пры абцяжвальных абставінах – 8–10 гадоў зняволення. Са старога, царскага "Укладання аб пакараннях" у савецкі крымінальны кодэкс не перайшлі артыкулы, якія прадугледжвалі ссылку ў Сібір за педэрастыю і скаталожніцтва. Не было адпаведных артыкулаў таксама ў крымінальным кодэксе БССР 1928 г.

Сацыяльна-эканамічныя рэаліі НЭПа вымагалі рэфармавання савецкага шлюбнага заканадаўства. Пры гэтым асноўнай праблемай стаў няпэўны статус жанчын, якія знаходзіліся ў незарэгістраваным, так званым фактычным шлюбе. Такія шлюбы былі распаўсюджаны сярод расійскай рэвалюцыйнай інтэлігенцыі, прадстаўнікі якой не хацелі брацца царкоўным шлюбам па ідэалагічных або канспіратыўных матывах. Нягледзячы на тое, што фактычныя шлюбы не згадваліся ў Кодэксе 1918 г., яны атрымалі шырокае распаўсюджанне (пераважна ў гарадах) і былі выгадныя для мужчын. Адпаведна, ахвярамі такіх шлюбаў у большасці выпадкаў рабіліся жанчыны з дзецьмі, бо факт бацькоўства ў судзе даказаць было вельмі цяжка. З-за падзелу маёмасці пад час разводу цярпелі і тыя жанчыны, якія знаходзіліся ў зарэгістраваным шлюбе.

Праект уласнага беларускага "Кодэкса законаў аб шлюбе, сям'і і апецы" быў вынесены на спецыяльнае абмеркаванне на жнівеньскай (1926) сесіі ЦВК БССР. Пад час абмеркавання вызначыліся два супрацьлеглыя падыходы да галоўнага пытання – фактычнага шлюбу. Думкі тых, хто падтрымліваў яго заканадаўчае афармленне, падагульніла загадчыца жанаддзела ЦК КП(б)Б, рэдактар часопіса "Беларуская работніца і сялянка" М. Муратава. Назваўшы зарэгістраваны шлюб "перажыткам буржуазнага мінулага", прыхільніца тэорыі "крылатага Эраса" паведаміла, што ў БССР ужо каля 100 тыс. чалавек жывуць у фактычным шлюбе. Сведчаннем дэградацыі зарэгістраванага шлюбу, на яе думку, была яго хуткаплыннасць – нядаўна "адзін чалавек быў зарэгістраваны 13 разоў".

Думкі праціўнікаў фактычнага шлюбу на абмеркаванні выказаў пракурор БССР М. Сегаль, які выступаў за моцны, зарэгістраваны ў дзяржаўных органах шлюб. Ён аргументаваў сваю пазіцыю наступным чынам: "Калі прыраўнуем фактычны шлюб да зарэгістраванага, то можна стыкнуцца з такой акалічнасьцю: уявеце сабе, што калі хто-небудзь мае 3-4 фактычных жонкі і гэты шлюб прыроўніваецца да зарэгістраванага юрыдычнага шлюбу з усімі вынікамі… гэта вядзе да мнагажонства. Па такім шляху мы йсці ня можам".

Будучы наркам працы БССР К. Бенек, канстатуючы, што "робіцца страхацьцё, распуста цьвіце, няма ніякіх межаў… трэба налажыць цуглі як на мужчыну, так і на жанчыну", звярнуў увагу прысутных на цяжкавыканальнасць пункта 42 праекта Кодэкса, дзе размова ішла пра спагнанне аліментаў з некалькіх мужчын, з якімі жанчына жыла разам. Дэпутат Калінін выказаўся супраць таго, каб абкладаць аліментамі сялянскую гаспадарку ў выпадку, калі бацька-селянін плаціць іх не можа. Дэпутат Нікіфарэнка прапанаваў абмежаваць колькасць шлюбаў трыма, бо "ёсць у нас такія, што ня толькі па 7 жон мелі, але і па 12". Дэпутат Іванькова адзначыла, што сексуальная свабода мужчын вядзе да "пашырэньня і разьвіцьця прастытуцыі як на вёсцы, так і ў горадзе", і дадала, што ведае толькі адзін выпадак, калі на судзе мужчына прызнаўся і сказаў: "Але – гэта маё дзіця"[37].

Па выніках абмеркавання члены ЦВК БССР вырашылі вынесці праект беларускага "Кодэкса законаў аб шлюбе, сям'і і апецы" на суд шырокіх мас. Але беларускія вучоныя-правазнаўцы пачалі разглядаць узнятае пытанне яшчэ да гэтага. У лютым 1926 г. прыхільнік стрыманай пазіцыі, гісторык-эканаміст з БДУ І. Герчыкаў, які выступаў за стварэнне манагамнай сацыялістычнай сям'і, заснаванай на каханні і супрацоўніцтве, а таксама за

[37] Матэрыялы па пытаньні аб шлюбе, сям'і і апецы (Даклад і спрэчкі па гэтым пытаньні на III сэсіі ЦВК БССР VII склікання, прадмова т. М. Сэгаля, проект кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы і выняткі з кодэксаў РСФСР і УССР). Менск, 1926. С. 1–68.

сацыялізацыю толькі дашкольнага выхавання дзяцей, пазнаёміў чытачоў часопіса “Полымя” з ходам абмеркавання новага праекта расійскага Кодэкса[38].

Абмеркаванне беларускага Кодэкса распачаў прафесар БДУ, вядомы спецыяліст у галіне грамадзянскага і сямейнага права М. Грэдынгер. Як прыхільнік меркаванай легалізацыі фактычнага шлюбу ён уступіў у палеміку з заходнееўрапейскімі юрыстамі – тыя характарызавалі практыку падобных шлюбных адносінаў як вяртанне ў першабытнае грамадства. Праект беларускага “Кодэкса законаў аб шлюбе, сям’і і апецы” аўтар параўноўваў з аналагічнымі праектамі, распрацаванымі ў РСФСР і УССР[39].

Прыхільнік фактычнага шлюбу і лёгкага разводу, а таксама “парасткаў новага побыту” дацэнт кафедры канстытуцыйнага права БДУ М. Канаплін прывёў наступныя аргументы на карысць сваёй пазіцыі: «Апрача таго, што (у выніку легалізацыі толькі зарэгістраванага шлюбу. – *А. Г.*) на сцэну з’яўляюцца дзеці першае і другое катэгорыі… у кожным разе лік задушаных і ў студні кінутых або проста “падкінутых” дзяцей павялічыцца, колькасць абортаў і сьлёз матак, трэба думаць, таксама ня зьменшыцца»[40]. Уласнае разуменне маёмасных узаемных абавязкаў мужа і жонкі прапанаваў асістэнт кафедры грамадзянскага права БДУ Ф. Гаўзэ[41].

Пачатак абмеркавання праекта “Кодэкса законаў аб шлюбе, сям’і і апецы” ў сталіцы БССР вызначылі шматлікія выступленні жанчын-дэлегатак на старонках часопіса “Беларуская работніца і сялянка”. Яны патрабавалі паляпшэння юрыдычнага і сацыяльна-эканамічнага становішча жанчын, у тым ліку – ускладнення працэдуры разводу.

[38] Герчыкаў І. Новы асаблівы дакумент соцыялістычнай праватворчасьці // Полымя. 1926. № 2. С. 67–77.

[39] Грэдынгер М. Найважнейшыя моманты ў будучым заканадаўстве аб сям’і // Полымя. 1926. № 8. С. 145–154.

[40] Конаплін Н. Два пытаньні (Да дыскусіі аб шлюбе і сям’і) // Полымя. 1926. № 8. С. 155–168.

[41] Гаўзэ Ф. Маёмасныя адносіны супругаў па кодэксах законаў аб шлюбе, сям’і і апецы БССР, РСФСР і УССР // Працы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску. 1. Факультэт права і гаспадаркі. 1928. № 21. С. 48–62.

Неўзабаве дыскусія перайшла на старонкі рэгіянальнага перыядычнага друку. Вось як яна адбывалася ў Бабруйску. Першым у мясцовым друку на гэтую тэму выказаўся акруговы суддзя Іваніцкі, які паставіў пад сумненне неабходнасць узаконьвання фактычнага шлюбу, бо за трохгадовую практыку ён сустрэў толькі два выпадкі, калі суд не прызнаваў такі шлюб. На думку Іваніцкага, правы мужа і жонкі і так добра абаронены пастановай "Аб парадку разбору спраў аб скасаванні шлюбаў і аб выдачы ўтрымання жонкам і дзецям, якія маюць у гэтым патрэбу", прынятай ЦВК БССР 29 траўня 1925 г.[42]. Па меркаванні селькора бабруйскага "Камуніста" Пукінскага, "калі маці сужэнцавала з некалькімі мужчынамі адначасова, дык плаціць на ўтрыманне дзіця павінны альбо ўсе гэтыя мужчыны, альбо аніводны з іх, другі спосаб нават лепшы". Тэму лёсу дзяцей, што нарадзіліся ў выніку палігамнага жыцця, працягнуў іншы карэспандэнт газеты, М. Корзун: "Вельмі сур'ёзнае пытанне, каго лічыць бацькам дзіця? Калі з жанчынай сужэнцавалі некалькі мужчын, дык чаму бацькам лічыць толькі аднаго з іх, і калі аднаго, дык чаму менавіта таго, а не іншага з тых, хто сужэнцаваў? У такіх выпадках, калі ніхто не можа ведаць, хто бацька дзіця, дзіцю трэба даць прозвішча маці і адправіць у дзіцячы дом на выхаванне. А для ўтрымання такіх дзетак, добра было б увесці адмысловы падатак на халасцякоў звыш 30 гадоў". Іншыя карэспандэнты выказвалі засцярогу, што, у выпадку спагнання аліментаў з усіх меркаваных бацькоў, "як бы ў нас не з'явіліся спецыялісткі-аліментшчыцы"[43].

Жыхары беларускіх вёсак, мястэчак, гарадоў мелі магчымасць выказаць свае думкі адносна праекта "Кодэкса законаў аб шлюбе, сям'і і апецы" не толькі ў перыядычным друку, але і ў адкрытых дыскусіях. Адна з іх, прысвечаная ўзаконенню фактычнага шлюбу, адбылася 28 жніўня 1926 г. у памяшканні 1-га Віцебскага драмтэатра[44]. Трэба адзна-

[42] Иваницкий. О семье, браке и опеке // Камуніст. 1926. № 122. 20 кастр. С. 3.
[43] Камуніст. 1926. № 123. 22 кастр. С. 2.
[44] Заря Запада. 1926. 22 авг. № 192. С. 3.

чыць, што найбольш актыўны ўдзел у абмеркаванні праекта Кодэкса як у друку, так і ў публічных дыскусіях бралі мужчыны. Большасць жанчын сціпла трымалася ў цяні.

Беларускі "Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы" быў зацверджаны на IV сесіі ЦВК БССР VII склікання 27 студзеня 1927 г.[45]. У ім у значнай ступені ўвасобіліся ідэі прыхільнікаў вызвалення "крылатага Эраса". Так, ён адрозніваўся ад Кодэкса 1918 г. тым, што незарэгістраваныя, фактычныя, шлюбы прыраўноўваліся па юрыдычных абавязках мужа і жонкі да зарэгістраваных шлюбаў. Наяўнасць фактычнага шлюбу ў выпадку разводу пазоўніку трэба было даказаць у судзе. Акрамя таго, уся маёмасць, нажытая ў шлюбе, прызнавалася агульнай. У выніку муж ці жонка, нават не маючы пад час сумеснага пражывання самастойнага прыбытку, атрымалі права на частку сямейнай маёмасці. Дзеля заахвочвання рэгістрацыі шлюбаў працэдура разводу яшчэ больш спрасцілася. Знікла неабходнасць тлумачыць яго прычыны, спрачацца, даказваць, прыцягваць сведкаў. Такім чынам, Кодэкс 1927 г. замацаваў у якасці юрыдычнай нормы зарэгістраваны грамадзянскі і незарэгістраваны фактычны шлюб, развод, магчымасць стварэння сям'і без дазволу бацькоў і апекуноў.

Жыхары беларускай вёскі ў сваёй масе адмоўна паставіліся да Кодэкса 1927 г. перш за ўсё з-за фінансавых наступстваў для сялянскай гаспадаркі ў выпадку распаду шлюбнага саюзу. Жансаветы крытыкавалі яго за недастатковую абарону правоў жанчын. Таму ўжо ў 1928 г. Наркамюст БССР быў вымушаны ўнесці ў Кодэкс праўкі, якія ўзмацнялі абарону маці і дзіцяці. Так, пад пагрозай крымінальнай адказнасці бацька дзяцей быў абавязаны паведамляць маці пра змену месца свайго жыхарства і працы. Айчыму ці мачысе, якія ўжо пэўны час утрымлівалі дзяцей, прадпісвалася выдзяляць сродкі на іх утрыманне і надалей. Судам дазвалялася прыпыняць справы пра выдзел з сельскае гаспадаркі, калі гэта рабілася з мэтаю пазбегнуць выплаты аліментаў[46].

[45] Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы Б.С.С.Р. Минск: Типлит БГИ, 1927. 66 с.
[46] Зьвязда. 1928. № 253. 1 ліст. С. 4.

## У пошуках “крылатага Эраса”

Ідэі А. Калантай пра адмову ад уласніцкіх пачуццяў у сям’і як буржуазных і мяшчанскіх і пра пераход да “кахання-сяброўства” набылі вялікую папулярнасць сярод моладзі 1920-х г., а ў найбольшай ступені – сярод камсамольцаў. Не паглыбляючыся ў складаныя інтэлектуальныя пабудовы палымянай рэвалюцыянеркі-феміністкі, першыя камсамольцы, гэта значыць, людзі ва ўзросце ад 14 да 23 гадоў, якія пераважна паходзілі з вёсак і гарадскіх рабочых ускраін, давалі ім уласныя спрошчаныя інтэрпрэтацыі. Уласніцкія пачуцці ў каханні яны разумелі як перажытак, рэўнасць – як загану, секс – як задавальненне натуральнай патрэбы пралетарыя, а нежаданне займацца сексам – як адмову зрабіцца таварышам, паплечнікам па пабудове новага грамадства.

Калі юнакоў-камсамольцаў такое разуменне новай маралі цалкам задавальняла, то ў дзяўчат-камсамолак шчырая вера ў ідэі А. Калантай, а таксама жаданне праводзіць іх у жыццё ўступала ў супярэчнасць з закладзенай прыродай мадэллю паводзінаў. Тым не менш, тэорыя “шклянкі вады” змяніла паводзіны дзяўчат. Ленін адзначаў: «Ад гэтай тэорыі наша моладзь ашалела, проста ашалела. Яна зрабілася злым рокам многіх юнакоў і дзяўчат. Прыхільнікі яе сцвярджаюць, што гэта тэорыя марксісцкая. Дзякуй за такі “марксізм”...»[47].

Сексуальны запал маладых падтрымлівалі дыскусіі пра каханне ў сталічным партыйным друку. Калі старшыня Рэўваенсавета СССР Л. Троцкі абмяжоўваўся цьмянымі заклікамі да стварэння “сямейна-гаспадарчых калектываў”[48], то член ЦКК УКП(б) С. Смідовіч дыскутавала з А. Калантай пра лёс кахання пры сацыялізме (адсюль распаўсюджанае на той час “я яго кахаю па Калантай, а ён мяне па Смідовіч”)[49]. Барацьбу камсамольцаў

[47] Цеткин К. Воспоминания о Ленине. Москва, 1925. С. 16.

[48] Троцкий Л. От старой семьи – к новой // Правда. 1923. № 155. 13 июля. С. 2.

[49] Смидович С. О любви (посвящается нашей женской молодежи) // Правда. 1925. № 67. 24 марта. С. 5; Коллонтай А. О любви и еще кое о чем // Правда. 1925. № 76. 3 апр. С. 6.

з буржуазнай мараллю падтрымлівала “Чырвоная змена”, якая ў 1922 г. заклікала: “Трэба ірваць з норавамі, звычаямі сямейнага права, разрыў з сям’ёй павінен быць перш за ўсё духоўным разрывам”[50]. З мэтай разбурэння традыцыйнай сям’і газета друкавала гісторыі камсамольцаў, якіх за палітычную актыўнасць выгналі з дому адсталыя бацькі. Падобныя гісторыі мелі звычайна шчаслівы фінал – пабадзяўшыся па клубах, садах, згаладалыя выгнанцы ўрэшце знаходзілі прытулак у камсамольскіх камунах.

Камсамольскі актыў змагаўся з традыцыйнымі сексуальна-шлюбнымі паводзінамі моладзі, трымаў пад пільным кантролем асабістае жыццё членаў ячэек. У лістападзе 1925 г. у школе в. Халоблін у рамках барацьбы за новы побыт адбыўся палітычны паказальны суд над камсамольцам, які раўнаваў каханую да іншых членаў ячэйкі[51]. У 1929 г. камсамольскія актывісты в. Суцін Пухавіцкага раёна сарвалі вянчанне члена ячэйкі 17-гадовай Зосі Прамовіч з беспартыйным жаніхом[52]. Члена ячэйкі мінскага ФЗВ друкароў Захара Сляпяна выключылі з камсамола за арганізацыю традыцыйнага вяселля, куды ён запрасіў бацькоў (sic!) і сваякоў[53]. “Чырвоная змена” друкавала павучальныя гісторыі пра актыўных камсамольцаў, якія, ажаніўшыся з мяшчанкамі, самі амяшчаньваліся: жылі ў добра абсталяваных пакоях, модна апраналіся, наведвалі кіно, тэатры, рэстараны[54].

Аб’ектам крытыкі на старонках друкаванага органа Калінінскага акруговага камітэта камсамола ў 1927 г. стала сакратар Янаўскай ячэйкі Мсціслаўскагаі раёна Ліда Чайкіна, якая ў лісце да мужа, у прыватнасці, пісала:

[50] Мельцер. Этика комсомола // Красная смена. 1922. № 18. 15 июня. С. 3.

[51] Малады камуністы. 1925. № 44. 24 сьнеж.

[52] В. Н-ны. “Маленькі” недагляд // Чырвоная зьмена. 1929. № 149. 4 ліп. С. 4.

[53] МАЗ. Урачысты шлюб // Чырвоная зьмена. 1929. № 28. 6 лют. С. 4.

[54] Гл. напр.: Лабадаеў Міх. Перамога мяшчанства // Чырвоная зьмена. 1929. № 3. 5 студз. С. 1.

"Ты прымушаеш мяне пакутаваць; калі ты з'ехаў, я цэлыя ночы не спала… я хачу чалавечага сямейнага жыцця, жыцця з дзецьмі". Пакідаючы без тлумачэння этычны аспект публічнага абмеркавання прыватных лістоў, аўтар напрыканцы сваёй крытычнай нататкі задаваў рытарычнае пытанне: "Ці можа такая кіслая нюня паставіць працу вясковай ячэйкі?"[55].

У 1929 г. у "Чырвонай змене" з'явіўся артыкул, аўтар якога заклікаў актыўна ўмешвацца ў сямейнае жыццё камсамольцаў, трымаць яго пад грамадскім наглядам. Канчаецца артыкул аўтарскім вызначэннем камсамольскай сям'і, якое добра адлюстроўвае выкліканы рэвалюцыяй хаос у галовах моладзі: "…грамадская ячэйка, дзе фармуюцца новыя кадры людзей, дзе неабходна новая сістэма выхаваньня, дзе так патрэбна рэволюцыйная зарадка, дзе сустракаецца цэлы шэраг супярэчнасьцяў"[56].

Тэарэтычныя аспекты новай маралі абмяркоўваліся на шматлікіх камсамольскіх сходах, а таксама дыспутах у рабочых клубах і студэнцкіх аўдыторыях. З неабходнасцю адмовы ад буржуазных формаў шлюбу, сексуальных адносінаў, маралі ў цэлым пагаджаліся ўсе іх удзельнікі. Але адносна новых, сацыялістычных перспектыў у галіне кахання і шлюбу думкі моладзі падзяляліся. Меншая, радыкальная частка камсамольцаў схілялася да суцэльнай адмовы ад сексуальна-шлюбных адносінаў як неадпаведных этапу пабудовы сацыялізму. Падобныя крайнія погляды, вядома ж, не ўкладаліся ў рэчышча ані афіцыйнай ідэалогіі, ані дэмаграфічнай палітыкі. Тыя, хто разумеў новы побыт як адмову ад палавога жыцця, а цяжарнасць як нагоду для выключэння з камсамола, перыядычна рабіліся героямі фельетонаў у маладзёжным друку.

У кантэксце сказанага трэба разумець артыкулы, спецыяльна прысвечаныя шкоднасці мастурбацыі. У адным з іх, што з'явіўся ў "Чырвонай змене" у 1929 г., мінскі

[55] Навалаеў. Разнюнілась // Малады камуніст. 1927. № 5. 27 лют. С. 2.

[56] Сьляпкоў У. Аб камсамольскай сям'і // Чырвоная зьмена. 1929. № 49. 2 сак. С. 3.

доктар Лявіцін заклікаў да сур'ёзнай барацьбы з ананізмам, вынікі якога для моладзі, на яго думку, былі "пагібельныя". Доктар запэўніваў сваіх маладых чытачоў у тым, што мастурбацыя марнуе здароўе, вядзе да разумовых захворванняў, бясплоднасці і імпатэнцыі. "Больш усяго кідаецца ў вочы ў аналістых, здароўе каторых ужо змарнавана, – вяласьць, адсутнасьць энэргіі, пужлівы выгляд, незацікаўленасьць да вучобы, няздольнасьць да сур'ёзнай работы, паслабленьне памяці і дэтонаванасьць"[57].

Большасць моладзі выступала за пошукі новых формаў "кахання-сяброўства", якое адкрывала перад камсамольцамі неабсяжнае поле для эксперыменту. Напрыклад, вясной 1925 г. на старонках віцебскай акруговай газеты разгарнулася дыскусія вакол пытання знешніх праяваў "кахання-сяброўства" у грамадскіх месцах. У артыкуле, што адкрываў гэтую дыскусію, манеры віцебскіх камсамольцаў, якія шакавалі гараджан, апісваліся наступным чынам: "Яго левая рука моцна сціскае яе плячо, а яна кранальна трымае яго сваёй правай рукой за талію. Ідуць яны так у яскравы сонечны дзень па ходніках Ленінскай, люднай вуліцы"[58].

Але найбольшы шок у традыцыйнага беларускага грамадства выклікалі мясцовыя прыхільнікі маскоўскай нудысцкай суполкі "Далоў сорам!". Змагаючыся з сорамам як буржуазнымі забабонамі, яны не толькі не апраналі адзення на пляжы або дома, але і шпацыравалі аголенымі па гарадскіх вуліцах. Так, адным ліпеньскім днём 1928 г. жыхары мястэчка Яновічы Віцебскай акругі былі вельмі здзіўлены, убачыўшы чатырох камсамольцаў і чатырох камсамолак, якія пасля антырэлігійнай вечарыны выправіліся на шпацыр па вуліцах цалкам аголеныя[59].

Фізіялагічны сэнс у тэрмін "каханне-сяброўства" ўкладалі арганізатары вечарын, што праводзіліся ў магілёўскім медыцынскім тэхнікуме. Такія вечарыны заўсёды

[57] Доктар Левіцін. Ананізм // Чырвоная зьмена. 1929. № 125. 6 чэрв. С. 4.

[58] Шатэн. Надо уметь себя держать! // Заря Запада. 1925. № 110. 17 мая. С. 4.

[59] Чырвоная зьмена. 1928. № 74. 6 ліп. С. 3.

складаліся з маленькай культурнай праграмы, пасля якой ішлі скокі. "А потым у калідоры на другім паверсе, дзе пануе прадугледжаная кімсьці цемра, страбочуць і кахаюць маладыя акушоркі і фармацэўткі маладых хлапцоў"[60]. Секс быў галоўнай часткай праграмы закрытых вячорак маладых рабочых і работніц барысаўскай фабрыкі "Чырвоная Бярэзіна"[61].

Свабодныя сексуальныя зносіны камсамольцаў вымагалі новага разумення шлюбу. Так, у 1922 г. "Чырвоная змена" паведамляла пра "арыгінальнае вяселле", у час якога "два члена саюза жаніліся на дзвюх дзяўчынах". Пасля роспісу была арганізавана вясельная вечарына, якая пачалася дакладам пра ролю жанчыны ў дзяржаве. Потым перайшлі да рэвалюцыйных гульняў – палітычнай пошты, палітычных фантаў і інш.[62]. Жыхар Віцебска камсамолец Драбкін патрабаваў развод праз два дні пасля роспісу на той падставе, што яго жонка аказалася "мяшчанкай" (пудрыцца і падфарбоўваецца). У лістападзе 1927 г. канфліктная камісія ЛКСМБ выключыла члена ячэйкі мінскіх гарбароў Гіршацэра, які, пайшоўшы ў заклад, ажаніўся з камсамолкай Сімай Котан грамадзянскім, потым рэлігійным шлюбам, а праз два тыдні развёўся[63]. Камсамолец Юркоў на працягу трох месяцаў два разы ажаніўся і развёўся[64].

Ахвярамі рэвалюцыі ў сексуальных зносінах звычайна рабіліся дзяўчаты, да якіх у рэальным жыцці "крылаты Эрас" прыходзіў у перанаселеных камунальных кватэрах, брудных інтэрнатах, скверах, пад'ездах, падваротнях.

Традыцыйная гендарная іерархія ў спалучэнні з адметнасцямі падлеткавай псіхалогіі знаходзілі свае ўвасабленне ў абразлівым стаўленні камсамольцаў да камсамолак.

[60] Р. Г-н. Вера кахае Міколу… // Чырвоная зьмена. 1928. № 29. 16 сак. С. 3.

[61] Клопаў С. "…Пятрусь, любы, дзе ты? " // Чырвоная зьмена. 1927. № 99. 6 верас. С. 2.

[62] Красная смена. 1922. № 7. 23 февр. С. 4.

[63] Рыдлеўскі. Амерыканскае пары альбо жонка на 2 тыдні // Чырвоная зьмена. 1927. № 130. 22 ліст. С. 4.

[64] Чырвоная зьмена. 1925. № 76. 19 ліст. С. 6.

Напрыклад, студэнт Белпедтэхнікума камсамолец Алесь Кароткі, прыехаўшы на канікулы на радзіму ў в. Забалацце Смілавіцкага раёна, арганізаваў латарэю на дзяўчат. Наведваючы вечарыны, ён вырабляў квіток на кожную дзяўчыну і, паклаўшы іх у шапку, абыходзіў хлопцаў, прапануючы "Хто якую хоча?". Пасля падобных латарэй "мясцовыя дзяўчаты пачалі вельмі дрэнна глядзець на камсамольцаў, і ня мудра, што ў ячэйцы маецца ўсяго адна дзяўчына"[65].

Найбольш брутальныя формы адносіны да жанчын набывалі ў маладзёжным рабочым асяроддзі, дзе нядаўнія сяляне, пазбаўленыя традыцыйных нормаў і забарон, давалі найвялікшую ў працэнтных адносінах колькасць згвалтаванняў, абортаў, пазашлюбных дзяцей, падкідышаў, што, вядома, не магло не выклікаць занепакоенасць уладаў. У лістападзе 1928 г. у Нова-Барысаве група маладых рабочых мясцовай гуты імя Домбаля згвалтавала работніцу, прычым жахлівай чаргой распараджаўся камсамолец Лявон Дзяругін[66]. На заводзе Ноўка і фабрыцы імя К. Маркса, якія знаходзіліся ў Лёзненскім раёне Віцебскай акругі, таксама былі выпадкі згвалтавання камсамольцамі дзяўчат-камсамолак[67]. Карэспандэнт "Чырвонай змены" ў 1927 г. так апісваў палавое жыццё працоўнай моладзі на гуце імя Камінтэрна ў пасёлку Глуша Бабруйскага раёна: "У інтэрнат прыводзяць дзяўчат батрачак, пояць іх да бясчутнасьці, да таго, пакуль ім не стане млосна і тады гвалтуюць па чарзе і, пасьля ўсяго, заплаціўшы некалькі капеек, іх зьбіваюць"[68].

Значныя дэструктыўныя змены прынеслі "новы побыт" і "свабоднае каханне" ў жыццё беларускай вясковай моладзі, для якой да 1917 г. святасць царкоўнага шлюбу была бясспрэчная. Так, у лістападзе 1923 г. чатыры

65 Працько М. "Летарэя" на дзяўчат // Чырвоная зьмена. 1926. № 124. 31 кастр. С. 2.

66 Лін М. Ганебны ўчынак рабочых "Домбаля" // Чырвоная зьмена. 1928. № 130. 28 ліст. С. 4.

67 Чырвоная зьмена. 1928. № 74. 6 ліп. С. 3.

68 А. К. Чаму атруцілася камсамолка Казлоўская? // Чырвоная зьмена. 1927. № 122. 29 кастр. С. 3.

маладыя жыхары в. Пятровічы Чэрвеньскага раёна згвалтавалі дзвюх аднасяльчанак, за што атрымалі 3 гады ўмоўна з улікам "нізкага культурнага ўзроўню" і запіскі ад пацярпелых, што яны "памірыліся"[69].

Пад час слухання шматлікіх судовых спраў, прысвечаных згвалтаванням, высвятляліся непрыемныя для ўлады факты. У прыватнасці, тое, што на распаўсюджаных у асяроддзі камсамольскай моладзі "вячорках" юнакі "спрабавалі" дзяўчат. Камсамольскія кіраўнікі ставілі перад актывістамі задачу напоўніць гэтую традыцыйную форму маладзёжных вячорак новым сацыялістычным зместам. Але першыя спробы зрабіць гэта былі непрымальныя нават па мерках новай маралі: "Адзін камсамолец у Краснапольскім раёне пагражаў дзяўчыне, якая адмаўлялася быць разам з ім – я табе морду наб'ю, я камсамолец і нічога ты мне не зробіш"[70]. Далейшыя спробы камсамольскага кіраўніцтва наладзіць пад час вячорак чытку савецкіх кніг, спяванне рэвалюцыйных песень, выпускі вусных газет таксама сапсавалі сексуальныя памкненні моладзі. Вось як перадае атмасферу адной з супольных летніх камсамольскіх начовак карэспандэнт маладзёжнай газеты: "Настрой узняты: то лежачы заспявае хлопец, то ўскоча і падбяжыць да вогнішча, а той сыходзе песціцца з дзяўчынамі"[71].

У студэнцкім асяроддзі норавы былі крыху мякчэйшыя. Карэспандэнт "Чырвонай змены" ў 1928 г. наступным чынам апісаў тыповую ноч у інтэрнаце БДУ па вуліцы Энгельса, 50: "Тускла сьвецяць лямпачкі. Хтосьці працяжна і ціха запявае. Нехта ў другім завугольлі падхоплівае, песьня расьце і шырыцца… Крыкі нясуцца ад студэнтаў 2-га курсу, прышоўшых гуляць да паступаючых дзяўчат. Кожну ноч ідуць яны ў паходы па цёмных калідорах, урываюцца да дзяўчат у пакоі. Да самага раньня яны не дадуць заснуць ці пачытаць"[72].

[69] Савецкая Беларусь. 1924. 31 сьнеж. № 302. С. 4.

[70] Капелюш А. О новом быте, "ночлежках" і прочем… // Чырвоная зьмена. 1925. № 85. 23 сьнеж. С. 6.

[71] Зак М. В лесу – на ночевке // Чырвоная зьмена. 1926. № 88. 5 жн. С. 2.

[72] Чырвоная зьмена. 1928. № 92. 22 жн. С. 4.

Рэакцыя старэйшага пакалення, бацькоў на ўступленне дзяўчат у камсамол была пераважна адмоўная. Людзей сталага веку абурала перш за ўсё прапаганда новай палавой маралі, якая вялася кіраўніцтвам саюза ў спалучэнні з агрэсіўнай антырэлігійнай рыторыкай. Сексуальны вопыт дзяўчат, набыты ў камсамоле, быў не заўсёды прыцягальны. Разам з уступленнем у гэтую арганізацыю дзяўчаты нярэдка пазбаўляліся цнатлівасці, набывалі шкодныя звычкі і ў выніку гублялі шлюбныя перспектывы. Сведчанні новых паводзінаў дзяўчат мы знаходзім на старонках моладзевага друку: "У адной вясковай ячэйцы дзяўчаты камсамолкі пазаляцаліся да хлопцаў, ды так, што трое камсамолак адразу ж зацяжаралі. Гэта выклікала нападкі на ячэйку з боку сялян"[73].

Нежаданне дзяўчат уступаць у камсамол, іх палітычная пасіўнасць уяўляла сур'ёзную праблему для арганізатараў камуністычнага руху беларускай моладзі. Жанатых камсамольцаў абавязвалі прыцягваць у саюз жонак, перавыхоўваць іх у новым духу. Асобныя задачы ставіліся перад камсамольцамі, што мелі сясцёр. Праводзіліся спецыяльныя нарады замужніх камсамолак з мэтай абуджэння іх грамадскай актыўнасці. Найбольш пільная ўвага аддавалася працы з маладымі сялянкамі. Там не менш, на 1 студзеня 1926 г. сярод 40 913 беларускіх камсамольцаў было толькі 9059 дзяўчат, гэта значыць – меней за 25%[74]. Нягледзячы на намаганні пераадолець такі дысбаланс, на правядзенне кампаній па "адзявочванні" саюза колькасць дзяўчат – членаў саюза павялічвалася вельмі павольна.

На працягу 1920-х г. у СССР актыўна вывучаліся пытанні палавога жыцця. Пра стаўленне беларускіх студэнтаў да шлюбна-сексуальнай сферы сведчаць вынікі сацыялагічнага апытання, праведзенага ў 1928 г. сярод 1250 студэнтаў БДУ.

73 Горунович А. Этика, быт и культура в комсомоле // Красная смена. 1924. № 44. 30 дек. С. 2.

74 Да IX зьезду ЛКСМБ. Менск, 1928. С. 60.

| **Форма палавых паводзінаў** | **Мужчыны** | | **Жанчыны** | |
|---|---|---|---|---|
| | **%** | **колькасць** | **%** | **колькасць** |
| Шлюб | 33,8 | 321 | 36,5 | 168 |
| Вольнае сужыццё | 29,1 | 277 | 40,4 | 186 |
| Кароткі тэрмін сужыцця | 8,5 | 81 | 2,4 | 11 |
| Выпадковыя сустрэчы | 6,8 | 65 | 1,1 | 5 |
| Устрыманне | 9,1 | 87 | 10 | 48 |

Такім чынам, больш за палову студэнтаў выступіла за зарэгістраваны і фактычны шлюб (вольнае сужыццё), прычым колькасць прыхільнікаў першага і другога падзялілася прыкладна пароўну. Вынікам дзяржаўнай жаночай палітыкі трэба лічыць той факт, што фактычны шлюб падтрымала большасць студэнтак, прычым такая форма сексуальных адносінаў іх прываблівала больш, чым студэнтаў.

На пытанне пра ролю фізіялогіі ў адносінах паміж мужчынам і жанчынай студэнты адказалі наступным чынам:

значная і самая галоўная – 24,7%;
натуральна-патрэбная з’ява – 22,9%;
другарадная – 10,9%;
не далі адказу – 25,9%;
невыразныя адказы – 12%;
не зразумелі пытання – 3,6%.

Нежаданне (а дакладней, няздольнасць) адказаць на гэтае пытанне вялікай колькасці студэнтаў БДУ тлумачыцца тым, што 48,4% юнакоў і 60,9% дзяўчат не жылі палавым жыццём. Сярод тых, хто меў сексуальных партнёраў, “нармальным” палавым жыццём жыло 18,8% юнакоў і 11,3% дзяўчат, “у беспарадку” – 24,6% юнакоў і 3% дзяўчат. 3,7% студэнтаў і 1,3% студэнтак практыкавалі мастурбацыю[75]. Паказальны той факт, што пад час меды-

[75] Панкевіч П. Які ж наш беларускі студэнт? // Асьвета. 1928. № 4. С. 20–37.

цынскай праверкі, якая праводзілася ў 1924 г., у ніводнага студэнта не было знойдзена венерычнай хваробы[76].

Звычайна новае "каханне-сяброўства" не звязвалася яго адэптамі (прынамсі, мужчынскага роду) з рэпрадуктыўнай функцыяй, што непазбежна стварала канфліктныя сітуацыі. Адну з іх развязваў увесну 1928 г. камсамольскі сход факультэта права і гаспадаркі БДУ, дзе разглядаліся паводзіны студэнта 3-га курса Альтшулера, які схіліў да сужыцця 40-гадовую хатнюю работніцу. Калі пасля трох гадоў сумеснага палавога жыцця і трох зробленых ад студэнта абортаў чарговы раз цяжарная жанчына наважылася згадаць пра свае правы, Альтшулер "ледзь не забіў яе з нагана". Камсамольскі сход факультэта большасцю галасоў падтрымаў свайго аднакашніка ("звычайны факт зносінаў мужа і жонкі", "не супярэчыць камсамольскай маралі", "калі мы за аборты і сужыццё будзем выключаць з камсамолу, то трэба выключаць большую палову камсамольцаў")[77]. Але пасля спецыяльнага выступлення на гэтую тэму "Чырвонай змены" адбыўся агульны сход камсамольскіх ячэек БДУ, на якім Альтшулера выключылі з камсамола. Тым, хто яго абараняў, "паставілі на від". Пачалася праверка ўмоў жыцця студэнтаў на здымных кватэрах[78].

У тым жа годзе ў Лёзненскім раёне Віцебскай акругі камсамолец Левін прымусіў зрабіць дзяўчыну пяць абортаў. Калі ж яна адмовілася рабіць шосты, дык ён яе кінуў, пагражаючы забойствам. Справа слухалася на канфліктнай камісіі мясцовай камсамольскай арганізацыі, дзе Левін даказваў, што яго сужыцелька знаходзілася ў інтымных зносінах таксама з іншымі мужчынамі[79].

Пад час адзяржаўлівання камсамола на працягу 1920-х г. сфармавалася кагорта камсамольскіх работнікаў – штатных функцыянераў, якія знаходзіліся на

[76] Сандомирский М. Медицинская проверка студенчества // Звезда. 1924. 22 ноября. № 270. С. 4.
[77] Шматкоў А. Паганая трава // Чырвоная зьмена. 1928. № 59. 30 мая. С. 2.
[78] Чырвоная зьмена. 1928. № 66. 17 чэрв. С. 4.
[79] Чырвоная зьмена. 1928. № 74. 6 ліп. С. 3.

дзяржаўным утрыманні. Яны павінны былі ўласным прыватным жыццём паказваць прыклад шараговым членам саюза, але на самай справе нярэдка разглядалі дзявочую частку падначаленых арганізацый як уласны гарэм. Будучы вядомы беларускі кінарэжысёр, а ў 1928 г. карэспандэнт "Чырвонай змены" Пятрусь Шамшур так малюе аблічча юрлівага камсамольскага функцыянера: «…масьляцца яго вочы, хутка аглядваючы фігуры фізкультурніц, цягнецца потная рука да "сваёй" камсамолкі, выкідвае пахабны сьлюнявы рот "дасягненьні", гэта ён гаворыць мне інтымным шопатам: – Хіба жанчына можа быць таварышом хлопцу? Фантастыка!»[80].

У 1929 г. іншы камсамольскі сакратар стаў фігурантам "аліментнай" справы ў барысаўскім гарадскім судзе. У якасці рэчавага доказу суддзя атрымаў распіску, якую сакратар даў (а потым забыўся на яе) цяжарнай ад яго падначаленай напярэдадні ад'езду на камсамольскую вучобу ў Маскву: "Гэтая распіска выдадзена гр. Арыне Лотух ад гр. пасёлка Стужкі Рокшынскага с/с Алімпіева Кастуся ў тым, то яе кахаю і абяцаю на ёй ажаніцца, калі крыху ўладкуюся, а пакуль я жыву на кватэры і не магу яе ўзяць, у чым і распісваюся"[81].

Моладзевая сексуальная рэвалюцыя, якая распаўсюджвалася, як эпідэмія, са сталіцы ў акруговыя і павятовыя гарады, і далей – у мястэчкі і вёскі, дасягнула свайго піку ў 1926–1927 г. Так, у Барысаўскай акрузе за палавую распусту было выключана каля 10% ад агульнай колькасці выбылых з саюза ў 1926 г. Падобны працэнт выключаных быў таксама ў Бабруйскай акрузе. У Мазырскай акрузе колькасць выключаных за палавую распусту дасягала 15%. Шмат выпадкаў такіх паводзінаў назіралася ў Крупскім раёне. У Смалявіцкім раёне шмат камсамольцаў спрыяла распаўсюджванню прастытуцыі. Адзін з іх па прозвішчы Ракаўшчык арганізаваў "групу для

[80] Шамшур П. Плямы // Чырвоная зьмена. 1928. № 137. 19 сьнеж. С. 1.

[81] Гольдбэрг Міх. Мешчанін? Аліментшчык? Вораг // Чырвоная зьмена. 1929. № 19. 26 студз. С. 1.

бясплатнага скарыстаньня дзяўчат". У ячэйцы саўпартшколы з маўклівай згоды сакратара камсамолец распаўсюджваў парнаграфічную літаратуру.

Прыкладна ў той жа час кіраўніцтва камсамола зразумела сур'ёзную праблему, якую ўтваралі новыя адносіны паміж паламі ў моладзевым асяроддзі, і пачало разглядаць палавую распусту ў адным шэрагу з такімі адмоўнымі з'явамі, як п'янства, хуліганства і рэлігійнасць.

Летам 1925 г., неўзабаве пасля дыскусіі пра каханне ў газеце "Правда", на старонках "Чырвонай змены" адбыўся "грамадска-палітычны суд" над двума камсамольцамі, якія абвінавачваліся ў палавой распусце. Судзілі камсамольца Маркеля Карташова, які "зжыўся" з беспартыйнай Ганнай Блізнец, але пасля таго, як тая зацяжарала, кінуў яе. У выніку гэтай дыскусіі "суд" пастанавіў выключыць Карташова з камсамола з трохгадовым выпрабавальным тэрмінам[82].

Адно з першых выступленняў у друку будучага "аглаблёвага" літаратурнага крытыка Лукаша Бэндэ, у 1926 г. студэнта Камуністычнага ўніверсітэта Беларусі імя Леніна, было таксама прысвечана палавой распусце. Звяртаючыся да камсамольцаў, ён раіў ім не глядзець на дзяўчыну як на рэч, якую можна мяняць кожны тыдзень, устрымацца ад ранняга палавога жыцця, а таксама заклікаў да "класавай скупасці ў скарыстанні палавой энэргіі". Камсамолкам Л. Бэндэ раіў не падманваць сябе тым, што выпадковыя сувязі даюць асалоду[83].

На старонках моладзевага друку з'явіўся новы адмоўны персанаж – камсамолец-абывацель, рысы партрэта якога журналісты бралі з анкет сацыялагічнага апытання: "Гляджу на дзяўчат, як на жанчыну, а потым як на таварыша. Прыклад: таварыша я не цалую, а дзяўчыну цалую, таму што яна дзяўчына. Без палавога захаплення не было б і кахання. Жаніцца трэба, калі ты крыху

[82] Чырвоная зьмена. 1925. № 33. 6 чэрв. С. 6; № 34. 14 чэрв. С. 6; № 35. 18 чэрв. С. 4; № 36. 21 чэрв. С. 6; № 37. 25 чэрв. С. 4; № 39. 2 ліп. С. 6; № 47. 1 жн. С. 4.

[83] Бенда Л. Быт молодежи // Чырвоная зьмена. 1926. № 12. 31 студз. С. 4.

забясьпечаны і ўжо сталы і разьбіраешся ў практычным жыцці. Са знаёмай 4 разы меў зносіны, з прастытуткай – 3 разы"[84].

Дыскусія пра новыя адносіны паміж мужчынам і жанчынай актуалізавала праблему палавога выхавання падлеткаў. Эксперыментаванне ў гэтай галіне адбывалася ва ўмовах разбурэння старой школы і буму педагагічнага наватарства. Сярод наватараў вялікую групу складалі прыхільнікі псіхааналітычнай традыцыі, якія разглядалі сексуальнасць як самакаштоўнасць і імкнуліся навучыць школьнікаў "глядзець натуральна на натуральныя рэчы і выкінуць усе забабоны адносна палавых зносінаў як непатрэбнае смецце"[85].

Педагогі-наватары адмянілі ў школе класна-ўрочную сістэму і прадметнае выкладанне, хатнія заданні і экзамены, увялі працоўнае навучанне. Істотным складнікам эксперыменту ў галіне палавога выхавання было ўвядзенне сумеснага навучання ў школах дзяўчат і хлопцаў. На думку савецкага псіхолага Л. Выгоцкага, сумеснае навучанне павінна было нармалізаваць сексуальныя ўзаемаадносіны падлеткаў. Але анкетаванні, што праводзіліся сярод вучняў у 1920-я г., сведчылі пра іншае. Так, значная частка беларускіх вучняў ва ўзросце 13–17 гадоў лічылі сумеснае навучанне ненармальным[86]. Сучаснік наступным чынам апісвае атмасферу, што панавала ў тагачасных мінскіх школах: «У якую школу не зайдзі – адразу ж кідаецца ў вочы рэзкае, нават варожае разьмежаваньне паміж хлопцамі і дзяўчатамі. У клясах, як правіла, сядзяць асобнымі групамі. Я не знайшоў ва ўсіх менскіх школах ніводнай лаўкі, дзе б вучань сядзеў побач з вучаніцай… Рэзкае разьмежаваньне днём, у клясе, не перашкаджае самаму цеснаму, самаму нездароваму збліжэньню вечарам – на школьных спэктаклях, на мілых хатніх "балях" і "капусьніках". Заляцаньне сярод

[84] Чырвоная зьмена. 1928. № 137. 19 сьнеж. С. 3.

[85] Д-р Герман. О половом воспитании // Звезда. 1923. 27 окт. № 252. С. 5.

[86] Марголін (Арнольдзі). Вучнёўская моладзь аб сумесным навучаньні / Асьвета. 1929. № 3. С. 74–82.

школьнікаў другога концэнтру[87] прымае пагражаючыя разьмеры… Ёсць многа фактаў заляцаньня настаўнікаў да прыгожых вучаніц, бываюць нават і шлюбы…»[88].

Да канца 1920-х г. пачалося згортванне эксперыменту ў галіне палавога выхавання школьнікаў. Сексуальнасць, асабліва ранняя, індывідуальныя любоўныя пачуцці юнакоў і дзяўчат пачалі разглядацца як перашкода на шляху пабудовы новага сацыялістычнага грамадства. У якасці асноўных сродкаў "сексуальнага аздараўлення дзяцей" называліся арганізацыя іх вольнага часу, развіццё ідэйнасці і калектывізму. З гэтага пункту гледжання ўсё папярэдняе эксперыментаванне з дзіцячай сексуальнасцю не мела аніякай вартасці. Гэта засведчыў аўтар установачнага артыкула, які ў 1929 г. адкрыў адзін з нумароў часопіса "Працаўнік асьветы", дзе канстатавалася, што "палавое выхаваньне дзяцей і падлеткаў у БССР не вядзецца"[89].

Да канца 1920-х г. камсамольскае кіраўніцтва канчаткова зразумела, што сексуальная свабода моладзі прывяла да вялікай колькасці ранніх шлюбаў, разводаў, абортаў, згвалтаванняў і ў выніку – зламаных чалавечых лёсаў. Неўзабаве сацыялістычны аскетызм зробіцца нормай жыцця. А камсамольскія правадыры ўслед за аўтарам "Дванаццаці палавых запаведзяў рэвалюцыйнага пралетарыяту" будуць згадваць сексуальную энергію (прынамсі публічна) толькі ў кантэксце "стварэння здаровых рэвалюцыйных класавых нашчадкаў"[90].

87 У 1921 г. была праведзена рэарганізацыя працоўнай школы. Прадугледжвалася, што базавы тэрмін школьнага навучання складаецця з пяці гадоў першай ступені (канцэнтру), дзе вучыліся дзеці ва ўзросце 8–13 гадоў, і чатырох гадоў другой ступені (канцэнтру), дзе вучыліся дзеці ва ўзросце 13–17 гадоў.

88 Гольдбэрг Міх. Гімназістачка каля дзьвярэй / Зьвязда. 1928. № 244. 21 кастр. С. 3.

89 Говар М. Праблема палавога выхаваньня // Працаўнік асьветы. 1929. № 4. С. 2.

90 Залкинд А. Б. Двенадцать половых заповедей революционного пролетариата // Философия любви: в 2 т. Москва, 1990. Т. 2. С. 224–255.

# Destroying Family: Sexual Revolution in 1920s Soviet Belarus as it Mirrored in Periodicals

**Aliaksandr Hužaloŭski**

For the first time on the basis of wide circle of information extracted from newspapers, magazines, books, the rebuilding and functioning of Sexual Revolution in the post-revolution Soviet Belarus is presented in the article. During the first stage of the Revolution, its leaders deliberately attempted to destroy marriage and the family. Free love was glorified by the official "glass of water" theory. The legal distinction between marriage and casual sexual intercourse was abolished. The Communist law spoke only of contracts between males and females for the satisfaction of their desires either for an indefinite or a definite period, a year, a month, a week, or even for a single night. One could marry and divorce as many times as desired. Husband or wife could obtain a divorce without the other being notified. It was not even necessary that marriage be registered. Bigamy and even polygamy were permissible under the new provisions. Premarital relations were praised and extramarital relations were considered normal. Within a few years, hordes of wild, homeless children became a menace to the Soviet Belarus. Millions of lives, especially of young girls, were wrecked; divorces skyrocketed, as did abortions. The hatreds and conflicts among polygamous and polyandrous mates rapidly mounted – and so did psychoneuroses. The results were so appalling that the government was forced to reverse its policy.

# Беларусы і яўрэі ў парламенце Польшчы ў 1922–1927 г.

## Супрацоўніцтва і разыходжанні паміж тэрытарыяльнымі і экстэрытарыяльнымі меншасцямі

Мічыхіра Ясуі

Мэта гэтай працы – паказаць узаемаадносіны паміж беларусамі і яўрэямі ў парламенце міжваеннай Польшчы першага склікання (1922–1927). Нягледзячы на існаванне пэўнай літаратуры, прысвечанай Беларускаму пасольскаму клубу[1], – а ў выпадку Яўрэйскага парламенцкага кола (далей – Яўрэйскае кола) літаратуры нават даволі багатай[2], – гісторыкі мала ўвагі аддавалі ўзаемаадносінам

[1] Bergman A. Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. Warszawa, 1977; Stępień S. Działalność poslów białoruskich w Sejmie RP w latach 1922–1927 // Studia Historyczne. 1981. Z. 2; Gomółka K. Białorusini w II Rzeczypospolitej // Zeszyty Naukowe Politechniki Gdańskiej. № 495. Gdańsk, 1992; Głogowska H. Białorusini w parlamencie II Rzeczypospolitej // Przemiany społeczne, kwestie narodowościowe i polonijne / pod red. A. Chodubskiego. Toruń, 1994; Drweski B. Le petit Parlement biélorussien. Le Biélorussiens au Parlement polonaise entre 1922 et 1930. Paris, 2002; Zaporowski Z. Białorusini w Sejmie Rzeczypospolitej Polskiej 1922–1939 // Na pograniczu kultur, języków i tradycji / pod red. M. Mądzika i A. Witusika. Lublin, 2004; Пашкевіч А. Парламенцкія формы змагання эа нацыянальныя і сацыяльныя правы беларускага народа ў міжваеннай Польшчы (1921–1930 гг.) (неапублікаваная кандыдацкая дысертацыя). Мінск, 2006.

[2] Jaworski W. Syjoniści wobec rządu polskiego w okresie międzywojennym. Sosnowiec, 2002; Rudnicki S. Żydzi w parlamencie II Rzeczypospolitej. Warszawa, 2004; Fałkowski J. Mniejszość żydowska w parlamencie II Rzeczypospolitej. Kraków, 2006.

паміж дзвюма названымі фракцыямі[3]. У гэтым артыкуле праз параўнанне дзейнасці Беларускага пасольскага клуба і Яўрэйскага кола я хацеў бы адлюстраваць спецыфіку стасункаў паміж прадстаўніцтвамі “тэрытарыяльных” і “экстэрытарыяльных” нацыянальных меншасцяў.

Першыя ўсеагульныя выбары ў Сейм і Сенат пасля зацвярджэння дзяржаўных межаў Польшчы – іх канчатковае міжнароднае прызнанне адбылося ў сакавіку 1923 г. – прайшлі ў лістападзе 1922 г. Выбары гэтыя адбываліся ў вельмі значнай ступені пад знакам міжнацыянальных канфліктаў, бо нацыянальныя меншасці складалі каля траціны ўсяго насельніцтва тагачаснай польскай дзяржавы. Апрача таго, выбарчае заканадаўства было распрацавана пад уплывам правых палітычных сіл, якія імкнуліся як мага больш абмежаваць прадстаўніцтва нацыянальных меншасцяў у парламенце. Склад парламента быў вызначаны ў колькасці 444 дэпутатаў, 372 з якіх выбіраліся паводле акруговых партыйных спісаў. У сваю чаргу, 72 мандаты, зарэзерваваныя для прэтэндэнтаў з агульнанацыянальных спісаў, дзяліліся толькі паміж тымі партыямі, якія па акруговых спісах правялі сваіх дэпутатаў як мінімум у шасці выбарчых акругах[4]. Меркавалася, што такі парадак дапаможа значна абмежаваць колькасць дэпутатаў, выбраных ад нацыянальных меншасцяў. Васіль Рагуля, адзін з палітычных лідараў беларускага насельніцтва, так успамінаў пра расчараванні і трывогі прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў, звязаныя з выбарамі: «Гэтая выбарчая хітрыка была накіравана галоўным чынам

[3] Выключэнне складае праца А. Пашкевіча, у якой разглядаюцца ўзаемаадносіны паміж славянскімі меншасцямі і яўрэямі ў парламенце Польшчы: Пашкевич А. Взаимоотношения представительств евреев и славянских национальных меньшинств в парламенте межвоенной Польши в 1922–1927 гг. // Материалы двенадцатой Ежегодной международной междисциплинарной конференции по иудаике. Ч. 2. Москва, 2005.

[4] Сенатараў жа было выбрана 111, у тым ліку 93 у акругах (кожнае ваяводства ў гэтым выпадку ўяўляла сабой асобную выбарчую акругу) і 18 – паводле агульнанацыянальнага спіса. Права на атрыманне мандатаў з агульнанацыянальнага спіса мелі тыя партыі, якім удалося правесці сваіх сенатараў як мінімум у трох акругах.

супроць нацыянальных меншасцяў, з якіх ні адна, не вылучаючы і ўкраінцаў (Галіччына выбары байкатавала), не магла прыняць удзелу ў дзяльбе таму, што ні Валынь з Падляшшам і ні адна меншасць не маглі правесці дэпутатаў у 5-ёх (правільна "ў 6". – *М. Я.*) акругах»[5].

У такіх умовах лідары нацыянальных меншасцяў вырашылі скласці супольны выбарчы спіс. Аўтарам гэтай ідэі быў нямецкі дэпутат Устаноўчага сейма з Памор'я Эрвін Гасбах, але ролю арганізатара ўзяў на сябе Іцхак Грынбаўм – лідар сіяністаў з тэрыторыі былога Каралеўства Польскага, таксама адзін з дэпутатаў Устаноўчага сейма. Ужо 14 жніўня 1922 г. у Варшаве па ініцыятыве беларусаў адбылася сустрэча прадстаўнікоў усіх меншасцяў[6], а 17 жніўня было падпісана пагадненне пра стварэнне Блока нацыянальных меншасцяў (БНМ). Да БНМ, апрача яўрэяў і немцаў, далучыліся ўкраінцы з тэрыторый, якія перад Першай сусветнай вайной уваходзілі ў склад Расійскай імперыі, беларусы і рускія.

Высветлілася, аднак, што ўдзельнікам БНМ па шэрагу пытанняў не так і лёгка паразумецца, паколькі існавалі значныя адрозненні ў поглядах і памкненнях паміж так званымі "тэрытарыяльнымі" і "экстэрытарыяльнымі" меншасцямі. Пра такую атмасферу ўспамінаў аўтар яўрэйскай адозвы за студзень 1928 г., калі БНМ зноў быў утвораны перад выбарамі ў Сейм і Сенат другога склікання: «Ніхто ў той час (у 1922 г. – *М. Я.*) не верыў, што ўкраінскі ці беларускі селянін, яўрэйскі гарадскі або местачковы купец ці рамеснік, нямецкі каланіст ці рабочы стануць галасаваць за адзін і той жа спіс. Паўставала пытанне – што можа ўсіх гэтых людзей аб'яднаць? Што можа схіліць іх да супольнага галасавання, прымусіць забыцца на ўсе культурныя, моўныя, эканамічныя і палітычныя адрозненні ды супярэчнасці?»[7].

У яўрэйскай прэсе пашыраліся чуткі пра наяўнасць у беларускай частцы выбарчых спісаў генерала Станіслава

[5] Рагуля В. Успаміны. Мінск, 1993 (1-е выд. Нью-Ёрк, 1957). С. 12.

[6] Rudnicki S. Politycy żydowscy wobec idei Bloku Mniejszości Narodowych w 1922 roku // Problemy narodowościowe Europy Środkowo-Wschodniej w XIX i XX wieku. Poznań, 2002. S. 327.

[7] Nasz Przegląd. 12.01.1928. № 12. S. 5.

Булак-Балаховіча, войска якога пад час вайны з бальшавікамі практыкавала гвалт і забойствы ў дачыненні да яўрэйскага насельніцтва. У адказ на гэта беларускі камітэт пры БНМ выступіў з афіцыйным абвяржэннем[8]. Цікава, што гэты інцыдэнт аказаў, як падаецца, моцнае ўражанне на Апалінарыя Хартгласа, аднаго з лідараў сіяністаў былога Каралеўства Польскага, бо праз амаль 30 гадоў ён так пісаў у сваіх успамінах: «Здарылася так, што беларусы ўключылі ў наш спіс, яшчэ перад яго падачай, у якасці свайго кандыдата нейкага генерала Краснова. Потым мы высветлілі, што гэта быў ніякі не беларус, а “белы” рускі, вядомы казацкі атаман (Пётр. – *М. Я.*) Красноў, які пад час Грамадзянскай вайны ў Расіі ўчыняў там яўрэйскія пагромы. Грынбаўм запатрабаваў неадкладна выключыць яго са спіса, і беларусы зрабілі гэта без аніякіх пратэстаў»[9]. Аднак тут аўтар, падаецца, проста блытае Краснова з Булак-Балаховічам.

Паводле сведчання Рагулі, украінцы і беларусы атрымалі сродкі на правядзенне выбарчай кампаніі ад немцаў і яўрэяў. “Беларусы і ўкраінцы давалі свае галасы, – пісаў ён, – а немцы і жыды, апрача галасоў, давалі на выбары і грошы”[10]. Гэта пацвярджае пратакол паседжання БНМ ад 5 верасня 1922 г., які захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў Львове[11]. Цікава, што немцы і яўрэі без вялікага энтузіязму рэагавалі на фінансавыя просьбы з боку славянскіх меншасцяў і не выдзялялі грошай без канкрэтных абгрунтаванняў. Абрагам Трускер, старшыня Асацыяцыі купецкіх саюзаў і адзін з яўрэйскіх дэлегатаў, заявіў на згаданым паседжанні: “Мы не можам даць усіх грошай за адзін раз, дый вы не патраціце іх за адзін дзень. Мы свае абавязацельствы выконваем, і вы можаце разлічваць на гэта”[12].

8 Chwila. 29.09.1922. № 1284. S. 4.

9 Hartglas A. Na pograniczu dwóch światów. Warszawa, 1996. S. 218–219.

10 Рагуля В. Успаміны. С. 17.

11 Центральний державний історичний архів України, м. Львів (ЦДІА, м. Львів). Ф. 392. Оп. 1. Спр. 47. Арк. 112–113.

12 ЦДІА, м. Львів. Ф. 392. Оп. 1. Спр. 47. Арк. 112.

Палітычныя і сацыяльныя рознагалоссі існавалі не толькі паміж нацыянальнымі меншасцямі, якія ўвайшлі ў склад БНМ. Кожная меншасць сама па сабе вызначалася значнай палярызацыяй. У выпадку яўрэяў такія левыя партыі, як Бунд і Паалей-Цыён, устрымаліся ад уступлення ў БНМ. Затое ў ліку тых яўрэйскіх груповак, якія далучыліся да блока, апынуліся сіяністы ("агульныя сіяністы"), мізрахісты (рэлігійныя сіяністы), члены "Гітахдута" (Hitachduth – сіяністы памяркоўна сацыялістычнай накіраванасці), агудоўцы (члены артадаксальнай партыі "Агудат Ісраэль" – "Саюз Ізраіля") і "народнікі" або "фалькісты" (члены Яўрэйскай народнай партыі). Гэтыя апошнія, аднак, з-за спрэчак адносна падзелу мандатаў урэшце выйшлі з блока. Апрача таго, крытычнае стаўленне да БНМ захоўвалі сіяністы Усходняй Галіччыны на чале з Леанам Райхам, якія разам з іншымі яўрэйскімі партыямі гэтага рэгіёна ўтварылі свой уласны аб'яднаны нацыянальны спіс. Затое сярод беларусаў, што ўвайшлі ў склад БНМ, былі прадстаўлены ўсе беларускія палітычныя арганізацыі – ад Беларускай хрысціянскай дэмакратыі да сацыял-дэмакратаў, але пераважалі ўсё ж тыя плыні, якія ў сваёй ідэалогіі апелявалі да сацыялізму.

Выбары ў Сейм і Сенат Польскай Рэспублікі, што праходзілі 6 і 12 лістапада, прынеслі сур'ёзны поспех спісу № 16 (БНМ), які атрымаў 66 мандатаў у Сейме (у тым ліку 11 паводле агульнанацыянальнага спіса) і 23 мандаты ў Сенаце (4 паводле агульнанацыянальнага спіса). Таксама гэтыя выбары – у першую чаргу дзякуючы іх байкоту большасцю ўкраінскага насельніцтва Усходняй Галіччыны – прынеслі "грандыёзную, безумоўную перамогу" спісу № 17 (Камітэт аб'яднаных нацыянальных яўрэйскіх партый). Гэты спіс атрымаў 15 дэпутацкіх і 4 сенатарскія месцы. Вось чаму апалагет Пілсудскага гісторык Уладыслаў Побуг-Маліноўскі ацэньваў вынікі выбараў у паўночна-ўсходніх акругах наступным чынам: "Вынік выбараў на крэсах быў польскай дзяржаўнай паразай"[13]. Пры гэтым

[13] Pobóg-Malinowski W. Najnowsza historia polityczna 1864–1945. T. II. Londyn, 1956. S. 412.

варта прыгадаць, што прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў, у прыватнасці яўрэйскай, не былі задаволеныя вынікамі ў гэтых акругах. На пленарным паседжанні Цэнтральнага выбарчага камітэта БНМ, якое прайшло 16 лістапада – адразу ж пасля выбараў у Сенат, Грынбаўм заявіў: “У Пінску мы пацярпелі паражэнне выключна з-за таго, што беларусы мелі там мізэрны ўплыў і не здолелі гэтага ўплыву павялічыць у перадвыбарчы перыяд. <…> Пацярпелі паражэнне мы на Гродзеншчыне, у Востраве, Ломжы, Лідзе – усюды праз недахоп арганізацыі ў беларусаў”[14].

Дэпутатамі Сейма сталі 35 яўрэйскіх, 25 украінскіх, 17 нямецкіх, 11 беларускіх і 1 рускі кандыдат, а сенатарамі – 12 яўрэйскіх, 6 украінскіх, 5 нямецкіх, 3 беларускія і 1 рускі кандыдат. Яўрэі ў парламенце – за выключэннем Ноаха Прылуцкага, які прадстаўляў фалькістаў, – згуртаваліся ў г. зв. Яўрэйскае кола, дзе адразу ж разгарнулася вострая барацьба за лідарства паміж Грынбаўмам (лідарам сіяністаў з колішняга Каралеўства Польскага) і Райхам (лідарам сіяністаў Усходняй Галіччыны). На працягу ўсяго перыяду, які мы разглядаем, спрэчкі паміж гэтымі двума палітыкамі не спыняліся.

Беларусы ўтварылі Беларускі пасольскі клуб, які ўзначаліў Браніслаў Тарашкевіч. Бернард Зінгер – яўрэйскі журналіст, вядомы сваімі парламенцкімі рэпартажамі, – так пісаў пра гэтага дзеяча: «Ніхто не ведаў украінскіх дэпутатаў з Валыні. Навічкамі былі беларускія дэпутаты [Васіль] Рагуля, [Міхаіл] Кахановіч, [Фабіян] Ярэміч. <…> Ва ўсёй гэтай грамадзе вельмі хутка асвоіўся дэпутат Тарашкевіч. Ён адразу займеў знаёмых, сяброў, прыяцеляў. Да яго добра ставіліся левыя дэпутаты, прадстаўнікі ўрада, афіцэры. Менавіта на яго з самага пачатку паклалі вока левыя. Праўда, ён называў сябе беларусам, хоць і быў католікам. Зрэшты, беларуская нацыянальнасць лічылася выдумкай рэвалюцыі 1905 года. Левыя карысталіся гэтым тэрмінам выключна з палітычных меркаванняў. Але Тарашкевіча яны лічылі сваім чалавекам, які выпадкова

[14] ЦДІА, м. Львів. Ф. 392. Оп. 1. Спр. 47. Арк. 122.

звязаўся з “блокам” (БМН. – *М. Я.*). Яшчэ ў Пецярбургскім універсітэце ён выступаў за незалежнасць Польшчы, у Кракаве займаўся рэпетытарствам у багатых палякаў, на Віленшчыне выкладаў польскую мову русіфікаваным памешчыкам. З нядаўняга ж часу ён кіраваў беларускім рухам антысавецкай скіраванасці і меў вольны доступ у Бельведэр, знаўся з [Аляксандрам] Прыстарам»[15].

На згаданым паседжанні Грынбаўм прапанаваў утварыць Пагаджальную камісію фракцый нацыянальных меншасцяў, у склад якой “меліся ўвайсці ад кожнай фракцыі па адным прадстаўніку кожнага кірунку”. Ад імя арганізатара БНМ ён даводзіў: “Хоць блок насіў выключна тэхнічны характар і меў на мэце часткова кампенсаваць несправядлівасць, учыненую ў адносінах да нацыянальных меншасцяў прыняццем штучна перакручанага выбарчага заканадаўства, усё ж існуе нямала спраў, якія ў роўнай ступені закранаюць інтарэсы ўсіх меншасцяў, што ўваходзяць у склад блока. Гэта і абранне прэзідэнта краіны, і вылучэнне прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў у прэзідыум Сейма і Сената, і ўплыў на фарміраванне будучага ўрада. З’яўляючыся другой па велічыні групоўкай пасля Хрысціянскага саюза народнага адзінства (ХСНА, кааліцыя правых. – *М. Я.*), мы маем у сваім распараджэнні (разам з яўрэямі Усходняй Галіччыны) 87–88 дэпутатаў і 25–26 сенатараў. Такім чынам, мы можам на згаданыя справы аказаць адпаведны ўплыў. <…> Кожная нацыянальнасць утворыць у Сейме асобную фракцыю, будзе ажыццяўляць сваю ўласную палітыку, якая будзе адпавядаць яе патрэбам, жаданням і інтарэсам. Але застаецца яшчэ вялікі кавалак дарогі, які ўсе фракцыі нацыянальных меншасцяў мусяць прайсці разам. Нацыянальны прыгнёт прымусіў нас аб’яднацца ў блок. Гэта было неабходнасцю. Такой жа неабходнасцю будзе і ка-

[15] Zynger [Singer] B. Klub Białoruski (цыкл пад назвай “Od Witosa do Sławka”) // Nasz Przegląd. 14.08.1929. № 222. S. 4. Названы артыкул не быў змешчаны ў кнізе, у якой апублікаваны іншыя артыкулы з гэтага цыкла (Singer B. Od Witosa do Sławka. Paryż, 1962.).

ардынацыя дзейнасці дэпутацкіх і сенатарскіх фракцый у цэлым шэрагу пытанняў”[16].

Прадстаўнікі славянскіх меншасцяў паставіліся да такой прапановы насцярожана. Фабіян Ярэміч, адзін з беларускіх дзеячаў умерана сацыял-дэмакратычных поглядаў, заявіў “ад сябе асабіста, што беларусы заўсёды ўлічвалі тую акалічнасць, што тэхнічны блок, утвораны выключна ў выбарчых мэтах, пацягне за сабой далейшыя вынікі. Прапанову пана Грынбаўма, у прынцыпе, можна абмяркоўваць. Прысутныя на паседжанні беларускія прадстаўнікі, аднак, не маюць паўнамоцтваў для канчатковага вырашэння гэтага пытання”. Адносна наступнай прапановы Грынбаўма пра неадкладнае ўтварэнне Пагаджальнай камісіі і абвяшчэнне пра гэта ў прэсе Ярэміч выступіў з пярэчаннем. Ён запытаўся, ці не станецца так, што «заўчаснае абвяшчэнне пра ўтварэнне Пагаджальнай камісіі падштурхне Вітаса (лідара Польскай народнай партыі “Пяст”. – *М. Я.*) заключыць пагадненне з [Казімірам] Лютаслаўскім [прадстаўніком Народна-нацыянальнага саюза (ННС). – *М. Я.*]?»[17]

Як вядома, Пагаджальная камісія фракцый нацыянальных меншасцяў урэшце так і не была створана. На першым паседжанні Яўрэйскага кола, паводле сведчання міжваеннага даследчыка Аляксандра Гафткі, Грынбаўм прапанаваў канцэпцыю супрацоўніцтва з іншымі меншасцямі, у адпаведнасці з якой БНМ выступаў бы “ў якасці цэнтральнага палітычнага інстытута, які будзе займацца ўсімі пытаннямі меншасцяў і да якога зацікаўленыя будуць звяртацца па ўсіх справах, звязаных з нацыянальнымі меншасцямі”[18]. Але гэтая прапанова была адхілена большасцю членаў яўрэйскай фракцыі.

У ходзе выбараў прэзідэнта нацыянальныя меншасці галасавалі салідарна. 9 снежня 1922 г. сабраўся Нацыянальны сход. На ім было вылучана пяць кандыдатур на

[16] ЦДІА, м. Львів. Ф. 392. Оп. 1. Спр. 47. Арк. 119.
[17] ЦДІА, м. Львів. Ф. 392. Оп. 1. Спр. 47. Арк. 120.
[18] Hafftka A. Działalność parlamentarna i polityczna posłów i senatorów żydowskich w Polsce odrodzonej // Żydzi w Polsce Odrodzonej. T. II. Warszaw, 1933. S. 322.

пасаду прэзідэнта Польскай Рэспублікі, у тым ліку ад імя нацыянальных меншасцяў – знакаміты мовазнавец Ян Бадуэн дэ Куртэнэ. Праз год Бадуэн дэ Куртэнэ прызнаў, што ініцыятыва яго вылучэння "паходзіла зусім не ад яўрэяў, а выключна ад беларусаў і ўкраінцаў"[19]. Аднак ягоная кандыдатура была толькі намінальнай. Як вядома, зусім нечакана прэзідэнтам быў абраны Габрыэль Нарутовіч – кандыдат ад Польскай народнай партыі "Вызваленне", якога таксама падтрымалі дэпутаты і сенатары ад нацыянальных меншасцяў. Добра вядома і тое, якія трагічныя падзеі адбыліся ў сталіцы пасля гэтых выбараў; урэшце ўсё скончылася забойствам першага прэзідэнта Польскай Рэспублікі.

У Сейме і Сенаце фракцыі нацыянальных меншасцяў праводзілі самастойную палітыку. Беларускае прадстаўніцтва шчыльна супрацоўнічала з украінцамі і мела з імі супольную праграму, сярод асноўных пунктаў якой былі патрабаванні тэрытарыяльнай аўтаноміі, ліквідацыі асадніцтва, правядзення аграрнай рэформы і г. д. Трэба, аднак, прыгадаць, што ў выніку рэпрэсій – арыштаў, пазбаўлення мандатаў з-за адсутнасці польскага грамадзянства, а таксама вымушанай эміграцыі, каб пазбегнуць падобнага лёсу, – колькасць беларускіх дэпутатаў не была пастаяннай[20]. Яшчэ перад пачаткам працы Сейма і Сената першага склікання Грынбаўм прадказваў, што польскі ўрад будзе імкнуцца "пасварыць нацыянальныя меншасці, што ўвайшлі ў склад блока". "Яны (палякі. – *М. Я.*) будуць намагацца ўбіць клін паміж тэрытарыяльнымі (украінцамі і беларусамі) і нетэрытарыяльнымі (яўрэямі і немцамі) нацыянальнасцямі. Мы павінны своечасова прадухіліць гэта"[21]. Гэтае прадказанне хутка спраўдзілася.

16 студзеня 1923 г. у праграмнай прамове ў Сейме старшыня Рады Міністраў Уладыслаў Сікорскі звярнуў

[19] Chwila. 12.12.1923. № 1704. S. 2.

[20] Bergman A. Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. S. 81; Stępień S. Działalność posłów białoruskich w Sejmie RP w latach 1922–1927. S. 266; Głogowska H. Białorusini w parlamencie II Rzeczypospolitej. S. 130.

[21] ЦДІА, м. Львів. Ф. 392. Оп. 1. Спр. 47. Арк. 120.

увагу на пытанне нацыянальных меншасцяў, што было прыхільна сустрэта ўкраінцамі і беларусамі. Затое да яўрэяў у гэтай жа прамове Сікорскі выказаў прэтэнзіі, заявіўшы, што "яўрэйская меншасць на падставе згаданых прынцыпаў, зразумела, чакае, што добраахвотна нададзеныя ёй Польшчай правы будуць забяспечаны ўрадам. Тут, аднак, варта выказаць перасцярогу. Надта ж часта яўрэйскі бок абарону сваіх законных інтарэсаў ператварае ў барацьбу за прывілеі. Некаторыя органы міжнароднай прэсы вельмі паспешліва выступаюць з абвінавачаннямі, у якіх роўнасць, што пануе ў Польшчы, называюць прыгнётам"[22]. Украінцы і беларусы пад час галасавання падтрымалі ўрад вотумам даверу. У сваю чаргу, яўрэйскія дэпутаты разам з правымі галасавалі супраць урада. Немцы галасаванне праігнаравалі. Юліюш Вурзель, яўрэйскі журналіст і сенатар, падкрэсліў: "Сярод фракцый нацыянальных меншасцяў адразу ж разабраліся ў сітуацыі толькі яўрэйскія дэпутаты. <…> У аб'яднаннях украінскіх, беларускіх і нямецкіх дэпутатаў запанавала, як сведчыць вынік галасавання, поўная дэзарыентацыя"[23].

Парламентарыі ад нацыянальных меншасцяў у многіх пытаннях выступалі скаардынавана. Напрыклад, пры разглядзе пытання пра ўвядзенне *Numerus Clausus* (колькасных квот на прыём яўрэяў у ВНУ) украінцы, беларусы і немцы поруч з яўрэямі выказваліся супраць гэтай меры, прапанаванай кааліцыйным урадам Вінцэнта Вітаса (г. зв. урад ХСНА / "Пяста"), які ў пытаннях нацыянальных меншасцяў не хаваў сваёй яўна нацыяналістычнай пазіцыі. Так, Антон Аўсянік, дэпутат і тагачасны сакратар Беларускага пасольскага клуба, развэжаючы пра згаданую праблему ў шырэйшым кантэксце, у газетным інтэрв'ю сказаў: "Гэта згубная мера не толькі для яўрэяў, але і для іншых меншасцяў, да якіх належым і мы, беларусы. Калі беларускую моладзь не будуць прымаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, яна будзе ўцякаць, як

[22] Sprawozdanie stenograficzne Sejmu (далей SSS) z 7 posiedzenia (19 stycznia 1923 r.). Ł. 12.

[23] Chwila. 26.01.1923. № 1395. S. 2.

і цяпер робіць, у Прагу і Берлін, а можа, нават і ў Мінск, дзе ёсць політэхнічны інстытут. Мы гэтага не хочам, і таму будзем да канца змагацца супраць увядзення *Numerus Clausus*"[24].

Тут варта адзначыць, што палітыкі ад нацыянальных меншасцяў у парламенце выказваліся не толькі па вузканацыянальных, але і па агульнадзяржаўных пытаннях. У камісіях і на пленарных паседжаннях яны выступалі з прамовамі, уносілі прапановы і рабілі дэпутацкія запыты. Можна з упэўненасцю казаць, што ўсе прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў не ставілі пад сумненне неабходнасць падтрымкі парламенцкай дэмакратыі і недапушчэння любых спробаў яе аслаблення, бачачы ў гэтым заруку абароны сваіх нацыянальных меншасцяў ад прыгнёту і забеспячэння іх правоў.

Эканамічная забастоўка, якая выбухнула ў лістападзе 1923 г., пасля грубага ўмяшання ўрада Вітаса перарасла ў палітычны страйк. Польская сацыялістычная партыя (ППС) абвясціла агульнанацыянальную забастоўку, пасля чаго ўрад загадаў задушыць усе выступленні з дапамогаю паліцыі і войска, што прывяло да крывавага канфлікту. Гэтыя падзеі адгукнуліся бурлівым рэхам у Сейме. 30 лістапада 1923 г. была ўхвалена прапанова камісіі па рэгламенце пазбавіць судовай недатыкальнасці дэпутатаў ад ППС Эміля Баброўскага і Яна Станчыка, якіх абвінавачвалі ва ўдзеле ў хваляваннях у Кракаве. Адольф Зільберштэйн, член Яўрэйскага кола і адзіны дэпутат ад нацыянальных меншасцяў, які выступаў у той дзень у дэбатах, заявіў, што "таксама і дэпутацкая недатыкальнасць – гэта выключна ўнутраная справа парламента, а не нешта, што рэгулюецца пастановамі ўрада. Ніводзін урад не мае права ўмешвацца ў тое, павінен быць выдадзены дэпутат ці не, бо аўтаномія парламента стаіць па-над урадам. <…> Бо парламентарызм – гэта адна з найважнейшых заваёваў дэмакратыі, вось чаму мы пратэстуем і мусім даць адпор дзеяннем урада, накіраваным на тое, каб прымусіць

[24] Chwila. 24.06.1923. № 1542. S. 5–6; Nasz Przegląd. 24.06.1923. № 88. S. 5.

фракцыі (праўрадавай. – *М. Я.*) большасці прагаласаваць у гэтым пытанні насуперак сваім перакананням. <...> А паколькі мы ставім прэстыж парламента вышэй за прэстыж урада, то супрацьпастаўляем дрэнна зразуметаму прэстыжу ўрада прэстыж парламента. Таму мы будзем галасаваць супраць выдачы дэпутатаў”[25]. Пазней, у студзені 1927 г., замах на дэпутацкую недатыкальнасць закрануў і беларускіх дэпутатаў, прычым у яшчэ больш радыкальнай форме – у выглядзе рэпрэсій і арыштаў, пра што пойдзе гаворка ніжэй.

Калі пачалося галасаванне, прадстаўнікі левых партый пакінулі залу, спяваючы рэвалюцыйныя песні “O cześć Wam, panowie” і “Czerwony Sztandar”. Затым, калі пасля двуххвіліннага перапынку паседжанне прадоўжылася, са спевам пакінулі залу ўжо дэпутаты ад нацыянальных меншасцяў. Яўрэі спявалі сіяністкі гімн “Хатыква” (“Надзея”), украінцы – патрыятычную песню на словы Івана Франка “Не пора”, а беларусы – “Адвеку мы спалі”[26]. Паводле выказвання Б. Зінгера, згаданага вышэй парламенцкага рэпарцёра, Сейм першага склікання быў “спеўны”. Пра гэта Зінгер напісаў у артыкуле “Сейм спявае!”[27]. Такая сцэна са спевамі паўтарылася і ў ліпені 1924 г., пад час разгляду Сеймам праекта т. зв. моўных законаў.

У снежні 1923 г., пасля адстаўкі ўрада Вітаса, фарміраванне новага ўрада збіраліся даручыць Станіславу Тугуту, лідару Польскай народнай партыі “Вызваленне” – найбуйнейшай на той час апазіцыйнай партыі. У святле магчымага ўтварэння ўрада на чале з Тугутам, які меў рэпутацыю дэмакратычнага палітыка, фракцыі нацыянальных меншасцяў вярнуліся да працы ў парламенце і выступілі з шэрагам сумесных заяваў, якія тычыліся, у прыватнасці, поўнага ўвасаблення прынцыпу раўнапраўя, адмены дыскрымінацыйных законаў аб рэгістрацыі нацыянальных арганізацый і школ, а таксама стварэння пры Радзе Міністраў камітэта па справах нацменшасцяў

[25] SSS z 83 posiedzenia (30 listopada 1923 r.). Ł. 48–49.
[26] Nasz Przegląd. 1.12.1923. № 245. S. 2.
[27] Singer B. Od Witosa do Sławka. Paryż, 1962. S. 34–36.

з асобнымі сектарамі для кожнай меншасці[28]. Тугут, які хацеў атрымаць падтрымку з боку нацыянальных меншасцяў, вёў перамовы з Тарашкевічам. Старшыня Беларускага пасольскага клуба перадаў Тугуту патрабаванні беларускага боку, да якіх Тугут паставіўся "ў цэлым прыхільна". У гэты час у кулуарах шырыліся пагалоскі, "што ён (Тарашкевіч. – *М. Я.*) узначаліць камітэт па справах нацменшасцяў"[29]. Аднак Тугуту не ўдалося заваяваць падтрымкі з боку хрысціянскіх дэмакратаў, без якіх тады немагчыма было ўтварыць кабінет. У выніку Тугут адмовіўся ад даручанай яму місіі, а замест гэтага быў утвораны непарламенцкі ўрад Уладыслава Грабскага.

Новы прэм'ер-міністр, аднак, заявіў прадстаўнікам Украінскага пасольскага клуба, што "ягоны ўрад, які мае на мэце выключна аздараўленне фінансаў, у пытанні нацыянальных меншасцяў будзе захоўваць стрыманасць". "Больш-менш тое самае" Грабскі паведаміў і Тарашкевічу. Затое ў размове з лідарам нямецкага прадстаўніцтва ў Сейме прэм'ер Грабскі сфармуляваў сваю пазіцыю наступным чынам: "Задача майго ўрада палягае ў аздараўленні фінансава-бюджэтнай сістэмы, а таму я нічога не магу зрабіць для меншасцяў, бо гэта выклікала б напружанне ў (польскім. – *М. Я.*) грамадстве, чаго я мушу пазбягаць, каб не перашкодзіць справе аздараўлення эканомікі"[30]. У першай сеймавай прамове (20 студзеня 1923 г.), як заўважыў Анджэй Хайноўскі, Уладыслаў Грабскі аніяк не закрануў нацыянальнага пытання[31].

Нацыянальныя меншасці знаходзіліся ў адкрытай апазіцыі да ўрада Грабскага. Пасля першай прамовы прэм'ер-міністра Леан Райх, старшыня Яўрэйскага кола, заявіў пра недавер ураду, сказаўшы: "На нашую думку, аднак, ужо сам прынцып, абвешчаны прэм'ер-міністрам, цалкам хібны. <…> Ніхто не можа і не зможа палепшыць фінансавага стану дзяржавы, пакуль будзе захоўвацца

[28] Nasz Przegląd. 16.12.1923. № 260. S. 2.
[29] Zynger [Singer] B. Klub Białoruski. S. 4.
[30] Nasz Przegląd. 20.12.1923. № 264. S. 1.
[31] Chojnowski A. Koncepcje polityki narodowościowej rządów polskich w latach 1921–1939. Wrocław, 1979. S. 35.

цяперашняе становішча з падзелам грамадзян на гаспадароў і ілотаў, пакуль будзе весціся згубная палітыка, якая выклікае ўсё большую незадаволенасць вялікай часткі грамадзян. <…> Ужо сама прысутнасць у кабінеце міністра Саснкоўскага, нягледзячы на нашы пратэсты, дэманструе характар і памкненні гэтага ўрада. Генерал Саснкоўскі быў першым міністрам, які тайнымі цыркулярамі ўвёў у войску дыскрымінацыйныя абмежаванні для яўрэяў, які пад час бальшавіцкага нашэсця стварыў канцэнтрацыйны лагер у Яблонне для салдат і добраахвотнікаў з ліку яўрэяў…”[32]. З іншай аргументацыяй супраць урада выступіў Тарашкевіч: “Калі гаварыць далей пра склад сённяшняга кабінета, дык для нас цалкам ясна, што хоць гэта кабінет непарламенцкі, але яўна правай афарбоўкі. <…> Мы баімся, што і гэты непарламенцкі ўрад пойдзе шляхам прыгнёту беларусаў, прыгнёту ўскраін, наогул яшчэ далей, бо папярэдні ўрад меў той вялікі плюс, што быў урадам парламенцкім, а таму нёс поўную адказнасць”[33].

Нягледзячы на згаданае вышэй стаўленне ўрада да нацыянальнага пытання, тая акалічнасць, што ў верасні 1924 г. павінен быў уступіць у сілу Закон аб самакіраванні ад 26 верасня 1922 г., прымусіла Грабскага звярнуць увагу на становішча жыхароў нацыянальных ускраін. У красавіку 1924 г. урадам была ўтворана так званая “Камісія чатырох”, у склад якой, разам з двума экспертамі, увайшлі: з боку правых – Станіслаў Грабскі, старэйшы брат прэм’ер-міністра і лідар Народна-нацыянальнага саюза, а з боку левых – Тугут. Паводле сведчання Зінгера, Тугут хацеў – хоць і невядома, калі – “уцягнуць і Тарашкевіча” ў склад камісіі, але той “катэгарычна адмовіўся”[34]. Гэтая камісія распрацавала праекты трох законаў аб выкарыстанні нацыянальных моў – у адміністрацыйнай, судовай і адукацыйнай сферах[35]. У ліпені 1924 г. законапраекты былі

[32] SSS z 90 posiedzenia (21 grudnia1923 r.). Ł. 10–11.
[33] Тамсама. Ł. 14.
[34] Zynger [Singer] B. Klub Białoruski. S. 4.
[35] Больш падрабязна гл.: Ogonowski J. Uprawnienia językowe mniejszości narodowych w Rzeczypospolitej Polskiej 1918–1939. Warszawa, 2000. S. 92–130.

накіраваны на разгляд Канстытуцыйнай камісіі. На паседжаннях гэтай камісіі выступілі прадстаўнікі соймавых фракцый усіх асноўных нацменшасцяў. Выступленне ўкраінскіх і беларускіх дэпутатаў, г. зн. прадстаўнікоў "тэрытарыяльных меншасцяў", характарызавалася вострай крытыкай гэтых законапраектаў. Тарашкевіч ад імя Беларускага пасольскага клуба заявіў: «Законапраекты былі распрацаваныя пад ціскам вонкавых фактараў, але прадугледжаная імі "рэформа" зусім недастатковая. Законапраектам уводзяцца двухмоўныя школы, на што мы не можам пагадзіцца»[36]. Негатыўнае стаўленне да гэтых законапраектаў з боку яўрэяў выказваў і дэпутат ад Яўрэйскага кола Давід Шрайбер: "Дык вось якім чынам – адмаўляючы яўрэям на ўскраінах у праве выкарыстання сваёй мовы – вы хочаце яўрэяў паставіць у тое гаротнае становішча, каб яны сталі там паланізатарамі і тым самым выклікалі да сябе заканамерную нянавісць з боку ўкраінцаў і беларусаў. <…> Таму мы лічым прапанаваныя праекты надзвычай абразлівымі для яўрэяў – не толькі з прычыны ўціску іх правоў, але і з прычыны немагчымай ролі, якую яўрэі мусілі б узяць на сябе"[37]. У далейшых дэбатах камісіі Тарашкевіч ад імя ўсіх меншасцяў заявіў, што "паколькі пры распрацоўцы прапанаваных законапраектаў пра думку прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў ніхто не пытаўся, фракцыі меншасцяў лічаць немагчымым удзельнічаць у абмеркаванні пытання, якое ўжо загадзя вырашана"[38]. Пасля гэтай заявы прадстаўнікі ўсіх нацменшасцяў пакінулі паседжанне.

Фракцыі нацыянальных меншасцяў вырашылі прытрымлівацца на пленарным паседжанні Сейма той самай тактыкі, якую яны абралі пры разглядзе законапраектаў у Канстытуцыйнай камісіі:

1) адмаўляць законапраекты ў прынцыпе без прадметнага абмеркавання іх зместу і без унясення ўласных правак;

[36] Nasz Przegląd. 4.07.1924. № 182. S. 2; Nowy Dziennik. 5.07.1924. № 149. S. 2.

[37] Chwila. 7.07.1924. № 1908. S. 2; Nasz Przegląd. 4.07.1924. № 182. S. 2.

[38] Nasz Przegląd. 5.07.1924. № 183. S. 2.

2) крытыкаваць нацыянальную палітыку дзяржавы;

3) рабіць дэманстратыўныя жэсты, разлічаныя на вонкавы эфект[39].

9 ліпеня 1924 г. на паседжанні Сейма, якое праходзіла пасля ўхвалення законапраектаў у Канстытуцыйнай камісіі, ішло абмеркаванне г. зв. “крэсовых законаў”. Дэбаты гэтыя былі надзвычай вострымі. Калі пачалося галасаванне ў другім чытанні, украінскія і беларускія дэпутаты дэманстратыўна выйшлі з залы, спяваючы нацыянальныя гімны. Украінскія сацыялісты зацягнулі “Інтэрнацыянал”. У сваю чаргу, калі з залы выходзілі немцы і частка яўрэяў на чале з Грынбаўмам, група Грынбаўма спынілася каля дзвярэй і заспявала “Хатыкву”. Гэта прывяло да пэўнага інцыдэнта. Рэшта яўрэйскіх дэпутатаў засталася на сваіх месцах у адпаведнасці з рашэннем Яўрэйскага кола, якое прадугледжвала, што “яўрэі павінны пакінуць залу разам з іншымі меншасцямі, калі не адбудзецца спеўнай дэманстрацыі; у адваротным выпадку яны павінны дачакацца завяршэння спеўнай дэманстрацыі і асобна заявіць пра сваю адмову (ад галасавання. – *М. Я.*), але без спеваў”[40]. На адрас гэтых дэпутатаў Грынбаўм закрычаў: “Здраднікі яўрэйскага народа!” – пасля чаго адбыўся “спантанны абмен рэплікамі” паміж яўрэямі. Гэта абвастрыла напружанасць унутры Яўрэйскага кола, якая была ад самага пачатку існавання гэтай фракцыі паміж групай Грынбаўма і прыхільнікамі памяркоўнай пазіцыі Райха.

У той час пачала мяняцца атмасфера і ў Беларускім пасольскім клубе. На соймавых паседжаннях вясны і лета 1924 г. Тарашкевіч пачаў займаць усё больш радыкальную пазіцыю і нават загаварыў у сваіх прамовах пра рэвалюцыю. Польскі даследчык Міхал Куркевіч слушна адзначае, параўноўваючы лексіку Тарашкевіча і іншых беларускіх дэпутатаў – Рагулі, Ярэміча і ксяндза Адама Станкевіча, – што ўсе яны хоць і востра крытыкавалі ўрад, але “не пагражалі рэвалюцыяй накшталт

[39] Ogonowski J. Uprawnienia językowe mniejszości narodowych. S. 102.

[40] Nasz Przegląd. 10.07.1924. № 188. S. 2.

бальшавіцкай"[41]. Тарашкевіч, аднак, – як сцвярджае Аляксандра Бергман – па-ранейшаму лічыў, што яшчэ не ўсе магчымасці паразумення з польскім левымі вычарпаныя і што не варта самаізаляваацца ад жыцця ўсёй краіны, хоць сярод беларускіх дэпутатаў усё часцей гучалі заклікі аб пераходзе да непарламенцкіх метадаў барацьбы, г. зн. да арганізацыі масавых пратэстаў і кіравання імі[42].

4 ліпеня 1925 г. было абвешчана пра заключэнне пагаднення паміж прадстаўнікамі Яўрэйскага кола і ўрадам Грабскага. Гэтая так званая "польска-яўрэйская ўгода" стала адным з найвайжнейшых эпізодаў у гісторыі Яўрэйскага кола. Перагаворы наконт гэтага пагаднення пачаліся ў пачатку траўня 1925 г. па ініцыятыве міністра замежных спраў Аляксандра Скшыньскага. З яўрэйскага боку ў іх удзельнічалі Райх і Озія Тон – былы старшыня Яўрэйскага кола. Весткі пра перагаворы з урадам выклікалі вялікае абурэнне, у тым ліку ўнутры Яўрэйскага кола, асабліва з боку групы Грынбаўма і "Гітахдута", бо ад імя ўрада перамовы вёў Станіслаў Грабскі – як мы ўжо згадвалі, старэйшы брат прэм'ер-міністра і старшыня Народна-нацыяльнага саюза, які займаў адкрыта антыяўрэйскую пазіцыю.

Дагавор яўрэяў з урадам пагражаў зруйнаваць адзінства меншасцяў, таму весткі пра перамовы ўстрывожылі прадстаўнікоў іншых народаў, у першую чаргу славянскіх. Пакуль ішлі перагаворы, украінская фракцыя асцярожна выказвалася на тэму польска-яўрэйскага пагаднення, але пасля апублікавання канчатковага дакумента не хавала свайго абурэння. "Яўрэйскае кола, паабяцаўшы стаяць на грунце непарушнасці сённяшніх межаў Польшчы і абароны польскай вялікадзяржаўнай палітыкі, якая ў адносінах да ўкраінскага народа заўсёды мела знішчальны характар, выйшла за рамкі абароны нацыянальных інтарэсаў яўрэйскага насельніцтва і заняло ў адносінах

[41] Kurkiewicz M. Sprawy białoruskie w polityce rządu Władysława Grabskiego. Warszawa, 2005. S. 95.

[42] Bergman A. Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. S. 91.

да ўкраінскага народа, які складае большасць на сваіх землях, варожую пазіцыю, замахнуўшыся на яго жыццёва важныя інтарэсы”[43].

У сваю чаргу, менавіта ў гэты час адбыўся раскол у Беларускім пасольскім клубе. Тарашкевіч і тры іншыя дэпутаты выйшлі з яго складу і 24 чэрвеня 1925 г. абвясцілі ў Сейме пра ўтварэнне асобнай фракцыі Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У выніку ў Беларускім пасольскім клубе засталіся ўсяго тры дэпутаты – Рагуля, Ярэміч і ксёндз Станкевіч. Відаць, таму, што пад час польска-яўрэйскіх перамоваў беларускія дэпутаты больш звярталі ўвагу на ўнутраныя справы сваёй фракцыі, з рэакцыяй на “польска-яўрэйскую ўгоду” яны крыху спазніліся. Раздражненне беларускіх парламентарыяў, аднак, праявілася ў выступленні Валошына – дэпутата ад БСРГ. Яно прагучала 20 лістапада 1925 г., пад час абмеркавання дэкларацыі ўрада Скшыньскага, які быў утвораны ў якасці кааліцыйнага (у гэтую кааліцыю ўвайшлі пяць польскіх партый – ад ННС да ППС). Валошын выступіў з вострай крытыкай новага прэм’ер-міністра, згадаўшы пра “ўгоду”: «Сам граф Скшыньскі – вучань старой аўстрыйскай дыпламатычнай школы, якому, не зважаючы на ягоны ўяўны “дэмакратызм”, выдатна ўдаецца ў дачыненні да прыгнечаных Польшчай народаў праводзіць старую палітыку, практыкаваную Аўстрыяй, – “divide et impera”. На карысць гэтага сведчаць яго ўпартыя намаганні ўцягнуць у сферу ўрадавых уплываў буржуазнае Яўрэйскае кола, з якім папярэдні ўрад братоў Грабскіх заключыў ганебны пакт, хочучы тым самым аблегчыць сабе справу прыгнёту тэрытарыяльных славянскіх меншасцяў, якія ніколі не зміраццa з польскім гвалтам»[44].

У адказ на крытыку з боку ўкраінцаў і беларусаў Озія Тон, адзін з асноўных перагаворшчыкаў, так абгрунтаваў заключэнне гэтага пагаднення: “Такім чынам, нашы дарогі – гэта не іх дарогі. У нас няма ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій, мы не маем і не можам мець ніякіх

[43] Chwila. 5.07.1925. № 2263. S. 2.
[44] SSS z 255 posiedzenia (25 listopada1925 r.). Ł. 28.

ірэдэнтысцкіх схільнасцяў або тэндэнцый. Для нас адраджэнне польскай дзяржавы з першай хвіліны было гістарычным фактам, які мы шчыра віталі. <…> Па меры вызначэння межаў дзяржавы, як заходніх, так і ўсходніх, мы прызнавалі іх непарушнасць без аніякіх агаворак. <…> Інакш, ясная рэч, паставіліся да гэтага пытання ўкраінцы і беларусы. <…> Мы паважаем іх вольную волю. Але наўрад ці могуць яны ад нас патрабаваць, каб мы падтрымлівалі які б там ні было ірэдэнтызм"[45].

Пасля заключэння пакта з урадам яўрэйская грамадскасць пачала чакаць ад яго сапупак, тым больш што прэм'ер-міністр Грабскі паабяцаў як найхутчэй аддаць распараджэнні, якія стануць першым крокам на шляху задавальнення яўрэйскіх патрэбаў у культурнай, эканамічнай і палітычнай сферах. Аднак у той самы час вялікую ўвагу беларускага і ўкраінскага насельніцтва прыцягнулі дыскусіі ў Сейме, прысвечаныя закону аб зямельнай рэформе. Дэпутаты ад Беларускага пасольскага клуба і БСРГ выступілі з вострай крытыкай гэтага закона. Ад імя Грамады Сымон Рак-Міхайлоўскі заявіў: «Замест эканамічна і фізічна знішчанага беларускага насельніцтва там будзе затое насаджацца польскае насельніцтва. Гэта, вядома ж, адпавядае польскім імперыялістычным інтарэсам. "Крэсы Усходнія" для Польшчы адыгрываюць ролю калоніі…»[46]. У сваю чаргу, тагачасны старшыня Беларускага пасольскага клуба Ярэміч так выказаўся наконт новага закона: "Калі ў 1920 г. ішла гаворка пра вайсковае асадніцтва, дык сёння, у 1925 г., мы атрымалі закон аб асадніцтве цывільным"[47]. Рагуля, крытыкуючы законапраект, прыгадаў, як польскі кароль Жыгімонт Аўгуст непасрэдна перад падпісаннем Люблінскай уніі ў 1569 г. адарваў ад ВКЛ чатыры ваяводствы – Падляскае, Валынскае, Брацлаўскае і Кіеўскае – і далучыў іх да Кароны. Далей ён заявіў: "У 1925 годзе мы не паўторым памылак нашай шляхты з 1569 года.

[45] Nowy Dziennik. 9.07.1925. № 151. S. 1.
[46] SSS z 228 posiedzenia (6 lipca 1925 r.). Ł. 36.
[47] Тамсама. Ł. 42.

Мы не ўкленчым перад вамі і не будзем прасіць вас так, як маліла, упаўшы на калені, караля Жыгімонта Аўгуста наша шляхта, просячы яго не аддаваць Польшчы беларускіх земляў. <…> Мы ведаем, што трэба не прасіць, а браць, і наш народ сваю зямлю забярэ…”[48]. Ад імя “работніцка-сялянскага блока” – утворанага з Незалежнай сялянскай партыі, Камуністычнай пасольскай фракцыі і Грамады – на трыбуне Сейма выступіў Тарашкевіч. Ён атакаваў у першую чаргу дэпутатаў ад левых партый: «Гэты закон, які служыць інтарэсам буржуазіі і памешчыкаў, прымаецца з найшчыльнейшым удзелам панскіх служак з “Пяста” і ППС, якія ўжо даўно і канчаткова паставілі сваёй мэтай абарону і ўмацаванне ўлады буржуазіі. Але і “Вызваленне”, якое дзеля прыліку ўжывае радыкальныя фразы, якое на працягу нейкага часу прыкідвалася ў Сейме апазіцыяй, таксама ўсё больш адкрыта ідзе панскай сцежкай, а заключыўшы дагавор з “Пястам”, і зусім яўна перайшло ў лагер, варожы працоўнаму люду»[49].

Атмасфера на паседжаннях Сейма зноў радыкалізавалася. 14 ліпеня галасаванне па законапраекце аб парцэляцыі і асадніцтве праходзіла “ў гармідары”. У такой абстаноўцы некаторыя ўкраінскія і беларускія дэпутаты зусім раз’юшыліся. Як паведамляла яўрэйская прэса, Тарашкевіч ускочыў на крэсла і дэманстратыўна зазваніў у званок. Ян Марвег, дэпутат ад ННС, употайкі падкраўся і сілаю сапхнуў Тарашкевіча[50]. Гэты інцыдэнт пацвярджаецца і ўспамінамі Уладыслава Канапчыньскага, дэпутата ад ННС, які пісаў: «Дэпутат Марвег быў выдалены (з паседжання старшынёй Сейма. – **М. Я.**] 14 ліпеня 1925 г., калі, не маючы сілы стрываць карчомную абструкцыю “Вызвалення” і нацменшасцяў, вырваў званок з рук Тарашкевіча…»[51]. Праз чатыры дні на чарговым паседжанні

[48] SSS z 237 posiedzenia (17 lipca 1925 r.). Ł. 15.
[49] Тамсама. Ł. 24.
[50] Nasz Przegląd. 15.07.1925. № 193. S. 3.
[51] Konopczyński W. Sejm bez obsłonek 1922–1927. Kraków, 1928. S. 27.

адбылося выступленне “абструкцыйнага аркестра”, у якім Тарашкевіч, вобразна кажучы, “іграў на гармоніку”[52].

Як можна меркаваць, пазіцыя Яўрэйскага кола наконт гэтага законапраекта была неадназначнай, аднак Эміль Замерштайн, які лідзіраваў сярод яўрэйскіх дэпутатаў пры абмеркаванні зямельнай рэформы, прагаласаваў разам з польскімі партыямі за яго прыняцце.

Травеньскі пераварот 1926 г. быў сустрэты нацыянальнымі меншасцямі з надзеяй на змену палітыкі ў адносінах да сябе. Ён выклікаў вялікі энтузіязм, асабліва сярод яўрэяў. Апалінарый Хартглас, старшыня Яўрэйскага кола, у інтэрв’ю з нагоды першай гадавіны перавароту сказаў: “Калі папярэднія ўрады мелі яўна пагромныя тэндэнцыі ў дачыненні да яўрэяў, а ў адносінах да іншых нацыянальных меншасцяў імкнуліся да прымусовай асіміляцыі і паслядоўна ўвасаблялі ў жыццё гэтую праграму, то паслятравеньскія ўрады хоць і спавядаюць моцныя асіміляцыйныя тэндэнцыі ў дачыненні да ўсіх меншасцяў, але ж не інспіруюць у адносінах да яўрэяў ні пагромаў, ні прымусовай асіміляцыі. <…> Увесь год мы стаялі на пазіцыях чакання, з больш ці менш прыхільным стаўленнем да ўрада. Але зразумела, што такое чаканне з нашага боку не можа доўжыцца вечна. А дзеянняў урада мы не бачым”[53]. Праўда, ранейшы старшыня Райх неаднаразова перасцерагаў новае кіраўніцтва кола ад празмернага даверу да паслятравеньскіх урадаў. У канцы 1926 г. ён пісаў: «Заўсёды і ўсюды Яўрэйскае кола пагаджалася, што да паслятравеньскага ўрада нельга ставіцца так, як да папярэднікаў, і хоць з часу травеньскіх падзей нічога пазітыўнага яўрэі не атрымалі, аднак кіраўніцтва кола ўвесь час заяўляла, што не выпадае таргавацца з урадам, бацькам якога было абурэнне насельніцтва, а маці – жаданне “маральнай санацыі”. Вось жа, хапіла пары ласкавых слоў на адрас яўрэяў з вуснаў тагачаснага прэм’ерміністра [Казіміра] Бартэля, каб кола вуснамі свайго

[52] Nasz Przegląd. 19.07.1925. № 197. S. 3; Nowy Dziennik. 20.07.1925. № 161. S. 10.

[53] Nowy Dziennik. 16.05.1927. № 126. S. 5.

прадстаўніка абвясціла свету з сеймавай трыбуны, што ў Польшчы ніколі раней не было такога спрыяльнага да яўрэяў урада»[54].

Сярод дэпутатаў Беларускага пасольскага клуба пераход улады ў рукі Юзафа Пілсудскага быў сустрэты больш-менш прыхільна. Аднак, напрыклад, ксёндз Станкевіч – адзіны дэпутат ад Беларускай хрысціянскай дэмакратыі – гаварыў, што пад час дэбатаў наконт унясення зменаў у Канстытуцыю ў ліпені 1926 г. "травеньскія надзеі згаслі"[55]. У сваю чаргу, дэпутаты ад БСРГ паслядоўна выступалі супраць паслятравеньскага ўрада. 16 лістапада 1926 г. Тарашкевіч у сваёй апошняй прамове ў Сейме заявіў: "Вось жа, калі адбыўся травеньскі пераварот, ілюзій мы мелі менш чым калі, аднак і тут рэальнасць пераўзышла самыя песімістычныя прагнозы, выявілася горшай за іх. Ніколі мы не чакалі ад Пілсудскага – таго Пілсудскага, галаслоўнасць абяцанняў якога вывучылі яшчэ ў 1919–1920 гг., – што ён дасць нам надта дэмакратычны ўрад, але ж зусім не чакалі і таго, што праўленне Пілсудскага выльецца ў такую чорную, непрыхаваную рэакцыю, якую мы маем сёння. Мы не чакалі, што Пілсудскі зладзіць каранацыю гэтага свайго новага курсу – калі не сябе асабіста, дык свайго новага курсу – у Нясвіжы, тым Нясвіжы князя Радзівіла, у якім дагэтуль пануе сярэднявечная паншчына"[56]. Як пісаў Б. Зінгер, да таго часу Тарашкевіч выглядаў ужо зусім не так, як раней: "Змяніўся нават голас і выгляд. Калісьці бледны, з ружовымі шчокамі і тэнаровым голасам, досыць элегантна апрануты, цяпер ён аглушаў басам, насіў куртку з ботамі і трымаўся ў кампаніі крайне левых"[57].

У нейкі перыяд пасля травеньскага перавароту Грамадзе ўдалося значна актывізаваць сваю дзейнасць дзякуючы здранцвенню, якое ахапіла адміністрацыю і паліцыю

[54] Chwila. 13.12.1926. № 2778. S. 2.

[55] Trejdeński P. Białoruskie stronnictwa polityczne w Polsce i ich ideologia // Sprawy Narodowościowe. 1930. R. IV. № 5–6. S. 527.

[56] SSS z 307 posiedzenia (16 listopada 1926 r.). Ł. 77.

[57] Zynger [Singer] B. Klub Białoruski. S. 4.

ўсходніх ваяводстваў[58]. Гэта выклікала занепакоенасць ва ўрадзе, які пад канец 1926 г. ініцыяваў суровыя рэпрэсіі супраць Грамады. Было аб'яўлена пра прымусовую ліквідацыю партыі і роспуск яе дэпутацкай фракцыі. Пачаліся масавыя арышты членаў БСРГ. У студзені 1927 г. дэпутаты Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла, Павел Валошын і Фелікс Галавач (дэпутат-беларус ад Незалежнай сялянскай партыі) былі арыштаваныя. Пытанне пра пазбаўленне арыштаваных дэпутатаў парламенцкай недатыкальнасці абмяркоўвалася на некалькіх сеймавых паседжаннях. Супраць прыняцця такога рашэння выказвалася не толькі рэшта беларускіх прадстаўнікоў у Сейме, але і дэпутаты ад іншых нацыянальных меншасцяў, у тым ліку яўрэі, а таксама польскія левыя.

У складзе сеймавай камсіі па справах дэпутацкай недатыкальнасці засталося ўсяго два дэпутаты, якія прадстаўлялі нацыянальныя меншасці, – Фабіян Ярэміч (Беларускі пасольскі клуб) і Давід Шрайбер (Яўрэйскае кола). У дэбатах гэтай камісіі Шрайбер абвясціў пра недавер старшыні Сейма, заявіўшы: «Я вельмі добра знаёмы са старшынёй (Мацеем. – *М. Я.*) Ратаем і ведаю, як высока ён цэніць статус дэпутата. Таму мне цяжка ўявіць сабе яго адмову ад бескампраміснай абароны дэпутацкіх правоў, якія ляжаць у аснове любой канстытуцыі. Тым не менш, ягоныя цяперашнія паводзіны ясна паказваюць на яго хісткую пазіцыю ў гэтым пытанні»[59]. На паседжанні Яўрэйскага кола, якое адбылося 25 студзеня 1927 г., пастанавілі галасаваць супраць выдачы арыштаваных дэпутатаў пракуратуры. Тут трэба дадаць, што адносна магчымага вотуму недаверу старшыні Ратаю – нягледзячы на прыведзеныя вышэй закіды Шрайбера – Яўрэйскае кола пастанавіла галасаваць супраць такой прапановы.

На паседжанні Сейма 4 лютага 1927 г. Шрайбер выступіў супраць выдачы дэпутатаў, заявіўшы, што пракуратура не прывяла парламентарыям ніякіх канкрэтных

[58] Mironowicz E. Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu Piłsudskiego. Białystok, 2007. S. 48.
[59] Chwila. 20.01.1927. Nr 2814. S. 3.

доказаў. Мы працытуем тут яго прамову паводле справаздачы яўрэйскай прэсы, бо, як выглядае, яна лепш перадае змест, чым афіцыйная стэнаграма паседжання Сейма: "Нам не назвалі ні прозвішчаў сведак, ні месца іх працы, а каб прадэманстраваць, што гэта было неабходна нам для разумення сітуацыі, я прывяду Высокай Палаце толькі адзін аргумент. Трымаю перад сабой запыт Навагрудскага акруговага суда ад 18 чэрвеня 1925 г. аб выдачы дэпутатаў Галавача і Рагулі. У ім можна прачытаць, што абодва дэпутаты нібыта здзейснілі жахлівае злачынства супраць дзяржавы, а менавіта распаўсюджвалі сярод беларускага насельніцтва чуткі пра ўзброенае паўстанне, што мелася адбыцца ў траўні 1924 г., якое вызваліць беларусаў ад польскага ярма і так званую Заходнюю Беларусь уз'яднае з Расіяй. У запыце сцвярджалася, што дэпутаты Галавач і Рагуля, на той момант не арыштаваныя, былі завадатарамі гэтага бунту і рыхтавалі ўзброенае паўстанне на травень 1924 г. Паўстанне гэтае да гэтай пары так і не выбухнула, але пазней высветлілася, што рашэнні пракурора, а потым і навагрудскага суда грунтаваліся на паказаннях сведак, а менавіта агента Бераксы, пазней прысуджанага за крадзеж да шасцімесячнага зняволення, агента Бардзюка <...> Выключна на паказаннях гэтых сведак суд зляпіў абвінавачанне і запатрабаваў выдачы дэпутатаў. Камісія (па справах недатыкальнасці. – *М. Я.*) даследавала гэтыя акалічнасці і прыйшла да высновы, што на падставе такіх сведчанняў нельга выдаваць дэпутатаў, і яны не былі выдадзены. Сёння ж камісіі невядомыя ні прозвішчы, ні прафесіі сведак, а таму зусім незразумела, ці выступаюць на баку суда добрасумленныя і праўдзівыя сведкі, ці, як сцвярджае процілеглы бок, чыстыя правакатары. Вось на падставе чаго, Высокая Палата, нам давялося выносіць сваё рашэнне, і вось чаму мы пастанавілі не выдаваць пяцярых дэпутатаў Сейма суду"[60].

Тут варта дадаць, што ў гэты час у яўрэйскай прэсе з'явіўся каментарый, які праводзіў аналогію паміж Тарашкевічам і Сцяпанам Радзічам – харвацкім палітыкам

[60] Chwila. 7.02.1927. № 2832. S. 5–6.

пры гэтым яны выпісвалі толькі тры выданні: “Новае слова”, “Gazeta Grudziądzka” і “Зямля і воля”. Аматарскія драмгурткі дзейнічалі пры шасці нізавых арганізацыях ТБШ – у Квасевічах, Сянкевічах, Яглевічах, Блізне, Байках і Калазубах; трупы складаліся з 7–16 удзельнікаў[60].

Найбольш актыўнымі і дзейснымі былі шэсць гурткоў ТБШ: у Квасевічах, Варанілавічах, Блізне, Байках, Калазубах, Шэнях. Малую актыўнасць выяўлялі 10 гурткоў: у Заполлі, Сянкевічах, Яглевічах, Падстарыні, Міхновічах, Аменьчыцах, Шчытне, Калазубах, Залессі (Пружанскага павета), Хвалаве. У табліцы згаданы і дзевяць гурткоў, якія фактычна ўжо не дзейнічалі ад аднаго да чатырох гадоў.

У канцы 1933 г., пасля разгрому структур ТБШ у Палескім ваяводстве, надышла чарга ліквідацыі асяродкаў гэтай арганізацыі і ў Віленскім ды Наваградскім ваяводствах. У выніку на тэрыторыі трох паўночна-ўсходніх ваяводстваў не засталося ніводнага гуртка Таварыства. Функцыянавала толькі Галоўная ўправа ў Вільні. На пачатку 1934 г. кіраўніцтва ТБШ зрабіла яшчэ адну спробу вярнуць ранейшае значэнне арганізацыі, але ўдалося ўтварыць толькі 5 гурткоў у Віленскім і 19 у Беластоцкім ваяводствах[61].

У лістападзе 1936 г. праваахоўныя органы правяліператрус у дамах дзеячаў ТБШ, пасля чаго была забаронена дзейнасць кіроўных органаў арганізацыі. У студзені 1937 г. адбыўся канчатковы роспуск Таварыства[62].

Польскія праваахоўныя органы лічылі ТБШ шырмай для “экстрэмісцкай” (г. зн. камуністычнай) партыі[63]. Падобныя марыянеткавыя арганізацыі дзейнічалі легальна на працягу 3–5 гадоў. Праваахоўныя органы толькі пасля працяглага назірання выкрывалі іх сувязі

[60] Mironowicz E. Białorusini i Ukraińcy… S. 92–93.
[61] Gomółka K. Białorusini w II RP. S. 110.
[62] Тамсама.
[63] “Экстрэмісцкія” партыі падзяляліся на нелегальныя (КПП, КПЗБ, КПЗУ), марыянеткавыя (ТБШ, Сель-Саюз, рабоча-сялянскае аб’яднанне “Будучыня”) і незалежныя (“Паалей-Цыён-лявіца”, Незалежная сацыялістычная партыя працы).

з камуністычнай партыяй. Наяўнасць доказаў такога супрацоўніцтва азначала ліквідацыю звязанай з камуністамі арганізацыі як той, што непасрэдна пагражае дзяржаўнай бяспецы. Шырмавыя арганізацыі лічыліся менш небяспечнымі ў параўнанні з нелегальнымі ці незалежнымі партыямі. Напрыклад, у адной са справаздач сцвярджалася: "не варта іх пераацэньваць, бо гэтыя партыі, імкнучыся як мага даўжэй захаваць сваё існаванне, вымушаны дзейнічаць асцярожна і скрытна. Таму яны не дасягаюць такой эфектыўнасці, як пры дзейнасці, не абмежаванай гэтымі меркаваннямі. Апроч таго, амаль ніколі іх кіраўніцтва з самага пачатку не кантралюецца камуністычнай партыяй. Гэты кантроль усталёўваецца крок за крокам, паступова, не без барацьбы, унутраных сутычак і адыходу ад партыі пэўных элементаў, што не пагаджаюцца на камуністычнае кіраванне"[64].

Таварыства беларускай школы было самай актыўнай (фактычна адзінай) беларускай культурна-асветніцкай арганізацыяй, якая дзейнічала ў Палескім ваяводстве. Асноўны ўплыў на яго дзейнасць аказвала БСРГ. Па меры развіцця Грамады ішло і разрастанне мясцовых асяродкаў ТБШ. Ліквідацыя Грамады аслабіла структуры і звузіла абсяг дзейнасці Таварыства. Пасля роспуску БСРГ кантроль над ТБШ пераняла КПЗБ. На тэрыторыі Палескага і Навагрудскага ваяводстваў фактычна ўсе гурткі заставаліся пад кантролем камуністычнай партыі[65]. Гурткі, кіраўніцтва якіх займала больш памяркоўныя пазіцыі, не маглі тут дзейнічаць. Гэтае шчыльнае супрацоўніцтва з камуністамі стала прычынаю хуткай ліквідацыі структур Таварыства беларускай школы і не дазволіла адрадзіць яго ў 1934 г. нават у рудыментарнай форме. Ад заангажаванасці гурткоў ТБШ у палітычную дзейнасць цярпела асветніцкая работа сярод палескага насельніцтва.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

64 Wywrotowe partie polityczne // ДАБВ. Ф. 92. Воп. 1. Спр. 432. Арк. 3–8.
65 Gomółka K. Białorusini w II RP. S. 110.

# The Belarusian School Society in the province of Palesie, 1926–1933

**Andrzej Smolarchyk**

The Belarusian political, cultural and educational life in the province of Palesie was quite modest and poorly developed. This was mainly due to a weak national awareness of the Palesie population and its low level of political culture. Also, the policy of Polish authorities in relation to Palesie in which it was to act as the "Polish wedge" between the Belarusian and Ukrainian nations, did not allow the free activity of legal Belarusian political parties and cultural and educational associations either.

The Belarusian School Society was the most dynamic Belarusian cultural and educational organisation to be worked within the province of Palesie between 1926 and 1933. A major impact on its activity was the 'Belarusian Peasants and Workers' political party. The elimination of this political party had weakened the structure and the range of activities of the Belarusian School Society.

Other organisations that were managed by some moderate parties could not carry on their activity. After its dissolution, the control over institutions of the Belarusian School Society was taken by the Communist Party of Western Belarus. In the region of Palesie almost all organisations were under the control of the Communist Party of Western Belarus. This deep involvement in cooperation with the Communists had contributed to the rapid elimination of the structure of the Belarusian School Society making it impossible to reconstruct a rudimentary form of organisation in 1934.

# "Лепельская справа": 1937 год у Беларусі

Ірына Раманава

У другой палове 1937 – пачатку 1938 г. па СССР пракацілася хваля раённых паказальных працэсаў, агульная колькасць якіх склала не менш за некалькі сотняў. Першы быў праведзены ў БССР, у Лепельскім раёне[1].

Суды былі даволі нетыповымі: на лаве падсудных – кіраўнічыя кадры раёнаў, сельсаветаў і калгасаў, усе абвінавачванні будаваліся вакол масавых фактаў злоўжывання і насілля над працоўным сялянствам. "Працоўным

[1] Да гэтых судоў звярталіся: Fitzpatrick Sh. How the mice buried the cat. Scenes from the Great Purges of 1937 in the Russian provinces // Russian Review. 1993. № 3. P. 299–320; Fitzpatnck Sh. Stalin's Peasants Resistance and Survival in the Russian Village after Collectivization. Oxford, 1994. P. 286–312; Маннинг Р. Массовая операция против "кулаков" и преступных элементов: апогей Великой Чистки на Смоленщине // Сталинизм в российской провинции: смоленские архивные документы в прочтении зарубежных и советских историков / под ред. Е. В. Кодина. Смоленск, 1999. С. 230–254; Manning R. T. The Great Purges in a rural district: Belyi raion revisited // Stalinist terror. New perspectives. Eds. Getty J. A., Manning, R. T. Cambridge. 1993. P. 168–197; Ellman M. The Soviet Provincial Show Trials Carnival of Terror? // Europe Asia Studies. 2001. Vol. 53, No 8. P. 1121–1233; Kodin E. Smolenskii naryv. Smolensk, 1999; Трагедия советской деревни. Коллективизация и раскулачивание: в 5 т. Документы и материалы. Т. 5: 1937–1939 / под ред. В. Данилова, Р. Маннинг. Москва: РОССПЭН, 2004. 648 с.; Верт Н. Террор и беспорядок. Москва: РОССПЭН, 2010. 447 с.; Cassidy J. Marble Columns and Jupiter Lights Theatrical and Cinematic Modeling of Soviet Show Trials // Slavic and East European Journal. Vol 42. Issue 4. Winter 1998. P. 656.

сялянствам" у час гэтых падзеяў называлі не толькі калгаснікаў, але і аднаасобнікаў (тых, што не ўступілі ў калгасы); яны яшчэ зусім нядаўна класіфікаваліся выключна як кулакі ці падкулачнікі – рэальныя або патэнцыйныя ворагі савецкай улады, якім не было месца ў сацыялістычным грамадстве.

Выглядала так, што Сталін заступіўся за мужыка... Але фактычна НКУС паралельна праводзіў сваю самую масавую па колькасці ахвяр аперацыю паводле загаду № 00447, асноўнай ахвярай якой сталі "былыя кулакі" і антысавецкія элементы. Адказаць на пытанне адназначна, як суадносіліся дзве гэтыя кампаніі, пакуль немагчыма. Аднак відавочна: яны ішлі разам і падагравалі адна адну.

На Лепельскі раён Масква вымушана была звярнуць увагу, калі адтуль сталі прыходзіць дакладныя аб сабатажы мерапрыемстваў, што папярэднічалі Усесаюзнаму перапісу насельніцтва[2]. Тут яшчэ ў снежні 1936 г. у двух сельсаветах (Стайскім і Пышнянскім) адмовілася адказваць на пытанні перапісчыкаў прыкладна 230 чалавек, практычна ўсе яны былі членамі сямей аднаасобнікаў. Праведзенае расследаванне выявіла, што гэта "сектанты маўчальнікі", якія лічаць перапіс кляйменнем д'ябла, а таму заклікаюць усімі магчымымі сродкамі пазбягаць яго, як і ўвогуле любых кантактаў з прадстаўнікамі ўлады – улады Чырвонага дракона. НКУС правёў арышты сярод контррэвалюцыянераў-сектантаў; над распаўсюднікамі антысавецкіх чутак адбыўся паказальны суд у райцэнтры. Пра тое, што ў памежным раёне дзейнічае контррэвалюцыйная арганізацыя, якая сабатуе мерапрыемствы ўладаў і праводзіць антысавецкую агітацыю, было паведамлена ў ЦК УКП(б) і асабіста Сталіну[3].

Было цалкам недапушчальна, што такія падзеі адбываліся ў пагранічным раёне, які, у адпаведнасці з раней

[2] Сам перапіс праводзіўся ў ноч з 5 на 6 студзеня 1937 г.

[3] Гл.: Раманава І. Кляйменне Чырвонага дракона. Усесаюзны перапіс насельніцтва 1937 года і яго трактоўка ў сялянскім дыскурсе // Arche. 2012. № 3. С. 246–262.

праведзенымі мерапрыемствамі, павінен стаць узорным савецкім па ўсіх паказчыках[4]. Выявілася, што савецкія і партыйныя органы не правялі належнай падрыхтоўкі напярэдадні перапісу, больш за тое, уся іх праца з насельніцтвам зводзілася да таго, што на бюракратычнай мове таго часу называлася "грубым адміністраваннем", "масавым парушэннем рэвалюцыйнай законнасці"[5]. Было высветлена, што за 1935 г. у раёне за невыкананне выплат дзяржаве да розных спагнанняў і арыштаў асуджана 630 чалавек, у 1936 г. – 463 чалавекі. Падаткаабкладанне праводзілася без уліку рэальных магчымасцяў сялян, за яго невыкананне накладваліся велізарныя штрафы, нявыплата якіх, у сваю чаргу, вяла да канфіскацыі ўсёй маёмасці і поўнага разбурэння гаспадаркі. Прычым канфіскацыя адбывалася з абразамі, пабоямі, здзекамі і г. д.

Такім чынам замест таго каб ліквідаваць "контррэвалюцыянераў", улады звярнулі ўвагу на іх жабрацкае становішча з прычыны няправільных дзеянняў раённага кіраўніцтва. Натуральна, гэта давала магчымасць чарговы раз перакласці віну з цэнтра на перыферыю. Справа выглядала так, што насельніцтва байкатавала перапіс галоўным чынам з-за палітыкі мясцовых органаў улады, якія замест правядзення растлумачальнай і выхаваўчай працы сярод насельніцтва звярталі на яго ўвагу толькі з нагоды невыканання падаткаабкладання ці іншых "абавязацельстваў перад дзяржавай", прычым праводзілі ўсё "з парушэннем рэвалюцыйнай законнасці". Гэта склала сутнасць таго, што было названа "Лепельскай справай".

"Лепельская справа" выступіла ў якасці ўзорнай і набыла ўсесаюзную вядомасць. Пра сітуацыю праінфармавалі ўсе раёны СССР, кожны з іх павінен быў неадкладна

[4] Пра мерапрыемствы па ўмацаванні памежных раёнаў гл.: Раманава І. "Зона". Беларускае памежжа па савецкі бок дзяржаўнага кардону ў 30-я гады // Спадчына. 2001. № 1-2. С. 111–135.

[5] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 983. Арк. 34.

правесці праверку ў сябе на наяўнасць фактаў, выкрытых у Лепелі, і прыняць адпаведныя меры.

У пастанове ЦК УКП(б) па "Лепельскай справе" ад 8 лютага падкрэслівалася запушчанасць партыйна-палітычнай работы ў пагранічных раёнах БССР. 18 лютага адпаведную пастанову прыняў ЦК КП(б)Б. Адказным за "грубае скажэнне савецкіх законаў і прамое самавольства ў адносінах да шэрагу аднаасобных і калгасных гаспадарак" у Лепельскім раёне было названа вышэйшае кіраўніцтва рэспублікі, адзначалася, што аналагічнае становішча мае месца і ў іншых раёнах. У сувязі з гэтым ва ўсе пагранічныя раёны камандзіраваліся члены і кандыдаты ў члены ЦК КП(б)Б[6], якія павінны былі правесці закрытыя партыйныя сходы з дакладамі аб недахопах у рабоце ЦК КП(б)Б і СНК БССР па кіраўніцтве пагранічнымі акругамі і раёнамі і выяўленне на месцы спраў, выкрытых у Лепелі[7].

Адпаведна з пастановай ЦК УКП(б) ад 22 лютага суду падлягалі старшыня Лепельскага РВК Сямашка, сакратары Лепельскага РК партыі Пацэнгель і Юшкевіч, загадчык фінансавага аддзела Русанаў, раённы ўпаўнаважаны камітэта нарыхтовак пры СНК Міхайлаў, старшыня Стайскага сельсавета Гайсёнак. Рэспубліканскае кіраўніцтва – сакратары ЦК КП(б)Б М. Гікала[8] і Д. Валковіч[9], старшыня Саўнаркама М. Галадзед[10] – абвінавачвалася ў "адсутнасці грамадска-палітычнай працы і палітычнай слепаце". Кантроль за выкананнем пастановы ад 22 лютага ўскладаўся на намесніка старшыні Камісіі партыйнага

[6] У раёны камандзіраваліся: Бенэк, Балцін, Готфрыд, Галяткоўскі, Дындзін, Конік, Кудзелька, Нізаўцаў, Рыжыкаў, Гваздзецкі, Бурачэўскі, Аўгустайціс, Чарвякоў, Піліпенка, Башмачнікаў, Кудзельскі, Казюк, Ткачэвіч, Задзярнюк, Гераўкер, Тавакалян, Бышкін, Гершон (НАРБ. Ф. 4. Воп. 1 . Спр. 10 979. Арк. 28 адв.). Факт іх прыезду ў раёны пасля быў інтэрпрэтаваны як наладжванне варожых сувязяў.

[7] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 10 979. Арк. 28.

[8] Сакратар ЦК КП(б) з 18 студзеня 1932 да 18 сакавіка 1937 г.

[9] Сакратар ЦК КП(б)Б з 3 жніўня 1934 да 10 чэрвеня 1937 г.

[10] Старшыня СНК у 1927–1937 г.

кантролю пры ЦК УКП(б) і адначасова загадчыка сельгасаддзела ЦК Я. Якаўлева[11].

4 сакавіка пачаўся адкрыты паказальны суд у Лепелі. Падзеі ў раёне асвятляліся цэнтральнымі газетамі “Правда” і “Известия”. Публікацыі ў першай з іх выглядалі як інфармацыйнае паведамленне, як сігнал, падстава для арганізацыі выкрывальных спраў у іншых раёнах. Артыкулы ж газеты “Известия” былі ў іншым ключы. Першы з іх насіў гучную назву “К суду преступников!” (4 сакавіка). У артыкуле за 6 сакавіка “За спиной секретаря” быў створаны яркі вобраз сакратара райкама партыі Пацэнгеля:

«Этот бритоголовый человек с выпуклыми кофейными глазами, в золотом пенсне и полувоенном костюме представляет собой законченнейший “образцово-показательный” тип разложившегося коммуниста, на котором можно изучать все незатейливые особенности этой печальной категории людей...” – так пачынаўся артыкул. Далей ішло апісанне распарадку дня сакратара, які ўключаў: прыезд на працу пасля 11 гадзін, абед, пасляабедзенны сон у доме адпачынку, гульню ў більярд і інш. А заканчваўся артыкул так: «Зачем утруждать себя выездами в район, массовой политической работой? – презрительно думали Паценгель и Семашко. Избыток энергии, оставшейся после бильярдных баталий и дружеских встреч (с подачей холодных закусок и хлебного вина) они предпочитали направлять по иному руслу, переключая эти “энергетические резервы” в административный восторг и издевательство над колхозниками и единоличниками»[12].

Аўтары – браты Тур – стварылі цэлую серыю карыкатурных вобразаў савецкіх самадураў-упраўленцаў: задаваліся межы дапушчальнага (а дакладней – іх адсутнасць) усім, хто меў дачыненне да справы.

[11] Якаўлеў быў старшынёй камісіі па тэмпах калектывізацыі (лістапад – снежань 1929 г.), а потым і непасрэдным кіраўніком калектывізацыі ў якасці першага наркама земляробства СССР (са снежня 1929 да красавіка 1934 г.), пасля ўзначаліў сельгасаддзел у ЦК.

[12] Братья Тур. За спиной секретаря // Известия. 1937. 6 марта.

Сцэнарый суда быў просты: дрэнныя мясцовыя начальнікі парушалі Сталінскую канстытуцыю, злоўжывалі ўладай, пераабкладалі і трэціравалі сялян. Пра гэта даведаўся Сталін і заступіўся за мужыка. Цяпер вінаватыя – мясцовае кіраўніцтва – падлягаюць суду, а ў якасці сведак і асноўных абвінаваўцаў – самі сяляне.

Ва ўсе бюро абкамаў, райкамаў СССР накіравалі інфармацыйныя лісты аб фактах масавых парушэнняў рэвалюцыйнай законнасці ў Лепельскім раёне для інфармацыі і прыняцця адпаведных мераў у сябе.

Па БССР паўтарэнне Лепельскай справы было выяўлена ва ўсіх правераных раёнах.

Зноў пытанне пра "Лепельскую справу" разглядалася на сакавіцкім пленуме ЦК КП(б)Б, на якім таксама было агучана рашэнне ЦК УКП(б) ад 14 сакавіка аб рэкамендацыі ў Беларусь першым сакратаром ЦК В. Шаранговіча. У сваім выступленні Шаранговіч падкрэсліў, што выяўленыя перагібы – гэта не толькі справа мясцовых работнікаў, праверкі патрабуюць і работнікі цэнтральных апаратаў. На гэтым жа пленуме старшыня СНК БССР М. Галадзед[13] і старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў[14] былі абвінавачаны ў праваапартуністычных памылках у мінулым[15].

Для разбору "шкодніцкай" дзейнасці ў Мінск з Масквы прыбылі намеснік старшыні Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК УКП(б) і адначасова загадчык сельскагаспа-

[13] Старшыня СНК у 1927–1937 г.

[14] Старшыня ЦВК БССР у 1924–1937 г.

[15] 14 чэрвеня 1937 г. Галадзед быў выкліканы ў Маскву і арыштаваны, а 21 чэрвеня наркам унутраных спраў БССР Берман дакладваў наркаму ўнутраных спраў СССР Яжову, што Галадзед пад час следства скончыў жыццё самагубствам, выкінуўшыся з акна пятага паверха будынка НКУС. Пасля шэрагу абвінаваўчых выступленняў, арганізаваных супраць яго ў ходзе XVI з'езда Кампартыі Беларусі (10–18 чэрвеня 1937 г.), скончыў жыццё самагубствам 16 чэрвеня 1937 г. А. Чарвякоў (Реабилитация: как это было. Документы Президиума ЦК КПСС и другие материалы: в 3 т. Т. 2. Февраль 1956 – начало 80-х годов. Москва: МФД, 2003. С. 311–312).

дарчага аддзела ЦК Я. Якаўлеў і загадчык аддзела кіраўнічых партыйных органаў ЦК ВУП(б) Г. Малянкоў.

Менавіта Якаўлева і прызначылі кіраўніком створанай Палітбюро ЦК камісіі па выніках “Лепельскай справы”, дзе ён адказваў за шырокі комплекс мераў, у тым ліку па пераадоленні культурнай адсталасці ў пагранічных раёнах. Прыехаўшы ў БССР, Якаўлеў наведаўся ў Лепельскі раён асабіста.

Пасля васьмі дзён побыту ў Беларусі Малянкоў і Якаўлеў падалі Сталіну праект рашэння ЦК УКП(б) “Аб кіраўніцтве ЦК КП(б) Беларусі”. Праект быў зацверджаны 27 чэрвеня 1937 г. У адпаведнасці з ім як ворагі народа з працы здымаліся першы сакратар ЦК КП(б)Б Шаранговіч, другі сакратар Дзяніскевіч і наркамзем Беларусі Нізаўцаў. Іх справы перадаваліся ў НКУС. У той жа дзень першым сакратаром ЦК КП(б)Б быў прызначаны Якаўлеў[16].

Якаўлеў і Малянкоў правялі расстрэльны чэрвеньскі пленум ЦК КП(б)Б (1937). Недахопы ў развіцці сельскай гаспадаркі, масавыя незадавальненні і пратэсты сялян супраць падатковай палітыкі, невыкананне планаў шэрагам прадпрыемстваў тлумачылася контррэвалюцыйнымі дзеяннямі антысавецкага падполля, якое ставіла сабе за мэту адрыў Беларусі ад Савецкага Саюза, паразу СССР у час будучай вайны.

Само паседжанне пленума ўяўляла сабой допыт сакратароў райкамаў і старшынь акрвыканкамаў, якіх выклікалі на трыбуну для справаздачы. Па сведчанні відавочцаў, Якаўлеў сам называў па спісе, верагодна, ужо прызначаных ахвяр. Малянкоў стаяў тут жа ў прэзідыуме, у позе Напалеона, у ботах, выставіўшы наперад нагу і заклаўшы рукі за борт кіцеля і разам з Якаўлевым атакаваў выкліканых. Ад іх патрабавалі: “Раскажыце самі аб

[16] Реабилитация: как это было. Документы Президиума ЦК КПСС и другие материалы: в 3 т. Т. 2. Февраль 1956 – начало 80-х годов. Москва: МФД, 2003. С. 312–313. Сакратар ЦК КП(б)Б з 29 ліпеня да 8 жніўня 1937 г. 12 кастрычніка пад час працы пленума ЦК ВКП(б) (кастрычніцкага, 1937 г.) Якаўлеў быў арыштаваны.

вашых шкодніцкіх справах". Пасля гэтага забіралі ў сакратароў райкамаў партыйныя білеты; напагатове ў калідоры будынку ЦК стаялі супрацоўнікі НКУС, якія тут жа, на пленуме, арыштоўвалі ўдзельнікаў пленума. З 24 выступоўцаў на пленуме было арыштавана і расстраляна 20 чалавек[17].

Згодна з рэзалюцыяй пленума партыйным арганізацыям прапаноўвалася ў цэнтр сваёй работы паставіць хуткую і рашучую ліквідацыю вынікаў шкодніцтва польскіх шпіёнаў, разгром да канца польскіх шпіёнаў, шкоднікаў і дыверсантаў.

Першым і другім сакратарамі ЦК КП(б)Б Маланкоў прызначыў адпаведна А. Волкава[18] і А. Лявіцкага[19], якія і павінны былі правесці гэтую ліквідацыю.

Пасля пленума пачалася чыстка ЦК, СНК, ЦВК БССР, наркаматаў і г. д., раённых арганізацый.

Па выніках "Лепельскай справы" неабходна было таксама ліквідаваць наступствы перагібаў і парушэння рэвалюцыйнай законнасці ў адносінах да аднаасобнага працоўнага сялянства. Магчыма, гэты крок рабіўся з мэтай заспакаення сялянства, у тым ліку аднаасобнікаў, якія нядаўна былі пазбаўлены кляйма "лішэнцаў" і павінны былі ў самым хуткім часе прыняць удзел у першых тайных усеагульных выбарах, што абяцала ім "самая дэмакратычная" ў свеце Канстытуцыя 1936 г. Да таго ж, як адзначалася, калектывізацыя да 1937 г. амаль спынілася: неабходна было знайсці дадатковыя аргументы па яе інтэнсіфікацыі.

2 жніўня 1937 г. ЦК УКП(б)Б і СНК СССР прынялі пастанову "Аб аказанні дапамогі калгаснаму сялянству БССР і аб ліквідацыі вынікаў шкодніцтва ў справе калгаснага ўпарадкавання". Згодна з ёю калгаснікаў неабходна было забяспечыць прысядзібнымі надзеламі па вызначаных нормах (да 0,5 га). Выявілася, што больш чым

[17] Реабилитация: как это было. Документы Президиума ЦК КПСС и другие материалы: в 3 т. Т. 2. Февраль 1956 – начало 80-х годов. Москва: МФД, 2003. С. 314–316.

[18] Сакратар ЦК КП(б)Б з 11 жніўня 1937 да 18 чэрвеня 1938 г.

[19] Сакратар ЦК КП(б)Б з 11 жніўня 1937 да 30 сакавіка 1938 г.

трэцяя частка з іх мела значна менш[20]. Зямля перадавалася ў тым ліку за кошт ліквідацыі “створаных шкоднікамі” саўгасаў (якія крыху раней ствараліся за кошт абрэзкі земляў калгасаў і калгаснікаў)[21].

Ранейшая забарона сялянам карыстацца выпасам у лясах, будаўнічым лесам, дрывамі і г. д. была прыпісана таксама бандзе польскіх шпіёнаў і шкоднікаў[22], як і давядзенне пасяўных заданняў, якія перавышалі наяўныя ў калгасах землі. Выглядала на тое, што цяпер справядлівасць перамагала: калгаснікам, калгасам і аднаасобнікам дазвалялася бесперашкодна пасвіць жывёлу у лясах дзяржаўнага і мясцовага значэння, а пасяўныя заданні на 1938 г. былі скарочаны на 300 000 га. Таксама спісваліся недаборы па мясе, малаку, бульбе, натурплаце МТС. План здачы малака калгасным дваром быў зніжаны ўдвая – да 55 літраў на год ад адной каровы[23]. Істотныя льготы даваліся аднаасобнікам пры ўступленні ў калгас. Па-першае, у такім выпадку з іх спісваліся ўсе запазычанасці на 1 студзеня 1937 г. і яны павінны былі плаціць сельскагаспадарчы падатак па норме для калгаснікаў. Па-другое, на працягу месяца павінны былі атрымаць калгасны прысядзібны надзел. І, акрамя таго, не трэба было выплачваць узнос за каня і насенне, калі сяляне не мелі іх на момант уступлення[24].

Асобна падкрэслівалася: дадзенае рашэнне прынята па ініцыятыве таварыша Сталіна. Усім партыйным і савецкім арганізацыям раёнаў загадалі неадкладна абмеркаваць ва ўсіх калгасах, саўгасах, МТС, сярод аднаасобнікаў і “ўсяго беларускага народа дадзеную пастанову, прыступіўшы неадкладна да яе выканання”[25].

[20] Да 7 кастрычніка таго ж года, паводле афіцыйных звестак, 245 тыс. калгасным дварам было перададзена 38 300 га прысядзібных земляў (Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 11 033. Арк. 144).

[21] Ад 138 саўгасаў 742 калгасы атрымалі 150 тыс. га зямлі (Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 11 033. Арк. 339).

[22] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 11 033. Арк. 341.

[23] Тамсама. Арк. 341–342.

[24] Тамсама. Арк. 342–343.

[25] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 12 099. Арк. 337.

З месцаў, у сваю чаргу, паведамлялі ў цэнтр, што пастанова была “сустрэта працоўнымі масамі Беларусі з вялікім натхненнем і выклікала велізарны вытворчы пад’ём сярод калгаснікаў і прыліў аднаасобнікаў у калгасы і нянавісць да ворагаў народа банды нацыянал-фашыстаў і агентаў замежных фашысцкіх дзяржаў, што арудавалі ў Беларусі”[26].

Відавочна, пастанова павінна была стымуляваць прыліў у калгасы. У БССР усё яшчэ больш за 100 тыс. сялянскіх гаспадарак вялі гаспадарку аднаасобным чынам. Аднак на 1 верасня 1937 г. уступіла ў калгасы толькі 1925 гаспадарак (літаральна па некалькі на раён)[27].

На падставе гэтай пастановы (ад 2 жніўня 1937 г.) перагляду падлягалі ўсе справы асуджаных у 1934–1937 г. за невыкананне дзяржаўных абавязацельстваў па натуральных пастаўках і грашовых плацяжах, а таксама справы аб лесапарушэннях і самаўпраўным захопе зямлі калгаснікамі і аднаасобнікамі. Праводзіўся перагляд спраў і вызваленне з-пад варты няправільна асуджаных “асобаў сельскага і калгаснага актыву”. З лістапада 1937 г. да траўня 1938 г., паводле дадзеных Вярхоўнага суда, былі перагледжаны 51 882 справы ў адносінах да 72 817 чалавек[28]. У выніку больш чым з 38 тыс. чалавек рашэннем ЦВК БССР была знята судзімасць, у адносінах да 5,6 тыс. прысуды былі адменены[29].

3 жніўня 1937 г. усім сакратарам абкамаў, крайкамаў УКП(б) і ЦК нацкампартый была накіравана дырэктыва (за подпісам Сталіна), у якой паведамлялася аб “шкодніцкай рабоце ворагаў народа ў галіне сельскай гаспадаркі, накіраванай на падрыў гаспадаркі калгасаў і на правакаванне калгаснікаў на незадавальненне Савецкай уладай, шляхам сістэмы здзекаў і глумленняў над імі”. У дырэктыве, у прыватнасці, адзначалася, што мясцовае кіраўніцтва памыляецца, вырашыўшы, што “ліквідацыя

26 Тамсама. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 12 099. Арк. 337.
27 НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 11 033. Арк. 343.
28 НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1719. Арк. 3.
29 НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14 637. Арк. 174.

шкодніцтва праводзіцца толькі закрытым парадкам па лініі органаў НКУС, а калгаснікі не мабілізуюцца на барацьбу са шкодніцтвам і яго носьбітамі”. У адпаведнасці з гэтай дырэктывай у кожным раёне трэба было арганізаваць па 2-3 судовыя паказальныя працэсы над ворагамі народа, шкоднікамі, якія прабраліся ў раённыя партыйныя, савецкія і зямельныя органы. Асабіста Сталін настойваў на тым, што асуджаныя павінны прысуджацца да расстрэлу. Сталін падкрэсліваў, што шкодніцтва разбурае калгасную эканоміку і настройвае калгаснікаў супраць савецкай улады[30].

Большасць паказальных працэсаў у раёнах праходзіла ў адносна кароткі перыяд: восенню 1937 – зімой 1938 г., што храналагічна супала з пікам аперацыі па загадзе № 00447, якая афіцыйна пачалася 5 жніўня.

Аператыўны загад НКУС СССР № 00447 “Аб аперацыі па рэпрэсаванні былых кулакоў, крымінальнікаў і іншых антысавецкіх элементаў” быў выдадзены 30 чэрвеня 1937 г. на падставе пратакола Палітбюро, асабіста падпісанага Сталіным. Менавіта гэты загад стаў вертыкаллю Вялікага тэрору 1937 г.[31], а асноўнымі яго ахвярамі – сяляне. Згодна з папярэдне (!) вызначанымі лічбамі ўсяго па СССР неабходна было арыштаваць 250 450 чалавек, з іх расстраляць 72 950, астатніх – “менш актыўных, але ўсё ж варожых” – саслаць у лагеры на тэрмін ад 8 да 10 гадоў. Кожны рэгіён, кожная рэспубліка атрымала свае нормы выпрацоўкі. Для БССР вызначылі наступныя квоты: 2 тыс. па першай катэгорыі (расстрэл) і 10 тыс. па другой (арышт). На правядзенне аперацыі адводзілася 4 месяцы. Аднак яна не скончылася ў тэрмін і цягнулася 14 месяцаў. У выніку ад жніўня 1937 да лістапада 1938 г. па СССР было арыштавана 699 929 чалавек, з іх 376 206 расстраляны, што склала амаль палову арыштаў па СССР

[30] Верт Н. Террор и беспорядок. Москва: РОССПЭН, 2010. С. 269.

[31] Юнге М., Бордюгов Г., Биннер Р. Вертикаль большого террора. История операции по приказу НКВД № 00447. Москва: Новый Хронограф, АИРО – XXI век, 2008.

1936–1938 г. і больш за палову смяротных прысудаў[32]. Па БССР было асуджана 24 209 чалавек, з іх 6869 – да смяротнага пакарання[33].

Раённыя паказальныя працэсы сталі неад'емнай часткай масавых аперацый 1937–1938 г., ствараючы палітычны клімат страху і істэрыі на месцах[34].

На пачатку снежня 1937 г. у даведцы аб выкананні рашэння ЦК і СНК ад 2 жніўня 1937 г. па БССР паведамлялася аб высокім уздыме калгасных мас, доказам чаму павінны былі служыць факты выкрыцця ворагаў калгаснага будаўніцтва на калгасных сходах. Сярод выкрытых пры дапамозе сялян, як адзначалася, былі, напрыклад: па Быхаўскім раёне – былы афіцэр Андрэй Самусевіч, былы жандар Рабычын, старшыня калгаса "Ответ вредителям" Пакрашынскі (ужываў фізічныя метады расправы з калгаснікамі). У Крупскім раёне выкрылі і арыштавалі як ворагаў народа двух старшынь калгасаў, знялі з працы за шкодніцтва ветфельчара, двух аграномаў; у Асіповіцкім раёне – былога старшыню РВК Трызну і загадчыка РайЗА Міхалюка і інш.[35].

Аднак раённыя паказальныя працэсы не абмяжоўваліся калгасным і раённым кіраўніцтвам. 10 верасня 1937 г. на месцы была разаслана дырэктыва Сталіна і Молатава аб правядзенні "па вобласці, краі ад двух да трох паказальных судаў над шкоднікамі па захоўванні збожжа" з расстрэльнымі прысудамі[36]. 2 кастрычніка Сталін і Молатаў прынялі дырэктыву "аб шкодніцтве і паказальных працэсах у галіне жывёлагадоўлі". Высоўвалася патрабаванне "арганізаваць па кожнай рэспубліцы, краі і вобласці

[32] Трагедия советской деревни. Т. 5, кн. 1. С. 54.

[33] Юнге М., Бордюгов Г., Биннер Р. Вертикаль большого террора… С. 522.

[34] Р. Манінг сярод прычын арганізацыі паказальных працэсаў называе, па-першае, "мабілізацыю" калгаснікаў на аперацыю № 00447, па-другое, пакаранне кіраўнікоў, якія супраціўляліся яе правядзенню, і запалохванне астатніх, па-трэцяе, прымус раённага кіраўніцтва дапамагаць НКУС (Трагедия советской деревни. Т. 5, кн. 1. С. 56, 59, 61).

[35] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 11033. Арк. 344.

[36] Трагедия советской деревни. Т. 5, кн. 1. С. 452.

ад 3 да 6 адкрытых паказальных працэсаў з прыцягненнем сялянскіх мас і шырокім абвяшчэннем у мясцовым друку”[37].

Гэтыя мерапрыемствы дазволілі сапраўды мабілізаваць сялян на выяўленне ўсіх відаў “ворагаў” (як тых, чыё сацыяльнае становішча ці палітычная арыентацыя ў мінулым не маглі быць праігнараваны ў 1937 г., так і тых, хто, выконваючы спушчаныя зверху заданні, цяпер павінен быў несці адказнасць не толькі за спосабы іх рэалізацыі, але і за саму палітыку)[38].

У аснову паказальных працэсаў лёг дапрацаваны адпаведна патрэбам часу сцэнар “Лепельскай справы”[39].

Пад час гэтай кампаніі і саміх судоў была сабрана велізарная колькасць фактаў насілля ў дачыненні да сялянства: канфіскацыі да поўнага збяднення, прымяненне метадаў фізічнага ўздзеяння (збіццё, катаванні, падвешванне нагамі да столі), прымяненне агнястрэльнай зброі, начныя аблавы і г. д. Але цяпер таксама ў якасці сур’ёзнага абвінавачвання супраць мясцовых органаў фігуравала ігнараванне імі пастановы ад 2 жніўня аб данадзяленні сялян зямлёй.

Мясцовыя кіраўнікі ведалі: аднаасобніку (якога часам па ранейшай звычцы нават называлі кулаком ці падкулачнікам) няма месца ў новым грамадстве. Таксама яны ўсведамлялі: працэнт калектывізацыі расце не толькі за кошт уступлення аднаасобнікаў у калгасы, але і за кошт скарачэння іх удзельнай вагі ў цэлым. А значыць, любыя метады ўздзеяння дапушчальныя.

[37] Трагедия советской деревни. Т. 5, кн. 1. С. 486.

[38] Пра тое, што раённыя суды сталі спосабам мабілізацыі сялянства на выяўленне ворагаў народа сярод кіраўнічых кадраў раёнаў, саўгасаў і калгасаў, піша Н. Верт (Верт Н. “Провинциальные показательные процессы” в СССР во время “Большого террора” 1937–1938 г. // Верт Н. Террор и беспорядок. Москва: РОССПЭН, 2010. С. 267–293).

[39] Наконт таго, ці можна гэтыя працэсы назваць паказальнымі, гл. даследаванне: Cassidy J. Marble Columns and Jupiter Lights Theatrical and Cinematic Modeling of Soviet Show Trials // Slavic and East European Journal. Vol 42. Issue 4. Winter 1998. P. 656.

Вось даволі тыповае апісанне таго, як праводзілася кампанія: "Канфіскацыя маёмасці ў аднаасобнікаў насіла характар форменнага разгрому іх гаспадарак. Папярэдне вопісаў маёмасці ў аднаасобнікаў ніколі не складалі, без пастаноў сельсаветаў у аднаасобнікаў забіралі літаральна ўсю маёмасць, пабудовы, жывёлу, корм, сельгасінвентар, адзенне, абутак, хатняе начынне, бялізну. У асобных выпадках з аднаасобнікаў прымусова здымалі і забіралі абутак, кашулі, здымалі і забіралі дзверы ад жылых хат, зразалі шулы, разломвалі платы... Разламаныя пабудовы, як правіла, без продажу звозілі на калгасны двор і там іх расцягвалі ўсе ахвотныя; жывёла перадавалася калгасам таксама без продажу, а адзенне і прадукты харчавання часткова раскрадваліся, а часткова без усялякага ўліку і вопісу здавалі ў каапературу і распрадавалі ўсім ахвотным"[40].

Усе абвінавачаныя, як сведчаць матэрыялы спраў, сапраўды былі вінаватыя ў прад'яўленых ім абвінавачваннях. Больш за тое, факты, якія фігуруюць у матэрыялах, дэманструюць незвычайную іх вынаходлівасць у эскалацыі насілля на вёсцы. Раённыя (як правіла прыезджыя), сельсавецкія і калгасныя (часцей за ўсё мясцовыя) кіраўнікі паводзілі сябе ў вёсцы як акупацыйная армія ў варожым стане.

Так, "Бярэзінская справа" выявіла, што, напрыклад, у Пагосцкім сельсавеце аднаасобнікаў, якія не выканалі льнопаставак, сабралі ў хаце члена сельсавета Дзмітрыя Ермаловіча і пасадзілі ў яму для захоўвання бульбы. Месца было мала, таму сядзелі скурчыўшыся на бульбе, а зверху адзін з арыштантаў павінен быў стукаць гірай па падлозе над галовамі астатніх. Адмова калгасніка Трафіма Філічонка выканаць патрабаванне старшыні сельсавета аб продажы дзяржаве 3 цэнтнераў збожжа звыш ужо выкананых ім паставак і плацяжоў стала прычынай разгрому гаспадаркі апошняга. Група работнікаў сельсавета з'явілася да Філічонка ўночы, зламала ўсе замкі і ўчыніла вобшук ва ўсіх

[40] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1053. Арк. 6–10.

пабудовах гаспадаркі. Без усялякіх на тое падстаў забралі 40 кг ільновалакна, 8 кг пянькі, цялячую скуру, 3 мяшкі збожжа, 1½ пуда насення канюшыны. Жонка Філічонка паспрабавала абараніць змесціва куфра, за што была збіта. Па выніках інцыдэнту на гаспадарку Філічонка наклалі яшчэ 900 рублёў падатку, прычым сплаціць яго трэба было на працягу сутак. У тую ж ноч аналагічнае выняцце маёмасці правялі ў калгасніка Цімафея Няхая. Практыкаваліся моцныя пабоі калгаснікаў. Так, калгасніцу Еўдакію Падаляку старшыня калгаса пабіў з такой сілай, што тая “захварэла на хваробу лёгкіх”. Сакратар Дзмітраўскага сельсавета Мікалай Слабко і член сельсавета Нічыпар Слабко збілі да крыві аднаасобніка Сцяпана Жукоўскага за тое, што той адмовіўся ісці з імі ў сельсавет. Старшыня сельсавета Шышанок без усялякіх на тое падстаў пачаў забіраць каня ў аднаасобніка Маркевіча, які вёз на ім дровы. Спробы абараніць сваю маёмасць скончыліся тым, што Шышанок стукнуў Маркевіча абухом па галаве і забраў каня[41]. У канцы 1935 г. у вёсцы Бялавічы для ліквідацыі прарыву па льнонарыхтоўках прыбыў начальнік райаддзела НКУС Федаровіч з 5-6 чырвонаармейцамі, узброенымі вінтоўкамі, і загадаў склікаць усіх аднаасобнікаў. Але ніводны мужчына на сход не прыйшоў, з перапуду яны ўсе пахаваліся ў лесе. Пагрозы і абразы абрынуліся на іх жонак[42].

З матэрыялаў “Глускай справы”: у верасні 1936 г. сакратар РК Канашэвіч, старшыня Казловіцкага сельсавета Серада і народны суддзя Лагун арганізавалі аблаву на аднаасобніка в. Казловічы Максіма Аляхно. Пад час пагоні Лагун страляў з рэвальвера па ўцекачы. Пасля таго як Максіма Аляхно злавілі, Канашэвіч, Серада і Лагун на легкавой машыне паехалі на хутар Сямёна Аляхно, які, заўважыўшы іх, уцёк і схаваўся. Але “тройка” яго знайшла, прычым пагоня і пошукі таксама суправаджалася выстраламі з рэвальвера. І хоць ні на Максіма, ні на Сямёна

[41] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 13232. Арк. 19–22.
[42] Тамсама. Арк. 28–29.

не было ніякага следчага матэрыялу, іх арыштавалі. Пасля таго як Сямён падпісаў заяву аб уступленні ў калгас, яго вызвалілі, Максіма ж адправілі ў Глуск, а праз пяць дзён Лагун асудзіў яго на тры гады[43].

Колькасць прыкладаў можна працягнуць як па гэтых, так і па ўсіх іншых раёнах.

У ходзе следства і суда былыя кіраўнікі, а потым абвінавачаныя (якія не былі зломленыя месяцамі жорсткіх допытаў), як правіла, абіралі адну і тую ж лінію абароны: не адмаўляючы злачынстваў, у якіх іх абвінавачвалі (злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, грубасць, вымагальніцтва), яны адмаўляліся прызнаваць, што дзейнічалі з контррэвалюцыйнымі мэтамі, і перакладвалі віну або на сваё непасрэднае начальства ("якое іх да гэтага прымушала"), або на нядбалых выканаўцаў (якія няправільна зразумелі іх установкі і перагнулі пры іх рэалізацыі). Прычым, калі нават абвінавачаныя прызнавалі сябе вінаватымі па шэрагу канкрэтных фактаў, то адмаўлялі варожую змову, прымяненне пабояў, пагрозы зброяй.

Аднак цяпер такія паводзіны прадстаўнікоў раённай, сельсавецкай і калгаснай улады кваліфікаваліся як дзейнасць па заданні шкоднікаў, здраднікаў і польскіх шпіёнаў з мэтай зрыву арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, азлаблення калгаснага і аднаасобнага сялянства супраць савецкай улады. Адначасова выкрываліся сувязі з кіраўнікамі рэспублікі: у справах абавязкова фігураваў прыезд у раёны арыштаваных на той час дзеячоў і найперш нядаўна пасланага для выяўлення фактаў, аналагічных выкрытым у Лепельскім раёне, былога наркама земляробства К. Бенэка[44].

Паколькі ў ходзе следства і судоў лічылася ўстаноўленым, што раённае кіраўніцтва – гэта ворагі, шпіёны, здраднікі, то заканамерным прысудам па такіх справах адпаведна з Крымінальным кодэксам таго часу была вышэйшая мера пакарання – расстрэл (як, дарэчы, і раіў

[43] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 12 068. Арк. 63
[44] Наркам земляробства ў 1933–1937 г.

таварыш Сталін у пастанове ад 3 жніўня: 2-3 абвінавачаных у кожным раёне).

Новы статус набыла і “Лепельская справа”. У верасні 1937 г. на тэрыторыі Лепельскай акругі органамі НКУС быў “выкрыты” і арыштаваны “цэлы шэраг шпіёнаў і дыверсантаў”, сярод іх начальнік Лепельскага акруговага аддзела НКУС Ермалаеў. Таксама “было ўстаноўлена”, што «“Лепельскі працэс”, праведзены ў 1937 годзе, не вынік халатнасці з боку былых кіраўнікоў раёна, як гэта было ім інкрымінавана на працэсе, а вынік антысавецкай шкодніцкай працы арганізацыі правых на Беларусі»[45].

Да адказнасці зноў быў прыцягнуты абвінавачаны па “Лепельскім працэсе” былы старшыня Лепельскага райвыканкама Сямашка, які прызнаўся, што ён быў удзельнікам антысавецкай арганізацыі і што ўсе ўскрытыя ў Лепельскім раёне парушэнні савецкага закону і перагібы ў вёсцы ёсць вынік антысавецкай работы, якую ён праводзіў разам з іншымі ўдзельнікамі антысавецкай арганізацыі ў Лепельскім раёне па заданні цэнтра правых на Беларусі. Выкрытых удзельнікаў, у прыватнасці сакратара РВК Сямашку, асудзілі да вышэйшай меры пакарання[46].

У ходзе кампаніі ліквідавалі цэлыя раённыя арганізацыі: у Бялыніцкім і Рудзенскім раёнах упаўнаважанымі ЦК было выключана з партыі і арыштавана ўсё раённае кіраўніцтва, райкамы закрыты на замок, а ключы перададзены ў раённыя аддзелы НКУС, тое ж у Лёзне – ключ аддалі вартаўніку. У Бабруйску адразу пасля паседжання партыйнага актыву горада асабіста другі сакратар ЦК КП(б)Б А. Лявіцкі і НКУС Б. Берман за адну ноч арыштавалі 17 чалавек кіраўнічых раённых работнікаў (у тым ліку пракурора, старшыню РВК, упаўнаважанага па нарыхтоўках)[47]. У шэрагу раёнаў былі арыштаваны не толькі ўсе члены партарганізацыі, але

[45] НАРБ. Ф 4-п. Воп. 21. Спр. 1410. Арк. 57.
[46] Тамсама. Арк. 57
[47] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14 689. Арк. 5–6.

і райвыканкама – у раёнах проста ліквідавалі бальшавіцкую і савецкую ўладу!

Справы вяліся даволі хутка. Так, следства па абвінавачванні кіраўніцтва Дубровенскага раёна пачалося 20 верасня, а скончылася 9 лістапада 1937 г.[48].

Гучныя справы грымелі адна за адной. Цэнтральная, рэспубліканская і раённая прэса паведамляла пра ўсё новыя суды.

У БССР паказальныя суды былі праведзены ў: Старадарожскім (29–31.10.37), Глускім (1–5.11.37), Дубровенскім (28.11–2.12.37), Чавускім (23–29.12.37), Чэрыкаўскім (26–27.01.38), Чэрвеньскім (2–4.01.38), Гарадоцкім (14–15.02.38), Любанскім (13–15.02.38), Рэчыцкім (12–13.02.38), Пухавіцкім (9–12.02.38), Брагінскім (12–19.02.38), Сірацінскім (10–12.03.38), Грэскім (22–25.03.38), Буда-Кашалёўскім (18–21.03.38), Клічаўскім (20.12–1.01.39) раёнах[49]. Па аналагічных справах розныя прысуды атрымалі таксама кіраўнікі Бярэзінскага, Багушэвіцкага, Глускага, Жлобінскага, Клімавіцкага, Лельчыцкага, Лепельскага, Парыцкага, Старобінскага, Старадарожскага, Тураўскага, Чырвонаслабодскага, Лёзненскага, Лоеўскага, Сенненскага, Бялыніцкага, Рудзенскага, Пухавіцкага, Мазырскага, Аршанскага, Сірацінскага, Кармянскага, Жыткавіцкага, Бешанковіцкага, Петрыкаўскага і, верагодна, іншых раёнаў.

У цэлым за 1934–1937 г. па БССР трапілі пад суд больш за 500 старшынь сельсаветаў і 3 тыс. старшынь калгасаў[50].

Як арганізоўваўся паказальны суд у раёнах, можна меркаваць з матэрыялаў справы па Дубровенскім раёне[51].

[48] НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3200 б.

[49] НАРБ. Ф. 4-п. Спр. 14 647. Арк. 59–79.

[50] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1015. Арк. 136, 144.

[51] У Нацыянальным архіве рэспублікі Беларусь у фондзе Спецкалегіі Вярхоўнага суда ёсць толькі другі том з пяцітомнай справы па Дубровенскім раёне і асобная справа на сакратара РК Мышалава. Матэрыялаў судоў астатніх раёнаў няма ўвогуле. Аднак наяўныя матэрыялы хоць і абмежаваныя, але даволі рэпрэзентатыўныя (НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3200 б. Спр. 3202 а).

Літаральна праз пару дзён пасля арышту сакратара РК Мышалава ў Дуброўна прыехаў былы намеснік пракурора Беларусі Захарын і следчы па асабліва важных справах Альтшулер, якія на месцы вывучылі ўліковыя партыйныя карткі раённых работнікаў і на падставе гэтага падабралі кандыдатуры на паказальнае асуджэнне. Так, Самулевіч быў упаўнаважаным камітэта нарыхтовак 6 месяцаў у 1935 г. і ўжо больш за два гады не працаваў у той сферы, але ён быў добрай кандыдатурай як нараджэнец Польшчы ды яшчэ служыў па мабілізацыі ў польскай арміі[52]. Ва ўліковай картцы дырэктара МТС Радзівіновіча было запісана, што ён паходзіць “з нейкіх патомных грамадзян”. На Бюро РК КП(б)Б былі актуалізаваны матэрыялы па абследаванні МТС, якія ўжо абмяркоўваліся там амаль месяц таму і па выніках чаго Радзівіновіч атрымаў тады толькі вымову[53].

У ходзе следства і суда было прызнана ўстаноўленым, што на працягу 1935–36 г. група контррэвалюцыйных шкоднікаў у асобе былога сакратара Дубровенскага РК КП(б)Б Мышалава, былога ўпаўнаважанага камітэта нарыхтовак і нам. старшыні РВК Самулевіча, былога дырэктара Дубровенскай МТС Радзівіновіча, былога заг. райфо Брагіна з дапамогай старшынь сельсаветаў і калгасаў Дрэбезава, Арлова, Кірпічэнкі і Грышчанкава праводзілі “контррэвалюцыйнае шкодніцтва, накіраванае на разбурэнне аднаасобных гаспадарак, на стварэнне антаганізму паміж калгаснікамі і аднаасобнікамі, на выклік і стварэнне незадавальнення ў адносінах да партыі і ўраду працоўнага сялянства”[54].

Паказальны суд у Дубровенскім раёне праходзіў з 28 лістапада да 2 снежня 1937 г. У якасці сведак выступілі 63 чалавекі[55]. Пад час суда, 1 снежня, быў праведзены мітынг рабочых, служачых і трактарыстаў Дубровенскай МТС. Удзельнікі мітынгу “слалі свае пракляцці

[52] НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3202 а. Арк. 238–240.
[53] НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3202 а. Арк. 235–237.
[54] НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3202 а. Арк. 2.
[55] НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3202 а.

ворагам народа, якія праводзілі шкодніцкую контррэвалюцыйную работу на кожным участку сацыялістычнага будаўніцтва" ў раёне і прасілі спецыяльную калегію Вярхоўнага суда БССР прымяніць да "подлых здраднікаў радзімы… расстрэл", а таксама бралі на сябе абавязацельствы павышэння вытворчасці працы, абяцалі "яшчэ вышэй падняць рэвалюцыйную бальшавіцкую пільнасць на кожным участку працы па выяўленні і выкрыцці рэшткаў контррэвалюцыйных элементаў і ліквідацыі наступстваў шкодніцтва"[56]. Зразумела, што такія прапагандысцкія штампы ўпісваліся натрэніраванай рукой таго, хто пісаў справаздачу. Але відавочна, што факта наяўнасці такіх настрояў адмаўляць не даводзіцца.

Паводле прысуду Спецкалегіі Вярхоўнага Суда БССР ад 2 снежня 1937 г. да расстрэлу былі асуджаны першы сакратар райкама Мышалаў Саламон Мееравіч і ўпаўнаважаны па нарыхтоўках Самулевіч Іосіф Іосіфавіч (абодва па арт. 69 КК БССР – антысавецкая дзейнасць); дырэктар МТС Радзівіновіч Ніканор Аляксандравіч (па арт. 69 КК БССР) – да 20 гадоў пазбаўлення волі з паражэннем у правах на 5 гадоў. Грышчанкаў Т. Ф. (арт. 196.1 КК – злоўжыванне ўладай) да 3 гадоў ППЛ без паражэння ў правах, Кірпічэнка Н. Ф. (арт. 197.б – перавышэнне ўлады – і 196.1. КК БССР) да 5 гадоў ППЛ, з паражэннем у правах на 3 гады пасля адбыцця пакарання; Брагін Н. Н. па арт. 69 КК па суду быў апраўданы, а на падставе арт. 196.1 КК асуджаны да 10 гадоў ППЛ з паражэннем у правах пасля адбыцця пакарання на 5 гадоў; старшыня сельсавета Арлоў Яўхім Аксенцьевіч і Дрэбезаў Е. З. (па арт. 196.1 і 197 б. КК БССР) – да 10 гадоў пазбаўлення волі ў ППЛ кожны з паражэннем у правах пасля адбыцця пакарання на 5 гадоў кожнага. Прысуд быў абвешчаны як канчатковы і абскарджанню не падлягаў[57].

Далей хваля дакацілася і да органаў судавытворчасці і пракуратуры, якія абвінавачваліся, фактычна, у тым

[56] Тамсама. Арк. 60.
[57] Тамсама. Арк. 145.

жа, што і раённыя кіраўнікі: "праводзілі актыўную антысавецкую работу, што выяўлялася ў прымяненні масавых незаконных рэпрэсій над працоўнымі горада і вёскі", "парушалі рэвалюцыйную законнасць з мэтай выклікаць незадавальненне з боку працоўных і адначасова змазвалі і спынялі справы аб ворагах і шкодніках"[58]. Была "ўстаноўлена" іх сувязь з трацкістамі і польскай разведкай. За тры месяцы райкамамі і органамі НКУС былі "выкрыты як ворагі народа і звязаныя з імі" 11 райпракурораў, 12 народных суддзяў. Справы кіраўнікоў пракуратуры (Глезераў, Сільверстаў), Наркамюста і Вярхсуда (Кудзельскі і Суханаў) перадаваліся ў НКУС. Ставілася пытанне аб неабходнасці праверкі ўсіх падабраных імі кадраў[59].

Карнавал раённых паказальных судоў быў у разгары, але раптам студзеньскі пленум ЦК УКП(б) (1938) паставіў пытанне аб шкодзе такіх судоў. Пачаўся перагляд спраў, тэрміны зніжаліся, а некаторыя справы, як адзначаў пракурор Новік, "якія страцілі да гэтага часу сваё значэнне", былі ўвогуле спынены[60].

У лістападзе 1938 г., пасля пастановы СНК СССР і ЦК УКП(б) "Аб арыштах, пракурорскім наглядзе і вядзенні следства", якое фактычна азначала згортванне масавых рэпрэсіўных акцый, праблема была перафармулявана. У "Вывадах Камісіі ЦК КП(б)Б па прыёмцы і перадачы спраў Пракуратуры БССР" адзначалася: "У Пракуратуры БССР праводзілася правакацыйная практыка ўзбуджэння шэрагу спраў супраць кіраўнічых партыйных і савецкіх работнікаў, якія арыштоўваліся без усялякіх на тое падстаў і абвінавачваліся ў контррэвалюцыйных злачынствах"[61]. Апарат і пракуратуры, і Вярхоўнага суда, а таксама ўся вертыкаль судова-пракурорскай улады патрабавалі, у адпаведнасці з такой устаноўкай, неадкладнай чысткі ад варожых элементаў.

58 НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1389. Арк. 304.
59 НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1015. Арк. 136, 144.
60 НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14774. Арк. 11.
61 НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1722. Арк. 3.

Ці, калі спачатку работнікі суда і пракуратуры прыцягваліся за саўдзел у "парушэнні рэвалюцыйнай законнасці з мэтай выклікаць незадавальненне з боку працоўных", то цяпер іх калегі па цэху абвінавачваліся ў "правакацыйнай практыцы ўзбуджэння спраў супраць кіраўнічых партыйных і савецкіх работнікаў".

18 чэрвеня 1938 г. сакратаром ЦК КП(б)Б стаў прысланы з Масквы П. Панамарэнка, былы намеснік Маленкова па АРПА ЦК УКП(б). 7 лютага 1939 г. ён напісаў для ЦК УКП(б) дакладную запіску аб працы Вярхоўнага суда і судовых органаў БССР, дзе абвінавачваў Вярхоўны суд і пракуратуру ў тым, што яны праводзілі ў масавым парадку працэсы па правакацыйных матэрыялах над партыйнымі і савецкімі работнікамі (у якасці прыкладу фігуруюць Кармянскі, Сіраціінскі, Глускі і іншыя раёны). Адзначаў, што "часта сумленных партыйных і савецкіх работнікаў асуджалі да расстрэлу і расстрэльвалі за перагібы ў адносінах да аднаасобнікаў, на падставе паказанняў аднаасобнікаў, варожая праца якіх была пазней выкрыта"[62]. Вінаватым у неправядзенні мерапрыемстваў па ліквідацыі наступстваў шкодніцтва Панамарэнка называў старшыню Вярхоўнага Суда БССР Абушкевіча, у выніку дзейнасці якога апарат Вярхоўнага Суда аказаўся засмечаны варожымі і сумнеўнымі элементамі[63]. Да таго ж, яго намеснікам працаваў арыштаваны Біксан – латыш, замежнік, які "па ўсіх матэрыялах выкрываецца як удзельнік контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі"[64].

26 ліпеня 1939 г. на ЦК КП(б)Б разглядалася пытанне аб пракуроры БССР С. Новіку. Панамарэнка адзначыў, што Новік, які працаваў пры Б. Бермане і А. Наседкіну (былыя кіраўнікі НКУС, выкрытыя як ворагі народа), таксама адказны за правакаванне спраў[65]. Але асабліва Панамарэнка падкрэсліваў шкоднасць правядзення

[62] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14637. Арк. 175.
[63] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14 637. Арк. 175.
[64] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14 637. Арк. 176.
[65] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1501. Арк. 1.

паказальных раённых судоў: "...хіба можна праводзіць такія паказальныя працэсы ў момант, калі мы ўзялі курс на ўстанаўленне дзяржаўнай дысцыпліны на вёсцы... Усімі гэтымі паказальнымі працэсамі запалохалі людзей, перабілі велізарную колькасць кадраў з раённага актыву, напужалі людзей такім чынам, што яны перасталі працаваць з аднаасобнікам, не сталі патрабаваць выканання дзяржаўных абавязацельстваў"[66].

У сваю абарону Новік сказаў надзвычай важную рэч: "Масавыя арышты, галоўным чынам, праводзіліся па лініі ваеннай пракуратуры, таму што ў Беларусі арыштоўвалі, галоўным чынам, па 68 арт. – за шпіянаж"[67]. Аднак факт таго, што Новік знаходзіўся на службе ў Бермана і Наседкіна, лічыўся ўстаноўленым[68].

5 жніўня 1939 г. Новік пісаў Панамарэнку, што большасць крымінальных спраў супраць раённых работнікаў пасля знакамітага Лепельскага працэсу была ўзбуджана яшчэ да яго прыезду ў БССР, што нярэдка гэтыя справы ўзбуджаліся па пастановах ЦК КП(б)Б, а яшчэ часцей па матэрыялах, якія друкаваліся ў газетах "Звезда" і "Рабочий" па вывадах абследаванняў раёнаў работнікамі ЦК КП(б)Б, Камісіі партыйнага кантролю і інш. Сярод сваіх памылак Новік адзначыў: кваліфікацыю службовых злачынстваў як контррэвалюцыйных, пераацэнку службовай сувязі некаторых раённых работнікаў з выкрытымі ворагамі народа ў цэнтры[69].

У сваіх дакладных у Маскву, у ЦК УКП(б) П. Панамарэнка даводзіў, што вінавата ў арганізацыі масавага

[66] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1501. Арк. 2.

[67] НАРБ. Ф. 4. Воп. 21. Спр. 1501. Арк. 31.
Фактычна адначасова ў СССР ішлі так званыя "нацыянальныя" аперацыі НКУС – серыя масавых рэпрэсіўных кампаній 1937–1938 г., накіраваных у асноўным супраць шэрагу нацыянальнасцяў СССР і замежнікаў (палякаў, немцаў, латышоў, літоўцаў, эстонцаў, фінаў, грэкаў, балгар і некаторых іншых). Са жніўня 1937 да лістапада 1938 г. было асуджана 335 513 чалавек, з іх да расстрэлу 247 157 чалавек, г. зн. 73,66 % агульнай колькасці.

[68] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1501. Арк. 48.

[69] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14 774. Арк. 10.

разгрому раённых кадраў былое кіраўніцтва рэспублікі. Так, у дакладной ад 7 чэрвеня 1939 г. ён пісаў, што “так званыя раённыя паказальныя працэсы” ў Беларусі праводзіліся па прамым заданні кіраўніцтва ЦК КП(б)Б[70]. У дакладной ад 3 ліпеня 1939 г. Панамарэнка гэты працэс паказаў як змену тактыкі ворагаў народа з ліку партыйных і савецкіх кіраўнікоў Беларусі: спачатку сваёй палітыкай яны імкнуліся выклікаць азлабленне аднаасобнікаў і сялян (пераабкладанні падаткамі, парушэнне законнасці, разарэнні і г. д.), а пасля рашэння ЦК УКП(б) па Лепельскай справе змянілі тактыку і ўзялі курс на стварэнне прывілеяваных умоў аднаасобніку ў параўнанні з калгаснікам (вяртанне маёмасці, грашовыя кампенсацыі, аднаўленне ранейшых межаў землекарыстання, спісванне недабораў, перавагі пры найме на транспартныя работы, на працу на раённых прадпрыемствах)[71]. Гэта прывяло да таго, што сельскі актыў, баючыся рэпрэсій, увогуле перастаў “працаваць з аднаасобнікамі”[72]. Паводле Панамарэнкі, разлік рабіўся на выклік сярод калгаснікаў настрояў рэстаўрацыі аднаасобнай гаспадаркі. У якасці пацвярджэння ён адзначаў, што на пачатку 1938 г. аднаасобнікі ўмацавалі свае гаспадаркі, а рост калектывізацыі амаль спыніўся[73].

Цяпер Панамарэнка падкрэсліваў, што арыштоўваліся сумленныя і адданыя партыі партыйныя і савецкія працаўнікі, што “ўсялякая памылка ці няўдача ў практычнай рабоце цягнула за сабой абвінавачванне ў шкодніцтве, шпіянажы, дыверсіі і выклікала рэпрэсіі”[74]. Такім чынам, тыя дзеянні, якія крыху раней кваліфікаваліся як “шкодніцкія”, цяпер Панамарэнка называў “памылкамі ці няўдачамі ў практычнай рабоце”.

Далей ён агучыў наступныя лічбы: былі выключаны з партыі і зняты з працы 24 сакратары райкамаў, 33 сакратары райкамаў партыі былі прosты зняты з працы

[70] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1522. Арк. 1, 3, 4.
[71] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14 689. Арк. 1.
[72] Тамсама. Арк. 2.
[73] Тамсама. Арк. 3.
[74] Тамсама. Арк. 4.

з накладаннем розных партыйных спагнанняў, каля 35 сакратароў райкамаў арыштаваны (тут жа ён адзначаў, што пераважная большасць з іх ужо цалкам рэабілітавана). Былі зняты з працы і арыштаваны каля 50 старшынь райвыканкамаў (большай часткай таксама вызвалены і рэабілітаваны). Значна больш было арыштавана загадчыкаў раённых зямельных і фінансавых аддзелаў. Арыштоўваліся аграномы, дырэктары МТС, загадчыкі РайЗА, раённыя ўпаўнаважаныя камітэта нарыхтовак, навуковыя работнікі і г. д.

Упаўнаважаныя ЦК Зямцоў, Аксёнаў і іншыя, якія правялі рэйды па раёнах і арганізавалі правядзенне кампаніі, былі абвешчаны правакатарамі і паклёпнікамі[75].

Далей Панамарэнка апісваў механізм "выкрыццяў": на паседжаннях Бюро ЦК "камуністам, віна якіх не была ніякім чынам пацверджана, задаваліся наступныя пытанні: Колькі атрымаў ад выведкі? Кім завербаваны? Каго вы завербавалі? Ці даўно знаходзіцеся ў контррэвалюцыйнай арганізацыі?"[76]. І рабіў выснову: ворагі, якія патрапілі у НКУС, "хаваючыся за выкрывальнымі сенсацыямі, тварылі гнюсную работу", у выніку якой былі рэпрэсаваны невінаватыя[77].

Шэраг спраў супраць раённых кіраўнікоў быў спынены[78], ужо скончаныя справы падлягалі перагляду[79]. Дзеянні, якія раней кваліфікаваліся паводле артыкула 69 КК, цяпер перакваліфікоўваліся на артыкулы 196-1 КК, 197 і г. д.: расстрэл замяняўся турэмным зняволеннем, для арыштаваных тэрміны змяншаліся.

Так, 17 студзеня 1938 г. Судова-Наглядная Калегія Вярхоўнага Суда СССР перагледзела справы кіраўніцтва Дубровенскага раёна Мышалава і Самулевіча, ВМП адмянялася, мера пакарання вызначалася 15 і 10 гадоў пазбаўлення волі адпаведна. Справа Радзівіновіча была пе-

[75] Тамсама. Арк. 5.
[76] Тамсама. Арк. 6.
[77] НАРБ. Арк. 6.
[78] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1722. Арк. 3.
[79] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 1. Спр. 14 689. Арк. 3.

рагледжана 15 траўня 1938 г. і тэрмін пакарання зніжаны з 20 да 5 гадоў пазбаўлення волі.

14 снежня 1939 г. паводле пратэсту Пракурора Саюза ССР на прысуд Спецкалегіі Вярхоўнага Суда БССР ад 2 снежня 1937 г. справа была перагледжана Судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Саюза ССР. Было ўстаноўлена, што асуджаныя Мышалаў, Самулевіч і Арлоў "злоўжывалі сваім службовым становішчам… аднак у справе няма ніякіх дадзеных, якія б сведчылі аб тым, што ўказаныя вышэй злачынствы Мышалаў здзяйсняў у к.р. мэтах. Таму яго дзеянні трэба кваліфікаваць па арт. 196-1 КК БССР". Паводзіны Самулевіча, Арлова, Радзівіновіча цяпер тлумачыліся празмерна цяжкімі абставінамі, у якіх ім даводзілася працаваць, а мера, абраная ў адносінах да іх, была прызнана празмернай. У выніку тэрміны пакарання зноў знізілі: Мышалаву – да 10 гадоў, Самулевічу і Арлову – да 5 гадоў, Радзівіновічу – да 3 гадоў пазбаўлення волі без паражэння ў правах з залікам адбытага імі тэрміну.

Радзівіновіч адбываў тэрмін у Севусходлагу НКУС, Арлоў – Самарлагу[80], Выцегорбуд, Самулевіч – на Беламорска-Балтыйскім камбінаце ППЛ НКУС, г. Мядзвежагорск[81]. Грышчанка – у Самарлагу НКУС (вызвалены на падставе рашэння камісіі па разглядзе заяў аб памілаванні пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР ад 16.04.39 г.[82]). Кірпічэнка – у Анеглагу[83]. Кірпічэнка быў вызвалены 25 чэрвеня 1939 г. датэрмінова (згодна з вызначэннем судовай калегіі па Крымінальных справах Вярхсуда БССР ад 14 чэрвеня 1939 г.)[84]. Адбыў з трох гадоў 1 год і 10 месяцаў[85]. Брагін (ППЛ будаўнікоў 105) быў вызвалены пасля адбыцця тэрміну пакарання 25 кастрычніка 1940 г.[86]. Адпраўлены з мінскім этапам 8 жніўня

[80] НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3202 а. Арк. 255–256.
[81] НАРБ. Ф. 188. Воп. 1. Спр. 3202 а. Арк. 313, 314.
[82] Тамсама. Арк. 288.
[83] Тамсама. Арк. 289.
[84] Тамсама. Арк. 296.
[85] Тамсама. Арк. 298.
[86] НАРБ. Арк. 318.

Мышалаў да Саракалага так і не дабраўся, 28 лістапада 1938 г. ён памёр[87].

У згаданай дакладной у ЦК УКП(б) ад 3 ліпеня 1939 г. Панамарэнка падмацоўваў свае словы спасылкай на лісты камуністаў у ЦК (не канкрэтызуючы), што “былое кіраўніцтва ЦК і практыка работы выклікаюць сур’ёзныя сумненні”, і пісаў, што сур’ёзныя сумненні асабіста ў яго выклікае асоба былога другога сакратара Лявіцкага, на падставе загадаў яго і Бермана, акрамя ўсяго іншага, дзейнічаў Волкаў. “Дастаткова сказаць, што ўсе справы, якія рашаліся Цэнтральным Камітэтам, папярэдне імі ўзгадняліся з б. кіраўніцтвам НКУС”[88].

“Лепельская справа” ў шырокім сэнсе чарговы раз саслужыла сваю службу: Панамарэнку было што прад’явіць сваім папярэднікам па ЦК, а таксама сучаснікам па НКУС. Калі хваля зачыстак дакацілася да органаў НКУС, яго супрацоўнікі таксама былі абвінавачаныя ў тым, што яны неабгрунтавана праводзілі арышты раённых кіраўнікоў, “шляхам прымянення мер фізічнага ўздзеяння да арыштаваных атрымлівалі ад іх выдуманыя паказанні, стваралі яўна правакацыйныя справы”. Так, у абвінавачванні былога начальніка Сенненскага раённага аддзела НКУС Гардзеева І. С.[89] фігуруе арышт ім на падставе такой сфальсіфікаванай справы ўсяго складу кіраўніцтва Сенненскага раёна[90].

Падобна на тое, што кола замкнулася: мясцовыя органы ўлады абвінавачваліся ў тым, што сваю варожую дзейнасць (нават не так важна, у чым яна заключалася: у тым, што яны здзекаваліся з аднаасобнікаў ці стваралі ім прывілеяваныя ўмовы) яны праводзілі па заданні і пад прыкрыццём афіцыйнага Мінска (таксама не так важна: ці ён пакрываў мясцовыя кадры, якія праводзілі сваю варожую дзейнасць, ці перабіў вялікую колькасць невінаватых па сфальсіфікаваных справах).

[87] НАРБ. Арк. 303, 306.
[88] НАРБ. Ф. 4-п. Воп.1. Спр. 14 689. Арк. 8.
[89] 11 траўня 1939 г. Гардзееў І. С. быў асуджаны да дзесяці гадоў пазбаўлення волі ў ППЛ.
[90] НАРБ. Ф. 4-п. Воп. 21. Спр. 1807. Арк. 78–86.

Пра "Лепельскую справу", якая пачыналася як байкот маўчальнікамі перапісу 1937 г., а вылілася ва ўсесаюзны разгром нізавых выканаўцаў волі партыі і прывяла да поўнай змены вышэйшага кіраўніцтва Беларусі, зноў узгадаюць праз дваццаць гадоў. На гэты раз "Лепельскую справу" актуалізуюць у сувязі з арганізацыяй масавых рэпрэсій у БССР і асабістай роляй у гэтай справе Малянкова.

У дакладной запісцы М. Шверніка М. Хрушчову аб удзеле Р. Малянкова ў правядзенні рэпрэсій у Беларускай ССР ад 12 траўня 1958 г. сказана, што па даручэнні ЦК КПСС Камітэт партыйнага кантролю праверыў паведамленні кіраўнічых работнікаў ЦК КП Беларусі аб антыпартыйных дзеяннях Р. Малянкова і факты вынішчэння партыйных і савецкіх кадраў Беларусі Малянковым у 1937 г., у бытнасць яго загадчыкам АРПА ЦК УКП(б), а таксама і ў наступныя гады. Тут жа адзначана: «Аб тым, як Малянкоў любую адмоўную з'яву з жыцця Беларусі выкарыстоўваў для падману партыі, яскрава сведчыць так званая "лепельская справа", па якой яшчэ ў лютым 1937 года Палітбюро ЦК УКП(б) устанавіла, што ў Лепельскім памежным раёне мелі месца ўшчамленні законных правоў калгаснікаў і аднаасобнікаў у выніку перагібаў мясцовых уладаў, а таксама з прычыны няправільных дырэктыў Наркамфіна і Камітэта нарыхтовак; гэтыя дырэктывы рашэннем Палітбюро былі адменены, сялянам была аказана дапамога, а віноўнікі перагібаў пакараныя. Малянкоў жа, насуперак гэтаму рашэнню Палітбюро, падаў лепельскую справу як вынік варожых дзеянняў польскіх шпіёнаў і на гэтай падставе здзейсніў масавыя арышты ва ўсіх пагранічных раёнах»[91].

Усяго ж ад прыезду ў Мінск Малянкова і Якаўлева і да лістапада 1938 г. НКУС Беларусі арыштавала 54 845 чалавек, з іх больш за 27 391 было расстраляна[92].

Стаўленікамі Малянкова і надзейнымі праваднікамі яго палітыкі на Беларусі названы П. Панамарэнка і Л. Цанава.

[91] Реабилитация: как это было… С. 312.
[92] Тамсама. С. 319.

Раённыя паказальныя працэсы – гэтая пародыя на правасуддзе – былі толькі вяршыняй айсберга больш глыбокіх працэсаў. Людзям даводзілі, што злоўжыванні і самадурства прадстаўнікоў улады адбываюцца не ад сістэмы высоўвання і бескантрольнасці кадраў, а ад іх варожасці. Шырокамаштабныя працэсы над ворагамі ў абсалютнай большасці насельніцтва выклікалі спадзяванні на лепшае, здавалася, сапраўды, хто, акрамя ворагаў, мог завесці такія парадкі ў краіне. Ды і асобы рэпрэсаваных спачування не выклікалі. Аднак тлумачэнне прычын і размаху ва ўсесаюзным маштабе дадзенай кампаніі толькі спробай Сталіна чарговы раз знайсці казлоў адпушчэння за правалы ў гаспадарчых кампаніях і сыграць на быццам бы ўласцівых сялянству наіўна-манархічных настроях здаецца крыху спрошчаным. Як, дарэчы, і разгляд яе выключна ў межах агульнага шквалу рэпрэсій 1937–1938 г. Уяўляецца, што гэтая кампанія была таксама спробай утаймаваць бязмежнае насілле, што ахапіла вёску ў 1930-я г., устанавіць кантроль над мясцовай уладай. І, цалкам відавочна, сялянства было яшчэ магутнай сілай, якая на 1937 г. у значнай частцы заставалася няскоранай, што вымушала ўлады на пошукі новых формаў узаемадзеяння, у тым ліку з выкарыстаннем перніка і перамоваў.

# “Lepel affair”: 1937 in Belarus

**Iryna Ramanava**

Regional show trials of 1937 in the Soviet Union are the subject of a number of foreign researchers. However, the first of them took place in the Byelorussian SSR in the Lepel district. The so-called “Lepelskoe delo” served as a model for the organization of hundreds of similar processes around the Soviet Union and acted as a starting point for stripping at all levels of government. However, an explanation of the causes and scope of Union scale of the company only Stalin’s attempt to find scapegoats for failures in business and play on the companies if peculiar peasants naively monarchist sentiment is somewhat simplistic. It is not quite right to see it only as part of the repression 1937–1938. It seems that the company has also been an attempt to appease the limitless violence that engulfed the village in the 1930s, to establish control over the local authorities. And, obviously, the peasantry was still a powerful force, which in 1937 in large part remained unconquered, forcing authorities to seek new forms of interaction.

# Беларускі каляндар у гістарычнай асвеце ў 1910–1939 г.

**Генадзь Сагановіч**

Настольныя календары кніжнага фармату (сучаснага тыпу) былі вядомыя на землях Беларусі з часоў Рэчы Паспалітай, дзе яны пачалі выходзіць прыкладна з сярэдзіны XVIII ст. Дзякуючы таму, што ў іх змяшчалася многа інфармацыі практычнага характару з розных галін жыцця – з сельскай гаспадаркі, медыцыны, ветэрынарыі, а таксама звесткі па гісторыі, такія кніжачкі карысталіся асаблівай папулярнасцю шырокіх колаў насельніцтва[1]. "Людская супольнасць не можа абысціся без календара"[2], – пісаў ананімны аўтар аднаго з кракаўскіх выданняў названай эпохі. Як адзначаюць даследчыкі, ужо ў апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай яны сталі своеасаблівай энцыклапедыяй не толькі для шляхты і мяшчан, але ў пэўнай меры і для сялян[3].

Эфектыўнасць выкарыстання кніжных календароў для данясення пэўнай ідэйнай праграмы да насельніцтва выразна выявілася ва ўмовах абвастрэння ідэалагічнай барацьбы на землях Беларусі і Літвы ў другой палове XIX ст. Менавіта каляндар як найбольш даступную і папулярную ў народзе кнігу, што займала тады другое месца пасля малітоўніка ў кожнай сям'і, расійская адміністрацыя Паўночна-Заходняга краю зрабіла адным са сродкаў русіфікацыі

[1] Пар.: Мальдзіс А. Календары, выдадзеныя ў Беларусі ў XVIII ст. // Книговедение в Белоруссии: сборник статей. Минск, 1977. С. 65–68.

[2] Rok B. Kalendarze polskie czasów saskich. Wrocław, 1985. S. 3, 146–147.

[3] Rok B. Op. cit. S. 148.

насельніцтва пасля Студзеньскага паўстання 1863–64 г. Пашыраныя ў краі польскія календары генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў лічыў асабліва шкоднымі для мясцовых людзей, таму іх забаранілі. У барацьбе з польскім уплывам вясной 1864 г. было вырашана выдаваць у Вільні праўрадавы расійскі каляндар, які павінен быў стаць "самым сильным проводником русских идей"[4]. Паказальна, што адна з ключавых роляў у гэтай справе ад самага пачатку адводзілася інфармацыі гістарычнага характару. Сярод галоўных мэтаў "Віленскага календара" адкрыта называлася данясенне да народа "правильных сведений" шляхам публікацыі "статей и очерков, преимущественно исторических"[5]. Праз чвэрць стагоддзя эфектыўнасць выкарыстання календара як самай народнай кніжкі для ўплываў на свядомасць насельніцтва была прызнана ідэолагамі і практыкамі заходнерусізму. У прыватнасці, цытаваны вышэй Аляксандр Мілавідаў, адзін з самых актыўных гісторыкаў Паўночна-Заходняга краю, які прыехаў у Вільню з мэтай сцвярджэння "русского дела", з веданнем справы адзначаў, што менавіта каляндар выконваў найважнейшую ролю ў пазашкольнай асвеце і выхаванні насельніцтва "ў духу праваслаўя і рускай народнасці" на землях Беларусі і Літвы[6].

Сакрэты поспеху, якім вызначыўся "Виленский календарь" у пазашкольнай гістарычнай асвеце, вынікалі з уласцівасцяў самога выдання і яго прызначэння. Любы каляндар з пералікам датаў і святаў падтрымлівае пэўны вобраз агульных уяўленняў пра гісторыю і з'яўляецца, такім чынам, каркасам калектыўнай памяці пра "сваё" мінулае. З пункту гледжання сучасных сацыяльна-гуманітарных

[4] Калі да паўстання ў Вільні выходзіў "Месяцеслов хозяйственный" (або "Kalendarz gospodarski") на рускай і польскай мовах, практычна пазбаўлены любых звестак па гісторыі, то з 1864 г. пачаў выдавацца "Западно-русский месяцеслов", а з 1883 г. – "Виленский календарь", і ў абодвух гісторыя заняла асаблівае месца. Гл.: Миловидов А. И. Русский календарь в Северо-Западном крае, его история и значение. Вильна, 1908. С. 7–9.

[5] Миловидов А. И. Русский календарь в Северо-Западном крае. С. 14.

[6] Тамсама. С. 19.

даследаванняў стварэнне календара святаў і гадавін – гэта адзін са спосабаў вызначэння контураў супольнай гісторыі, г. зн. канструявання калектыўнай памяці. Тыя элементы мінулага, якія найбольш істотныя для адпаведнай групы, у такім канструяванні аддзяляюцца ад усяго іншага як неістотнага і таго, што можа заставацца ў забыцці. Праз увядзенне ў каляндар памятных датаў і святаў адбываецца актуалізацыя пэўных момантаў мінулага: у выніку пераносу ў публічную прастору ў шырокім сэнсе яны ператвараюцца з элементаў мінулага ў элементы калектыўнай памяці. Усе тыя даты, што выбіраюцца для гістарычнага календара як дні памяці і святаў, артыкулююць культурную прыналежнасць сацыяльных груп – як малых, так і вялікіх супольнасцяў тыпу нацыі. Іншымі словамі, яны служаць справе канструявання самавобраза такой супольнасці. Усялякі каляндар памятных датаў, функцыянуючы на розных узроўнях калектыўнага жыцця, надае пэўным падзеям і адрэзкам часу сімвалічную вартасць, дзякуючы чаму яны становяцца сімваламі, якія выклікаюць аўтаматычнае атаесамленне і замацоўваюць адчуванне прыналежнасці да адной супольнасці[7]. Інакш кажучы, каляндар гістарычных датаў ці святаў, якія прызнае пэўная супольнасць, утварае своеасаблівы шкілет яе ідэнтычнасці.

Беларускамоўныя календары з'явіліся, як вядома, толькі ў пачатку XX ст. Піянерам у гэтай справе была рэдакцыя "Нашай Нівы", якая з 1910 па 1913 г. выдавала беларускія календары кніжнага фармату кірылічным і лацінскім шрыфтам накладам па 6–20 тыс.[8]. Менавіта "Нашай Ніве" належыць і ўвядзенне практыкі змяшчэння ў календарах звестак з беларускай гісторыі ды спісу

[7] Гл.: Napiórkowski M. Upamiętnienie // Modi memorandi. Leksykon kultury pamięci / red. M. Saryusz-Wolska, R. Traba, współpr. J. Kalicka. Warszawa, 2014. S. 509; Kwiatkowski P. T., Szpociński A. Przeszłość // idem. S. 414–415; Wolff-Powęska A. Rocznice historyczne jako medium polityki pamięci // Na obrzeżach polityki: praca zbiorowa / pod red. M. Kosmana. Cz. 7. Poznań, 2009. S. 34–35.

[8] Пар.: Саламевіч Я. Календары // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997. С. 25.

важных для народа падзей, – тых, якія заслугоўваюць памяці. Ужо з другога календара, прызначанага на 1911 год, рэдакцыя газеты пачала публікаваць свой пералік такіх гістарычных датаў, названы “Храналогіяй”[9].

Што магло стаяць за ініцыятывай такога новаўвядзення? Пра тое, чым канкрэтна быў матываваны гэты крок, пакуль можна толькі гадаць. У канцы XIX – пачатку XX ст. зварот да гісторыі быў ужо звычайнай з’явай для большасці календароў, якія выходзілі ў культурных цэнтрах краю, не кажучы пра цытаваны вышэй “Виленский календарь”. Напрыклад, Аляксандр Слупскі, пачынаючы выдаваць у Мінску “Северо-Западный календарь” у якасці дадатку да газеты “Минский листок”, прэзентаваў сваё выданне як даведачную кнігу, “у якой былі б сканцэнтраваны неабходныя звесткі для жыхара Паўночна-Заходняга краю і з якой ён мог бы, хоць прыкладна, пазнаёміцца як з мінулым, так і з цяперашнім жыццём гэтай мясцовасці...”[10]. Сапраўды, у гэтым выданні, пакуль яно выходзіла, гісторыя Беларусі стала займала значнае месца[11], ды і літаратурны дадатак да названага календара змяшчаў нямала гістарычных матэрыялаў не толькі пра Міншчыну, але і пра іншыя рэгіёны Беларусі[12], хоць да табліцы памятных датаў справа яшчэ не даходзіла.

Асаблівай паслядоўнасцю ў выкарыстанні гісторыі вызначаліся польскія календары, выдаваныя ў той час як для Віленшчыны, так і для Міншчыны. Паказальна, што хоць першае выданне польскага “Мінскага календара” на 1907 год незалежна ад волі выдаўцоў атрымалася скарочаным, ён усё роўна змяшчаў для кожнага месяца “Гістарычны каляндарык”, а таксама “Кароткі гістарычны

[9] Biełaruski kalendar “Našaje Nivy” na 1911 hod. Vilnia, 1911. S. 5.

[10] Северо-Западный календарь на 1888 год. Изд. газ. “Минский листок”. Минск, 1888. С. I (ненумараваная).

[11] Як прыклад гл.: Довнар-Запольский М. В. Очерки по истории Белоруссии: От начала до смерти Владимира Мономаха (1125) // Календарь Северо-Западного края на 1890 г. Москва, 1890. С. 16–36.

[12] Гл. літаратурны раздзел на 1893 г. : Северо-Западный календарь на 1893 год / под ред. А. И. Слупского. Минск, 1892.

нарыс Мінскай губерні” і іншыя гістарычныя звесткі. Як тлумачылася ва ўступнай нататцы, рэдакцыя адразу планавала даваць у ім “шэраг артыкулаў, якія тычацца гісторыі гэтага краю і польскага культурнага даробку ў ім, а таксама біяграфіі слаўных мужоў, народжаных на Мінскай зямлі”[13]. Пазнейшыя выданні польскіх календароў у Вільні і Мінску таксама абавязкова змяшчалі матэрыялы па гісторыі Польшчы або спісы найбольш важных датаў польскай гісторыі[14]. Так што і яны, а не толькі афіцыйны расійскі каляндар для Паўночна-Заходняга краю, маглі стаць добрым прыкладам для “Нашай Нівы”. А дадатковым фактарам, які падштурхнуў рэдакцыю першай беларускай газеты да ўвядзення гістарычнай часткі, верагодна, было рэха пяцісотгадовага юбілею Грунвальдскай бітвы, які ўлетку 1910 г. гучна святкаваўся ў Кракаве і выклікаў польска-літоўскія спрэчкі ў Вільні[15].

Што б ні паслужыла штуршком, фактам застаецца тое, што менавіта стараннямі “Нашай Нівы” беларускі нацыянальны рух упершыню пачаў мэтанакіравана выкарыстоўваць каляндар як сродак уплыву на свядомасць шырокіх колаў насельніцтва, у тым ліку для гістарычнай асветы сваіх чытачоў, галоўным чынам беларускіх сялян. Пра вынікі каляндарнай працы нашаніўцаў і іх паслядоўнікаў у справе нацыянальнага абуджэння вясковага люду немагчыма сказаць нешта пэўнае без адмысловых даследаванняў, тым не менш нават папярэднія назіранні сведчаць, што яна не была бясплённай. Напрыклад, адзін з лідараў Беларускай сялянскай партыі “Зялёны

[13] Kalendarz Miński na rok zwyczajny 1907. Mińsk, 1907. S. 123–127, 148–151.

[14] Гл.: Kalendarz miński na 1910 rok. Wilno, 1910; Kalendarz miński na rok 1918. Mińsk, 1917; Kalendarz “Zorza” na rok 1924. Wilno, 1924.

[15] Падрабязней гл.: Kurier Litewski. 1910. Nr. 159; Petrauskas R., Staliūnas D. Die drei Namen der Schlacht. Erinnerungsketten um Tannenberg / Grunwald / Žalgiris // Verflochtene Erinnerungen: Polen und seine Nachbarn im 19. und 20. Jh. Hg. von M. Aust, K. Ruchniewicz und S. Troebst. Köln, 2009. S. 122–123; Szpoper D. Gente Lithuana, natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmunt (1851–1934). Gdańsk, 2009. S. 208–217.

Дуб" Уладзімір Ксяневіч (партыйны псеўданім *Грач*) адзначыў на судовым працэсе ў 1925 г., што беларусам ён усвядоміў сябе дзякуючы чытанню менавіта беларускага календара[16].

Вернемся, аднак, да гістарычнай часткі беларускіх календароў. Гістарычную храналогію, або спіс памятных датаў, апублікаваны ў нашаніўскім календары на 1911 год, без абнаўленняў і якіх-колечы зменаў паўтаралі аналагічныя выданні, што рыхтаваліся рэдакцыяй газеты да 1913 г. уключна[17]. Затым, яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны, ініцыяваная "Нашай Нівай" традыцыя перарвалася. Гэта адбылося пасля таго, як беларускімі календарамі ў Вільні пачало займацца Беларускае Выдавецкае Таварыства. Ужо ў календары на 1914 год, падрыхтаваным названай арганізацыяй, не было ні гістарычнай храналогіі, ні зваротаў да гісторыі наогул[18]. Ад гэтага часу і да канца існавання Расійскай імперыі беларускія календары, друкаваныя ў Вільні, не змяшчалі ніякіх гістарычных звестак.

Пасля заканчэння I сусветнай вайны віленскія беларусы ўзнавілі каляндарную справу. У міжваенны перыяд у Вільні выйшла больш за тры дзясяткі беларускіх календароў. Праўда, да гісторыі звярталіся далёка не ўсе іх складальнікі і выдаўцы. Першым пасля нашаніўскай ініцыятывы матэрыялы гісторыі актыўна выкарыстаў Вацлаў Ластоўскі, які склаў і выдаў каляндар "Сваяк" на 1919 год[19]. Асобны агляд у ім прысвечаны толькі развіццю асветы ў Беларусі, тым не менш аўтар апеляваў да гісторыі праз амаль увесь змест свайго выдання, апісваючы то незвычайныя з'явы, то герояў беларускага мінулага. Наступным стаў каляндар "Крыніца" на 1921 год, выдадзены Адамам Станкевічам. Апрача агульных геаграфічных і дэмаграфічных звестак ён змясціў і спіс "Важнейшых здарэнняў з жыцця

[16] Стужынская Н. Беларусь мяцежная: з гісторыі ўзброенага антысавецкага супраціву ў 20-я г. XX ст. Мінск, 2012. С. 229.

[17] Беларускі каляндар "Нашай Нівы" на 1912 г. Вільня, 1912. С. 5; Беларускі каляндар "Нашай Нівы" на 1913 г. Вільня, 1913. С. 5.

[18] Гл.: Беларускі календар на 1914 г. Вільня, 1913.

[19] Biełaruski kalendar Swajak na 1919 hod. Wyd. W. Łastoŭskaho. Wilnia, 1918.

беларусаў"[20], які ў асноўным паўтараў нашаніўскую храналогію. Адзін з найбольшых спісаў гістарычных датаў, вартых памяці народа, падаў каляндар на 1923 год – тут пералічана каля сотні імёнаў і падзей[21]. Затое ў выданні гэтага ж календара на наступны год даваўся толькі сцiслы агляд гісторыі Беларусі з агульнымі звесткамі пра краіну ("Наша мінуўшчына"), а канкрэтных гістарычных падзей, важных для калектыўнай памяці, называлася няшмат[22].

Цягам пяці далейшых гадоў беларускія календары да гісторыі наогул не звярталіся, і толькі ў выданні на 1929 год, падрыхтаваным Беларускім Выдавецкім Таварыствам, якое ўзялося працягваць традыцыю "Нашай Нівы", зноў з'явіўся гістарычны раздзел з "Кароткім аглядам гісторыі Беларусі" і спісам памятных датаў[23]. Каляндар на 1932 год, выдадзены ў Вільні Беларускім Рэлігійна-Грамадзянскім Саюзам, таксама звярнуў сваіх чытачоў да памяці пра мінулае: у ім публікавалася "Кароткая беларуская храналёгія", у якую было ўключана 27 датаў. Услед за ім пералік важных падзей ("Беларускі гістарычны каляндар") і асобны "Гістарычны аддзел" змясціў каляндар на 1933 год, выдадзены ў Вільні Янам Мялецкім.

Характэрна, што ў канцы 1930-х г. і тыя віленскія календары, якія адмыслова адрасаваліся сялянам, самым актыўным чынам апелявалі да гісторыі! Апрача разгорнутай табліцы памятных датаў ("Беларускі гістарычны каляндар"), пасля якой змяшчаліся аглядныя артыкулы пра даўняе мінулае Беларусі, выдаваныя Беларускай кнігарняй "Пагоня" кніжкі на кожны месяц падавалі кароценькі жыццяпіс якой-небудзь асобы з эпохі Полацкага княства – са "Слаўных людзей нашай старасветчыны"[24].

[20] Kalendar Krynica na 1921 hod. Wilnia, 1920. S. 25–26.

[21] Беларускі календар на 1923 год. Вільня, [б. г.]. Гл. на с. 26–27 – "Беларускі гістарычны календар".

[22] Беларускі каляндар на 1924 год. Вільня, 1923. С. 22–23.

[23] Беларускі календар на 1929 год. Вільня, 1928. С. 42–45.

[24] Беларускі Сялянскі Календар на 1939 год. Вільня, 1939. С. 36–39, 44–51. Падобныя раздзелы мелі папярэднія выданні гэтага календара, падрыхтаваныя на 1937 і 1938 гады.

У плане выкарыстання звестак пра даўняе мінулае ледзь не поўнай процілегласцю названых віленскіх выданняў сталі календары міжваеннай БССР, якія былі таксама арыентаваныя на беларускіх сялян. Наогул, у савецкай Беларусі календароў выдавалася ў разы меней, чым у Вільні, а тыя, што ўсё ж выходзілі, амаль зусім не звярталіся да айчыннай гісторыі. Так, каляндар "Заранка" на 1919 год – першае адпаведнае выданне ў савецкім Менску, быў насычаны дбайна падабранымі звесткамі па гаспадарцы і народнай культуры, змяшчаў нарыс па беларускай геаграфіі, але зусім абмінаў гісторыю[25]. Наступны, каляндар "Праца" на 1923 год, меў вялікі сельскагаспадарчы аддзел і асобныя нарысы пра сусветны рэвалюцыйны рух ("Як сяляне змагаліся за свабоду" і да т. п.), пры гэтым толькі ў адной публікацыі разглядалася ўласна беларускай мінулае – у артыкуле Змітра Жылуновіча "Беларуская пісьменнасць і этапы яе развіцця"[26]. На гэтым усе размовы пра сваю гісторыю скончаліся. Праўда, пад месячнымі табліцамі дзён тыдня і святаў называліся памятныя дні ("Памятка рэвалюцыі"), аднак і яны звязваліся выключна з падзеямі і асобамі рэвалюцыі, у асноўным расійскай. У прыватнасці, для студзеня такой памятнай датай названы пачатак крывавых падзей у 1905 г. у Санкт-Пецярбургу, а для ліпеня – арышт цара Мікалая Раманава ў 1917 г.

Падобнай палітызацыяй вызначаліся і выпускі "Беларускага сялянскага настольнага календара", які з 1926 па 1929 г. масавым накладам выдавала ў Менску рэдакцыя газеты "Беларуская вёска"[27]. Марна было б шукаць у іх хоць які-небудзь спіс памятных датаў па гісторыі Беларусі. Сярод сціплых матэрыялаў пра мінулае, якія сустракаліся на яго старонках поруч з гаспадарскімі парадамі, звесткамі аб прыродзе, нататкамі пра фальклор і гульні,

[25] Каляндар "Заранка" на 1919 год. Выд. Тав. "Заранка". Менск, [1919].

[26] Праца. Беларускі работніцка-сялянскі каляндар на 1923 год. Менск, 1923. С. 47–51.

[27] Напрыклад, каляндар на 1929 год выйшаў 30-тысячным накладам.

непадзельна дамінавала тэма сусветнага рэвалюцыйнага руху і дзейнасці бальшавікоў. Зусім рэдка ўкрапляліся эпізоды з мінулага Беларусі, але абавязкова ў кантэксце класавай барацьбы (напрыклад, "Як сяляне змагаліся з панамі. Першае казацкае паўстанне на Беларусі" або "Як змагаўся Кастусь Каліноўскі"[28]). З беларускіх тэмаў, не звязаных з класавай барацьбой, у гэтых выданнях кранався бадай толькі беларуская пісьменнасць ды Францішак Скарына[29]. Большасць жа гістарычных звестак нерэвалюцыйнага характару тычылася або сусветнай гісторыі, або расійскай, або ўслаўляла эпоху савецкай Беларусі, а ўся ранейшая гісторыя, у тым ліку эпоха ВКЛ, паслядоўна ігнаравалася. У гады сталінскіх рэпрэсій кволая каляндарная справа ў БССР была цалкам спынена. Толькі ў канцы 1930-х г. яна мусіла аднавіцца, але напад Гітлера на Савецкі Саюз не дазволіў ажыццявіць выдавецкія планы[30].

З усіх беларускіх кніжных календароў, якія ўбачылі свет ад 1910 г. да пачатку II сусветнай вайны, у кнігазборах Беларусі ўдалося выявіць і апрацаваць больш за чатыры дзясяткі выданняў. Абсалютная большасць гэтых кніжачак была надрукавана ў Вільні (34), тады як у Менску – толькі 4, і яшчэ 2 беларускія календары выйшлі ў Рызе. Сярод аналізаваных выданняў гісторыю для асветы народа выкарыстала толькі прыкладна трацiна, або 12 наяўных календароў, а спісы памятных датаў (так званы "шкілет ідэнтычнасці" беларусаў) змясціла яшчэ менш – толькі 6, г. зн. палова азначанай трацiны.

Адразу адзначым, што з фармальнага пункту гледжання гісторыя ніяк не магла быць прыярытэтам для стваральнікаў народных календароў. Паколькі аналізаваныя выданні адрасаваліся найперш вясковаму насельніцтву, то сярод інфармацыі практычнага характару ў іх

28 Беларускі сялянскі настольны каляндар на 1928 год / злажыў А. Матусэвіч. Менск, 1927. С. 23, 63; Беларускі сялянскі настольны каляндар на 1929 год / злажыў А. Матусэвіч (з удзелам супрац. газэты "Беларуская вёска"). Менск, 1928. С. 21, 53.

29 Беларускі сялянскі настольны каляндар на 1929 год. С. 17.

30 Саламевіч Я. Календары. С. 26.

па вызначэнні дамінавалі рознага роду карысныя звесткі, падказкі і парады для гаспадароў на кожную пару і на любы месяц года. Між іншага, водгукі на першыя беларускія календары (нашаніўскія), якія ў 1911–1912 г. з'явіліся ў польскім, украінскім і расійскім друку, пазітыўныя па сутнасці, станоўча адзначалі менавіта ўдалую прыстасаванасць іх зместу пад патрэбы вясковага насельніцтва[31]. З іншага боку, дзякуючы сваёй папулярнасці ў народзе гэтыя кніжкі давалі выдатную магчымасць гістарычнай асветы, неабходнай для абуджэння нацыянальнага пачуцця, і прадстаўнікі беларускіх нацыянальных элітаў, здаецца, добра разумелі гэта. Аднак, як адзначалася вышэй, дзве трацiны беларускіх календароў зусім не выкарысталі ніякіх матэрыялаў па гісторыі, што, вядома ж, не магло быць выпадковасцю.

Звернемся цяпер да зместу гістарычнай часткі тых выданняў, што ўсё ж знаёмілі сваіх чытачоў з беларускім мінулым. Як адзначалася вышэй, стварэнне спісаў ці табліц памятных датаў, г. зн. уласна гістарычных календароў, было па вызначэнні рацыянальным адборам фактаў, абумоўленым свядомай устаноўкай і светаглядам іх творцаў. Што ж складальнікі беларускіх календароў абіралі як найбольш важнае, каб акрэсліць сваю гісторыю? У гэтым сэнсе самы першы спіс памятных датаў, змешчаны ў календарах "Нашай Нівы", заслугоўвае асаблівай увагі. Пералічым выбраныя падзеі ў тым парадку, як іх падавала рэдакцыя: увядзенне славянскіх літар (862), раздзяленне царквы (870 і 1054), бітва пад Грунвальдам (1410), выхад "першай беларускай біблii" (1517), выхад "першага календара па беларуску" (1587), друк Літоўскага Статута (1598), увядзенне уніі Брэсцкім царкоўным саборам (1596), далучэнне Беларусі да Расii (яно звязвалася з трыма датамі: для ўсходняй і заходняй частак называліся 1772 і 1793 г., а затым падавалася далучэнне Беластоцкай зямлі

[31] На першыя календары беларусаў пазітыўна адгукнуўся і нараджэнец Віцебска, праф. Харкаўскага ўніверсітэта Аляксандр Пагодзін, які быў ужо вядомым славістам. Гл. "Што пішуць расейцы, палякі і ўкраінцы аб беларускім календары" ў: Беларускі календар на 1915 год. Вільня, 1914. С. 54.

ў 1807 г.), скасаванне уніі (1839), адмена прыгону (1861), забарона "друкаваць кніжкі па беларуску" (1865), маніфест аб скліканні дзяржаўнай Думы Расіі (1905) і выхад "Нашай Долі" – "першай беларускай газеты па беларуску" (1906).

Першае, што звяртае на сябе ўвагу, гэта адсутнасць хоць якой-небудзь даты з мінулага Полацкага княства і практычна поўнае "выпадзенне" палітычнай гісторыі ВКЛ. У гэтым можна бачыць або неўсведамленне патрэбы выбару нейкай падзеі і звязанай з ёй даты за пачатак беларускай дзяржаўнасці, або своеасаблівае ўхіленне ад такога вызначэння. Як бачым, за першую дату гісторыі ўзята падзея, далёкая ад дзяржаўна-палітычнага быцця – увядзенне азбукі, распрацаванай Кірылам і Мяфодзіем для пераводу грэцкіх рэлігійных тэкстаў на славянскую мову. Як вядома, 862 год быў толькі гіпатэтычнай датай прыняцця славянскай азбукі для пашырэння хрысціянства, аспрэчанай яшчэ ў другой палове XIX ст., калі гэтая падзея больш звязвалася з 1863 г. Але важней тое, што яна сімвалізавала адзінства ўсіх славян і, здавалася б, зусім не адпавядала інтарэсам выдзялення мінулага беларускага народа з майстар-наратыву расійскай гісторыі. Не выключана, што ідэя важнасці гэтай даты знайшла прыхільнікаў у рэдакцыі "Нашай Нівы" пад уплывам расійскага і польскага панславізму, які ў той час актуалізавала абвастрэнне супрацьстаяння з Нямеччынай[32]. Аднак узятая сама па сабе, без шырокага палітычнага кантэксту, дата ўвядзення алфавіта арганічна ўпісваецца ў шэраг іншых падзей, гады якіх уключаны ў храналогію, бо сярод іх абсалютна дамінуюць факты культурна-рэлігійнага характару. Зусім адасобленае месца сярод іх займае толькі Грунвальдская бітва, якая стала фактычна адзінай

[32] Ініцыятарам і прапагандыстам святкавання даты ўвядзення кірыліцы як пачатку славянскай гісторыі і тысячагоддзя славянскага адзінства ў 1862 г. быў расійскі гісторык-публіцыст Міхаіл Пагодзін. Гл.: Погодин М. П. Слово на день памяти св. Кирилла и Мефодия // Кирилло-Мефодиевский сборник. Изд. М. Погодин. Москва, 1865. С. 441–448; Майорова О. Славянский съезд 1867 года: метафорика торжества // НЛО. 2001. № 5(51). С. 90.

падзеяй з палітычнай гісторыі, уключанай у храналогію (калі не лічыць далучэнні тэрыторый Беларусі да Расіі і склікання расійскай думы).

Першы пералік гістарычных датаў для беларусаў, як бачым, досыць супярэчлівы і пакідае нямала пытанняў, у тым ліку загадку яго аўтарства. Лагічна было б дапускаць, што пасля публікацыі "Кароткай гісторыі Беларусі" Вацлава Ластоўскага ў 1910 г. падбор рэпрэзентацыйных матэрыялаў па гісторыі ў календарах "Нашай Нівы" будзе канцэптуальна ўзгадняцца з ёю. Аднак у разгледжанай храналогіі аказаліся тыя памятныя даты, якія зусім не акцэнтаваліся ў першым дапаможніку па беларускай гісторыі, хоць яго аўтар на той час ужо працаваў у рэдакцыі газеты[33]. Больш за тое, было цалкам абмінута Полацкае княства, з якога В. Ластоўскі пачынаў гісторыю Беларусі. Не знайшлося ў табліцы ні Крэўскай, ні Люблінскай уній, якія ў разуменні апошняга мелі важнае значэнне для лёсаў Беларусі. Наогул, з пазіцый гістарычнай свядомасці сённяшніх беларусаў спіс "Нашай Нівы" не можа не здзіўляць адсутнасцю многіх важных падзей і проста вузлавых пунктаў айчыннага мінулага.

Нібыта паспешліва складзеная храналогія нашаніўскіх календароў узору 1911 г., пры ўсёй яе – як на сёння можа падацца – непрадуманасці, засталася не толькі арыентацыяй для стваральнікаў наступных спісаў памятных датаў, але і іх непасрэднай асновай. Амаль усе даты з першага спіса (14 з 17!) былі перанесены ў календары 1920-х г. Больш за тое, захаваўся не толькі спіс тых жа самых падзей, – ім даваліся тыя ж назвы і ацэнкі[34]. Натуральна, з часам спіс папаўняўся новымі датамі. Так, у календары "Крыніца"

[33] У даследаваннях адзначаецца, што В. Ластоўскі рэальна кіраваў газетай толькі з 1912 г., а перад тым кіроўныя функцыі захоўвалі А. Уласаў і браты Луцкевічы (гл.: Унучак А. "Наша ніва" і беларускі нацыянальны рух (1906–1915 гг.). Мінск, 2008. С. 33, 140). Магчыма, гэтая акалічнасць акурат і тлумачыць, прынамсі часткова, настолькі істотныя разыходжанні ў выбары вузлавых падзей гісторыі Беларусі ў кнізе В. Ластоўскага, з аднаго боку, і ў календары на 1911 год, з другога.

[34] Пар.: Kalendar Krynica na 1921 hod. Wilnia, 1920. S. 25–26; Беларускі календар на 1923 год. Вільня, [б. г.]. С. 26–27; Беларускі календар на 1929 год. Вільня, 1928. С. 42–45.

на 1921 год дадаліся Усебеларускі з’езд 1917 г., абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ў 1918 г., савецка-літоўскі дагавор 1920 г., які перадаваў Літве частку Беларусі[35], а таксама некаторыя іншыя падзеі. У календары на 1923 год ужо з’явіліся падзеі і асобы полацкай гісторыі, якіх так не хапала ў храналогіі “Нашай Нівы”, а таксама даты найноўшай палітычнай гісторыі, пачынаючы з абвяшчэння незалежнасці Беларусі актам 25 сакавіка 1918 г. Гістарычны агляд выдання на наступны год акцэнтаваў, сярод іншага, важнасць злучэння краю з Польшчай (уніі), адзначаў як падзею выданне першай кнігі Скарынам (1517) і вылучаў вайну з Масквой, з-за якой была падпісана унія 1569 г., а ў XVII ст. край перажыў вялікія няшчасці[36]. Яшчэ больш прыкметныя абнаўленні ў спісах знамянальных падзей адбыліся ў выданнях канца 1920-х – 1930-х г. У прыватнасці, толькі тады пад 980 г. стаў паслядоўна падавацца Рагвалод як “першы гістарычна вядомы самастойны князь полацкі”[37], – так з’явілася дата і асоба, што магла атаесамляцца з пачаткам беларускай дзяржаўнасці. Тым не менш у агульным падборы фактаў захоўваўся галоўны трэнд, зададзены календарамі “Нашай Нівы”: як перад I сусветнай вайной, так і ў 1930-я г. абсалютная большасць называных падзей была звязана з рэлігіяй і культурай, а да падзей палітычнага жыцця і ваеннай гісторыі складальнікі практычна не звярталіся. Паказальна, што ў адрозненне ад першых календароў яны часам не ўключалі ў лік важных датаў беларускай храналогіі нават Грунвальдскую бітву[38].

Пра абыходжанне з бітвай пад Грунвальдам варта сказаць асобна. Як ужо адзначалася, яна была адзінай

[35] Kalendar Kryniсa na 1921 hod. S. 26.

[36] Беларускі каляндар на 1924 год. Вільня, 1923. С. 22–23.

[37] Беларускі календар на 1929 год. С. 42.

[38] Беларускі календар на 1932 год. Выд. Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Саюзу. Вільня, [б. г.]. С. XXXII. Адной выразнай пазіцыі наконт важнасці Грунвальдскай бітвы яшчэ не існавала. Наступным разам яна зноў аказалася сярод датаў календара на 1933 год (гл.: Беларускі календар на 1933 год. Выд. Я. Мялецкага. Вільня, [б. г.]. С. 32), але потым неаднакроць зноў здымалася са спіса.

падзеяй ваеннай гісторыі, якая трапіла ў першыя беларускія календары і больш-менш стала ўтрымлівалася ў календарах міжваеннага перыяду. Толькі аднойчы – у віленскім календары на 1923 год[39] – спіс падаў усім вядомую цяпер перамогу гетмана Канстанціна Астрожскага ў бітве пад Оршай у 1514 г., але больш яна нідзе не сустракаецца. Яшчэ адной падзеяй ваеннай гісторыі, якая дадалася да Грунвальдскай бітвы, у канцы 1920-х г. стала "паўстанне на Беларусі 1649 г."[40], уключэнне якога ў спісы можна звязваць з уплывамі гістарыяграфіі БССР. Праз амаль дзесяцігоддзе ў календары латышскіх беларусаў, складзеным Сяргеем Сахаравым, да памятных дат нацыянальнай гісторыі дадаліся бітва на Нямізе (1067) і заваяванне Масквою беларускага Полацка (1563), затое аказалася "забытай" бітва пад Грунвальдам[41]. На гэтым пералік бітваў ці падзей ваенна-палітычнага характару з уласна беларускага мінулага ў аглядах гісторыі і спісах памятных датаў сканчаўся.

Адзначаная ўстаноўка найбольш яскрава выявілася ў пазіцыі беларускага каталіцкага кола на чале з ксяндзом Адамам Станкевічам, які ў сваіх выданнях ад самага пачатку свядома не звяртаўся да ваеннай гісторыі. Так, у яго календары "Крыніца" на 1921 год паўтаралася амаль уся храналогія ўзору 1911 г., аднак – без Грунвальдскай бітвы. Гэта адпавядала той кансерватыўнай лініі, якой трымаліся беларускія хрысціянскія дэмакраты: выступаючы супраць вайны і рэвалюцыі, яны прапагандавалі ідэю аб тым, што сіла народа палягае ў маральным удасканальванні, а не ў ваенных подзвігах. Характэрна, што ў парадах аб паляпшэнні жыцця, запісаных на кожны месяц у згаданым календары А. Станкевіча, гаварылася пра патрэбу спяваць свае песні, шанаваць сваю мову, важнасць мець нацыянальны гонар і нават краналася індывідуальная памяць (маўляў, добрая памяць аб чалавеку

[39] Беларускі календар на 1923 год. С. 26.
[40] Беларускі календар на 1929 год. С. 43.
[41] Беларускі календар на 1937 год / склаў С. Сахараў. Daugavpils, [б. г.]. С. 17, 19.

жыве ў пакаленнях)[42], але зусім па-за ўвагай аўтара засталася гісторыя як памяць калектыўная.

Устаноўка падбіраць для гістарычнага календара галоўным чынам падзеі культурна-рэлігійнага жыцця, а не ваенна-палітычнага мінулага, запачаткаваная ў свой час рэдакцыяй "Нашай Нівы", пры зусім нячастых апеляцыях да мінулага характарызавала не толькі пазіцыю складальнікаў беларускіх календароў у Вільні. Такую ж тэндэнцыю можна назіраць сярод беларусаў, якія апынуліся ў міжваеннай Латвіі. Гэта добра ілюструе змест ужо згаданага выдання для латышскіх беларусаў, складзенага Сяргеем Сахаравым. Названы актывіст беларускіх арганізацый у Латвіі меў за плячыма юрыдычны факультэт Дэрпцкага ўніверсітэта і хаця б па-аматарску займаўся гісторыяй ды этнаграфіяй, так што яго можна па праву залічваць да той эліты, якая тады "канструявала" нацыянальную гісторыю. Вось жа ў календары на 1937 год, у якім паралельна з царкоўнымі святамі на кожны месяц пададзены "гістарычныя памяткі" са свецкага жыцця, у лік апошніх падабраны амаль выключна даты з культурнага жыцця і асветы. Менавіта ў гэтай сферы бачыліся з'явы, якія аўтар мог экспанаваць як дасягненні беларусаў і нават іх перавагі над суседзямі. Пісьменнасць беларусаў "старэйшая за польскую і расейскую", – адзначаў, напрыклад, С. Сахараў, і дадаваў, што толькі чэхі пераклалі Біблію на сваю мову раней за беларусаў[43].

Вартымі ўвагі ўяўляюцца прапорцыі размеркавання памятных датаў па эпохах. Як вядома, чым больш падбіраецца датаў на пэўную эпоху, тым большая яе камемарацыйная шчыльнасць, што азначае яе большую важнасць для супольнасці[44]. З нашага аналізу атрымліваецца, што ў пяці паўнавартых табліцах памятных датаў беларускай гісторыі, змешчаных у заходнебеларускіх календарах канца 1920-х – 1930-х г., першае месца па камемарацыйнай шчыльнасці займае эпоха найноўшай гісторыі Беларусі:

[42] Гл.: Kalendar Krynica na 1921 hod. S. 12–13, 20–21.

[43] Беларускі календар на 1937 год / склаў С. Сахараў. Daugavpils, [б. г.]. С. 23.

[44] Пар.: Зерубавель Я. Динамика коллективной памяти // Ab Imperio. 2004. № 3. С. 83.

з перыядам пасля абвяшчэння незалежнасці 25 сакавіка 1918 г. (нягледзячы на тое, што гэта быў перыяд аднаго-двух дзесяцігоддзяў) звязваецца ад 26 да 51% усіх названых падзей. Другой стала эпоха даўняй гісторыі ад IX ст., праз перыяды ВКЛ і Рэчы Паспалітай, да канца XVIII ст.: ёй прысвечана ад 30 да 48% падабраных датаў, з якіх ад чвэрці да паловы адводзілася на гісторыю Полацкага княства. А найменшая колькасць памятных імёнаў і датаў звязвалася з эпохай існавання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі: ад 19 да 26%. Адсюль добра відаць, якім эпохам лідары беларускага нацыянальнага руху прыпісвалі большае значэнне.

Што да канкрэтных падзей, якія найчасцей уключаліся ў пераліку, то сярод іх у беларускіх гістарычных календарах, як ужо было падкрэслена, абсалютна дамінавалі факты культурна-рэлігійнага жыцця. У нашаніўскіх табліцах амаль адзінай падзеяй палітычнай гісторыі стала Грунвальдская бітва, якая ўтрымлівалася затым у спісах памятных датаў у Заходняй Беларусі. Варта дадаць, што пры наогул рэдкіх зваротах да ваеннай гісторыі гэтая сфера цікавіла толькі свецкія арганізацыі беларусаў, тады як асяроддзе каталіцкай арыентацыі свядома адмаўлялася ад яе.

Папярэдні аналіз беларускіх календароў, што ўбачылі свет да пачатку II сусветнай вайны, дазваляе вызначыць шэраг іх асаблівасцяў. Перш за ўсё, як ужо адзначалася, гісторыя ў беларускіх календарах выкарыстоўвалася менш, чым у аналагічных выданнях суседніх народаў. Гістарычныя нарысы і спісы знамянальных падзей або проста аглядныя матэрыялы па гісторыі змясціла толькі трэцяя частка аналізаваных выданняў. У недастатковай увазе да мінулага можна бачыць пэўную сувязь з даволі нізкім узроўнем гістарычнай свядомасці, характэрнай не толькі для простага насельніцтва, але і для саміх лідараў нацыянальнага руху. Сімвалічна, што да гісторыі ў свой час амаль ніяк не апелявалі і беларускія народнікі[45], –

[45] Публицистика белорусских народников / сост. и подгот. С. Х. Александровича и И. С. Александрович. Минск, 1983.

факт, які нядаўна трапна адзначыла Дарота Міхалюк[46]. З улікам гэтай спецыфікі беларускага руху ігнараванне гістарычнага матэрыялу большасцю беларускіх календароў для народа не такое ўжо і дзіўнае.

У календарах, якія ўсё ж звярталіся да мінулага, абыходжанне з гісторыяй моцна рознілася ў залежнасці ад таго, дзе яны выдаваліся – у Вільні або ў Менску. У першых канструявалася глыбокая і звязная гісторыя беларускай нацыі незалежна ад канфесійнай прыналежнасці жыхароў краю. Яны пастулявалі кантынуітэт развіцця Беларусі ад IX і X ст. – ад прыняцця славянскай азбукі і Полацкага княства – да абвяшчэння БНР і апошніх падзей у абедзвюх частках раздзеленай Беларусі. З пункту гледжання самаідэнтыфікацыі выбар увядзення славянскай азбукі за першую памятную дату для беларусаў і яе стабільнае захаванне ўсімі календарамі Заходняй Беларусі, якія змяшчалі адпаведныя спісы, можна разумець як маніфестацыю прыналежнасці да славянства. У календарах, друкаваных у БССР, мінулае Беларусі пазбаўлялася тысячагадовай глыбіні: адлік гістарычнага часу ў іх звычайна пачынаўся з рэвалюцыйных падзей. У адрозненне ад віленскіх яны амаль не аддавалі ўвагі падзеям з жыцця Заходняй Беларусі, дэманстрацыйна ігнаруючы і дату, якая стала адной з галоўных у гістарычных спісах заходнебеларускіх календароў – абвяшчэнне незалежнасці Беларусі актам 25 сакавіка 1918 г. Затое беларускія календары віленскіх выдавецтваў у сваіх спісах знамянальных падзей найноўшай гісторыі не забываліся падаць 19 студзеня 1919 г. як дзень абвяшчэння БССР[47], а таксама называлі важныя факты дзяржаўна-культурнага жыцця савецкай Беларусі.

Як вядома, у еўрапейскіх працэсах нацыяўтварэння ў XIX–XX ст. важную ролю выконвала міфалагізацыя войнаў, таму бітвы належалі да абавязковых і найбольш

[46] Michaluk D. Białoruska Republika Ludowa 1918–1920: u podstaw białoruskiej państwowości. Toruń, 2010. S. 113.

[47] Гл. напр.: Беларускі календар на 1929 год. С. 44; Беларускі Сялянскі Календар на 1939 год. С. 38.

частых элементаў рэпертуару календароў нацыянальнай гісторыі. Шляхам надання асаблівага значэння бітвам нацыянальныя рухі і маладыя нацыянальныя дзяржавы ўмацоўвалі сваю калектыўную ідэнтычнасць праз канфліктнае адмежаванне ад суседзяў і актуалізацыю вобраза ворага[48]. Бітвы звычайна займалі важнае месца ў нацыянальных наратывах, сімвалізуючы момант яднання ці пачатку народа (нацыі), акт абароны радзімы або эпічнай барацьбы розных культур[49], таму яны з'яўляліся абавязковым элементам нацыянальнага гісторыяпісання. У беларускіх жа элітаў, як паказвае матэрыял гістарычных календароў акрэсленага перыяду, адзначаная тэндэнцыя зусім не выяўляецца. Яшчэ раз падкрэслім: ва ўсіх аглядах гісторыі і табліцах памятных датаў акцэнтаваліся

[48] Buschmann N., Langewiesche D. Krieg im Mythenarsenal europäischer Nationen und der USA. Überlegungen zur Wirkungsmacht politischer Mythen // Der Krieg in den Gründungsmythen europäischer Nationen und der USA / Hg. von Langewiesche D. Frankfurm a. M., New York, 2004. S. 13–22. Пар.: Kroener B. R. Kriegerische Gewalt und militärische Präsenz in der Neuzeit. Ausgewählte Schriften. Hg. von R. Pröve und B. Troß. Padeborn, 2008. S. 297; Mick C. Kriegserfahrungen und die Konstruktion von Kontinuität. Schlachten und Kriege im ukrainischen und polnischen kollektiven Gedächtnis 1900–1930 // Gründungsmythen – Genealogien – Memorialzeichen. Beiträge zur institutionellen Konstruktion von Kontinuität. Hg. von G. Melville und K.-S. Rehberg. Köln [u. a.]: Böhlau, 2004. S. 109–132.

[49] У якасці добрых прыкладаў можна назваць бітву ў Тэўтабургскім лесе 9 г. н. э., якая ў XIX ст. стала сімвалізаваць пачатак Нямеччыны, бітву Залатых шпораў 1302 г. як фламандска-бельгійскі міф заснавання, а таксама Косаўскую бітву 1389 г., што заняла цэнтральнае месца ў сербскай нацыянальнай ідэнтычнасці. Гл.: Bendikowski T. Der Tag, an dem Deutschland entsatnd. Die Geschichte der Varusschlacht. München, 2008; Langewische D. Unschuldige Mythen // Kriegserfahrung und nationale Identität in Europa nach 1945: Erinnerung, Säuberungsprozesse und nationales Gedächtnis. Hg. von K. von Lingen. Padeborn, 2009. S. 36–37; Šuica M. The Image of the Battle of Kosovo (1389) Today: a Historic Event, a Moral Pattern, or the Tool of Political Manipulation // The Uses of the Middle Ages in Modern European States: History, Nationhood and the Search for Origins / ed. by R. J. Evans, G. P. Marchal. New York, 2011. P. 152–174.

ў асноўным падзеі культурна-рэлігійнага жыцця, а не дзяржаўна-палітычнага. Сімптаматычна, што і ў згаданых вышэй водгуках на першыя беларускія календары ў польскім друку як пазітыўная з'ява адзначалася менавіта тое, што яны "не ўтрымліваюць ніякіх акцэнтаў ваяўнічага нацыяналізму"[50]. Адзначанае можна лічыць адной з найбольш прыкметных асаблівасцяў беларускага варыянта канструявання нацыянальнай памяці.

Сярод іншых характэрных рысаў ранняга этапу вызначэння контураў нацыянальнага мінулага ў беларускіх календарах можна назваць таксама захапленне эпохай Полацкага княства пры падкрэсленым дыстанцыяванні ад Кіева. Нярэдка пры гэтым падзеі з жыцця Беларусі нават у віленскіх календарах яшчэ недастаткова паслядоўна аддзяляліся ад гісторыі Расіі, не кажучы пра календары менскіх выданняў, якія хутчэй мэтанакіравана ўпісвалі Беларусь у агульную з Расіяй гісторыю, чым вылучалі яе.

Выкладзеныя вышэй вынікі вывучэння беларускіх календароў носяць пакуль папярэдні характар, тым не менш яны дазваляюць разглядаць гістарычны матэрыял гэтай самай "народнай кнігі" як дастаткова змястоўную крыніцу, што можа ўтрымліваць важныя сведчанні, датычныя канструявання нацыянальнай памяці беларускімі элітамі першай паловы XX ст. Асабліва каштоўнымі ў гэтых адносінах уяўляюцца віленскія выданні, якія не толькі ўтвараюць аснову калекцыі беларускіх даваенных календароў. Калі менскія календары ўвасаблялі афіцыйную сістэму камемарацыі, заідэалагізаваную і спушчаную "зверху", то віленскія рэпрэзентавалі само беларускае грамадства. Той вобраз мінулага Беларусі, які канструяваўся ў іх праз памятныя даты і назвы, можна лічыць найбольш адпаведным светагляду беларускіх элітаў і натуральнай самагістарызацыі беларусаў.

50 Гэта адзначаў "Dziennik Petersburski" за 1911 г. Гл.: Biełaruski kalendar na 1914 hod. Vilnia, 1914. S. 2; Беларускі календар на 1915 год. С. 54.

# Belarusian Calendars in Teaching History between 1910 and 1939

**Hienadź Sahanovič**

The article looks at how the Belarusian book-format calendars of the first half of the 20th century used history from the perspective of collective memory construction by the national elites. The author views a calendar of a community's memorable dates as a kind of its identity backbone. He has collected and analysed over forty calendars, mostly published in Viĺnia (Vilnius) from 1910, when the editorial board of the *Naša Niva* published the first-ever calendar in Belarusian, to the beginning of World War II.

Of all the publications covered in this study, only one in three used history for the purposes of educating the nation and only one in seven had lists of memorable historic dates. It appears that the Belarusian calendars referred to history less than similar editions of the neighbouring nations. The author argues that the Belarusian calendar of memorable dates was characterised by complete domination of cultural and religious events, whereas military, political and state history received very little attention. Those Viĺnia editions that looked back on the past constructed a continuity of Belarus' development from the 9th century to the proclamation of the Belarusian Democratic Republic and the Belarusian Soviet Socialist Republic, referring to important events in both parts of partitioned Belarus. By contrast, Soviet Belarusian calendars usually ignored Belarusian history whatsoever or associated its beginning with the Bolshevik revolution.

# Нацыя як сапраўды еўрапейскі феномен

## Мiраслаў Грох

У гэтым дакладзе будзе абгрунтавана меркаванне, што як тэрмін "нацыя", так і нацыю ў сэнсе гістарычна сфармаванай вялікай сацыяльнай групы не трэба разглядаць як пабочную з'яву або нават прадукт *"нацыяналізму"*, а трэба даследаваць іх як самастойныя **спецыфічна еўрапейскія феномены**. Мне важна выразна адмежавацца ад скажэння, што паўстала праз "экспарт" тэрміна "нацыя" з Еўропы ў іншыя цывілізацыі і сістэмы каштоўнасцяў, каб урэшце – пад тэрмінам *"нацыяналізм"* – атруціць нашу тэрміналогію.

Дзеля гэтай мэты я пачну з банальнага метадалагічнага досведу, што любая гістарычная з'ява, любая падзея перадаецца праз словы, тэрміны. Такім чынам, у першай частцы свайго даклада я паспрабую асобна даследаваць і тэматызаваць, з аднаго боку, узровень **слоў**, а з другога боку – узровень **рэальных падзей** і структур.

Спачатку я хацеў бы згадаць добра вядомы ў нашай частцы Еўропы, але пераважна ігнараваны ў "вялікім свеце" англасаксонскай навукі гістарычны кантэкст, які надаў нацыі – зразуметай і як тэрмін, і як рэальнасць – яе еўрапейскую форму.

Найперш да тэрміна. Агульнавядома, што ўжо ў Сярэднявеччы слова "Nationes" выкарыстоўвалася як групавое абазначэнне, што часам вядзе да памылковай ілюзіі, нібы гаворка ідзе пра пачаткі сучаснай нацыі. Гэтая памылка можа пераканаўча пацвердзіць скажонае дзеянне перанесенага тэрміна "нацыяналізм". Дзіўны сілагізм гучыць наступным чынам: людзі разумелі сябе як "natio", г. зн.

былі нацыяналістамі, а дзе ёсць нацыяналізм, там прадукуецца і нацыя. Як усё проста!

Але пакінем гэтыя тупікі навукі ўбаку. Яшчэ на пачатку Новага часу слова “natio” абазначала эліту, якая належала да адной дзяржавы або аднаго рэгіёна, і ў гэтым сэнсе цягам стагоддзяў ужывалася ў Венгрыі і Польшчы – у выразах *Natio Hungarica* і *Natio Polonica*, то бок было азначэннем палітычна прывілеяванага класа – арыстакратыі кожнага з каралеўстваў.

**Гуманізм** і развіццё новых “варварскіх” літаратурных моў прывялі ў выніку да таго, што лацінскае слова “natio” перайшло ў гэтыя новыя мовы (невыпадкова называныя сёння “нацыянальнымі мовамі”): the nation, la nation, die Nation; часам, што праўда, у даслоўным перакладзе – národ у чэшскай мове. Гэта, верагодна, з самага пачатку адбывалася з рознымі канатацыямі – у адпаведнасці з палітычнай сітуацыяй у канкрэтным макрарэгіёне Еўропы. Яшчэ з Новага часу, напрыклад, у англійскай мове тэрмін “nation” моцна звязаны з дзяржаўнасцю, у той час як у цэнтральнаеўрапейскай прасторы (у нямецкай і чэшскай мовах) гэты тэрмін перадусім звязаны з мовай і культурай.

Прыкладна ў той жа час, што і гуманізм, **Рэфармацыя** (і рэформа Каталіцкай царквы ў яе выніку) ды канфесіяналізацыя паспрыялі падтрыманню нацыянальных моў, распаўсюду “друкаванай мовы” (“printed language”) і навучанню грамаце.

**Асветнікі** публікавалі сур’ёзныя рэфлексіі пра “нацыянальны гонар” і вялі дыскусіі пра нацыянальныя дабрачыннасці ды спецыфічныя ўласцівасці асобных этнічных груп, якія яны называлі нацыямі. Узнік і інтарэс у вызначэнні “нацыянальных ворагаў”. Ранейшае пазітыўнае ацэньванне тэрміна “нацыя” дасягнула найвышэйшай ступені ў выглядзе **рэгіянальнага асветніцкага патрыятызму** адукаванай эліты. Перадусім гэта было пастулатам любові да бацькаўшчыны і яе жыхароў, што выражалася ў канкрэтных дзеяннях. Са свету ідэй асветніцкага патрыятызму паходзіць этычны імператыў да адукаваных людзей працаваць на карысць уласнага народа, уласнай радзімы (“Patria”).

Усё гэта адбылося за дзясяткі гадоў **да Вялікай французскай рэвалюцыі**, з якой – згодна з падручнікамі – пачалося ўзвышэнне нацыі, каб пасля распаўсюдзіцца па ўсёй Еўропе. Значэнне Вялікай французскай рэвалюцыі палягае ў іншым. У ёй тэрмін “нацыя” атрымаў новы сацыяльны змест у выглядзе вымярэння грамадзянскай супольнасці: нацыю мусілі ўтвараць усе раўнапраўныя і салідарныя **грамадзяне**. Адпаведна, усе мусілі быць носьбітамі прагрэсу і абаронцамі свабоды. І тут можна канстатаваць глыбокія гістарычныя карані: яны палягаюць у ідэі і рэальнасці грамадзянскай роўнасці гараджан, якая расла з эпохі Сярэднявечча. Нават больш за тое: нацыя тут персаніфікуецца, робіцца калектыўнай фігурай, да якой асобны чалавек звяртаецца ў пошуках абароненасці і бяспекі – прыкладна такую ролю выконвала для яго продкаў царква.

Цяпер – да тэрміналогіі. Я спадзяюся, што не памыляюся, калі кажу, што не толькі сам тэрмін, але і яго канцэптуалізацыя была сапраўды еўрапейскай, г. зн. што пазітыўнае ацэньванне нацыі ў гэтай комплекснасці можна знайсці толькі на еўрапейскай глебе. І больш за тое: усё гэта засталося часткай еўрапейскай гістарычнай свядомасці.

Цяпер пяройдзем ад тэрміналогіі да сацыяльнай **рэальнасці**. Несумненна, я не падзяляю ўяўлення [Ганса] Кона, што нацыя як вялікая сацыяльная група паўстала з ідэі нацыі (то бок з *“нацыяналізму”*). Але як мне інтэрпрэтаваць унікальнасць працэсу фармавання еўрапейскіх нацый, каб пазбегнуць падазрэння ў тэлеалагічнай аргументацыі?

Дзеля гэтага я дазволю сабе цяпер кароткую **інтэлектуальную гульню**. Давайце сыходзіць з таго, што ў XVIII ст. слова (і ідэі) “нацыя” яшчэ не было, што людзі яго не ведалі або не ўжывалі (і тым больш слова “нацыяналізм”). З гэтай перадумовай – без ужывання тэрміна “нацыя” – я акрэслю мадэль добра вядомых нам сацыяльных і культурных трансфармацый, якія тады суправаджалі мадэрнізацыю.

Уявім сабе наступнае: на пачатку Новага часу ва ўсіх еўрапейскіх рэгіёнах на захадзе і ўсходзе – прыкладна

паміж сярэдзінай XVIII і канцом XIX ст. – можна вызначыць пэўны адрэзак часу, пэўны перыяд, калі распаўся свет познефеадальнага Старога рэжыму (фр. *Ancien Régime*). Няважна, паступова ці раптоўна, зверху ці знізу:

– старыя застылыя, абапёртыя на прывілеі сувязі і залежнасці былі аспрэчаныя або нават скасаваныя;

– стары свет патрыманіяльнай або сеньёральнай сістэмы страчваў усёахопнасць і рабіўся ўсё менш абмежавальным, саслоўныя бар’еры падаваліся больш пранікальнымі;

– традыцыйная вытворчасць у гарадскіх цэхах пацярпела ад мануфактурнай і прамысловай вытворчасці ды была вымушаная шукаць новыя шляхі, прымаць новыя рашэнні;

– рэлігійная легітымацыя прывілеяваных аўтарытэтаў, якія паходзілі з феадальнага часу, усё часцей ставілася пад пытанне, адпаведна ставіліся пад сумнеў таксама традыцыйныя сістэмы каштоўнасцяў;

– усё больш людзей пакідалі патрыярхальна і патрыманіяльна абмежаваны свет, у якім жылі пакаленні іх продкаў: з аднаго боку, у пошуках працы, з другога – дзеля атрымання лепшай адукацыі;

– паступова замацавалася ідэя роўнасці ўсіх людзей перад законам і дзяржаўнымі ўстановамі.

Усе гэтыя працэсы (і можна назваць яшчэ некалькі іншых) працякалі ў розных рэгіёнах Еўропы ў розны час, то бок – **асінхронна**.

Што праўда, у выніку раней ці пазней паўсюль узнікалі **крызіс ідэнтычнасці,** няўпэўненасць і адпаведна – спачатку сярод адукаваных людзей – пошукі **новых** гарантый і прыналежнасцяў. Яны шукалі перадусім новасфармуляваныя гуманістычныя або грамадзянскія сістэмы каштоўнасцяў, якія надалей у канчатковым выніку і апасродкавана чэрпалі з хрысціянскай спадчыны.

Пасля таго як прыналежнасць да традыцыйнага вясковага, патрыманіяльнага або гарадскога грамадства (ці ідэнтыфікацыя з ім) зрабілася недастаткова моцнай або нават недасягальнай (напрыклад, таму, што ставілася пад сумнеў рэлігійная легітымнасць прывілеяў

і манархіі), – узнікла пытанне, да чаго мусіць належаць асобны чалавек у гэтым "адчараваным свеце"?

Калі людзі больш не лічыліся няроўнымі ад нараджэння, то раней ці пазней рабілася відавочна, што яны не падданыя ў саслоўна і іерархічна падзеленым свеце, а раўнапраўныя члены грамадства, дыферэнцаванага паводле падзелу працы.

З ростам сацыяльнай мабільнасці і разгортваннем адміністрацыі ды бюракратызацыі вырасла таксама інтэнсіўнасць **сацыяльнай камунікацыі**, якая выходзіла далёка за межы традыцыйнай вясковай або гарадской супольнасці. Пры гэтым кожны на сваім штодзённым досведзе мог канстатаваць, што прасцей камунікаваць з тымі сучаснікамі, якія гавораць на зразумелым яму дыялекце, г. зн., у адпаведнасці з сацыяльным статусам паслугоўваліся яго народнай або літаратурнай мовай.

Гэты досвед быў тым больш павучальны, што ўсё больш людзей дзякуючы (хуткаму або павольнаму) **распаўсюду школ** вучыліся думаць абстрактнымі катэгорыямі. Таму яны былі ў стане ўявіць вялікую колькасць людзей (у сэнсе *imagined communities* / анг. "уяўленых супольнасцяў" Б. Андэрсана), якія мелі пэўныя агульныя рысы, напрыклад тое, што яны падпарадкоўваліся аднаму ўладару, насялялі адну гістарычную тэрыторыю і таму мелі агульнае мінулае, або тое, што яны гаварылі на зразумелай адно аднаму мове (або дыялекце).

Так паўстала або, магчыма, актывізавалася – спачатку ў галовах адукаванай меншасці – усведамленне, што адносіны і сувязі старога грамадства пастунова распадаюцца, а прыналежнасць асобы робіцца няяснай, цьмянай. Гэты распад падаваўся ім пераўтварэннем або раздзяленнем застылых манархічных парадкаў на грамадства, арганізаванае паводле падзелу працы, члены якога маюць роўныя правы, лепш разумеюць адно аднаго, маюць агульны лёс, агульныя інтарэсы і могуць таксама дзеяць салідарна адно з адным.

Гэтае бачанне абапіраецца на ўжо існы асветніцкі канцэпт **бацькаўшчыны**, якой мусіць служыць кожны адукаваны чалавек. Гэтаму новаму аб'екту пазітыўнай

ідэнтыфікацыі або, хутчэй, нейтральнай прыналежнасці патрэбна была назва – не канкрэтная, а абстрактная. На ўзроўні канкрэтыкі гучала пытанне: як называецца гэтая бацькаўшчына, гэтая "Patria", з якой я ідэнтыфікую сябе? Ёй магла быць назва існай манархіі – дзяржавы. Так было ў Англіі, Швецыі, Францыі і Нідэрландах. Але гэта толькі малая частка Еўропы. Што адбывалася ў іншых частках? І перадусім: дзе трэба было шукаць абстрактны тэрмін, абстрактнае азначэнне гэтай новай супольнасці?

Азначэнне "Patria" пасуе, магчыма, для гістарычнага рэгіёна (свецкага або царкоўнага паходжання), г. зн. да пpастоpавай адзінкі. А мы ведаем, што ў шматлікіх выпадках рэгіянальная ідэнтычнасць насамрэч мела моцную і нават часам дамінантную пазіцыю. Але гэтая дамінантная пазіцыя рэгіянальнай "Patria" ніколі не захоўвалася доўгі час: яна заўсёды падпарадкоўвалася дзяржаве або іншай **вышэйшай інстанцыі**, акрэсленай не толькі пpастоpава.

І тут інтэлектуальная гульня мусіць скончыцца: мы ж ведаем, што ў той час ва ўсіх літаратурных мовах ужо існавала такая вышэйшая інстанцыя (як абстракцыя з **пазітыўнай** канатацыяй) – **нацыя**. У некаторых мовах існаваў і альтэрнатыўны тэрмін – напрыклад, "das Volk" ("народ") у нямецкай мове, што праўда, і ён разумеўся як пазітыўны тэрмін. Патрыятычна настроеныя адукаваныя людзі з поўнай упэўненасцю лічылі тэрмін "нацыянальны" найлепш прыдатным для акрэслівання аб'екта новай ідэнтыфікацыі пры пошуках выйсця з крызісу ідэнтычнасці. Гэта мела месца ва ўсіх дзяржаўных нацыях Новага часу. Аднак што адбывалася ў сітуацыі недамінантных этнічных груп, з якіх паходзіць большасць сучасных нацый у Еўропе?

Давайце сыходзіць з таго, што ў Еўропе **не было жыццяздольнай альтэрнатывы** новым формам сацыяльнай арганізацыі і культурнай перабудове грамадства – і няважна, назавём мы гэтыя змены капіталістычнымі, буржуазнымі, прамысловымі або мадэрнымі. Сёння мы не ведаем іншага варыянта структурызацыі сучаснага грамадства, чым тая, якая – раней ці пазней – разумела сябе

як нацыю ды якую мы і сёння ведаем у Еўропе пад азначэннем “**нацыянальная**”.

Аднак нацыя не была загадзя падрыхтаванай праграмай, праектам, паводле якога належала рэарганізаваць грамадства. Вялікая сацыяльная група не рэарганізоўвалася згодна з “ідэяй нацыяналізму”. Наадварот, гэты тэрмін, які існаваў некалькі стагоддзяў і акрэсліваў групавую ідэнтычнасць, стаў найлепшым азначэннем той новай сацыякультурнай рэальнасці, якая – незалежна ад тэрміналогіі – сфармавалася пад час гэтай сацыяльнай перабудовы і “сустрэлася” пры гэтым з тэрмінам “нацыя”, які добра ёй пасаваў.

Чаму мне спатрэбілася так шмат часу, каб давесці, што я лічу гэтую сустрэчу гістарычнай тэрміналогіі і грамадскай буржуазнай перабудовы ўнікальна і спецыфічна еўрапейскай з’явай?

Я ўжо згадваў інфляцыю “нацыяналізму” ў сённяшняй навуцы – і не толькі ў сацыяльных навуках, але і ў гістарыяграфіі (з разбуральным эфектам).

Перадумовы гэтай інфляцыі палягаюць у глабальным распаўсюдзе еўрапейскай тэрміналогіі. Па ўсім свеце ў апошнія 60–80 гадоў паўсталі *nations* (і я свядома аддаю перавагу англамоўнай форме), якія аўтаматычна дэкларуюцца аб’ектамі аднаго класа з еўрапейскімі “нацыямі”. Аднак яны сфармаваныя зусім інакш: яны пераважна паўсталі ў выніку барацьбы за ўладу і вызваленчай барацьбы (рознага кшталту), больш ці менш адвольна і выпадкова, зусім па-іншаму, чым у Еўропе, і адпаведна таксама з цалкам іншымі прыкметамі. У некаторых іншых краінах нацыя як мадэль была мэтанакіравана імпартаваная з Еўропы (напрыклад, Сунь Ятсэнам – у Кітай) у якасці інструмента наўмыснай мадэрнізацыі зверху. У абодвух выпадках яны і насамрэч ёсць больш ці менш прадуктамі “нацыяналізму”, а не спадчынай мясцовай гісторыі, у якой не было Рэфармацыі, асветніцкага патрыятызму, ідэі гуманістычнага абавязку інтэлектуалаў і г. д.

Але калі сёння і еўрапейскія нацыі, і гэтыя новастворанsocыя *nations* па ўсім свеце размяшчаюцца пад недыферэнцаваным паняццем “нацыяналізму”, тады яны нібыта

належаць да аднаго гатунку сацыяльных фармаванняў. Бо чым праводзіць складаныя і дыферэнцаваныя даследаванні працэсаў утварэння нацыі, нашмат прасцей у грубым абагульненні абвясціць “нацыяналізм” глабальнай з’явай і вырашальным фактарам у мадэлі нацыябудавання – у тым ліку для Еўропы.

Утрыравана кажучы, нацыя стагоддзе таму зрабілася еўрапейскім экспартным таварам і цягам апошняга дзесяцігоддзя вяртаецца як імпарт у выглядзе *nation*. Старыя еўрапейскія карані забытыя, як і гістарычныя асновы нацыянальнай супольнасці. Тым самым легітымуецца далейшае скажэнне: фармаванне еўрапейскіх нацый або нацыянальных рухаў, г. зн. іх гісторыя, агістарычна інтэрпрэтуецца праз сучасныя каардынаты ў кантэксце афрыканскага, азіяцкага і паўднёваамерыканскага “нацыяналізму”. Еўрапейскія ідэі крытычна ацэньваюцца паводле крытэрыяў (магчыма, постмадэрнісцкай) глабальнай сучаснасці.

Гэты працэс негістарычнага скажэння і палітызацыі неяк абмінуў **рэгіянальныя** даследаванні. Выпадкова? Наадварот, паказальна, бо мне здаецца, што як тэрмін, так і рэальнасць “**рэгіёна**” былі не прыдатныя да экспарту. Відавочна, магчымасць “быць рэгіёнам” не дае ні бліскучага прэстыжу, ні нагоды для прэтэнзій на ўладу. Гэтак, рэгіянальныя даследаванні ў сваім ядры – у адрозненне ад так званых даследаванняў нацыяналізму – засталіся мала закранутымі палітызацыяй і глабалізацыяй. Што праўда, гэта назіралася толькі да апошняга часу, калі ў Еўразвязе, на жаль, зрабілася палітычна карэктным супрацьпастаўляць нацыям рэгіёны як элементы еўрапейскай інтэграцыі. Але гэта, тым не менш, толькі пытанне акцэнтаў, а не скажэння.

Тым самым я прыходжу да раней адкрытага або недастаткова даследаванага пытання пра гісторыю фармавання нацый: чаму, пры якіх умовах некаторыя этнічныя супольнасці ператварыліся ў самастойныя **нацыі**, у той час як іншыя прадоўжылі існаванне толькі як **рэгіянальныя супольнасці** ў межах іншых нацый?

**Рэгіён** як аб’ект даследавання дзясяткі гадоў заставаўся ў цені нацыі. Цяпер ён выходзіць на першы план.

Дзякуючы вышэй названым палітычным задачам гэта мае пад сабой падставы. Хоць нацыя разумеецца як базавая фармацыя эпохі мадэрну, нацыянальная ідэнтычнасць была не адзінай ідэнтычнасцю. Ужо ў рамках працэсу фармавання нацый рэгіянальная (або ў некаторых выпадках гарадская) ідэнтычнасць разглядалася як рэлевантная альтэрнатыва нацыі. Бо ў дамадэрны перыяд існавалі шматлікія рэгіёны, часта звязаныя з выразнымі ідэнтычнасцямі. Большасць і далей працягвалі існаваць, у некаторых, аднак, нацыянальная ідэнтычнасць прымалася як дамінантная – часам як зборны тэрмін для некалькіх рэгіянальных ідэнтычнасцяў. Што вырашала, у якіх рэгіёнах жыхары ператворацца ў прадстаўнікоў нацыі, а ў якіх – не?

Толькі ў некаторых рэгіёнах актывісты з самага пачатку акрэслівалі сваю этнічную супольнасць як нацыю. Гаворка ідзе найперш пра былыя дзяржаўныя адзінкі, напрыклад, Багемію, Венгрыю і Нарвегію. У некаторых іншых рэгіёнах спачатку сфармавалася рэгіянальная ідэнтычнасць, якая пазней ператварылася ў нацыянальную (напрыклад, у выпадку славакаў, фінаў, славенцаў, фламандцаў і каталонцаў). Часам, аднак, спробы ператварыць рэгіянальную ідэнтычнасць у нацыянальную не мелі поспеху, напрыклад, у выпадку Брэтані, Маравіі або Далматыі.

Сёння спрэчкі XIX ст. пра "гістарычныя" і "негістарычныя" нацыі ўжо засталіся ў мінулым; не асабліва складана атрымаць прызнанне як нацыі. Праблемы і канфлікты пачынаюцца толькі там, дзе гаворка ідзе пра ўласную дзяржаўнасць – пра "аддзяленне", пра тое, каб з нацыі зрабіць *nation* – як волю да дзяржавы ў англійскім значэнні. У гэтых сітуацыях слова зноў даецца **гісторыі**: згадваюцца страчаныя правы, старыя раны, ваенныя перамогі або паразы – і гэта працуе... – як акурат можна назіраць на прыкладзе Шатландыі і Каталоніі.

Калі мы хочам інтэрпрэтаваць і зразумець фармаванне нацый, то трэба ўлічваць іх гістарычнае вымярэнне, гістарычную свядомасць і г. д. У выпадку рэгіёнаў гэта не ёсць перадумовай. Увогуле, у пачатках сучаснай нацыі

нацыянальная гісторыя паўставала часам як мадыфікацыя рэгіянальнай гісторыі – гісторыі аўтаномных гістарычных адзінак.

Хоць у каталонскім і шатландскім выпадках важны акурат гістарычны аргумент, сёння адбываецца антыгістарычны паварот. Каб атрымаць прызнанне ў якасці нацыі, ужо не абавязкова патрэбная гісторыя, як у XIX ст. Ва ўмовах такога выразнага аслаблення гістарычнай свядомасці сёння нацыя можа існаваць і **без гістарычнага вымярэння** – тут Еўропа ідзе паводле мадэлі "nations" у глабальным маштабе. У выніку рэдка ставіцца пытанне пра развіццё гістарычнай свядомасці. А гісторыя фармавання ўласнай нацыі падаецца ўсё менш цікавай.

Тым самым я пераходжу да заключнай часткі сваіх назіранняў. Што значыць сёння нацыя, нацыянальная ідэнтычнасць у Еўропе, якую ролю выконвае нацыянальнае для ўсяго кантынента, на якім калісьці задавала тон?

У макрагістарычнай агульнаеўрапейскай перспектыве кідаецца ў вочы рэлевантнае адрозненне ад XIX стагоддзя. Сёння **нацыянальная дзяржава** зрабілася еўрапейскім стандартам. Мы знаходзім мала цалкам сфармаваных нацый з XIX ст. без сваёй дзяржавы – і амаль выключна на захадзе Еўропы.

Тым не менш, трэба згадаць, што большасць сёняшніх еўрапейскіх нацый фармаваліся без дзяржавы, то бок далёка не ўсе прадстаўнікі іх палітычных эліт марылі ў XIX ст. пра ўласную дзяржаву. Аднак гэта не адзінае адрозненне, якое можна канстатаваць у дачыненні да сацыяльнай групы "нацыя" з XIX ст.

Калі мы параўнаем гэтую супольнасць, што паўстала як сацыяльная група ў фармавальны перыяд XIX ст. і прызнаецца ў якасці "нацыі", – калі мы параўнаем яе з тым, якая сацыяльная рэальнасць сёння ў глабальным маштабе акрэсліваецца тэрмінам *nation*, то знойдзем настолькі значныя адрозненні, што радыкальны скептык мог бы заявіць, што старая "класічная" нацыя (як супольнасць) існуе выключна ў выглядзе нацыянальных інстытуцый, якія засталіся, і як актуалізаваная памяць. Гэты тэзіс наўрад ці можна абгрунтаваць у такой радыкальнай

фармулёўцы, але я ўсё ж бачу ў ім рацыянальнае зерне. Натуральна, у крызісныя перыяды нацыянальнае для часткі насельніцтва робіцца апошнім прытулкам; для іншай часткі, аднак, – улюбёным інструментам палітычнай прапаганды.

Нацыя сёння ўжо не разглядаецца як "каштоўнасць у сабе", замест гэтага падкрэсліваецца (арганізаваная ў межах нацыянальнай дзяржавы) грамадзянская супольнасць. Пасля таго як большасць нацый атрымала ўласную дзяржаву, пераход ад спецыфічнага, эмацыйна нагружанага тэрміна "нацыя" да халоднай, рацыянальнай адміністрацыйнай або сацыяпалітычнай рэальнасці нацыянальнай дзяржавы мае, імаверна, дэмабілізацыйны эфект для нацыі. Прадукцыйнай даследчай задачай было б высвятленне, ці застаецца эмацыйная прыцягальнасць грамадзянскай супольнасці ў наш час параўнальна такой жа моцнай, як прыцягальнасць нацыянальнай супольнасці ў XIX ст.

Інстытуцыяналізаваная рэальнасць нацыі перажыла на сваёй еўрапейскай радзіме паказальны паварот. Нацыянальнае існаванне ў выніку ўсеагульнага распаўсюду нацыянальных дзяржаў зрабілася **дзяржаўным**, і ў выніку нацыянальнае зрабілася прадметам палітычнай **барацьбы за ўладу** ды маніпулюецца і кантралюецца ў межах гэтай барацьбы. Каротка кажучы, мы часта маем уражанне, што нацыянальная супольнасць, дзеля якой людзі былі гатовыя працаваць і нават, магчыма, ахвяраваць сабой і якая лічылася centrum securitatis (лац. 'цэнтр бяспекі'), – што гэтая супольнасць паступова перастае выконваць свае пачатковыя функцыі.

1. Гуманістычны імператыў, што на службе нацыі трэба служыць чалавецтву, для сённяшняга неаліберальнага індывідуалізму даволі чужы.

2. Тэрмінам "нацыянальныя інтарэсы" злоўжываюць – найперш як палітычным слоганам для мэтаў палітычнай агітацыі; аднак даказальным і прымальным лічыцца збольшага толькі інтарэс асобнага грамадзяніна.

3. Калі людзі сур'ёзна гавораць пра нацыянальныя інтарэсы, то гэта датычыць дзяржаўнай канкурэнтаздольнасці ў гандлі і прамысловасці, а класічны прагрэсіўны

аптымізм нацыянальна арганізаванай супольнасці сёння адкідаецца як старамодны або прынамсі ставіцца пад пытанне.

4. Ад нацыянальных кодаў, якія абапіраліся на агульнасць гістарычных традыцый, мала што захавалася: гісторыя адыгрывае толькі маргінальную ролю, а гістарычная свядомасць збольшага абмяжоўваецца Найноўшым часам і служыць інструментам палітычнай барацьбы.

5. Тыповая для "класічнага" часу нацый агульнасць высокай культуры і народнай культуры, на якую абапіраліся нацыянальныя культурныя коды, адышла ў мінулае: павялічваецца прорва паміж высокай культурай малой праслойкі інтэлектуальнай эліты і паміж моцна глабалізаванай (г. зн. не нацыянальнай) культурай, якая перадаецца праз масмедыя. Гэтая медыйна глабалізаваная (і амерыканізаваная) культура паступова выцясняе або маргіналізуе нацыянальныя культуры.

6. У звязку з гэтым нацыянальная мова паступова таксама губляе сваю пазіцыю ў найвышэйшых сферах нацыянальных каштоўнасцяў і сімвалаў.

7. Толькі часткова гэты дэфіцыт кампенсуецца новай, не вядомай у XIX ст. сілай, якая фармуе ідэнтычнасць: **спортам** як спектаклем для масаў.

Акурат апошні пункт сімптаматычны: нацыянальная ідэнтычнасць абапіраецца на спектакль для масаў, якія чакаюць ад прадстаўнікоў нацыі ўнёску ў нацыянальны поспех, не адчуваючы абавязку самім нешта рабіць для сваіх нацый.

Той факт, што нацыянальнае існаванне для грамадзян амаль усіх еўрапейскіх нацыянальных дзяржаў зрабілася натуральным, і заняпад нацыянальнага, які з гэтага вынікае, не выключае перажыткаў або трансфармаваных маніфестацый нацыянальнай ідэнтычнасці. Прычым як у пазітыўным, так і ў негатыўным сэнсе.

Пад пазітыўнымі перажыткамі я разумею найперш дэманстрацыю грамадска значнай **нацыянальнай салідарнасці** ў сітуацыі крызісу або катастрофы. Самым вядомым прыкладам можна назваць аб'яднанне Нямеччыны, аднак мы назіраем моцныя праявы салідарнасці,

калі адбываюцца такія прыродныя катастрофы, як паводкі або землятрусы.

Пад **негатыўнымі** перажыткамі збольшага маецца на ўвазе раптоўны выбух нацыяналізму ў некаторых посткамуністычных краінах. Гаворка ідзе пра кароткае аднаўленне нацыянальных рухаў, што існавалі ва ўмовах, аналагічных тым, якія я акрэсліў як "класічныя" перадумовы крызісу ідэнтычнасці. Аднак цяпер гэта здарылася ва ўмовах высокаразвітай сацыяльнай камунікацыі і з больш моцным акцэнтам на палітычнай барацьбе.

З іншага боку, я не лічу, што да гэтай катэгорыі належаць (зноў заўважныя сёння) дэманстрацыі ксенафобіі. Гаворка ідзе хутчэй пра перажытак данацыянальных антрапалагічных канстант, які карыстаецца нацыяналістычнай тэрміналогіяй.

Бяздумнае выкарыстанне тэрміна "нацыяналізм" у навуцы – і, магчыма, у палітыцы – адкрыла дзверы для цэлай серыі непаразуменняў і памылковых тлумачэнняў, якія паўсталі з наіўнага атаясамлівання цалкам **розных культурна ўкаранёных** сацыяльных фармаванняў толькі таму, што яны маюць аднолькавыя назвы. Аўтахтонны еўрапейскі тэрмін "нацыя" (разам з нацыяналізмам) быў імпартаваны ў нееўрапейскія краіны як самавідавочная рэальнасць толькі таму, што тыя называлі сябе нацыямі. Збольшага гэта суправаджалася самавольствам і медыйнымі маніпуляцыямі, а не культурай, агульнасцю і салідарнасцю.

І тут на прыкладах дэманструецца ўжо згаданая метадалагічная небяспека, якая ўзнікае ў выніку атаясамлівання **паняцця** і **рэальнасці**. Праз гэтае атаясамліванне тое самае слова ў розных сацыякультурных умовах азначае таксама зусім розныя сегменты грамадства або тыпы палітычна арганізаваных супольнасцяў, якія маюць таксама розны гістарычны досвед. Тое, што ў Еўропе называлася нацыяй яшчэ на пачатку XX ст., існуе ў сённяшняй Еўропе хутчэй **як фон і памяць**, у той час як тое, што я тут называю *nation*, ёсць зноў жа такі сацыяльнай і культурнай супольнасцю, якая **цалкам адрозніваецца** ад таго, чым нацыя была (і ў перажытках яшчэ застаецца)

ў Еўропе – і ў гісторыі свайго паўставання, і ў сённяшнім габітусе. Пры ўсім гэтым слова "нацыяналізм" цыркулюе як віньетка, якую можна наклеіць на любыя аб'екты – пераважна з падсвядомым асуджэннем.

Тым не менш, гэтае напружанне паміж імпартаванай з Еўропы тэрміналогіяй і афрыканскай або азіяцкай сацыяльнай рэальнасцю адносіцца адначасова да захапляльных даследчых задач на будучыню.

* * *

Навошта, уласна кажучы, сённяшняй Еўропе патрэбная нацыя? Сапраўды, для Еўропы нацыя магла б быць карыснай як эмацыйны інструмент пазітыўнай ідэнтыфікацыі, як гарант прынцыпу адказнасці за надындывідуальную супольнасць, як свядомая салідарнасць з нацыянальным калектывам, як захаванне нацыянальнай культуры. Натхненнем можа служыць перакананне, што праз канструктыўную працу можна служыць адначасова і нацыі, і чалавецтву. Такі канцэпт нацыі ў многіх краінах больш не існуе або гібее як успамін, як (залічаная да старамодных) памятка, як *lieux de mémoire* (фр. 'месца памяці'). Тое, што сёння жыве як нацыя, ёсць мноствам сцэн палітычных выступленняў і барацьбы за ўладу, у якой гаворка ідзе пра індывідуальныя або партыйныя інтарэсы. Спецыфічна нацыянальнае ўсё больш выцясняецца на задні план у выніку дзеяння наднацыянальных сіл – ці то ў гандлі, ці то ў культуры. Я гатовы сцвярджаць, што **такая** нацыя для будучыні Еўропы не асабліва карысная. І яна мае мала агульнага з гістарычнай еўрапейскай нацыяй.

Аднак назад дарогі няма, класічныя нацыянальныя дабрачыннасці нельга ажывіць зверху, хіба што толькі як пакутлівы фарс. Адзінае, што дазваляе спадзявацца, – гэта іх частковая кансервацыя на найвышэйшым узроўні – як кампанента так званых еўрапейскіх каштоўнасцяў. Але ж гэта ўсяго толькі мара.

*Пераклад Алены Талапілы*

# Die Nation als ein genuin europäisches Phänomen

**Miroslav Hroch**

I diesem Beitrag sind zwei Thesen vorgelegt, die meiner Meinung nach in der bisherigen Forschung nicht formuliert wurden:

1. Die europäischen Nationen sind nicht als ein Produkt des „Nationalismus“ entstanden, sondern als ein Resultat der tiefen Identitätskrise , die asynchron in Europa als Begleiterscheinung der Modernisierung die alten Loyalitäten und Wertsysteme in Frage gestellt hat. Die neue protobürgerliche Gesellschaft, genauer gesagt, ihre Protagonisten strukturierte sich dann als „Nation“, wobei der Terminus Nation schon seit dem Ansatz der frühen Neuzeit existierte und positiv konnotiert war.

2. Die Verwaltung- und Machtseinheiten, die in der Welt der Gegenwart in englischer Sprache als „nations“ genannt werden, entstanden vielleicht als ein Produkt des „nationalism“ und gehören nicht zu derselben Kategorie wie die gleichnamigen Gemeinschaften in Europa. Der unklare und mehrdeutige Terminus „nationalism“ wird dann irrtümlich als ein Instrument der kausalen Analyse der Formierungsprozesse europäischer Nationen benutzt. Das führt zur Verzerrung des europäischen Geschichtsbildes und zu unproduktiven, irreführenden Diskussionen über den Charakter und Sinn dieses „nationalism“.

Es ist gerade in der Erforschung des Nationalen in Europa dringend notwendig die Termini nach ihrer Herkunft und Anwendbarkeit zu überprüfen.

# Куды ідуць тры народы Русі?

## Рышард Радзік

Усходнія славяне на працягу апошніх стагоддзяў выпрацавалі пачуццё прыналежнасці да трыадзінай агульнарускай супольнасці, якая іх яднае і часта завецца нацыянальнай. Пры тым што не толькі ў расіян, але ўжо ў XIX ст. – ва ўкраінцаў, а ўслед за імі, на самым пачатку XX ст., і ў беларусаў, сфармаваўся ўласны сучасны нацыянальны рух. Гэты артыкул прысвечаны характару і сэнсаваму напаўненню ўсіх названых супольнасцяў, а таксама вызначэнню меры прыналежнасці іх непасрэдных удзельнікаў да агульнарускай і нацыянальнай спадчыны. Матэрыял абапіраецца перадусім на даследаванні галаўных сацыялагічных устаноў Расіі, Украіны і Беларусі[1]. На практыцы сам тэрмін *триединый русский народ* ужываецца вельмі рэдка: спарадычна – паміж навукоўцамі, часцей – у колах публіцыстаў і ідэолагаў. Аднак сэнсавае напаўненне гэтага тэрміна ў вялікай ступені прыкладаецца да трох асобных нацыянальных рухаў.

Падставатворчым міфам агульнарускага адзінства з'яўляецца канцэпцыя паходжання рускіх (велікарусаў), украінцаў (маларосаў) і беларусаў з меркаванай этнічнай і адначасова палітычнай супольнасці старажытнай Русі (да наезду татараў у XIII ст.), якую часта называюць "Кіеўская Русь". Генрык

[1] Трэба, аднак, ставіцца да гэтых дадзеных больш крытычна, чым да заходняй статыстыкі, па прычыне меншай адкрытасці такіх супольнасцяў, што павялічвае амплітуду недакладнасцяў. Наступствамі гэтага будуць значныя адхіленні ў адказах на тыя самыя пытанні ў часавым прамежку нават у некалькі месяцаў. Такім чынам, найперш трэба звяртаць увагу на паўтарэнні ў даследаваннях, што назіраюцца працяглы час, вызначаючы тым самым бясспрэчныя тэндэнцыі.

Пашкевіч, глыбокі даследчык крыніц па гісторыі старажытнай Русі, лічыць, што «тэзіс пра існаванне “старажытнарускага, ці ўсходнеславянскага народа”, з якога нібыта выводзяцца пакаленні сучасных рускіх, украінцаў і беларусаў, не вытрымлівае нават элементарных параметраў навуковай крытыкі»[2]. Народы Русі, якая ў першыя стагоддзі існавання пашырала свае тэрыторыі перадусім на угра-фінскія землі, успрымаліся пасля прыняцця праваслаўя і славянізацыі нарманаў[3] як рэлігійнае адзінства, такім чынам, сама назва *Русь* (што мела нармандскае паходжанне і напачатку азначала “нарманаў і іх краіну”[4]) не несла ў сабе сучаснага этнічна-нацыянальнага зместу, і толькі з часам вызначылася ў рэлігійных (царкоўных) межах. “Калі сувязі Масквы з Кіевам – карыстаючыся крыніцамі пісьменства XV і XVI стст. – абапіраліся на старажытныя дзяржаўныя і царкоўныя правілы, то з другой паловы XVII ст. з’яўляецца новы элемент – агульнае паходжанне народаў абедзвюх краін. Менавіта з гэтых часоў можна казаць пра пачаткі стварэння канцэпцыі, што ў пазнейшыя стагоддзі набыла форму адзінства трох рускіх народаў. Дапамог паўстанню гэтага тэзіса і той факт, што насельніцтва Масковіі пад уплывам дзейнасці клірыкаў і княскай адміністрацыі з цягам часу пачало ўспрымацца як славянскае, асабліва калі прыняло, як і іншыя хрысціянізаваныя народы, славянскую мову (літургічную мову царквы)”[5]. Ідэю этнічнага (нацыянальнага) адзінства расіян і ўкраінцаў часцей за ўсё прыпісваюць продкам украінцаў. У 1674 г. Інакенцій Гізель (які меў нямецкае паходжанне і быў да прыняцця праваслаўя лютэранінам), архімандрыт Пячэрскай Лаўры ў Кіеве, заявіў у прыпісаным яму або створаным з яго ініцыятывы гісторыкападобным творы,

[2] H. Paszkiewicz, Powstanie narodu ruskiego, Kraków 1998 (англамоўнае выданне: Londyn 1963), s. 338.

[3] Відавочна, славізацыю нарманаў значна прыспешыла прыняцце праваслаўя і глаголіцы разам з царкоўнаславянскім пісьмом. А вось угра-фінскія народы, што складалі ў дзяржаве Рурыкавічаў (Маскоўскім княстве і Расійскім царстве), як на тое выглядае, большасць жыхароў краіны, паддаваліся славянізацыі стагоддзямі, і гэты працэс дасюль не завершаны.

[4] R. Pipes, Rosja carów, przekł. W. Jeżewski, Warszawa 2006, s. 34.

[5] H. Paszkiewicz, Powstanie…, c. 333.

які спалучаў у сабе некалькі кронік і летапісаў і ў кароткай версіі называўся *Сінопсіс*, што ўся Украіна павінна належаць да царскай дзяржавы, і ўжо ў тытуле сваёй кнігі ўвёў паняцце (тэрмін) "славяна-рускага" народа, аб'ядноўваючы ім украінцаў з жыхарамі Расійскага Царства. Улада маскоўскіх цароў выводзілася – паводле меркавання аўтара – з улады кіеўскіх князёў, таму Украіне належала б вярнуцца пад верхавенства праваслаўнага кіраўніцтва Масковіі. Гэтая кніга мела да канца XVIII ст. больш за дваццаць перавыданняў[6].

## 1. Рускія

Ідэя "трэцяга Рыма", што паўстала пасля заняпаду Канстанцінопаля, надала расійскаму праваслаўю, а ў выніку – і дзяржаве, месіянска-місійны характар. У той час дзяржаўнасць набывала не толькі надэтнічны, але і наднацыянальны характар. Паняцце *Русь* на доўгія стагоддзі займела адназначна рэлігійныя (праваслаўныя) канатацыі, а быць *рускім* азначала таго, хто вызнае праваслаўе[7]. Лацінскі Захад стаў успрымацца як моцная, негатыўная і адносна трывалая супярэчнасць да г. зв. *рускасці*. У эпоху асветніцтва расійскія эліты (паколькі сялянства да найноўшых часоў не выяўляла нацыянальнай свядомасці) спалучылі ідэю народа з дзяржаўнасцю, што тады было ўласціва як Цэнтральнай, так і Заходняй Еўропе. Ідэя кроўнай сувязі з украінцамі і беларусамі, якая перыядычна з'яўлялася (напрыклад, у часы Кацярыны II), мела на ўвазе перш за ўсё рэлігію, у меншай ступені – этнічнасць, хаця існавалі таксама і спасылкі на агульную гісторыю. Да перыяду напалеонаўскіх войнаў,

[6] N. Jakowenko, Historia Ukrainy od czasów najdawniejszych do końca XVIII w., Lublin 2000, с. 286–287.

[7] У сучасных расійскіх рэаліях існуе меркаванне, асабліва на ўзроўні палітычных элітаў краіны, што тэрмін *россиянин* азначае грамадзяніна Расіі, адпаведна, і якута, і калмыка, і чачэнца. Тэрмін жа *русский* мае этнічна-культурнае значэнне або, што апошнім часам сустракаецца радзей, толькі культурнае, і можа ўжывацца ў адносінах да этнічнага (культурнага) *русского* ці ахопліваць усе складнікі "трыадзінага народа": расійцаў, украінцаў і беларусаў (у царскай Расіі тэрміны *русский* і *российский* часта ўзаемазамяшчаліся).

а дакладней – да лістападаўскага паўстання 1830 г., падкрэсліванне нацыянальнага адзінства з двума будучымі прадстаўнікамі “трыадзінага народа” не было ані паслядоўным, ані моцным элементам расійскай палітыкі. Актуалізацыя ж гэтага тэзіса мела менавіта палітычныя прычыны. Увогуле, можна сцвярджаць (безумоўна, з вялікаю доляй умоўнасці), што ў Расійскай імперыі назіралася пэўнае падабенства з лацінскай Еўропай у палітычна-дзяржаўным падыходзе да пытанняў нацыянальнай супольнасці, хаця тут існавала вялікая розніца ў грамадзянскім вымярэнні, але затое ідэя дзяржавы, а таксама народа выразна насычалася рэлігійным (у дадзеным выпадку – праваслаўным) кампанентам.

У той час як сярэднявечная *Respublica Christiana* ўступіла ў новы эпахальны перыяд секулярызацыі і там пачалі фармавацца самастойныя народы-дзяржавы, на ўсходзе еўрапейскага кантынента пераход ад Маскоўскага царства да Расійскай імперыі меў выразна іншы характар. Звяртаючы ўвагу на істотныя элементы гэтага працэсу, Мікола Рабчук адзначае: «*Slavia Orthodoxa*, што папярэднічае сучаснай, была цалкам запоўнена імперскай рыторыкай, а навастворaная імперыя была сінкрэтычна атаясамлена з міфічнай “Руссю”, якая ад таго часу азначала не толькі рэлігійную, але і этнічную, тэрытарыяльную і палітычную супольнасць. Імперыя праз гэта набыла сакральнае значэнне, а *Slavia Orthodoxa* стала дзяржаўным стварэннем. Для імперыі гэта азначала кансервацыю тагачасных і ранейшых структур мыслення і адміністравання; для праваслаўя – фатальную стагнацыю ў архаічных формах цэсарства-папства, якая да сёння вельмі дзіўным чынам спалучае, пад уздзеяннем палітыкі, мегаламанію з агрэсіўным месіянствам пад покрывам канструкту з назвай *“русский мир”*. Замяшчэнне рэлігійна-цывілізацыйнай “рускасці” этнапалітычнай “расійскасцю” прыводзіла да грунтоўных непаразуменняў, што істотна перашкаджала фармаванню найноўшых нацыянальных ідэнтычнасцяў – не толькі ўкраінскай і беларускай, але таксама і рускай»[8].

[8] M. Riabczuk, Wschodniosłowiańska “umma” a problem emancypacji: o słabej tożsamości Ukraińców i Białorusinów”, [у:] Tożsamości zbiorowe Białorusinów, red. R. Radzik, Lublin 2012, s. 363–364.

У Расійскай імперыі – тым больш у даўнейшыя гістарычныя перыяды – доўгі час мэтай палітыкі Пецярбурга (Масквы) з’яўлялася не асіміляцыя (культурная, моўная) розных народаў, не прывядзенне іх да рускасці, а падпарадкаванне палітычным мэтам дзяржавы. Для ўладароў сталіцы імперыі не было істотна, на якой мове размаўляюць з імі падданыя, галоўнае, каб яны былі лаяльныя і бездакорна выконвалі даручэнні цара і ягонай адміністрацыі. Канфлікты, якія звонку ўспрымаліся як культурныя (з этнічнай ці нацыянальнай афарбоўкай), часта былі адно толькі праяваю непадпарадкавання інтарэсам расійскай дзяржавы. У дэспатычнай імперыі рэпрэсіўныя меры (часам вельмі жорсткія) доўгі час прымаліся наогул не да тых народаў, што не паддаваліся асіміляцыі, бо яны падпарадкоўваліся ўладзе Пецярбурга (напрыклад, балты, фіны), а да палякаў, якія падымалі паўстанні, ці народаў перадгор’яў Каўказа. Карацей кажучы, рускія / расіяне навязвалі захопленым землям свой дзяржаўны ўклад, парадак безумоўнага падпарадкавання, саму ж дзяржаўнасць улады ўяўлялі ў неэтнічных катэгорыях (але гэта не азначала, што перавага не аддавалася перш за ўсё сваім людзям – праваслаўным *русским*). На ўсходзе панавала пачуццё цывілізацыйнага месіянства.

Палітыка ў катэгорыях універсальнай дзяржавы набыла больш выразныя рысы ў тры першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Істотным дасягненнем у працэсе эвалюцыі паняцця “народ” у расійскім грамадстве стала г. зв. дактрына “афіцыйнай народнасці”, якая ўключала трыадзіную формулу “праваслаўе, самадзяржаўе, народнасць”, сфармуляваную ў 1832 г. віцэ-міністрам (праз год – ужо міністрам) адукацыі Сяргеем Уваравым. Гэтая формула стала безумоўным імператывам афіцыйнай палітыкі ад часоў улады Мікалая I ажно да распаду царскай імперыі. Па меры ўзрастання ў дзяржаве нацыянальных канфліктаў расіяне распаўсюдзілі паняцце *инородцы*. Гэтае азначэнне адасабляла ўсходніх славян – рускіх, маларосаў (украінцаў) і беларусаў – ад іншых этнічных груп і народаў імперыі (напрыклад, палякаў, немцаў, літоўцаў).

“У канцы XIX ст., – паводле сцвярджэння Войцэха Заянчкоўскага, – універсалізм расійскай манархіі адышоў

у мінулае, Расія ператварылася ў нацыянальную манархію, якая настойліва імкнулася да ўнутранага прывядзення свайго насельніцтва да адзінага стандарту…”[9]. Распаўсюджаннем ідэі “афіцыйнай нацыянальнай свядомасці”, а разам з ёй і паняцця “іншародцаў”, расіяне (*русские*), з аднаго боку, імкнуліся ўзмацніцца колькасна, прызнаўшы *русскими* ўсіх усходніх славян, паступова будуючы такім чынам ідэю “трыадзінага рускага народа” (*триединого русского народа*)[10], з другога боку, доўгатэрміновай мэтай стала па сутнасці не ўжываная да пачатку XIX ст. палітыка нацыянальнай (культурнай, моўнай і, у нейкай ступені, рэлігійнай) асіміляцыі інародцаў да належнай расійскасці[11]. Расійскі нацыяналізм, які ўяўляе з сябе этнанацыяналізм, злучаны з імперскім менталітэтам, у апошнія дзесяцігоддзі існавання расійскай дзяржаўнасці набыў выключна нецярпімыя, агрэсіўныя формы, пазбаўленыя нават этыкі і існасці хрысціянства, хаця ў якасці аднаго з яго праваднікоў часта былі праваслаўныя духоўныя асобы. Праўда, варта адзначыць, што гэты нацыяналізм так і не здолеў ахапіць як шырокага кола расійскага грамадства, так і ягоных элітаў.

На беларуска-ўкраінскіх землях Расійскай імперыі пасля ліквідацыі уніі ў 1839 г. адбыўся падзел на праваслаўных (якія складалі значную большасць), што адносілі сябе да “рускіх”, “рускай веры”, і каталікоў, якія лічылі сябе

[9] W. Zajączkowski, Rosja i narody…, s. 136.

[10] Цяпер выкарыстоўваюцца і іншыя вызначэнні, у тым ліку – *триединый славянский православный народ, триединый восточнославянский православный народ, триединый славянский православный великий народ*.

[11] А. Вяжбіцкі піша: «У XIX ст., калі выпрацоўвалася разуменне, хто такія расіяне, большасць прыхільнікаў займела канцэпцыя агульнарускага народа (общерусской нации), што ахоплівала рускіх (вялікарусаў), беларусаў і ўкраінцаў (маларосаў), абшар аседласці якіх прызнаваўся “карэнна рускі”. Імперскія ўлады Расіі сыходзілі з таго, што гэты абшар складаюць “исконно русские земли” не таму, што яе насялялі народы, блізкародныя да расійскага, а таму, што раней гэтыя землі былі пад панаваннем Рурыкавічаў, нашчадкамі якіх стала дынастыя Раманавых». Гл.: A. Wierzbicki, Wschodniosłowiański naród cywilizacyjny w koncepcji Rosyjskiej Cerkwi Prawosławnej, “Rocznik Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej” 2013, z. 2, s. 33–34.

“палякамі” або “польскай веры”. Праваслаўныя сяляне беларускай ці ўкраінскай супольнасцяў (а сялянства ў абодвух выпадках складала больш за 90% іх прадстаўнікоў), для якіх найважнейшым быў класавы падзел, а ў культурным вымярэнні – падзел веравызнаўчы, не мелі падставы варожа ставіцца да праваслаўных уладаў, якія спрыялі іх канфрантацыі з польскімі (каталіцкімі) памешчыкамі. Яны імкнуліся да расійскай праваслаўнай культуры, чаму спрыяла шчыльная сувязь з праваслаўнай царквой. Гэтыя сяляне, у большасці непісьменныя, і ведаць не ведалі пра расійскую ідэю агульнарускага народа (*общерусской нации, общерусского народа*)[12], але знаходзіліся ў межах яе рэалізацыі. Украінцы апынуліся ў іншай, у параўнанні з беларусамі, сітуацыі, бо традыцыя Казаччыны, Кіеўскай Русі, гайдамаччыны, як і пачуццё велічы ўкраінскага этнакультурнага комплексу (прывязанага да акрэсленай тэрыторыі і колькасных паказчыкаў), нягледзячы на русіфікацыю, захоўваліся сярод украінскіх элітаў, ствараючы шанц для больш выразных праяваў украінскага народатворчага працэсу.

Пасля правалу палітыкі *каранізацыі* 20-х гадоў (у тым ліку ўкраінізацыі і беларусізацыі) Сталін ужо ў 30-я г. прыняў рашэнне зрабіць упор на ўзмацненне ў дзяржаве значэння рускай мовы і абапірацца ў сваім дыктатарскім кіраванні найперш на расійскае насельніцтва[13]. Гэтыя

[12] Тэрмін *народ* (што ў меншай ступені адносіцца для тэрміна *нация*) у рускай мове не набыў канкрэтна вызначанага напаўнення. Ён ужываецца для шмат якіх супольнасцяў, што змяшчаюцца ў семантычным прамежку ад народнасці да нацыі (часта гэта абмяжоўваецца этна-культурнымі канатацыямі) для розных гістарычных эпох, у тым ліку найбольш старажытных. *Нация* больш адпавядае польскай семантыцы слова *naród*, што прадугледжвае перадусім этнічнае напаўненне, хоць можа азначаць і палітычную супольнасць (як, напрыклад, у словазлучэнні *российская нация*); пры гэтым сустракаюцца і такія фармулёўкі, як *российский народ* (гл.: Валерий Тишков, Российский народ и национальная идентичность, “Известия”, 19 июня 2007 г., http://izvestia.ru/news/325722; запіс 4 жніўня 2014 г.).

[13] Гл.: M. Waldenberg, Narody zależne i mniejszości narodowe w Europie Środkowo-Wschodniej, Warszawa 2000, s. 365–369.

тэндэнцыі ўзмацніліся і пасля II сусветнай вайны. Шырока распаўсюджвалася канцэпцыя рускіх, паводле якой яны спрадвеку мелі ўласную дзяржаўнасць, стварылі эліты і вышэйшую культуру, стаўшы "старэйшымі братамі" для іншых народаў, у тым ліку для ўкраінцаў і беларусаў. "Новым элементам нацыянальнай палітыкі, – як адзначае Марк Вальдэнберг, разважаючы пра СССР непасрэдна пасля Другой сусветнай вайны, – нягледзячы на тое, што гэты элемент вызначыўся ўжо ў сярэдзіне 30-х г., была паказная рэабілітацыя імперыяльнай мінуўшчыны Расіі, што адлюстравалася, між іншым, у праслаўленні такіх галоўнакамандуючых, як Міхаіл Кутузаў і Аляксандр Сувораў"[14]. Калі ў 20-я г. "нацыянальнае адраджэнне" беларусаў і ўкраінцаў не спрыяла занадта моцнаму іх збліжэнню з рускімі, то пасля II сусветнай вайны сітуацыя адчувальна змянілася. Пачалі гучаць лозунгі стварэння "савецкага народа" – народа (як само сабой разумелася) выключна рускамоўнага.

Нягледзячы на дэцэнтралізацыю, ініцыяваную Хрушчовым, нярускае насельніцтва стала аб'ектам узмоцненай палітыкі русіфікацыі. Навязліва дэманстраваліся гістарычна-культурна-моўныя сувязі ўкраінцаў і беларусаў з рускімі. Савецкі народ ствараўся дзеля ўніфікацыі грамадства вялікай краіны ва ўсіх яго праявах, што ў выніку павінна было прывесці да вычарпання (ці прынамсі паслаблення) адрозненняў і канфліктаў паміж рознымі этнічнымі групамі і народнасцямі, выраўнаваць іх у супольнай, адной на ўсіх савецкай сістэме каштоўнасцяў. Руская мова набыла пры гэтым функцыю саўдзельніка ў дэнацыяналізацыі, але яна была не мовай нацыянальнай русіфікацыі, а менавіта мовай саветызацыі, якая часам была вельмі брутальнай. Мова, адасабляючы супольнасці ад сваіх лакальных культур, выпрацоўвала да іх прадметныя адносіны, была складовай часткай свету *homo sovieticus* – "савецкага чалавека". Здавалася б, мэтай такіх дзеянняў было фармаванне грамадства, у значнай меры набліжанага да сфармаваных на захадзе Еўропы палітычных нацый, калі нацыянальная супольнасць трымаецца пры дзяржаўным стрыжні, аднак

[14] Тамсама, с. 407.

істотнай розніцай тут было тое, што гэта была дзяржава савецкага тыпу, па сутнасці саваёй аддаленая ад нацыі. Найбольшых поспехаў у гэтым працэсе Масква дасягнула на Беларусі, на Усходняй і Паўднёвай Украіне, а таксама ў месцах хуткага развіцця і ўрбанізацыі новых прамысловых аб'ектаў Сібіры. Гэта суправаджалася "ростам колькасці шлюбаў паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў (у 1970 г. – кожны дзясяты шлюб, а ў 1979 г. – кожны сёмы)"[15]. Сем'і, што ствараліся такімі мяшанымі шлюбамі, часта карысталіся рускай мовай у якасці *языка межнационального общения*. Руская мова стала мовай гарадоў па ўсёй Беларусі і на значнай частцы ўкраінскіх земляў.

«У час свайго візіту ў Мінск у студзені 1959 г. з нагоды саракавой гадавіны ўтварэння БССР першы сакратар ЦК КПСС таварыш Хрушчоў некалькі разоў паўтарыў у публічных выступах: "Чым хутчэй мы пачнем гаварыць па-руску, тым хутчэй мы пабудуем камунізм". У прысутнасці членаў ЦК КПСС ён паўшчуваў Кірылу Мазурава за тое, што пад час урачыстага сходу той прачытаў свой уступны даклад на беларускай мове»[16]. Русіфікацыя ў беларускім грамадстве і, у меншай меры, ва ўкраінскім, праходзіла без асаблівых перашкодаў, калі параўноўваць гэты працэс з іншымі супольнасцямі СССР, чаму спрыяла культурнае і моўнае падабенства да "комплексу рускасці". «Галоўны ідэолаг КПСС Міхаіл Суслаў шкадаваў, што ва Украіне так шмат нацыяналістаў, якія гавораць па-ўкраінску. "А на якой жа мове ім гаварыць – хіба па-турэцку?" – паставіў пытанне рубам Пятро Шэлест, першы сакратар Камуністычнай Партыі Украіны»[17].

Хаця выкарыстанне рускай мовы пашыралася, рускія не мелі з гэтага аніякай карысці, што было б уласціва сфармаванаму народу, які жыў бы ў сваіх пэўных нацыянальных межах. "Савецкі народ" паводле вызначэння не супадаў з нацыянальным комплексам "рускасці", а складаўся ў савецка-расійскую мяшанку: рускамоўную супольнасць усіх народаў

[15] M. Golińska, Naród radziecki w etnopolityce ZSRR, [у:] Tożsamości narodowe na obszarze postradzieckim. Między dziedzictwem a tradycją wynalezioną, Warszawa 2012, s. 38.

[16] E. Mironowicz, Białoruś, Warszawa 2007, s. 273.

[17] W. Zajączkowski, Rosja..., s. 221.

і народнасцяў дзяржавы з агульнай савецкай (класавай, інтэрнацыянальнай) сістэмай каштоўнасцяў[18]. Самасвядомасць рускіх, што атаясамлівалі сябе з усёй імперыяй, мела размыты характар у шмат якіх праявах[19]. "Рускасць" рабілася паняццем вельмі неадназначным. З аднаго боку, яно ўсё яшчэ азначала "рускасць" у традыцыйным разуменні, з другога ж – выходзіла за рамкі першаснага значэння разам з пашырэннем рускай мовы і распаўсюджваннем рускай культуры, напрыклад, сярод мангалоідных народаў Сібіры. Гэтае паняцце было (і застаецца) неадназначным з культурнага пункту погляду, але гэтая неадназначнаць вельмі залежыць ад погляду палітычных элітаў сённяшняй Расіі на расійскую палітычную супольнасць – палітычны расійскі народ. Рускія за семдзесят гадоў савецкай улады і будавання СССР знаходзіліся ў кардынальна іншай сітуацыі адносна нацыянальнага пытання, чым за апошнія дваццаць тры гады існавання Расійскай Федэрацыі. Часы фармавання "савецкага народа" адышлі, але і да сёння няясна, хто такія рускія.

Справа ўскладняецца не толькі тым, што самі рускія, гаворачы пра сябе, часта не разумеюць, ці маюць на ўвазе палітычную (надэтнічную) супольнасць, на што іх скіроўваюць палітычныя эліты краіны, ці гаворка ідзе пра велікарускую, а можа і агульнарускую супольнасць. Справа ўскладняецца яшчэ і спецыфічнымі рысамі грамадства, механізмам ягонага існавання, што таксама ўплывае на фармаванне нацыянальнай адрознасці расіян. Асабліва падкрэсліваюцца сацыяльныя наступствы панавання праваслаўя ў рускай прасторы, якое адрозніваецца ад каталіцызму і пратэстантызму шматлікімі рысамі, што выходзяць па-за *sacrum*,

[18] Гл.: Golińska M., Tożsamości…, s. 27–30.

[19] Юры Афанасьеў сцвярджаў, што "ў межах самога СССР Расія была размытай плямай, пры гэтым нібы раздвоенай. Вярхоўная ўлада належала не ёй, а саюзным структурам, на самой расійскай тэрыторыі ўзнікла некалькі нацыянальна-дзяржаўных утварэнняў, надзеленых у рамках Саюза тымі ж паўнамоцтвамі, што і Расія. Рускія ў якасці грамадзян знаходзіліся паўсюль, а як нацыянальная супольнасць – нідзе. Не было ў іх ані ўласнай тэрыторыі, ані паўнавартаснай дзяржаўнасці, ані нацыянальнай культурнай аўтаноміі". Гл.: Afanasjew J., Groźna Rosja / przekł. M. Katowska, Warszawa 2005, s. 31.

прынамсі гэта мела адчувальны ўплыў на функцыянаванне савецкага грамадства[20]. Калі каталіцызм і пратэстантызм накіроўвалі актыўнасць вернікаў на грамадскую дзейнасць і сацыяльныя перамены, то праваслаўе сакралізавала грамадства, надаючы ўладам (а не народу) грамадскія пытанні, грамадствам займаліся цары – памазанікі Божыя, намеснікі найвышэйшай улады на зямлі. Свабода набывала характар унутранага стану і тычылася не свабоды грамадскай дзейнасці, а сферы духу.

Можна пералічваць асноўныя адрозненні Расіі ад Захаду: асабісты стыль кіравання, якое суправаджаецца атрафіяй інстытуцый, перанесеных з Еўропы ў Расію (нягледзячы на тое, што прэзідэнтам быў Мядзведзеў, рэальную ўладу меў Пуцін, а Дума была цалкам падпарадкавана выканаўчай уладзе); інструментарнае трактаванне нацыянальнага інтарэсу; успрыманне дзяржавы кіраўнікамі – паводле ўзораў мангола-татарскіх элітаў XIII–XV ст. і феадальна-патрыманіяльных манархій – у катэгорыях набытку, атрыманай улады і матэрыяльных выгод; непераадольны разрыў паміж уладай і "насельніцтвам", якое ў даўняй Расіі трактавалася як паўсвабоднае (і нават як несвабоднае), ды і цяпер не як грамадзяне сучасных дэмакратычных дзяржаў[21]. Іншую значнасць, нашмат меншую, чым у заходнееўрапейскіх соцыумах (не толькі на ўзроўні палітычных элітаў, хоць там гэта найбольш выражана),

[20] Літаратура на гэтую тэму незлічоная; гл., напрыклад, выдадзеную апошнім часам працу: A. Besançon, Święta Ruś, Warszawa 2012.

[21] «Такім чынам, трэба з вялікай асцярожнасцю, – як справядліва заўважае Раман Бэкер, – гаворачы пра Расію, ужываць такія паняцці, як чалавекаарыентаванае грамадства, прававая дзяржава, сацыяльныя групы, палітычная суб'ектнасць, палітычныя партыі або парламент, спрабуючы ўкладаць у іх той жа самы змест, што і на Захадзе. "Умом Россию не понять", калі глядзець на яе праз прызму катэгорый, якія ўжываюцца для аналізу соцыумаў Заходняй Еўропы ці Паўночнай Амерыкі. Мы можам зразумець Расію "умом", але гэтае інтэлектуальнае напружанне выходзіць па-за інтэлектуальныя межы заходняй культуры»: R. Bäcker, Rosyjskie myślenie polityczne za czasów prezydenta Putina, Toruń 2007, s. 298.

набывае маральнасць у яе свецкім абліччы (што было і застаецца вынікам слабой з гэтага пункту гледжання актыўнасці царквы). Пры агульнай слабасці індывідуалізму гэта вядзе да таго, што нацыянальная супольнасць таксама малаактыўная, і, па сутнасці, ёю кіруюць “верхнія эшалоны”. Моцная традыцыя безумоўнай, абсалютычнай, а нават наўпрост таталітарнай сістэмы кіравання суправаджаецца шырэйшай, чым у Еўропе, прорвай паміж элітамі (не толькі ўлады) і народам. Пры гэтым грамадству не хапае традыцыі гонару сярэднявечнага рыцарства і мяшчанскіх навыкаў, што прыводзіць да прыярытэту палітычных інтарэсаў эліт перад пачуццём маральнага абавязку служэння Айчыне і нацыянальным інтарэсам. Слабая сацыяльная актыўнасць абумоўлена недахопам грамадзянскіх традыцый. У выніку сярэднестатыстычныя рускія ў штодзённым жыцці пераважна замыкаюцца ў сацыяльных першасных групах – сям’і і вузкім коле сяброў, афіцыйны ж свет успрымаюць як чужынскі ці нават небяспечны. Перавага інтарэсу ўлады над інтарэсам супольнасці відаць у тым ліку на прыкладзе і Пуціна, і Лукашэнкі, і Януковіча, што мае вынікам слабасць грамадства і існых грамадскіх структур. Гэта, безумоўна, мае і нацыянальныя наступствы. На ўзроўні індывідаў і груп рускі народ у большай меры, чым на Захадзе, з’яўляецца звонку кіраванай супольнасцю, а не той, што ініцыюе сваю дзейнасць у выніку самастойнай актыўнасці. У адрозненне ад еўрапейскіх народаў, дзе моцна разбудаваны гарызантальныя сувязі, сярод рускіх дамінуюць вертыкальныя сувязі, пры вельмі слабым абазначэнні сувязяў гарызантальных. Гэтая супольнасць больш за ўсё нагадвае нацыянальную супольнасць, сфармаваную ў выніку выразнасці межаў, што аддзяляюць яе ад знешняга свету (хоць межы не абавязкова вызначаюць нацыю), а не ў выніку супольных сувязяў яе ўдзельнікаў[22].

[22] «Некаторыя з тых, – як піша Раман Шпарлюк, – хто не прымае ўсе наяўныя палітычныя ці прававыя акрэсленні расійскага народа, сцвярджаюць, што заходнія ідэі і сістэму інстытутаў прынцыпова немагчыма прыкласці да Расіі. Адзін з такіх аўтараў, Уладзімір Махнач, заяўляе: “Народ як сумарная лічба грамадзян пэўнай дзяржавы з’яўляецца выключна канцэпцы-

Напрошваецца меркаванне, што ў сваім праяўленні гэтая супольнасць у большай меры адпавядае таму, што Канечны і Хантынгтан лічылі “цывілізацыяй”, а не “класічнай” нацыяй[23]. Не будзе вялікай рызыкай сказаць, што расійскі тып улады блакуе фармаванне нацыі заходняга тыпу.

“Пачуццё неразрыўнасці рускасці і праваслаўя, – як мяркуе Алэн Безансон, – не знікае і цяпер заяўляе пра сябе яшчэ больш інтэнсіўна, чым у першыя гады пасля развалу камунізму. Салжаніцын нават не лічыў за магчымае, каб рускі адышоў ад праваслаўя ў іншую веру, бо гэта было б адначасным адрачэннем ад рускасці. Гэткай жа пазіцыі прытрымліваецца сёння патрыях Кірыл, якога моцна падтрымлівае Пуцін і расійская дзяржава. Той, хто пераступіць парог іншага Храма, – адступнік, і бяда была ерэтыкам ва ўсходнім царстве. Да гэтага прыкладаецца кляймо здрадніка айчыны”[24]. Свядома ці падсвядома праваслаўе трактуецца як заслона, што ратуе рускую супольнасць ад чужынцаў, знешняга свету, які часта ўспрымаецца пагрозлівым. У рускай культуры закаранілася традыцыя, што змушала да думкі: калі я праваслаўны, то я рускі. Таму маскоўскі патрыярхат клапоціцца пра тое, каб праваслаўная царква на Беларусі не атрымала аўтакефаліі, а ва Украіне не знізілася дамінаванне Маскоўскага патрыярхату. У абодвух прыкладах царква Маскоўскага патрыярхату выконвае функцыі

яй Захаду. У Расіі, па ўсёй Азіі, у Афрыцы народы – гэта этнасы і толькі этнасы. <…> Ніколі не ўзнікне “індыйскага” народа і ніколі не з’явіцца народа “расійскага” (расійскай у адрозненне ад рускай нацыі)”. Для Махнача (і для шмат каго іншага) Украіна і Беларусь – часткі Расіі, а украінцы і беларусы адпаведна – рускія, а разам з імі рускімі з’яўляюцца “велікаросы”» (R. Szporluk, Imperium, komunizm i narody. Wybór esejów, wstęp i red. A. Nowak, tłum. Sz. Czarnik, A. Nowak, s. 322). Шпарлюк тут спасылаецца на: В. Махнач, Встретимся через 500 лет, “Родина”, 2/1997, с. 12–13.

23 Расіяне самі сябе часта трактуюць як “расійскую цывілізацыю”. Сярод шматлікай літаратуры з падобным выразам у загалоўку можна ўзгадаць: В. Викторов, Российская цивилизация: тенденции развития от истоков к современности. Учебное пособие, Москва 2009; В. Ильин, А. Ахиезер, Российская цивилизация: содержание, границы, возможности, Москва 2000.

24 A. Besançon, Święta Ruś…, s. 27.

выразна русіфікацыйныя, бо ў храмах яе духоўнікі карыстаюцца выключна рускай мовай, як і ў царскія часы.

Апісаныя рэлігійна-гістарычна-дзяржаўныя ўмовы дазваляюць нам зразумець, якім шокам для рускіх можа быць (і ёсць) аддзяленне ад іх двух іншых складнікаў агульнарускай супольнасці. Па-першае, яны лічаць гэта здрадай; па-другое, гэта ўспрымаецца як аслабленне Расіі (рускасці) у розных сферах; па-трэцяе, для іх гэта як ампутацыя часткі спраўнай традыцыйнай расійскасці (рускасці), злучанай рэлігіяй (духоўна), культурай (моўна) і гісторыяй. “Пасля распаду СССР, – сцвярджае Анджэй Вяжбіцкі, – і з’яўлення незалежных Беларусі і Украіны перакананне аб адзінстве ўсходніх славян захісталася”[25]. Пры гэтым з’яўленне дзвюх усходнеславянскіх незалежных дзяржаваў успрымалася часта за прызнанне для былых савецкіх рэспублік значна большай аўтаноміі, самастойнасці, што не павінна было атаясамлівацца і не атаясамлівалася з істотнай культурнай, у тым ліку ментальнай аўтаноміяй, а таксама палітычна-мілітарным аддзяленнем ад расійскасці. Свайго роду выключэннем з гэтага правіла былі клопаты ў сувязі з пазбаўленнем рускай мовы яе афіцыйнага статусу ва Украіне. Нягледзячы на гэта, у абедзвюх рэспубліках руская мова павялічвала прастору свайго выкарыстання, асабліва ў масавай культуры і ў пытанні прызнання рускай мовы як роднай. Сапраўдныя праблемы, аднак – як успрынялі гэта расіяне – задэманстраваў Майдан 2014 г. Украінцы не толькі настойліва заявілі пра сваю самастойнасць, але – паводле меркавання Масквы – перайшлі на бок ворага, сталі здраднікамі “русского мира”, агульнага славянска-праваслаўнага свету, самой “Святой Русі” (ужо пра Кіеўскую Русь кажуць з меншай ахвотай), сталі наўпрост фашыстамі. Яны ж перайшлі або пераходзяць – так гэта ўспрымаецца рускімі – на бок тых, хто вякамі быў трывалай, моцнай, часта з негатыўным адценнем, супрацьлегласцю рускім – на бок лацінскага Захаду, а перадусім варожага комплексу NATO і ЗША, што пераследуюць іх дзесяцігоддзямі. Рускія не толькі адчуваюць, быццам яны

[25] A. Wierzbicki, Wschodniosłowiański…, s. 34.

перажываюць ампутацыю, але і лічаць, што страчваюць сядзібу, з якой "ёсць пайшла зямля руская" (адпаведна, і яны самі), што губляюць свой імперскі гонар (незалежна ад таго, што яны пад ім разумеюць). Сярэднестатыстычны рускі да нядаўняга часу лічыў, што беларусы і ўкраінцы – гэта члены аднаго супольнага народа. Масавая падтрымка рускімі ваеннага наступлення на Украіну ў 2014 г. стала праявай не іх адыходу ад ідэі агульнарускай супольнасці, а перакананння, што ад гэтай ідэі адступілася значная частка Украіны, якая пазірае ў бок варожага Захаду, а гэтым падвяргае сумненню галоўную ролю рускіх у трыадзіным народзе (у тым ліку – ролю рускай мовы і РПЦ).

Хто ж такія рускія пасля распаду СССР, у сітуацыі частковага крызісу іх ранейшай ідэнтычнасці? Вітальд Радкевіч, выказваючыся адносна дыскусіі расійскіх палітычных эліт пра будучыню дзяржаў заходняй часткі СНД, называе за Верай Тольц пяць магчымых мадэляў расійскай нацыянальнай ідэнтычнасці. Першая мадэль – грамадзянская нацыя (палітычная, надэтнічная); другая – імперыяльная (што ахоплівае постсавецкую прастору і нагадвае як канцэпцыю "савецкага народа", так і еўраазіяцкія канцэпцыі), трэцяя – «усходнеславянскі народ, які, паўтараючы словы Аляксея Мілера, можна назваць "вялікай рускай нацыяй", што ахоплівае этнічных рускіх (велікаросаў), украінцаў (выключаючы, відаць, украінцаў-уніятаў з Галіцыі) і беларусаў (у гэтым кірунку развіваліся, да прыкладу, прапановы Аляксандра Салжаніцына)»; чацвертая мадэль – "расійскага народа як супольнасці ўсіх рускамоўных, незалежна ад месца пражывання"; пятая – "расійскага народа, што абапіраецца на кроўныя сувязі, як гэта прапагандуюць маргінальныя групы радыкальных нацыяналістаў"[26]. Праблема расіян – фактычная немагчымасць спалучыць першую мадэль з трэцяй (а расіяне акурат гэта спрабуюць зрабіць). Калі будаваць народ палітычны (панадэтнічны) у межах РФ, гэты шлях

[26] W. Rodkiewicz, Zachodnie kresy imperium w koncepcjach polityki zagranicznej Rosji w latach 1991–2004; neoimperializm czy postimperializm?, [y:] Rosja i Europa Wschodnia: "imperiologia" stosowana / Russia and Eastern Europe: applied "imperiology", ed. A. Nowak, Warszawa 2006, s. 89.

прадугледжвае адгароджванне ад украінцаў і беларусаў, калі ж скіраванне высілкаў на "трыадзіным народзе", то бок на элементах культурна-рэлігійных (а таксама, як лічаць рускія, і этнічных, агульных для ўсіх "трох адгалінаванняў"), то гэта азначала б выхад такой супольнасці па-за абшар цяперашняй расійскай дзяржавы і радыкальна абмяжоўвала б магчымасці фармавання нацыі палітычнай (панадэтнічнай). Расійскія эліты хацелі б пабудаваць супольнасць, што моцна звязвае жыхароў іх дзяржавы (і гэта зразумела), пры гэтым яны ніяк не могуць пазбавіцца традыцыйнага мыслення ў катэгорыях агульнарускага адзінства, праява якога – канфлікт з Украінай у 2014 г.

Цікавыя даследаванні ў сакавіку 1991 г., а значыць непасрэдна перад распадам СССР, праводзіліся тады яшчэ савецкім Агульнасаюзным цэнтрам вывучэння грамадскай думкі (АЦВГД). У гэтых даследаваннях 63% рускіх у Расіі (і 66% рускіх у іншых савецкіх рэспубліках) аднеслі сябе да грамадзян СССР і толькі 25% – да грамадзян сваёй рэспублікі (дадзеныя па іншых рэспубліках – 22%). Як адсюль вынікае – пра што няцяжка было здагадацца, – рускія больш атаясамлівалі сябе з дзяржавай, якую яны як бы стварылі ўласнымі намкненнямі, а рэспубліканскія маштабы звужалі іх імперскі менталітэт. Цікавым падаецца факт, што рэкорд у гэтым апытанні паставілі беларусы, якія аж на 69% атаесамлялі сябе з СССР, і толькі 24% з іх суадносіліся з уласнай рэспублікай. Трэба думаць, што ступень атаесамлення сябе з вялікай дзяржавай можа ў нейкай меры быць сведчаннем высокага ўзроўню саветызацыі сярод беларусаў, а таксама ўздзеяння імперскага менталітэту (разам з саветызацыяй) сярод рускіх. Сярод украінцаў размеркаванне дадзеных па гэтым апытанні было іншым: 42% былі за СССР, а 46% за ўласную рэспубліку (да ўвагі не прымаецца працэнт тых, хто ўстрымаўся ад адказу). Табліцу вынікаў замыкалі эстонцы: 3% звязвалі сябе з Савецкім Саюзам і 97% з Эстоніяй[27]. Да-

[27] Л. Г. Титаренко, Национальная идентичность и социокультурные ценности населения в современном белорусском обществе, Минск 2006, с. 76 (табліца 3.3).

зволім сабе думаць, што розніца звестак сярод беларусаў, украінцаў і эстонцаў сведчыць пра ўзровень нацыянальнай самасвядомасці сярод тытульных народаў: найніжэйшы сярод беларусаў і найвышэйшы ў грамадствах прыбалтыйскіх рэспублік. Таксама гэта праява адносінаў да дзяржаўнасці ў тым выглядзе, як яе будавалі рускія, паколькі іх культура і мова былі значна менш блізкія эстонцам, чым членам агульнарускай супольнасці.

"У той самай меры, як да рэвалюцыі ў Расіі дзейнічаў курс на асіміляцыю ў *рускасць*, – заўважае А. Вяжбіцкі, – настолькі пры СССР дзейнічаў курс на асіміляцыю рускасці ў *савецкасць*"[28]. Новай з'явай, што паўстала пасля стварэння Расійскай Федэрацыі, было "дыстанцыяванне саміх расіян ад канцэпцыі *расійскага народа*, якая пачала ўспрымацца як субстытут народа савецкага, які ў сваю чаргу ствараўся на падаўленні *рускасці*"[29]. У выніку з аднаго боку мы маем справу з распаўсюджаннем расійскімі элітамі ўлады народа палітычнага (дзяржаўнага) тыпу (бо гэта палягае ў інтарэсах Расіі), з другога ж боку – з узмацненнем *рускасці*, разуметай у асяроддзі інтэлектуалаў, грамадскіх і партыйных дзеячаў, сярод часткі палітыкаў і расійскіх нацыяналістаў як этнічнае ці найперш культурнае паняцце[30], і з лозунгам "Расія для рускіх". На

[28] A. Wierzbicki, Rosja. Etniczność i polityka, Warszawa 2011, s. 253.

[29] Тамсама, с. 267.

[30] «Нацыянальная ідэнтычнасць сучасных расіян вызначаецца катэгорыяй *рускасць*, якую разумеюць як пачуццё прыналежнасці да расійскага народа і цывілізацыі, звязанай з вызначанымі культурнымі стандартамі і ідэнтыфікацыяй яе членаў як рускіх людзей. Іншымі словамі *рускасць* – гэта праваслаўная вера, памяць пра веліч Расіі, пра вялікую рускую мову і культуру, любоў да Айчыны, кроўная сувязь рускіх па ўсёй прасторы "рускага свету", якая ахоплівае не толькі грамадзян Расійскай Федерацыі, але і рускіх па-за межамі краіны. На пачатку XXI ст. адбылася этнізацыя рускасці – стыхійны працэс, які распачаўся ў палове дзевяностых гадоў XX ст. і супаў па часе з прэзідэнствам Уладзіміра Пуціна. Вынікам гэтых працэсаў і гістарычных падзей стала этнічная мабілізацыя рускіх. Этнізацыя рускай ідэнтычнасці з'явілася як рэакцыя на зніжэнне "вітальнай сілы" і сігналізавала пра аслабленне дзяржаўнасці» (тамсама, с. 282).

пытанне «Як Вы ставіцеся да думкі “Расія – для рускіх”?», якое Цэнтр Лявады шмат гадоў рэгулярна задаваў, у падтрымку выказаліся ад 43% у снежні 1998 г. да 66% у кастрычніку 2013 г. Нязгодных з гэтым меркаваннем было ў 1998 г. 30%, а ў 2013 – 19% (рэшту гэтае пытанне не цікавіла або яны не хацелі на яго адказваць)[31]. Калі ўзяць пад увагу, што, на падставе вынікаў іншых даследаванняў, расіяне ўсё болей пагаджаюцца з распадам СССР, то факт узрастання падтрымкі лозунга “Расія – для рускіх” можна лічыць сведчаннем пераходу ад СССР як дзяржавы савецкага народа да РФ як уласнай нацыянальнай дзяржавы, разуметай па-ранейшаму ў імперскіх традыцыях. Гэты лозунг падмацоўваецца, між іншага, тым, што 4/5 расіян – гэта *русские*, а суправаджаецца ён падкрэсліваннем рускімі сваёй славянскасці, праваслаўя і супольнасці з беларусамі і ўкраінцамі. Узнікае ўражанне, што частцы славянскіх расіян уласціва ідэя этнічна-культурнага народа (што набліжае іх – хоць існуе і шмат фундаментальных адрозненняў – да еўрапейскіх супольнасцяў). У гэтым выпадку важна менавіта тое, што ў такое разуменне рускага народа ўваходзіць выхад за межы дзяржавы па прычыне адначаснага прызнання ідэі агульнарускай супольнасці.

Асіміляцыі ў плане рускай мовы і культуры спрыяе ідэя “рускага свету”, што ахоплівае не толькі ў межах Расіі, але і па-за яе межамі людзей, якія гавораць па-руску ды звязаныя з рускай культурай, а таксама з праваслаўем. Гэта тычыцца і паняцця *рускасці*, якое такім чынам выходзіць па-за традыцыйную этнічнасць і пашыраецца ў культурным змесце. Нягледзячы на тое, што пасля савецкага атэізму засталося шмат антырэлігійных настрояў,

[31] Общественное мнение – 2013. Ежегодник (Аналитический Центр Юрия Левады), Москва 2013, с. 197 (табліца 17.16). 43% падтрымкі ў снежні 1998 г. складаліся з розных дадзеных: 13% (“Падтрымліваю, і цяпер найлепшы час для ажыццяўлення гэтай ідэі”) + 30% (“Было б няблага гэта рэалізаваць, але ў разумных межах”). Адпаведна 66% у кастрычніку 2013 г. складаліся з 23% плюс 43%. Рэзкі рост працэнта падтрымкі адбыўся ў 2001 г. і 2013 г.

амаль 70% расіян, хоць і ў рознай меры, адчувалі адзінства з вернікамі той самай канфесіі[32]. Прыклад таго, як Лукашэнка вызначыў сябе "праваслаўным атэістам" (а ён выхаваны ў культуры савецкай рускасці і рэгіянальна ўспрымаў беларускасць) сведчыць пра цывілізацыйнае разуменне праваслаўя, якое сваёй сістэмай вартасцяў, перанесеных на дзяржаўна-палітычны ўзровень, будуе свецкую прастору як цывілізацыю, супрацьпастаўленую заходняму свету.

"Украіна і Беларусь, – піша Вольга Надскакула, – лічацца часткай Расіі як з моўнай перспектывы, так і з этнакультурнай ды гістарычнай. Сыходзячы з гэтага, любая незалежнасць гэтых тэрыторый ад Расіі ўспрымаецца як часовы, хоць пры гэтым небяспечны феномен. Паводле меркавання С. Караганава, адносіны Расіі з такімі дзяржавамі з'яўляюцца ключавым элементам разумення расійскай вялікадзяржаўнасці"[33]. Гэтыя словы пацвярджаюць сітуацыю вакол Украіны ў 2014 годзе. Можна знайсці шмат выказванняў рускіх на тэму нацыянальнай супольнасці трох грамадстваў, у тым ліку сцвярджэнні самога прэзідэнта Пуціна. Калі яму ў ліпені 2005 г. маладая беларуска публічна задала пытанне пра магчымасць аб'яднання Беларусі і Расіі, ён адказаў: "Думаю, что гэта залежыць перадусім ад Беларусі. Кажу гэта Вам як прадстаўніцы беларускага народа. Сам жа лічу, у прынцыпе, калі абагульніць, што мы з'яўляемся адной нацыяй, адной вялікай нацыяй"[34]. У прамове з нагоды далучэння Крыма і Севастопаля ў склад Расіі ад 18 сакавіка 2014 г. прэзідэнт Пуцін сцвярджаў: "Скажу шчыра, у нас баліць душа

[32] Л. Дробижева, Е. Щеголькова, Изменения в массовом сознании, [у:] Национально-гражданские идентичности и толерантность: опыт России и Украины в период трансформации, ред. Л. Дробижева, Е. Головаха, Киев 2007, с. 32.

[33] O. Nadskakuła, "Obcy wśród swoich". Antyrosyjskość na Ukrainie i Białorusi z perspektywy Kremla, "Spojrzenie na Wschód. Kwartalnik wschodnioznawczy" 2010, № 1, s. 28–29.

[34] В. Путин: Союз с Беларусью зависит прежде всего от Беларуси, Новости. TUT.BY, 27 июля 2005, http://news.tut.by/politics/55951.html (запіс 9 жніўня 2014 г.).

за ўсё, што адбываецца цяпер на Украіне, што пакутуюць людзі, што яны не ведаюць, як жыць сёння і што будзе заўтра. Нашы хваляванні зразумелыя, бо мы ж не толькі блізкія суседзі, мы фактычна, як я ўжо шмат разоў гаварыў, адзін народ. Кіеў – маці гарадоў рускіх. Старажытная Русь – гэта наша агульная крыніца, мы ўсё роўна не зможам адно без аднаго"[35]. Наступствы такога погляду расіян на двух сваіх славянскіх суседаў заўважальныя ў змесце іх свядомасці. У даследаваннях адносін расіян да іншых народаў, як правіла, пазітыўныя меркаванні звязаны з беларусамі і ўкраінцамі. Напрыклад, могуць быць адказы на пытанне аб магчымым абмежаванні знаходжання ў Расіі імігрантаў розных нацыянальнасцяў. У кастрычніку 2013 г. украінцы атрымалі найменшую колькасць галасоў за такое абмежаванне – 5% (найбольш было за абмежаванне для прадстаўнікоў каўказскіх народаў – 54%, кітайцаў і імігрантаў з былых сярэднеазіяцкіх рэспублік СССР – па 45 %)[36].

Даследаванні адносінаў рускіх з беларусамі і ўкраінцамі шмат гадоў праводзяцца Цэнтрам Лявады. На пытанне: "Ці Вы ўспрымаеце Беларусь (Украіну) як замежную краіну?", што задавалася ў апытанні ў 2013 г., наконт Беларусі адказалі: "так" – 34%, "не" – 63%; Украіны: "так" – 37%, "не" – 61%[37]. Вынікі іншых цікавых даследаванняў змяшчае табліца 1:

[35] Обращение Президента Российской Федерации, 18 сакавіка 2014, http://kremlin.ru/news/20603 (запіс 12 жніўня 2014 г.). 1 жніўня 2011 г. Пуцін, адказваючы на пытанні пад час сустрэчы з моладдзю ў міжнародным адукацыйным лагеры "Селігер-2011" на пытанне пра тое, ці Беларусь і Расія могуць стаць непадзельнымі, як гэта было пры СССР, адказаў: "Гэта магчыма, вельмі пажадана і цалкам залежыць – на ўсе 100% – ад волевыяўлення беларускага народа". На заяву маладога беларуса, што народ вельмі гэтага хоча, прагучаў адказ: "Тады змагайцеся за гэта". "Народная Воля", 2 жніўня 2011 г., Путин: Воссоединение России и Беларуси полностью зависит от воли белорусского народа, http://nv-online.info/by/197/politics/34993/ (запіс 17 жніўня 2014 г.).

[36] Общественное мнение – 2013…, с. 197 (табліца 17.15).

[37] Тамсама, с. 206–207 (табліцы: 20.2 і 20.4).

**Табліца 1.** "Як Вы лічыце, рускія і ўкраінцы – гэта адзін народ ці два розныя народы?" (%)[38].

| | **Адзін народ** | **Два розныя народы** | **Цяжка вызначыцца** |
|---|---|---|---|
| 2002 | 76 | 19 | 5 |
| 2004 лістапад | 79 | 18 | 3 |
| 2005 лістапад | 81 | 17 | 2 |
| 2006 снежань | 53 | 41 | 6 |
| 2007* студзень | 76 | 21 | 3 |
| 2007 лістапад | 49 | 46 | 5 |
| 2013 снежань | 43 | 50 | 7 |
| 2014 сакавік | 56 | 38 | 6 |

* Ад 2002 да 2005 г., а таксама ў студзені 2007 г. пытанне задавалася ў наступнай форме: "Рускія, украінцы і беларусы – гэта розныя народы ці тры адгалінаванні аднаго народа?"

Дадзеныя сведчаць пра тое, што адказы маглі быць розныя – у залежнасці ад таго, як ставілася пытанне пра агульнарускае адзінства. Калі гаворка вялася пра выбар паміж трыма рознымі народамі і трыма адгалінаваннямі аднаго народа, пераважная большасць рэспандэнтаў абірала "тры адгалінаванні"[39], паколькі такая фармулёўка

[38] Левада-Центр. Пресс-выпуски, 14. 03. 2014: http://www.levada.ru/14-03-2014/rossiyane-ob-otnosheniyakh-s-ukrainoi (запіс 12 жніўня 2014 г.). Дадзеныя за 2002 год: Общественное мнение – 2013..., с. 207 (табліца 20.3). Так, як і ў 2013–2014 г., пытанне было сфармулявана ў кастрычніку 1997 г., калі за неаб'яднанне двух народаў выказаліся 56% апытаных, а за аб'яднанне – 37%: Общественное мнение – 2007..., с. 215.

[39] Канцэпцыю трох адгалінаванняў ("ветвей") аднаго народа выказваў яшчэ пры царскай уладзе расійскі гісторык Васіль Ключэўскі. Гл.: Н. Н. Юсова, Идейная и терминологическая генеалогия понятия "древнерусская народность", "Rossica

лепш перадае катэгорыі мыслення рускіх пра трыадзіны народ, яны часцей ужываюцца ў Расіі, а таксама ў Беларусі (у сацыялагічных даследаваннях). Вядома, магчымая і іншая інтэрпрэтацыя такіх даследаванняў, з выяўленнем таго, што ўкраінцы ў параўнанні з беларусамі значна менш ахвотна залічваюцца да трыадзінай супольнасці. Такое сцвярджэнне, аднак, не ўяўляецца абгрунтаваным, бо адрозненні ў даследаваннях, для прыкладу, у студзені 2007 г., не выглядаюць значнымі.

Цікава, што ў сакавіку 2014 г., а гэта быў час, калі падзеі на Майдане выклікалі ўжо вострыя пратэсты ў Расіі, лічба расіян, што выказваліся за адзіны народ, яшчэ больш павялічылася, асабліва выразна ў пратэстах супраць – як сцвярджалася – "фашысцкіх бандэраўцаў з заходняй Украіны" і прыхільнага ім Захаду, асабліва ЗША. Відаць, рускія думалі, што такім спосабам яны салідарызуюцца з большасцю ўкраінцаў, якія трапілі пад гнёт "фашыстаў і нацыяналістаў". Адначасова ў сакавіку, а яшчэ болей у траўні і ў чэрвені, узраслі негатыўныя адносіны да Украіны, а гэта азначае, што рускія дэманструюць схільнасць адрозніваць простых грамадзян Украіны (украінскага "адгалінавання адзінага народа") ад украінскай дзяржаўнасці, нібыта прадстаўленай уладамі, сфармаванымі пад уплывам Захаду і нацыяналістаў[40]. Ацэньваючы прыведзеныя звесткі, можна сцвярджаць, што значная большасць рускіх, нягледзячы на палітычна-гаспадарчыя сутычкі на лініі Масква – Кіеў – Мінск, па-старому з прыхільнасцю ставіцца да ўсходнеславянскай трыадзінай праваслаўнай супольнасці, якая моцна закаранілася ў іх гістарычна-культурнай традыцыі, але гэта не азначае, што разуменне такога адзінства не перажывае паступовых зменаў, у тым ліку змяншэння сацыяльнай базы. Амаль 1/5 рэспандэнтаў (калі пытанне ставілася ў версіі

Antiqua" 2010/2, с. 13 (аўтарка спасылаецца на: В. О. Ключевский, Сочинения: в 9 т. Т. I. Курс русской истории, Москва 1987, ч. I, с. 298.

40 Левада-Центр. Пресс-выпуски, 06. 08. 2014: http://www.levada.ru/06-08-2014/otnoshenie-rossiyan-k-drugim-stranam (запіс 12 жніўня 2014 г.).

з трыма адгалінаваннямі аднаго народа) не пацвярджала прыхільнасці да агульнарускай супольнасці. Хаця, калі б даследаванні праводзіліся сярод расіян без вылучэння іх часткі рускіх (а гэта вынікае з дадзеных Цэнтра Лявады)[41], то, трэба меркаваць, што сярод расіян нярускага паходжання напэўна знайшлася б значная частка прыхільнікаў рускасці, якая выключае ўкраінцаў і беларусаў (гэта толькі гіпатэтычнае меркаванне).

Цікавую карціну падаюць таксама даследаванні 2008–2013 г., што тычыліся ўяўленняў пра расійска-ўкраінскія міждзяржаўныя зносіны. З іх вынікае, што расіяне з большым задавальненнем успрымалі б Украіну як незалежную краіну, але з блізкімі і сяброўскімі сувязямі, адкрытымі межамі без візаў і мытнага кантролю (працэнт прыхільнасці сягае ў некаторыя гады ад 51% да 64%). Такая карціна, аднак, больш нагадвае УССР, якая таксама фармальна была незалежнай краінай, але – у межах СССР. На другім месцы з працэнтам прыхільнасці ад 13% да 29% знайшліся рэспандэнты, што выказаліся за цалкам незалежную Украіну з закрытымі межамі, візамі і мытным кантролем (на што, магчыма, уплывалі наяўныя праблемы, напрыклад з перадачай і разлічэннямі за газ). За злучэнне Украіны і Расіі ў адну дзяржаву выказаліся ад 12% да 19% расіян[42]. Не выключана, што і ў гэтым выпадку на расійска-ўкраінскія зносіны па-рознаму глядзелі б расіяне славянскіх каранёў і іншых народнасцяў (чаго ў даследаванні не ўлічвалі). Не падлягае сумневу, што на адказы ўплывала ўсведамленне рэалій СССР, калі пры існаванні асобных славянскіх рэспублік (з уласным кіраўніцтвам, парламентам, межамі, асобнымі бюджэтамі) не заўважнымі былі бар’еры ва ўзаемнай камунікацыі і існаванні ўсходнеславянскай супольнасці. Вельмі верагодна, што сіла расійска-ўкраінскага адзінства будзе слабець з паралельным працягам (узрастаннем) канфлікту на землях Усходняй Украіны – прынамсі ў часткі ўкраінскага

[41] Табліца толькі дае інфармацыю, што проба апытання складала 1600 асобаў, як і ў іншых даследаваннях.
[42] Общественное мнение – 2013…, с. 209 (табліцы: 20.7 і 20.8).

грамадства. Расія калісьці была галоўнай крыніцай і распаўсюднікам канцэпцыі агульнарускага народа, яе карыстальнікам і ўпаўнаважаным прадстаўніком. Таму яна не зацікаўлена ў знікненні такога тыпу ўзаемных адносін як з геапалітычнага (імперскага), так і культурнага (нацыянальнага) пункту гледжання. У гэтым трыадзіным звязе два іншыя ўдзельнікі выконвалі / выконваюць пераважна функцыі аб'ектаў, а не суб'ектаў; такая канцэпцыя бязмежнага народа на чале з Расіяй абмяжоўвае магчымасці стварэння ўкраінцамі і беларусамі ўласных нацый як незалежных супольнасцяў, падобных да нацый еўрапейскага тыпу, а ў гэтай сувязі і ўласных дзяржаў.

## 2. Беларусы

Пазіцыя беларусаў на карце нашай часткі кантынента з пункту гледжання іх нацыянальнага адзінства, а таксама іх суб'ектнасці, прынцыпова іншая ў параўнанні не толькі з расіянамі і палякамі, але і літоўцамі. Беларусы – класічны прыклад сутыкнення двух культурных абшараў (расійскага – праваслаўнага – і заходнеўрапейскага – "лацінскага"). Беларусь, падпарадкаваная Расіі, непараўнальна менш самастойная, чым сённяшняя Літва, што мае ўтрая меншую колькасць насельніцтва. Прычыны такой сітуацыі трэба шукаць у мінулым.

Мэтай расійскай палітыкі, якая праводзілася пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, была культурная пераарыентацыя Беларусі, перацягванне грамадства, прынамсі яго большай часткі, з еўрапейскага (лацінскага) культурнага абшару ў расійскі, які самі расіяне называлі "расійскай цывілізацыяй". Гаворачы зусім коратка, прычынамі гэтага былі: па-першае, перавод большасці насельніцтва Беларусі ў праваслаўе, праз што адбывалася яго русіфікацыя і ўнясенне праз праваслаўе ідэі "адзінага рускага народа". Па-другое, ліквідацыя ранейшых элітаў, што кшталтаваліся пакаленнямі, месца якіх у БССР запаўнялася сфармаванай выхадцамі з беларускіх вёсак праслойкай, скрайне канфармісцкай, безыдэйнай, падлеглай маскоўскім (або мінскім) уладам, пазбаўленай любых ідэалаў акрамя жадання

кар'ернага поспеху і заробку. Што істотна, значэнне элітаў у праваслаўным грамадстве заўсёды было большым, чым у лацінскай Еўропе. Таму іх знішчэнне пасля бальшавіцкай рэвалюцыі (а таксама ў сувязі з выміраннем пакалення, што выхоўвалася ў кантакце або на культурным полі даўнейшай вышэйшай праслойкі), плебеізацыя новых пакаленняў – усё гэта мела рашуча негатыўнае ўздзеянне на такія грамадствы, на іх мадэрнізацыю, што адчуваецца і цяпер[43]. Трэцяя прычына – масавая саветызацыя, што распаўсюджвала рускую мову і спосаб мыслення пад катэгорыяй савецкага народа разам з часткай расійскай сістэмы каштоўнасцяў (расійскасць прадстаўляла больш прэстыжную культуру "вялікага народа" – гэта з захапленнем успрымалася выхадцамі з вёскі, для якіх беларускасць асацыявалася з сялянскасцю і рэгіянальнасцю). Спрыялі таму школьныя падручнікі, сродкі масавай інфармацыі, мастацкая і навуковая літаратура, палітычная агітацыя, сістэма адукацыі на ўсіх яе ўзроўнях. Вынікам стала фармаванне грамадства, якое дыстанцуецца ад афіцыйнай ідэалогіі[44], не прымаючы ў гарадах за каштоўнасць нічога па-за сялянскай працавітасцю, жаданнем "выбіцца ў людзі", будаваннем сям'і і прыстасаваннем да ўмоваў жыцця, калі гэтыя ўмовы памнажаюць дастатак.

[43] Грамадствы гэтага культурнага абшару не выпрацавалі механізму ініцыявання працэсаў мадэрнізацыі знізу (істотнага ў заходніх грамадствах), а толькі той, што зверху – хоць часам і праяўляўся (у СССР звязаны пераважна з ваеннай сферай), быў заслабы і таму знішчаны разам з заняпадам механізму нарастання спосабаў развіцця (індустрыялізацыі), выпрацаванага пасля бальшавіцкай рэвалюцыі шляхам капіявання заходніх узораў. Новыя савецкія эліты, а пасля іх расійскія (а таксама ўкраінскія і, у меншай ступені, беларускія), падымаючыся сацыяльна, усё больш абіралі і абіраюць матэрыяльны дабрабыт як важнейшы за духоўныя каштоўнасці. Гэтая з'ява ахоплівае не толькі згаданы культурны абшар, на гэтым абшары яна заўважаецца асабліва выразна ў сувязі з ліквідацыяй значнай часткі сацыяльных фактараў яе стрымлівання.

[44] Афіцыйная камуністычная ідэалогія з часам ператварылася ў сродак ажыццяўлення ўлады праз палітычныя эліты краіны, перастаўшы быць сістэмай глыбокіх унутраных каштоўнасцяў, паўсюль успрыманых грамадствам.

Беларусаў у абсалютнай большасці не цікавіла ані сфера свабоды, ані нацыянальныя лозунгі. З часам яны прымалі савецкі лад як мала хто ў СССР. Несумненна, гэтаму спрыяла хуткае развіццё БССР. Масавае перасяленне з бедных вёсак у гарады, асабліва за апошнія сорак гадоў савецкай улады (а гэта ўспрымалася як значнае сацыяльнае прасоўванне), разам з усведамленнем прыналежнасці да вялікай імперыі цалкам задавальняла беларусаў. Не ўтрымаўся (не развіўся напоўніцу) у іх традыцыі нацыянальны этас, вартасці, што вызначаюць высокую культуру, паколькі даўнейшыя эліты былі адкінуты ад нацыятворчых працэсаў як чужыя (ініцыятарамі такіх працэсаў былі рускія, якія ўспрымалі культуру гэтых элітаў – нацыянальную і класавую – як канкурэнтную). Такім чынам, большая частка беларускага грамадства ніколі не мела дачынення да нацыянальнай – адрознай ад рускасці – беларушчыны. З гэтага пункту гледжання беларусы знаходзіліся ў зусім іншай сітуацыі, чым палякі, чэхі, літоўцы ці эстонцы. У адпаведнасці з пазанацыянальнай сялянскай традыцыяй свет улады – калісь панскі, расійскі, нямецкі ці польскі – і звязаных з ім інстытуцый быў для сярэдняга беларуса чужым, “халодным”, нясвойскім, якому нельга было давяраць, але ў якім часамі даводзілася існаваць. Узнікла з’ява, якую можна было б назваць тэатралізацыяй сферы публічнага жыцця. У публічных інстытуцыях людзі паводзілі сябе, гаварылі і нават думалі іначай, чым у прыватным жыцці. Уласны свет ахопліваў сям’ю і вузкае кола сяброў. Гэта зніжала сацыяльную актыўнасць і накіроўвала яе на рэалізацыю асабістых інтарэсаў. Рэчаіснасць, што атачала грамадскую адзінку, была пераважна рускамоўнай (тым больш у гарадах). Разам з мовай прымаліся руска-савецкія катэгорыі мыслення, у тым ліку ідэя агульнарускай супольнасці (не абавязкова ў сэнсе паўсюднага агучвання звязаных з ёй тэрмінаў), хоць гэта пранікала не так глыбка, як у культуру больш-менш нацыяльна скіраваных расіян, заўсёды поўную прадзяржаўных і праімперскіх поглядаў. У свет “усходнеславянскага рускага народа” беларусы найчасцей уваходзілі без рэфлексій, паколькі часцей за ўсё выбар іншага адсутнічаў. Пасля II сусветнай вайны па-за гэтымі

катэгорыямі мыслення апынуліся вельмі нязначныя асяродкі беларускіх інтэлектуалаў, існаванне якіх стала заўважальным, па сутнасці, толькі з канца 80-х г. XX ст.

Цікава, што празаходні выбар рэпрэзентавала нацыянальная беларуская ідэя, за якой былі каталікі не толькі нашаніўскага перыяду, але і пазнейшых часоў, хоць з часам у беларускім нацыянальным руху станавілася ўсё больш праваслаўных беларусаў. Гэтая праеўрапейская арыентацыя вынікала са зместу нацыянальнай ідэалогіі і механізмаў яе ўзнікнення, прыклад якіх запазычваўся ў іншых славянскіх народаў Цэнтральнай і Цэнтральна-Усходняй Еўропы, так што гэта быў працэс культурнага пераймання[45]. З аднаго боку, паўстала вельмі выразная ідэя агульнарускай супольнасці, з усім яе гістарычна-культурным багажом, што далучала беларусаў да рускасці ў яе шырокім значэнні (але без прыняцця рускага нацыяналізму), якая ўспрымалася нагул пасіўна і механічна з прычыны адсутнасці выразных межаў, што маглі б раздзяляць абедзве супольнасці, – яны надавалі гэтым межам регіянальна-этнаграфічны характар. З другога боку, паралельна існавала беларуская нацыянальная ідэя, якую падтрымлівала вузкае кола інтэлектуалаў-інтэлігентаў і якая час ад часу актывізавалася: нашаніўскі перыяд, 20-я гады ў БССР (хоць там яна часткова змяшалася з савецкімі рэаліямі), часы II сусветнай вайны, перыяд пасля 1991 г. Яна была аналагічная іншым – славацкай, літоўскай, чэшскай, у найменшай ступені – польскай. Яе змест аддзяляў беларусаў ад рускіх і быў адпаведнікам еўрапейскіх (лацінскіх) узораў – не толькі ў плане фармавання нацыі, але і сферы змяшчэння яе ў шырокі сацыяльна-культурны кантэкст, характэрны для Еўропы. Яна і палітычна была арыентавана на Еўропу, чаго расіяне ніколі не маглі і цяпер не ў стане прыняць.

Такім чынам, у выпадку Беларусі мае месца тыповае сутыкненне культур, дзе меншасць складае заходняя

[45] Вядома, не абавязкова, каб нацыянальныя рухі ў беларускім ці ўкраінскім грамадствах мелі ў палітычным сэнсе толькі праеўрапейскі характар, яны маглі стаяць і на ізаляцыяністы пазіцыях.

“лацінская”, а большасць – усходняя “праваслаўная”. Гэта назіралася з даўняга часу, але – калі абмінуць перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай – цалкам відавочным стала толькі пасля атрымання Беларуссю незалежнасці. Паводле дадзеных незалежнага беларускага сацыялагічнага цэнтра НІСЭПД колькасць каталікоў на Беларусі складала ў 2009 г. 13,1% (у 2013 – 14,7%), праваслаўных у 2009 г. было 78,5%, а праз чатыры гады – 74,2% (не адносілі сябе да вернікаў у 2013 г. 7,5% апытаных)[46]. Калі Беларусь стала незалежнай краінай, да ўлады прыйшлі людзі, што паходзілі з каталіцкага асяроддзя (таму іх падазравалі ў прапольскасці), якія пачалі праводзіць палітыку збліжэння з Еўропай коштам частковага дыстанцыявання ад Расіі. Рэакцыяй грамадства было абранне ў выніку свабодных выбараў 1994 г. Аляксандра Лукашэнкі, “праваслаўнага атэіста”, “савецкага чалавека”, які абяцаў выбарцам у прамовах 1994 г., што будзе на каленях прасіць у Маскве аб узнаўленні супольнай дзяржавы з Расіяй[47]. Большасць беларусаў падтрымлівае яго і сёння, а паводле дадзеных НІСЭПД ён у кожных выбарах набіраў болей за 50% галасоў.

Шматразова і ў розных версіях было цытавана выказванне прэзідэнта Беларусі, што прагучала на самым пачатку двухтысячных гадоў, маўляў “беларусы – гэта тое ж, што і рускія, толькі са знакам якасці”[48]. На гэтую тэму Лукашэнка таксама выказаўся ў 2011 г. у інтэрвію Грыгорыю Ёфэ (ЗША). Адказваючы на пытанне, ці беларусы і расіяне – гэта адзін народ, ён сказаў: “Так, вядома, мы жылі ў адной дзяржаве. Украінец яшчэ неяк адрозніваецца ад расіяніна, а беларуса і рускага, ну, паспрабуй адрозніць! Ніякай розніцы! Мы аднолькава гаворым, аднолькава

[46] “Новости НИСЭПИ”, выпуск 4, снежань 2009 г., с. 15 (табліца 24); выпуск 2, люты 2013 г., с. 50 (Свободная трибуна: Религия). У верасні 2010 г. каталікамі назваліся 11,1% (праваслаўнымі – 78,8%): выпуск 3, верасень 2010 г., с. 27 (табліца 48).

[47] Праўда, галоўным (непасрэдным) матывам галасавання ў тыя часы за Лукашэнку была яго антыкарупцыйная перадвыбарчая рыторыка.

[48] Цыт. паводле: А. Федута, Лукашенко. Политическая биография, Москва 2005, с. 604.

думаем. Агулам кажучы, мы цалкам падобныя адзін да аднаго. У нас і кроў з абодвух бакоў змешаная. Мы вельмі адзін аднаму блізкія. Але, нягледзячы на ўсё, беларус – гэта, Вы мяне разумееце, як рускі, толькі са знакам якасці <…> Гэта значыць, што ён прадстаўляе вышэйшы па якасці ўзровень, больш адукаваны”[49].

Наступствы сувязі з расіянамі і іх культурай, што трывала пакаленнямі, адлюстраваны ў выніках даследаванняў, датычных пытанняў, ці быць беларусам асобным народам, ці адгалінаваннем аднаго, агульнага з рускімі і ўкранцамі (гл. табліцу 2). Беларусы даюць адказы, падобныя да расіян, хоць прыхільнікаў адгалінавання агульнага народа ўсё ж на 10% меней (параўнайце з табліцай 1). Апошняе не павінна здзіўляць, калі прыняць ўвагі паступовае прызвычаенне да жыцця ў межах асобнай краіны, і гэта вызначае вельмі павольны працэс у бок эмансіпацыі і прававой самастойнасці. Мяркую, нас больш павінна было б здзівіць іншае – чаму працэс фармавання самастойнасці працякае тут так слаба і запаволена.

**Табліца 2.** “Беларусы, рускія і ўкраінцы – гэта асобныя народы ці тры адгалінаванні аднаго народа?” %[50].

| | **2006 жнівень** | **2009 снежань** |
|---|---|---|
| Тры адгалінаванні аднаго народа | 65,7 | 66,5 |
| Асобныя народы | 28,3 | 30,6 |
| Устрымаюся / Не ведаю | 6,0 | 2,9 |

Больш глыбокі аналіз дадзеных НІСЭПД 2009 г. выводзіць на тое, што “тры адгалінаванні” падтрымліваюць – калі ўлічваць графічную выяву вынікаў – перш за ўсё старэйшыя групы насельніцтва, а не маладзейшыя, менш

[49] Г. Иоффе, В тупике этнического национализма, [у:] Будущее Беларуси. Взгляд независимых экспертов, под ред. О. Манаева, С.-Петербург 2012, с. 164.

[50] “Новости НИСЭПИ”, выпуск 3, верасень 2006 г., с. 58 (табліца 25); выпуск 4, снежань 2009 г., с. 32 (табліца 53).

адукаваныя, пенсіянеры, жыхары вялікіх гарадоў, а таксама Гомельская вобласць (79,9%) і горад Мінск (75,1%), а вось Гарадзенская (58,6%) і Берасцейская (55,8%) вобласці[51] апынуліся напрыканцы спіса. Такія звесткі наводзяць на думку, што з цягам часу пачуццё прыналежнасці да агульнарускага народа павінна слабець, хоць больш гэта падобна на гіпотэзу, а ў беларускім грамадстве да такога тыпу экстрапаляцыі трэба падыходзіць асцярожна (асабліва калі пераход да наступных узроставых катэгорый у вялікай колькасці выпадкаў спалучаецца са зменай поглядаў)[52]. Як таго і можна было б чакаць, паводле вынікаў даследавання пачуццё асобнага народа ўзмацняецца ў заходнім кірунку. Мінск жа – гэта спецыфічны культурны комплекс, дзе рускага насельніцтва жыве больш чым дзе, поўна розных адміністрацыйных работнікаў, прадстаўнікоў улады і, адпаведна, прарасійскіх інтарэсаў, але тут жа шмат і "лібералаў" ва ўсходнім разуменні гэтага слова, апазіцыйных асяроддзяў. Тут жыве несельніцтва, якое масава глядзіць расійскае тэлебачанне і ў культурным сэнсе адкрыта на ўсход, а ў эканамічных спадзяваннях – на захад, на рынкавыя сістэмы каштоўнасцяў. З дадзенымі табліцы 2 цесна звязана пытанне, задаванае беларусам у сакавіку 2005 г.: «Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін заявіў, маўляў, "мы і беларусы, калі казаць сур'ёзна, складаем адзін народ". Як Вы ацэньваеце гэтае выказванне?». З заявай Пуціна пагадзіліся 56,8% апытаных, 31,7% не пагадзіліся, але паставіліся да такой заявы расійскага прэзідэнта спакойна, толькі 4,3% былі катэгарычна не згодны з гэтым выказваннем і нават абураны[53]. Тая большасць,

[51] "Новости НИСЭПИ", выпуск 4, снежань 2009 г., с. 54–55 (табліца 18.1–18.5).

[52] Тым больш што ў такіх самых даследаваннях за 2006 г. не была прадстаўлена, як тут, залежнасць ад катэгорыі "адукацыя", а на пачатку спіса з пункту гледжання прыхільнасці да "трох адгалінаванняў" былі Магілёўская (87,3%) і Мінская вобласці без Мінска (74,8%): тамсама, выпуск 3, верасень 2006 г., с. 71–72.

[53] А. Соснов, Российско-белорусские отношения в зеркале общественного мнения, "Новости НИСЭПИ", выпуск 2, чэрвень 2006 г., с. 114 (табліца 1) – электронная версія; гл. таксама

што ўхваліла выказванне, пацвердзіла факт прыналежнасці да супольнага з расіянамі народа, аднак, што заканамерна, гэты працэнт прыхільнікаў быў ніжэйшы, чым пры адказе на пытанне пра "тры адгалінаванні". Адказы на два гэтыя пытанні пацвярджаюць па-ранейшаму моцную прывязанасць беларусаў да "агульнарускага народа". Як у выпадку з расіянамі беларусы таксама не ўспрымаюць Расію замежнай краінай: у чэрвені 2010 г. гэта пацвердзіла 79,4% апытаных, а замежнай краінай усходняга суседа лічаць толькі 17,4% беларусаў[54].

Прапаную найноўшыя даследаванні з 2013–2014 г., што на розных узроўнях дэманструюць характар беларуска-рускіх сувязяў, а таксама адзінства беларусаў і іх адасобленасць як ад Расіі, так і ад Захаду. Няма сумненняў, што арыентацыя беларусаў на Усход больш моцная, чым на Захад, хоць, нягледзячы на гэта, назіраецца ўзмацненне беларускай адасобленасці. Аднак беларусаў характарызуе найперш лабільнасць і пасіўнасць. Яна вынікае з высокай ступені іх саветызацыі і нізкай ступені нацыяналізацыі, недахопу традыцыі супрацiву і працы элітаў. Рызыкнуў бы выказаць меркаванне, што беларусы яшчэ не пераадолелі той бар'ер, пасля якога супольнасць (і яе вытворная адзінка – дзяржава) з'яўляецца настолькі моцнай (самастойная і адасобленая ад іншых) і так эмацыйна падтрымліваецца грамадзянамі, што можа справіцца са знешнімі (неваеннымі) выклікамі і сама сабой кіраваць, выпрацоўваючы паняцце нацыянальнага інтарэсу – і стварыць інстытуцыі для рэалізацыі гэтага інтарэсу. Беларусы не дасягнулі фазы "С", якую вылучаў Міраслаў Грох, што азначае з'яўленне масавага

больш падрабязныя дадзеныя з гэтых даследаванняў у: "Новости НИСЭПИ", выпуск 3, верасень 2006 г., с. 34–35.

54 "Новости НИСЭПИ", выпуск 2, чэрвень 2010 г., с. 48 (табліца 15). Даследаванні, праведзеныя некалькі гадоў раней, былі прадстаўлены мною ў: R. Radzik, Kulturowo-cywilizacyjna tożsamość społeczeństwa Białorusi, [у:] Białoruś w stosunkach międzynarodowych, red. I. Topolski, Lublin 2009, s. 39–75; idem, What future for Belarus? An analysis of identity issues, "Sprawy Narodowościowe. Seria Nowa" 2013, z. 42, s. 7–35; idem, Multiple Identities of Belarusians [у:] Sociology from Lublin, ed. R. Radzik, B. Szajkowski, A. Wysocki, UMCS, Lublin 2014, p. 73–108.

нацыянальнага руху, пакольки беларускі нацыянальны рух ніколі не атрымліваў падтрымкі большасці грамадства, такая ж сітуацыя і сёння[55]. Моц згаданага вышэй нацыянальнага адзінства беларусаў была ўжо даследавана, хоць толькі на ўзроўні суб'ектыўных пачуццяў грамадзян. На пытанне "Як Вы мяркуеце, на якой стадыі фармавання знаходзіцца нацыянальная свядомасць беларусаў?" у чэрвені 1993 г. і ў 2013 г. адпаведна былі атрыманы адказы: "На вельмі высокім ўзроўні" – 0,7% і 2,9%; "На высокім узроўні" – 4,5% і 18,3%; "На сярэднім узроўні" – 48,0% і 37,5%; "На слабым узроўні" – 31,6% і 26,2%; "На зусім слабым узроўні" – 10,0% і 11,7%. Такім чынам, назіраецца рост ступені фармавання нацыянальнай свядомасці і, што цікава, гэтаму значна спрыяў фактар даверу да прэзідэнта краіны, таксама гэтую групу больш папаўняла насельніцтва ва ўзросце вышэй за 60 гадоў, а не ва ўзросце 18–30 гадоў[56]. З гэтымі даследаваннямі суадносіцца пытанне "Ці Вы лічыце сябе патрыётам Беларусі?". "Вядома, лічу" адказалі 26,4% рэспандэнтаў; "Хутчэй за ўсё, так" – 45,2%; "Хутчэй за ўсё, не" – 20,9%; "Вядома, не" – 4,3%. Найбольш патрыятычна выказвалася ўзроставая група з паказчыкам больш за 60 гадоў, з пачатковай адукацыяй, пенсіянеры, жыхары Мінска і Мінскай вобласці (апошняй у спісе была Берасцейская вобласць)[57]. Можна меркаваць, што нацыянальная самасвядомасць, як і патрыятызм, успрымаюцца часткай рэспандэнтаў па-савецку, як любая адасобленасць (не абавязкова нацыянальная), асабліва ад Захаду. Гэтаксама рэгіянальна ўспрымаецца беларускасць. У іх узнікае пачуццё гонару перад лозунгам тыпу "мы перамаглі ў II сусветнай вайне". Прыклады такой пазіцыі – найперш на ўсходзе Беларусі, асабліва сярод старэйшых пакаленняў. Яны не столькі адасабляюць, колькі далучаюць беларусаў да расіян і расійскасці.

Такі тып мыслення выразна спалучаецца з палітыкай прэзідэнта Беларусі і яго ідэйна-ідэалагічнымі практыкамі.

[55] M. Hroch, Social Preconditions of National Revival in Europe, Cambridge 1985, p. 23.

[56] "Новости НИСЭПИ", выпуск 2, чэрвень 2013 г., с. 15 (табліца 24).

[57] Тамсама, выпуск 4, снежань 2013 г., с. 27 (табліцы 7.1–7.5).

Як мяркуе Мікола Рабчук, “эгалітарны нацыяналізм Лукашэнкі не толькі ніяк не пярэчыць традыцыйнай панрускай (і пансавецкай) аўтаідэнтыфікацыі беларусаў, але зусім натуральна з яе вынікае і ёю мацуецца. З пункту гледжання асноўных каштоўнасцяў такая ідэнтычнасць падтрымлівае ў Беларусі антызаходнія, антысучасныя і па сутнасці антымадэрнізацыйныя тэндэнцыі. Зрэшты, нешта падобнае адбываецца ў Расіі і Украіне, дзе падобная ідэнтычнасць і яе ідэалагічнае ўвасабленне маюць такі ж самы рэакцыйны ўплыў на нацыянальнае грамадства. Ва ўсіх трох краінах падкрэсліванню фундаментальнай “іншасці”, убудаванай у еўразійска-ўсходнеславянска-праваслаўную цывілізацыю, спадарожнічае адмаўленне заходніх каштоўнасцяў і сацыяльных інстытутаў, уключна з паняццем правоў чалавека, грамадзянскай нацыянальнай ідэнтычнасці, а таксама ліберальна-дэмакратычнай дзяржавы-нацыі – як адзінай сучаснай альтэрнатывы для дасучаснай патрыманіяльнай імперыі. Праваслаўна-ўсходнеславянская “умма” – “*русский мир*” – забяспечвае ва ўсіх трох краінах ідэалагічную абслугу самаразбуральнай вайне з Захадам і бесперспектыўнае захаванне ў іх дасучасных нормаў, звычаяў, практык і інстытуцый”[58].

У выніку ўсяго гэтага беларусы ў сваёй значнай колькасці жывуць усё яшчэ ў свеце савецка-беларускіх і савецка-расійскіх сімвалаў. Як і раней, яны абіраюць постсавецкую дзяржаўную сімволіку, у адрозненне ад той, што з’явілася ў першыя гады незалежнасці (да 1995 г.)[59]. Іх ідэалу палітыка найбольш адпавядаюць такія дзеячы, як А. Лукашэнка (20,9%), П. Машэраў (19,8%), У. Пуцін (19,8%) і Пётр I (12,1%), што адназначна дэманструе шчырую беларускую культурную і палітычную падтрымку Расіі і савецкасці[60]. На пытанне, да якога народа яны найбольш падобныя з пазіцыі нацыянальнага характару, культуры, традыцыі, у чэрвені 1993 г. і 2013 г. рэспандэнты-беларусы адпаведна

[58] M. Riabczuk, Wschodniosłowiańska “umma”..., s. 369.

[59] “Новости НИСЭПИ”, выпуск 2, чэрвень 2014 г., с. 13 (табліца 21).

[60] Тамсама, выпуск 1, сакавік 2013 г., с. 24 (табліца 46) – на пазіцыях, што ідуць па чарзе, апынуліся Маргарэт Тэтчэр, Кастусь Каліноўскі і Кацярына II.

адказвалі: на рускіх – 50,8% і 46,9%; на палякаў – 14,4% і 10,3%; на ўкраінцаў – 8,9% і 5,3%; на заходніх еўрапейцаў – 1,1% і 3,4%; на літоўцаў – 0,9% і 1,5%; “беларусы ні на каго не падобныя” – 14,6% і 28,6%[61]. Як ва ўзгаданых, так і ў шмат якіх іншых даследаваннях можна назіраць тэндэнцыю ўсё большага руху на шляху самастойных рашэнняў, да пэўнай ступені і адыходу ад Расіі і Захаду, выбар на ўзроўні свядомасці грамадства – аднак пад прыкметным уздзеяннем рыторыкі прэзідэнта Лукашэнкі – уласных шляхоў развіцця. Разам з тым калі электарату Лукашэнкі задавалася пытанне пра далучэнне да Расіі ці да Еўразвязу, то выбіралася адназначна Расія (у 2013 г. 54,9%; ЕЗ – 20,4%)[62]. Паміж 2003 і 2013 г. у рэпрэзентатыўных даследаваннях, якія ахаплялі ўсё беларускае грамадства, было зафіксавана значнае зніжэнне прыхільнага стаўлення да пазіцыі, згодна з якой Беларусь цягам найбліжэйшых 10 гадоў увойдзе ў склад Расіі – з 33,4% да 18,0%, хоць адначасна ўзрос працэнт тых, хто мяркуе, што пры ўмовах захавання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі яе залежнасць ад Расіі павялічыцца – з 34,9% да 37,9%[63]. У яшчэ адным апытанні беларусы сцвярджалі, што праз 10 гадоў яны больш зблізяцца з Расіяй – 63,8%, чым з ЕЗ – 19,2%[64].

Ужо шмат гадоў праводзяцца даследаванні на тэму магчымага далучэння Беларусі да Расіі або да ЕЗ. У розныя гады беларусы па-рознаму выказваліся за далучэнне да таго ці іншага боку, – у залежнасці ад палітычнай ці эканамічнай сітуацыі ў краіне і ў яе атачэнні. У даследаваннях з сакавіка і чэрвеня 2014 г. пры выбары Расіі ці ЕЗ большасць схілялася да ўсходняга суседа: у сакавіку – 51,5%, а за ЕЗ – 32,9%, у чэрвені – 46,9% за Расію і 33,1% – за ЕЗ, хоць у 2013 г. прэферэнцыі былі іншыя. Напэўна, яны змяніліся пад уплывам канфліктнай сітуацыі ва Украіне, калі ўзнікла думка, што прыхільнае стаўленне да ЕЗ можа

[61] Тамсама, выпуск 2, чэрвень 2013 г., с. 16 (табліца 25).
[62] Тамсама, выпуск 1, сакавік 2013 г, с. 23 (табліца 43). Ва ўсім беларускім грамадстве Расію падтрымлівалі тады 37,2% рэспандэнтаў, Еўразвяз – 42,1%: тамсама, с. 22 (табліца 41).
[63] Тамсама, выпуск 3, верасень 2013 г., с. 16 (табліца 31).
[64] Тамсама, выпуск 1, сакавік 2014 г., с. 39 (табліца 14.1).

даць такія ж фатальныя наступствы, як гэта здарылася ва Украіне. Калі ж трэба было вызначыцца, далучацца да Расіі ці не (важна, што тут не падавалася опцыя Еўразвяза), то беларусы выказвалі сваё выразнае нежаданне магчымага далучэння да Расіі (у сакавіку: супраць – 47,7%; за – 29,3%, у чэрвені адпаведна: 54,8% і 24,8%), што можна інтэрпрэтаваць як частковае пацверджанне тэзіса пра абранне ўласнага шляху развіцця і далейшага адасаблення ад Расіі. Беларусы выказваюцца падобным чынам ужо шмат гадоў. Яны былі таксама супраць уступлення ў ЕЗ (у сакавіку: супраць – 44,3%, за – 30,2%; аналагічна ў чэрвені: 50,8% і 27,4%) – у апошнія гады іх выбар характарызаваўся зменлівасцю стаўлення[65]. Шмат гадоў досыць адназначна гатовыя да злучэння з Расіяй, беларусы адышлі ад такой адназначнай пазіцыі ўзімку 2006/07 г. Вырашальнымі для гэтага сталі неаднаразовыя гаспадарчыя спрэчкі з Масквой, асабліва па коштах на газ.

Пры канцы 2014 г. Беларуская аналітычная майстэрня, што знаходзіцца ў Варшаве, правяла ў Беларусі даследаванні, у выніку якіх больш за 60% грамадства выказалася за саюз з Расіяй і толькі 18% за ўступленне ў ЕЗ (амплітуда паміж дзвюма опцыямі была нашмат большая, чым пры даследаваннях НІСЭПД). Такім чынам, і на прыкладзе гэтых даследаванняў відаць, што беларусы абіраюць больш бяспечную інтэграцыю з Расіяй, пазбягаючы праеўразвязаўскіх варыянтаў[66]. Кіраўнік майстэрні Андрэй Вардамацкі пракаментаваў гэта наступным чынам: “Папершае, выявілася, што ўплыў падзей ва Украіне на жыццё беларусаў настолькі вялікі, што ён фармуе іх погляды на больш шырокае кола пытанняў, а не толькі ўкраінскае, у тым ліку вызначае і геапалітычныя арыенціры, і ўзровень эканамічнага самаадчування. Па-другое, у меркаваннях беларускага грамадства адназначна пераважае расій-

[65] Тамсама, выпуск 2, чэрвень 2014 г., с. 14 (табліцы 24, 25 і 26).

[66] Як вынікае з іншых даследаванняў, далучэнне да Расіі (саюз з ёю) большасць удзельнікаў даследавання разумее не як поўнае паглынанне беларускай дзяржаўнасці Расіяй, а як магчымасць рознай ступені інтэгравання з ёю.

ская канцэпцыя"[67]. Але разам з тым сярод беларусаў, якіх апыталі ў даследаваннях БІСД (BISS) (ці яны гатовыя былі вытрымаць негатыўныя наступствы рэформаў дзеля "моцнай, самастойнай, незалежнай Беларусі"), 48,1% падтрымалі такі варыянт, што сведчыць пра схільнасць да абрання ўласнага шляху развіцця. Расійскі ж варыянт – хоць ён і блізкі ў культурным плане – абіраецца з палітычных падстаў, у сувязі з нежаданнем негатыўнай рэакцыі Расіі на магчымае збліжэнне Беларусі з Захадам[68]. Паводле меркавання Валерыя Карбалевіча, украінскі крызіс паглыбіў падзел, што існаваў у беларускім грамадстве, "выцягнуў на паверхню глыбокія ментальныя архетыпічныя каштоўнасці беларускага соцыуму"[69].

З даследаванняў НІСЭПД вынікае, што мінуў той час, калі больш за 30% беларусаў выказваліся за страту незалежнасці коштам далучэння да Расіі – як гэта было яшчэ ў другой палове 90-х г. Як паказвае табліца 3, на працягу апошніх адзінаццаці гадоў значна вырас працэнт беларусаў, якія выказваюцца за адносіны з Расіяй на тых жа прынцыпах, што і з іншымі дзяржавамі СНД. Рызыкнем сцвердзіць, што рэзкае ўзрастанне прыхільнікаў гэтай опцыі ў чэрвені 2014 г. адбылося пад уздзеяннем расійска-ўкраінскага канфлікту, асабліва падзей на ўсходзе Украіны, і тлумачыцца занепакоенасцю беларускага грамадства, што такі сцэнар можа паўтарыцца і ў іх дзяржаве. Пры гэтым, як і раней, вялікую прыхільнасць захоўвае цесны саюз абедзвюх дзяржаў, мацнейшы, чым адносіны з іншымі краінамі СНД (падтрымку Еўразійскаму гаспадарчаму звязу выказвае на Беларусі 49,8%, супраць – 29,6%)[70]. Прыхільнасць да цеснага злучэн-

[67] Андрей Вардомацкий: Белорусы "развернулись" от Европы к России, "Белорусский партизан", 11 июня 2014 г. (запіс 11 чэрвеня 2014 г.) http://www.belaruspartisan.org/politic/269604/

[68] Готовы терпеть от реформ ради будущего?, "Свободные новости. Снплюс" 1 июля 2014 г., с. 1. У тых самых даследаваннях еўрапейскую дарогу развіцця і інтэграцыю з ЕЗ падтрымалі толькі 10,5% беларусаў.

[69] В. Карбалевич, Вырваться из колеи, "Свободные новости. Снплюс", 1 июля 2014 г., с. 2.

[70] "Новости НИСЭПИ", выпуск 2, чэрвень 2014 г., с. 15 (табліца 28).

ня дзвюх дзяржаў або непасрэднага ўключэння Беларусі ў склад Расіі вельмі выразна знізілася. Ад часу, калі Беларусь стала незалежнай краінай, мінула 23 гады, вырасла новае пакаленне, якое не памятае або амаль не памятае часы СССР. Яно не ведае іншых рэалій, як самастойная краіна, таму яе існаванне лічыць нормай. Тым больш калі Беларусь з'яўляецца на фоне Украіны прыкладам гаспадарчага прагрэсу, са значна меншым сацыяльным расслаеннем, чым у Расіі, што для грамадства з трывалымі сялянскімі традыцыямі мае вялікае значэнне. На фоне Беларусі ў Расіі толькі Масква і Санкт-Пецярбург падаюцца аазісам дабрабыту (сярэдні даход на адзінку насельніцтва ў Расіі толькі на 13% вышэйшы, чым на Беларусі, ва Украіне ж ён удвая ніжэйшы).

**Табліца 3.** Дынаміка адказу на пытанне: "Які з варыянтаў інтэграцыі Беларусі і Расіі вы падтрымалі б асабіста?" (%)[71].

| **Варыянт адказу** | Беларусь і Расія павінны стварыць саюз незалежных краін, цесна звязаных як палітычна, так і эканамічна | Адносіны Беларусі і Расіі павінны быць такія ж, як з іншымі краінамі СНД | Беларусь і Расія павінны стаць адной дзяржавай, з адзіным прэзідэнтам, урадам, арміяй, сцягам, валютай і да т. п. |
|---|---|---|---|
| 03'03 | 48.0 | 19.3 | 25.6 |
| 06'04 | 49.7 | 25.5 | 15.5 |
| 12'05 | 52.3 | 20.7 | 12.0 |
| 08'06 | 52.2 | 29.1 | 14.4 |
| 12'07 | 43.8 | 36.3 | 13.1 |
| 12'08 | 43.9 | 31.0 | 12.1 |
| 03'09 | 44.0 | 35.8 | 10.9 |
| 06'12 | 53.7 | 28.5 | 13.0 |
| 06'14 | 43.5 | 42.5 | 9.8 |

Як аналіз пададзеных тут звестак і шмат якіх іншых даследаванняў, праведзеных у апошнія часы, так

[71] Тамсама, с. 15 (табліца 27).

і штодзённыя паводзіны беларусаў сведчаць, што ў сваёй асноўнай масе – уключна з уладамі краіны – яны цалкам акцэптуюць знаходжанне ў расійскім культурным коле, іх задавальняе карыстанне ў штодзённым жыцці рускай мовай. Разам з гэтым беларусы з'яўляюцца прыхільнікамі палітычнай самастойнасці Беларусі, хоць, як паказваюць даследаванні, адносна малая колькасць грамадзян выказвае гатоўнасць адстойваць свой незалежны край у выпадку, калі гэтаму стану нешта пагражала б[72]. Большасць беларусаў глядзіць на падзеі ў свеце і ў блізкім атачэнні праз прызму расійскіх сродкаў масавай інфармацыі. Як вынікае з даследаванняў, двойчы праведзеных у Беларусі ў 2014 г., падзеям на Майдане і расійска-ўкраінскаму канфлікту ў Крыме і на ўсходзе Украіны, што адбыўся ўслед за Майданам, беларусы даюць ацэнку, падобную да меркаванняў расіян (хоць не цалкам гэтыя ацэнкі аднолькавыя), і яна прынцыпова іншая, чым, для прыкладу, у палякаў. У чэрвені 2014 г. 62,2% беларускіх рэспандэнтаў пагадзілася з меркаваннем, што далучэнне Крыма да Расіі – "гэта вяртанне Расіі яе гістарычных рускіх зямель, устанаўленне гістарычнай праўды", тады як меркаванне, што гэта "імперскі захоп, акупацыя", пацвердзілі толькі 26,9% беларусаў[73]. У тых самых даследаваннях толькі 18,1% апытаных палічылі, што Беларусь павінна імкнуцца да ўступлення ў NATO, а адваротнага меркавання прытрымліваліся 61,8%[74].

Незалежна ад таго, як самі беларусы размяшчаюць сябе на карце, дзе назіраецца наяўнасць цывілізацыйна-культурнага падзелу кантынента, сістэма каштоўнасцяў і сацыяльнага погляду на свет адносіць іх да расійскага культурнага кола, хоць яны не рускія, і такімі сябе не лічаць,

[72] Пытанне з чэрвеня 2014 г. гучала: "Калі б Расія ўсё ж цалкам далучыла да сябе Беларусь або яе частку, што б вы рабілі ў такой сітуацыі?". Былі атрыманы такія адказы: "Абараняўся б са зброяй у руках" – 14,2%; "Давялося б прыстасавацца да новай сітуацыі" – 47,7%; "Вітаў бы такія змены" – 16,5%; "Няма адказу / Не ведаю" – 21,6%: "Новости НИСЭПИ", выпуск 2, чэрвень 2014 г., с. 23 (табліца 49).

[73] "Новости НИСЭПИ", выпуск 2, чэрвень 2014 г., с. 16 (табліца 31): "Няма адказу / Не ведаю" – 10,9%.

[74] Тамсама, с. 24 (табліца 53): "Няма адказу / Не ведаю" – 20,1%".

тым больш што розніца абодвух грамадстваў выразна заўважальная. Больш за тое, за гады незалежнасці Беларусі ўмацаваліся тыя стэрэатыпы, што адрозніваюць беларуса ад рускага і асабліва экспануюць пазітыўныя рысы беларусаў і негатыўныя рускіх[75]. Разам з тым на пытанне, у якой меры беларусам падыходзіць заходні (заходнееўрапейскі ці амерыканскі) узор сацыяльнага ладу, толькі 10,3% з апытаных палічылі, што ён ім цалкам падыходзіць, 38,3% адказалі, што яго трэба было б прыстасаваць да беларускіх умоў, а 37,5% па-рознаму адмаўлялі яго[76]. Трэба ўлічваць, што беларусы (як і рускія) з зацікаўленасцю глядзяць на Еўропу галоўным чынам (найбольш гэта тычыцца расіян) з-за яе матэрыяльнага дабрабыту, адсюль, відаць, вынікае і адносна высокая падтрымка магчымасці прыстасавання заходняга ўзору сацыяльнага ладу да беларускіх умоў. Разрозненасць поглядаў беларусаў мае іншы кантэкст, чым, напрыклад, палякаў. Яна датычыць падставовых пытанняў іх цывілізацыйнай арыентацыі на лініі Усход – Захад, тады як у Польшчы падобнага не адбываецца.

Ва ўсім беларускім грамадстве вельмі адчувальная (як, дарэчы, і ў Расіі) прысутнасць амаральнага тыпу *homo sovieticus*'а, паколькі беларускія рэаліі – адміністрацыйныя, палітычныя, у меншай меры ідэалагічныя (хоць "ідэалогія беларускай дзяржавы" масава распаўсюджваецца, і не толькі ў школах і ўніверсітэтах), па-ранейшаму больш блізкія да савецкіх, чым нацыянальных ці ліберальных у заходнім разуменні. Разам з паступовым прызвычаеннем да самастойнай беларускай дзяржаўнасці фармуецца – і гэта выклікае непакой з пункту гледжання беларускай суб'ектнасці – пазіцыя нацыянальнага (этнічнага) індыферэнтызму. Паводле даследаванняў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ад 2008 г., 25,7% беларусаў адносілі сябе да тых (па шкале ад

[75] Гл.: R. Radzik, Białorusini: między narodową odrębnością a ruską wspólnotowością, "Rocznik Instytutu Europy Środkowo-Wschodniej" 2013, z. 2, s. 22–23; таксама: Беларусь и мир: геополитический выбор и безопасность сквозь призму экономики и культуры, BISS, SA#01/2010RU, 1 чэрвеня 2010 г., с. 4–5.

[76] Тамсама, выпуск 3, верасень 2013 г., с. 10 (табліца 16): "Няма адказу / Не ведаю" – 13,9%.

мінімальнай да максімальнай ступені ацэнкі), каму цяжка вызначыцца з уласнай нацыянальнасцю (у 2002 – 15,1%; 2004 – 21,1% – што сведчыць пра ўзрастанне гэтага паказчыка). А вось "я – рускі чалавек" (таксама па шкале ад мінімальнай да максімальнай ступені ацэнкі) у 2002 г. адзначылі сябе 29,9% рэспандэнтаў, у 2004 г. – 40,8%, а ў 2008 г. – 46,6%, што паказвае на ўзрастанне яшчэ аднаго паказчыка, прынамсі на той перыяд часу[77]. Сцвярджэнне "я – рускі чалавек" не выключала адначасовага быцця беларусам. Можна заўважыць, што культурная беларускасць застаецца слабым пасрэднікам на шляху да адзінства (асабліва ў канфрантацыі з добра вядомай і так высока цанёнай расійскай культурай), тым больш для маладога пакалення, якое можа абіраць найбольш прывабныя праявы гэтага свету лягчэй, чым у ранейшыя часы. Гэта не абяцае бясхмарнай будучыні, асабліва з улікам таго, што беларуская дзяржаўнасць не мае моцных гаспадарчых падстаў і – гаворачы далікатна – не забяспечвае сваім грамадзянам шырокіх свабод. Прызвычаенасць жыць у Рэспубліцы Беларусь, якая гарантуе стабільнасць жыцця на ўзроўні мінімальных патрэбаў і сацыяльных пакетаў, не абапіраецца на моцныя эмоцыі, якія дае гістарычная традыцыя, адчуванне свабоды, ідэя нацыі, што злучае адзінкі ў супольнасць, і ў цяжкія часы (беручы пад увагу гаспадарчы крызіс і суседства з Расіяй) яе можа аказацца недастаткова, каб перажыць выпрабаванні.

Трэба звярнуць увагу і на тое, што прэзідэнт Беларусі выказвае ідэю дзяржаўна-палітычнага сепаратызму ад расіян, але не культурнага і нацыянальнага. Больш за тое, ён бярэцца за спробы эмансіпацыі беларускасці, але ў рамках агульнарускага народа, бо ўздымае беларусаў на парадак вышэй сваім сцвярджэннем, што беларусы з'яўляюцца рускімі са знакам якасці, то бок, яны лепшыя рускія, чым самі рускія, але – не іншыя. Гэта выходзіць па-за еўрапейскія катэгорыі мыслення пра нацыю і стварае інтэрпэтацыйныя праблемы, з чым мае клопат шмат даследчыкаў.

[77] Л. И. Науменко, Белорусская идентичность. Содержание. Динамика. Социально-демографическая и региональная специфика, Минск 2012, с. 134 (табліца 4.11), 136 і 200 (табліца П.2).

## 3. Украінцы

Калі ў 1991 г. паўстала незалежная Украіна, нацыянальная сітуацыя ў ёй была неаднароднай. Цалкам нацыяналізаваным было грамадства земляў, якое наследавала еўрапейскія ўзоры фармавання нацый, асабліва ў Галіцыі, ствараючы, праўда, і нацыяналізмы ў іх крайняй форме, якія выявіліся пад час II сусветнай вайны. Украінскі народ Галіцыі ў большасці ніколі не атаясамліваўся з расійскай канцэпцыяй трыадзінага рускага народа, хоць былі перыяды, калі здараліся ў гэтай супольнасці праявы "маскалефільства". Украінцы Валыні, па сутнасці, адышлі ад гэтай канцэпцыі па меры фармавання нацыянальнай супольнасці, хоць праваслаўе, што зразумела, часткова лучыць іх культуру з шырока разуметай рускасцю (неабавязкова маскоўскага тыпу). Заіснавалыя на гэтай тэрыторыі нацыяналізмы былі ў савецкія часы замарожаны, але – падобна, як у Югаславіі – не знішчаны, таму яны абудзіліся пасля 1991 г. Што тычыцца Прыдняпроўскай Украіны, якая ўваходзіла ў І Рэч Паспалітую, то яна ніколі не была цалкам нацыяналізавана, хоць менавіта на гэтым абшары, асабліва ў Кіеве, узніклі нацыянальныя асяродкі, а на ўзроўні ўсёй супольнасці жыхароў гэтых земляў захаваліся некаторыя каштоўнасці заходняга тыпу, або, калі казаць больш дакладна, захавалася глеба для іх вяртання, у тым ліку для пашырэння нацыятворчых працэсаў заходняга тыпу. Зусім іншае стаўленне да ўкраінскасці назіраецца на абшарах былой т. зв. Наваросіі, інакш кажучы, на землях, якія ніколі не ўваходзілі ў межы Рэчы Паспалітай, а былі часткай Расіі або Крымскага ханства. Гэтая тэрыторыя не з'яўляецца аднароднай, аднак большая частка яе насельніцтва гаворыць выключна па-руску, асабліва ў гарадах, і лічыць сябе ў большасці (гэта не тычыцца Крыма[78]) украінцамі

[78] У 2008 г. Цэнтр Разумкова правёў даследаванні ў Крыме, задаўшы пытанне: "З якой культурнай традыцыяй Вы сябе ідэнтыфікуеце?", на якое атрымаў адказы – 55,5% з рускай; 14,6% з савецкай; 8,6% з украінскай; 8,3% з крымска-татарскай; 7,4% з агульнаеўрапейскай: Цэнтр Разумкова, 18 кастрычніка –

і адначасова рускімі, цесна звязана з расійскай культурай, у тым ліку ў той ці іншай ступені з аднясеннем сябе да агульнарускага адзінства[79].

Думаю, можна выказаць меркаванне, што з розных пунктаў гледжання (асабліва ў сэнсе цывілізацыйнай прыналежнасці) жыхары даўнейшай Галіцыі сваёй сістэмай каштоўнасцяў і паводзінамі больш падобныя на палякаў[80], чым на насельніцтва Данецкай і Луганскай абласцей, хоць украін-

9 лістапада 2008 г. (усе даследаванні, што праводзіліся гэтай установай і былі цытаваныя ў дадзеным тэксце, прытрымліваліся рэпрэзентацыйнай пробы), http://www.razumkov.org.ua/ukr/poll.php?poll_id=394 (запіс 18 жніўня 2014 г.). Праз год у жыхароў Крыма спыталіся "Ці расіяне і ўкраінцы – гэта адзін народ (сацыяльна-культурная супольнасць) ці два народы?", на што былі атрыманы адказы: гэта адзін народ – 55,8%; розныя народы – 34,7%; цяжка вызначыцца – 9,5%: тамсама, 7–20 траўня, http://www.razumkov.org.ua/ukr/poll.php?poll_id=471 (запіс 18 жніўня 2014 г.)

79 З даследаванняў Цэнтра Разумкова ў 2005 г., што праводзіліся па ўсёй Украіне па пытанні "Наколькі падобныя ці не падобныя культурныя праявы, традыцыі і погляды акрэсленых груп насельніцтва?", вынікае, што ўкраінцы заўважаюць вялікае падабенства (блізкасць) дзвюх культур – украінскай і рускай, у нейкім сэнсе выключаючы з гэтага падабенства заходнюю частку краіны (асабліва моцна гэтая блізкасць адзначалася на поўдні краіны, а таксама на ўсходзе). Падабенства да краін Еўразвяза ва ўсіх рэгіёнах Украіны лічылася вельмі малым, і асабліва мала яго бачылі ў паўднёвым рэгіёне. Розніца паміж Галіцыяй і Данбасам адзначалася ва ўсіх рэгіёнах Украіны – больш бачылася адрозных рысаў, чым падабенстваў. Больш за тое, адчуванне блізкасці з рускай культурай было мацнейшым, чым паміж Галіцыяй і Данбасам (ці цэнтрам краіны): Цэнтр Разумкова, 20 снежня – 27 снежня 2005 г., http://www.razumkov.org.ua/ukr/poll.php?poll_id=745 (запіс 18 жніўня 2014 г.).

80 Хоць у даследаваннях 2005 г. жыхары заходняй часткі Украіны (не толькі Галіцыі, але і Валыні), запытаныя, на які народ яны больш падобныя, адказалі, што на рускіх – 23,8%, на палякаў – 11,4% (палякі ва ўсіх рэгіёнах знаходзіліся на другой пазіцыі пасля рускіх – у сярэднім па ўсёй Украіне падабенства на рускіх адзначалі 54,2%; на палякаў – 7,0%): Цэнтр Разумкова, 20 снежня – 27 снежня 2005 г., http://www.razumkov.org.ua/ukr/poll.php?poll_id=773 (запіс 18 жніўня 2014 г.).

цамі сябе ў большасці лічаць і адны, і другія[81]. Насельніцтва названых абласцей больш падобнае на рускіх, чым на жыхароў Львова. У 1994 г. у Данецку і Львове былі анкетным метадам праведзены даследаванні грамадскай думкі. Гэтыя даследаванні выявілі вельмі моцную розніцу сацыяльна-палітычных прыхільнасцяў жыхарства абодвух гарадоў. Прыхільнікамі абвяшчэння незалежнасці Украіны ў 1991 г. былі 90,4% жыхароў Львова і толькі 28,0% жыхароў Данецка[82]. У адрозненне ад львавян большасць (57%) рэспандэнтаў Данецка былі прыхільныя да “новага аб’яднання” з Расіяй. «На шкале з сямі ступеняў, дзе пазіцыя 1 азначала, што “Украіна і Расія павінны быць поўнасцю незалежнымі адна ад адной дзяржавамі”, а пазіцыя 7 – што “Украіна і Расія павінны быць адной дзяржавай”, насельніцтва Львова апынулася на пазіцыі 2,20, а насельніцтва Данецка на 5,74»[83]. Такім чынам, мы назіраем вялікае рэгіянальнае адрозненне па такім істотным пытанні, як дзяржаўная самастойнасць ці супольнасць з Расіяй. Па такіх жа прычынах 74,4% жыхароў Львова пазітыўна, і нават вельмі пазітыўна, паставіліся да палітычных зменаў пасля 1991 г., у Данецку ж 88,2% паставіліся да іх негатыўна, і нават вельмі негатыўна. Жыхарам Данецка адчувальна не падабалася аддзяленне Украіны ад Расіі разам з палітычнымі пераменамі, што прыйшлі пасля распаду СССР. Прыкладам іншых выразных рэгіянальных разыходжанняў было б тое, што ў Львове найбольш не любілі камуністаў, а ў Данецку – нацыяналістаў[84].

[81] Нацыяналізм галіцыйскіх украінцаў, нягледзячы на яго негатыўныя праявы – традыцыі забойства людзей (найперш сярод жыхароў Валыні), прыклады служэння нацыстам у перыяд II сусветнай вайны, – мае еўрапейскія карані (як шмат іншых нацыяналізмаў у Еўропе), у адрозненне ад савецкасці, якая фармавалася ў Маскве, таму яна мае (не пагаджуся з меркаваннем Салжаніцына) выразна рускія культурныя карані, хоць і не толькі рускія.

[82] J. Hrycak, Po obu stronach Zbrucza? Regionalizm i tożsamość narodowa na Ukrainie po upadku Związku Sowieckiego, [w:] Tematy polsko-ukraińskie. Historia. Literatura. Edukacja, pod red. Roberta Traby, Olsztyn 2001, s. 135.

[83] Тамсама, с. 136.

[84] Тамсама.

Трэба дадаць, што ўсходняя частка Украіны з пункту гледжання ідэнтычнасці нагадвае Беларусь (на ўсходзе Украіны, аднак, пражывае большы працэнт рускага насельніцтва), але больш саветызаваная і зрусіфікаваная. Можна знаходзіць падабенствы паміж Беларуссю, асабліва заходняй, і цэнтральнай часткай Украіны, але ніяк не яе захадам. Гэта, зрэшты, даволі рызыкоўныя аналогіі. На згаданых абшарах (калі выключыць з агляду захад Украіны і часткова яе цэнтральную частку) нацыянальныя настроі вельмі часта атаесамляліся (што захавалася і цяпер) з нацыяналізмам як нечым надзвычай негатыўным (Майдан і ягоныя наступствы змяняюць гэтую сітуацыю, асабліва ў цэнтры краіны). Такое стаўленне вынікае не толькі з рэшткаў савецкіх практык, але і з культурна абумоўленай прэферэнцыі іншага тыпу “народа” ў рамках расійскай, праваслаўнай культурнай прасторы. Трыадзіны рускі народ адрозніваецца ад польскага ці чэшскага не толькі складанасцю сацыяльных сувязяў, але і іншымі зместамі “сацыяльнай базы”, што характарызуюць усходнеславянскія праваслаўныя згуртаванні. Гэта слабасць персанальнай пазіцыі, калектывізм, недастаткова сфармаваныя гарызантальныя сувязі пры моцных вертыкальных, нізкая сацыяльная актыўнасць (ініцыятыва), а нават калі яна праяўляецца, то кіруецца зверху, паўсакральны характар адзінства (рускага), штодзённая лабільнасць пазіцый і слабасць іх абавязкаў у нацыянальным маштабе, слабейшае пачуццё этнічнасці, інакш трактаваная мараль, наяўнасць інстытуцый, якія не трактуюць індывід, групу і ўсё грамадства ў якасці суб’ектаў, а дзейнічаюць для пераказу загадаў зверху ўніз, таму служаць інтарэсам улады, а не вырашэнню праблем, важных для грамадства, а таксама мацнейшае чым у Еўропе адчуванне катэгорыі “свой” – “чужы”.

Іншыя даследаванні, што праводзіліся ў 1996 г. у Львове і Данецку ў межах фокусных груп насельніцтва (працаўнікоў сярэдняга ўзросту), вызначылі, што данецкія групы ў вялікай меры гатовыя прыняць незалежнасць Украіны пры ўмовах, калі б такая дзяржава была стабільная, спраўна функцыянавала, што азначае інструментальнае

трактаванне такой катэгорыі, як незалежнасць краіны, адсутнасць стаўлення да яе як да бясспрэчнай грамадскай вартасці. Яны бачылі Украіну ў больш блізкіх адносінах з Расіяй, чым з Еўропай. Пры гэтым, што цікава, большасць удзельнікаў даследавання ў Данецку выказалася супраць федэралізацыі Украіны і хацела, каб іх рэгіён заставаўся ў межах Украіны. Жыхарства Львова ў адказе на пытанне, з якім абшарам яны сябе звязваюць, казалі, што іх айчына – Украіна. У Данецку гэта не было так відавочна. Указвалі і на Расію, і на Украіну, і толькі дадатковыя пытанні скіроўвалі апытаных на тое, што размова з імі вядзецца пра Украіну[85]. Задаваліся і іншыя пытанні. “Жыхары Львова былі схільныя сцвярджаць, што кожны сам павінен пра сябе клапаціцца, а ў Данецку насельніцтва хацела, каб урад выступаў гарантам працы і высокага стандарту сацыяльнага жыцця”[86]. Праведзеныя даследаванні дастаткова выразна ахарактарызавалі сітуацыю ў тагачаснай і пазнейшай Украіне.

Нельга, аднак, зводзіць розніцу паміж усходам і захадам Украіны толькі да ўзроўню нацыянальнай свядомасці (у тым ліку стаўлення да нацыянальнай мовы). Галоўным, базавым фактарам, які адрозніваў іх адказы, была ступень саветызацыі, якая, рызыкнем сказаць, пазітыўна карэлявала з мерай унутранага адчування рускасці як папярэдняга носьбіта савецкасці, і негатыўна – з узроўнем нацыяналізацыі, паколькі нацыянальная ідэалогія ўтрымлівала элементы, супярэчныя класавай, савецкай. Атрыманыя адказы наймацней залежалі ад рэгіянальнай прыналежнасці апытаных, таму рускамоўны ўкраінец сацыялізаваўся ў Львове ў асяроддзі, дзе каштоўнасці і пазіцыі большасці істотна адрозніваліся ад тых, якія дамінавалі ў Данецку, незалежна ад этнічнага (нацыянальнага) паходжання яго жыхароў. Такім чынам, Данецк (а ён з’яўляецца сімвалам савецкіх рэгіёнаў усходу) сацыялізаваўся ў прасавецкі бок, а Львоў – у пранацыянальны, за якім быў цэлы набор празаходніх каштоўнасцяў.

[85] J. Hrycak, Po obu stronach…, s. 136–137.
[86] Тамсама, с. 138.

Гэтым Украіна адрозніваецца ад Беларусі, дзе няма ніякага вялікага абшару, грамадства якога было б нацыянальна даспелым.

Цікавыя даследаванні тэмы далучэння Украіны да Расіі / да Мытнага саюза (МС) ці да Еўразвяза шмат гадоў праводзіліся рознымі сацыялагічнымі цэнтрамі (як гэта мела месца і ў Беларусі). Найноўшыя з тых, што былі мне даступныя, праведзены ў траўні 2014 г. і паказаны ў табліцы 4.

**Табліца 4.** "Калі б у найбліжэйшую нядзелю адбыўся рэферэндум па пытанні, да каго далучыцца Украіне – да Еўразвяза ці да Мытнага саюза з Расіяй, Беларуссю і Казахстанам, якую б Вы занялі пазіцыю?" %[87].

| | **Уся Украіна** | **Заходняя Украіна** | **Цэнтральная Украіна** | **Паўднёвая Украіна** | **Усходняя Украіна** |
|---|---|---|---|---|---|
| …Вы прагаласавалі б за ўступленне ў Еўразвяз | 46.8 | 82.3 | 57.9 | 28.3 | 11.7 |
| …Вы прагаласавалі б за ўступленне ў Мытны саюз з Расіяй, Беларуссю і Казахстанам | 27.1 | 4.6 | 11.8 | 36.7 | 63.3 |
| …або наогул не прымалі б удзелу ў такім рэферэндуме? | 12.2 | 5.5 | 11.5 | 18.3 | 14.2 |
| Цяжка сказаць / Не ведаю | 14.0 | 7.7 | 18.8 | 16.8 | 10.8 |
| Разам | 100.0 | 100.0 | 100.0 | 100.0 | 100.0 |

[87] Киевский международный институт социологии, 22 красавіка – 14 траўня 2014 г., табліца 2, даследаванні не ахопліваюць Крыма (усе даследаванні, што праводзіліся названым інстытутам і выкарыстаны ў гэтым тэксце, праводзіліся на прэзентатыўнай пробе), http://www.kiis.com.ua/?lang=rus&cat=reports&id=336&t=3&page=1 (запіс 27 жніўня 2014 г.).

Розніца паміж дзвюма асноўнымі опцыямі складала, з улікам выбару рэспандэнтаў, амаль 20% (46,8% – ЕЗ і 27,15 – МС), хоць яшчэ ў лютым 2014 г. яна была толькі 5,3%[88]. Фундаментальна зноў адрозніваліся ўсход і захад. Прыярытэтнасць уступлення ў ЕЗ перад Мытным саюзам залежала ад дзвюх акалічнасцяў. Па-першае, ЕЗ асацыюецца з заможным захадам, тады як МС пераважна з заможнасцю не асацыюецца. Па-другое, ЕЗ важны для заходняй часткі краіны, паколькі яна мае праеўрапейскую культурна-палітычную арыентацыю, стамілася ад карупцыі і недахопу выразнай мадэрнізацыі краіны. Ва ўсходняй і паўднёвай частцы Украіны пераважае прыхільнасць да МС, пры гэтым большая частка апытаных абірае там ЕЗ, чым на захадзе краіны абіралі МС, таксама большая колькасць рэспандэнтаў усходу ўстрымлівалася ад адказу – між іншым, з той прычыны, што на карысць МС тут спрацоўваў толькі адзін аргумент з двух згаданых вышэй: цывілізацыйная блізкасць гэтай арганізацыі, а не заможнасць краін, што ў яе ўваходзяць. Вынікі іншых даследаванняў з лютага 2014 г. увайшлі ў табліцу 5. На жаль, аналагічная табліца, датычная Беларусі (табліца 3), аперуе крыху іншымі пытаннямі: у ёй не хапае опцыі з закрытымі межамі, якая, безумоўна, вельмі важная. Гэта мода падказваць, што даследчыкі адразу не разлічвалі атрымаць у Беларусі шмат прыхільнікаў такога варыянта.

[88] Гэта сведчанне іншага тыпу рэакцыі на расійскую агрэсію ва Украіне ў параўнанні з Беларуссю. Наколькі беларусы абіраюць шлях падпарадкавання Расіі, каб пазбегнуць магчымага канфлікту, настолькі ўкраінцы ў сітуацыі ўжо існага канфлікту (з гэтага вынікае, што абедзве сітуацыі не цалкам параўнальныя) дыстанцуюцца ад ўсходняга суседа.

**Табліца 5.** На якія адносіны паміж Украінай і Расіяй Вы б спадзяваліся? %[89].

| | **Захад** | **Цэнтр** | **Поўдзень** | **Усход** | **Украіна** |
|---|---|---|---|---|---|
| Спадзяюся, што яны будуць такімі, як з іншымі краінамі – закрытыя межы, візавы рэжым, мытны кантроль | 24.0 | 20.9 | 10.5 | 2.0 | 14.7 |
| Украіна і Расія павінны быць краінамі незалежнымі, але з сяброўскімі адносінамі – з адкрытымі межамі, без візаў і мытнага кантролю | 66.7 | 69.7 | 63.8 | 72.2 | 68.0 |
| Украіна і Расія павінны аб'яднацца ў адну краіну | 0.7 | 5.4 | 19.4 | 25.8 | 12.5 |
| Цяжка сказаць / Няма адказу | 8.6 | 3.9 | 6.3 | 0.0 | 4.7 |

З дадзеных табліцы 5 вынікае, што ва Украіне – падобна як і ў Беларусі, хоць звесткі можна параўноўваць толькі часткова – пераважае опцыя незалежнай краіны з адкрытымі межамі, без візавага і мытнага кантролю, з сяброўскімі адносінамі з Расіяй, і галоўнае, што яе прыхільнікі складаюць абсалютную большасць ва ўсіх рэгіёнах краіны. Гэта, імаверна, вынікае з непазбытых звычаяў часоў СССР, культурна-гаспадарчых сувязяў, а таксама з чыста прагматычных меркаванняў. Опцыя зносінаў з закрытымі межамі выразна абазначылася на захадзе краіны

[89] Киевский международный институт социологии, 8–18 лютага 2014 г., http://www.kiis.com.ua/?lang=ukr&cat=reports&id=236&page=4&t=3 (запіс 27 жніўня 2014 г.).

і ў цэнтральнай частцы (1/4 і 1/5 адказаў), а жаданне аб'яднання з Расіяй у адну краіну ў тым самым 2014 г. выказала больш рэспандэнтаў ва Укране (12,5%), чым у Беларусі (9,8%). Больш за тое, ва Украіне аб'яднанне з Расіяй абірала прыкладна 1/4 частка жыхароў усходу і 1/5 поўдня супраць амаль поўнай адсутнасці прыхільнікаў такой опцыі на захадзе краіны (0,7%) і нязначнай лічбы ў цэнтры (5,4%). У гэтых даследаваннях не з'яўляецца "канфармісцкая" опцыя, якая азначала б выбар такой арыентацыі, што гарантуе спакой і адсутнасць ваенных дзеянняў. Такія пазіцыі фіксуюцца ці маглі б выявіцца ў некаторых частках краіны як падтрымка ўкраінскага боку (яе войска) або расійскага (расійска-данбасаўскіх вайсковых фармаванняў), у залежнасці ад таго, хто ў вачах жыхароў меў бы магчымасць хутчэй забяспечыць мір і стабільнасць. Гэта датычыць толькі савецка-рускіх тэрыторый, а не нацыяналізаванага захаду краіны.

У тых жа даследаваннях, датаваных лютым 2014 г., за поўнае аб'яднанне Украіны ў адну дзяржаву з Расіяй выказаліся 31,8% украінскіх рускіх і 8,7% украінцаў – і гэта немалыя лічбы, тым больш калі меркаваць, што не ўсе рускія наўпрост выказвалі такую прыхільнасць. Прыхільнасць да поўнага аб'яднання ўзрастала разам з узростам рэспандэнтаў, а опцыю з закрытымі межамі, наадварот, радзей выбіралі рэспандэнты старэйшага веку, што дае спадзяванні на ўзмацненне падтрымкі ўкраінскай незалежнасці ў далейшай перспектыве. Вялізныя адрозненні заўважаліся паміж рэгіёнамі ў даследаваннях паміж 2013 г. і лютым 2014 г. Цікава, што прыхільнікаў поўнага аб'яднання з Расіяй дадавалася не толькі ў некаторых абласцях усходняй часткі краіны (Данецкай і Харкаўскай) або паўднёвай (Адэскай, Запарожскай, Днепрапятроўскай і Крымскай), але і ў цэнтральнай (Палтаўская, Кіеўская вобласць і сам Кіеў). Пры гэтым на захадзеназіраўся іх спад (у Львоўскай – з 0,3% да 0,0%), а таксама ў цэнтры (у Вінніцкай вобласці) і – як гэта ні дзіўна – на ўсходзе ў Луганскай вобласці. Для апошняга года мы можам казаць пра ўзрастанне палярызацыі не толькі на ўзроўні ўсёй краіны, але, праўдападобна,

у некаторых выпадках і ў межах мясцовых супольнасцяў. Што тычыцца эвалюцыі пададзеных у табліцы 5 опцый у перыяд паміж 2008 і 2012 г., то цікавыя адрозненні тычацца пераважна пытання пра аб’яднанне ў адну краіну. У 2008–2010 г. адказы вагаліся ў межах ад 16% да 23%, пасля чаго знізіліся да 14–16%, у 2013 г. складалі толькі 9%, а ў 2014 г. – 12% (пры акругленні лічбаў). Магчыма, прэзідэнцтва Юшчанкі больш арыентавала постсавецка-рускую супольнасць на Маскву (з прычыны незадаволенасці празаходнімі тэндэнцыямі), а прэзідэнт Януковіч стабілізаваў іх пачуццё звязанасці з Кіевам (пацвердзіў магчымасць далейшага развіцця ўсходняга вектара ў рамках Украіны). Аналагічныя расійскія даследаванні не адзначаюць ва ўказаным перыядзе падобных зменаў[90].

Паводле даследаванняў Сацыялагічнай групы “Рэйтынг”, што праводзіліся ад жніўня 2013 г., калі ўкраінцаў запыталі, ці яны сёння падтрымалі б ранейшае рашэнне пра самастойнасць і незалежнасць Украіны, то “так” адказалі 61%, “не” – 28%, пры гэтым на захадзе краіны лічба тых, хто сказаў “так”, складала 89%, на поўначы – 73%, на ўсходзе – 44%, на поўдні – 48%, а на Данбасе – 32%. Адначасова ў перыяд ад 2010 па 2013 г. было зафіксавана ўзрастанне патрыятычных настрояў на 4% (згодна з самаацэнкай апытаных). Тыя ж даследаванні выявілі, што ўкраінцаў, гатовых адстойваць тэрытарыяльную незалежнасць краіны са зброяй у руках, значна больш, чым такіх было сярод беларусаў: “так” адказалі 53% апытаных: на поўначы – 59%, на ўсходзе – 36%, на поўдні – 26%, а на Данбасе – 46%. У гэтым апытанні найбольшымі непрыхільнікамі барацьбы за незалежнасць са зброяй у руках былі жыхары паўднёвай часткі краіны: “не” выказалі там ажно 63%, за імі ідзе ўсходні рэгіён, і толькі на трэцім месцы асобна вылучаны Данбас. А вось паўночная частка краіны (Кіеў з Кіеўскай, Жытомірскай, Сумскай і Чарнігаўскай абласцямі) вы-

[90] Тамсама.

казала большую волю да барацьбы, чым заходняя[91]. Вядома, ёсць розніца – разважаць пра жаданне барацьбы ў мірныя часы ці ўзяцца за яе пад час вайны (што адбылося, як вядома, праз год пасля даследаванняў), але і даваенныя апытанні паказваюць выразны падзел краіны па ўзроўні нацыянальнай свядомасці і моцна разрозніваюць рэспандэнтаў у іх меркаваннях. Пераважная большасць даследаванняў паказвае падзел украінскага грамадства ўздоўж вымалеваных тут межаў. Цікава, што ў выпадку з Данбасам працэнт апытаных, якія былі гатовыя змагацца са зброяй у руках за тэрытарыяльную незалежнасць краіны (46%), пераважаў прыхільнікаў незалежнасці ў гэтым рэгіёне (32%). Адваротная карціна на захадзе краіны, дзе змагацца гатовы 53%, а прыхільнікамі незалежнасці з'яўляюцца 89%. Магчыма, Данбас тады быў гатовы змагацца за Украіну Януковіча, а новая, з Парашэнкам, для яго чужая, і таму цяпер рэалізуе праянуковічаўскі варыянт (у яго экстрэмальным прарасійскім вымярэнні), змагаючыся са зброяй у руках. Усё гэта, безумоўна, сведчыць пра недахоп адзінай нацыянальнай свядомасці на ўзроўні ўсяго грамадства. Рэгіянальна-культурныя опцыі і палітычныя арыентацыі застаюцца важнейшымі, чым вышэйшы за іх нацыянальны інтарэс. Нацыя не ўяўляецца частцы грамадства той бясспрэчнай вартасцю, якой падпарадкуюцца ўсе іншыя.

Без сумневу, раней савецкасць ахоплівала сваімі ўплывамі ўсю Украіну, падобна як Беларусь і Расію. Розніца, аднак, у тым, што на ўсходзе Украіны яна сканструявала рэгіянальную супольнасць у яе асноўных механізмах існавання, а ў былой Галіцыі гэтага, хутчэй, не адбылося. Моцная нацыянальная свядомасць бараніла ад саветызацыі (абмяжоўвала яе ўплыў) жыхароў не толькі Галіцыі, але, для прыкладу, і прыбалтыйскіх рэспублік.

[91] Соціологічна група "Рейтинг", 9–18 жніўня 2013 г. (рэпрэзентацыйныя дадзеныя), http://ratinggroup.com.ua/upload/files/RG_Patriotyzm_082013.2.pdf (запіс 28 жніўня 2014 г.). Прадстаўленыя дадзеныя ў працэнтах складаюцца з адказаў: "Напэўна Так" + "Хутчэй за ўсё Так" або "Напэўна Не" + "Хутчэй за ўсё Не".

Будаванне ж савецкай супольнасці на ўсходзе Украіны было тым лягчэйшае, калі параўноўваць гэты рэгіён з іншымі часткамі СССР, хоць бы з Чачнёй ці Дагестанам, што на ўсходнім украінскім абшары не было нацыянальных канфліктаў, там пражывала пераважна славянскае насельніцтва, якое амаль не адрознівалася паміж сабой і не мела выразных нацыянальных традыцый (культурна было блізкім да рускіх як галоўных носьбітаў савецкасці), са слабым этнічным падзелам і мноствам мяшаных шлюбаў. Тое насельніцтва, як гэта адбылося і ў Беларусі, перайшло ад этнічнай свядомасці, то бок данацыянальнай свядомасці царскага перыяду (пры поўнай непісьменнасці сялян і рабочага люду), да свядомасці савецкага тыпу, г. зн. з класавай асновай, што лёгка ўспрымалася ў такім асяроддзі. Нацыянальнасць часта была для такіх людзей запісам у пашпарце, г.зн. нацыянальнасцю пашпартнай. У Данецку людзі лічылі сябе ўкраінцамі, бо Данецк адносіўся да УССР, таму так і запісалі ў пашпарце, або дзед ці можа і "бацька калісьці казаў, што мы ўкраінцы, і / бо на нашых вышыванках украінскія ўзоры"[92].

Найчасцей за гэтым не стаяла ніякай дакладна вызначанай і эмацыянальна ўспрыманай ідэалогіі. Нехта лічыў сябе рускім, бо з Расіі прыехалі ягоныя продкі (або нават сам), нехта паходзіў з мяшанага шлюбу або з нейкіх прычын паддаўся русіфікацыі. У штодзённым жыцці быў рускім, занураным у савецка-расійскім свеце, раней членам постправаслаўнай супольнасці, цяпер зноў праваслаўнай, што лучыць рускіх, украінцаў і беларусаў, якія розняцца (у яго ўяўленні) рэгіянальна, малазаўважна. Гэта быў і застаецца свет, непрыдатны для пашырэння нацыятворчых працэсаў заходняга тыпу. Можна было б яго акрэсліць светам сучаснай саветызаванай тутэйшасці, яскрава выражаным калісь у сваёй перадіндустрыяльнай форме ў Беларусі, дзе ён цяпер характарызуе прыхільнікаў Лукашэнкі, але прысутны ён і ў шмат якіх рэгіёнах Украіны, асабліва на яе ўсходзе і поўдні. Украінскасць

[92] Адпаведна з суадносінамі дадзеных адной з праведзеных размоваў.

успрымалася там на рэспубліканскім узроўні, спачатку ў межах УССР, цяпер – дзяржаўна. Такім чынам, калі гаварылася пра ўкраінскі народ, то, пакідаючы ўбаку навуковыя падставы, на ўсходзе мелі на ўвазе палітычна-дзяржаўную згуртаванасць, а на захадзе яго разумелі найперш як этнічную супольнасць. Вядома, хапала тых, хто думаў іначай, але яны не складалі бальшыні. Падзелы ў Еўропе былі іншыя, але і ў Расіі назіраецца шмат розных выпадкаў падзелаў, напрыклад, на Перадкаўказзі.

У 2012 г. Цэнтр Разумкова ставіў перад украінцамі пытанне “Ці Украіна – гэта еўрапейская краіна?” Адказы на яго падае табліца 6. У ёй можна пабачыць, што ўкраінцы лічаць сваю краіну еўрапейскай найперш у геаграфічным сэнсе, а таксама, хоць і ў меншай ступені – у гістарычным, але не ў культурным і, напэўна, не ў палітычным і сацыяльным. Зразумела, погляды ўсходу і поўдня абумоўлены блізкасцю да Расіі, ды і іх еўрапейская зарыентаванасць вельмі слабая. У сваю чаргу захад усведамляе спазненне ў развіцці – асабліва ў эканамічным, сацыяльным і палітычным сэнсе – параўнальна з дзяржавамі, што знаходзяцца на захад ад Украіны.

**Табліца 6.** “Ці з’яўляецца Украіна еўрапейскай дзяржавай?” %[93].

| **У сэнсе...** | **Так** | **Не** | **Цяжка сказаць** |
|---|---|---|---|
| Эканамічным | 12,7 | 77,6 | 9,7 |
| Сацыяльным | 17,1 | 72,7 | 10,2 |
| Палітычным | 23,6 | 65,5 | 10,9 |
| Культурным | 41,9 | 48,3 | 9,8 |
| Гістарычным | 58,3 | 29,6 | 12,1 |
| Геаграфічным | 76,6 | 15,8 | 7,6 |

Пра грамадства Данбаса рашуча выказаўся ў сярэдзіне траўня 2014 г. Юры Луцэнка – кіраўнік МУС ва ўрадзе

[93] Цэнтр Разумкова, 30 сакавіка – 4 красавіка 2012 г., http://www.razumkov.org.ua/ukr/poll.php?poll_id=673 (запіс 28 жніўня 2014 г.).

Юліі Цімашэнкі, адзін з лідараў рэвалюцыі на Майдане, калі даваў інтэрвію польскай газеце "Rzeczpospolita": "Найбольш складаная сітуацыя на Данбасе. Гэта спецыфічны выпадак. Там не жыве ні ўкраінскі, ні рускі народ, а савецкі. Гэта прамысловы рэгіён, што ўзнік з думкай пра забеспячэнне патрэбаў усяго СССР, ды з такім менталітэтам і застаўся. Нідзе на постсавецкай прасторы, у ніводным горадзе не жыве так шмат фабрычнага пралетарыяту. На жаль, за 23 гады незалежнасці ніводзін украінскі ўрад не звяртаў на гэта сур'ёзнай увагі і не спрабаваў змяніць гэтую сітуацыю"[94]. Вытокі цяперашняга канфлікту тояцца, між іншага, у спецыфіцы ідэнтычнасці жыхароў Данбаса, якая атрымала выразна палітычнае вымярэнне. Пад канец II сусветнай вайны і адразу пасля яе на заходняй Украіне сутыкнуліся нацыяналісты УПА, якіх падтрымала мясцовае насельніцтва, і прысланыя з усходу Украіны жаўнеры Чырвонай арміі, партыйны апарат, службоўцы і нават дзеячы асветы, якія неслі той частцы краіны савецкасць. Абодва бакі запомнілі наступствы тых сутычак. Краіна падзялілася на "ўсходнікаў" і "заходнікаў". Канфлікт тлеў дзясяткі гадоў, у тым ліку пасля 1991 г., ажыў пад час Майдана 2004 г., які зноў вельмі выразна падзяліў Украіну на дзве часткі. Потым гэта адбілася на прэзідэнцкіх выбарах 2010 г. і вызначыла іх вынік[95]. Наступствам стала набліжэнне жыхароў усходняга рэгіёна да Расіі і рускасці. "Данецкая рэгіянальная свядомасць фармавалася, – як піша пра гэта львоўскі гісторык Васіль Расевіч, – у канфрантацыі і дэманстрацыі адрозненняў ад іншых рэгіёнаў, праз што набралася антыўкраінскіх рысаў"[96].

Вядома, баі з дасланымі Расіяй вайскоўцамі (як і данбаскімі добраахвотнікамі), якія ў выніку займелі смерць тысячаў украінцаў, прынцыпова ўзмоцняць ва Украіне нацыянальную арыентацыю, хоць ваенныя дзеянні на момант пісання гэтага тэксту яшчэ не завяршыліся,

[94] Putin Polsce tego nie daruje, "Rzeczpospolita", 16 мая 2014 г., s. A10.

[95] W. Rasewycz, Kiełbasa to kiełbasa, "Nowa Europa Wschodnia" 2014, № 4, s. 28–31.

[96] Тамсама, с. 30.

і канчатковы лёс ўкраінскай дзяржавы яшчэ невядомы. Рызыкнем выступіць з тэзай, што працэсы нацыянальнага адасаблення ў рускім трыадзіным свеце з'яўляюцца ў вялікай меры вынікам сутыкнення выразна адрозных сістэм каштоўнасцяў і перакананняў, глыбока закаранёных у мінулым і мадыфікаваных у апошні час – хоць яны часам узаеманакладваюцца слаямі тэрытарыяльна, часава, на ўзроўні груп і адзінак: заходняй з (пост)савецка-праваслаўна-ўсходнеславянскай. Гэта выразней відаць на прыкладзе Украіны, чым Беларусі. Каб спрасціць тыпалагізацыю рэчаіснасці, можна казаць пра дзве культурныя прасторы і нават пра сутычкі дзвюх цывілізацый: рускай і заходняй. Перайманне ўзораў і каштоўнасцяў з Захаду (звонку або непасрэдна ад уласнага асяроддзя, як напрыклад, украінцы Галіцыі ці празаходняя арыентацыя ў Беларусі), пры аслабленні кантролю над такім грамадствам з боку Расіі, разбурае рускае адзінства. У гэтых грамадствах узнікае моцная ўнутраная напруга, якая пагражае рускаму адзінству, якому расіяне калісь надалі выразна палітычна-імперскае вымярэнне. Такім чынам, гэта пагроза аднаму з фундаментаў імперска-культурнай рускасці, і расіяне маюць з гэтым вялізныя праблемы. Гэта праблема іх саміх, іх каланіяльнай гісторыі, праблема распаду створанага імі свету, які не могуць кантраляваць у стане міру, бо ўжо мала прывабныя культурна, а перадусім слабыя эканамічна. Асэнсаванне слабасцяў вядзе да фрустрацый і агрэсіі. Данбас, што пакаленнямі быў у анацыянальным савецка-рускім свеце, пасля перамогі Майдана і жадання Кіева далучыцца да Еўропы трапіў у сітуацыю адназначнага сутыкнення культур. Канфлікт быў распалены страхам ягоных жыхароў – падатлівых на расійскія прапагандысцкія маніпуляцыі – перад канчатковым заняпадам іх старога свету і перамогай чужога.

Праз дваццаць тры гады незалежнасці ўкраінцы не змаглі пераадолець падзелу на дзве арыентацыі, этнанацыянальную і савецка-рускую[97], якія, праўда, не вельмі

[97] Як аказалася, не прынялі цалкам і ідэі палітычнай нацыі, што прапагандавалася дзяржавай.

выразна вызначаліся тэрытарыяльна, часам выяўляліся толькі на ўзроўні адзінак, а сканцэнтравалі свае высілкі на асобных абшарах і асобных супольнасцях. З гэтага пункту гледжання сітуацыя на захадзе краіны не выклікае непакою, а ўсход і поўдзень Украіны ўяўляюць больш лабільнае грамадства. Ва Украіне дайшло да паглыблення палярызацыі сацыяльных поглядаў, але не ў класавым аспекце, як гэта часта назіраецца ў рынкавай гаспадарцы, а ў культурна-тэрытарыяльным, што, прымаючы да ўвагі суседства з традыцыйна агрэсіўнай Расіяй, пагражае яе [Украіны] стабільнасці і тэрытарыяльнаму адзінству. Гэта дэманструе Данбас, хоць з даследаванняў вынікала, што яшчэ нядаўна культурныя арыентацыі павінны былі б давесці сітуацыю да палітычна-ваенных рашэнняў. Чарговы Майдан і як вынік разварот у заходнім кірунку былі выкліканы раптоўнымі пераменамі ў палітыцы Януковіча, а потым і ўзброенай інтэрвенцыяй Расіі. Усход, які больш за 20 гадоў жыў у рэаліях, што нагадвалі пабляднелы Савецкі Саюз, запратэставаў, баючыся культурнай рэвалюцыі, якая, на думку значнай колькасці жыхароў Данбаса, адрывала яго ад рускасці і свойскасці. Пад уплывам расійскай прапаганды Данбас успрыняў гэта як цывілізацыйны пераварот, сутыкненне з чужой яму нацыянальнай украінскай ідэяй, што аддзяляла ад Расіі на карысць далучэння да Захаду. Іх лідар прайграў новаму, чужому для ўсходу – у што адразу паверылі, што рэзка абвастрыла падзел. Як вынікае з даследаванняў грамадскай думкі, новыя ўлады не былі прызнаны на ўсходзе за легальныя, – менавіта ў Данецкай і Луганскай абласцях і часткова ў Харкаўскай[98].

Шмат што сведчыць: ідэя агульнарускага адзінства траціць папулярнасць / слабне прынамсі на частцы тэрыторыі Украіны, але ж мінула пакуль замала часу, каб гэты працэс можна было адназначна і канчаткова ацаніць. Аналіз сацыялагічных даследаванняў ва Украіне шляхам падліку

98 Киевский международный институт социологии, 8–16 красавіка 2014 г., http://www.kiis.com.ua/?lang=ukr&cat=reports&id=302&page=4&t=3 (запіс 29 жніўня 2014 г.).

сярэдніх паказчыкаў, як гэта робіцца ў Беларусі, мае невялікі сэнс, паколькі рэгіянальная розніца тут занадта вялікая, каб рабіць высновы на атрыманых сярэдніх паказчыках. Таму ў развагах пра Украіну мы засяроджваліся і на дадзеных з паасобных рэгіёнаў краіны.

* * *

У падсумаванні ўсяго сказанага можна сцвярджаць, што існаванне трыадзінага рускага народа ў меркаваннях большасці расіян, а таксама беларусаў і значнай колькасці ўкраінцаў, падтрымліванае на ўзроўні фактычных сувязяў, а не вербалізаванай тэрміналогіі, не вымагае злучэння гэтай супольнасці ў адной дзяржаве. Сучасныя дзяржаўныя ўтварэнні – украінская і беларуская рэспублікі – трактуюцца расіянамі ў пэўным сэнсе як працяг савецкіх рэспублік (з умоўнымі межамі, якія можна перасякаць без візаў і мытнага кантролю), якія цесна звязаны паміж сабой палітычна (і ў ваенным аспекце), эканамічна і культурна. Толькі парушэнне гэтай асновы – а менавіта так расіяне ўспрынялі наступствы Майдана – прыводзіць да вострай агрэсіўнай рэакцыі расіян, якія не ў стане прызнаць распад вякамі будаванай імі супольнасці як істотнага складовага элемента рускасці і Расіі ў іх імперскіх вымярэннях[99]. Несумненна, вялікае значэнне для разгледжаных тут працэсаў будзе мець этнізацыя расійскага нацыяналізму, што назіраецца пасля распаду СССР. Гэта нараджае і будзе нараджаць новыя напружанні.

Працэсы, што адбываюцца ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе і ў СССР пасля распаду камунізму, надалі канцэпцыі Хантынгтана эмпірычнае вымярэнне. Прагрэсіўныя гаспадарчыя і палітычныя рэформы ажыццявілі выключна краіны каталіцкія (на постсавецкім абшары гэта Эстонія, Латвія і Літва), у адрозненне ад праваслаўных рускіх, украінцаў і беларусаў (у выпадку Украіны асобнага каментара патрабавала б Галіцыя). Атрымалася, што расіяне стварылі вакол сакральнай сферы сетку свецкіх

[99] Вядома ж, як Расія, так і Польшча ўспрымаюць Украіну як буфер, што аддзяляе іх ад патэнцыйнага мілітарнага праціўніка.

каштоўнасцяў і інстытуцый, дысфункцыйных да патрабаванняў сучаснасці. Паводле даследаванняў Інстытута Гэлапа, што датуюцца снежнем 2013 г., грамадзяне ўсіх трох славянска-праваслаўных дзяржаў лічаць, што страты ў выніку распаду СССР большыя, чым карысці, чаго, напрыклад, не адзначаюць жыхары Туркменістана, Казахстана, Азербайджана і Грузіі[100]. Расіяне пабудавалі цывілізацыю неэфектыўную ў гаспадарчым і палітычным плане (уліваючы стан свабодаў). Стварылі дзяржаўныя эліты, якія ў некаторых палітычных сітуацыях могуць паспяхова рэагаваць на новыя палітычныя выклікі, але не эканамічныя. Цесна звязаныя з Расіяй два "сународы" не маюць такіх прыярытэтаў (што з'яўляецца вынікам іх доўгатэрміновага падпарадкавання Расіі) і кепска выкарыстоўваюць атрыманую незалежнасць. Цяжка гэта даецца ўкраінцам, якія спрабавалі правесці абмежаваныя рэформы і паступова прыстасавацца да еўрапейскіх рэалій, лепей атрымліваецца ў беларусаў, якія, наадварот, ад рэформаў, па сутнасці, адмовіліся, мадыфікуючы ранейшую савецкую сістэму і падпарадкоўваючыся Расіі ў разліку на яе гаспадарчую дапамогу (гэта таксама вынік свядомых захадаў расіян, якія блакуюць працэсы мадэрнізацыі гэтых краін, не дапускаючы іх палітычнай і эканамічнай эмансіпацыі).

Досыць абмежаваныя спробы пераймання заходніх мадэляў хутчэй выклікаюць новыя клопаты, чым спрыяюць іх вырашэнню, чым пацвярджаецца, што вытокі праблемы – у сфармаваным расіянамі тыпе культуры. Гэта, як я лічу, праблема існага механізму, а не часовай няздольнасці элітаў, як часам можна пачуць. Гэты механізм, што паўстаў на грунце расійскага праваслаўя, на скрыжаванні розных культур, быў да пэўнага часу дзейсным у ваеннай сферы, у некаторых сферах высокай культуры (прыкладам, у літаратуры), але цалкам непрыдатны для

[100] "Новости НИСЭПИ", выпуск 4, снежань 2013 г., с. 40 (табліца 1, артыкул напісаны ў рамках "Wolnej trybuny"): Беларусь: плюсы – 26%; мінусы – 38%; Украіна: адпаведна – 23% да 56%; Расія – 19% да 55%.

эканамічных выклікаў мадэрнізацыі[101]. Ён быў і застаецца сістэмай выразна цэнтралізаванай, з занядбаннем сваіх "ускраін", наступствы чаго акурат заўважныя ва Украіне і ў Беларусі. Дыскусія пра магчымую еўрапеізацыю абодвух грамадстваў, украінскага і беларускага, павінна сягаць вытокаў гэтага глыбока закаранёнага ў мясцовых культурах механізму і рэальных магчымасцяў яго перапрацоўкі. Калі патрабуюцца рэальныя змены, яны мусяць суправаджацца суцэльным пераасэнсаваннем, якое пазбягае схем паліткарэктнасці. Першы Майдан праз нейкі час аказаўся фіяскам, другі агаліў недзеяздольнасць дзяржаўных структур, асабліва войска. На абодвух Майданах непрапарцыйна важную ролю адыграла заходняя Украіна (асабліва Галіцыя), выхадцы з гэтага рэгіёна і асяроддзі, што ўзніклі пад яго ўплывам[102].

А вось сітуацыя, што назіраецца ў Беларусі, выяўляе поўнае дамінаванне над ёй механізму, створанага ў Маскве. Вынікам магчымага мясцовага "Майдана", калі яго не падтрымае большасць насельніцтва (што цяпер падаецца

[101] Савецкі саюз, дасягнуўшы палітычна-гаспадарчай стабілізацыі, прыступіў да пашырэння заходняй мадэлі гаспадарчага развіцця, якая грунтавалася на будаванні цяжкой прамысловасці, і не змяняў гэтай мадэлі да самага канца свайго існавання, хоць заходнія краіны даўно ад гэтага адступілі на карысць інавацыйнай гаспадаркі, што абапіраецца не на калектыўныя высілкі, а на актыўнасць адзінак з вызначанымі якасцямі, што Алекс Інкелес называў сіндромам найсучаснай індывідуальнасці.

[102] На падставе даследаванняў, што праводзіла ў красавіку 2014 г. Сацыялагічная група "Рэйтынг", пра развал СССР шкадуе каля 1/3 жыхароў цэнтральнай часткі краіны, палова жыхароў усходняй часткі і больш за 60% на Данбасе. Параўнальна з цэнтрам, усходам і поўднем, дзе працэнт такіх асобаў змяншаўся цягам апошняга года, на Данбасе такі працэнт узрастаў. Сярод этнічных украінцаў працэнт тых, што шкадуе пра СССР, знізіўся з 38% да 29%, а сярод расіян, што жывуць ва Украіне – што важна зазначыць – узрос з 55% да 60%. Такім чынам, розніца паміж украінцамі і расіянамі, што пражываюць ва Украіне, у два разы большая: Соціологічна група "Рейтинг", 15–25 красавіка 2014 г. (прэзентатыўныя дадзеныя), http://ratinggroup.com.ua/products/politic/data/entry/14092/ (запіс 30 жніўня 2014 г.).

нерэальным), можа быць справакаваны Расіяй эканамічны крызіс і інтэрвенцыя Масквы (уключна з далучэннем Беларусі да Расіі). Безумоўна, расійска-ўкраінская вайна і адлучэнне ад Украіны Крыма, што стала наступствам Майдана 2014 г., зніжаюць у Беларусі настроенасць на дыстанцыяванне ад Масквы, таму на яе тэрыторыі будзе трываць мысленне ў катэгорыях трыадзінага народа, разуметага ў культурным, а не палітычным плане. Змены надыдуць толькі пры змене раскладу сілаў у гэтай частцы рэгіёна, пасля разлому закасцянелых структур у Расіі.

У красавіку – траўні 2014 г. вядучыя сацыялагічныя цэнтры ў Расіі, Украіне і Беларусі даследавалі трываласць руска-беларуска-ўкраінскіх сувязяў. Выявілася, што паміж асобна ўзятымі краінамі дамінуюць узаемныя пазітыўныя настроі, за выключэннем адносінаў расіян да Украіны. Рашуча пераважаюць пазітыўныя ўзаемастаўленні і сярод насельніцтва асобна ўзятых дзяржаў, таксама паміж рускімі і ўкраінцамі, у адрозненне ад іх кіраўніцтва, якое ў абедзвюх краінах ацэньвалася адназначна негатыўна[103]. У тым ваенным канфлікце вінавацяць выключна кіраўніцтва дзяржаў, якое па вызначэнні мяняецца, у тым ліку, як лічаць расіяне, “фашысцкая” банда ва Украіне (бо гэты тэрмін узнаўляе надзвычай эмацыйны падзел на “мы” і “яны” з часоў мінулых перамог Савецкага Саюза). Такім чынам атрымліваецца, што сіла сувязяў, якія лучаць тры ўсходнеславянскія супольнасці, узмоцненыя сталай памяццю пра перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне, трывае сотні гадоў, і іх цяжка разарваць цягам кароткага часу, нават калі ён напоўніўся ўзброенай барацьбой. Гэта прадказвае магчымасць неспадзяваных хваляванняў, сацыяльных напружанняў, рэвалюцый, войнаў. Вядома, гэта не азначае, што адносіны не будуць мяняцца ў далёкай будучыні ці нават у сярэднечасавай

[103] Киевский международный институт социологии, 22 красавіка – 14 красавіка 2014 г., http://www.kiis.com.ua/?lang=rus&cat=reports&id=345&t=3&page=1 (запіс 30 жніўня 2014 г.). З расійскага боку даследаванні былі выкананы Цэнтрам Лявады 23–26 траўня 2014 г., з боку ж Беларусі – Лабараторыяй Новак 26 красавіка – 18 траўня 2014 г.

перспектыве. Але існаванне ўкраінцаў і беларусаў у абмежаваных формах трыадзінага рускага народа, у паўсакральным тыпе супольнага мыслення замацоўвае негатыўныя каштоўнасці і стаўленні, якія з пункту гледжання сучасных патрабаванняў дысфункцыйныя. Яны запавольваюць фармаванне моцнай ідэнтычнасці і таму абмяжоўваюць магчымасці нацыянальнай і прамадэрнізацыйнай эмансіпацыі ўкраінцаў і беларусаў.

За апошнія паўтара стагоддзя адбывалася эвалюцыя таго расійскага (рускага) народа, які ў апошнія дзесяцігоддзі існавання царскай Расіі (прынамсі на ўзроўні афіцыйнай ідэалогіі) складаўся з велікаросаў, маларосаў, беларусаў, да свайго роду нацыянальнага сепаратызму ўкраінцаў і беларусаў у перыяд *каранізацыі* (украінізацыі і беларусізацыі) у 1920-я г., затым да фармавання супольнага “савецкага народа” і “братніх адносін” паміж рускімі, украінцамі і беларусамі (з выдзяленнем “старэйшага брата” і яго галоўнай ролі), якое ахапіла значную частку другой паловы XX ст., нарэшце – да ўтварэння фармальна незалежных дзяржаў, а значыць і грамадстваў, у якіх цяпер выявіліся ўсе прыхаваныя раней культурныя напругі, у тым ліку звязаныя з розным разуменнем сваёй асобнасці. Недахоп стабільнасці дзяржаўных структур, у тым ліку сацыяльных сувязяў, абрыў традыцый, таталітарныя эксперыменты над мільёнамі людзей далі ў выніку існаванне мільёнаў *homo sovieticus* – знішчэнне тых механізмаў сацыяльнага развіцця, якія маглі б справіцца з выклікамі сучаснасці.

*Пераклад Інэсы Кур’ян і Максіма Шчадровіча*

# What Future for the Three Nations of Rus'?

**Ryszard Radzik**

Over the last few centuries, East Slavs developed a sense of belonging to a threefold pan-Russian community, often referred to as a nation. On the other hand, not only Russians, but also Ukrainians (19th century) and Belarusians (early 20th century) formed their own modern national movements. The article explores the nature and characteristic features of these communities and analyses to what extent their members identify themselves with the pan-Russian and the separate national ones. The study is mainly based on the surveys conducted by leading Russian, Ukrainian and Belarusian sociological centres. Although the term 'threefold Russian nation' (*триединый русский народ*, triedinyĭ russkiĭ narod) is used by commentators and ideologists rather than academics, the actual meanings the concept includes are in fact widely accepted by members of the three societies in question. Indeed, a considerable proportion of Russians still do not perceive Belarusians and Ukrainians as separate nations. Russian political elites are (quite understandably) trying to develop a sense of community binding the population of the state. At the same time, however, Russians are unable to abandon their traditional approach in terms of the pan-Russian community exceeding the political limits of the state, as can be seen in the Ukrainian conflict which started in 2014. Although Belarusians under President Lukashenka accept their independent political status, most of them display a strong sense of historical and cultural unity with Russians. From the beginning of the conflict with Russia over the Crimea and the Donbas, a considerable proportion of Ukrainians in general, and those in the western and central regions of the country in particular, have distanced themselves from Russia. This process involves a reinterpretation of their history and consolidation of a sense of unity with Europe. In this way, separate national identities and a strong residue of Sovietness are superimposed on the concept of threefold Russian community

# “На” і Рэч Паспалітая

## Тамаш Камусэла

Мова – такі звычайны і часта ўжываны намі інструмент, асабліва тая, на якой мы размаўляем з дзяцінства, што ўспрынятую праз яе своеасаблівую карціну рэальнасці мы лічым “аб’ектыўнай” і амаль што “натуральнай”. Свет, убачаны праз прызму першай засвоенай намі мовы (якую звычайна называюць “роднай” ці “матчынай”), выглядае некранутым ніякімі скажэннямі; сама такая мова, яе мадэлі і катэгорыі здаюцца нам “эталоннымі”; мы адчуваем яе як частку сябе. Вось чаму мы не звяртаем увагі на той факт, што кожная мова ўтвараецца супольнасцю яе носьбітаў – групай людзей, аб’яднаных памяццю пра агульную мінуўшчыну і яе найважнейшыя падзеі. А аблічча мовы вызначаецца не толькі наборам лексічных і граматычных асаблівасцяў, якія па невядомых прычынах пашырыліся і замацаваліся ў пэўны час, але і тым следам, што пакінулі памянёныя падзеі. Гэтая сувязь яшчэ больш выяўляецца, калі мова набывае пісьмовую форму і трапляе ў ліставанне, кнігадрукаванне і справаводства. З гэтага моманту пісьмовая і вусная формы мовы пачынаюць моцна ўплываць адна на адну. Асабліва мацнее такі ўплыў у мадэрную эпоху – па меры пашырэння ўсеагульнай адукацыі і пісьменнасці.

Маёй першай мовай была польская, а таму акурат яна шмат у чым застаецца для мяне “эталоннай”, нягледзячы на ўсе мае намаганні скінуць з вачэй гэты святлафільтр. Толькі нядаўна славіст Міхаэль Мозар з Венскага ўніверсітэта звярнуў маю ўвагу на тое, што па-польску, гаворачы “ў нейкай краіне або дзяржаве”, мы ў дачыненні да некаторых краін ужываем прыназоўнік *w* (“у”), а да іншых – *na* (“на”). Пры гэтым у польскай мове няма пэўнага

фанетычнага ці сінтаксічнага правіла, якое б абгрунтоўвала выбар аднаго з гэтых прыназоўнікаў у кожным канкрэтным выпадку.

Польскія слоўнікі і дапаможнікі па стылістыцы сцвярджаюць, што прыназоўнік *na* ў значэнні ‘ў межах чаго-небудзь’ ужываецца ў дачыненні да назваў:

1) гарадскіх раёнаў;

2) рэгіёнаў краін;

3) астравоў (у тым ліку тых, што ўяўляюць сабой незалежныя дзяржавы);

4) некаторых незалежных дзяржаў.

Выпадкі 1) і 3) нас не цікавяць, бо яны ўкладаюцца ў рамкі рэгулярнага сінтаксічнага правіла. Толькі для ілюстрацыі я прывяду некалькі прыкладаў. Так, у выпадку гарадскіх раёнаў мы гаворым *na Zaodrzu* (“у Заадроўі”, раён у Аполі), *na Mariensztacie* (“у Марыенштаце”, раён у Варшаве), *na Kaziemierzu* (“у / на Казімежы”, раён у Кракаве). Аналагічна, гаворачы пра астравы, вы скажаце папольску не толькі *na Grenlandii* (“у / на Грэнландыі”), *na Wyspie Man* (“на востраве Мэн”) або *na Skye* (“на Скаі”) – у выпадку астраўных частак буйных дзяржаў, – але і *na Kubie* (“на Кубе”), *na Islandii* (“у Ісландыі”) ці *na Sri Lance* (“на / у Шры-Ланцэ / Шры-Ланцы”[1]), якія самі з’яўляюцца незалежнымі дзяржавамі. Цікава, што ў першым выпадку – калі гаворка ідзе пра астравы, што ўваходзяць у склад іншых дзяржаў, – у англійскай мове поруч з *in* можа ўжывацца і прыназоўнік *on*.

Куды цікавейшымі для нашага аналізу выглядаюць выпадкі 2) і 4). Што да першага, палякі гавораць *na Mazowszu* (“у / на Мазовіі”), *na Śląsku* (“у Сілезіі”) або *na Chełmszczyźnie* (“на Холмшчыне / Хэлмшчыне”), маючы на ўвазе рэгіёны сучаснай Польшчы. Але ў тым самым значэнні прыназоўнік *na* не ўжываецца, калі гаворка ідзе пра такія ключавыя гістарычныя рэгіёны, як Вялікапольшча і Малапольшча. Няцяжка заўважыць, што назвы гэтых рэгіёнаў утрымліваюць у сабе назву ўсёй краіны – Польшчы. Вось жа, з гэтымі назвамі ва ўсіх выпадках спалучаецца толькі прыназоўнік

[1] Гэтая назва мае варыянтны націск.

*w*: *w Wielkopolsce* ("у Велікапольшчы"), *w Małopolsce* ("у Малапольшчы"). Што да рэгіёнаў іншых краін, дык можна сказаць па-польску *na Syberii* ("у Сібіры", рэгіён у Расіі), *na Krymie* ("у Крыме", рэгіён, нядаўна адабраны Расіяй ва Украіны) ці *na Morawach* ("у Маравіі", рэгіён у Чэшскай Рэспубліцы). Але зусім немагчыма ўжыць прыназоўнік *na* ў дачыненні да Шатландыі, Вестфаліі ці Праванса. У польскай мове назвы гэтых мясцовасцяў заўсёды спалучаюцца з прыназоўнікам *w*: *w Szkocji*, *w Westfalii*, *w Prowansji*.

Самым цікавым выпадкам выглядае малая і нязменная група сучасных незалежных дзяржаў (якія **не** з'яўляюцца астравамі), у дачыненні да назваў якіх у польскай мове ўжываецца прыназоўнік *na*. Гэтая група ўключае ў сябе Беларусь (*na Białorusi*), Венгрыю (*na Węgrzech*), Латвію (*na Łotwie*), Літву (*na Litwie*), Славакію (*na Słowacji*) і Украіну (*na Ukrainie*).

Я схільны думаць, што ўжыванне палякамі прыназоўніка *na* ў дачыненні да гэтага вузкага кола дзяржаў можа быць адбіткам сацыяльна-палітычных рэалій, якія мелі месца яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай. Так званая Рэч Паспалітая Абодвух Народаў была федэратыўнай манархіяй, што складалася з Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Яна зарадзілася ў 1386 г. спачатку як персанальная унія гэтых дзвюх дзяржаў, паводле ўмоў якой велікакняжацкая дынастыя Ягелонаў атрымлівала правы на польскі каралеўскі трон. У 1569 г. гэты дынастычны саюз быў пераўтвораны ў паўнацэнную федэрацыю, якая і атрымала назву Рэчы Паспалітай. Рэч Паспалітая была сцёрта з карты Еўропы ў канцы XVIII ст. шляхам трох падзелаў – у 1772, 1792 і 1795 г. – паміж Габсбургскай манархіяй, Прускім каралеўствам і Расійскай імперыяй.

Калі ў другой палове X ст. зараджалася будучае Польскае каралеўства (і атрымлівала сваю назву, якая спярша, на пачатку XI ст., узнікла пры імператарскім двары Святой Рымскай імперыі ў лацінізаванай форме *Polonia* і толькі пазней займела славянскі адпаведнік[2]), яго ядром

[2] Падрабязней пра цікавую, малавядомую і празмерна міфалагізаваную гісторыю назвы польскай дзяржавы гл.: Urbańczyk P. Trudne początki. Wrocław, 2008.

была Велікапольшча, да якой неўзабаве была далучана Малапольшча. У гэтым кантэксце ўжыванне прыназоўніка *w* у дачыненні да гэтых двух польскіх рэгіёнаў уяўляецца знакам павагі да польскай протадзяржавы, якая ў 1320 г. здабыла статус каралеўства. У сваю чаргу, падначалены статус Куявіі (*na Kujawach*), Мазовіі (*na Mazowszu*), Памор'я (*na Pomorzu*) і Сілезіі (*na Śląsku*), заваяваных гэтай "стрыжнёвай Польшчай" у канцы X – пачатку XI ст., адлюстраваўся ў паслядоўным ужыванні прыназоўніка *na* ў дачыненні да іх назваў (у процілегласць *w*, ужыванаму ў дачыненні да Велікапольшчы і Малапольшчы), што захавалася і да нашага часу.

У ходзе гэтага перыяду актыўнай экспансіі, якая мела месца на пачатку другога тысячагоддзя, польскія князі на кароткі час далучылі да сваіх уладанняў таксама паўднёва-заходнюю частку Русі (адсюль *na Rusi*), паўночна-заходнія раёны Венгрыі (*na Węgrzech*), Маравію, якая дагэтуль была часткай Чэшскага княства (*na Morawach*), а таксама Лужыцу, што знаходзілася пад уладай Святой Рымскай імперыі (*na Łużycach*). Цікава, што заваёва маленькай часткі Венгрыі прадвызначыла ўжыванне ў польскай мове прыназоўніка *na* ў дачыненні да ўсёй краіны аж да сёння, тады як аналагічная анексія кавалка Чэшскага княства не пацягнула за сабой таго самага эфекту ў дачыненні да Чэхіі, чыя назва спалучаецца ў польскай мове выключна з прыназоўнікам *w* (*w Czechach*).

Відаць, гэта сведчанне таго, як па-рознаму сярэднявечныя польскія эліты ўспрымалі Чэшскае княства і Венгрыю. Ад першага польскі двор у 966 г. прыняў хрысціянства, а Венгрыя афіцыйна зрабілася хрысціянскай краінай на тры дзесяцігоддзі пазней, у 1000 г. З пункту гледжання тагачасных палякаў, Венгрыя была "менш хрысціянскай" ці "больш язычніцкай" за Польшчу, што і праявілася ва ўжыванні ў дачыненні да яе прыназоўніка *na* (альтэрнатыўнае ці дадатковае тлумачэнне заключаецца ў тым, што па-венгерску фраза "ў Венгрыі" гучыць як *Magyarországon*, пры гэтым венгерскі суфікс *-on* адпавядае польскаму *na*). Той самы прыназоўнік замацаваўся і ў дачыненні да Русі, якая таксама прыняла хрысціянства пазней за Польшчу

(у 988 г.), і да таго ж хрысціянства “горшае” – ад Канстанцінопаля, а не ад Рыма. Вялікі царкоўны раскол 1054 г., які падзяліў хрысціянскі свет, толькі паглыбіў негатыўнае ўспрыманне Русі палякамі.

Калі ў 1386 г. паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім была заключана персанальная унія, апошняе лічылася “малодшым партнёрам” у гэтым прадпрыемстве, хоць тэрытарыяльна і перасягала Польшчу больш як удвая. Па-першае, літоўская дынастыя Ягайлавічаў была “язычніцкай”, што выглядала ідэалагічна непрымальным у “хрысціянскай Еўропе”. Па-другое, ВКЛ *не было* і так ніколі і *не стала* каралеўствам. Па-трэцяе, яго тэрыторыя складалася пераважна з земляў Русі з іх колішняй сталіцай Кіевам. Вось чаму палякі задзейнічалі прыназоўнік *па* пры гаворцы пра княства і яго правінцыі: *na Litwie* (“на / у Літве”), *na Żmudzi* (“на / у Жамойці”), *na Podlasiu* (“на Падляшшы”), *na Białej Rusi* (“на Белай Русі”) або *na Wołyniu* (“на Валыні”).

Ужыванне прыназоўніка *na* было пашырана ў Польшчы і на тых спадкаемцаў старажытнай Русі, якія не ўвайшлі ў склад Рэчы Паспалітай, у першую чаргу на Маскоўскую дзяржаву – папярэдніцу сучаснай Расіі. Словазлучэнне *na Moskwie* (“у Маскові”) праіснавала ў Польшчы да Вялікай Паўночнай вайны (1700–1721), у якой Расія разбіла Швецыю і Рэч Паспалітую, тым самым атрымаўшы выхад да балтыйскага ўзбярэжжа – спачатку ў Інгерманландыі, дзе быў пабудаваны Санкт-Пецярбург. У 1721 г. расійскі цар Пётр, празваны пазней Вялікім, прыняў тытул імператара і перайменаваў сваю дзяржаву ў Расійскую імперыю. Пасля гэтага ён запатрабаваў ад Швецыі, Рэчы Паспалітай і Прусіі прызнаць новую тытулатуру, і ягонае жаданне было задаволена. Прызнанне Расіі ў якасці дзяржавы, роўнавялікай Рэчы Паспалітай, пацягнула за сабой замену прыназоўніка *na*, што ўжываўся ў дачыненні да Масковіі, на *w*, калі гаворка зайшла пра Расію (*w Rosji*).

Што да Венгрыі і Маравіі, дык ужыванне ў дачыненні да іх прыназоўніка *na* падмацоўвалася той акалічнасцю, што Ягелоны ў XV – пачатку XVI ст. панавалі як

у Венгерскім, так і ў Чэшскім каралеўствах. Апрача таго, у выніку паўднёваўсходняй экспансіі Рэчы Паспалітай у напрамку чарнаморскага ўзбярэжжа Малдаўскае княства апынулася пад польскім сюзерэнітэтам, а Валахія – пад польскім культурным уплывам. Даўней два гэтыя дунайскія княствы знаходзіліся пад уладай Венгрыі і да таго ж прынялі праваслаўе, а не каталіцызм, – усё гэта прымушала палякаў глядзець на іх зверху ўніз. Дык нічога дзіўнага, што ў польскай мове замацавалася ўжыванне прыназоўніка *na* ў дачыненні як да Валахіі (*na Wołoszczyźnie*), так і да Малдовы (*na Mołdawii*).

Сёння Валахія і заходняя частка гістарычнай Малдовы ўваходзяць у склад Румыніі (абвешчанай у 1866 г.), але ўжыванне прыназоўніка *na* не перайшло на назву новай дзяржавы – замест гэтага мусіць ужывацца *w* (*w Rumunii*). Цікава, што і ў спалучэнні з назвай Малдовы выкарыстанне прыназоўніка *na* лічыцца ў наш час састарэлым, а правільна – *w* (*w Mołdawii*). Такая эвалюцыя можа тлумачыцца пераносам на гэтую назву правіла, што замацавалася ў дачыненні да Расіі. Бесарабія – усходняя частка гістарычнай Малдовы – была далучана да Расіі ў 1812 г. па выніках вайны з Асманскай імперыяй, а ў 1991 г., у ходзе распаду СССР, атрымала статус незалежнай дзяржавы.

Славакіі пашанцавала менш. Гэтая назва для паўночнай часткі гістарычнай Венгрыі, населенай славянамі (вядомай у венгерскай мове як *Felvidék* – літаральна “горная зямля”, ці “Верхняя Венгрыя”), была прапанавана ў другой палове XIX ст. Славакія зрабілася палітычнай рэальнасцю ў складзе Чэхаславакіі, і пасля першага перыяду незалежнасці пад час Другой сусветнай вайны аднавіла свой статус незалежнай дзяржавы ў 1993 г. – пасля роспуску ЧСФР. Але, у адрозненне ад Малдовы, прыназоўнік *na* перайшоў з Венгрыі на Славакію – вось чаму палякі і сёння гавораць *na Słowacji*. Такая тэндэнцыя падмацоўваецца і тым, што самі славакі па-славацку гавораць *na Slovensku* (“у Славакіі”). Цікава, што пры гэтым у дачыненні да Венгрыі яны ўжываюць прыназоўнік *v*: *v Maďarsku*.

Працяглае (з XIV аж да XVIII ст.) палітычнае спаборніцтва Рэчы Паспалітай з Тэўтонскім ордэнам (з рэзідэнцыяй у Прусіі), Інфлянцкім ордэнам (з рэзідэнцыяй у Курляндыі і Інфлянтах), Маскоўскай (Расійскай) дзяржавай і Швецыяй за паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора прывяло да пераходу Прусіі, Курляндыі і Інфлянтаў у васальную залежнасць ад Рэчы Паспалітай. Не дзіва, што падначалены статус гэтых трох правінцый (ленаў) быў пазначаны ўжываннем у дачыненні да іх прыназоўніка *na*: *na Prusach* ("у Прусіі"), *na Kurlandii* ("у Курляндыі"), *na Inflantach* ці *na Liwonii* ("у Інфлянтах", "у Лівоніі"). Аднак першая з гэтых правінцый – Герцагства Прусія – у 1701 г. атрымала незалежнасць ад Рэчы Паспалітай і сама зрабілася каралеўствам, а праз стагоддзе ператварылася ў аднаго з галоўных гульцоў у еўрапейскай палітыцы, узяўшы ўдзел у падзеле Рэчы Паспалітай і здолеўшы ўтрымацца перад націскам Напалеона. Гэта прымусіла палякаў памяняць свае моўныя падыходы да згаданай дзяржавы, і ад пачатку XIX ст. па-польску прынята гаварыць *w Prusach*.

Інакш развіваліся падзеі ў выпадку з Курляндыяй і Лівоніяй, што ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі – як і Эстляндыя, якую Расія ў XVIII ст. захапіла ў Швецыі. Паколькі Эстляндыя ніколі не знаходзілася ў сферы ўплыву Рэчы Паспалітай, у дачыненні да гэтай шведскай, а потым расійскай правінцыі адпачатку ўжываўся прыназоўнік *w*: *w Estlandii*. У 1918 г. на землях Курляндыі і Паўднёвай Лівоніі была абвешчана Латвія, а Паўночная Лівонія і Эстляндыя ўвайшлі ў склад Эстоніі. Першая з гэтых дзяржаў у польскай мове ўспадкавала *na* ад Курляндыі і Лівоніі (*na Łotwie* – "у Латвіі"), а апошняя – *w* ад Эстляндыі (*w Estonii* – "у Эстоніі").

Аналагічным чынам традыцыйнае ўжыванне *na* ў дачыненні да Вялікага Княства Літоўскага і Русі перайшло на сучасныя дзяржавы Літву (*na Litwie*) і Беларусь (*na Białorusi*), што ўтварыліся на тэрыторыі колішняга княства. У 1569 г., пры заключэнні Люблінскай уніі, паўднёвыя ваяводствы Вялікага Княства Літоўскага адышлі да Каралеўства Польскага, дзе атрымалі назву "рускіх

земляў”. Вядома, у дачыненні да іх працягваў ужывацца прыназоўнік *na*. Пазней гэтае ўжыванне было перанесена на Украіну, што ўзнікла на гэтых землях. Малады ўкраінскі нацыянальны рух звярнуўся да гэтай назвы, каб унікнуць заблытанага анамастычнага дуалізму: на заходнеўкраінскіх землях у складзе Аўстра-Венгрыі славянскае насельніцтва карысталася саманазвамі “Русь”, “русіны”, а ўсходняя частка Украіны ў складзе Расійскай імперыі называлася Маларосіяй. Першы кароткі перыяд незалежнасці Украіна зведала ў 1918–1922 г. Ён ніяк не адбіўся на польскай моўнай практыцы: у дачыненні да Украіны працягваў ужывацца прыназоўнік *na* (*na Ukrainie*). Вядома, ва ўкраінскай мове ў аналагічнай канструкцыі выкарыстоўваецца прыназоўнік *в*: *в Україні*.

Польскае ўжыванне прыназоўніка *na* ў дачыненні да Літвы, Беларусі і Украіны яшчэ больш замацавалася ў міжваеннай Польшчы. Па выніках савецка-польскай вайны 1919–1921 г. беларускія і ўкраінскія землі былі падзелены паміж Польшчай і Савецкай Расіяй (а з 1922 г. увайшлі ў склад Савецкага Саюза). У 1920 г. Польшча, апроч таго, анексавала паўднёва-ўсходнюю частку Літвы з яе сённяшняй сталіцай Вільняй. Гэтыя землі, якія складалі крыху больш за палову тэрыторыі міжваеннай Польшчы, агулам называліся “крэсамі” (ускраінамі). Не дзіва, што ў дачыненні да “крэсаў” ужываўся прыназоўнік *na* (*na Kresach*).

Венграў і чэхаў з іх развітой гістарычнай самасвядомасцю і трывалымі традыцыямі дзяржаўнасці, відаць, не вельмі хвалюе ўжыванне палякамі прыназоўніка *na* ў дачыненні да Венгрыі (*na Węgrzech*) і чэшскіх рэгіёнаў Маравіі (*na Morawach*) ды Сілезіі (*na Śląsku*). Не прыгадаю я і выпадкаў, каб нехта са славацкіх інтэлектуалаў крытыкаваў палякаў за захаванне традыцыйнай сінтаксічнай канструкцыі ў дачыненні да назвы Славакіі (*na Słowacji*), хоць гэта можа тлумачыцца той акалічнасцю, што яны маюць куды больш далікатныя тэмы для абмеркавання з венграмі.

Іншую сітуацыю мы маем у Літве, Беларусі і Украіне, дзе шмат хто валодае польскай мовай. Яны разглядаюць

гэтую польскую ўпартасць ва ўжыванні традыцыйнага *па* ў дачыненні да назваў іх краін (*na Litwie*, *na Białorusi*, *na Ukrainie*) як праяву захавання неапраўданага і несправядлівага каланіяльнага падыходу з боку палякаў да сваіх усходніх суседзяў. Вядома, у сучаснай Польшчы няма нікога, хто ўсур'ёз думаў бы пра анексію Літвы, Беларусі ці Украіны на правах "старых польскіх земляў", але яшчэ ў канцы 1980-х, у час маёй вучобы ў магістратуры Сілезскага ўніверсітэта ў Катовіцах, студэнты нярэдка заводзілі старую, ваенных часоў песеньку, якая заклікала "адбіць польскую Вільню" і "здабыць польскі Львоў", каб потым "адпачыць у Ленінградзе".

Апрача таго, польскі стэрэатып аб "ніжэйшасці" літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў працягвае існаваць, хоць і ў замаскаваных формах – якія хаваюць у сабе яшчэ больш небяспекі, бо выглядаюць неад'емнай часткай польскай культуры і мовы. На крытыку літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў наконт упартага ўжывання прыназоўніка *па* большасць польскіх інтэлектуалаў і мовазнаўцаў адказваюць, што гэта проста традыцыйная норма польскай мовы, якая не мае пад сабой ніякіх наўмысных ці выпадковых негатыўных канатацый. Дазволю сабе не пагадзіцца: ні мова, ні яе літаратурныя нормы не з'яўляюцца наканаванасцю. Калі тая ці іншая норма абражае кагосьці, як у вышэй разгледжаных выпадках з прыназоўнікам *па*, то людзі, якія твораць мову, гавораць на ёй і вызначаюць яе аблічча, могуць гэтую норму перагледзець. І носьбіты польскай мовы не менш ад іншых здатныя да такіх змен. За апошнія два дзесяцігоддзі прыклад таго, як трэба дзейнічаць у такіх выпадках, быў прадэманстраваны ў дзесяць разоў буйнейшай супольнасцю носьбітаў англійскай мовы, якія, напрыклад, у імя роўнасці і аб'ектыўнасці распрацавалі і ўвялі ва ўжытак гендарна-нейтральныя формы або перасталі ўжываць артыкль *the* пры назоўніку *Ukraine*.

Самы час і тым, хто гаворыць па-польску, паспрабаваць праявіць добрасуседства і валявым намаганнем замяніць у шэрагу выпадкаў прыназоўнік *па* нейтральным *w*: *w Litwie*, *w Białorusi*, *w Ukrainie*, роўна як і *w Łotwie*, *w Słowacji*, *w Węgrzech*. Ні мінуўшчына, ні стэрэатыпы,

ні тым больш старамодныя лінгвістычныя традыцыі не павінны кідаць цень на добрыя ўзаемаадносіны Польшчы з гэтымі краінамі.

Чаму гэтая праблема была прапанавана ўвазе міжнароднай аўдыторыі? Я лічу, што развагі над ужываннем двух польскіх прыназоўнікаў – *w* і *na*, як і над тым, што вынікае з такога ўжывання, – добрая ілюстрацыя таго, як даўнія падзеі, устаноўкі і стэрэатыпы ўкараняюцца ў мову, на якой мы гаворым і пішам, і як гэтыя падтэксты і адценні сэнсу, пра якія мы і не задумваемся, уплываюць на наша мысленне аб навакольным свеце. Выкарыстоўваючы метадалогію распрацаванай Мішэлем Фуко "археалогіі ведаў", у дадзеным выпадку прыглядаючыся да разнастайных механізмаў, што ўжываюцца ў мове для маркіравання і канструявання рэальнасці, мы можам прыйсці да цікавых адкрыццяў і вывадаў.

І самае галоўнае: гэта даказвае, што мова – не нейтральная лінза, праз якую мы глядзім на свет; часам тая лінза даволі-такі крывая. Гэтая крывізна абумоўлена разнастайнымі гістарычнымі працэсамі і падзеямі, што "агранілі" нашу мову. Калі прасачыць і прааналізаваць гісторыю гэтай агранкі, зразумець, як гэта ўплывае на наша сённяшняе ўспрыманне рэальнасці, можна дамагчыся важных і карысных карэктываў. З іншага боку, гэта можа дапамагчы нам ясней убачыць узаемадзеянне моўнага, палітычнага і сацыяльнага аспектаў, што само па сабе будзе метадалагічнай узнагародай – узнагародай міждысцыплінарнасці.

*Пераклад Сяргея Петрыкевіча*

# Да пытання пра “рэканструкцыю” хранікальных тэкстаў XIV–XV ст.*

**Алег Ліцкевіч**

Тэма нашай рэцэнзіі – шэраг тэкстаў, надрукаваных доктарам філалагічных навук, вядучым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Іванам Саверчанкам у хрэстаматыі пад выглядам рэканструкцыі аўтэнтычных хранікальных твораў XIV–XV ст.

Гэта наступныя тэксты, якія І. Саверчанка пазіцыянуе ў прадмове як “яркія помнікі нацыянальнага прыгожага пісьменства” і нават узоры “беларускай гатычнай літаратуры” (с. 5): “Аповесць пра Гедзіміна”, “Запісы пра княжанне Альгерда”, “Аповесць пра вялікага князя Альгерда”, “Запісы пра княжанне Ягайлы”, “Аповесць пра Ягайлу”, “Летапіс княжання Вітаўта”, “Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага”.

Любая рэканструкцыя архетыпаў[1] гістарычных крыніц, якія дайшлі да нашага часу ў некалькіх спісах і рэдакцыях, мусіць грунтавацца на строгай і празрыстай метадалагічнай аснове. Чытачы, а тым больш навукоўцы, якія будуць карыстацца такой рэканструкцыяй, павінны добра

* Беларуская літаратура X–XV стст. / укладанне, прадмова, каментарый, пераклад на беларускую мову і адаптацыя І. В. Саверчанкі. Мінск: Беларуская навука, 2010. 410 с.

[1] Паводле вызначэння Д. Ліхачова, “предполагаемый текст, от которого пошли все остальные тексты списков данной редакции, принято называть архетипом редакции” (Лихачев Д. С., Алексеев А. А., Бобров А. Г. Текстология. На материале русской литературы X–XVII веков. Изд. 3-е, перераб. и доп. С.-Петербург, 2001. С. 143).

ўсведамляць, па якіх прынцыпах яна праведзена, чаму аўтар аддаў перавагу таму ці іншаму прачытанню, як ён будуе іерархію розных спісаў і рэдакцый і адпаведна выбірае з іх самыя раннія і надзейныя.

У рэцэнзаванай кнізе апісання такіх прынцыпаў няма. І нават нягледзячы на тое, што кніга мае грыф “Навуковае выданне”, у ёй адсутнічае бібліяграфічны спіс, а значыць, няма ніякіх спасылак на ранейшыя працы аўтара-ўкладальніка, у якіх ён мог сфармуляваць гэтыя прынцыпы. Трэба таксама адзначыць, што ў тым экзэмпляры кнігі, якім мы карыстаемся, не пазначаны імёны навуковых рэцэнзентаў, а надрукаваныя тэксты пазбаўлены каментарыя, прысвечанага асобным гістарычным фактам, датам і персаналіям.

Такім чынам, аб прынцыпах праведзенай рэканструкцыі могуць даць аддаленае ўяўленне толькі спасылкі аўтара на публікацыі летапісаў і хронік, па якіх ён “узнаўляў” (тэрміналогія І. Саверчанкі) тыя ці іншыя тэксты.

Вывучэнне гэтых спасылак прыводзіць да наступных высноваў. Творы, надрукаваныя пад загалоўкамі “Аповесць пра Гедзіміна”, “Аповесць пра вялікага князя Альгерда”, “Аповесць пра Ягайлу”, аўтар-складальнік рэканструяваў паводле так званай “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай”, а таксама, па яго прызнанні, улічыў гістарычныя звесткі, пададзеныя ў навелах пра гэтых князёў, якія змешчаны ў “Хроніцы Быхаўца”.

“Запісы пра княжанне Альгерда” рэканструяваны паводле Супрасльскага і Нікіфараўскага летапісаў. “Летапіс княжання Вітаўта” – паводле Супрасльскага летапісу. Нарэшце, для рэканструкцыі “Аповесці пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага” выкарыстаны тэксты “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай”, “Хронікі Быхаўца” і Супрасльскага летапісу.

Для поўнай яснасці тут трэба зрабіць невялічкі экскурс у гісторыю вывучэння беларуска-літоўскіх летапісаў. Навуковае вывучэнне хронік, складзеных на тэрыторыі ВКЛ, пачалося ў першай чвэрці XIX ст., калі І. Даніловіч адкрыў і апублікаваў Супрасльскі спіс першага летапіснага зводу ВКЛ (для зручнасці мы адразу будзем карыстацца сучаснай тэрміналогіяй).

Паколькі ўсе вядомыя цяпер спісы беларуска-літоўскіх летапісаў уводзіліся ў навуковы зварот не адначасова, а на працягу перыяду, які расцягнуўся амаль на сто гадоў, важнасць розных прац, асабліва надрукаваных у XIX ст., не аднолькавая. Практычна поўнасцю састарэлі даследаванні І. Шараневіча, А. Барбашава, В. Іконнікава[2]. Захоўваюць значэнне некаторыя назіранні І. Даніловіча, А. Прахаскі, І. Ціхамірава (разам з выдатнымі публікатарскімі заслугамі двух першых вучоных)[3].

Выключную навуковую каштоўнасць працягвае мець праца С. Смолькі. Хоць польскі гісторык карыстаўся абмежаванай колькасцю спісаў, у яго даследаванні даволі дакладна вызначаны ўзаемасувязі паміж “Origo Regis” і так званым “Мемарыялам Вітаўта”, Супрасльскім і Слуцкім спісамі, правільна пастаўлены і вырашаны многія фундаментальныя пытанні наконт крыніц, складу, аўтарства і часу з’яўлення “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” і першага летапіснага зводу ВКЛ[4].

[2] Szaraniewicz I. O latopisach i kronikach Ruskich XV i XVI wieku a zwłaszcza o “Latopisie Wielikoho kniaztwa Litowskoho i Żomojtskoho” // Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału Historyczno-Filozoficznego Akademii Umiejętności. T. 15. Kraków, 1882. S. 351–413; Летописные источники для истории Литвы в средние века / сост. А. И. Барбашев. СПб., 1883. С. 3–9; Иконников В. С. Опыт русской историографии. Т. 2, кн. 2. Киев, 1908. С. 1496–1505.

[3] Данилович И. Н. О литовских летописях // Журнал Министерства народного просвещения. 1840. Ч. 28, № 11. С. 70–114; Prochaska A. Latopis litewski: rozbiór krytyczny. Lwów, 1890; Ён жа. Przekład ruskiego latopisca ks. Litewskiego na język łaciński // Kwartalnik Historyczny. Rocz. 2, zesz. 2. Lwów, 1888. S. 196–205; Тихомиров И. А. Два польских труда о западнорусских летописях // Журнал Министерства народного просвещения. 1891. Ч. 273, февраль. Отд. II. С. 397–412; Тихомиров И. А. [Рец.:] Prochaska A. Latopis litewski: rozbiór krytyczny. Lwów, 1890 // Журнал Министерства народного просвещения. 1893. Ч. 287, май; Тихомиров И. А. О составе так называемых литовских летописей // Журнал Министерства народного просвещения. 1901. № 3 (март), № 5 (май).

[4] Smolka S. Najdawniejsze pomniki dziejopisarstwa ruskolitewskiego: rozbiór krytyczny. Kraków, 1889.

З дасягненняў дарэвалюцыйнай расійскай гістарыяграфіі трэба назваць даследаванні А. Шахматава пра агульнарускія летапісы, што паслужылі крыніцай для першага летапіснага зводу ВКЛ[5]. Каласальнае значэнне мела публікацыя 17-га тома “Поўнага збору рускіх летапісаў”, падрыхтаванага С. Пташыцкім і А. Шахматавым[6] – упершыню пад адной вокладкай былі сабраны тэксты найважнейшых беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік, многія з якіх да таго часу яшчэ не друкаваліся. Гэтае выданне, забяспечанае кадыкалагічным апісаннем рукапісаў, стала асновай для далейшых даследаванняў і дагэтуль не страціла навуковай каштоўнасці.

Разам з С. Смолькам іншы польскі гісторык Я. Якубоўскі заклаў асновы сучаснай класіфікацыі летапісаў і хронік ВКЛ, прызнаўшы найбольш раннім першы летапісны звод ВКЛ (паводле Супрасльскага і Слуцкага спісаў), наступным па часе ўзнікнення – другі летапісны звод ВКЛ (паводле спіса Рачынскага) і трэцяй – “Хроніку Быхаўца”[7]. З некаторымі папраўкамі – вылучэннем “Летапісца” і “Мемарыяла Вітаўта” ў якасці старэйшых помнікаў гістарыяграфіі ВКЛ – гэтая класіфікацыя атрымала развіццё і абгрунтаванне ў пазнейшых працах самога Я. Якубоўскага, а таксама Ф. Сушыцкага, М. Прысёлкава, М. Randomly Ючаса, В. Чамярыцкага, М. Улашчыка, А. Ёвайшаса, Ю. Мікульскага, А. Ліцкевіча[8].

5 У кн.: Шахматов А. А. Обозрение русских летописных сводов XIV–XVI вв. Москва – Ленинград, 1938.

6 Полное собрание русских летописей. Т. 17. Западнорусские летописи. С.-Петербург, 1907.

7 Jakubowski J. Kroniki litewskie // Rocznik Towarzystwa przyjaciół nauk w Wilnie. T. 3. Wilno, 1910. S. 68–74.

8 Jakubowski J. Studia nad stosunkami narodościowymi na Litwie przed Unią Lubelską. Warszawa, 1912; Сушицький Т. Західньо-руськи літописи як пам’ятки літаратури / упорядк. та до друку вигот. О. А. Назаревський // Збірник історично-філологічного відділу. № 2. Праці комісіі давнього українського письменства. Т. 1. Київ, 1930; Приселков М. Д. Летописание Западной Украины и Белоруссии // Ученые записки Ленинградского гос. ун-та. Серия ист. наук. Вып. 7. Ленинград, 1941. С. 11–21; Jučas M. Lietuvos didžiųjų kunigaikščių

Беларускія даследчыкі (В. Ластоўскі, Я. Станкевіч) пачалі займацца старым летапісаннем ВКЛ яшчэ ў 20-я г. ХХ ст.[9]. Згаданыя два аўтары пераважна грунтаваліся на дасягненнях тагачаснай гістарыяграфіі суседніх краін і не ўнеслі нічога новага ў разгляд гэтай праблематыкі – за выняткам таго, што абвясцілі летапісы і хронікі, вядомыя ў дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі як “заходнерускія” або “літоўскія”, беларускімі, што мела пэўнае сімвалічнае значэнне.

metraštis // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai. Serija A. 1957, № 2. P. 111–121; Ён жа. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968; Ён жа. Lietuvos metraščiai ir kronikos. Vilnius, 2002; Чамярыцкі В. А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Минск, 1969; Ён жа. Летописи // История белорусской дооктябрьской литературы. Минск, 1977. С. 53–58; Ён жа. “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх” // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997. С. 354–355 [Тое ж у выд.: Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя. Т. 2. Мінск, 2006. С. 190–191]; Ён жа. Летапісы // Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX ст. Т. 1. Даўняя літаратура XI – 1-й пал. XVIII ст. Мінск, 2006. С. 234–242 [3-е выд., выпр.: Мінск, 2010. Пагінацыя тая ж]; Улащик Н. Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. Москва, 1985; Jovaišas A. Trumpojo Lietuvos metraščių sąvado literatūrinės ypatybės ir paslaptys // Senoji Lietuvos literatūra. Kn. 4. Metraščiai ir kunigaikščių laiškai. Vilnius, 1996. P. 222–261; Mikulski J. Smoleński ośródek latopisarski w latach 20–50. XV w. // Białoruskie zeszyty historyczne. T. 33. Białystok, 2010. S. 17–49; Ліцкевіч А. У. Пра некаторыя спісы “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” маскоўскага і наўгародскага паходжання (на маргінезе выданняў М. Улашчыка і В. Вароніна) // Вялікае Княства Літоўскае і яго суседзі ў XIV–XV стст.: саперніцтва, супрацоўніцтва, урокі. Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы. Матэрыялы Міжнар. навук. канф. Гродна, 8–9 ліп. 2010 г. Мінск, 2011. С. 207–223; Ён жа. Атручэнне князя Скіргайлы ў Кіеве (1395 год). Гістарычны каментарый і праблема аўтарства другой часткі “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” // Arche. 2012. № 3. С. 8–52.

[9] Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца Х да пачатку XIX стагодзьдзя. Коўна, 1926. С. 189–200; Станкевіч Я. Повесьці й апавяданьні беларускіх (крывіцкіх) летапісцаў // Ён жа. Крыўя-Беларусь у мінуласьці. [2-е выд.]. Вільня – Беласток, 2010. С. 31–48.

Сапраўдным пачаткам грунтоўнага навуковага даследавання летапісання ВКЛ у Беларусі стаў выхад у свет згаданых манаграфій В. Чамярыцкага "Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў" (1969) і М. Улашчыка "Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання" (1985), а таксама падрыхтаваных гэтымі вучонымі выданняў летапісаў і хронік – двух тамоў у серыі "Поўны збор рускіх летапісаў"[10]. Сярод беларускай вучэбнай літаратуры для вышэйшых навучальных устаноў, якая распавядае пра "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", у лепшы бок грунтоўнасцю і ўвагай да гістарыяграфічных і крыніцазнаўчых аспектаў вылучаецца падручнік А. Семянчук[11].

Салідны корпус навуковай літаратуры прысвечаны праблемам складу, датавання і аўтарства "Хронікі Быхаўца"[12]. Апроч пералічаных прац, у многіх з якіх закранаецца гэтая праблематыка, а таксама даследаванняў філалагічнага характару, варта асобна ўзгадаць працы М. Улашчыка, Е. Ахманьскага, Р. Ясаса, М. Ючаса, Б. Флоры, В. Чамярыцкага, К. Гудмантаса[13].

[10] Полное собрание русских летописей. Т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного. Москва, 1975; Полное собрание русских летописей. Т. 35. Белорусско-литовские летописи. Москва, 1980.

[11] Семянчук А. А. Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гродна, 2000. С. 29–37 [Глава: I летапісны звод. "Летописецъ великых князеи литовъскых"]. – Пар. таксама: Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд: Вучэб. дапам. для філал. фак. пед. ВНУ / М. М. Грынчык, У. А. Календнік, У. Г. Кароткі і інш.; пад рэд. М. А. Лазарука, А. А. Семяновіча. 4-е выд. стэрэатып. Мінск, 1998. С. 71–74; Клімаў І. П. Старажытная беларуская літаратура XI–XVI стст.: эпохі і постаці. Мінск, 2010. С. 84–86.

[12] Агляд гл.: Міхальчук Г. Гісторыя даследавання "Хронікі Быхаўца" // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры БДУ. Вып. 10. Мінск, 2009. С. 161–177.

[13] Хроника Быховца / подг. Н. Н. Улащик. Москва, 1966; Ochmański J. Nad kroniką Bychowca // Studia Źródłoznawcze. T. 12. Warszawa etc., 1967. S. 155–163; Флоря Б. Н. О "Летописце Быховца" // Источники и историография славянского средневековья. Сб. ста-

Творы беларуска-літоўскага летапісання неаднаразова перакладаліся, што, зразумела, патрабавала правядзення значнай працы па ўзнаўленні іх архетыпаў. Першы пераклад “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” і “Аповесці пра Падолле” на адну з сучасных моў (нямецкую) быў надрукаваны ў 1877 г.[14] і грунтаваўся толькі на Супрасльскім і Слуцкім спісах, таму ён часткова састарэў. У апошнія дваццаць гадоў тэкст “Летапісца...” быў перакладзены як на беларускую[15], так і на літоўскую мовы[16]. Беларускі пераклад “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх”, які характарызуецца высокімі літаратурнымі якасцямі, зроблены В. Чамярыцкім паводле Супрасльскага, Віленскага і Слуцкага спісаў (з прыцягненнем некаторых прачытанняў “Origo Regis”).

Спроба рэканструкцыі поўнага тэксту “Летапісца...” на рускай (“старабеларускай”) мове, зробленая на пад-

тей и материалов. Москва, 1967. С. 135–144; Lietuvos metraštis. Bychovco kronika / Vertė, įvadą ir paaiškinimus parašė R. Jasas. Vilnius, 1971; Ючас М. А. Хроника Быховца // Летописи и хроники. Сб. статей 1973 г., посвященный памяти А. Н. Насонова. Москва, 1974. С. 220–231; Чамярыцкі В. А. Да гісторыі фарміравання трэцяга беларуска-літоўскага летапіснага зводу – “Хронікі Быхаўца” // Беларуская пісьмовая спадчына ў кантэксце еўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу XI–XIX ст.: вытокі, традыцыі, уплывы. Матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф. (Мінск, 24 мая 2010 г.). Мінск, 2010. С. 51–60; Gudmantas K. Lietuvos metraščio Vavelio nuorasas (fragmentas) // Senoji Lietuvos literatūra. Kn. 34. 2012. P. 121–151.

14 Die älteste litauische Chronik / Aus dem Russischen übersetzt von F. Neumann. Hrsg. von M. Töppen // Altpreussische Monatsschrift. Bd. 14. Königsberg, 1877. S. 419–458.

15 “Летапіс вялікіх князёў літоўскіх” / Прадмова, пер. са ст.-бел. мовы і камент. В. А. Чамярыцкага // Спадчына. 1991. № 1. С. 78–84; № 2. С. 61–68; № 3. С. 78–81 [“Аповесць пра Падолле”]. – Гэты ж пераклад перадрукаваны ў выданнях: Беларускія летапісы і хронікі: пер. са ст.-рус., ст.-бел. і польск. / уклад. У. Арлова; прадм. В. Чамярыцкага. Мінск, 1997. С. 49–62; Літаратура XI–XVI ст. / уклад. і камент. А. У. Бразгунова, І. У. Будзько, Л. В. Ляўшун; навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. Мінск, 2011. С. 150–164 [тут з некаторымі зменамі].

16 Senoji Lietuvos literatūra. Kn. 4. Metraščiai ir kunigaikščių laiškai. Vilnius, 1996. P. 312–326, 343–347.

ставе Віленскага спіса, з розначытаннямі паводле Супрасльскага і Слуцкага спісаў[17], належыць В. Чамярыцкаму.

Нельга абмінуць увагай шэраг прац, прысвечаных мове беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік. Пачынальнікам гэтага кірунку навуковых даследаванняў быў Я. Карскі[18]. Сярод здабыткаў апошніх дзесяцігоддзяў трэба вылучыць працы Н. Марозавай[19], Л. Ціткі[20] і В. Мароз[21].

Сёння ў галіне вывучэння беларуска-літоўскага летапісання склаўся пэўны навуковы кансэнсус, які грунтуецца на даволі трывалых выніках тэксталагічных і крыніцазнаўчых даследаванняў. У агульных рысах карціна наступная: першыя хранікальныя творы, якія ўзніклі на тэрыторыі ВКЛ і апавядаюць пра падзеі XIV ст., – гэта так званы “Мемарыял Вітаўта” (умоўная назва нямецкамоўнага тэксту 1390 г. “Dis ist Witoldes sache wedir Jagaln vnd Skargaln”) і першая частка “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх”, адлюстраваная ў лацінскім перакладзе “Origo Regis” і шэрагу спісаў на рускай мове (з іх самыя

[17] “Летапіс вялікіх князёў літоўскіх” / рэд. падрыхтоўка В. А. Чамярыцкага // Анталогія даўняй беларускай літаратуры. XI – 1-я пал. XVIII ст. Мінск, 2005. С. 238–250.

[18] Карский Е. Ф. О языке так называемых литовских летописей // Ён жа. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. Москва, 1962. С. 211–220; гл. таксама яго агляд зместу “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” у кн.: Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 3. Очерки словесности белорусского племени. Вып. 2. Старая западнорусская письменность. Петроград, 1921. С. 99–100.

[19] Морозова Н. Виленский список “Летописца великих князей литовских” – языковые особенности и состав // Kalbotyra. 45 (2). Slavistica Vilnensis. 1995. Vilnius, 1997. С. 26–45; Яе ж. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės metraščių kalbos ir tekstologijos problemos: Bychovco kronika. Daktaro disertacijos santrauka. Vilnius, 2001.

[20] Citko L. “Kronika Bychowca” na tle historii i geografii języka białoruskiego. Białystok, 2006.

[21] Мароз В. К. Мова беларускага летапісання: манаграфія. Мінск, 2008; Яе ж. Летапісы і хронікі ў кантэксце фарміравання беларускай літаратурнай мовы старажытнага перыяду: манаграфія. Мінск, 2011.

раннія і значныя – Слуцкі, Супрасльскі, Віленскі і Акадэмічны). Каля 1430 г., а можа, і крыху пазней, першая частка "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" была дапоўнена ў Смаленску новым матэрыялам за 1384–1396 г. У поўным выглядзе "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", разам з "Аповесцю пра Падолле", "Пахвалой Вітаўта", хронікай феадальнай вайны 1430-х г., падборкай летапісных артыкулаў з агульнарускіх летапісных зводаў і некаторымі іншымі матэрыяламі, увайшоў у склад так званага першага летапіснага зводу ВКЛ.

У першыя дзесяцігоддзі XVI ст. на аснове Слуцкага спіса першага летапіснага зводу ВКЛ быў створаны другі летапісны звод ВКЛ (самая ранняя рэдакцыя якога, відаць, адлюстравана ў спісе Красінскага). У другім летапісным зводзе была значна ўніфікавана мова і дададзены паведамленні легендарнага характару пра раннюю гісторыю ВКЛ XIII–XIV ст. У некаторых спісах, як, напрыклад, у спісе Рачынскага, апавяданне працягнута і змешчаны звесткі пра падзеі XVI ст.

У XVI ст. быў створаны і трэці летапісны звод ВКЛ, тэкст якога на сёння прадстаўлены "Хронікай Быхаўца" і кракаўскім фрагментам, надрукаваным нядаўна К. Гудмантасам. Большасць "унікальных" паведамленняў "Хронікі Быхаўца" за перыяд раней 40-х г. XV ст. носяць легендарны характар і патрабуюць вельмі асцярожнай трактоўкі як гістарычныя крыніцы.

Нарэшце, у XVII ст. узнікла "Хроніка Літоўская і Жамойцкая". На яе тэкст значна паўплывала "Хроніка Польская, Літоўская, Жамойцкая і ўсёй Русі" Мацея Стрыйкоўскага (1582). Уплыў настолькі вялікі, што ў некаторых фрагментах "Хроніка Літоўская і Жамойцкая" ўяўляе сабой толькі сапсаваны і скарочаны пераклад хронікі Стрыйкоўскага. Адпаведна як крыніца пра падзеі XIV ст. гэтая хроніка мае вельмі абмежаваную вартасць, улічваючы яе позняе паходжанне, кампілятыўны і белетрызаваны характар.

Такім чынам, калі І. Саверчанка бярэ за аснову сваёй рэканструкцыі хранікальных тэкстаў "Хроніку Літоўскую і Жамойцкую", ён цалкам і без аніякіх тлумачэнняў

ігнаруе вялізны корпус папярэдняй навуковай літаратуры. У сваіх прадмовах да надрукаваных тэкстаў аўтар спасылаецца на вынікі папярэдняга навуковага аналізу. Так, напрыклад, у прадмове да "Аповесці пра Гедзіміна" ён піша: "Аналіз семантыкі твора сведчыць аб тым, што яго літаратурную і гісторыка-фактаграфічную аснову склалі старадаўнія навелы і занатоўкі, напісаныя непасрэдна ў часы княжання Гедзіміна або адразу пасля яго смерці" (с. 253). Але ўсе даследчыкі аднадушныя ў тым, што "Хроніка Быхаўца" і "Хроніка Літоўская і Жамойцкая", на якіх грунтуецца рэканструкцыя, узніклі ў XVI–XVII ст., гэта значыць як мінімум праз 160–300 г. пасля смерці Гедыміна, дык пра якія "нататкі сучаснікаў" тут можна гаварыць? Хіба І. Саверчанка адкрыў новыя спісы беларуска-літоўскіх летапісаў, невядомыя іншым навукоўцам?

Яшчэ большае здзіўленне выклікае метад, калі тэкст рэканструюецца з прыцягненнем адразу некалькіх хронік, створаных зусім у розныя перыяды і ў розных абставінах. Аўтар-складальнік адвольна, па незразумелых крытэрыях, выбірае фрагменты, якія яму падабаюцца, з Супрасльскага спіса (у якім адлюстраваны звод XV ст.), з "Хронікі Быхаўца" (XVI ст.) і "Хронікі Літоўскай і Жамойцкай" (XVII ст.). У выніку гэтай працэдуры ён атрымлівае нейкі новы тэкст, якому дае назву "Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага", і абвяшчае яго рэканструкцыяй аўтэнтычнага хранікальнага твора XIV або XV ст.

У выпадку з творам, які названы "Аповесцю пра вялікага князя Альгерда", аўтар-складальнік нават піша, што ён захаваўся ў дзвюх асноўных рэдакцыях: «Гісторыка-літаратурнае ядро "Аповесці" і яе фактаграфічная аснова створаны, верагодна, яшчэ пры жыцці Альгерда або адразу пасля яго смерці летапісцам, набліжаным да асобы вялікага князя. Другая рэдакцыя твора была зроблена ў XVI ст.» (с. 268). Чаму ж тады, калі захаваліся дзве рэдакцыі, прычым адна была створана ажно пры жыцці Альгерда, за аснову сваёй рэканструкцыі аўтар-складальнік бярэ не гэтую раннюю рэдакцыю, а "Хроніку Літоўскую і Жамойцкую" XVII ст.? Ці гэта проста разлік на

недасведчанага чытача, на якога нічым не падмацаваныя словы *рэдакцыя*, *гісторыка-літаратурнае ядро*, *аналіз семантыкі твора* могуць аказаць магічнае ўздзеянне?

Праілюстраваць методыку І. Саверчанкі можна на некалькіх даволі красамоўных прыкладах.

Найбольш раннія паведамленні пра тое, што Альгерд атрымаў ад Гедыміна ўдзел у Крэве, а пасля стаў княжыць у Віцебску, адлюстраваліся ў "Мемарыяле Вітаўта" і першай частцы "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх".

У "Мемарыяле Вітаўта" лаканічна сказана, што Гедымін даў Альгерду Віцебскае княжанне ("...vnd Jagaln fatir Algarden di herschafft czu Witawis")[22]. У першай частцы "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" апавяданне пашырана. Пераклад яго архетыпа, на нашу думку, можа гучаць у двух варыянтах: "Альгерду, бацьку пана караля – Крэва. Паколькі ж віцебскі князь не меў сыноў, то прыняў яго ў якасці зяця да сваёй адзінай дачкі ў Віцебск" (або другі варыянт: "прыняў яго да сваёй адзінай дачкі, каб ён узяў Віцебск"). Пры гэтым няясна, якім было зыходнае прачытанне архетыпа: "в зяти" або "взяти". Напрыклад, выдаўцы Акадэмічнага спіса надрукавалі прачытанне "принял его к докце у Витебь в зяти"[23]. У Супрасльскім спісе фраза гучыць як "принял его к дотьце Витебскь в зяти"[24], хоць граматычная будова сказа, здаецца, сведчыць, што тут можа быць і злітнае прачытанне ("взяти"). У Слуцкім спісе тут лакуна, але ў спісе Красінскага таксама значыцца: "принял Олкгирда к дочце своеи Витебъск в зяти"[25]. Перапісчыкі аднаго з прамежкавых спісаў усё ж патрактавалі словы "в зяти" як "взяти" (узяць), і гэта адбілася ў "Origo Regis" ("assumpsit eum ad filiam suam unicam, Wythewsko post eam recipiendo")[26]. Перапісчык Віленскага спіса вырашыў пазбегнуць тут двухсэнсоўнасці і ўвогуле выкрасліў словы "в зяти" ("принял ко дочце в Витебеск")[27].

[22] Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863. S. 712.
[23] ПСРЛ. Т. 35. Москва, 1980. С. 110.
[24] Тамсама, с. 61.
[25] Тамсама, с. 132.
[26] Тамсама, с. 115.
[27] Тамсама, с. 85.

Трэба адзначыць, што паміж “Мемарылам Вітаўта” і “Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх” тут існуе пэўнае сэнсавае разыходжанне. У адным тэксце гаворыцца, што Альгерд атрымаў Віцебск непасрэдна ад Гедыміна. А ў іншым – што ад Гедыміна Альгерд атрымаў Крэва, а ў Віцебску стаў княжыць толькі пасля шлюбу з віцебскай князёўнай, імя якой не называецца. Такое разыходжанне, на наш погляд, толькі падкрэслівае легендарны характар гэтых звестак і тое, што яны былі зафіксаваны на пісьме значна пазней пасля апісаных падзей.

У другім і трэцім летапісных зводах гэтае паведамленне практычна не зведала ніякіх змен[28]. Але яно было значна пашырана ў хроніцы Мацея Стрыйкоўскага, які пісаў наступным чынам: “Olgerdowi Krewo zamek, ktorego się państwo sciagało aż do Berezyny rzeki ku wschodu słońca idąc. A iż miał Olgerd granicę z kniaziem ruskim Witebskim, poiał v niego corkę iedynaczkę imieniem Vlianę, po ktorey też wziął w possagu wszystko Xięstwo Witebskie, ktore się wten czas sciagało od Berezyny rzeki aż do Juhry rzeki w Moskwi, po ktorą był potym Witold, synowiec Olgerdow granicę Litewskie z Wassilem Kniaziem Moskiewskim y iego państwy założył, iak o tym będzie niżey, a tak Olgerd w ten czas od Krewa y Witebska aż do Juhri na Xięstwach vdzielnych y wianowanych szeroko panował”[29].

Відаць, што Стрыйкоўскі дапоўніў звесткі, узятыя з аднаго з летапісных зводаў ВКЛ, дадзенымі з дакументальнай крыніцы (пагаднення паміж вялікім князем літоўскім Вітаўтам і вялікім князем маскоўскім Васілём Дзмітрыевічам). Але таксама відавочна, што яго паведамленне мае другасны характар, бо Стрыйкоўскі дапусціў грубую памылку: надзейна ўстаноўлена, што княгіня Ульяна Аляксандраўна была не першай, а другой жонкай Альгерда і паходзіла не з Віцебска, а з Цверы. Таму няма падстаў лічыць, што Стрыйкоўскі тут грунтаваўся на нейкіх невядомых цяпер аўтэнтычных крыніцах XIV ст.

[28] Тамсама, с. 97, 154, 181, 201, 222; ПСРЛ. Т. 32. Москва, 1975. С. 138.

[29] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Królewiec, 1582. S. 407–408.

Адпаведны фрагмент у “Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай” гучыць наступным чынам: “Олгердови Крево замок, которого ся панство ростягло ажь до Барчи реки ку всходу слонца идучои, а ижь мел Олгерд границу з княжатем русским витебским, бо понял у его дочку единачку именем Ювианию, по которой мел в посагу все князство Витебское, которого князства панство ростягълося от реки Березины аж до реки Угри в Москве (по которой был потом Витолт, сыновец Олгердов, границу литовскую з Василием, великим князем московским, и его потомствы заложил о чом будет нижей)”[30].

Гэты фрагмент цалкам запазычаны з хронікі Стрыйкоўскага. Але зроблены яўныя памылкі: “Барчи” замест “Berezyny”, “потомствы” замест “państwy”. Апошні сказ з хронікі Стрыйкоўскага (“a tak Olgerd w ten czas od Krewa y Witebska aż do Juhri na Xięstwach vdzielnych y wianowanych szeroko panował”) у “Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай” прапушчаны, напэўна, па стылістычных меркаваннях.

Думаю, не мае сэнсу падрабязна тлумачыць той факт, што насуперак сцверджанням І. Саверчанкі гэты тэкст “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай” ніякім чынам не мог быць створаны пры жыцці Альгерда або ў першыя гады пасля яго смерці.

Звернемся цяпер да рэканструкцыі І. Саверчанкі. Працытаваны фрагмент з “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай” ён выкарыстаў для “ўзнаўлення” першай часткі “Аповесці пра вялікага князя Альгерда”. Рэканструкцыя наступная: “Альгерд атрымаў у спадчыну ад бацькі – вялікага князя Гедзіміна – Крэўскі замак. Уладанні Альгерда сягалі на ўсход ажно да рэчкі Барчы і межавалі з Віцебскім княствам. Пасля шлюбу Альгерда з Ульянай, адзінай дачкой віцебскага князя, ён атрымаў у якасці пасагу ўсё Віцебскае княства. Альгердавы ўладанні цяпер расцягнуліся да ракі Бярэзіны і да ракі Угры” (с. 269).

Як бачым, І. Саверчанка запазычыў з “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай” нават яўную памылку, напісаўшы

30 ПСРЛ. Т. 32. С. 41.

“Барчы” замест “Бярэзіны”, хоць цікава, ці здолее шаноўны доктар філалагічных навук паказаць гэтую раку “Барчу” на карце Беларусі[31]. Нельга не заўважыць і тое, з якой лёгкасцю аўтар-складальнік прэпаруе нават тэкст “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай”, без усялякіх папярэджанняў і агаворак выкідваючы цэлыя абзацы. Ці магчыма тут увогуле гаварыць пра “рэканструкцыю” тэксту? Гэта больш нагадвае нейкі палёт фантазіі, не стрыманы ніякімі метадамі і прынцыпамі.

Неабгрунтаваны сляпы давер аўтара-складальніка да “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай” прыводзіць часам да амаль анекдатычных выпадкаў. У “Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай” гаворыцца: “О котором примирю Кестут от Гостороденя камендант крижацкого, которого дочку Кестут до крещения святого держал, зараз довѣдался”[32]. Ці трэба казаць, што І. Саверчанка без ценю сумневу таксама піша ў сваёй так званай “Аповесці пра Ягайлу” пра гэтага таямнічага “Гостороденя”: “Князь Кейстут даведаўся пра планы Ягайлы ад Гастардэня – крыжацкага каменданта, дачку якога ён трымаў падчас хрышчэння і быў яму кумам” (с. 279). І не толькі піша, але і выдае гэты тэкст за “рэканструкцыю” аўтэнтычнага хранікальнага твора XIV або XV ст. Між тым, у самых ранніх спісах “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” на рускай мове тут гаворыцца пра “Гунстына” – комтура Астэродэ Гюнтэра фон Гоэнштайна[33]. Напрыклад, у Віленскім спісе: “Острозкыи кунтоур,

[31] Ракі з такой назвай на тэрыторыі сучаснай Беларусі не зафіксавана: Блакітная кніга Беларусі (водныя аб'екты Беларусі): энцыклапедыя. Мінск, 1994. С. 55.

[32] ПСРЛ. Т. 32. С. 64.

[33] Voigt J. Namen-Codex der Deutschen Ordens-Beamten, Hochmeister, Landmeister, Grossgebietiger, Komthure, Vögte, Pfleger, Hochmeister-Kompane, Kreuzfahrer und Söldner-Hauptleute in Preussen. Königsberg, 1843. S. 23, 42; Boldt F. Der Deutsche Orden und Littauen. 1370–1386 // Altpreussische Monatsschrift. Bd. 10. Königsberg, 1873. S. 430; Balzer O. Genealogia Piastów. Kraków, 1895. S. 468–469; Rowell S. C. Pious princesses or the daughters of Belial: Pagan Lithuanian dynastic diplomacy, 1279–1423 // Medieval Prosopography. 1994. Vol. 15/1. P. 63; Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 года. Москва, 2005. С. 155.

звали его Гунстыном”; у Акадэмічным спісе: “Ошькровьскыи кунтарь, звали его Гуньстыном”; у Супрасльскім спісе: “Остродски кунтор, звали его Гунстыномь”; у спісе Красінскага: “лифлянскии кунтор, звали его Густыном”. Нягледзячы на існаванне цэлага шэрагу спісаў з памылковымі прачытаннямі[34], самае ранняе прачытанне архетыпа “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” устанаўліваецца ў гэтым выпадку з высокай ступенню надзейнасці, і гэтае прачытанне – менавіта “Гунстын”. Прачытанне ж “Гостородень” у “Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай” – зноў жа прамы вынік блытанага (па прынцыпе “сапсаванага тэлефона”) пераасэнсавання хронікі Стрыйкоўскага, дзе брат Ордэна называецца “kontorem Ostrodomskim” або “Osterodomskim”[35], або адной з іншых польскіх хронік, якая грунтавалася на чытанні “Origo Regis” (“astorodensis comendator”).

Пры гэтым не Кейстут хрысціў дачку брата Тэўтонскага ордэна Гюнтэра фон Гоэнштайна (як паказвае наш аналіз семантыкі твора, гэта проста нонсэнс), а Гоэнштайн хрысціў дачку Кейстута – Ганну Дануту, калі тая выходзіла замуж за мазавецкага князя Януша. І гэты факт,

[34] Напрыклад, “Origo regis”: “Astorodensis comendator dictus Smydsten”. Адсюль жа ў хроніцы Длугаша: “Sundsteyn Osterrodensem Commendatorem”. Спіс Дуброўскага: “Островскии купец, звали его Гнупыном”; адсюль у Пагодзінскім спісе: “Островскии купец, именем Гнупын”. Патрыяршы спіс А: “Ифлянскии коунтор, звали его Август”; спіс Рачынскага: “Ифлянскии кунтор, именем Авкгуштын”; Румянцаўскі спіс: “лифлянскии кунтар, звали его Авъкгуштыном” (ПСРЛ. Т. 35. С. 115, 155, 202; ПСРЛ. Т. 17. С.-Петербург, 1907. Стлб. 155, 207, 575; Długosz J. Opera omnia. T. 12. Historiae Polonicae libri XII. T. 3. Lib. IX, X. Cracoviae, 1876. S. 407). У “Хроніцы Быхаўца” змешчана іншае прачытанне: “Ostrodski kuntor, zwali ieho Liebestyn”, аднак нядаўняя знаходка ў Кракаве фрагмента хронікі з прачытаннямі, ідэнтычнымі “Хроніцы Быхаўца”, але з “Гуностымь”, сведчыць, што “Liebestyn” – гэта, верагодна, інтэрпаляцыя Т. Нарбута (гл.: ПСРЛ. Т. 32. С. 141; Gudmantas K. Lietuvos metraščio Vavelio nuorasas (fragmentas), p. 127–128).

[35] Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi, s. 464.

адлюстраваны ў “Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх”, пацвярджаецца хронікай Віганда з Марбурга, дзе Гоэнштайн названы кумам (compater) Кейстута[36]. Зразумела, такая памылка даравальная для кампілятара “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай”, які жыў у XVII ст., але сучасны навуковец мусіць ведаць хоць бы базавыя факты і прынцыпы тэксталагічнага і гістарычнага даследавання, каб не выдумляць нейкіх міфічных “Гастардэняў” і не заблытваць чытачоў.

Пра тое, што такія ляпсусы – гэта не адзінкавыя выпадкі, сведчыць і іншы прыклад. Так, на аснове Нікіфараўскага і Супрасльскага спісаў першага летапіснага звoду ВКЛ І. Саверчанка “ўзнаўляе” і друкуе твор пад назвай “Запісы пра княжанне Альгерда”. На яго думку, гэта не больш і не менш як “унікальны помнік нацыянальнай літаратуры і гістарыяграфіі” (с. 265).

Але разгледзім два першыя паведамленні гэтых “Запісаў пра княжанне Альгерда”.

“У 1342 годзе войскі Вялікага княства Літоўскага прыйшлі пад Мажайск. Пасады спалілі, але горада не ўзялі.

У 1350 годзе прыйшлі паслы ад літоўскага князя Альгерда да вялікага князя Сямёна Іванавіча. Яны прынеслі каштоўныя падарункі, прасілі падпісаць мір і вызваліць сваіх суайчыннікаў з палону. Князь падпісаў замірэнне з Альгердам на шмат гадоў і адпусціў з палону Карыятавых дзяцей” (с. 265–266).

Абодва паведамленні І. Саверчанка запазычыў з Супрасльскага і Нікіфараўскага спісаў, дзе гаворыцца: “В лѣто 6850. Приде рать литовьская к городу Можаиску, посад пожгошя, а града не взяшя”[37], а потым: “В лето 6858. Придоша послове от литовъского князя Олирда ко великому князю Семену Ивановичю со многыми дарми, прося мира и живота своеи братьи. Князь великыи воземь миръ на многа лѣта и отпусти Коръадову чадь”[38].

[36] Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. S. 604.
[37] ПСРЛ. Т. 35. С. 28, 46.
[38] Тамсама, с. 28, 47.

Звяртае на сябе ўвагу, што І. Саверчанка ў дадзеным выпадку адвольна выбраў з вялікай падборкі летапісных звестак тыя паведамленні, якія палічыў патрэбным, і сканструяваў з іх нейкі трэці тэкст пад назвай “Запісы пра княжанне Альгерда”. Лішне казаць, што асобнага тэксту з такой назвай і з такім зместам ніколі не існавала – ні ў XIV ст., ні пазней.

Больш за тое, цытаваныя летапісныя артыкулы не былі ўвогуле створаны на тэрыторыі ВКЛ. У першы летапісны звод ВКЛ яны трапілі з некаторых агульнарускіх зводаў, дзе былі змешчаны ў значна паўнейшым выглядзе. Так, у Рагожскім летапісцы, Сімяонаўскім летапісе і захаваных выпісках з Троіцкага летапісу мы чытаем тыя ж паведамленні, але больш падрабязныя і з іншай датай:

“В лѣто 6849… Тое же осѣни мѣсяца октября в 1 день, в Покров святыя Богородица, пришедше Олгерд с литовьскою ратию к городу к Можаиску, посад пожьгли, а города не взяли. Тогды Руготу оубили”[39].

“В лѣто 6857 Олгордъ князь Литовьскыи прислал послы свои к князю великому Семену Ивановичю бити челом за своего брата Корьяда и за бояр и за его дружину за Литву со многыми дары, просяще мира и живота своеи братии. Князь же великы Семен Иванович многое серебро отложив и приа любовь и мир мног взем отпусти Корьяда и его дружину Литву въсвояси. Того же лета прислал князь Люборт из Велыня своих бояр к князю великому Семену бити челом о любви и испросити сестричну его за себе оу князя Костянтина Ростовьскаго. И князь великии Семен Иванович приял в любовь его челобитие, пожаловал и выдал свою сестричну в Велынь. Того же лѣта князь Литовьскыи Олгорд прислал свои послы к князю великому Семену Ивановичу бити челом и просити за

[39] ПСРЛ. Т. 15. Рогожский летописец. Тверской сборник. Москва, 1965. Стлб. 53–54. Гэтае ж паведамленне пад той жа датай 6849 г. было змешчана ў Троіцкім летапісе і вядома з выпісак М. М. Карамзіна (Приселков М. Д. Троицкая летопись (реконструкция текста). Москва – Ленинград, 1950. С. 365). Гл. таксама: ПСРЛ. Т. 18. Симеоновская летопись. С.-Петербург, 1913. С. 93.

себе свести княжи Семеновы княжны Ульяны княжи дчери Александровы Михаиловича Тфѣрьского. И князь великии Семен Иванович доложа Фегнаста митрополита и выда свою свесть за Олгорда князя Литовьскаго"[40].

Прыярытэт агульнарускіх зводаў у дадзеным выпадку даказваецца даволі надзейна: паведамленні больш поўныя, больш звязныя і дэталёвыя, да таго ж змяшчаюць у дачыненні да Альгерда фармулёўкі кшталту "бити челом", якія паказваюць, што аўтарамі былі яўна не прадстаўнікі ВКЛ.

Калі б І. Саверчанка ўлічыў другаснасць цытаваных паведамленняў Нікіфараўскага і Супрасльскага спісаў, ён не дапусціў бы ў сваіх "рэканструкцыях" такіх памылак, як няправільнае ўказанне года або пераклад "Карыятавых дзяцей" (калі гаворка ідзе пра "Коръадову чадь", гэта значыць пра баяр і дружыну). Застаецца запытацца, дзе ж тут у гэтых скарочаных летапісных артыкулах, запазычаных з агульнарускіх зводаў, І. Саверчанка ўбачыў "унікальны помнік нацыянальнай літаратуры і гістарыяграфіі"? Але відавочна, што пытанне рытарычнае.

Аб'ём рэцэнзіі не дазваляе падрабязна аналізаваць іншыя прыклады. Але думаю, што і на аснове выкладзенага матэрыялу можна зрабіць пэўныя высновы.

"Рэканструкцыя" згаданых хранікальных твораў у рэцэнзаванай кнізе праведзена з грубымі парушэннямі методыкі і прынцыпаў навуковага даследавання. Аўтар-складальнік цалкам праігнараваў бадай усю папярэднюю літаратуру, прысвечаную вывучэнню беларуска-літоўскага летапісання. Прааналізаваныя выпадкі сведчаць, што сур'ёзнага тэксталагічнага і гістарычнага аналізу перад тым, як рабіць свае "рэканструкцыі", аўтар-складальнік не праводзіў. У шэрагу выпадкаў І. Саверчанка бярэ яўна другасныя кампілятыўныя тэксты XVI і XVII ст. ("Хроніку Быхаўца", "Хроніку Літоўскую і Жамойцкую") і, штучна вырываючы з іх асобныя фразы і абзацы, канструе новыя

[40] ПСРЛ. Т. 15. Стлб. 59. Тое ж пад датай 6857 г. у выпісках М. М. Карамзіна з Троіцкага летапісу (Приселков М. Д. Троицкая летопись, с. 370). Гл. таксама: ПСРЛ. Т. 18. С. 96–97.

фантомныя тэксты, якія потым друкуе пад выглядам рэканструяваных аўтэнтычных хранікальных твораў XIV–XV ст. Дзіўна, што пры друкаванні рэцэнзаванай кнігі ў выдавецтве “Беларуская навука” не знайшлося спецыялістаў, якія б маглі ўказаць на відавочныя метадалагічныя хібы, дапушчаныя аўтарам-складальнікам. Аднак яшчэ горш для сітуацыі ў беларускай гуманітарнай навуцы, калі такія спецыялісты ўсё ж знайшліся, але іх меркаванні былі праігнараваныя.

Асобных хранікальных твораў з назвамі “Аповесць пра Гедзіміна”, “Запісы пра княжанне Альгерда”, “Аповесць пра вялікага князя Альгерда”, “Запісы пра княжанне Ягайлы”, “Аповесць пра Ягайлу”, “Летапіс княжання Вітаўта”, “Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага” і з тым зместам, які ў іх уклаў І. Саверчанка, у XIV–XV ст. ніколі не існавала. Назвы гэтых твораў выдуманы І. Саверчанкам, а змест сфармаваны штучна шляхам адвольнай “вівісекцыі” некаторых хронік XV–XVII ст.

“Рэканструяваныя” І. Саверчанкам хранікальныя творы не могуць выкарыстоўвацца як крыніцы па гісторыі ВКЛ, а таксама па гісторыі старажытнай культуры і літаратуры Беларусі. Гэта хацелася б падкрэсліць, бо кніга выдадзена немалым накладам (1500 асобнікаў) і паводле выдавецкай анатацыі адрасуецца “навукоўцам, выкладчыкам ВНУ і каледжаў, настаўнікам, студэнтам і школьнікам”. Шкода ад увядзення ва ўжытак выдуманых І. Саверчанкам “унікальных помнікаў нацыянальнай літаратуры і гістарыяграфіі” ў навуковым і адукацыйным працэсе можа аказацца вельмі значнай.

Асобна хацелася б вызначыцца з нашым стаўленнем да “Хронікі Літоўскай і Жамойцкай”. Не сакрэт, што па гісторыі XIV ст. захавалася не так многа крыніц – і наратыўных, і дакументальных. Іх паведамленні часта сухія і лаканічныя. Па сваёй літаратурнай апрацоўцы, багаццю дэталяў і псіхалагічных характарыстык яны, вядома ж, прайграюць больш познім хранікальным творам, напрыклад, хроніцы Мацея Стрыйкоўскага або “Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай”. Перад гісторыкам паўстае спакуса

адкінуць больш раннія аўтэнтычныя крыніцы і пабудаваць свой наратыў на хроніках XVI–XVII ст., апраўдваючы гэта тым, што ў гэтых хроніках быццам бы адлюстраваліся нейкія крыніцы, якія не дайшлі да нашага часу. Па кожнай тэме існаванне такіх крыніц мусіць быць надзейна абгрунтавана па выніках скрупулёзнага і празрыстага тэксталагічнага і гістарычнага аналізу. У многіх выпадках, што датычыцца XIV ст., нават у хроніцы Стрыйкоўскага "ўнікальныя звесткі" – проста вынік яго домыслаў ці імкнення неяк аздобіць апавяданне з літаратурнага пункту гледжання. Што ж тады казаць пра "Хроніку Літоўскую і Жамойцкую", якая па некаторых эпізодах з'яўляецца проста блытаным і скажоным пераказам хронікі Стрыйкоўскага. Самая актуальная задача ў вывучэнні "Хронікі Літоўскай і Жамойцкай", на наш погляд, – гэта супаставіць яе тэкст з больш раннімі хронікамі, найперш з хронікай Стрыйкоўскага, і дакладна вылучыць тыя фрагменты тэксту або трактоўкі асобных падзей, якія больш нідзе не паўтараюцца. Менавіта такая праца была б сапраўды карыснай і для гісторыкаў, і для літаратуразнаўцаў.

## ДОЎНАР, ЛАРЫСА І. Гісторыя беларускай кнігі: вучэбны дапаможнік. Мінск: БДУКМ, 2012. 252 с.

Сёння Ларыса Доўнар – адзін з найлепшых даследчыкаў гісторыі кнігі ў Беларусі. Яна працуе на кафедры тэорыі і гісторыі інфармацыйна-дакументных камунікацый у Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, а да нядаўняга часу з'яўлялася і галоўным бібліятэкарам аддзела рэдкіх кніг ва ўніверсітэцкай бібліятэцы, паспяхова спалучаючы даследаванні і выкладанне з практычнай работай непасрэдна з кнігамі як прафесійны бібліятэкар. Л. Доўнар выдатна спраўляецца з усімі ролямі і знаёміць студэнтаў і зацікаўленых чытачоў з гісторыяй кнігі ў Беларусі. Гэтая гісторыя часам досыць складаная з-за змянення дзяржаўных межаў і палітычнага ладу, а таксама з прычыны палітызацыі пытанняў мовы і пісьменства.

У рэцэнзаванай кнізе – дапаможніку для студэнтаў па спецыяльнасці "бібліятэказнаўства" названага ўніверсітэта – аўтар у большасці выпадкаў паспяхова адказвае на вострыя пытанні, карыстаючыся метадам, які практыкавалі паслядоўнікі *histoire croisée*. Праўда, тут не згадваецца ні наватарскі падыход, ні сам тэрмін, які з нядаўняга часу стаў модным сярод сацыёлагаў у Заходняй Еўропе. Тым не менш Л. Доўнар скрупулёзна раскрывае сутнасць праблемы, карыстаючыся міждысцыплінарным падыходам. Аўтар усведамляе, што праекцыя сучасных межаў беларускай нацыянальнай дзяржавы на данацыянальнае мінулае анахранічная, і гэта непазбежна выклікала б супярэчнасці, з якімі трэба лічыцца.

У выніку студэнт і зацікаўлены чытач маюць магчымасць пазнаёміцца з дастаткова збалансаваным і падрабязным аналізам гісторыі кнігі ў Беларусі. Як і прадугледжана ў першым раздзеле, аўтар паслядоўна разглядае ўсе кнігі, напісаныя і надрукаваныя ў Беларусі і для Беларусі, разуметай як пэўная тэрыторыя, што спачатку была звязаная з Полацкім, Смаленскім і Тураўскім княствамі, а потым, пасля 1569 г. і да канца XVIII ст., з ВКЛ у Рэчы

Паспалітай (у меншай ступені з яго этнічна літоўскай паўночнай часткай, што цяпер уваходзіць у склад Літвы). На пачатку XIX ст. яе межы часткова супадалі з Віленскай навучальнай акругай Расійскай імперыі, а пасля 1830-х г. з паўночна-заходнімі губернямі Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай, Смаленскай і Віцебскай.

У другім раздзеле разглядаецца прадукаванне рукапісаў у трох згаданых княствах паміж IX і XIII ст. Наступны, трэці, раздзел прысвечаны культуры рукапісаў на працягу ўсяго перыяду ВКЛ і Рэчы Паспалітай, г. зн. з XIII па XVIII ст. У чацвёртым раздзеле разглядаецца станаўленне і развіццё друкаванай кнігі ў ВКЛ з XVI да XVIII ст. Пяты раздзел знаёміць чытача з марудным і часта штучна стрымліваным развіццём беларускамоўнага кнігавыдання ў часы Расійскай імперыі на фоне пашыранай гісторыі кнігі даследаванага рэгіёна. Беларускамоўная кніга адназначна звязаная з фармаваннем этнічна і лінгвістычна арыентаванага беларускага нацыянальнага руху. Пра афіцыйную імперскую палітыку русіфікацыі, якая на практыцы азначала поўную забарону на беларускамоўныя публікацыі паміж 1863 і 1906 г. (96 і 105), гаворыцца даволі ўскосна, без згадкі самога тэрміна “русіфікацыя” ці хоць бы імперскай ідэалогіі “самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць”.

Шосты раздзел, прысвечаны савецкаму перыяду (1917–1989), пабудаваны вельмі цікава, што, магчыма, абумоўлена неабходнасцю адлюстраваць патрэбы і галоўныя прынцыпы вучэбнай праграмы па нацыянальнай гісторыі адпаведна афіцыйнаму варыянту, прынятаму для ўсіх навучальных устаноў Беларусі. Па-першае, наогул не згадваецца ваенна-адміністрацыйнае ўтварэнне Обэр-Ост, заснаванае нямецкімі акупацыйнымі сіламі на тэрыторыі былога ВКЛ. Аднак Обэр-Ост існаваў з 1915 да 1918 г., і яго адукацыйная і адміністрацыйная палітыка мела першачарговае значэнне для пераадолення русіфікацыі і станаўлення этналінгвістычнага нацыяналізму беларусаў, яўрэяў, латышоў і літоўцаў. Акрамя забароны рускай мовы і (часткова) кірыліцы, а таксама замены гэтай мовы на нямецкую і польскую ў якасці афіцыйных акупацыйнае праўленне

ўпершыню ў гісторыі падтрымлівала выкарыстанне беларускай лацінкі, літоўскай мовы, ідыша ў мясцовых органах улады і школах. Такім чынам, станаўленне беларускамоўнай школы непарыўна звязана з ваеннай адміністрацыяй Обэр-Ост. Палітыка каранізацыі ў міжваеннай Беларусі будавалася на гэтай аснове, у той час калі палітыка паланізацыі паступова падрывала тыя невялікія дасягненні на этнічна беларускіх землях, уключаных у склад Польшчы пасля 1921 г. Апошняе, але не менш важнае: без аналізу Обэр-Оста немагчыма растлумачыць, чаму міжваенная Савецкая Беларусь у 1922–1938 г., у адрозненне ад іншых савецкіх рэспублік (афіцыйна моналінгвістычных), была афіцыйна чатырохмоўнай (беларуская, польская, руская і ідыш) і выкарыстоўвала тры сістэмы пісьма (кірылічнае, лацінскае, ідыш).

Гісторыя беларускамоўнай кнігі ў міжваеннай Польшчы (не ў складзе Савецкага Саюза) разглядаецца ў другім параграфе шостага раздзела пад няўдалым тэрмінам "Заходняя Беларусь". Пра Рыжскую дамову, якая завяршыла савецка-польскую вайну (1919–1921; Савецкая Украіна таксама была яе ўдзельнікам), сцісла гаворыцца на с. 139, але згадваецца не сама вайна, а толькі адзін з яе вынікаў, а менавіта падзел этнічна беларускіх земляў. Гэтаксама, хоць савецка-нямецкі пакт 1939 г. і наступнае ўварванне Нямеччыны ў Польшчу згадваюцца, пра савецкі напад на Польшчу нічога не гаворыцца, хоць адно з наступстваў гэтага, а менавіта аб'яднанне этнічна беларускіх земляў, коратка аналізуецца (151). У гэтай сувязі шосты раздзел атрымаўся самым слабым у кнізе. Асабліва кідаецца ў вочы недахоп дэталёвага аналізу перыяду 1915–1941 г. у кантэксце шэрагу вырашальных падзей таго часу. Гэта стварае значныя эпістэмалагічныя цяжкасці для студэнтаў, якія вымушаны будуць ламаць галаву, каб разабрацца, як жа ўзнікла палітычнае і этналінгвістычнае аблічча сучаснай Беларусі.

Гісторыя кніжніцтва ў незалежнай Беларусі разглядаецца ў сёмым раздзеле. А завяршаецца падручнік восьмым раздзелам, прысвечаным выдавецкай дзейнасці беларускай эміграцыі з 1920 г. да цяперашняга часу. Аўтар

не спрабуе патлумачыць феномен, а прапануе проста дадзеныя, ясна паказваючы, што паміж 1945 і 1985 г. выдавецтва кніг у Беларусі імкліва русіфікавалася, доля рускамоўных назваў за названы перыяд узрасла з 12% да 89% (166–169). Гэтая тэндэнцыя рэзка змянілася на супрацьлеглую ў незалежнай Беларусі: у 1993 г. доля рускамоўных назваў знізілася да 73%. Увядзенне рускай мовы ў якасці другой афіцыйнай у 1994 г. спыніла гэтую тэндэнцыю, і доля рускамоўных назваў зноў узрасла з 76% у 1994 г. да 91% у 2010 г. (170–171, 198).

Наступнае пытанне, да якога Л. Доўнар не выказвае свайго стаўлення і не дае ніякіх тлумачэнняў, – цэнзура ў сучаснай Беларусі. Назва гэтага інстытута аўтарытарнага кантролю па прадухіленні свабоды слова і выдавецкай дзейнасці згадваецца толькі тады, калі ён быў афіцыйна паэтапна ліквідаваны ў Расійскай імперыі ў 1905 г. (104). У той жа час нічога не сказана пра цэнзуру (апроч восьмага раздзела па эміграцыйным кнігавыданні) ні ў савецкай, ні ў незалежнай Беларусі. Але ў сёмым раздзеле аўтар паказвае, што ў 1995 г. беларускі парламент выдаў цэлы пакет заканадаўчых актаў, а ў 2003 і 2010 г. беларускі прэзідэнт вынес пастановы, скіраваныя на "кантроль" і "ліцэнзаванне" (чытай: цэнзуру) выдавецкай справы ў Беларусі.

Мяркую, што згаданыя недакладнасці і белыя плямы ў асвятленні падзей XX і XXI ст. не азначаюць недахопу ведаў аўтара ў гэтай галіне, а хутчэй за ўсё выкліканы ідэалагічнымі абмежаваннямі, у рамках якіх яна вымушана пісаць і праводзіць даследаванні. Цікава, ці не тым жа тлумачыцца павярхоўнае апісанне лацінска-, польска-, яўрэйскамоўнага кнігавыдання, у той час калі – даволі нечакана – выдавецкай справе нямецкай акупацыйнай адміністрацыі ў Райхскамісарыяце Остланд паміж 1941 і 1944 г. аддаецца вялікая ўвага (152–155). Хацелася б ведаць, які ідэалагічны прынцып паўплываў на гэта, асабліва ў кантэксце адсутнасці якіх-небудзь звестак пра тэрыторыю, падкантрольную Обэр-Осту.

Нягледзячы на тое, што выкарыстанне арабскага, кірылічнага, яўрэйскага і лацінскага пісьма вітаецца ў падручніках (гэта акцэнтуецца сёння і ў беларускім нацыянальным

майстар-наратыве), усе некірылічныя загалоўкі падаюцца ў кірылічнай транскрыпцыі. Гэтае правіла распаўсюджваецца таксама і на старыя (царкоўныя) кірылічныя загалоўкі, хоць у большасці навуковых кніг, надрукаваных у сучаснай Расіі і Украіне, аналагічныя загалоўкі падаюцца арыгінальным шрыфтам, – цяперашнія ж тэхналогіі дазваляюць з лёгкасцю аб'яднаць грамадзянскі і старакірылічны шрыфты ў адным тэксце. Спіс вышэйзгаданых назваў беларускай лацінкай і па-польску і іх кірылічных транскрыпцый змешчаны ў табліцы на с. 230–234, каб студэнты і чытачы маглі ідэнтыфікаваць гэтыя публікацыі. Але аналагічныя табліцы з транскрыпцыямі старакірылічнага, яўрэйскага і арабскага шрыфтоў не прапануюцца. Больш за тое, некаторыя загалоўкі, напісаныя лацінскімі літарамі, наогул не маюць транскрыпцыі (110, 122, 137, 141). Гэта прыводзіць да думкі, што рашэнне транскрыбаваць лацінскія назвы і імёны на кірылічныя было прынята рэдактарам кнігі.

Такі падыход самы няўдалы, паколькі, нават не кажучы пра тое, што чатыры гістарычных пісьма абвешчаны як нацыянальны гонар (напрыклад, на 4-й старонцы назва кнігі падаецца пяццю шрыфтамі на васьмі мовах: старабеларускай, беларускай, беларускай лацінцы, лацінскай, польскай, ідыш, татарскай, яўрэйскай і рускай), студэнт па бібліятэказнаўстве абавязаны ўмець чытаць і карыстацца ўсімі варыянтамі пісьма, што сустракаюцца ў кнігах краіны. Падручнік быў бы зручнейшы для студэнтаў, калі б меў спіс назваў кніг у алфавітным парадку. Хоць трэба адзначыць як станоўчае дапаможную ролю ў працы з тэкстам падручніка імяннога і геаграфічнага паказальнікаў, складзеных аўтарам.

Улічваючы высакаякасныя паперу і друк выдання, можна было б размясціць на вокладцы каляровыя ці чорна-белыя ілюстрацыі найбольш значных і вядомых кніг і перыёдыкаў. Карты таксама не былі б лішнімі.

Здзівіла таксама і бібліяграфія кнігі, абмежаваная выключна загалоўкамі па-беларуску і па-руску. Мне здаецца, што выключэнне важных пазіцый на ідыш, англійскай, нямецкай, літоўскай і польскай мовах значна абмяжоўвае прафесійныя і даследчыя памкненні студэнтаў, на

якіх і разлічана гэтая кніга. Апошняе, на што хацелася б звярнуць увагу: даволі дзіўна, што скарачэнне *М.* азначае ў бібліяграфіі *Масква* як месца выдання, у той час калі назва беларускай сталіцы *Мінск* (*Менск*) пішацца поўнасцю. Мяркую, што гэта старая савецкая практыка, якая працягваецца і ў сучаснай Расіі. У Беларусі ж павінна быць усё наадварот (Масква не яе сталіца): скарачэнне *М.* замест *Менск*. Было б яшчэ лепш, калі б усе месцы выдання прапісваліся поўнасцю, і Масква таксама.

Я шмат пра што даведаўся з гэтай кнігі. Яна пашырыла і сістэматызавала мае веды ў галіне беларускай культуры і выдавецкай справы. Нягледзячы на некаторыя лакуны ў дадзенай працы, мне пасля трох дзесяцігоддзяў даследаванняў гісторыі Цэнтральнай Еўропы было дастаткова лёгка запоўніць усе прабелы. У той жа час я спачуваю студэнтам, якія зусім нядаўна скончылі школу, таму што ў іх могуць узнікнуць складанасці з успрыманнем матэрыялу ў тых месцах, дзе некаторыя падзеі беспадстаўна абмінутыя.

Сэнт-Эндрус *Тамаш Камусэла*

## ГАРДЗЕЕЎ, ЮРЫ. Тапанімія старажытнай Гародні (XII–XVIII стст.). Гародня, 2013. 189 с. (серыя “Гарадзенская бібліятэка”)

Інтэнсіўнае развіццё ў апошнія дзесяцігоддзі беларускай анамастыкі ў значнай ступені дазволіла паглыбіць яе тэарэтычныя асновы, пашырыць праблематыку і фактычную базу, удакладніць прынцыпы і метады даследавання. З’явілася вялікая колькасць работ, прысвечаных рознааспектнаму вывучэнню тапонімаў асобных рэгіёнаў і асобных населеных пунктаў. Але пры ўсім багацці і разнастайнасці прац па беларускай тапаніміцы комплексныя даследаванні, у якіх раскрывалася б дынаміка тапанімічнай прасторы сучаснага беларускага горада ў яе сувязі з грамадска-палітычнымі, сацыяльна-эканамічнымі,

культурнымі і прыродна-геаграфічнымі рэаліямі, да цяперашняга часу не атрымалі сістэмнага і шырокага навуковага асвятлення. Большасць беларускіх тапанімічных даследаванняў адлюстроўвае сінхронны стан тапанімічных сістэм. Аднак сінхранія – гэта толькі адзін зрэз, які паказвае статычны стан сучасных найменняў, іх узаемную сувязь і абумоўленасць. Сінхранія не можа адказаць, як, калі і чаму склалася тая ці іншая сістэма або асобныя яе звёны, якія змяненні ўласныя назвы перажылі ў сваім развіцці. Для высвятлення ці хаця б гіпатэтычнага вызначэння агульнай тапанімічнай карціны той ці іншай этнічнай супольнасці або пэўнага населенага пункта неабходна глыбіннае асэнсаванне матэрыялу, што складае задачу гістарычнай тапанімікі. Назіранні над матэрыялам гістарычных дакументаў дазваляюць тапанімісту рабіць вывады пра тыповасць пэўных мадэляў у тую ці іншую эпоху, пра іх сувязь з гістарычнымі абставінамі. Пры гэтым абавязковая ўмова пры вывучэнні тапаніміі – выкарыстанне звестак розных навук (гісторыі, геаграфіі, мовазнаўства, этнаграфіі, археалогіі, этналогіі і інш.), што абумоўлена міждысцыплінарным характарам уласных геаграфічных назваў.

У сувязі з гэтым манаграфія Юрыя Гардзеева “Тапанімія старажытнай Гародні (XII–XVIII стст.)” надзвычай актуальная, у ёй упершыню ў Беларусі прасочваецца гісторыя ўзнікнення, развіцця і трансфармацыі тапанімічнай сістэмы Гародні на вялікім храналагічным адрэзку – ад перыяду Сярэднявечча да Новага часу. Кніга структуравана ў адпаведнасці з задумай аўтара максімальна поўна ахапіць уласныя назвы ўсіх асноўных аб’ектаў, што ўтвараюць унутрыгарадскую прастору Гародні. У сувязі з гэтым у асобныя раздзелы вылучаны праблемы паходжання назвы *Гродна*, найменняў гарадскіх водных аб’ектаў, значная ўвага аддаецца пытанням узнікнення і эвалюцыі назваў гарадскіх вуліц, кварталаў, плошчаў, рынкаў, культавых аб’ектаў, якія выступаюць неад’емнай часткай анамастычнай прасторы горада, разглядаюцца таксама назвы зямельных надзелаў і агародаў, іншых дробных фізіка-геаграфічных аб’ектаў. Значнае месца

адведзена аналізу ўрбанонімаў як лінгвістычных адзінак і гісторыка-культурных помнікаў.

Правільная тэарэтычная арыентацыя, прадуманая сістэма метадычных прыёмаў, прыцягненне да аналізу масавага фактычнага матэрыялу дазволілі аўтару забяспечыць аб'ектыўнасць і дакладнасць вывадаў. Метадалогія даследавання базуецца на гісторыка-генетычным метадзе, у аснове якога ляжыць выяўленне, збор і сістэматызацыя крыніц з далейшым правядзеннем аналізу. З дапамогай параўнальна-гістарычнага метаду раскрываюцца заканамернасці фармавання, функцыянавання і развіцця ўрбананімічнай сістэмы горада, выяўляюцца адметныя рысы гарадской тапанімікі, праводзіцца тыпалогія і сістэматызацыя ўласных найменняў паводле іх сутнасна-змястоўнай прыроды. Выкарыстанне стратыграфічнага метаду дазваляе раскрыць паходжанне ўласных імёнаў унутрыгарадскіх аб'ектаў, паказаць іх паслядоўнае развіццё ў часе і прасторы.

Абгрунтаванасць і верагоднасць асноўных вынікаў даследавання забяспечаны ўсебаковым аналізам фактычнага матэрыялу, сабранага аўтарам з розных крыніц. Вучоны шырока выкарыстоўвае сярэднявечныя летапісы і ордэнскія хронікі XII–XIV ст., што дазваляе выявіць пачатковыя, найбольш старажытныя формы гарадскіх тапонімаў. Вялікую каштоўнасць уяўляюць помнікі справавой пісьменнасці: запісы актавых кніг магістрата і судовых установ Гарадзенскага павета XVI–XVIII ст., а таксама Літоўскай метрыкі, гарадскія інвентары ці рэвізіі, перапісы насельніцтва, падатковыя тарыфы. Выбраныя аўтарам крыніцы змяшчаюць вялікі тапанімічны матэрыял, дакладна датаваны і тэрытарыяльна лакалізаваны. Акрамя таго, справавыя дакументы, асабліва пагадненні, заключаныя паміж прыватнымі асобамі, адлюстроўваюць найбольш аб'ектыўныя формы назваў. Як слушна заўважае Юры Гардзееў, уносячы ў кнігі акты куплі і продажу нерухомай маёмасці, пісары былі абавязаны як мага дакладней вызначаць канкрэтную прывязку гарадской сядзібы ў прасторы. Гравюры і легенды картаграфічных крыніц таксама змяшчаюць важныя звесткі.

У манаграфіі закранаецца праблема паходжання назвы горада Гродна. Гэтая праблема неаднаразова станавілася аб'ектам даследавання мовазнаўцаў (К. Буга, П. Вэкслер, А. Жураўскі, В. Лемцюгова, М. Ціхаміраў), географаў (В. Жучкевіч), археолагаў (Г. Штыхаў, П. Лысенка). Аўтар манаграфіі ўпершыню паспрабаваў сістэматызаваць розныя версіі ў святле дзвюх актуальных канцэпцый – балцкай і славянскай. На канкрэтным гістарычным матэрыяле ён прасачыў дынаміку назвы ад часоў першага яе ўпамінання ў пачатку XII ст. да канца XVIII ст. З апорай на звесткі старажытнарускіх летапісаў, Метрык ВКЛ, радзівілаўскай архіўнай спадчыны Юры Гардзееў разгледзеў асноўныя этапы трансфармацыі тапоніма ад першапачатковай формы *Городенъ* да *Городно,* а затым і да сучаснай – *Гродна.* Аналіз крыніц дазволіў вучонаму зрабіць важную выснову, што ўжо ў XIII ст. спрадвечная назва *Городенъ* зазнала змены, выкліканыя ў першую чаргу моўнымі працэсамі той пары. Менавіта ў гэты перыяд фіксуецца поўнагалосная форма *Городно.* Няпоўнагалосны варыянт (*Гродно*) – вынік, як слушна адзначае аўтар кнігі, уплыву лацінскамоўных і польскамоўных крыніц XIV–XV ст. Разам з тым цяжка пагадзіцца з меркаваннем, што рэдукаваны *ъ* (некаторыя даследчыкі ўвогуле выказваюць меркаванне, што ў гэтай гістарычнай назве пачаткова на канцы быў рэдукаваны верхняй зоны ўтварэння *ь – Городень*) мог пераўтварыцца ў поўны галосны *о*.

Вялікую цікавасць выклікаюць прыведзеныя ў кнізе ўжыванні наймення горада ў рускім справаводстве XVII–XVIII ст., а таксама ў сярэднявечных скандынаўскіх геаграфічных помніках (здагадкі) і ордэнскіх хроніках. Абраныя Юрыем Гардзеевым метадалагічныя падыходы даследавання дазваляюць атрымаць поўнае, цэласнае ўяўленне пра змены, што адбываліся з назвай горада на працягу сямісот гадоў.

Назвы рэк звычайна ў сваіх асновах змяшчаюць архаічныя элементы, якія з вялікай цяжкасцю паддаюцца расшыфроўцы з пазіцый сучаснасці. Рака Нёман, што адыгрывала першаступенную ролю ў жыцці Гродна, не выключэнне. Раскрыццё этымалогіі яе назвы адбывалася

ў рэчышчы дыскусій прыхільнікаў балцкай (А. Качубінскі), фіна-ўгорскай (Т. Лер-Сплавінскі), балта-фінскай (В. Жучкевіч), славянскіх (Я. Карскі, К. Машыньскі) і нават кельцкай (А. Шахматаў) гіпотэз. У кнізе прыводзяцца цікавыя факты навуковай палемікі адносна паходжання назвы *Нёман*. Сам аўтар схіляецца да думкі, што раскрыццё пытання этымалогіі найменя *Нёман* можа знаходзіцца ў карэляцыі з рэканструкцыяй эвалюцыі этнічных працэсаў. І гэта бясспрэчна. Супастаўленне лінгвістычнага і археалагічнага матэрыялу дазваляе лічыць больш праўдападобным балцкае або фіна-ўгорскае паходжанне гідроніма. Для многіх чытачоў сапраўдным адкрыццём могуць стаць факты, якія сведчаць, што ў старажытныя часы рака мела іншыя назвы. У антычныя часы для ракі выкарыстоўвалася грэцкая назва *Chronon* (*Chronos*), у нямецкамоўных сярэднявечных крыніцах – *Memel*, *Memere* і яго шматлікія дэрываты. На старонках манаграфіі прыводзяцца спробы высветліць этымалогію антычнай назвы *Хрон*, зробленыя Адамам Нарушэвічам, Паўлам Шафарыкам, Любарам Нідэрле. Аўтару ўдалося паказаць паступовы пераход ад антычных геаграфічных уяўленняў да картаграфічнай навукі новага часу, што адлюстравалася на суіснаванні розных найменняў ракі. Вялікую цікавасць чытача могуць выклікаць прыведзеныя ў кнізе ілюстрацыі, якія дэманструюць ужыванне назваў ракі ў розных картаграфічных крыніцах: на карце 1540 г., карце Анджэя Пагробкі 1570 г., на Радзівілаўскай карце 1613 г., на карце Каспра Хенебергера 1625 г. Разгляд асноўных картаграфічных крыніц дазволіў даследчыку прасачыць працэс іменавання Нёмана ў XV–XVIII ст. і вылучыць найбольш распаўсюджаныя гідранімічныя ўтварэнні, а таксама паказаць дынаміку выпрацоўкі сучаснай формы назвы.

Абсалютна слушнай падаецца версія аўтара манаграфіі адносна ўтварэння першапачатковай назвы прытока Нёмана – *Гарадніца* – ад асновы айконіма і прадуктыўнага старажытнаславянскага тапанімічнага фарманта *-іц*(*а*).

У манаграфіі значнае месца адведзена даследаванню этапаў развіцця гарадзенскай урбананіміі. Праца даследчыка па высвятленні эвалюцыі ўрбананімічнай сістэмы

ў вялікай ступені была ўскладнена адсутнасцю пісьмовых крыніц ранняга перыяду. Разам з тым аўтар зрабіў спробу развіць ідэі сваіх папярэднікаў, зыходзячы з сучаснага ўзроўню ведаў правесці своеасаблівую рэканструкцыю планіровачнай сеткі горада XIII–XV ст. і вызначыць асноўныя спосабы намінацыі ўнутрыгарадскіх аб'ектаў. Галоўным аб'ектам даследавання сталі гадонімы (найменні лінейных аб'ектаў). Гэтая катэгорыя ўласных імёнаў даволі часта зазнае змены, асабліва назвы вуліц, што абумоўлена іх вялікай залежнасцю ад палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай сітуацыі.

Дэталёвае вывучэнне пісьмовых крыніц XVI ст., у якіх зафіксавана комплексная інфармацыя пра гарадскі тапанімікон, дазволіла аўтару кнігі выявіць асаблівасці і заканамернасці станаўлення і развіцця ўрбананімічнай сістэмы. На гістарычным матэрыяле ў манаграфіі паказаны ўплыў "померы волок городенскихъ" на фармаванне назваў гарадскіх вуліц. Паказальна, што некаторыя назвы вуліц мелі ў той час апісальны характар, а гэта сведчыць пра жывую з'яву, пачатковы этап намінацыі лінейных аб'ектаў і незавершанасць намінацыйнага працэсу: *ulica Wielka do mostku na Podole*, *ulica z boku Rynku Niemieckiego do ulicy Wileńskiej*. Пачынаючы з XVI ст. засведчаны факты з'яўлення паралельных найменняў вуліц (*ulica Płutnicka*, *на улицы Подолу*, *ulica Wielka Podolska*), што дазваляе паглыбіць аналіз эвалюцыі гарадзенскай урбананіміі. Больш за тое, даследаванне магістрацкіх кніг і звестак з магнацкіх архіўных збораў дало магчымасць прасачыць працэс узнікнення новых гаданімічных утварэнняў і працэс паступовай выпрацоўкі сталай аднаслоўнай мадэлі найменавання.

Корпус шматлікіх крыніц XVIII ст., які ўключае актавыя кнігі магістрата, спісы ўладальнікаў сядзіб, тарыфы падымнага падатку, а таксама картаграфічны матэрыял, быў выкарыстаны аўтарам з мэтай падрабязнага апісання ўрбананімікону канкрэтнага храналагічнага зрэзу і выяўлення тыпалагічных асаблівасцяў рэгіянальнай урбананімічнай сістэмы. Улік семантыкі і ўнутранай формы ўрбанонімаў дазволіў правесці семантычную класіфікацыю

гадонімаў і агаронімаў і выявіць некалькі асноўных тыпаў найменняў: **адайканімічныя гадонімы** (назвы вуліц ад найменняў розных населеных пунктаў – *вуліцы Kuźnicka*, *Nowodorska*, *Hornicka*), **адантрапанімічныя ўрбанонімы** (намінацыі паводле імёнаў і прозвішчаў уладальнікаў нерухомай маёмасці – *ulica Kalucińska*, *ulica która idzie mimo dom Jana Choynowskiego do wody*), **пасесіўныя гадонімы** (назвы, звязаныя з імёнамі ўладальнікаў гарадскіх сядзіб – *ulica Partykularna Plebańska zwana z ulicy Wileńskiej*), **этнатапонімы** (*Жидовская улица*), **гадонімы, утвораныя ад эклезіёнімаў** (*ulica od Niemna do cerkwi Czesnego Chrzesca*), **ландшафтныя гадонімы** (*ulica nad rowem Horodnicy*), **гідранімічныя гадонімы** (*uliczka od Niemna idąc do miasta*) і інш. Праведзеная ў манаграфіі класіфікацыя дазваляе глыбей зразумець прынцыпы намінацыі ўнутрыгарадскіх абектаў і адкрывае новыя магчымасці для правядзення тыпалагічных даследаванняў на дыяхранічным зрэзе (параўнанне ўрбананімічных сістэм іншых старажытных гарадоў) і сінхранічным зрэзе (параўнанне старажытнага і сучаснага ўрбананімікону асобных гарадоў).

Даследаванне ўнутрыгарадской прасторы Гродна было б няпоўным без вывучэння назваў культавых збудаванняў (эклезіёнімаў), назваў гарадскіх кварталаў (харонімаў), назваў зямельных надзелаў (аграонімаў), межавых знакаў, уласных імёнаў будынкаў (айкадамонімаў), назваў дарог (драмонімаў), назваў узвышшаў (урбанааронімаў), назваў установаў (эргонімаў), назваў месцаў пахавання (некронімаў), якія ў старажытныя часы выступалі асноўнымі, а часта і адзінымі адрасна-ідэнтыфікацыйнымі адзінкамі гарадской прасторы. Юры Гардзееў прыводзіць вялікую колькасць пазнавальных гістарычных фактаў і прыкладаў назваў згаданых аб’ектаў. Чытачу будзе цікава даведацца, што адна з найстаражытнейшых святынь горада – Фарны касцёл – напачатку не меў уласнай назвы. Слова *фарны* абазначала ‘парафіяльны’, з цягам часу агульная назва трансфармавалася ў імя ўласнае. Даследчык не толькі тлумачыць паходжанне кожнай назвы культавага прызначэння (*царква Прачыстай Багародзіцы*, *касцёл св. Тройцы*, *касцёл Святога Духа*, *царква “Черного*

*Хреста", Васкрасенская царква, царква святых Барыса і Глеба на Каложы, царква св. Мікалая, касцёл Адшукання Святога Крыжа, кляштар бернардзінцаў*), але і прасочвае ўсе змены ў назвах, падмацоўваючы прыкладамі з пісьмовых крыніц. Матэрыял кнігі дазваляе зразумець, што эклезіёнімы як састаўная частка ўрбананімнай лексікі маюць свае структурныя асаблівасці, свае прынцыпы намінацыі, аналіз якіх дазваляе лепш зразумець ментальнасць і светапогляд тагачасных жыхароў горада. На прыкладзе харонімаў аўтар паказвае працэс анімізацыі апелятыўнай лексікі і паступовы пераход агульных слоў, геаграфічных тэрмінаў у разрад уласных імёнаў. Вельмі паказальны ланцужок трансфармацый назвы *падол*: *на подоли Чесного Креста* (1564) – *на Подоли*, *на Подоле* (1564), *Podoł* (1668). Назвы гарадскіх месцаў пахавання, сабраныя ў кнізе з розных крыніц, – не толькі каштоўная крыніца маладаследаванай катэгорыі онімаў, але і крыніца прасторавай лакалізацыі старажытных могілак.

У кнізе закранаецца раней нікім не даследаваны клас анімічнай прасторы – юрыдыкі беларускіх гарадоў. Інвентары, падатковыя тарыфы і спісы ўладальнікаў сядзіб змяшчаюць багатую інфармацыю пра ўладальнікаў пасэсій. Мяркую, што ў сучасных даследчыкаў рэгіянальнай мікратапаніміі могуць выклікаць цікавасць шматлікія назвы агародаў, якія расшукаў аўтар выдання ў валочнай памеры 1560–1561 г. Матэрыял пра назвы аб'ектаў грамадскага прызначэння (корчмы і іншыя месцы баўлення часу і адпачынку) не толькі дазваляе рэканструяваць намінатыўнае аблічча старажытнага горада, але і адлюстроўвае лад жыцця яго насельніцтва.

Сёння перад беларускімі анамастамі стаіць надзвычай важная і надзённая праблема стандартызацыі розных катэгорый уласных імёнаў, у тым ліку і назваў унутрыгарадскіх аб'ектаў. Пры распрацоўцы крытэрыяў стандартызацыі нельга ігнараваць гістарычны матэрыял. Нягледзячы на тое, што працэс урбананімізацыі, па словах аўтара манаграфіі, працякаў стыхійна, вызначаўся адсутнасцю тапанімічнай кадыфікацыі, у той час існаваў пэўны канон, распаўсюджаны ў паўсядзённым побыце і замацаваны

ў пісьмовых крыніцах. Перыяд XVI–XVIII ст. цікавы яшчэ і тым, што ў гэты час ішла выпрацоўка наменклатурнай тэрміналогіі, або так званых тэрмінаў-індыкатараў, геаграфічных апелятываў, якія характарызавалі гарадскую прастору. Паказальна, што станаўленне тэрміналагічнай базы праходзіла ў дзвюх моўных сістэмах: беларускамоўнай і польскамоўнай. Так, у кнізе прыводзяцца традыцыйныя польскамоўныя тэрміны, што ўжываліся адносна аб'ектаў нерухомасці (*plac*, *dom*, *grunt*, *kamianica*, *mur*) і старабеларускія паняцці (*дом*, *двор*, *агарод*).

Унутрыгарадскія найменні разнастайныя не толькі па часе ўзнікнення, моўнай прыналежнасці, лексічнай аснове, але і па структуры. У манаграфіі Юрыя Гардзеева выдзелены асноўныя структурныя тыпы гарадскіх урбанонімаў, адзначана іх прадуктыўнасць, апісаны структурна-граматычныя мадэлі, адлюстраваны іх змены на розных храналагічных зрэзах. На прыкладзе назвы вуліцы Калюцінскай вельмі яскрава ілюструецца з'ява марфалагічнай трансфармацыі гадонімаў. Аднак нельга пагадзіцца з выказваннем аўтара, што “кожная з назваў мела адрозны корань (ваганне *c – cz – ż*: *Kalucі – Kaluczy- / Kałucz – Kałużу- / Kałuża – Kalecz-*), што сведчыць аб парушэнні першаснай матывіроўкі імя” (122). Гаворка ідзе ўсё-такі пра розныя формы адной назвы, з адным коранем. Прычыну змен галосных у корані варта было б звязаць з фанетыка-арфаграфічным вар'іраваннем, характэрным для тапанімії XVI–XVIII ст.

Не раскрытым застаўся параграф кнігі, прысвечаны псіхалагічнаму ўспрыманню анімічнай прасторы. На гэтую праблему неабходна было б паглядзець з пазіцый кагнітывістыкі, што, зразумела, можа стаць тэмай асобнага даследавання. Хацелася б убачыць больш падрабязнае апісанне сацыялінгвістычнай сітуацыі тагачаснага горада і прааналізаваць, па магчымасці, уплыў на фармаванне і функцыянаванне ўрбанонімаў не толькі сродкаў афіцыйнага камунікавання – старабеларускай і польскай моў, але і ідышу, і іўрыту, а таксама нямецкай, італьянскай і французскай моў, якія гучалі ў тагачаснай Гародні. Упэўнены, што гэтая тэма яшчэ зацікавіць мовазнаўцаў і будзе раскрыта больш падрабязна.

Значна спрашчае ўспрыманне матэрыялу слоўнік тапанімічных тэрмінаў, змешчаны ў пачатку кнігі. Аднак спрэчным, на нашу думку, з'яўляецца азначэнне айконіма як тыпу ўрбаноніма. Айконім у класічным разуменні – гэта ўласная назва населенага пункта, тып тапоніма. Няпоўным, на наш погляд, падаецца і азначэнне тэрміна *гідраайконім*. Не зусім удалы і выраз *тапанімічных назваў* (39), паколькі слова *тапанімічны* ў сваім значэнні ўжо змяшчае слова *назва*.

Лагічным завяршэннем кнігі стаў аналіз урбананіміі як своеасаблівай знакавай сістэмы, у якой закадаваны звесткі пра ўнутрыгарадскі аб'ект і змешчана памяць культуры горада. Юрый Гардзееў сваім даследаваннем пацвердзіў, што тапонімы належаць да аднаго з галоўных захавальнікаў разнастайнай інфармацыі аб асваенні гарадской прасторы, рэльефе мясцовасці, этнаканфесійнай і прафесійнай структуры горада, антрапагенным уздзеянні на яго прастору. Кожны тапонім – своеасаблівы помнік гісторыка-культурнай спадчыны, каштоўны матэрыял, які паказвае на працэс узаемадзеяння прасторы і соцыуму, а таксама моўнай плыні і гарадской культуры. Прыемна адзначыць, што даследчыку ўдалося разгадаць семантычны код сацыякультурнай прасторы горада, паказаць шырокую карціну ўнутрыгарадской рэчаіснасці і каштоўнасных уяўленняў соцыуму.

Выхад кнігі ў свет можна расцэньваць як знакавую падзею для беларускай анамастыкі. Упершыню выяўлены, сабраны і сістэматызаваны ўнікальны гістарычны ўрбанімікон, які не толькі адкрыў новыя старонкі гісторыі старажытнай Гародні, але і ў вялікай ступені ўзбагаціў нацыянальны тапанімічны фонд. Даследаванне Юрыя Гардзеева можа паслужыць узорам для далейшага вывучэння тапанімічнай прасторы іншых старажытных беларускіх паселішчаў, а таксама можа быць выкарыстана ў самых розных сферах: у краязнаўчай практыцы, пры распрацоўцы турыстычных маршрутаў, у вучэбным працэсе ВНУ і школ, пры складанні гістарычных карт і атласаў.

Мінск *Ігар Капылоў*

## Гісторыя гандлю ў Беларусі (ад старажытнага часу да канца XX ст.): праблемы вывучэння і перспектывы даследавання: матэр. I Міжнар. навукова-практ. канферэнцыі (Мінск, 14–16 лістапада 2013 г.) / Цэнтр вывучэння гісторыі гандлю ТАА «Інстытут рознічных тэхналогій “Менка”»; рэд. рада: АНДРЭЙ КІШТЫМАЎ, ЗАХАР ШЫБЕКА [і інш.]. Мінск: Тэхналогія, 2014. 295 с.

У 2014 г. выйшаў у свет навуковы зборнік “Гісторыя гандлю ў Беларусі (ад старажытнага часу да канца XX ст.): праблемы вывучэння і перспектывы даследавання”. Зборнік складаецца з матэрыялаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску 14–16 лістапада 2013 г. Унікальнасць выдання ў тым, што ініцыятарам правядзення канферэнцыі і выпуску зборніка выступіла прыватная кампанія “Менка”. Паводле меркавання аднаго з рэдактараў выдання Захара Шыбекі, гэта пакуль першы і адзіны такі прыклад у нашай краіне.

Сам загаловак зборніка сведчыць пра амбітнасць праекта – ахарактарызаваць стан і вызначыць перспектывы даследаванняў праблематыкі гісторыі гандлю ў Беларусі. Безумоўна, дасягнуць пастаўленай мэты ў рамках адной канферэнцыі і аднаго навуковага зборніка вельмі няпроста, тым болей што гісторыя гандлю ніколі не належала да прыярытэтных кірункаў у айчыннай гістарыяграфіі. Захар Шыбека слушна адзначыў, што ў савецкі перыяд апублікавана толькі адна навуковая манаграфія, прысвечаная гісторыі гандлю – даследаванне эканаміста Леаніда Міхневіча “Торговля Белоруссии”[1]. У 1995 г. выйшла ў свет манаграфія гарадзенскага гісторыка Вячаслава Шведа “Торговля в Беларуси в период кризиса феодализма”[2] (падрыхтаваная на аснове кандыдацкай дысертацыі аўтара), якая і сёння

[1] Михневич Л. Торговля Белоруссии (1900–1970). Минск, 1973.

[2] Швед В. Торговля в Беларуси в период кризиса феодализма (1830–1850-е годы). Гродно, 1995.

застаецца адзінай манаграфіяй на дадзеную тэматыку ў айчыннай гістарыяграфіі. У 1996 г. Пётр і Ніна Гуды выдалі кнігу, прысвечаную гісторыі беларускага кірмашу[3]. У 1998 г. віцебскі даследчык Р. Цімафееў абараніў кандыдацкую дысертацыю “Развитие торговли в БССР в годы нэпа”[4], а ў 2003 г. былі абаронены адразу дзве кандыдацкія дысертацыі – В. Карпіевіча[5] і М. Шаўчэні[6] – па гісторыі гандлю. Але ўсе гэтыя дысертацыі так і не выдадзены ў выглядзе манаграфій, а таму засталіся невядомымі шырокаму колу аматараў гісторыі.

На жаль, эканамічная гісторыя ў апошнія дваццаць гадоў апынулася, па сутнасці, на перыферыі даследаванняў у беларускай гістарыяграфіі, пра што сведчыць, як адзначыў Захар Шыбека, і ліквідацыя адпаведнага сектара ў Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук. У пэўнай ступені гэта была зразумелая рэакцыя супольнасці гісторыкаў на дзесяцігоддзі засілля сацыяльна-эканамічнай гісторыі ў яе марксісцка-ленінскай версіі. Даследчыкі звярнулі ўвагу на тыя тэмы і праблемы, якія ці былі забаронены ў савецкі час, ці лічыліся неперспектыўнымі. Але занядбанне эканамічнай дзялянкі неўзабаве адгукнулася адмоўнымі наступствамі. Пры ўсіх хібах беларускай савецкай гістарыяграфіі, абумоўленых найперш ідэалагічнымі патрабаваннямі да навуковых тэкстаў, даследаванні па сацыяльна-эканамічнай тэматыцы патрабавалі ад гісторыка грунтоўнай тэарэтычнай падрыхтоўкі, былі вельмі працаёмкімі з патрэбы шырокага выкарыстання статыстычных матэрыялаў і колькасных метадаў. Дастаткова ўзгадаць працы гісторыкаў беларускай аграрнай школы. Можна нават рызыкнуць сцвердзіць, што навуковую “халтуру” ў гэтай галіне гістарычных ведаў зрабіць было

[3] Гуд П. А., Гуд Н. І. Беларускі кірмаш. Мінск, 1996.

[4] Тимофеев Р. В. Развитие торговли в БССР в годы нэпа: дис. …канд. ист. наук: 07.00.02. Гродно, 1998.

[5] Карпіевіч В. А. Развіццё гандлю ў Беларусі (1861–1900): аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Мінск, 2003.

[6] Шаўчэня М. М. Развіццё гандлю ў Беларусі (канец XVIII – першая траціна XIX ст.): аўтарэф. дыс. … канд. гіст. навук. Гродна, 2003.

складаней, чым у галіне даследаванняў гісторыі культуры ці палітычнай гісторыі, пры ўсёй павазе да сапраўдных даследчыкаў азначанай праблематыкі. Усё гэта паступова прыводзіла да фактычнага зніжэння нефармальных стандартаў навуковага даследавання.

Прычынамі слабой зацікаўленасці гісторыяй гандлю з боку беларускіх гісторыкаў Захар Шыбека бачыць таксама моцную яўрэйскую афарбоўку гэтай сферы дзейнасці ў Беларусі, а большасць сённяшніх жыхароў нашай краіны, у тым ліку і гісторыкаў – нашчадкі сялян (да якіх можна аднесці і дробную шляхту): "Зусім зразумела, што беларускія гісторыкі схільныя больш вывучаць сваіх сялян з іх аграрнымі праблемамі, чым чужых для іх мяшчан, якія займаліся прадпрымальніцтвам" (20). На гэтую праблему можна паглядзець яшчэ шырэй. У традыцыйным сялянскім грамадстве гандаль ніколі не лічыўся паважанай сферай дзейнасці, а гандляры не карысталіся асаблівай пашанай. Вядомы даследчык сялянства антраполаг Роберт Рэдфілд сцвярджаў, што галоўны жыццёвы прынцып селяніна – перакананне ў вырашальным значэнні працы, штодзённага фізічнага высілку. Фізічная праца на ўласнай зямлі выступае галоўным чыннікам прэстыжу для мужчыны ў вясковай супольнасці, нават калі яна і не можа забяспечыць высокі дабрабыт яго сям'і ў параўнанні з іншымі. У той жа час занятак гандлем, нават вельмі прыбытковы, не можа заслужыць праўдзівай павагі ў вачах вяскоўцаў. Адмова ад земляробства азначала для селяніна, як сцвярджаў Р. Рэдфілд, выключэнне з асяродку праўдзівых мужчын і страту права ўдзелу ў галоўных цырымоніях вясковай супольнасці[7].

У нашым постсялянскім грамадстве стаўленне большасці жыхароў да гандлю таксама, мякка кажучы, не вельмі паважлівае. Дастаткова прыгадаць папулярныя параўнанні гандляроў з рознымі шкоднымі насякомымі. Тыповы сучасны беларус лічыць, што вартая павагі справа – толькі

[7] Redfield, R. Co jest wedlug chłopa dobrym życiem // Roczniki socjologii wsi. Studia i materjały. PAN. Instytut filozofii i socjologii. T. XIX. 1982. S. 137.

вытворчасць нейкіх рэчаў, якія можна памацаць рукамі, панюхаць, паспрабаваць на смак. Кожную добрую рэч нехта абавязкова набудзе, а гандляры толькі накручваюць цэны і атрымліваюць несправядліва высокія прыбыткі. Пазбыцца гэтых даўніх стэрэатыпаў вельмі няпроста, але ў гісторыі ёсць шмат пазітыўных прыкладаў. Фіны сацыяльным паходжаннем нічым не адрозніваюцца ад беларусаў – такая ж сялянская нацыя, але яны навучыліся цудоўна гандляваць і прасоўваць свае тавары на ўсе рынкі свету. І рэцэнзаванае выданне таксама павінна зрабіць унёсак у гэтую справу і паспрыяць пераменам у стаўленні нашых сучаснікаў да гандлю як вельмі важнай і патрэбнай сферы эканамічнай дзейнасці.

Такім чынам, можна сцвердзіць, што ў беларускай гістарыяграфіі сёння адсутнічаюць навуковыя школы і сур'ёзныя традыцыі ў вывучэнні гісторыі гандлю. Як заўважыў Захар Шыбека, ні ў адной вышэйшай навучальнай установе Беларусі не выкладаецца спецкурс, прысвечаны гісторыі гандлю. І разгляданы зборнік адлюстроўвае такі стан. Для большасці яго аўтараў гісторыя гандлю не з'яўляецца асноўным кірункам навуковых даследаванняў. Складальнікі зборніка падзялілі навуковыя тэксты на чатыры часткі: "Пленарныя даклады і тэзісы", "Умовы для развіцця гандлю і гандлёвыя сувязі да ХХ ст.", "Гандаль у лакальным і антрапалагічным вымярэнні", "Гандаль у Беларусі ў ХХ ст.". Сярод пленарных дакладаў канцэптуальным падыходам і арыгінальнымі аўтарскімі ідэямі вылучаецца тэкст Захара Шыбекі. Даследчык акрэсліў асноўныя праблемы, звязаныя з вывучэннем гандлю, перспектыўныя метады даследавання, вызначыў асноўныя этапы развіцця гандлю ў Беларусі. Артыкул гарадзенскага гісторыка Дзмітрыя Карава называецца "История торговли в белорусской историографической традиции XIX – начала XXI века (вехи исследования и нерешенные проблемы)". Па сутнасці, у ім разглядаецца развіццё гістарычных ведаў і працэсы навуковага вывучэння Беларусі ўвогуле ў азначаны храналагічны перыяд. Аўтар вылучае шэсць перыядаў у гісторыі вывучэння эканамічнай гісторыі Беларусі ў цэлым і "гандлю ў прыватнасці". Але большая ўвага

ў артыкуле аддадзена першым двум перыядам, якія ахопліваюць XIX – пачатак XX ст., пра астатнія чатыры гаворыцца вельмі каратка. Паказальна таксама, што ў тэксце няма ніводнай спасылкі на ўласна даследаванні гісторыі гандлю. Вядомы даследчык эканамічнай гісторыі Андрэй Кіштымаў разгледзеў асноўныя тэндэнцыі развіцця гандлю Беларусі ва ўмовах мадэрнізацыі грамадства ў XIX – пачатку XX ст. Аўтар вылучае асноўныя тэндэнцыі і асаблівасці беларускага гандлю: шматвектарнасць і значная доля экспартна-імпартных аперацый, гандлёвае пасярэдніцтва і ўдзел у транзітным гандлі, актыўнае ўмяшальніцтва дзяржавы ў камерцыйную дзейнасць. Пётр Гуд разглядае гісторыю і тэндэнцыі развіцця беларускага кірмашу; тэкст артыкула падрыхтаваны на аснове манаграфіі гэтага аўтара. У артыкуле расійскага даследчыка Міхаіла Бранцава разглядаюцца гандлёвыя сувязі горада Бранска з “Літвой” у XVII ст. Артыкул Эмануіла Іофе, прысвечаны ролі яўрэяў у гандлі Беларусі ў канцы XVIII – пачатку XX ст., мае аглядны характар. Тэма яго, несумненна, надзвычай цікавая і перспектыўная, яна патрабуе не аднаго манаграфічнага даследавання.

Раздзел “Умовы для развіцця гандлю і гандлёвые сувязі да XX ст.” пачынаецца з артыкула Івана Саракавіка «Влияние “Договора Смоленского, Витебского и Полоцкого княжеств с Ригой, Готландской землей и немецкими городами 1229 года (Готландская редакция)” на развитие белорусской торговли». Юрый Грузіцкі асвятляе мытныя адносіны ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV–XVI ст. У артыкуле полацкай даследчыцы Таццяны Бакуновай разглядаецца распаўсюджанне імпартных тканін на беларускім рынку ў XVI–XVIII ст., паказваюцца сацыяльныя і культурныя аспекты гэтага пытання. Сяргей Ясюнін і Канстанцін Завальнюк аналізуюць беларуска-ўкраінскія гандлёвыя сувязі ў другой палове XIX ст. У працы магілёўскага даследчыка Дзмітрыя Пятрова разглядаецца прававы механізм вырашэння гандлёвых спрэчак у беларускіх губернях у другой палове XIX ст. Такім чынам, большасць тэкстаў раздзела прысвечана праблематыцы знешнегандлёвых сувязяў Беларусі.

Назва раздзела “Гандаль у лакальным і антрапалагічным вымярэннях” (так называлася і адна з секцый навуковай канферэнцыі) сведчыць пра імкненне аўтараў праекта развіваць сучасныя тэндэнцыі ў гістарыяграфіі, да ліку якіх адносяцца лакальны і антрапалагічны даследчыцкія падыходы. Пастаўленая задача рэалізавалася, на маю думку, не да канца, прычынай чаго можна лічыць сучасны стан беларускай гістарыяграфіі. Ментальнасць гандляроў, сістэма іх каштоўнасцяў, стэрэатыпы паводзінаў і штодзённыя практыкі – гэтыя пытанні не атрымалі дастатковага асвятлення ў большасці тэкстаў. Безумоўна, у дачыненні да больш ранніх часоў існуе праблема абмежаванасці і недахопу крыніц. Што ж датычыцца пазнейшага перыяду, дык тут праблема палягае ўжо ў адсутнасці традыцый спецыяльных даследаванняў. Зрэшты, яшчэ раз падкрэслім, што рэцэнзаваны зборнік і ўвесь праект кампаніі “Менка” – спроба даць штуршок развіццю гістарычных даследаванняў праблематыкі гандлю, у тым ліку і ў яго антрапалагічным вымярэнні.

Раздзел пачынаецца з артыкула Ігаэла Егудзі “Габрэі і гандаль на землях Русі і Вялікага Княства Літоўскага напрыканцы і ў першай палове II тысячагоддзя н. э.”, які выразна выбіваецца сваёй тэматыкай з агульнага шэрагу. Прадмет даследавання – этнагенез яўрэяў на тэрыторыі ВКЛ. Аўтар артыкула выступае прыхільнікам усходняй канцэпцыі паходжання яўрэйскай супольнасці на гэтай тэрыторыі, слушнасць якой і спрабуе давесці ў сваім тэксце. Паводле азначанай канцэпцыі, з прычыны пашырэння гандлёвых сувязяў яўрэі з тэрыторыі Блізкага Усходу перабіраліся ў Хазарскі каганат, а потым рассяляліся на ўсходнеславянскіх землях, дзе пераходзілі на славянскую мову мясцовага насельніцтва. Толькі пазней пачалася міграцыя яўрэяў-ашкеназі з тэрыторыі Заходняй Еўропы, якія прынеслі сюды мову *ідыш*. Праца Ігаэла Егудзі грунтуецца выключна на апублікаваных матэрыялах іншых аўтараў. Аўтар – не прафесійны гісторык, але яго эрудыцыя і веданне розных моў робіць матэрыял вельмі цікавым для аматараў старажытнай гісторыі Беларусі.

Артыкул гарадзенскага гісторыка Наталлі Сліж, прысвечаны гісторыі гандлю ў Горадні, грунтуецца на архіўных

крыніцах. Як і ў іншых працах гэтага аўтара, у тэксце вельмі шмат цікавых яскравых фактаў, што ілюструюць самыя розныя здарэнні з жыцця тагачасных гандляроў, спецыфіку ўзаемаадносін паміж імі. Людміла Рогач з Горадні даследавала ўстановы грамадскага харчавання ў Беларусі і зрабіла спробу іх тыпалагізацыі. Яшчэ адзін гарадзенскі гісторык Сяргей Грэсь аналізуе развіццё гандлю на тэрыторыі Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, звяртаючы асаблівую ўвагу на дзейнасць знакамітага Зэльвенскага кірмашу. Ролю мясцовых прадпрымальнікаў у забеспячэнні расійскіх войскаў на той жа Гарадзеншчыне ў 60–70-я г. XIX ст. даследуе Аляксандр Арлукевіч. Мінскі гісторык Таццяна Вароніч разглядае выпадкі злоўжыванняў і махлярства ў дробным гандлі ў гарадах і мястэчках Беларусі ў канцы XIX – пачатку XX ст. Менавіта гэты тэкст, на нашу думку, у найбольшай ступені адпавядае ідэям антрапалагічнай гісторыі. Барыс Сідарэнка разглядае формы арганізацыі гандлю і асартымент харчовых тавараў у губернскім горадзе Магілёве ў другой палове XIX – пачатку XX ст.

Фактычна палову зборніка заняў раздзел пра гісторыю гандлю ў XX ст. На жаль, няма ніводнага артыкула, прысвечанага Заходняй Беларусі, дзе ўмовы для развіцця прыватнага гандлю былі куды больш спрыяльныя, чым на тэрыторыі савецкай Беларусі. Затое гісторыя гандлю ў БССР і ўжо незалежнай беларускай краіне разгледжана дастаткова грунтоўна – ад першых гадоў савецкай улады і да нашага часу. Можна вылучыць артыкул мінскага гісторыка Наталлі Палятаевай “Частные предприниматели в розничной торговле Беларуси в годы новой экономической политики (1921–1929)”. Аўтар на аснове аналізу статыстычных матэрыялаў Усесаюзнага гарадскога перапісу 1923 г. і Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1926 г. вызначыла характэрныя рысы сацыяльнай групы прадпрымальнікаў у БССР у перыяд нэпу, акрэсліла сацыяльны партрэт яе тыповага прадстаўніка. Як вынікае з артыкула, прадпрымальнікі ў гарадах складалі амаль пятую частку сярод самастойных гаспадароў, што сведчыць пра высокую эканамічную актыўнасць насельніцтва ў першае дзесяцігоддзе савецкай улады. Сярод прадпрымальнікаў-гандляроў прадказальна дамінавалі яўрэі, якія

складалі амаль 90% прадстаўнікоў гэтай групы. Прычым прыватнаму бізнесу ў сферы гандлю даводзілася ў вельмі няроўных умовах канкураваць з дзяржаўнымі і кааператыўнымі арганізацыямі. Але прыватнікі выжывалі за кошт хуткага звароту капіталу і арыентацыі на патрэбы спажыўца, а значыцца, і за кошт больш высокага прафесіяналізму. І ўсё ж ціск на іх увесь час узмацняўся, а савецкая ўлада мэтай сваёй палітыкі бачыла поўную і канчатковую ліквідацыю прыватнага гандлю. Аднак гэтай мэты дасягнуць так і не ўдалося, і прыватны гандаль заўсёды займаў сваю нішу ў гаспадарцы БССР. Артыкулы Віктара Астрогі і Канстанціна Нашчынца прысвечаны дзейнасці мытнай службы і кантрабандзе на заходняй мяжы БССР у 1920-я г. Тут прыводзіцца шмат яскравых канкрэтных прыкладаў, якія адлюстроўваюць менталітэт такой каларытнай сацыяльнай групы, як кантрабандысты. Уладзіслаў Крыўчыкаў разглядае сістэму ваеннага гандлю на тэрыторыі БССР у 1924–1939 г. У артыкулах Алены Сумко і Алены Трацяк асвятляецца аднаўленне і развіццё рознічнага гандлю ў пасляваенныя гады. Алена Трацяк ахарактарызавала дакументы Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў, звязаныя з пытаннямі спажывецкай кааперацыі і аднаўлення гандлю. Алена Сумко на аснове архіўных дакументаў і матэрыялаў вуснай гісторыі асвятляе працэс аднаўлення гандлю ў пасляваеннай Полацкай вобласці. У яе тэксце таксама прыводзіцца шмат каларытных прыкладаў штодзённага жыцця тагачаснага грамадства.

Аляксандр Чудзецкі разглядае індывідуальную працоўную дзейнасць у савецкай эканоміцы ў сярэдзіне 1970-х – пачатку 1990-х г. Тамара Балашова даследуе рознічны гандаль Магілёўскай вобласці ва ўмовах пераходу да рынкавай эканомікі ў канцы XX – пачатку XXI ст. Аляксандр Баюра аналізуе выкарыстанне талонаў, купонаў і іншых грашовых сурагатаў у рознічным гандлі Беларусі ў пераходныя 1989–1993 г. Генадзь Рыдзеўскі акрэсліў заканамернасці прасторавага развіцця рэгіянальных спажывецкіх рынкаў Беларусі ў 1990–2012 г. Надзея Станкевіч разгледзела развіццё заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб рознічным гандлі. Завяршаецца зборнік публікацыяй матэрыялаў

круглага стала археолагаў на тэму “Месца і роля археалогіі ў вывучэнні гісторыі гандлю ў Беларусі”.

У цэлым рэцэнзаваны зборнік з’яўляецца дастаткова прэзентатыўным адлюстраваннем стану даследаванняў гісторыі гандлю ў беларускай гістарыяграфіі і ўвогуле першым айчынным навуковым зборнікам, прысвечаным выключна дадзенай праблематыцы. Несумненна, ён знойдзе свайго чытача і будзе цікавым для аматараў эканамічнай гісторыі нашай краіны. Спадзяемся, што заяўленыя складальнікамі зборніка навуковыя мэты будуць рэалізаваны і неўзабаве ўбачаць свет вынікі ўжо спецыяльных навуковых даследаванняў, праведзеных у рамках праекта, акрэсленага пад час канферэнцыі кампаніяй “Менка”. І тады гэта ўжо будуць першыя ў гісторыі Беларусі навуковыя вынікі, атрыманыя з ініцыятывы і пры падтрымцы прыватнай кампаніі.

Горадня *Сяргей Токць*

## EINAX, RAYK. Entstalinisierung auf Weißrussisch: Krisenbewältigung, sozioökonomische Dynamik und öffentliche Meinung in der Belorussischen Sowjetrepublik 1953–1965. Wiesbaden: Harrassowitz Verlag, 2014. 443 S.

Нямецкае беларусазнаўства ўжо неаднойчы прапаноўвала выдатныя ўзоры інтэлектуальнай працы з беларускім матэрыялам. Такія даследаванні, як манаграфія Райнэра Ліндэра “Гісторыкі і ўлада” ці калектыўны (з удзелам беларускіх аўтараў, дзе гэтае сутыкненне двух цэхаў надае выданню адмысловае значэнне) “Падручнік па гісторыі Беларусі”[1] трывала ўвайшлі ў беларускі інтэлектуальны кантэкст. Намаганнямі Томаса Бона і іншых даследчыкаў у Гісэне паўстаў плённы асяродак па

[1] Handbuch der Geschichte Weißrusslands. Hrsg. von D. Beyrau und R. Lindner. Göttingen, 2001.

вывучэнні гісторыі і культуры Беларусі. Адзін з прыкладаў – манаграфія Райка Айнакса “Дэсталінізацыя па-беларуску: пераадоленне крызісу, сацыяльна-эканамічная дынаміка і грамадская мабілізацыя ў Савецкай Беларусі. 1953–1965”, якая выйшла ў шматабяцальнай серыі “Гістарычныя штудыі Беларусі”.

Ключавымі паняццямі працы Райка Айнакса выступаюць “сталінізм” і “дэсталінізацыя”, інакш кажучы, гаворка ідзе пра сталінскае грамадства ў пару падставовай адмены. Хада гэтай адмены – у цэнтры даследавання. Мэта, якую ставіць даследчык: “паказаць, што беларускае грамадства пасля 1953 г., у параўнанні з даваенным часам, зазнала значныя структурныя змены” (13). Да гэтага тэзіса прымыкае пытанне, наколькі ў БССР быў укаранёны сталінізм. У цэлым жа паказваецца развіццё савецкага грамадства пры даследаванні канкрэтна ўзятага выпадку (кейса).

Пастаноўка пытанняў манаграфіі Р. Айнакса будзе добра зразумелая ўмоўнаму “беларускаму гісторыку”. Калі асноўным трэндам сусветнай гістарыяграфіі прыблізна з 1980–1990-х г. сталі пытанні гісторыі дыскурсаў, рэпрэзентацый і г. д., дык беларуская гістарыяграфія інерцыйна заставалася пад магутным уплывам савецкай гістарыяграфічнай традыцыі і яе аналітычнай мовы – “гістарычнага матэрыялізму” («у аковах “гісторыі падзей”», паводле заўвагі К. Ганцэра). Гісторыя культуры, у рамках якой маглі быць разгледжаны пытанні эвалюцыі сімвалічнай рэпрэзентацыі БССР у 1950–1960-я г., гістарычнага і літаратурнага дыскурсаў і г. д., не ўваходзяць у кола зацікаўленасці аўтара разгляданай манаграфіі.

Перш чым перайсці да характарыстыкі зместу даследавання, варта асобна спыніцца на актуальнасці ўзнятай тэмы. Пытанне вельмі важнае, бо ў постсавецкай Беларусі вельмі мала выкананых на прыстойным узроўні (хоць бы з улікам факталагічнага напаўнення) прац, прысвечаных беларускаму познесавецкаму грамадству. Гэта добра адлюстравана і ў разгляданай кнізе, калі ва ўводзінах аўтар характарызуе стан даследавання праблемы. Але адной канстатацыі недастаткова, і хоць кожны беларус, ангажаваны ў нацыянальны дыскурс, інтуіцыйна здагадаецца, чаму так

адбылося, будзе нялішнім звярнуць увагу на фармулёўку вонкавага назіральніка: асноўная прычына ў тым, што на матэрыяле беларускай паваеннай гісторыі немагчыма ці амаль немагчыма стварыць класічны расповед пра гісторыю краіны – гэты час трывала інтэграваны ў агульнасаюзны кантэкст, таму для перыяду 1950–1980-х г. даследчык не мае канкрэтнага, прыдатнага для працы (*belastbare*) наратыву (14). Гэтая логіка, аднак, не можа рэгуляваць селекцыю тэм у рамках навукі, таму сітуацыя, калі “палітычная гісторыя БССР пасля 1944 г. уяўляе сабой суцэльны аблог (*Brachland*)” (26), не можа прызнавацца нармальнай.

У цэлым праца падаецца вельмі актуальнай, і справа не толькі ў выразных, чаканых адсылках да сучаснага парадку дня (параўн. на самым пачатку манаграфіі, с. 11: “Як часта ў ходзе маёй даследчай працы перада мной узнікала пытанне, ці адбывалася ў Беларусі хоць калі дэсталінізацыя ўвогуле. Такога роду сумненні, відавочна, грунтуюцца на цяперашнім становішчы ў Рэспубліцы Беларусь”), але і ў некаторых, думаецца, ненаўмысных паралелях (напрыклад, цікавае апісанне стану савецкага грамадства 1953 г., у час разгортвання справы дактароў – уражальны прыклад прапаганды і механікі масавага псіхозу).

Структурна праца складаецца з 9 раздзелаў, да якіх залічаны таксама ўводзіны і заключэнне. Манаграфія мае 3 карты, 13 ілюстрацый і 14 табліц.

Другі (пасля ўводзінаў) раздзел прысвечаны апісанню ўласна сталінскага грамадства ў БССР: ад узнікнення гэтай дзяржавы і да смерці правадыра.

Цэнтральны пункт трэцяга раздзела – разгляд становішча БССР у 1953 г. Своеасаблівай кульмінацыяй напружанага года (у рамках якога адна за адной адбыліся такія падзеі, як справа дактароў, смерць Сталіна, узвышэнне і падзенне Л. Берыі, пачатак вызвалення вязняў ГУЛАГа) стаў чэрвеньскі пленум ЦК КПБ – спроба Л. Берыі змяніць кіраўніцтва рэспублікі. Адмысловае значэнне гэтай падзеі надае рыторыка, якая суправаджала меркаванае адхіленне М. Патолічава ад пасады (але яно так і не адбылося). На пасяджэннях ЦК ішла гаворка пра ўпушчэнні ў нацыянальнай палітыцы КПБ – як моўнай, так

і кадравай: руская мова запанавала ў партыйным жыцці і амаль выціснула беларускую, з чым звязвалася таксама і непрапарцыйная вага рускіх у кіраўніцтве КПБ. Аднак хуткае падзенне Л. Берыі зняло з парадку дня гэтыя пытанні: М. Патолічаў захаваў пасаду, а агучаныя закіды на адрас партыйнага беларускага кіраўніцтва прызналі неадпаведнымі рэчаіснасці[2].

Як уяўляецца, цэнтральнае значэнне ў кантэксце пастаўленай мэты мае раздзел 4 – "БССР пасля 1953 г.: узаемазалежнасці, інтэграцыя, працэсы трансфармацыі" (125–165). У ім ідзе гаворка пра найбольш абагуленую характарыстыку вывучанага перыяду (уласна, першы падраздзел так і называецца – "Дэсталінізацыя: 1953–1964 як эпоха?"). Нямала ўвагі аддаецца пытанню кадравай палітыкі (128–141). Некалькі табліц ілюструюць вагу рускіх, беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў як у КПБ у цэлым, так і на кіраўнічых узроўнях. Паказана істотная роля рускіх, якая паступова зніжалася на працягу даследаванага перыяду. У рамках гэтай жа праблемы закранаецца гісторыя "партызанскай фракцыі" КПБ, вынікаў яе дзейнасці і значэння ў гісторыі краіны (138–141). Пасля аналізу хрушчоўскіх захадаў у пераарыентацыі дзяржаўнай эканамічнай палітыкі даследчык пераходзіць да такіх пытанняў, як індустрыялізацыя, урбанізацыя і звязаная з імі русіфікацыя (два падраздзелы, с. 146–166). У беларускай інтэлектуалістыцы сувязь паміж імі заўважана даўно, але ў рамках навуковага тэксту яна знаходзіць абгрунтаванне нячаста. Урэшце, для Р. Айнакса 1950–1960-я гады – вузлавы пункт фармавання беларускай (савецкай) ідэнтычнасці, якая ў той ці іншай ступені захоўваецца і сёння (варта адзначыць, што тут ён спасылаецца на выдадзенае па-нямецку эсэ "Код адсутнасці" В. Акудовіча, да якога звяртаецца і пазней, робячы высновы).

Пяты раздзел сярод іншага прапануе шырокую панараму гісторыі грамадскай дыскусіі ў БССР 1950–1960-х г.

[2] Здаецца, першая публікацыя ў Беларусі пра гэты з'езд належыць В. Карбалевічу: Карбалевіч В. Гарачае лета 1953 года // Беларуская мінуўшчына. 1996. № 6. С. 8–10.

(важная тэма з пункту гледжання гісторыі беларускай культуры наогул і беларускай інтэлігенцыі ў прыватнасці). Пра ўплыў XX з’езда на сітуацыю ў беларускай культуры пісалі шмат, перш за ўсё ў літаратуразнаўстве, але дэталёвага паказу пранікнення “патаемнай прамовы” М. Хрушчова ў шырокія масы ў беларускай літаратуры, здаецца, няма. Партыйныя сходы і рэакцыя публікі – пытанні, якія ўзнікалі на такіх сходах (як удавалася І. Сталіну падманваць ЦК і палітбюро, чаму выкрыццё не адбылося адразу пасля 1953 г. і інш.), нават пратэставыя дзеянні – або на абарону І. Сталіна, або залішне радыкальныя паводзіны ў кірунку дэсталінізацыі (знішчэнне скульптур і выяваў Сталіна) шырока фіксуюцца ў архіўных матэрыялах і прыводзяцца ў манаграфіі (асабліва на с. 177–192). У цэлым робіцца вывад, што КПБ здолела паспяхова справіцца з выклікам дэсталінізацыі і да сапраўды гучных узрушэнняў у БССР не дайшло (192).

Сталінская спадчына як праблема дзяржаўнай палітыкі разглядаецца ў шостым раздзеле. Два першыя падраздзелы прысвечаны вызваленню вязняў, рэабілітацыі і перафарматаванню службаў бяспекі. Сярод важных ідэй трэба адзначыць, напрыклад, канстатацыю сімвалічнага характару рэабілітацыі (196), калі рэабілітаваныя ахвяры І. Сталіна не мелі шанцаў вярнуцца ў партыю і з недаверам сустракаліся ў савецкіх установах. Рэарганізацыя службаў бяспекі хоць і была спалучана з рыторыкай аднаўлення сацыялістычнай законнасці, аднак усе расследаванні, калі і пачыналіся пасля 1956 г., былі звязаны або з асабістымі адносінамі, або наогул мелі выпадковы характар; у цэлым жа кадры КДБ былі абаронены ад прававога пераследу, а той modus vivendi, які склаўся ў самім КДБ (урэгуляванне кадравага пытання), Р. Айнакс параўноўвае з сітуацыяй у КПБ: ранейшыя супрацоўнікі заставаліся на сваіх пасадах, “дэманструючы вонкі, асабліва ў Маскву, стабільнасць і абароненасць ад непажаданых уздзеянняў” (224). Асабліва цікавы трэці падраздзел – “Цені мінулага: унутраныя сутычкі перад XXII з’ездам” (224–235). Разглядаецца пытанне, якім чынам адбываўся разбор “сталінскага мінулага”, асабліва на прыватным узроўні, у дачыненні да асобных удзельнікаў

рэпрэсій. К. Мазураў у час партыйных сходаў мусіў адказваць на "нязручныя" пытанні (напрыклад, хто вінаваты ў сталінскіх рэпрэсіях), а перад КПБ у цэлым паўстала пытанне ўрэгулявання кадравай сітуацыі. Некаторыя асобы (адзінкавыя выпадкі) страцілі свае пасады з прычыны актыўнага ўдзелу ў кампаніях 1930-х г.

Раздзел 7 прысвечаны сацыяльнай гісторыі БССР даследаванага перыяду – штодзённасці, успрыманню навакольнага свету (*Lebenswelt*) і сацыяльнай незадаволенасці. Пытанні разглядаюцца праз зварот да спецыфічнага роду крыніц – заўваг, якія пакідалі савецкія выбарцы на бюлетэнях. У цэлым Р. Айнакс падкрэслівае: грэбаванне савецкім інстытутам выбараў недапушчальнае, яны былі не толькі "рытуалізаваным публічным мерапрыемствам", але і выступалі для кампартыі важным сродкам мабілізацыі насельніцтва, а для грамадзян – фактычна адзіным медыумам палітычнай камунікацыі (242–245). Уласна кажучы, менавіта праз дэталёвы аналіз гэтых заўваг вырашаецца пастаўленая задача. Абсяг пытанняў, якія ўздымаліся выбарцамі, сапраўды ўражвае – ад недахопу жыллёвай плошчы для мыцця бялізны ў камунальных кватэрах у Магілёве і да патрабаванняў адхіліць М. Хрушчова ад пасады, вярнуўшы ўладу Г. Малянкову. Даследчык робіць выснову: іншадумства ў СССР магло існаваць не толькі як дысідэнцтва, але і ў выглядзе іншых праяў незадаволенасці, звязаных з патрабаваннем паляпшэння штодзённых умоў жыцця "простых людзей" (281).

Вялікая ўвага (раздзел 8, с. 282–392) аддаецца пытанню рэлігійнай палітыкі і становішчу вернікаў у кантэксце "дэсталінізацыі". Раздзел падзелены на пяць падраздзелаў: разглядаюцца рэлігійная палітыка ў СССР у 1929–1965 г., дачыненні паміж атэістычнай прапагандай і народнай рэлігійнасцю, рэлігійная палітыка ў БССР, становішча асобных канфесій, нарэшце, выжыванне рэлігіі на вёсцы. У цэлым гаворка ідзе, як вядома, пра намаганне М. Хрушчова выкараніць рэлігійны складнік з жыцця савецкіх грамадзян. Пэўнага поспеху, як заўважае Р. Айнакс, удалося дамагчыся, пра што сведчаць колькасныя паказчыкі (змяншэнне афіцыйна зарэгістраваных суполак) ці

матэрыяльнае становішча храмаў. Аднак, разам з тым, спецыфічная сялянская штодзённасць і пазней заставалася арыентаванай на старыя звычаі і ўзоры. Для кампартыі ліквідацыя гэтай розніцы паміж горадам і вёскай стала важнай задачай, аднак, як падкрэслівае даследчык, у цэлым страта ранейшай ролі рэлігійных перакананняў была ў большай ступені звязана з індустрыялізацыяй і ўрбанізацыяй, чым з "дыктатам Масквы" (392).

У заключэнні Р. Айнакс звяртаецца да пытання ролі КПБ у беларускай гісторыі – "ці можна віншаваць КПБ з яе недабравольным удзелам у нацыятварэнні?" (394). Гэта дазваляе падвесці рысу, вярнуўшыся да пытання актуальнасці кнігі. На пачатку 2010-х г. у Беларусі ўзнік шэраг суполак, арыентаваных на своеасаблівую гларыфікацыю БССР як ключавога моманту беларускага нацыятварэння. Даследаванне Р. Айнакса можа быць выкарыстана ў дыскусіі на тэму "БССР і беларускі нацыяналізм"[3] як прыхільнікамі, так і праціўнікамі станоўчай ацэнкі ролі савецкай улады ў гісторыі ўзнікнення беларускай нацыі. На думку Р. Айнакса, безаблічная БССР у выніку сацыяльных і эканамічных змяненняў (у тым ліку дзякуючы надзвычай нізкаму стартаваму ўзроўню) ператварылася ў расквітнелую, палітычна стабільную рэспубліку, шчыльна інтэграваную ў СССР, і гэта непасрэдна адбілася на партыйным кіраўніцтве, што аформілася як гамагенная група, якая выклікала да сябе ўвагу не персанальнымі ўзрушэннямі, а паслядоўным выкананнем маскоўскіх рашэнняў. У канчатковым выніку, на думку аўтара, склалася сітуацыя, калі менавіта БССР (неад'емная ад усяго СССР) стала асацыявацца з прымальным узроўнем сацыяльна-эканамічных выгод і спажывання. Трываласць пазітыўнага стаўлення да гэтага ўтварэння гарантавалася здольнасцю КПБ забяспечыць дасягнуты ўзровень развіцця. Такое ўяўленне ў значнай ступені ўзнаўляецца ў масавай свядомасці і сёння.

Мінск *Антон Лявіцкі*

[3] Паводле назвы артыкула С. Богдана: Богдан С. БССР и белорусский национализм // Перекрестки. 2009. № 1–2.

## Polen. Jubiläen und Debatten. Beiträge zur Erinnerungskultur / Hg. von PETER OLIVER LOEW und CHRISTIAN PRUNITSCH. Wiesbaden: Harrassowitz, 2012. 208 S.

Кнігу складаюць даклады нямецкіх і польскіх навукоўцаў, прачытаныя ў рамках спецыяльнай серыі лекцый (Ringvorlesungen), што была арганізавана ў Тэхнічным універсітэце Дрэздэна і Універсітэце Ёгана Гутэнберга ў Майнцы ў зімовым семестры 2010/11 г. Усе яны прысвечаны славутым падзеям і асобам з гісторыі Польшчы, якія сталі важнымі для сучаснай польскай ідэнтычнасці і юбілеі якіх адзначаліся ў тым годзе. Такім чынам, усе тэксты яднае папулярная сёння тэма культуры памяці.

Том пачынаецца развагамі польскага гісторыка Яна М. Піскорскага “Успаміны як прымірэнне” (“Erinnerung als Aussöhnung. Vergangenheit als Quelle von Angst und Hoffnung”, 10–26), які разглядае абыходжанне з памяццю і забыццём на прыкладах грэцкай Антычнасці і паказвае важнасць адкрытых грамадскіх дыскусій пра мінулае. Даклад дырэктара Цэнтра гістарычных даследаванняў ПАН у Берліне Робэрта Трабы прысвечаны дыскурсу ахвяры, які сфармаваўся ў польскім рамантызме і застаецца цэнтральным для польскай культуры памяці (“Der Opferdiskurs als zentraler identitätsstiftender Faktor der polnischer Meistererzählung”, 27–36). Даследчык узняў актуальную праблему змены падыходаў да нацыянальнай гісторыі. У прыватнасці, ён правакацыйна паставіў пытанне, што застаецца без адказу: як пісаць нацыянальны наратыў, не ўпадаючы ў новую рэміфалагізацыю? Грунтоўны даклад нямецкага гісторыка Ганса Юргена Бёмельбурга прысвечаны памяці пра бітву пад Грунвальдам у нямецкай і польскай грамадскасці (“Vergessen neben Erinnern. Die brüchige Erinnerung an die Schlacht bei Tannenberg / Grunwald in der deutschen und polnischen Öffentlichkeit”, 37–55). Даследчык пераканаўча паказаў адсутнасць кантынуітэту і транснацыянальны характар памяці пра названую падзею ў дамадэрную эпоху. Асабліва вартыя ўвагі

акцэнтаваныя аўтарам прыклады пазітыўнай памяці пра яе сярод прускага мяшчанства ў XVII–XVIII ст. – тое, што можа ўспрымацца як інтэрпрэтацыйна нязручнае для нацыянальных гістарыяграфій нашай часткі Еўропы.

Некалькі наступных дакладаў прысвечаны знакавым польскім творцам, юбілеі якіх адзначаліся ў 2010 г. Так, нямецкі славіст Вальтэр Кошмаль паспрабаваў у новым святле паказаць Фрыдэрыка Шапэна (1810–1849), які лічыцца найважнейшым польскім кампазітарам усіх часоў (“Der eine und der andere Chopin?”, 56–72). Даследуючы мову кананізаванага польскага творцы, аўтар указаў на патрэбу бачыць жарты і гумар і ў музыцы Шапэна. Перыпетыі жыцця і творчасці іншага кампазітара, што таксама належыць да польскага пантэона герояў – Ігнацыя Яна Падарэўскага (1860–1941), сталі тэмай даклада Петэра Олівера Лёва (“Paderewski oder Wo liegt Polen. Nation und Erinnerungskultur zwischen dem 19. und 20. Jahrhundert”, 73–96). Гэты творца быў адначасова і палітыкам, які шмат рабіў для ўзнаўлення польскай дзяржаўнасці, выкарыстоўваючы сваю папулярнасць на Захадзе. У прыватнасці, ён спрычыніўся да таго, каб урад ЗША падтрымаў незалежнасць Польшчы. Між іншага, у 1918 г. Падарэўскі выказаўся за ўтварэнне федэрацыі, у якой апрача Польшчы існавалі б аўтаномныя дзяржавы Літва, Беларусь і Украіна.

Ян Кузбэр звярнуўся ў сваім тэксце да “Цуда над Віслай” – перамогі палякаў над Чырвонай арміяй у бітве пад Варшавай у 1920 г. (“Das Wunder an der Weichsel oder Polens Nachbar im Osten”, 97–114). Гэта падзея, якая адразу заняла важнае месца ў гістарычным календары Польшчы, а ў апошнія часы памяць пра яе зноў стала актуалізавацца. Паказаўшы, як у польскай гісторыі бітва прэзентавалася вялікай перамогай, што спыніла пашырэнне камунізму ў Еўропу, а ў афіцыйнай савецкай гісторыі яна падавалася ў кантэксце барацьбы супраць замежнай інтэрвенцыі ў сітуацыі грамадзянскай вайны – змаганнем Чырвонай арміі супраць “белапалякаў”, аўтар прасочвае, якія функцыі гэтая міфалагізаваная падзея выконвае ў грамадскай памяці як для польскага, так і для расійскага боку.

Некалькі наступных дакладаў аб'яднаны тэмай II сусветнай вайны, якая глыбока асела ў гістарычнай памяці палякаў. Нямецкі славіст Гайнрых Альшоўскі прысвяціў сваё дследаванне творчасці Бертольда Брэхта (1898–1956), разгледжанай скрозь прызму пачатку вайны ("Bertold Brecht, der Hitler-Stalin-Pakt und Polen", 115–133). Уцёкшы ад нацыстаў, нямецкі паэт і драматург марксісцкіх перакананняў успрыняў падпісанне пакта Рыбентропа – Молатава як крок, што пакінуў сусветны пралетарыят, па яго словах, "без рашэнняў, надзеі і падтрымкі". Аўтар аналізуе важныя дзённікавыя запісы і творчасць Брэхта з першага года вайны, ставячы ў цэнтр увагі кантраверсійную баладу "Дзіцячы крыжовы паход", напісаную пасля 1 верасня 1939 г. У тэксце Штэфана Гарштэцкага аналізуюцца падыходы польскай гістарыяграфіі і новыя стратэгіі памяці пра вайну ("Warschauer Aufstand und Zweiter Weltkrieg. Polnische Gedächtnispolitik zwischen nationaler Kanonbildung und europäischen Ansätzen", 134–156). Даследчык на прыкладах паказвае плюралізацыю наратываў і вобразаў вайны ў сучаснай Польшчы. Клаўдыя Крафт разважае пра траўматызаваныя перажытай вайной нямецка-польскія ўзаемаадносіны і ў палеміцы з некаторымі аднабаковымі трактоўкамі гістарычнай памяці аргументавана выступае за яе дынамічнае разуменне ("Blickwechsel oder Introspektion? Vertreibungsdebatten vor dem Hintergrund des Gedenkjahren 2010/2011", 157–171).

Найважнейшыя аспекты шматграннай творчасці польскага лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1980) Чэслава Мілаша (1911–2004) прасочаны ў эсэ паланіста Ганса Хрысціяна Трэптэ ("Zwischen Litauen, Polen, Europa und der Welt. Czesław Miłosz (1911–2004) – Ein Weltreisender", 172–194). У апошнім тэксце тома Базыль Керскі разглядае польскую "Салідарнасць" і тыя рэвалюцыйныя змены, якія адбыліся пад уплывам польскага руху ў еўрапейскіх дзяржавах камуністычнага блока ("Solidarność, eine europäische Revolution", 195–204). Аўтар даводзіць, што "Салідарнасць" закладвала падставы новай еўрапейскай культуры, таму яна разглядаецца ў кантэксце транснацыянальнай, агульнаеўрапейскай культуры памяці.

Шэраг юбілеяў і гадавін, тэматызаваных у дакладах тома, сталі падставай для дыскусій пра значэнне адпаведных гістарычных падзей і выявілі іх новае разуменне. Важна, што ў Польшчы актыўнымі ўдзельнікамі адкрытых дэбатаў пра значэнне мінулага з'яўляюцца гісторыкі. Бо, як адзначыў Ян Кузбэр, гаворачы пра ўспрыманне Варшаўскай бітвы (114), актуалізацыя досведу перажытага мінулага, пашырэнне стэрэатыпаў і эгацэнтрычная гістарычная палітыка з абодвух бакоў – кепскія памочнікі ў наладжванні добрых узаемаадносін паміж дзяржавамі. Задачай жа гісторыкаў павінна быць дэміфалагізацыя падзей, памяць пра якія выклікае канфлікты.

Мінск *Генадзь Сагановіч*

# Аўтарэфераты дысертацый па гістарычных навуках, дапушчаных да абароны ў 2013 г.

## На ступень доктара гістарычных навук

Здановіч, У. В. Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941–1945 гг.) у адлюстраванні айчыннай гістарыяграфіі : 07.00.09 / Здановіч Уладзімір Васільевіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2012. – 46 с. – Бібліягр.: с. 37–43 (62 назв.).

Лавринович, Д. С. Общероссийские либеральные партии и организации в общественно-политической жизни Беларуси (1905–1918 гг.) : 07.00.02 / Лавринович Дмитрий Сергеевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 48 с. – Библиогр.: с. 37–45 (79 назв.).

Ярмусик, Э. С. Римско-католическая церковь в Беларуси (1939–1991 гг.) : 07.00.02 / Ярмусик Эдмунд Станиславович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 49 с. – Библиогр.: с. 38–46 (76 назв.).

## На ступень кандыдата гістарычных навук

Али Абед Али. Внешняя политика Ирака в 2003–2011 гг. : 07.00.15 / Али Абед Али ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 23 с. – Библиогр.: с. 20 (9 назв.).

Аўсейчык, У. Я. Эвалюцыя пахавальна-памінальнай абраднасці беларусаў Падзвіння ў XX – пачатку XXI стагоддзя : 07.00.07 / Аўсейчык Уладзімір Яўгенавіч ; ДНУ

“Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ. Нац. акад. навук Беларусі”. – Мінск, 2013. – 20, [1] с. – Бібліягр.: с. 16–18 (19 назв.).

Блищ, В. Л. Этнографическое наследие белорусов в агроэкотуризме : 07.00.07 / Блищ Валентина Леонидовна ; ГНУ “Центр исслед. белорус. культуры, языка и лит. Нац. акад. наук Беларуси”. – Минск, 2012. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (13 назв.).

Вайцешчык, Г. С. Мястэчкі Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.): сацыяльна-эканамічнае і культурнае развіццё : 07.00.12 / Вайцешчык Ганна Станіславаўна ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2013. – 23 с. – Бібліягр.: с. 18–20 (24 назв.).

Витковский, С. М. Политика США в отношении КНР в период президентства Дж. Буша-младшего : 07.00.15 / Витковский Святослав Мечиславович ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 27 с. – Библиогр.: с. 23–24 (13 назв.).

Врублеўскі, Ю. У. Гістарыяграфія гісторыі ўзнікнення і развіцця гарадоў на тэрыторыі Беларусі ў IX–XIII стст. : 07.00.09 / Врублеўскі Юрый Уладзіміравіч ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2013. – 24 с. – Бібліягр.: с. 19–21 (18 назв.).

Ганбаров, Б. А. Республика Беларусь во внешней политике Азербайджанской Республики в 2011–2012 гг. : 07.00.03 / Ганбаров Балдадаш Акиф оглы ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (14 назв.).

Ганчар, У. А. Эвалюцыя знахарства ў Беларускім Палессі ў XX – пачатку XXI ст. : 07.00.07 / Ганчар Уладзімір Алегавіч ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2013. – 22 с. – Бібліягр.: с. 17–19 (19 назв.).

Голубев, О. Е. Великое княжество Литовское и Константинопольский патриархат: становление и развитие

церковно-политических взаимоотношений (1316–1387 гг.) : 07.00.03 / Голубев Олег Евгеньевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (12 назв.).

Дядичкина, Н. Е. Международное научное сотрудничество Академии наук БССР (вторая половина 1950-х – 1980-е годы) : 07.00.02 / Дядичкина Наталья Евгеньевна ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2013. – 23, [1] с. – Библиогр.: с. 19–21 (16 назв.).

Зябко, А. А. Антываенны рух на тэрыторыі Беларусі (ліпень 1914 – люты 1917 г.) : 07.00.02 / Зябко Андрэй Аляксандравіч ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2013. – 23 с. – Бібліягр.: с. 19–20 (11 назв.).

Игнатовец, Л. М. Белорусский учебный округ: создание и деятельность (1829–1850 гг.) : 07.00.02 / Игнатовец Людмила Михайловна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 23 с. – Библиогр.: с. 19–20 (11 назв.).

Карпекін, К. Р. Іўдзейскія абшчыны ў БССР (студзень 1919 – верасень 1939 г.) : 07.00.02 / Карпекін Канстанцін Рыгоравіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2013. – 24 [1] с. – Бібліягр.: с. 19–22 (26 назв.).

Кваченок, В. В. Социально-экономическое развитие и этнорелигиозная жизнь средневековой Испании в российской историографии XIX – нач. XXI в. : 07.00.09 / Кваченок Виталий Витальевич ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2013. – 22 с. – Библиогр.: с. 18–19 (14 назв.).

Кривчиков, В. М. Формирование системы тылового обеспечения войск Красной Армии на территории БССР (1924 – 22 июня 1941 г.) : 07.00.02 / Кривчиков Владислав Михайлович ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2013. – 25 с. – Библиогр.: с. 19–22 (28 назв.).

Кузюкович, А. П. Государственная политика по формированию здорового образа жизни в Советской Беларуси в 1920–1930-е гг. : 07.00.02 / Кузюкович Анна Петровна ; Белорус. гос. пед. ун-т им. М. Танка. – Минск, 2013. – 24 с. Библиогр.: с. 19–21 (15 назв.).

Магалінскі, І. У. Вытворчасць, тыпалогія і храналогія вырабаў з каляровых металаў X–XVII стст. з тэрыторыі Полацка : 07.00.06 / Магалінскі Ігар Уладзіміравіч ; ДНУ "Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі". – Мінск, 2013. – 20, [1] с. – Бібліягр.: с. 17–19 (15 назв.).

Максимчик, А. Н. Присоединение Северного Кавказа к России в историографии XIX – начала XXI в. : 07.00.09 / Максимчик Андрей Николаевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (12 назв.).

Мацюш, П. А. Развіццё вышэйшай гістарычнай адукацыі ў БССР (1961–1985 гг.) : 07.00.02 / Мацюш Павел Аркадзьевіч ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2013. – 25 с. – Бібліягр.: с. 19–22 (19 назв.).

Паддубская, А. Ф. Каталіцкая царква ў грамадска-палітычным жыцці Італіі (1943–1961 гг.) : 07.00.03 / Паддубская Алена Фёдараўна ; Беларус. дзярж. ун-т. – Мінск, 2013. – 24 с. – Бібліягр.: с. 20–21 (14 назв.).

Петаченко, Г. А. Пролетаризация советской высшей школы (1918–1929 гг.) : 07.00.03 / Петаченко Григорий Алексеевич ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (12 назв.).

Савик, С. А. Система подготовки офицерских кадров для Вооруженных Сил Республики Беларусь (1991–2006 гг.) : 07.00.02 / Савик Сергей Анатольевич ; ГНУ "Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси". – Минск, 2013. – 25 с. – Библиогр.: с. 19–22 (40 назв.).

Савчук, Т. П. Увековечение событий Великой Отечественной войны в Беларуси : 07.00.02 / Савчук Татьяна Петровна ; ГНУ “Ин-т истории Нац. акад. наук Беларуси”. – Минск, 2013. – 21 с. – Библиогр.: с. 17–18 (10 назв.).

Сакович, Е. Г. Англоязычная историография советской внешней политики середины 1950-х – середины 1960-х гг. : 07.00.09 / Сакович Екатерина Георгиевна ; Белорус. гос. ун-т. – Минск, 2013. – 24 с. – Библиогр.: с. 20–21 (14 назв.).

Сакума, С. Л. Особенности этносоциальной адаптации вьетнамцев, китайцев, корейцев и японцев в Беларуси в 1980–2011 годах : 07.00.07 / Сакума Сергей Львович ; ГНУ “Центр исслед. белорус. культуры, языка и лит. Нац. акад. наук Беларуси”. – Минск, 2012. – 22 с. – Библиогр.: с. 18–19 (12 назв.).

Трубчык, П. А. Нацыянальнае пытанне ў праграмах і дзейнасці палітычных партый і груповак на тэрыторыі Беларусі (канец XIX ст. – 1914 г.) : 07.00.02 / Трубчык Павел Анатольевіч ; Беларус. дзярж. пед. ун-т імя М. Танка. – Мінск, 2013. – 24 с. – Бібліягр.: с. 19–21 (17 назв.).

Якубаў, В. У. Інфлянты ў знешняй і ўнутранай палітыцы ВКЛ у канцы XVI – пачатку XVII ст. : 07.00.02 / Якубаў Віктар Уладзіміравіч ; ДНУ “Ін-т гісторыі Нац. акад. навук Беларусі”. – Мінск, 2013. – 20, [1] с. – Бібліягр.: с. 17–19 (15 назв.).

# In Memoriam

## Анатоль Грыцкевіч: 31.01.1927–20.01.2015

На самым пачатку года нас пакінуў Анатоль Пятровіч Грыцкевіч, выдатны беларускі гісторык і грамадскі дзеяч, працы якога даходзілі да самай шырокай публікі.

Анатоль Грыцкевіч нарадзіўся 31 студзеня 1927 г. у Мінску. У 23 гады ён скончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, а потым Мінскі педагагічны інстытут замежных моў (1955). Завочна будучы даследчык адвучыўся і на гістарычным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1958), каб звязаць сваё жыццё з вывучэннем мінулага Беларусі. З 1959 г. ён быў навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, пакуль у 1975 г. не перайшоў выкладаць у Мінскі інстытут культуры (цяпер – Беларускі ўніверсітэт культуры і мастацтваў), дзе да 2006 г. працаваў загадчыкам кафедры гісторыі Беларусі і музеязнаўства, а потым заставаўся прафесарам. У 1986 г. атрымаў навуковую ступень доктара гістарычных навук, праз год – званне прафесара.

Анатоль Грыцкевіч даследаваў сацыяльна-эканамічнае развіццё прыватнаўласніцкіх гарадоў на землях Беларусі і Літвы XVI–XVIII ст., канфесійную і ваенна-палітычную гісторыю ВКЛ, генеалогію і гісторыю шляхты, беларускую гістарыяграфію, а таксама нацыянальна-вызваленчы рух у Беларусі пасля І сусветнай вайны, і ў кожнай з пералічаных тэматык ён стаў прызнаным экспертам. Але адной з самых любімых тэм даследчыка была гісторыя Слуцка і Случчыны – яго малой радзімы. Як гісторык надзвычай шмат рабіў для гістарычнай асветы і папулярызацыі ведаў пра мінулае Беларусі – выступаў з публічнымі лекцыямі і пісаў для друку навукова-папулярныя артыкулы. Пры гэтым ён і ў савецкія часы мог і ўмеў пісаць і казаць тое, што не ўзгаднялася з афіцыйнай канцэпцыяй гісторыі краіны.

